

Ля курнай хаціны ў Бараўцах.
1963 г.



Пасля выступлення ў доме-музеі Яна Райніса. *Злева направа:* Віктар Ліўземнік, народны паэт Латвіі Ян Судрабкалн, Еранім Стулпан, Уладзімір Караткевіч. 1964 г.

# Уладзімір Караткевіч

## ЗБОР ТВОРАЎ У ВАСЬМІ ТАМАХ



*Рэдактар тома*
Г. В. КІСЯЛЁЎ

*Падрыхтоўка тэкстаў*
Н. С. КУЧКОЎСКАЙ

У РУКІ ГАЛОДНЫХ БЕДНЯКОЎ АДДАСІ ТЫ ВОРАГАЎ УСІХ КРАІН, У РУКІ СХІЛЕНЫХ ДА ПРАХУ — КАБ ПРЫНІЗІЦЬ МАГУТНЫХ ЛЮДЗЕЙ РОЗНЫХ НАРОДАЎ.

*Кумранскі «Світак Вайны»*

*МАЦІ МАЁЙ ПРЫСВЯЧАЮ*

*Кніга першая*

# ВЫЙСЦЕ КРЫНІЦ



Увечары вы кажаце: будзе пагода, бо неба чырвана;

А ўранні: сення непагадзь, бо неба пахмурнае.

Крывадушнікі! аблічча неба распазнаць умееце, а знаменій часу не можаце?

*...Мацея, XVI*

## I

Груша цвіла апошні год.

Усе галіны яе, усе вялікія расохі, да апошняга пруціка, былі ўсыпаны бурным бела-ружовым цветам. Яна кіпела, млела і раскашавалася ў пчаліным звоне, цягнула да сонца сталыя лапы і распасцірала ў яго ззянні маленькія, кволыя пальцы новых парасткаў. І была яна такая магутная і свежая, так утрапёна спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы, што, здавалася, не будзе ёй зводу і не будзе канца.

І, аднак, надыходзіла яе апошняя часіна.

Дняпро падбіраўся да яе спакваля, патроху, як разбойнік. У вечным сваім імкненні скрышыць правы бераг, ён падступаў у палавень зусім блізка да яго, руйнаваў адхоны, зносіў, каб пасадзіць у другім месцы, лазу, гвалтоўна вырываў кавалкі берага або асцярожна падмываў яго, каб раптам абурыць у ваду цэлыя брылы зямлі. Потым адступаў, да наступнай вясны, і трава літасціва спяшалася залячыць раны, нанесеныя Дняпром. А ён вяртаўся зноў: дзе руйнаваў, дзе падмываў і з часам абкружыў грушу амаль з усіх бакоў.

...За грушай канчаўся Кагутоў надзел. Год сорак таму назад стаяла яшчэ за дрэвам чорная лазня.

Але ў адну з начэй, зусім знянацку, Дняпро ўхапіў яе — нават бервяна не паспелі вылавіць. Так, пэўна, і сплыло бярвенне з Азярышча аж у самы Сухадол, дзе напаўгалодныя мяшчане і трэскі не прапускалі.

Новую лазню стары Даніла Кагут вывеў сажняў за сто ад берага, куды вышэй за ўласную хату. Нявесткі скардзіліся: пакуль нацягаеш вады — рукі адвальваюцца. Даніла слухаў іх і бурчаў у ласкава-з'едлівыя, залацістыя тады яшчэ вусы:

— Абы мой вацок[1] з грашыма не адваліўся. Рук — не купляць...

І гнаў сыноў, каб памаглі бабам прынесці балеі дзве-тры.

Новая лазня з часам стала занадта раскошнай для Кагутовай радзіны. Сыны па дурным новым звычаі аддзяліліся, з бацькам застаўся толькі старэйшы, Міхал, з жонкаю ды шасцёра іхніх дзяцей: пяць сыноў і дачка-мезеніца. Пойдуць сем «мужыкоў» у першую пару, дык месца — хоць сабак ганяй, і ад гэтай прасторы халодна.

І ўсё ж старой лазні ніхто не шкадаваў. Разам з лазняй сплыла чорная гісторыя.

Было гэта праз некалькі год пасля таго, як Прыдняпроўе адпала ад «Кароны». Даніла быў тады яшчэ падлетак, адзіны сын у бацькі, адзіны ўнук у дзеда. Як насланнё нейкае было. За тры пакаленні халера двойчы выкасіла Азярышча. Кагутам пашанцавала. Хоць па адным мужыку засталося на завод.

Астатнія паўміралі. Не памагло і тое, што Раман, Данілаў дзед, лічыўся ведзьмаком. І ён нічога не мог зрабіць, пэўна таму, што справа была новая. Нават самыя старыя не чулі ад дзядоў пра халеру.

Хто не ўцёк у лес — тым было дрэнна. А Раману з сынам, Маркам, не дазволіў уцячы пан. Даў стрэльбу і загадаў застацца ў пустой вёсцы, каб не парабавалі сялянскага набытку ліхія людзі. Стрэльбы, бадай, і не варта было даваць. Ад халеры стрэльбай не адаб'ешся, а ліхія людзі баяліся Рамана з яго славай горш як стрэльбы.

Пэўна, Раман не быў бы Раманам, каб не знайшоў

---

[1] Каліта.

сродак. Ён і адпаіў сына рэзкім бярозавым квасам. Не аддаў смерці. Але астатніх не паспеў.

Халера сышла. Забылі і пра яе. А ў Кагутовай хаце так і жылі стары, вялікі ды малы.

І вось тут і здарылася. У адну з цёмных лістападаўскіх начэй Марка забіў бацьку ў лазні. Запароў старога віламі.

Акім Загорскі, стары азярышчанскі пан, пачуўшы, за галаву схапіўся. Чаго ж тады чакаць ад чалавека, калі ён на забойства бацькі ідзе? Што ж гэта робіцца? Ці біблейскія часы вяртаюцца, ці апошнія надыходзяць? А як ён дваццаць год нязменна хадзіў у ганаровых суддзях, і да раздзелу і пасля, у губернскім земскім судзе, то намерыўся ўпячы злачынцу, адкуль і крумкач костак не прыносіў, балазе цяпер абшары былі нямераныя і нават Сібір сваёю была. Схапілі Марку — добра! У ланцугах ён — добра! Хутчэй яго, вылюдка, у Сухадол, на судовую сесію.

А потым узяў Акіма роздум. І не тое каб пан цяпер апраўдаў забойцу. Ён задумваўся: як магло здарыцца, якая выгада была пайсці на такое любаму, ад смерці бацькам ўратаванаму, сыну, адзінаму спадкаемцу? І, галоўнае, здзіўляла Загорскага тое, што ніхто з аднавяскоўцаў і словам, і міргам нават не асудзіў Марку. Быццам так і трэба было.

Акім Загорскі ведаў сілу абставін. І ведаў: да самай глыбіні чалавечай душы і таго, што прымусіла яе зрабіць тое ці іншае, не дакапаецца ніколі ніводзін суд. Не на тое людзі суды выдумалі. Суд — гэта расправа. І гаспадары кожнага суда хочуць толькі, каб расправа была хуткая і не вельмі дарагая.

І таму ён аднойчы ноччу з'явіўся ў вязніцу скасаванага за непатрэбнасцю замка. Замак быў двухпавярховы, з сутарэннямі. У вежах новая ўлада размясціла правіянцкія склады, а сутарэнні так і засталіся вязніцай.

Думаў Акім Загорскі, што пабачыць слімака, раздушанага цяжарам уласнай віны, а ўбачыў чалавека, які нават не хавае вачэй.

— Можа, не твая правіна? — сумеўся Загорскі.— Можа, нехта другі?..

— Мая правіна,— сказаў Марка.— Мая рука зрабіла, мне і адказваць.

— Дык што ж ты тады святым прыкідваешся?! — ускіпеў пан.— У сабакі вочы пазычыў?!

— Вы не крычыце на мяне,— зусім не па-мужыцку, з гонарам, сказаў закуты.— Нада мною зямнога суда няма. Мяне апраметная чакае. Я душу сваю навек загубіў, і мне ўжо з агню ніколі не выйсці...

Загорскі так нічога і не дабіўся, пайшоў. І пачаў распытваць у другіх, пераважна ў сваіх жа азярышчанскіх сялян. Доўга нічога не мог даведацца, пакуль адна старая не расказала. У Акіма валасы ўсталі дыбарам.

Нездарма нябожчыка Рамана лічылі за ведзьмака. Сам Акім Загорскі такому глупству, вядома, не верыў, але яны, яны ж усе верылі. Ды і як было не верыць, калі Раман лячыў травамі скурапею[1] і скулы, упраўляў звіхі, выводзіў цяменнік, браў на рукі дзяцей з пярэпалахам і глядзеў ім у вочы, і дзецям адразу рабілася лягчэй.

А такія справы без нячыстай сілы, вядома, не робяцца. І кожнаму нават самаму разумнаму заражбіту, нават таму, хто не ўжываў сваёй сілы на злое, даводзіцца пасля смерці расплачвацца.

Прыходзіць такі час, і вядзьмак павінен залезці ў падпечча, лепей за ўсё ў лазні. І менавіта так аддаць д'яблу душу. Там і павінен быў Раман зводзіць з д'яблам апошнюю рахубу. І побач з ім абавязкова мусіў быць сын.

Яны і пайшлі ў лазню ўдвух, калі стары адчуў набліжэнне смерці.

Стары залез у падпечча і доўгі час гаварыў нешта. Мо ўспамінаў жыццё, а мо трызніў. Потым апрытомнеў і працягнуў руку, каб сын дапамог яму выбрацца.

І вось тут настала самая страшная хвіліна. Усім вядома, калі сын возьме бацькаву руку — уся вядзьмарская сіла пяройдзе да яго. А з сілаю — смерць у падпечны і тое, што пасля яе.

Марка ведаў: ён не можа гэтага. Супраць гэтага было жыццё і словы, якія ён кожную нядзелю чуў у царкве. Каб жа гэта яшчэ ратавала ад пекла душу старога. Але гэта не ратавала, гэта толькі абяцала пекла яшчэ і яму, Марку, не сёння, дык праз колькі год.

---

[1] Каросту.

І ён не ўзяў рукі, хоць і ведаў, калі не возьме, бацька будзе пакутаваць у падпеччы асабліва доўга: ноч, дзве, магчыма, нават тры.

Ён сядзеў над старым амаль да раніцы. І той увесь час стагнаў і ўсё часцей і часцей пачынаў нема крычаць. А Марка сядзеў над ім і плакаў ад жалю.

Перад світаннем ён устаў. Ён вырашыў. Вядома, тое, што ён хацеў зрабіць, пагражала яму, Марку, апраметнай і вечнымі пакутамі, але ж за адну хвіліну рабіла бацькаву душу вольнай ад кіпцюроў нячыстага.

Усе ведалі, што пакутніцкая смерць, ды яшчэ ад рукі блізкага, адразу нішчыць уладу цёмнай сілы. А хто ж бліжэй Раману, як не ён? Няпісаны закон загадвае яму даканаць бацьку, каб той не пакутаваў тут і не пакутаваў там. Што ж, ён зробіць гэта. І няхай будзе кепска яму. Марку застанецца радасць, што бацьку добра, і гордасць, што ён зрабіў правільна.

Ён пайшоў на прыгуменне і прынёс вілы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Даведаўшыся, Загорскі пачаў судзіць сябе і забойцу. Так, гэтаму варварству і дзікунству няма апраўдання. Але ж хто вінен у тым, што гэтыя людзі дзікуны? Дзяржава, якой ёсць да іх справа толькі ў часы мяцяжу? Уладары над душамі, якім ёсць да іх справа толькі пасля жніва? Адкуль ім ведаць асновы свету, што вакол іх? Царква крычыць ім аб апраметнай, паданні пагражаюць д'яблам і ведзьмакамі.

Вось і суду *толькі цяпер* будзе справа да Маркі.

І чым дапамог гэтым сваім людзям ён, Акім Загорскі? Не забіваў, не рабаваў, бо не меў у гэтым патрэбы. Але што агульнага паміж Маркам і ім, які ганарыцца тым, што наведаў у Фернэ Вальтэра? Гаспадар і мужыкі — жыхары розных светаў.

І хутка ад усіх разважанняў у яго сэрцы засталося толькі разуменне таго, што суд зробіць кепска і ён, Загорскі, не здолее нічым перашкодзіць. Сляпыя судзілі сляпога.

Таму Загорскі ўсім сваім уплывам ціснуў на судовых, і прысуд быў мяккі: дзесяць год катаргі.

... Марка з Сібіры не вярнуўся. Даніла, і той даўно

стаў дзедам. Памерла імператрыца, і сын, і адзін з унукаў яе. Памёр і Акім Загорскі. Амаль забылася і здарэнне з лазняй, а потым і лазню злізаў Дняпро.

Быццам і не было ні людзей, ні закуранай нізкай будыніны на беразе. Толькі груша...

За ёю ляжалі прыдняпроўскія адхоны, вёскі, пушчы і мястэчкі. За ёю стаялі замшэлыя замкі, чорныя хаты і старажытныя белыя званіцы.

А груша цвіла апошні год. Дняпро падбіраўся да яе спакваля, як разбойнік. Гэты апошні год яна стаяла толькі сілай сваіх карэнняў, умацаваўшы імі сабе паўкруглы фарпост.

Чарговая з мільёнаў паводак, якія бачыў Дняпро, спадала. Наступная павінна была кінуць дрэва ў хвалі, разам з квеценню. Але яна не ведала аб гэтым. Яна цвіла ў віраванні пчол, і пялёсткі падалі на быстрыню ракі.

## II

Дняпро цячэ між высокіх берагоў спакойна і ўпэўнена, вымываючы з-пад адхонаў пясок, адкрываючы часам для вачэй чалавечых тое, што сам жа раней схаваў ад іх: наздраватыя вапнякі, чырвоныя з ліловым адценнем пліткі жалезняку і векавечныя, варажскіх часоў, дубы.

Яны чорныя, як косць, гэтыя мораныя дубы. Як абгарэлая чорная косць. І калі бачыш на водмелі напаўзанесенае пяском мокрае бервяно — адразу становіцца зразумела, адкуль узяў народ паданне аб волатах, што спяць, засыпаныя жвірам і заплеценыя травой, спяць, пакуль не прыйдзе час вялікай бяды і пакуль іх не пакліча народ.

... Бяда прыходзіла шмат разоў, а яны не ўваскрасалі. Можа, сапраўды скамянелі, як тыя дубы?

Хто ведае?

Але плыве і плыве вялікая рака. Нас не было, а яна ўжо несла свае хвалі міма заток, пушчаў і буславых гнёздаў. А калі нас не будзе, яна ўсё яшчэ будзе бегчы далей і далей, да апошняга, далёкага мора.

...Вёску Азярышча, што прыткнулася над Дняпром, на белапясчаным адхоне, вясной залівае вада, і яна стаіць на востраве. Царква — убаку, таксама на востраве, і на вялікдзень папу з прычтам часам да-

водзіцца не абыходзіць яе, а аб'язджаць на чаўнах.

Прайшоў вялікдзень, моцна апала вада. На ўзвышшах ужо адараліся і адсеяліся. Вёска дрэмле ў лянівых праменнях майскага сонца, пустая, разамлелая. І ўсё ж Дняпро, амаль зусім адступіўшы ў летняе рэчышча, не можа супакоіцца і ляніва точыць нізы берага... Ціша. Спакой. Дурны крык пеўня над дымным гноем.

...У той майскі дзень на пясчаным адхоне, пад той самай грушай, якой канчаўся цяпер Кагутоў надзел, сядзела чародка дзяцей — тры хлапчукі і дзяўчынка.

Толькі два старэйшыя — кожнаму год па адзінаццаць — сядзелі, абкруціўшы клубы кужэльнымі сарочкамі. Трэці, сур'ёзны мужычок год васьмі, і дзяўчынка, яшчэ гады на два маладзейшая за яго, былі зусім голыя, але ніколькі, відаць, не саромеліся з гэтай прычыны.

З гэтых чатырох два галышы і адзін трохі адзеты былі вельмі падобныя. Залацістыя зблытаныя валасы, дзікаватыя светла-сінія вочы і, нягледзячы на дзіцячую рэзкасць, нейкая асаблівая, няспешная ладнасць у рухах. Кожны, паглядзеўшы на іх, сказаў бы:

— Кагутова племя.

Чацвёрты быў зусім непадобны на іх. Больш тонкі. Цёмны скурай. З простым носам, як астатнія тры, але з крутымі ноздрамі. Са спакойным, не па-дзіцячаму цвёрдым ротам.

Ён і сядзеў неяк больш вольна і лёгка. Каштанавыя, вельмі іскрыстыя пад сонцам валасы гэтага хлопца ляжалі буйнымі хвалямі. Цёмна-шэрыя шырокія вочы спакойна глядзелі на імклівую плынь Дняпра.

Нічога не было на гэтай плыні, ні ветразя, ні чарады качак, і таму гэты занятак хутка абрыдзеў шэравокаму. Ён лёг на спіну і звярнуўся да суседа:

— Пойдзем яшчэ ў ваду, Павёлка?

— Здурэў, Алесь? — салідна сказаў Павал.— Пачакай, усю ж ваду скаламуцілі.

Вада ў Дняпры была яшчэ халаднаватая, і таму сябры выбралі для купання невялічкую затоку, добра прагрэтую сонцам. Купаліся, відаць, зусім нядаўна, бо валасы ў іх былі мокрыя.

— Горача, халера на яго,— уздыхнуў Алесь і апусціў чорныя вейкі.— Пойдзем праз тыдзень на

Равеку. Стафан там надоечы во якога акуня выхапіў.

Павал маўчаў.

— Ты што маўчыш, Павёлка? — сказаў Алесь. І, ужо ўстрывожаны, убачыў, што ў сябра дрыжаць вусны.— Ты чаго, Паўлюк?

— Праз тыдзень цябе, магчыма, тут не будзе,— глуха сказаў Павал.

— Во, дурына́. Куды ж гэта я падзенуся?

— Сёння раніцай — ты якраз апошні воз гною на Нізок вазіў — прыязджаў Карп з маёнтка. Сказаў, што паны пагаворваюць: маўляў, досыць. Маўляў, цяжка Міхалу Кагуту без нашай дапамогі, і час браць Алеся... Гэта каб за цябе бацька «пакормнае» і «дзядзькавое»[1] атрымаў...

У вачах у Алеся з'явілася трывога. І адразу ж знікла, саступіўшы месца рашучасці.

— А я не пайду. Хто мяне прымусіць, калі мне і тут добра?

— Гэ-эх, брат,— тонам дарослага сказаў Павал.— Тут ужо нічога не зробіш. Возьмуць у двор — і канцы. На тое яны паны. На тое мы мужыкі. Як аддалі яны цябе, так і возьмуць.

— А я ўцяку. Я не іхні. Я — ваш.

— Прывыкнеш,— працягнуў Павал.— Памятаеш, як шэсць год таму роў, калі цябе да нас прывезлі? І страшна ў нас, і чорна. Прывык жа...

— Куды гэта Алеся забяруць? — спытала дзяўчынка.

Стаяла перад імі, голенькая, круглая. Трымала ў роце палец.

— Ідзі ты, Янька,— з прыкрасцю сказаў Павал.— Што ты ведаеш?

— Куды яго забяруць? Ён жа наш,— у голасе дзяўчынкі было неўразуменне.

— Наш, ды не зусім.

І тут Алесь ускінуўся на калені.

— Як гэта не ваш? Як гэта? А чый жа я? Буслаў?! Арышкі-дурнічкі?!

На вачах яго накіпалі ўжо злыя слёзы. Ён не стрымаўся і адважыў дружбаку гучнага ляпаса. А яшчэ

---

[1] Па старому, часоў уніі, звычаю, які амаль знік у XIX ст., беларускія паны аддавалі сыноў на «дзядзькаванне» (выхаванне) у сялянскія сем'і.

праз хвіліну яны, адзін цераз другога, каціліся ўніз, да ракі, узнімаючы хмары пяску. За кулакамі — свету відаць не было. Скаціўшыся на самае ўзбярэжжа затокі, чырвоныя, пыльныя, яны малацілі адзін аднаго і раўлі.

Яня, захлынаючыся ад крыку, пабегла да іх, густа ссоўваючы нагамі пясок.

— Не трэ-э-э... Але-е-е... Па-а-а!!!

За ёю паважна, адхінаючыся назад, быццам круглае пуза магло пераважыць, рухаўся галыш «мужэска полу», Юрась Кагут.

Дзяўчынка крычала ўжо зусім без голасу і часта тупала нагамі, не заўважаючы, што зайшла ў ваду.

І тады васьмігадовы Юрась, паглядзеўшы на яе, нагнуўся, чарпануў поўныя прыгаршчы глею і гучна шалёснуў на абедзве галавы.

Бойка спынілася. Абое глядзелі адзін на аднаго і на Юрася. А той, пасля паўзы, павольна сказаў:

— Э-к, важна...

І пайшоў да дзяўчынкі:

— Хадзем, Янечка, хадзем, золатка. Гэта ж яны жартуюць. Гэта ж Алесь пажартаваў... Бач, запырскалася ўся.

Хлопцы глядзелі, як Юрась павёў Яньку ў затоку. Потым у Алесевых вачах з'явіліся слёзы.

— Дурні,— сказаў ён,— напалохалі дзяўчо. І ты дурань... Дурань ты, вось хто... Калі я не ваш, дык я і пайду... Не вельмі трэба... Толькі ў Загоршчыну я не хачу. Знайду на гасцінцы магілеўскіх або мірскіх старцоў з лірамі — з імі рушу. І заставайцеся вы тут са сваёй Равекай і з халернымі вашымі акунямі.

Ён зайшоў па пояс у ваду і пачаў змываць з галавы шызы глей. І раптам адчуў, што Паўлава рука лягла яму на валасы.

— Чакай,— сказаў Павал.— Давай памагу... Ты... даруй...

Алесь выпрастаўся. Так яны і стаялі адзін супраць аднаго і напалову ў вадзе. На галаве ў Павёлкі была густая ляпёшка; з валасоў Алеся сплывалі на твар і грудзі шызыя струменьчыкі. Яны цяклі і ад вачэй, і нельга было зразумець, вада гэта ці слёзы.

— Паўлюк,— ціха спытаў Алесь,— няўжо возьмуць?

— Не ведаю,— няшчыра сказаў той.— Можа, і

абыдзецца. Давай лепш мыцца. Вечарэць скора пачне.

Яны мыліся моўчкі. Яня і салідны Юрась сядзелі ля самага берага, і Юрась браў вялізнай чарапашкай ваду і палівае Янін жывот.

— Дзеці,— прагучаў голас з адхону,— досыць вам боўтацца: вярба са с... вырасце.

Над урвішчам, ля грушы, стаяў белы стары, белы ад галавы да нагавіц. Стаяў, абапіраючыся на кантовы чорны кій з вострым канцом.

— Вылазьце, ці што?

— Яны, дзядуля, зараз,— віскнула Янька.

Позірк дзеда адразу памякчэў, як толькі ён глянуў на дзяўчынку.

— То добра. Вылазьце. Я пайду.

Хлопцы моўчкі дамыліся. Юрась і круглая Янька падняліся ўжо на адхон і зніклі за грушай.

— Вось і печку, у якой летась бульбу пяклі, абурыў Дняпро,— хаваючы вочы, сказаў Алесь.

Сапраўды, у адхоне, на свежай адколіне, відаць была толькі неглыбокая чорная ямка.

Яны ўсё яшчэ марудзілі, быццам бачылі Дняпро апошні раз. Алесь паставіў нагу на вялізную камлыгу зямлі, што коса ссунулася ў ваду і напалову затанула ў ёй.

На той частцы, што яшчэ заставалася над вадою, спяшаліся дацвісці гусіныя лапкі і жоўты падбел. А іхнія браты, пад вадою, таксама яшчэ цвілі, але былі бескаляровыя, быццам іх пакінула жыццё.

У Алеся балюча сціснула горла.

— Хадзем,— ціха сказаў яму Павал.

...Ад грушы вяла да хаты вузкая сцежка. Па абодва бакі ляжала нядаўна ўзараная чорная зямля, і надта белымі і танюткімі здаваліся ствалы яблынь і вішань, пабеленыя вапнай. Бязважкі салатавы пух ахутваў дрэвы, і асабліва шэрай і безжыццёвай выглядала ў гэтай зялёнай хмары старая хата Кагутоў з надворнымі пабудовамі, размешчанымі літарай «П». Сцены хаты, сухія, з глыбокімі расколінамі, амаль напалову закрывала насунутая грыбам страха з такім тоўстым пластом смарагдавага вільготнага моху, што можна было засунуць руку амаль па локаць.

Арабіны і вінаград — так завуць у Прыдняпроўі

карычку[1] — буянымі хвалямі перахлёсталі цераз мёртвы каравы пляцень, быццам імкнуліся схаваць ад вачэй людскіх яго пачварнасць.

Над дрэвамі ўжо ўзляталі бронзавыя хрушчы. Сонца хілілася на захад, і ў вячэрнім паветры гучна ляскаў дзюбай бусел на страсе адрыны.

Дзед з малодшымі сядзеў на прызбе, доўгі, снежна-белы ў сваёй кужэльнай вопратцы. Сад садзіў ён. У той час нават у багатым на сады Прыдняпроўі пры кожнай сялянскай хаце было не больш як тры-чатыры дрэвы. Быў, праўда, загад прыдняпроўскай шляхецкай рады, каб кожны садзіў сады, але паслухаўся яго далёка не кожны.

Дзед сядзеў, бязвольна склаўшы карычневыя рукі, а над яго галавою нездаволена басілі хрушчы.

Непадалёку ад яго ляжала на ўскапанай курамі зямлі Курта. Ляжала на баку, цяжка адваліўшы страшныя льсняныя саскі, пакутліва глядзела на людзей.

«Пэўна, нават не пабачу, якія ў яе будуць шчанюкі»,— падумаў Алесь.

Дзед разбіў буркатліва-ласкавым голасам цішыню:

— Дзеткі, Юрась зараз агуркі палье, а вы схадзіце скіньце з вышак карове сена... Доўга, чорт на яго, дажджу няма: пасвіцца, пасвіцца, а бруха пустое. Потым парсюкам бульбу пасекчы трэба. Марыля спарыла.

Хлопцы моўчкі пайшлі за хату. Дзед сядзеў нерухома і слухаў, як буркочаць у кошыку пад вільчыкам галубы. Яня ўзлезла яму на калені.

— Дзеда, а баяць калі будзеш?

— Вось хлопцы вернуцца. Сёння я не толькі табе з Юрасём, сёння я і хлопцам баяць буду.

Дзед і ўнучка маўчалі. Цішыня была асабліва поўная ад буркатання галубоў.

...Урэшце вярнуўся Юрась і сеў поруч з дзедам. Нагавіцы ягоныя былі амаль да каленяў мокрыя, між пальцамі босых ног — чорныя земляныя рáгі. З хляўца даносілася частае чахканне секача.

— Сёння Павал з Алесем пабіліся,— сказаў Юрась.

---

[1] Какалуша, ірга.

— Хто першы?

— Алесь.

— Тады добра... Тады нічога...

— Чаму гэта нічога?

— А ты забыў, чаму вас, дзяцей, вучылі?

Юрась адказаў бойка:

— Пакормнага панскага сына не біць і першым з ім біцца не лезці.

— Правільна,— сказаў дзед.

Яня лашчылася да старога галоўкай. Юрась сядзеў натапыраны, як галчаня, і суровы: відаць, абдумваў нешта. Потым сказаў:

— Я нешта не чуў, дзеда, каб яго нам за грошы аддалі. Сёння Павал казаў пра нейкае «пакормнае» і «дзядзькавое»... Гэта што? І чаму гэта толькі ў нас ды ў Маеўшчыне покормнікі ёсць?

Дзед перабіраў шурпатымі пальцамі валосікі ўнучкі, аж чуваць было, як яны чапляліся за далоні. Сумна ўсміхнуўся:

— Зводзіцца стары звычай, Юрак. Калісь па ўсім Прыдняпроўі і далей гэта як звыклае было. Я помню, да французаў яшчэ, мала хто з паноў, праваслаўных асабліва, не рабіў гэтага... А цяпер усё радзей і радзей...

— А нашто гэта? — спытаў Юрась.

Дзед гаварыў з ім, як з дарослым, і малому гэта, відаць, падабалася, бо слухаў, вушы развесіўшы.

— Каб ведалі, як даецца зямля,— сказаў дзед,— каб не збэсціліся на сабаку. Аддавалі, бывала, як толькі чатыры гады дзіцяці. Хто на тры, а хто і на пяць год. І зусім не дапамагалі хлопскай сям'і. А потым, калі возьмуць хлопца зноў у двор — даюць мужыку пакормнае, за тое, што хлопец з'еў, і дзядзькавое, бо ўсе мы як быццам дзядзькі малому, выхоўвалі яго, розуму вучылі.

— Пойдзе ад нас Алесь,— па-даросламу ўздыхнуў Юрка.— Які яшчэ ён потым будзе?

— Пэўна, усё ж лепшы за іншых,— сказаў дзед.— Чуў, як саха зямлю скрабе. Каб не забыў толькі. З бацькам і дзедам яго нам, можна сказаць, пашанцавала. Акім, прадзед ягоны, таксама нічагоўскі быў. Можа, і яблычка па яблыні. Можа, і не забудзе вас і мяне... Бо, крый божа, калі будзе, як суседскі Кроер...

— Калі яго забяруць? — спытаў Юрась.

— Заўтра. Заўтра яго забяруць,— сказаў дзед.— Толькі маўчыце, дзеткі. А зараз бяжы, Юрка, прынясі ліру.

Калі Павал і Алесь вярнуліся да прызбы, дзед сядзеў ужо з пацьмянелай, залапанай ліраю на каленях. Павольна, быццам спрабуючы, пакручваў ручку, слухаў чмялінае гудзенне струн. Курта глядзела на яго і цяжка дыхала.

— Во,— сказаў дзед Паўлюку, які ўжо сеў на траву,— не любяць яны, чэрці брахучыя, нашыйніка... як чалавек. Быў у мяне сабака, ніколі на сворку не ішоў. А тут у мяне скула на шыі села. Жонка-нябожчыца падзерла старую сарочку, закруціла мне шыю. Дык сабака пабачыў, завіскатаў, кінуўся скакаць, за горла хапае. Думаў: у гаспадара нашыйнік.— Уздыхнуў: — Ну то добра, сядайце. Паслухайце, пакуль нашы не вернуцца. Песня пра жарабя святога Міколы... Толькі вось што, Алесь, калі ты ў Загоршчыне пачнеш расказваць, якія тут песні спяваюць...

Алесь пачырванеў:

— Доўга вы тут мяне крыўдзіць будзеце? То адзін, то другі. Я не горш за вас, калі трэба, маўчаць умею... Перад кім мне там языкацца?

Дзед уважліва глядзеў на яго, быццам усё яшчэ вагаючыся.

— Глядзі, сыне. Песня таемная. Не пры ўсіх нават сваіх можна... Але ўсё адно. Я ўжо чалавек стары. Выслухай маю апошнюю навуку...

Дзед павольна павёў ручкай, потым раптоўна і рэзка крутнуў яе. Высокім енкам заплакалі струны, быццам заламантаваў нехта ў роспачы.

Хлопцы сядзелі ля яго ног, Юрась і Янька ляжалі з двух бакоў, грэлі жыватамі прызбу, але стары Кагут нікога ўжо не заўважаў. Зусім ціха пачаў гучаць старэчы і таму слабаваты, але надзіва чысты голас:

Над зямлёю Дняпроўскай і Сожскай
Праляталі я́нгалы смерці.
Дзе лятуць — там вымерла вёска,
Дзе прыселі — там горад вымер,
Там жыццё папам і далакопам.

У Янькі шырока акругліліся вочы.

Так нарэшце край абязлюдзеў,
Што і янгалам страшна стала:

«Чым пражыць, як памрэ апошні?»
І галоўны сказаў: «Хопіць лётаць,
Трэба нам на зямлі пасяліцца».
Збудавалі яны палацы,
Збудавалі муры з каменняў,
Ўвесь Дняпро між сабой падзялілі,
Ўсіх людзей ад краю да краю...

Дзед змоўк на хвіліну, быццам прапусціўшы некалькі асабліва хвосткіх радкоў, але струны скардзіліся, можа, нават не менш выразна за словы...

...Збудавалі цэрквы і касцёлы,
Па малітву ладанам кураць,
Задымілі, як лазню, неба.

Твар старога стаў паважным, амаль велічным.

Бог гадамі сядзеў і нюхаў,
А пасля сказаў сабе Юр'ю:
«Многа дыму да нас далятае,
Вельмі мала шчырай малітвы.
Твой народ па Дняпры і далей.
Што рабіць з тваім удзелам, Юры?»
І сказаў яму Юры-пераможца:
«Ты пашлі на зямлю Міколу.
Ён з сялян, ён добра рассудзіць».
Грозна бог свае бровы нахмурыў:
«Добра ведаю я людзей вясковых,
Вечна яны скардзяцца, ныюць,
Хітрасцю ж аплятуць і чорта.
Я пашлю з Міколам Касьяна.
Ён з паноў, ён другое заўважыць».
Ціха Юры адказвае богу:
«Знаецца Касьян з нячыстай сілай,
Сэрца злоснае ў твайго Касьяна».

Дзед перастаў граць. Толькі голас, засмучаны і журботны, вельмі ціха вёў песню.

Бог салдата свайго не паслухаў,
Даў загад Міколу і Касьяну.
Вось абодва спусціліся з неба
І пайшлі па сёлах і вёсках.
Быў Мікола ў кужэльнай світцы,
А Касьян у парчы залацістай.

Струны раптам так застагналі, што стала страшна. Гэта былі ўсё тыя ж чатыры-пяць нот, але, здаецца, большай роспачы і болю не было яшчэ на зямлі.

Ходзяць, ходзяць. Ад болю і жалю
У Міколы заходзіцца сэрца:
Панства горш за цароў турэцкіх,
Басурманы не так лютуюць...

Алесь нясмела ўзняў вейкі і ўбачыў, што пальцы малога Юрася, сціснутыя ў калачкі, аж збялелі на суглобах. Убачыў жорсткі вялікі рот Паўла. Ён і сам адчуваў, што ў яго перарывіста ўздымаюцца грудзі і гарачыя робяцца шчокі...

Раззлаваўся нарэшце Мікола:
«Хопіць іх шкадаваць, сыраядцаў.
Пойдзем, браце Касьяне, на неба,—
Хай заб'е іх бог бліскавіцай».
Адказаў Касьян чорнавалосы:
«До, Мікола, пароць гарачку.
Хлопы лепшых паноў не варты,
П'юць гарэлку, бярвенні крадуць,
На мяжы б'юць віламі брата.
Кожны заслужыў свайго пана.
А калі паноў паб'еш маланкай —
Хто тады нам храмы збудуе?
Хто тады нам ладан запаліць?
Здохнем з голаду, дурань, на небе».

На нейкі асабліва ганарысты і жорсткі твар дзеда падалі апошнія праменні сонца. Ціха гулі струны, прыглушаныя рукой. А голас з жорсткага рабіўся мяккі і спеўны:

Паківаў Мікола галавою,
І пайшлі яны моўчкі на неба...
Вечар крадзецца над зямлёю,
Недзе ў пушчы ваўкі завылі.
Чуе ў дрэвах хрыпы Мікола,
Чуе ён няпэўныя рухі.

Янька з круглымі ад жаху вачыма забілася паміж плячом дзеда і сцяной, і дзед толькі на адно імгненне адарваўся ад струн, каб накінуць ёй на плечы крысо дзіравай світкі. Алесь убачыў гэта і сціснуў далонямі скроні, так шкада яму стала сябе і ўсіх.

«Хто такі? — спытаў Касьян Міколу.—
Ці не мішка, барані нас божа?»
«Не, не мішка,— проста кабыла»,—
Адказаў Мікола спакойна...
Паміж хвояў стаіць кабыла,—
Не кабыла, а здань без цела.
Страшна рэбры стырчаць, як латы
З абадранай страхі сялянскай.
Карак збіты, бяльмо на воку...
І... жарэбіцца тая кабыла!

Голас дзеда сарваўся.

Пацягнулася да святога,
Як дзіцёнак хворы, зірнула:
«Можа, гэты мне дапаможа?»

Стаў Мікола, макаўку пачухаў:
«Брат Касьян, давай дапаможам».
Тут, як чорт, Касьян раззлаваўся:
«Гэтай падле найлепей здохнуць,
Чым цягаць барану і бярвенні
Ды жывіцца гнілою саломай.
Канавал я, ці што, нарэшце?
Хочаш — пэцкай мужыцкія рукі.
Я прыйду на неба незайманым,
Чыстым стану прад божыя вочы».

Юрась з жахам глядзеў на дзеда. І дзед спаймаў яго позірк, усміхнуўся і без музыкі,— струны яшчэ заміралі,— амаль скорагаворкай, павёў песню далей.

Тут Мікола склаў сваю світку,
Вогнішча развёў між лаўжамі.
Сеў Касьян да цяпла, рукі грэе,
А Мікола стаіць ля кабылы,
Мацае ёй бруха рукамі,
Па крыжы далонямі гладзіць...
Каб ля Оршы ён быў канавалам,—
Паўрубля яму б заплацілі,
Заваліўся б грашыма Мікола.

Нясмелая ўсмешка дрыжала ў краёчку вуснаў Паўлюка. Ён нягучна крануў Алеся ў бок, і Алесь адказаў усмешкай. Зноў павялі свой напеў, загулі струны. Ціха-ціха.

Не спявалі яшчэ і пеўні,
Як кабыла глыбока ўздыхнула:
Мокры, цёплы белы жарэбчык
Мякка лёг у Міколавы рукі.
Аж да поўдня чакаў Мікола,
А пасля ён пагнаў худобу,
І за ёй жарабятка пабегла.

З палёгкаю ўздыхнула і легла на бок Курта, быццам і яна зразумела, што ўсё скончылася добра. А сонца сядала, і зелень дрэў набыла аранжавае адценне.

Йшлі яны і прыйшлі на паляну.
На паляне — курная хата,
Каля хаты чвэртка валокі
І сухая старая дзічка.
Стаў Мікола ў лесе і бачыць:
Гаспадар бяжыць да кабылы.
На нагах падраныя поршні,
Твар змарнелы, на твары слёзы.
Адвярнуўся Мікола і кажа:
«Вось і ўсё, хадзем, брат Касьяне,
Паспяшаем хутчэй на неба,
Дасць нам бог за затрымку па шыі».

Юрась варухнуўся, думаючы, што ўжо канец, але злавіў строгі позірк дзеда і застаўся сядзець нерухома.

Перад богам стаіць Мікола,
Порткі ўсе заляпаны граззю,
На кашулі крывавыя плямы,
Твар знябыты, чырвоныя вочы.
На Міколу бог раззлаваўся:
«Ля карчмы аціраўся, вядома,
З дзеўкамі качаўся па гумнах,
Размяжулілі нос табе хлопцы.
Прэч з вачэй!»
Тут Касьян засмяяўся:
«Што табе я казаў, Мікола?
Як прыходзіш, каток, на неба,—
Трэба чыстае мець адзенне,
І не варта таго кабыла,
Каб гнявіў ты госпада бога».
«Пра якую кабылу ты кажаш?» —
Бог спытаў.
І тады Мікола
Расказаў яму пра кабылу,
Пра зямлю, пра бедныя весі:
«Божа, божа, ты бачыш пакуты.
Крыж у хлопаў паны здзіраюць,
Каб ярмо нацягнуць на шыю.
Мужыкі на зямлі азёрнай
Ўсю салому са стрэх паздзіралі,
Ўсю кару з сасонак паелі».

Алесю стала цяжка, ён лёг жыватом на траву і схаваў твар у далоні.

Бог задумаўся, цяжка, глыбока,
І сказаў: «Даруй мне, Мікола.
Я ўсё гэта давеку запомню».
Гнеўна бог зірнуў на Касьяна:
«Чысты ты, Касьян, і прыгожы.
Край мой бедны ваўкі раздзіраюць,—
Ты ж аб чыстай адзежы дбаеш.
А ці думаў ты, браце Касьяне,
Што для сэрца майго даражэйшы
Нават цёмны, апошні злодзей.
Ён царкву маю абдзірае,
На прастол брудным поршнем лезе,
Але лезе з чыстай душою,
Бо ад голаду дзеці канаюць
І ў яго, і ў яго суседа.
Ты пра гэта не думаў, Касьяне,
І таму я даю Міколу
Кожны год два вялікія святы,
Каб Міколу славілі людзі.
А табе я даю, неразумны,
Дзень апошні, дваццаць дзевяты,
Ў лютым месяцы, месяцы гурбаў».

Сонца амаль дакранулася ўжо да зямлі. І твар дзеда стаў ружовы.

Тут Касьян, як бабёр, заплакаў:
«Божа, божа, за што караеш?
Ты пакрыўдзіў свайго святога
За адроддзе паршывай кабылы!»
І сказаў яму бог спакойна:
«А ці думаў ты, браце Касьяне,
Што з мячом я з'яўлюся хутка,
Што надыдзе пан бог у славе
Ратаваць свае белыя землі?

З ціхай пагрозай заспявалі струны. Цяпер ужо не толькі колка, але і рука дзеда павольна бегала па іх. Цені ляжалі ў вачніцах і пад вуснамі старога, а твар быў чырвоны, быццам абліты полымем і крывёй.

Час той прыйдзе. І скора прыйдзе.
Стане моцным канём жарабятка,
І на гэтым кані я паеду
Да пачынкаў[1] і хат сялянскіх.
Коні іхнія мала елі,
Працавалі, вазілі цяжка,—
Справядлівасці ездзіць належыць
На мужыцкіх пузатых конях.

Гнеўна ўзвіўся напеў.

А калі на крыж мяне пацягнуць —
Мужыкі мяне абароняць.
Ім даю я ў лясах дубіны,
Ім даю я ў зямлі каменне.
А астатняе — самі здабудуць».

Трывожна-барвяны твар схіліўся над струнамі. А напеў зноў стаў ціхі, амаль нячутны, пагрозны.

Над зямлёю гудзе навальніца,
Над зямлёю халодная зліва.
Недзе ў лесе таўсцеюць доўбні,
Недзе ў стайні расце жарабятка.

Павольна заміраў гук струн. І, пакуль ён сціх, доўга яшчэ пасля таго панавала маўчанне.

— Дзеда,— шэптам спытаў Юрась,— а дзе тое жарабятка?

І дзед адказаў таксама ціха:

— Хто ведае. Можа, нават і непадалёку. У Лапаты расце белае жарабя. Ды ці мала яшчэ дзе.

І раптам паветра шумна вырвалася з Алесевых

---

[1] Пачынак — хата ў нечапаным лесе.

грудзей. Адчуваючы, што яшчэ хвіліна і ён не стрымаецца, ён усхапіўся з месца і кінуўся па сцежцы.

Павал памкнуўся быў за ім, але рука легла яму на плячо.

— Сядзі,— сказаў дзед,— яму лепей зараз аднаму.

...Сцежка вывела хлапчука на дняпроўскі адхон. І там, увесь дрыжучы, ён сеў на траву, прыпаўшы тварам да каленяў.

Думкі былі бязладныя, але ён адчуваў, калі вось тут, зараз, ён не вырашыць, як яму быць, ён не здолее вярнуцца ў хату на апошнюю,— ён адчуваў гэта,— на апошнюю сваю ноч.

«Яны не вінаватыя. Ім цяжка. Араць зямлю — гэта зусім не тое, што ездзіць на кані. Я ніколі не буду такі, як гэты Кроер, пра якога яны часам кажуць. Я куплю ў Кроера ўсіх людзей і зраблю, каб ім было добра. І яны, сустракаючы мяне, не будуць збочваць з дарогі, я буду вітацца з імі».

Слёзы высахлі ў яго на шчоках. Ён сядзеў у прыцемку і сачыў, як бярвянае сонца, унутры якога нешта пераліваласяı, сядала ў спакойную плынь.

Груша за яго спіною патанула ўжо ў цемры, і толькі вышэй, усё яшчэ залітая апошнімі промнямі, нерухома клубілася яе асуджаная чырвоная квецень.

## III

У Кагутовай хаце вячэралі. Позна вярнуліся з поля, і таму даводзілася есці пры святле. На стале трапятаў агеньчык каганца. Каля печкі, дзе корпалася Марыля, гарэла над начовачкамі заціснутая ў лучнік лучына. Ад яе Марылін твар, яшчэ не стары, але зрэзаны глыбокімі ценямі, здавалася, быў таямнічы і нядобры.

На покуці, пад закураным Юрыем і маткай боскай,— толькі і засталіся ад іх адны вочы,— сядзеў дзед. Поруч з ім Міхал Кагут, мажны, з лёгкай сівізной у залацістых патлатых валасах. З асалодаю чэрпаў путру, нёс яе да рота над праснаком. Згаладаўся чалавек. Па левую руку ад яго спяшаўся есці старэйшы семнаццацігадовы сын Стафан. Гэты паспеў яшчэ да вячэры прыбрацца, надзягцярыць

бацькавы боты і нават новую чырвоную жычку прыладзіць да каўняра сарочкі. Хлопца час быў жаніць. Міхал глядзеў на яго з усмешкай, але маўчаў. А дзед, вядома ж, не мог стрымацца:

— Чорта зводнага сабе шукаеш?

Стафан маўчаў.

— Спяшайся, брат,— не сунімаўся стары,— там цябе Марта каля Антонавага ўзвозу чакае. Круг нагамі вытаптала.

Уздыхнуў, паклаў лыжку (еў па-старэчаму мала).

— Чаго вы, дзядуля,— буркнуў Стафан.— Хіба я што?

— А я хіба што? Я нічога. Я ж і кажу: дзеўка... як вось наша лава. Хоць садзіся, хоць скачы, хоць цэглу накладай... Векаўшчына!.. А потым, раніцай на касьбе, як толькі бацька адвернецца, дык ты галаву ў кусты і драмаць. На нагах. Як конь.

— Ну вас,— сказаў Стафан, паклаў лыжку і ўстаў.

— Пайдзі, пайдзі,— сказаў другі Міхалаў хлопец, пятнаццацігадовы Кандрат.— Запозна твая Марта марцуе.

Стафан толькі носам чмыхнуў. Пайшоў.

— Цяпер да раніцы не чакай,— сказаў бацька.— А ты, Кандрат, не чапіся да яго. Сам яшчэ горшы. А ён хлопец ціхі.

— Чаму гэта я горшы буду? — усміхнуўся Кандрат.

— Па носе відаць.

Кандрат і Андрэй былі блізнюкі. І калі ўжо ўсе Кагуты былі падобныя, дык гэтых, пэўна, і сама маці блытала. Так яно ў дзяцінстве і здаралася. Дурэў Кандрат, а кухталёў давалі Андрэю, і наадварот. Толькі потым, у восем год, з'явілася ў Кандрата прыкмета, паўкруглы белы шрам на лобе: накінула капытом жарабя.

Але, акрамя вонкавага падабенства, нічога ў блізнюках не было агульнага. На Кандрату шкура гарэла. Біцца дык біцца, скакаць дык скакаць. З раніцы да вечара ўсюды чуліся яго смех і жарты. А ў светласініх вачах іскрылася такая прыкметная, а таму бяспечная хітрасць, што дзеўкі нават цяпер, у пятнаццаць год, заглядаліся на яго. Заглядаліся і на Андрэя, хоць той быў зусім іншы.

Той самы, здаецца, твар, і ўсё ж не той. Вочы нават цямнейшага колеру, чым у Кандрата, пэўна таму, што веі заўсёды сціпла апушчаны. Рот нясмела ўсміхаецца. Галава схілена трошкі ўбок, як кветка ў весняга «сну». Слова часцей за ўсё абцугамі не выцягнеш. Але затое з першага разу запомніць і праспявае пачутую на кірмашы ці недзе ў млыне песню. І праспявае так, што ўспомніць маладосць самая старая баба.

Марыля паставіла якраз на стол гушчу наліваную — пшанічную кашу з малаком, калі ў хату зайшоў Павал.

— Як там Алесь? — спытаў дзед.

— Падняўся ўжо ад грушы на сцежку. Ідзе сюды,— змрочна сказаў Павал.— Да заўтра пачакаць з песняй не маглі. Пакрыўдзілі хлопца.

— Ну і дурань,— сказаў дзед.— Бо, можа, сённяшні вечар цябе ад крыўды ўратуе праз пяць год. Ты не забывай, ён твой будучы гаспадар. Пан.

— Не будзе ён панам,— упарта сказаў Павал.— Я ведаю.

— А дурныя ж усе,— азвалася ад печы Марыля.— Сядай во лепей, Павал.

— Я не сяду,— сказаў Павал.— Я Алеся буду чакаць.

— Пачакай! — сказала маці, выглядаючы ў акно.— Унь ён ідзе ўжо, твой Алесь.

Усе замаўчалі. Алесь зайшоў у хату вонкава спакойны. І адразу Андрэй выціснуў з сябе:

— Мы ўжо... думалі...

Глянуў на Алеся, затым пасунуўся, даў месца паміж сабою і Паўлам. Падаў яму праснак.

Алесь сеў. Андрэй падсунуў яму лыжку і ўсміхнуўся.

У Андрэя, наогул, шмат было жаноцкага. Вінаватая ўсмешка, вялізныя васільковыя вочы, нясмеласць рухаў. Марыля заўсёды казала: «Дзяўчынка была б, ды певень закукарэкаў, як мелася раджаць».

— Еш,— сказаў Андрэй, бы праспяваў.

І Алесь узяўся за ежу. Зґаладаўся ён вельмі. Але няёмкасць усё ж панавала ў хаце, і развеяў яе, як заўсёды, Кандрат.

Курта села ля яго, дагодліва стала глядзець у

вочы. Нават віскнула — ці ад болю, ці, можа, папрасіла.

— Ідзі, ідзі,— сказаў Кандрат паважна.— Бог падасць.

— Нашто ты яе? — сказаў Андрэй і кінуў сабаку кавалак праснака.

— Паскупіўся,— сказаў Кандрат.— Усе вы, спевакі, такія. Што поп, што ты.

Памачаў свой кавалак у малако і даў сучцы. Тая стала есці, прыціснуўшы вушы на круглай, як гарбуз, галаве.

— Сёння смехата была,— сказаў Кандрат.— Звончыкаву хату вада ўсё яшчэ трымае. Дык яны човен прымайстравалі. Нават у хмызы на ім ездзяць. Я з ворыва каня павёў паіць. Аж гляджу, Звончыкава старая выходзіць з хаты проста ў човен і пачынае пхацца да хмызоў. А вецер сустрэчны, моцны. Гаравала яна, гаравала. Потым гляджу, пастаяла хвіліну ў чоўне і пачала пхацца назад, у хату.

— Ідзі ты,— адмахнулася, смеючыся, Марыля.— Брэшаш ты ўсё.

Алесь таксама смяяўся, але сядзець вось так апошні раз за іхняй вячэрай было цяжка. Апошні раз каганец, апошняя лучына, апошняя добрая ўсмешка на абліччы Марылі.

— Мацуйцеся,— сказала Марыля, ставячы яму і Паўлюку міску кулагі.— Сёння на начлег паедзеце.

І таму, што гэта быў апошні начлег, Алесь пракаўтнуў цяжкі камяк.

Кандрат вырашыў ратаваць становішча і сказаў першае, што прыйшло ў галаву:

— Кулага гэтая... Колерам як мядзведзь н...

І адразу аб ягоны лоб гучна лузнула дзедава лыжка.

— Прыемнага апетыту,— сказаў Кандрат, паціраючы лоб.

Тут засмяяўся нават дзед. І ўсе засмяяліся. А ўжо Алесь галасней за ўсіх. І адразу ж з яго вачэй пырснулі слёзы. Выціраючы іх, ён сказаў глуха:

— Няўжо вы хочаце мяне аддаць, бацька Міхал? Або, можа, вам сапраўды цяжка, а пакормнае і дзядзькавое, пакуль не аддасцё мяне, не належыцца?

Міхал устаў і паклаў руку яму на галаву.

— Гары яно гарам і дзядзькавое тое і пакормнае,— і, махнуўшы рукой, пайшоў да дзвярэй.

Алесь звярнуўся да адзінага, хто яшчэ заставаўся, да дзеда:

— Я не хачу туды.

— Ну і што? — жорстка сказаў дзед.— Мужыком будзеш? Не, брат, ад гэтага нам карысці мала. Ды і табе. Ты лепей добры да ўсіх будзь, хлопчык.

Марыля падышла да Алеся:

— Ну пакінь... Што ўжо... Бацькі ўсё ж яны... А ты да нас прыязджаць будзеш... Будзеце з Паўлючком рыбу лавіць...

— Пакіньце,— сказаў раптам негаваркі Андрэй.— Яму ад вашых слоў яшчэ горш плакаць хочацца. Хай ён лепей з Паўлам на начлег едзе.

Павярнуў Алеся да сябе і зірнуў на яго:

— А хочаш, і я з вамі паеду?

— На чым гэта ты паедзеш? — спытаў дзед.— На кійку верхам?

— Не,— сказаў Андрэй.— Я каня ў Кахноў вазьму. Ім яшчэ лягчэй. Не трэба Петрусю ехаць.

— Вядома, няхай возьме,— з палёгкаю, заўсёдным сваім грубаватым голасам сказаў Кандрат.— Бадай што, і я паеду. Усё адно ж і кабылку Кахнову браць давядзецца.

— Добра,— сказаў Алесь, уздыхнуўшы.— Паедзем тады ўжо.

Ён зразумеў нарэшце, што ўсё гэта марна, што нічога не зробіш, і заўтра яму давядзецца пакінуць гэтую хату.

...Яны выехалі з двара, калі дзед залез ужо на печ, а Міхал пайшоў спаць у адрыну. Адна Марыля цёмным высокім ценем стаяла ля варот, быццам праводзячы хлопцаў бог ведае ў якую дарогу.

Наперадзе ехаў на мышастым Кахновым кані Андрэй. Ехаў, высока закінуўшы галаву.

За ім на цісáвай Кахновай кабылцы, неяк бокам, па-заліхвацку, ехаў Кандрат. Кабылка няспешна трухала і часам, быццам адчуваючы вільготны водар далёкіх паплавоў, шумна пырхала мяккімі ноздрамі.

За старэйшымі братамі ехалі побач, нага да нагі, Павал і Алесь. Павал на сплова-стракатым жарэбчыку, Алесь на спакойнай белай кабыле. Конскія капыты з мяккім плясканнем паглыбляліся ў цёплы пыл вуліцы.

Вёска ўжо засынала. Рэдка-рэдка ў якім акне

свяціў, як паміраў, ружовы агеньчык. У схаладнелым паветры гучна разлягаўся недзе далёка сабачы брэх. З дубовых шатаў на могілках гучаў часам неўразумелы крык дрэўнага жабяняці-квакшы. Больш нічога.

Хлопцы ехалі, падмасціўшы пад сябе кажухі і сярмягі. У празрыста-сінім небе гарэла на захадзе Вечарніца. Пералівалася, як сцюдзёная кропля.

І Алесь шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў на ўсё гэта, быццам з заўтрашняй раніцы яму выпадала жыць зусім пад іншым небам, без гэтай Вечарніцы, без гэтых скупых паўночных сузор'яў, без самотных Стажараў, якія цесна сышліся, каб пагаманіць аб справах нябесных і зямных.

Цёмныя стрэхі вёскі засталіся за імі. Конскія капыты зачвякалі: табунок пераязджаў цераз вільготны лугавы клін каля затокі. Потым дыхнуў халаднаваты павеў з Дняпра і пачалі набліжацца круглыя, як стагі, хмызы.

Табун спусціўся з адхону, і коні па калена зайшлі ў ваду, і яна закалыхалася, расплылася кругамі ад іхніх ног, зрабіла зоркі дрыготкімі і вельмі вялікімі.

Цісавая кабылка зайшла ў ваду глыбей за ўсіх і працягнула мяккую храпу да вячэрняй зоркі ў вадзе. Зорка замітусілася ў трывозе.

— Зараз праглыне,— шэптам сказаў Алесю Андрэй, і Алесь усміхнуўся ўдзячна. Андрэй разумеў яго.

Коні пілі доўга, усмак, часам адрываючыся ад вады. Чуйна слухалі вецер з зарэчных паплавоў, адпачывалі, а потым зноў прагна прыпадалі да зорак, да кругоў, якія бясконца беглі ў змрок.

— Досыць вам, воўчае мяса,— буркнуў нарэшце Кандрат.

Падымаліся на адхон, і чуваць было, як булькоча ў пакруглелых конскіх жыватах вада.

...На лузе Алесь з Паўлам спуталі коней. Старэйшыя хлопцы нацягалі сушняку. Зыркае полымя рвалася ўжо кудысьці ў ноч.

Яны сядзелі на шырокай касе, што ўдавалася ў Дняпро. На ёй былі там-сям раскіданы дубы з рэдкай яшчэ лістотай. Толькі вузкі перашыек паміж касой і высокім мацерыковым берагам быў сухі. Астатнюю частку поймы займаў мокры луг, які цягнуўся вярсты за дзве. За ім былі, невыразныя цяпер у цемры, шаты

парку, а над шатамі гарэў яшчэ, як амаль нябачная іскра, далёкі агеньчык.

— У Раўбічавым маёнтку нехта не спіць,— сказаў Павал.

— І наша вогнішча бачыць,— дадаў Алесь.

— Напэўна бачыць,— сказаў Кандрат,— адсюль да Раўбічавага дому вярсты тры якіх.

Замаўчалі, гледзячы на агонь.

Полымя шугала высока. Коні даўно разышліся ад яго па касе. Толькі страляла часам у агні вільготная галінка, ды ўтрапёна сакаталі жабы ў далёкай затоцы, ды на другім беразе, у лугах, раз-пораз крычаў драч. Як палатно дзёр.

Хлопцы ляжалі вакол агню на кажухах і світках, ляжалі нерухома, з шырокімі ад задуменнасці вачыма. Толькі Кандрат не мог супакоіцца. Ды і той клаў бульбу ў прысак асцярожна і амаль бязгучна.

Маленькі, меншы за самую маленькую іскру, свяціўся ў цемры далёкі-далёкі агеньчык. Бабухнула недзе: відаць, абваліўся ў ваду бераг.

— А памятаеш, Кандрат, як бацька нас упершыню на начлег узяў? — спытаў Андрэй.

— Анягож. І собіла ж яму якраз у тую ноч.

— А што такое? — спытаў Павал.

— Ноч была,— ціха сказаў ён,— такая ж, як сёння, цёмная. І якраз на пачатку мая. Берагі ў такі час заўсёды бурацца. Мы, малыя, ляжалі на кажусе. І раптам бабухнула. Далёка, глуха, страшна. Зусім не як бераг... І потым звон аднекуль здалёк. Узгоркі і дрэвы яго глытаюць, і таму звон рэдкі. Як на хаўтурах.

Памаўчаў.

— У тую ноч старэйшая дачка Раўбічава нарадзілася. Дык гэта Раўбіч з гарматы стрэліў. Там, пэўна, весела было, а тут страшна. Надта ўжо цёмная ноч была.

Маўчалі. Вадкая барва трапятала на тварах, і тварам было горача, а патыліцы ласкава сціскаў начны халадок.

— А ці праўду гэта кажуць, Андрэйка, што Раўбіч той — чараўнік? — спытаў Кандрат.

— Чаму гэта? — упершыню за ўвесь вечар спытаў Алесь.

— Не ведаю,— сказаў Кандрат.

— І я чуў,— упэўнена сказаў Павал.— Бо ён вуніятам быў.

— Цю на цябе,— сказаў Кандрат.— Гэтак выходзіць, што і наша маці чарадзейка. Яна ж таксама з вуніятаў была, аж пакуль іх ад вуніі не адвялі. Сілком адводзілі. Каб гэта яшчэ поп убачыў, што яна дагэтуль смуткуючага[1] ў каморы хавае, дык звону было б, як на сабачае вяселле.

— Наша маці — іншае,— сказаў Андрэй.— Ну забаранілі маліцца як хочацца, дык яна і кінула.

— А Раўбіч, кажуць, сапраўды чараўнік. Бо ні з чым не змірыўся, як унію знішчылі, і, кажуць, у першую ж ноч прадаў д'яблу душу, абы толькі не па-іхняму выйшла...

— Хто гэта бачыў? — вальнадумна спытаў Алесь.

— Я-то не бачыў,— уздыхнуў Андрэй.— Магчыма, і брэшуць... Але нешта ўсё ж ёсць. Начамі ён, кажуць, не спіць. І агнёў ужо нідзе няма, а іскра ўсё свеціць. Аднойчы наш Кастусь Боўда праходзіў апоўначы паўз ягоныя клеці, дык так, казаў, серай з падпалу цягне! І потым, ноччу раптам у яго людзі. Толькі поначы. Невядома як з'яўляюцца, невядома куды знікаюць. Дый ці людзі яшчэ?

— А можа, яны там фальшывыя грошы робяць?— засмяяўся Кандрат.

— Не,— памаўчаўшы, упэўнена сказаў Андрэй.— Нешта там усё ж няладна. Во і зараз, глядзі, агонь.

Усе мімаволі павярнуліся і доўга глядзелі ў змрок, на далёкую іскрачку, амаль нябачную адсюль і такую кволую, што нават камар мог загасіць яе.

Агонь трохі сцішыўся, стаў ніжэйшы, цемра з-за купін усё часцей лізала цёмнымі языкамі пляму святла ля вогнішча, а гэты далёкі агонь, вельмі самотны ў цемры, усё гарэў і гарэў.

Кандрат падкінуў у цяпло сушняку. Сядзеў нерухома. Усе астатнія таксама як анямелі. Алесь глядзеў на іх і адчуваў, што любіць іх, што няма для яго цяпер на зямлі даражэйшых твараў, чым грубавата-суровы твар Паўлюка, чым мяккае і пяшчотнае аблічча Андрэя, чым твар Кандрата, на якім цяпер блукала хітраватая ўсмешка, быццам ён успамінаў нешта вясёлае.

---

[1] Смуткуючы — статуэтка Хрыста ў паставе роздуму.

— З чараўнікамі гэтымі, наогул, бяда,— сказаў Андрэй.— Ведаеце хутар Памярэч?

— Ведаю,— сказаў Павал.— Ля Недабыліхі. Нічога там няма. Толькі некалькі камянёў на балоце ды здзічэлыя слівы... А што?

— Там усе людзі ў чорны год паўміралі. Ды ім нічога, усе хрышчоныя. А вось у малодшай нявесткі толькі што дзіця нарадзілася. Так і не паспелі ахрысціць.

— Чым жа яно віннае? — сурова спытаў Павал.

— Не ведаю,— сказаў Андрэй.— Відаць, і сам бог разумее, што тут нешта не да ладу і справядлівасці тут няма, прымушаць бязвіннага пакутаваць. Таму такая душа і лётае над бліжэйшым раздарожжам і плача, просіць прахожага, каб ахрысціў.

— Што ж ён, спаймае яе, у царкву панясе? — усміхнуўся Павал.

— Нашто,— сказаў Андрэй.— Проста роўна ў поўнач, калі ідзеш раздарожжам і яна пачне над тваёю галавою лётаць,— назаві першае лепшае імя, мужчынскае ці жаночае.

— А адкуль гэта ведаць? — спытаў Павал.

— А тут ужо ўгадаць трэба. Бо як не ўгадаеш — так душа і будзе лётаць. Сем год будзе лётаць, а потым заплача і паляціць у пекла з вечнаю крыўдаю на людзей.

Алесь пасунуўся бліжэй да агню. Сказаў:

— Чаго ж тады ніхто не пайшоў на Недабыліху? Гэта ўжо свінства, не памагчы.

— Аніхто не ведаў,— сказаў Андрэй.— Дарогай ля Недабыліхі ўначы пайсці, гэта трэба каменнае сэрца мець. І вось зусім ужо нядаўна Пятрок Кахно затрымаўся ў дзяўчыны і ідзе недабыліцкім раздарожжам акурат у поўнач. Толькі стаў на скрыжаванні — як заплача нешта над галавою. Ды так заплакала — адразу зразумець можна, апошнія дні лётае душа. І нізка лётае, аж шолах крылаў чуваць. Пятрок спалохаўся, але перахрысціўся ды і кажа: «Васіль! Васіль будзе тваё імя».

— Так і сказаў? — з павагаю запытаў Кандрат.— Ну, я цяперака з Петруся ніколі жартаваць не буду.

— Так і сказаў. Як заплача тут душа, ды яшчэ больш жаласна, як паляціць кудысь. Не ўгадаў Пятрок сказаць імя. І так яна жаласна крычала, што

Пятрок прыпусціўся дахаты. Прыбег і ўсё дзеду расказаў. Дзед Кахно не спалохаўся, а ўзяў і ноччу пайшоў на раздарожжа, каб якраз у поўнач патрапіць. І апынуўся на скрыжаванні якраз тады, калі на Раўбічавай званіцы звон пачаў біць дванаццаць.

— Што ж гэта ён так спяшаўся? — спытаў Алесь.

— А ён зразумеў, што гэта душа павінна лётаць апошнюю ноч. Іначай чаго б ёй ледзь не ў твар Петрусю кідацца і так страшна галасіць... І вось ледзь ён пачуў удары — як застогне, як заскуголіць нешта над ім. Як хворае дзіця. Дзед нават павеў крылаў адчуў на твары. І тады дзед перахрысціўся ды і кажа: «Ніна. Ніна будзе тваё імя. А ты памяні жонку-нябожчыцу, Ніну. Скажы, што і я ўжо хутка...» Тут нехта застагнаў, быццам з палёгкаю. А потым душа ўздыхнула. І паляцела далей, і толькі далёка ўжо стала паўтараць: «Ні-іна, Ні-і-на». Панесла імя да гаспада.

— Трэба будзе старому рыбы налавіць і прынесці,— грубавата сказаў Павал.— Няхай душою пацешыцца. Ён стары, яму бруха напіхаць абы-чым нельга.

— Добра зробіш,— сказаў Андрэй.— Толькі ты яму не напамінай. Не любіць. Скажы, што цябе хутка ў падлеткі стрыгчы будуць і ты грахі павінен акупляць.

— Якія гэта ў мяне перад ім грахі? — буркнуў Павал.

Андрэй мякка ўсміхнуўся:

— А грушу ягоную хто латашыў?

Усе засмяяліся.

Ноч ляжала над вогнішчам, над спакойным недалёкім Дняпром. Мяккая цеплыня гэтай ночы зрабіла Андрэя гаваркім, а хлопцаў маўклівымі. І гэта было зразумела і добра, як шолах лазы, як песня жаб, што гулі ў пустыя бутэлькі па ўсім абшары затокі. І таму нікога не здзівіла, калі ў свеце нарадзілася пакуль што яшчэ ціхая песня.

А ўжо човен вады повен, з чаўна вада свішча.
Ой, там хлопец дзеўку кліча, не голасам — свішча.

Магутны, мяккі, як гэта ноч, тэнар пачаў з нейкіх асабліва патаемных, глыбокіх таноў. І, здавалася, нічога прыгажэйшага за гэтую песню не раджала глу-

хая ноч і ціхая плынь Дняпра. А голас лёгка пераліваўся, плакаў і маліў кагось:

Няма вёслаў, вецер човен ад берага ўносіць.
Выйдзі, ясачка, на бераг, кінь любаму косу.

Лілася, лілася песня, і гэта было падобна на дзіва. І радасна стала ўсім, калі хлопец выйшаў на бераг і абое пайшлі дахаты, а дзяўчына сказала:

Пі, матуля, тую ваду, што я нанасіла.
Шануй, маці, таго зяця, што я палюбіла.

Голас замоўк, але ўсім здавалася, што ўсё яшчэ адказваюць, адгукаюцца яму і паплавы з шолахам дубоў, і Дняпро, што плёскаўся ля берага. А Андрэй, не даючы ім апамятацца, заспяваў зноў:

Ад усходу да заходу
Вятры павяваюць,
А там голуб галубачку
З слязамі шукае.
А дзе ж тая галубачка,
Што з намі лятала?
Аддаў бы я сваё жыцце,
Каб мяне кахала.

І зноў мякка сарваўся, заплакаў голас:

Не я цябе, сэрца, суджу,
Судзяць на нас людзі,
Што з нашага каханейка
Нічога не будзе.

Песня раптам абарвалася. Алесь убачыў насцярожаныя, утаропленыя ў змрок за вогнішчам Андрэевы вочы. Хлопец павярнуўся і глянуў туды.

Амаль за яго спіною, кроках у пяцёх ад вогнішча, узвышаўся чалавек на вараным кані. Менавіта ўзвышаўся, бо конь быў ледзь не ў два разы вышэйшы за гэтых коней, якіх пасвілі хлопцы. Так, ва ўсякім разе, здавалася.

Коннік гэты ўзнік, як здань, быццам сама цемра спарадзіла яго якраз на тым самым месцы, дзе ён стаяў цяпер. Магчыма, мяккая трава прыглушыла конскую ступу, магчыма, хлопцы, заслухаўшыся, проста не звярнулі ўвагі і палічылі ступу варанога за тупат сваіх коней...

Конь быў вараны. Пад ільснянай скурай пераліваўся кожны мускул. Цуглі адцягвалі маленькую галаву трохі ўбок, і дзіка бялеў у цемры бялок вока, падобны на аблупленае яйка. А коннік сядзеў на кані, і дарожны плашч, таксама чорны, падаў з яго плячэй на крыж каня ледзь не па самую рэпіцу хваста. Доўгі чорны плашч. Як абвіслыя вялізныя крылы.

— Добра спяваеш, хлопчык,— сказаў чалавек, усміхнуўшыся.

Алесь бадай што перапалохана глядзеў на яго. Больш страшнага твару яму яшчэ ніколі не даводзілася бачыць. Шырокі і загарэлы ледзь не да гарчычнага адцення, ён увесь быў папаласаваны і зрэзаны страшнымі шнарамі[1], якія толькі нейкім дзівам не закранулі носа і вачэй. Тоўстага гарбатага носа і бязлітасных блакітных вачэй пад чорнымі брывамі. Вусы былі таксама чорныя і доўгія, але нават яны не маглі схаваць ганарыстых, напышліва падціснутых вуснаў. А вось чорныя кудлы на галаве нехта густа перавіў сівым павуціннем. Павуцінне ляжала цэлымі жмутамі, чаргуючыся з чорнымі пасмамі, і падала на плечы конніка, на каўнер карычневага паляўнічага адзення, калісьці багатага, а цяпер пацёртага і там-сям нават запэцканага.

Вышываныя саквы[2], якія носяць аўчары, былі перакінуты спераду цераз збялелую ад часу скуру сядла. З адной саквы, ля самай рукі, што сціскала павады, тырчала дзяржальна пісталета, відаць, вельмі дарагога, панскага.

— Добра спяваеш, хлопчык,— паўтарыў чалавек.

Алесь устаў. Ужо каму іншаму, а яму не выпадае цяпер хаваць вочы толькі таму, што другі сядзіць на панскім кані.

— Хто вы? — спытаў ён больш ціха.

Чалавек не адказаў. Проста працягнуў руку і кончыкам нагайкі прыўзняў падбароддзе хлопца.

— У зрэб'і,— сказаў ён.— Але гэта не тое.

Памаўчаў і ўладна спытаў:

— Чый?

— Загорскі,— адказаў замест Алеся Андрэй.

— Гм,— усміхнуўся чалавек,— не вывеўся, зна-

---

[1] Шнар — шрам.

[2] Саквы — пераметныя сумы.

чыць, яшчэ звычай. Што ж, Загорскія, пазней трапіце да д'ябла ў лапы.

І, жорстка ўсміхнуўшыся, дадаў:

— Не думаў, што ў некаторых хрыбціна ёсць...

Хлопцы маўчалі, цесна прыціснуўшыся адзін да аднаго. Маўчаў і чалавек.

— Хто скажа, як праехаць на Раўбічы? — сказаў ён нарэшце.— Разводдзі, дарогу там-сям заліло. Блытаў паплавамі.

Дзеці вагаліся.

— Ну? — сказаў чалавек.

І тады Алесь узняў руку.

— Туды,— сказаў ён.— Проста туды, цераз паплавы.

— Бачыце, іскра,— дадаў Андрэй,— дык гэта якраз акно ў Раўбічавым доме.

— Акно ў Раўбічавым доме,— паківаў галавою чалавек.— Важна. Што ж, буду кіравацца туды... А ты спявай, хлопчык. Спяваць добра... Спявай, пакуль даюць.

Ён рушыў каня і пачаў агінаць вогнішча, але раптам спыніўся. І на твары яго Алесь пабачыў няўмелую і таму нават вартую жалю ўсмешку.

— Гэй,— няголасна сказаў ён,— гэта вам.

І, дастаўшы з сакваў, кінуў да ног Алеся... змяю. Змяя варухнулася пару разоў і замерла.

Алесь не адскочыў. Яму ўпершыню вось так падымалі нагайкай галаву. З хвіліну ён і коннік глядзелі адзін аднаму ў вочы. Потым чорны адвярнуўся і шэнкелямі крануў каня з месца.

Праз якую хвіліну і каня і конніка паглынула цемра. Быццам іх ніколі і не было. Быццам змрок нарадзіў іх і змрок адразу ж забраў.

Дзеці яшчэ нейкую хвіліну стаялі аслупянелыя і глядзелі ў цемрыва. Потым Алесь нагнуўся.

— Укусіць,— з жахам сказаў Павёлка.— Не бяры яе.

Алесь адмахнуўся і падняў змяю, трымаючы каля галавы.

Падышоў да вогнішча. І толькі тут Кандрат здзіўлена цмокнуў языком.

Змяя была вырабам. З тых вырабаў, што майструюць людзі, якім вельмі доўга і люта няма чаго рабіць. З доўгай цэльнай палкі, рассечаная амаль

наскрозь глыбокімі выразамі — праз кожную чвэрць дзюйма — і ўмацаваная па баках, спіне і жываце жыламі на ўсю даўжыню, яна нават пафарбаваная была. Спіна і бакі стракатыя, жывот жоўты. Сямтам бакі і разяўленая пашча былі кранутыя густым кармінам.

Хлопец варухнуў рукою, і змяя пачала выгінацца, зусім як жывая. Падабенства было такое поўнае, што Павал грэбліва сыкнуў.

— Дай,— кінуў Алесю Андрэй.

Яны зноў паселі вакол вогнішча і пачалі разглядаць пачвару.

— Нават джала ёсць,— сказаў Кандрат.— І вочы. Во, поскудзь!

Андрэй круціў змяю ў руках. Потым плюнуў і кінуў яе ў агонь. Жылы, відаць, сталі карабаціцца, бо змяя зноў пачала выкручвацца і віцца, на гэты раз сама. Драпежна ўздымала галаву і ледзь не ставала на хвост.

— Нашто ты яе? — спытаў Кандрат.— Можна было б суседскіх дзевак пужаць.

— Ды яе ў рукі ўзяць гідка,— азваўся Павал.

— І гэта,— уголас падумаў Андрэй.— Ды яшчэ і невядома, што за чалавек. Чорны ўвесь. А конь злы, як д'ябал.

Змяя ўсё яшчэ выгіналася, ахопленая агнём.

— Не, хлопцы,— пераканана сказаў Андрэй.— З Раўбічам нешта не тое. Можа,*гэты* якраз па яго душу ехаў. Нездарма на ягоны агонь кіраваўся... Тут ужо добрага не чакай, калі па начах *такія* шныраць вакол па балоце і з акон вачэй не зводзяць... Прыедзе вось такі — уночы,— абдыме гаспадара, і знікнуць абодва... Вы глядзіце, не кажыце пра гэта нікому, а то поп эпіцім'ямі замучыць.

Кандрат сеў на кукішкі і пачаў разграбаць жар, а потым прысак.

— Гатова,— сказаў ён, выкочваючы на траву адну бульбіну за другой.— І плюньце вы, хлопчыкі, на гэтыя пабрахенькі. Страшна будзе да ветру ў хмызы схадзіць. Ешце во лепей.

І першы абскроб бульбіну аж да ружовай лушпайкі, разламаў,— пара так і паваліла з сопкага разлому,— і, ашчадна пасаліўшы, пачаў есці.

Елі бульбу з тонкімі скрылёчкамі сала. Бульба

была смачная, і таму ва ўсіх аж за вушамі трашчала, так наміналі. Павал дык той, наогул, не траціў часу, каб аскрабаць, і таму ўвесь рот у яго быў чорны, як у злога сабакі.

— А ты не кажы,— сказаў нарэшце Андрэй.— Пабрахенькі-пабрахенькі, а такія вось, як гэты, балотныя паны ча-аста па начах лётаюць. Гаўрыла з Драгавічаў маніў, думаеш?

— А я і не чуў нічога, што ён там баяў,— сказаў Кандрат.

— Дык ты скажы, Андрэйка,— папрасіў Павал.

Андрэй кашлянуў, збіраючыся з думкамі.

— Гаўрыла гэты з панскага дазволу палюе. Калі там старому Загорскаму-Вежы качкі спатрэбяцца ці яшчэ што, дык Гаўрылу кажуць. І вось пайшоў ён раз у пушчу і заблудзіў. Бачыць, што да раніцы ўсё адно дарогі не знойдзе, і вырашыў начаваць. А багна вакол, дык ён выбраў сухое месца, расклаў на ім цяпло і сядзіць, грэецца. Пачаў быў ужо драмаць. Аж тут бяжыць з цемры нейкі ягамосць, худы, вёрткі і тварам цемнаваты. «Як ты, мужык, смееш на панскім шляху вогнішча паліць?! Тут паны хутка будуць ехаць!» «Паночак,— узмаліўся Гаўрыла,— якая тут табе дарога, калі адно багнішча ўсюдых. Жыватом хутчэй наложыш, чым канём праедзеш». Той і слухаць не стаў, параскідаў у багну галавешкі, аж тыя засычэлі толькі, а сам пабег далей. Гаўрыла стаіць і чакае. Во, думае, напасць. Вісус нейкі, басурман, жартаваць надумаў з хрысціянскай душы. А потым чуе: тупочуць капыты, вішчаць колы. Каціць карэта шасцерыком, вакол яе конныя. А зверху на карэце паля прывязана. Крык, рогат, коні ржуць. А паны,— і ў карэце, і на конях,— усе чорныя, акурат як гэты, са змяёю. Твары цёмныя, валасы чорныя, вопратка чорная з золатам. І карэта чорная. «Набок, мужык!» — крычаць. Тут Гаўрыла і зразумеў: балотныя паны. Кацяць па дрыгве, як па сухім. Гарэзнікі! І так цэлымі начамі ганяць будуць. Але Гаўрылу губляць няма чаго: яшчэ, можа, і ўдзень з дрыгвы не выйдзеш. Дык ён пачаў прасіць: «Мае вы паночкі, мае галубочкі, пакажыце дарогу, як мне выйсці. Заблукаў». Тыя рагочуць: «Чапляйся ззаду за карэту». Гаўрыла падчапіўся — як памчаліся яны. Памчалі, як куля. Грукат, дрэвы паабапал валяцца, рогат. Блізка-

далёка-вузка-шырока і вышэй, вышэй. Дух заняло. Зоры вось-вось ніжэй колаў будуць. І тут якраз над галавою галіна высокага дрэва. Ён — цуп за яе! Карэта з-пад ног ірванула і памчалася далей. Толькі хурман зарагатаў і крыкнуў: «Ну, маеш шчасце!» — ды канцом доўгай пугі — між вушэй. Гаўрыла заверашчаў, але галіны не адпусціў. Трымаецца, крычыць гвалту. А далей агледзеўся — аж гэта ён у сваім двары, вісіць на перакладзіне, на сваіх варотах. Жонка з хаты выходзіць. Якраз першыя пеўні. І жонка яму кажа: «Звечара,— кажа,— прапаў, халера. Чаго ты туды палез, чаго ты гарлаеш, чаго лопаіссі, п'янюга?»

Кандрат паківаў галавою і адразу заўсміхаўся, таксама ўспомніў:

— З Гаўрылавым шваграм яшчэ лепей было. Той дачуўся ад кагось, што калі не есці цэлы дзень у апошнія дзяды перад калядныімі запускамі і потым аднаму легчы ў хаце і не гаварыць, не смяяцца, дык можна ўбачыць «дзядоў». Так і зрабіў. А вечар цёмны, лістападаўскі. Во ён ляжыць і бачыць,— лезуць праз вяршок для дыму... Спачатку бацька ягоны, нябожчык, лезе, потым дзед, потым прадзед. Пэўна, усіх, аж да самога Адама, пабачыў бы. Аж за прадзедам лезе дзядзька. Святога жыцця быў чалавек, службы ніводнай не прапусціў. Вечна яго жыццём малому вочы калолі, як, бывала, забярэцца ў чужы гарох ці рошчыны цішком возьме і наесца. Лезе дзядзька і лезе, амаль увесь ужо прасунуўся, аж тут яго нешта затрымала: як ні тузаецца — не пралазіць, і ўсё. Аж гэта ў яго да пояса барана прывязана. Украў у зямным жыцці і нават на споведзі не пакаяўся. Тут Данілаў швагер прыпомніў усе мукі, што праз дзядзькаву святасць нацярпеўся, ды як зарагоча. Ну і ўсё. Вылецелі яны ўсе ў вяршок і зніклі.

Паклаў у вогнішча вялікую сухастоіну.

— Кладзіцеся ўсе, хлопцы. Досыць.

...Усе пакладіся. Алесь толькі як ляжаў, так і застаўся. Андрэй паклаў кажух побач з ім, укруціўся, ціха гукнуў.

— Спіць? — спытаў Кандрат.

— Спіць,— шапнуў Андрэй.— А ты заўважыў, што ў Раўбіча агонь пагас?

«І не сплю зусім»,— хацеў быў сказаць Алесь, але

адразу праваліўся ў такі глыбокі сон, што не паспеў нават варухнуць вуснамі.

Дзеці спалі. Сухастоіна павольна дагарала, рассыпаючы жар. Туман узняўся з лагчыны і падступіў бліжэй, быццам хацеў паслухаць сонныя подыхі. Коні таксама ўжо танулі ў тумане, і толькі іхнія галовы ды доўгія шыі ўздымаліся над малочным туманным возерам.

## IV

Палявая дарога нырала ў лагчыны, узбіралася на пагоркі і зноў звіваста падала ўніз. І так было без канца, а вакол ляжала густа-зялёная, без аніводнай праплешыны рунь, такая маладая і вясёлая на ўзгорках і бяздонная ў лагчынах, такая прагрэтая на сонцы і сцюдзёна-шызая ў ценю, што аж дух займала.

Вельмі-вельмі рэдка трапляліся пасярод бясконцага зялёнага кіліма вялізныя, як дубы, дзічкі, ды там-сям, дзе ў яры выбівалася крынічка, схілялася над ёю срэбная вярба.

І зноў рунь, адна толькі рунь. А над рунню, прывязаныя нябачнымі ніцямі, трапечуць жаўрукі. А на зямлі, на ўсім яе густа-зялёным абшары, толькі адна рухомая кропка: едзе дарогаю рысорны англійскі кабрыялет, а ў ім хлопчык адзінаццаці год і трыццацігадовы мужчына.

Хлопчык у белым палатне, як мужык. Мужчына ў чашунчовай тройцы, чаравіках і шыракаполым саламяным брылі...

— Можа, вам брыль аддаць, паніч? — голас у мужчыны легкаважны, з выразным польскім акцэнтам.— Галоўку напячэ.

— Не трэба, пане Выбіцкі.

— То добжэ, глядзіце. Нех тылько пані потым не лае Выбіцкага, калі ў дзіцяці забаліць галоўка.

— Я каровы на сонцы пасвіў. То яны часам загізуюць і бягуць як шалёныя, а самому нічога.

Пан Выбіцкі глядзіць на хлапчука, і на яго маладым, наіўным твары з'яўляецца пакутніцкі выраз: дзіця пасвіла каровы,— Езус Марыя! Яму хочацца зрабіць хлопцу нешта прыемнае, і ён лезе пальцамі ў кішэнь камізэлькі.

— На цукерэк.

— Нашто? — сур'ёзна кажа мужычок.— Яны грошай каштуюць. Завязіце лепш сваім дзецям.

— Але ж у мяне няма дзяцей,— непаразумела кажа Выбіцкі.— Зусім няма. Бяры.

— Ну, тады ўжо давайце.

Пан Выбіцкі са скрухаю ківае галавою. «Мужычок, зусім мужычок. І гэта сын загоршчынскага князя. Спадкаемца амаль дваццаці дзевяці тысяч сем'яў, калі прыйдзе час. Дурны звычай!»

Выбіцкаму да слёз шкада хлапчука.

Так яны едуць і едуць. А вакол рунь, рунь і рунь.

...Пан Адам Выбіцкі яшчэ шэсць год назад ледзь не паміраў з голаду разам з бацькамі. Быў ён з чыншавай шляхты, жыў, як большасць такіх, земляробствам. Але стаў на гаспадарку ў няшчасны час.

...Нават год яго нараджэння быў годам чорнага недароду. А потым пайшло і пайшло. Чатыры галодныя гады, з дваццатага па дваццаць чацвёрты. Год адпачынку. А потым пяць год страшнай пошасці на худобу, калі па ўсім Прыдняпроўі ледзь засталася дзесятая частка коней і іншай худобы. Каб не кончыцца наглай смерцю, давялося прадаць восем дзесяцін зямлі з дзесяці. Ды і апошнюю няма чым было абнасеніць, і яна зарастала гірсаю, і асотам, і, ад вялікай кіслаты, хвашчом. У дваццаць чатыры гады Адаму было ўжо так, што хоць у кавалкі ідзі. Тут яго і падабраў Юры Загорскі. Аканомам хлопца прызначаць было рана, і таму пан зрабіў яго чымсьці накшталт фактара і перакупшчыка, з пенсіяй трыццаць рублёў месячных ды яшчэ з панскім жыллём, вопраткай і ежай. З таго часу Выбіцкі ног пад сабою ад радасці не адчуваў.

Фактар з яго быў нявопытны, але рухавы і, галоўнае, бездакорна сумленны, капейкі пад ногаць не зацісне. І таму Загорскі прывык да яго і адпускаць не хацеў.

І вось зараз яны ехалі ў панскім кабрыялеце, белы, як апошні мужык, шэравокі паніч і Выбіцкі, гарбаносы і кашчавы, ушчэнт спалены сонцам, але са старанна дагледжанымі вусікамі. Ехалі моўчкі, насцярожаныя адзін да аднаго.

— Што ж, ці падабалася там панічу? — спытаў нарэшце Выбіцкі.

— Вельмі.

— То ж бачыў я, што тая хлопка так плакала, быццам роднага сына за свет вязуць.

— Яна не хлопка. Яна Марыля, другая маці мне.

Пан Адам пакруціў галавою.

— За што ж гэта вы іх так паважаеце, паніч?

— Бо яны працуюць, як Адам і Ева,— завучана сказаў хлопец.— Аруць зямлю і прадуць лён.

Выбіцкі ўздыхнуў:

— Э-эх, паніч. Прайшоў той час, калі на зямлі былі толькі Адам і Эва. Прайшоў і не вернецца. Цяпер над Адамам і Эвай цар, потым губернатар, потым ваш ойцец, а потым я, паўпанак.

На вуснах яго з'явілася іранічная ўсмешка.

— А яны з усіх нас пасмейваюцца, бо нічога больш не могуць зрабіць. Пра цара не чуў, а губернатара, як яны кажуць, кулагай аблілі. Князь, па іхняму прыслоўю, «лярва, хоць і ў барве». А я, наогул, «ці пан сам пан, ці пан у пана служыць?». «На назе бот рыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць». Так што ніколі вам, паніч, не быць мужыком, а мужыку не быць панам. І таму час вам забыць аб тым, што вы гулялі з хлопскімі дзецьмі ў цыркі[1]. Час вучыцца панаваць... Ніколі ім, на жаль, не быць вольнымі, як старапольская шляхта. Заўсёды над імі будзе прыгон. Чалавек гэта такая халера, што прыдумае...

— А белае жарабя? — спытаў Алесь і схаладнеў ад самага нутра, бо зразумеў, што ледзь не ляпнуў лішняе.

— Якое белае жарабя? — спытаў пан Адам, уважна гледзячы на Алеся.

— Камень унь у яры,— няспрытна выкруціўся Алесь.— Ляжыць у траве, як белае жарабя.

— А-а,— сказаў абыякава Выбіцкі.— Дык гэта, паніч, хутчэй на белую авечку падобна.

Вочы ягоныя амаль зусім непрыкметна смяяліся.

— Дык, значыць, вучылі вас там, паніч?

— Вучылі.

— То і добра. Прынамсі, не зблытаеце льну з пшаніцай.

Абодва зноў маўчалі. Цёплы ветрык павяваў у твары, кабрыялет мякка пагойдвала. Пасля амаль

[1] Гульня накшталт бабак.

бяссоннай ночы Алеся хіліла ў сон, і ўрэшце ён задрамаў...

...Не было ўжо ні руні, ні жаўранкаў над ёю, ні сонца. Была ноч, і туман, і доўгія конскія шыі над белым возерам. Як тады, у начлежнай няпэўнай дрымоце, ён падступаў траха не да ног, гэты туман, і з туману паступова выраслалі, выходзілі на ўзгорак, як на бераг, дзіўнай прыгажосці белыя коні. Маўклівыя белыя коні, якія павольна перабіралі нагамі. Ён адзін ляжаў ля напалову згаслага вогнішча, а коні стаялі вакол яго і часта, пяшчотна схілялі да яго галовы і дыхалі цёплым і харошым, а іхнія вочы былі такія глыбокія і такія добрыя, якія бываюць толькі ў чалавечай маці, калі яна глядзіць на дзіця... Коні стаялі і журботна, ласкава глядзелі на яго, а паміж імі стаяла яшчэ мокрае белае жарабя са смешным тоўстым хвастом... І гэта было такое незразумелае шчасце, што Алесь ледзь не заплакаў. А малочны туман збягаў з зямлі, як вада, і ўсюдых былі белыя... белыя... белыя коні...

...У сне ён адчуў, што нешта змянілася, што кабрыялет стаіць, і прачнуўся ад няяснай трывогі.

Вакол зноў былі рунь і жаўранкі. А па гэтай руні, здалёку, нехта ехаў на дарашаватым кані.

— Чаго сталі? — спытаў Алесь.

— Ды ён вось гукнуў...

— А гэта што за важны такі, што дарогі яму няма?

— А гэта жандарскі паручнік Апалон Мусатаў... І чаго гэта з Сухадола яго прынесла, ды яшчэ аднаго?

Коннік павольна набліжаўся да руні. Баяўся, відаць, кратовак і хамячыных нор. Часам амаль з-пад самых капытоў вырываліся спуджаныя жаўранкі, конь стрыг вушамі, але, пакараючыся ўладнай руцэ, як па струнцы, ішоў да дарогі.

Урэшце коннік пад'ехаў да самага кабрыялета. Алесь убачыў перш за ўсё вузкія, зеленаватыя, як у рысі, вочы пад пясочнымі брывамі, храшчаваты нос і маладыя, але ўжо шчэцістыя вусы і бакенбарды. Твар быў бы амаль грубы, хаця і прыгожы, каб не вішнёвыя вусны і зусім юны, празрыста-ружовы румянец тугіх шчок.

Гэты чалавек кепска загараў: твар быў таго самага колеру, што і трыкутнік грудзей пад расшпіленым каўняром блакітнага мундзіра.

Але цікавей за ўсё былі рукі: учэпістыя, вельмі характэрныя і прыхавана-нервовыя, са сплюшчанымі на канцах, як долата, пальцамі. Адна рука сціскала павады, другая гладзіла карак каня.

Упоперак сядла ляжаў доўгі англійскі штуцэр; два пісталеты былі слаба засунутыя ў сядзельныя сумы.

— Дзень добры, Выбіцкі,— сказаў паручнік.

— Дзень добры, пане Мусатаў.

Рысіныя вочы Мусатава абмацалі каня, кабрыялет, постаць Алеся.

— У вальтэр'янцы гуляеце? — спытаў паручнік.— Глядзіце, звыкне вось такі ездзіць, а потым паспрабуе і вас выпхнуць.

— Гэта загоршчынскага пана сын,— быццам просячы прабачэння, сказаў Выбіцкі.— У Азярышчы быў дзядзькаваны.

У вачах Мусатава з'явілася іскра цікаўнасці.

— Польскія штучкі,— сказаў ён.

— Што вы, пане Мусатаў. Загорскія з карэнных тутэйшых... Спрадвеку праваслаўныя.

— А самі ў каталіцкі лес глядзяць.

— Пабойцеся бога! У які лес?! — Выбіцкі быў відавочна пакрыўджаны і за сябе, і за паноў.

— А чаму ж гэта стары Загорскі-Вежа загадаў малодшага брата вось гэтага хлопца ў касцёле ахрысціць? Скандал быў на ўсю губерню.

Выбіцкі апусціў вочы.

— Я чалавек маленькі. Не мне ведаць намеры старога пана. Але ж зразумейце і вы: чалавек ён старасвецкі, з капрызамі.

— Кацярынінскага веку,— іранічна дабавіў Мусатаў.

— Яго дзівацтвы на грошах стаяць,— сказаў Выбіцкі.— Пад кожным яго капрызам — тысяча рублёў. Стане на ўвесь сухадольскі суд. Так што не нам з вамі яго судзіць.

На хвіліну замаўчалі. Звінелі над руннем жаўрукі.

— Чаго гэта вы без дарогі? — спытаў пан Адам.

— Зараз нам дарогі непатрэбны... Нічога не бачылі?

— Не,— устрывожыўся Выбіцкі.— А што такое?

Мусатаў прамаўчаў. Толькі ўчэпістая рука паправіла штуцэр.

— Чорны Война зноў у губерні,— сказаў ён пасля паўзы.

Пан Адам падаўся наперад.

— Уварваўся аднекуль, як шалёны воўк,— сказаў Мусатаў.— Спяшаецца рэзаць, пакуль пастухі не агойталіся. Два гады не было і раптам, як камень на галаву.

— А казалі, што вы яго тады... падвалілі... два гады таму.

— Я каня ягонага падваліў... На гэты раз буду разумнейшы. Яго звалю, а на яго кані ездзіць буду. І адкуль ён толькі коней такіх бярэ? Стрыжы, а не коні.

— Не ездзілі б вы цяпер адзін, пане паручнік. Гэты не мажа.

— І я не мажу,— сказаў Мусатаў.— Ездзіў вось крыніцы ў ярах паглядзець. А раптам недзе ля вады дрэмле... Чорта з два.

— А дарэмна. З яра далёка відаць. А на аднаго і не трэба многа. Стрэл — і ўсё.

— Многа памагло егерам, што яны не адны былі?

— Ды што ўрэшце здарылася?

— Пазаўчора раніцай абстраляў з пагорка няпоўны ўзвод егераў. У той жа дзень, вечарам, затрымаў фельд'егера ад генерал-ад'ютанта. Пошту спаліў. Учора сустрэў на дарозе спраўніка з людзьмі і разрадзіў па іх стрэльбу. Удзень ледзь не нарвалася на яго земская паліцыя, але ражна дагналі. Толькo жарабцоў хвост бачылі. А ўначы Раўбіч паведаміў: Война праехаў праз вёску.

— І ўсё адзін? — спытаў Выбіцкі.

— Усё адзін. З апошняга мяцяжу адзін. Ну, бывай, Выбіцкі.

І хвастануў карбачом каня. Пан Адам глядзеў яму ў спіну.

— Паехалі, паніч,— сказаў ён пасля паўзы.

Кабрыялет пачаў спускацца ў лагчыну. Паручнік мільгнуў кропкай на далёкім пагорку і знік... Пан Адам сядзеў натапыраны і неяк дзіўна ўсміхаўся.

— Раўбіч яму паведаміў,— буркнуў ён.— Чорнага Войну, бачыце, так лёгка злапаць... Не ты, брат, першы. Ла-ві-лі.

— А хто такі той Чорны Война?

Вусны Вярбіцкага няўлоўна пацяплелі.

— Люблю смелых,— сказаў ён.— Можа, таму, што сам не такі. А Война смелы... І страшны. Ездзіць сабе на вараным і страляе.

— Чаго яму ездзіць?

— Дваццаць год ездзіць. Усіх астатніх пабілі, пастралялі, па цытадэлях згнаілі. А гэты ездзіць... Апошні цень. Ані спаймаць яго, ані купіць... Як дух... Каб не спалі...

Алесь зразумеў, што Выбіцкі больш нічога не скажа, і не распытваў далей.

Зноў мільганула з левага боку срэбная стужка Дняпра, трохі больш вузкага ў гэтым месцы. Справа пайшлі лясы. Маладыя каля дарогі, яны ўзбягалі на ўзвышша, рабіліся ўсё больш і больш старасвецкімі, пакуль не пераходзілі — на верхавіне грады — у перастойную адвечную пушчу.

Дарога пайшла з грывы ўніз, бліжэй да Дняпра, і тут вачам адкрылася прытульная і даволі вялікая лагчына. Узгоркі абкружалі яе і прыціскалі да ракі. Лагчыну, відаць, утварыла невялічкая рэчка, якая злівалася з Дняпром тут, амаль пад нагамі коней.

— Папараць,— сказаў Выбіцкі.— Жэка цёмна.

Кабрыялет спускаўся да рачулкі па спадзістым адхоне. Лазняк па берагах разарваўся, паказаўшы драўляны масток. За ім сталі перад вачыма вясковыя хаты, значна больш дагледжаныя, чым у Азярышчы: амаль усе з садкамі, амаль усе крытыя новай саломай, а сям-там нават і гонтамі.

— Загоршчына,— сказаў пан Адам.— Ваш маёрат, панічу.

А над Загоршчынай, вышэй па адхоне, слаўся пладовы вялізны сад, абрываючыся ўверсе, як па лінейцы, цёмнай і раскошнай сцяной ірэгулярнага парку.

У парку бялела нешта, перакрэсленае па фасадзе серабрыстымі мётламі італьянскіх тапаляў.

Чым бліжэй пад'язджаў кабрыялет, тым ясней вымалёўваўся двухпавярховы будынак з доўгім мезанінам і двума балконамі, над якімі цяпер былі нацягнуты сляпуча белыя, бялейшыя, чым муры, маркізы. Вакол дома ішла галерэя на лёгкіх каменных арачках.

— Ложно понятый провансальский замковый

стиль,— сказаў, чамусьці па-руску, пан Адам, сказаў з такой завучанай інтанацыяй, што адразу можна было зразумець: гаворыць не свае словы.

Здалёк можна было яшчэ заўважыць у парку, лявей і глыбей дома, нейкі круглы павільён, а яшчэ лявей і значна далей — зграбную і вельмі высокую, вузкую цэркаўку на ўзгорку, такую белую і празрыстую, быццам уся яна была пабудавана з сонечнага святла.

Алесь, напэўна, паспеў бы лепей разглядзець усё гэта, але тут здалёк пачуўся тупат капытоў. Потым з вузкага жарала цёмнай алеі вырваўся, як ядро з гарматы, коннік на белым кані і наўскапыта памчаўся да іх.

Асадзіў каня ля самага кабрыялета так рэзка, што конь як быццам урос усімі капытамі ў зямлю. Алесь убачыў касы, нервовы зрак каня, яго раздзьмутыя ноздры. Здзіўлены, амаль спалоханы гэтым нечаканым з'яўленнем, не разумеючы яшчэ, што да чаго, ён баяўся ўзняць вочы і таму бачыў толькі белую скуру сядла і белы гарнітур для верхавой язды. Потым нясмела, спадылба, кінуў позірк вышэй і ўгледзеў вельмі загарэлы, амаль шакаладны твар; усмешку, што адкрывала роўныя белыя як снег зубы; белакурыя, хвалістыя вусы і грыву валасоў і, галоўнае, смяшлівыя васільковыя вочы з нейкім нетутэйшым, доўгім, міндалевідным разрэзам тонкіх павек.

У наступны момант моцныя рукі бесцырымонна схапілі яго, падкінулі ўгору і зноў спаймалі, і легкаважны, гучны голас весела пракрычаў нешта незразумелае і адначасова нібы трохі і зразумелае, але прызабытае.

— Mon petit pzince Zagorski![1]

Збянтэжаны, ён паспрабаваў выкруціцца, але рукі трымалі яго моцна, а рот чалавека, які пахнуў нейкім вельмі прыемным тытунём, цалаваў яго твар.

— Мы пратэстуем!.. Tout va bien! Tout va bien, mon petit fils![2]

Сінія вочы смяяліся, заглядаючы ў зрэнкі маленькага звераняці, што скурчылася на руках, унікаючы чужых вуснаў.

---

[1] Мой маленькі князь Загорскі! *(франц.)*
[2] Усё ідзе добра! Усё ідзе добра, сынок! *(франц.)*

І тады Белы сцёбнуў лёскай каня і закурыў у алею, у зменлівы цень, у скокі сонечных зайчыкаў, пакінуўшы далёка за сабою кабрыялет.

Алея разарвалася на два паўколы з дрэў, і наперадзе, за клумбай, за кругам гонару, стаў дом, шырокі ганак, аблямаваны лёгкімі арачкамі, і белакаменная тэраса, на якой — невысока ад зямлі — стаяла жанчына ў шырокім ранішнім уборы.

Белы — проста праз клумбу — падскакаў да тэрасы, зноў узняў Алеся і лёгка перасадзіў яго цераз парэнчы, на рукі жанчыне. Потым стаў на сядло і перакінуў над балясамі сваё гнуткае цела.

— Ah, Georges! — сказала з дакорам жанчына.

І адразу прыпала да хлопчыка, уважліва заглядаючы ў яго вочы сур'ёзнымі, цёмна-шэрымі, як у Алеся, вачыма.

Гаварыла і гаварыла нешта гартанна-страснымі і ціхімі словамі і толькі потым спахапілася:

— Ён не разумее, Жорж.

— Ai-je bien attaché le grelot?[1] Коні — мара хлапчукоў. Вось я і пракаціў.

— З самага пачатку і так па-чужому, Жорж.

— Чорт, я і не падумаў,— сказаў смяшлівы.

І абхапіў жанчыну і хлопчыка, прыціснуў іх да сябе:

— Ну, пацалуй мяне, пацалуй яе... Ну!

Жанчына і Белы, абое яны гаварылі па-халопску з моцным акцэнтам, але ўсё ж гаварылі, і гэта рабіла іх неяк больш блізкімі.

— Пацалуй мяне,— сказаў Белы.

Але хлопчыку было няёмка, і ён, схіліўшыся, пацалаваў,— зусім як Кагутова папу,— руку жанчыны, пяшчотна-тонкую, асабліва белую сярод чорных карункаў шырокага рукава.

— Facon de voir d'un chevalier,— засмяяўся мужчына.— Я ж казаў, што ён мой сын, мой. Да рукі жанчыны — перш за ўсё. Che-va-lier![2]

— Georges! — зноў з дакорам сказала жанчына.

Алесь на ўсе вочы глядзеў на яе. Не, гэта было не тое. У яе былі маленькія рукі і ногі, непрыгожа танклявая постаць.

---

[1] Ці добра я пачаў? *(франц.)*

[2] Рыцарскі пункт гледжання на рэчы... Ры-цар! *(франц.*

Але ж яе твар з такімі цёплымі шэрымі вачыма, з такім спакойным ротам! Але ж каштанавыя іскрыстыя валасы! Усё гэта было роднае, толькі на хвіліну забытае, і вось цяпер усплывала ў памяці.

І ён раптам несамавіта, нечакана крыкнуў:

— Ма-ма!

Крыкнуў амаль як сялянскае малое, на якое рушыць вуліцай карова, крыкнуў, цвёрда верачы, што вось зараз маці прыйдзе і ўратуе. Крыкнуў і адразу засаромеўся.

Ёй толькі таго і трэба было. Абхапіла, пачала шаптаць на вуха. Але ў ім ужо расло абурэнне і сорам, быццам ён здрадзіў хаце, рукам Марылі, вачам братоў. І ён так разрыдаўся ў гэтых вузкіх руках, быццам сэрца яго рвалася на шматкі.

А яна цалавала.

Ён плакаў, бо адчуваў, што злоўлены, што з гэтым шэптам канчаецца для яго ўсё.

...Яго павялі мыць і пераапранаць. І калі бацька і маці засталіся на тэрасе адны — усмешка няёмкасці так і не сышла з іхніх вуснаў. Пазбягаючы глядзець мужу ў вочы Антаніда Загорская глуха спытала ў пана Адама, які стаяў наўздалёк:

— Што, пан Адам, як вам паніч?

Пан Адам мяўся.

— Праўду,— ціха сказала яна.

— Мужычок, проша пані,— наважыўся Выбіцкі.— Але з чыстым сэрцам, з добрай душою.

— Нічога,— нават з нейкай палёгкаю ўздыхнула маці.— Навучым.

Бацька легкаважна зарагатаў, паказваючы белыя зубы.

— Бачыце, пан Адам? Так лёгка і навучым. Les femmes sont parfois volages[1].

— Гэтую ідэю падаў ты, Georges,— шэрыя вочы маці сталі вільготнымі. — І ты не маеш права...

— Скажам, і не я,— сказаў пан Юры.— Скажам, бацька мой, і нам нельга было не паслухацца.

— Але чаму яго аднаго?

— Самадурства. Меў на Алеся вялікія надзеі. І ты ведаеш, што ён мне сказаў перад дзядзькаваннем?

— Кажы.

---

[1] Жанчыны часам бываюць легкадумныя *(франц.)*.

— «Як шкада, што я не аддаў у дзядзькаванне цябе, Юры. Можа,тады ты, сын, быў бы чалавекам, а не прадметам для царквы і псярні».

— Гэта я зноў аднавіла ў Загоршчыне царкоўную службу. І ён не любіць цябе... праз мяне.

— Кінь. Глупства.

— Ну, а чаму не хоча дзядзькавання для Вацлава?

— Баюся, што Вацлаў яму абыякавы.

— Другі ўнук?..

— Я не хацеў, Антаніда. Я ж толькі сказаў аб легкадумнасці...

Маці ўжо ўсміхалася:

— Дык што ж зробіш, Georges, калі ты ўсё бачыш en noir[1].

Зноў гаротна задрыжалі яе веі:

— Забыў усё. Забыў французскую. А гаварыў, як маленькі парыжанін... Я прашу цябе, я вельмі прашу, Georges, не спускай з яго вачэй, хадзі за ім у першыя дні, бо яму будзе сумна... Ах, жорстка, жорстка гэта было — аддаць!

Пан Выбіцкі далікатна кашлянуў, прастуючы да сходаў, і толькі тут пані Загорская спахапілася, ускінула на яго рахманыя вочы:

— Прабачце, пан Адам, я была такая няўважлівая. Вельмі прашу вас — паснедайце разам з намі.

— Бардзо мі пшыемне,— пачырванеў Выбіцкі,— але ж прабачце, я зусім па-дарожнаму.

— Ах, нічога, нічога... Я вас вельмі прашу, пан Адам.

Выбіцкі ніякава палез у кішэнь па чырвоны фуляр, які нагадваў невялічкі абрус.

Лёкаі па-англійску выкацілі на тэрасу стол на кольцах, прыставілі яго да накрытага ўжо абедзеннага стала. Матуля пачала здымаць накрыўкі з місаў.

— Накладайце сабе, пан Адам,— сказала маці.— Вазьміце курыную пячонку «брашэ»... Бачыце, снедаць будзем па-англійску. Першыя дні яму будзе нязручна са слугамі, беднаму.

Аконам спачувальна крэкнуў, стараючыся зрабіць гэта як мага больш далікатна і не абразіць тонкага слыху пані.

І якраз у гэты момант з'явіўся ў дзвярах Алесь у

---

[1] У чорных фарбах *(франц.)*.

мярэжанай — пад народны густ — сарочцы, сініх шальварыках і чырвоных кабціках[1]. Менавіта так, на думку пані Антаніды, выглядалі ў свята дзеці багатых сялян, і таму хлопчыку можна было не адчуваць нязручнасці. Бацька хацеў быў пырснуць у сурвэтку, але стрымаўся, памятаючы нядаўнюю жончыну крыўду. Таму ён толькі паказаў на крэсла побач з сабою.

— Сядай, сыне.

Алесь, зазвычай такі зграбны, медзведзявата палез на крэсла. Глядзеў на ломкія абрусы, на старое серабро, на двухзубы італьянскі відэлец, на блакітны крыштальны келіх, у ломкіх гранях якога драбілася нейкая янтарная вадкасць.

— Што гэта? — амаль без голасу спытаў ён.

— «Го-Сатэрн»,— адказаў бацька.— Гэта, брат, такое віно, што і ты можаш піць.

— Віна не хачу, ад яго людзі дурныя. Лаюцца.

Выбіцкі зморшчыўся ад скрухі, і, убачыўшы гэта, Алесь раптам раззлаваўся. Урэшце, іхняя гэта была віна. Урэшце, гэта самі яны давялі яго, а цяпер яшчэ ўчынілі яму гэткае катаванне.

Таму ён смела палез падрапанай лапай у хлебны кошычак, палажыў кавалак на сваю талерку і лыжкаю пацягнуўся да бацькавай талеркі, адчуваючы ў сэрцы пачуццё, блізкае да адчаю.

— Еш, еш, сыне,— спакойна адказаў пан Юры.— Мацуйся. Давай мы і табе на талерку пакладзем.

Але маленькі зацкаваны мужычок ужо нёс да рота самы вялікі кавалак. Яму было нязручна, і таму ён успёрся левай далонькай на край стала, а калі ўспёрся — з-пад гэтай далонькі ўпаў на падлогу падрыхтаваны кавалак хлеба.

Дзіця пачало павольна спаўзаць з крэсла пад стол. Спаўзло. Знікла. А потым з-пад стала з'явілася сур'ёзная галава.

Сурова, з адчуваннем важнасці моманту, малады князь пацалаваў паднятую з падлогі скібу і сур'ёзна сказаў:

— Даруй, божухна.

І ўжо зусім па-гаспадарску хлопец сказаў наступныя словы:

— Пакладзіце гэта, калі ласачка, каню.

---

[1] Чаравічкі з мяккай скуры або саф'яну.

Пан Адам пакутліва пачырванеў. Няёмкасць трывала доўга. Потым бацька, увесь час аглядаючыся на маці, пачаў тлумачыць сыну, што так нядобра, што так не робяць, і выгляд яго, відаць, быў горшы, чым у Алеся, бо маці раптам засмяялася — ласкавым сумным званочкам.

Лёд растаў. Перастала быць няёмка Алесю. Усе засмяяліся. Ды толькі смех яшчэ гучаў не вельмі весела.

— Что же вы, например, ели сегодня на завтрак, мой маленький? — спытала пані Антаніда.

— Сёння... на заўтра? — неўразумела перапытаў Алесь.

— Антонида,— сказаў пан Юры.— Если можешь, говори по-мужицки.

— Што ты еў сёння на... сняданне? — спытала маці.

— Крышаныя буракі,— басам адказала медзведзяня.— І курыцу елі... Зарэзалі з такой прычыны старога пеўня... Марыля сказала: «Усё адно ўжо, дык няхай хаця паніч-сынок памятае».

Маці ўсміхалася, яе забаўлялі «крышаныя буракі».

— Жорж,— сказала яна,— няўжо стары певень для іх — свята? І як мог жыць маленькі? Нашто такая жорсткасць з боку старога Вежы?

Шакаладна-матавы твар бацькі спахмурнеў.

— Я вінен перад табою, Антаніда. Бацька даў толькі лёгкі намёк на тое, што Алеся пажадана аддаць на «дзядзькаванне». Астатняе дадумаў і вырашыў я. Кагуты — лепшыя гаспадары. Майстры. Сумленныя, здаровыя людзі.

Яго моцныя рукі сціснулі край абруса:

— Бачыш, ты і ўсе лічылі мяне легкадумным. Я не хацеў, каб сын пайшоў у мяне. Я хацеў, каб ён быў моцны, увесь ад гэтай зямлі. Няхай сабе яго не кармілі каплунамі. Ты паглядзі на большасць яго аднагодкаў: спешчаныя, саслабелыя. Заўсёды добра рабіць, як рабілі дзяды. Яны былі не зусім дурні. Я хацеў, каб з яго вырас сапраўдны пан, мацнейшы за хлопаў не толькі розумам, а і целам.

Памаўчаў. Потым сказаў:

— Сын графа Хаданскага, даражэнькага суседа, едзе дарогаю між ільноў і кажа ўсур'ёз, што мужычкі

будуць з хлебам. Які з яго будзе гаспадар? Якой павагі яму чакаць ад прыгонных? А гэты будзе іншы... Некалькі год сярод жытнікаў, простая здаровая ежа, шмат паветра, фізічныя практыкаванні, размеранае жыццё. А лоск мы яму вернем за нейкі год.

Хітравата ўсміхнуўся ў вусы:

— Пад'еў, сынок? На вось табе. Гэта цукраваная садавіна. Гэта называюць цукатамі. Можаш узяць да іх філіжаначку кавы.

Густы карычневы струмень пабег у маленькую — з напарстак — філіжанку. Маці з цікавасцю, нават трошкі грэблівай, сачыла за тым, як сын бярэ загарэлай лапкай цукат, насцярожана кладзе ў рот.

Тое, што першае трапіла на язык,спадабалася Алесю: цукар, які часам прывозілі дзецям і ў Азярышча. Але далей зубы ўлезлі ў нешта вязкае,— груша і не груша,— нечаканае і таму гідкае.

Ён выплюнуў пад стол.

— Нясмачныя твае... марцыпаны.

Бацькаў твар спахмурнеў, бо на матчыных вачах выступілі слёзы.

— Ты не маеш рацыі, Антаніда,— сказаў ён.— Я шчаслівы за хлопца. У яго сяброў страўнік ужо цяпер назаўсёды сапсуты ласункамі. А гэты будзе, калі спатрэбіцца, варыць жалеза. Быстраногі, спрытны, здаровы. Трэба ж камусьці цягнуць па зямлі род наступнае тысячагоддзе.

І ён, прыцягнуўшы жонку да сябе, пацалаваў яе ў скронь.

— Ah, Georges,— сказала яна,— часам ты такі, што я пачынаю вельмі, вельмі любіць цябе.

Бацька ўстаў:

— Пойдзем, сыне. Буду табе ўсё паказваць. А вы заставайцеся тут, пан Адам. Сёння дакладаў не будзе ні ў вас, ні ў галоўнага аканома. Пасядзіце тут з жонкай, папіце кавы... Дарэчы, пенсію атрымаеце праз тыдзень, за ўсе тры месяцы.

— Што вы, князь,— пачырванеў Выбіцкі.— І так бардзо задаволёны. Што мне трэба, я адзін.

— Ну то і добра... Пойдзем, Алесь... Што спачатку, сады або дом?

З Алеся было ўжо досыць дома. Трэба было хаця на кароткі час ратавацца. І таму ён сказаў:

— Сады.

Яны спусціліся з тэрасы на круг гонару і заглыбіліся ў адну з радыяльных алей. Толькі тут Алесь адчуў сябе лепей, бо ўсё вакол было знаёмае: дрэвы, трава ля іхніх каранёў, жвір пад нагамі.

Некаторы час ішлі моўчкі. Потым бацька, неяк нават вінавата, сказаў:

— Ты любі яе, Алесь... Любі, як я... Яна маці табе... Ты не глядзі, што яна строгая... Яна, брат, добрая.

І яго праставаты прыгожы твар быў такі незвычайны, што Алесь апусціў вочы:

— Буду яе любіць... Што ж, калі ўжо так атрымалася.

Бацька павесялеў.

— Ну вось, вось і добра... Ты не думай. Вось прыйдзе дзень пастрыжэння ў юнакі. Да гэтага дня будуць цябе, брат, шліфаваць... з пяском, каб не пляваўся... марцыпанамі. А потым, калі толькі захочаш, будзеш ездзіць і да Кагутоў, і ў суседнія дамы. Я цябе абмяжоўваць не хачу, не буду. Расці, як трава, як бог загадаў. Гэта лепш... Каня табе падару — дык да Азярышча зусім блізка будзе, нейкіх дзесяць вёрст. І помні: ты тут гаспадар, як я. Загадвай. Прывучайся. Я думаю, будзем сябрамі... А за Кагутоў не бойся, будзе ім добра.

— Я і цябе буду любіць... бацька.

— Ну вось і добра, брат. Хадзем.

Алея вывела іх праз парк і пладовы сад да доўгіх шэрых будынках пад чарапіцай. Будынкі абкружаў глыбокі роў, зарослы лопухамі і гускай. Пад іх узнятымі парасончыкамі бруілася вада. Пад'ёмны масток ляжаў над ровам.

— Тут псярня і стайні,— сказаў бацька.

На манежнай пляцоўцы ганялі на кордзе коней. Англічанін-жакей, даўгазубы і спакойны, як статуя, стаяў на ўзбочыне, паляскваючы лёсачкай па лакавым чобаце. Непарушна прывітаўся з бацькам за руку.

— Што новага, пан Крэбс?

— Гэты народ...— англічанін адвёў убок сігару, заціснутую паміж простымі, як алоўкі, пальцамі,— яму б ездзіць па-цыганску, без усякі закон... Сёння засеклася Б'янка.

— Можа, яно і лепей,— сказаў бацька,— я заўсё-

ды гаварыў вам, што трэба рыхтаваць на скачкі Змея.

— О, но! — запратэставаў англічанін.— Но, Змей! Склад Змея не ёсць адпаведны склад. Паглядзіце на яго бабкі. Паглядзіце — Меры яго маці,— паглядзіце на яе калмыцкую грудастасць і бадай віслазадасць. Но, но!

З манежа збіраліся да іх конюхі. Старшы конюх, Зміцер, абпалены сонцам да таго, што скура лупілася на носе, як на маладой бульбе, зняў шапку.

— Накрыйся,— сказаў бацька.— Ведаеш — не люблю.

Зміцер няшчыра ўздыхнуў, накрыўся.

— І не ўздыхай,— сказаў бацька,— не падлізвайся. Чуе кошка... Было табе загадана бінтаваць Б'янку ці не?

— О Зміцер, бестыя Зміцер,— сказаў англічанін,— хітры азіят Зміцер. Яны ўсе ў змове, яны не хацелі Б'янкі, яны хацелі выпусціць мясцовага дрыкганта... зусім як сам пан-князь Загорскі.

Бацькавы вочы няўлоўна смяяліся, вельмі сінія і прастадушна хітрыя, як у маладога чорта.

— Што ж зробіш, містэр Крэбс. Тут ужо нічога не зробіш. Відаць, будзем выпускаць на скачкі трохгодак Змея, Чаркеса і Мамелюка.

І раўнуў на Змітра:

— Яшчэ раз гэткае — не пашлю купляць коней. Кувай сабе ў Загоршчыне!

Уздыхнуў:

— Падбяры для паніча кабылку з больш ціхмяных і жарабца.

— Глорыю хіба? — спытаў Зміцер.

— Каб галаву скруціў?

— Што вы, пане, не ведаеце, як ездзяць мужыцкія дзеці? Яны з хваста на каня ўзлятаюць, чэрці... каб брыкнуць не паспела.

— А мне не трэба,— сказаў пан Юры.— Мне трэба, каб ён за які месяц навучыўся ездзіць прыгожа, а не па-халопску. Потым дамо і сапраўднага жарабца.

— Добра,— сказаў Зміцер і пайшоў у стайні.

Алесь глянуў на англічаніна і нечакана заўважыў, што вочы яго смяюцца.

— То гэта малады князь? — спытаў англічанін.— Будучы гаспадар?

— Але,— сказаў бацька.

— Новы мятла будзе месці па-новаму,— сказаў Крэбс.— Крэбс пойдзе адсюль разам з веданнем коней і свавольнасцю. Га?

— Можна мне сказаць, бацька? — спытаў Алесь.

— Кажы.

— Вам не трэба будзе ісці адсюль, пан Крэбс. Вы харошы. Вы застанецеся тут, і я вам буду больш плаціць.

Бацька ўсміхнуўся. Халодныя вочы Крэбса пацяплелі.

— Гуд бой,— сказаў ён.— Тады і я буду рабіць малады пан добра. Я навучу пан ездзіць, як малады лорд з найлепшых фамілій.— І, глянуўшы на пана Юрыя, дадаў: — І ён ніколі не будзе прымушаць састарэлага ўжо тады Крэбса рабіць супраць сумлення... і падманваць яго. А Крэбс зробіць, каб трохгодкі пана былі лепшыя нават у Пецярбурзе.

Засаромлены бацька адвёў вочы:

— Вам не давядзецца чакаць, пан Крэбс. Я павялічваю вам пенсію ўдвая.

— Нашто мне гэта? — сказаў Крэбс.— Лепей бы не трэба стаяць на сваім. Сапраўдны лорд не ўваходзіць у змову з конюхамі і супраць свайго ж знаўцы, што хоча зрабіць конны завод лорда лепшым за ўсе.

— Добра ўжо, Крэбс, прабач,— сказаў бацька.— Больш не буду. Рабі сабе што хочаш.

Конюхі павялі перад людзьмі на ўзбочыне коней.

— Ну, якую кабылку бярэш? — сказаў бацька.

Сярод усіх Алесь заўважыў адну, маленькую і ладную, як цацка, усю дзіўна падабраную, чысценькую і як быццам атласную. Масць кабылкі была мышастая, вушкі акуратненькія, капыткі, як стопачкі.

— Гэту,— сказаў Алесь.

Англічанін пажвавеў:

— У маладога ёсць вока... Варта вучыць... Красуня кабылка... Як маладая лэдзі... Галоўка маленькая, але не злая; шыя — дзіва шыя.

Звярнуўся да бацькі:

— Але вашы імёны... Бог мой, што за імя... Для такой лэдзі і раптам: Ка-сюнь-ка.

— Касюнька! — віскнуў усцешаны Алесь і кінуўся да кабылкі.

— Цукар вазьмі,— сказаў бацька.

Алесь соваў пад храпу Касюнькі кавалак цукру, і тая далікатна ляпала па яго далоні цёплай цвёрдай храпай.

— Касюнька мая, Касюнька.

— Вядзіце яе,— сказаў бацька.— Выбірай другога, Алесь.

Зноў пайшлі коні, і кожны быў прыгожы, бы ў сне, але нейкі не той, без повязі, што вядзе да чалавечага сэрца.

— Пераборлівы, як Мнішкава Анэля,— сказаў бацька.

Але ён дарэмна казаў гэта, бо ў той самы момант з варот стайні з'явіўся Ён, той, без каго жыццё не магло мець сэнсу. Яго вёў пад аброць худы і падабраны хлопец, і Ён, дурэючы, рабіў выгляд, што хоча схапіць хлопца зубамі за плячо.

Ён быў прыгажэйшы за ўсіх на зямлі, прыгажэйшы за ўсіх звяроў і ўсіх людзей. Ён ішоў, прытанцоўваючы на кожным кроку, бязмерна ганарлівы ад здароўя, сілы і немагчымай сваёй прыгажосці.

Белы як снег і бялейшы за яго, з маленькай нервовай галоўкай і доўгай шыяй, увесь дасканаласць і без адзінай заганы, ён касіў залатым і трошку крывавым па бялку вокам, а ягоныя хвост і грыва, неверагодна доўгія і мякка-залацістыя, варушыліся лагоднымі хвалямі.

«Вы, маленькія людцы,— здаецца, казаў зрак каня.— Што мне да вас? Я дазваляю вам апаганьваць нагамі мае бакі толькі таму, што раблю вам ласку. І так будзе, пакуль я не знайду таго, каго палюблю. А над тым буду панам, бо я бог, а ён толькі чалавек...»

Бацька глянуў на Алеся і ўздыхнуў: усё было зразумела.

— Логвін,— сказаў бацька конюху, — вядзі Ургу сюды.

Малады і сур'ёзны хлопец падвёў араба да іх.

— Будзеш канюшым маладога пана, Логвін,— сказаў пан Юры.— Будзеш ведаць толькі яго. Ургу падрыхтуй. Праз месяц ён спатрэбіцца. І ты, Зміцер, ведай: Логвіну належыць толькі Касюнька і Урга. Нічога больш.

Логвін усміхнуўся сціплай харошай усмешкай.

— Паніча намуштраваць,— сказаў Загорскі.— Навучыць скрэбці, чысціць, мыць, даглядаць капыты. Навучыць лекавым травам для коней.

— Зробім,— сказаў Логвін.

— То тады бывайце... Бывайце, містэр Крэбс.

Яны прайшлі конскія двары і падышлі да старасвецкай каменнай сабакарні. Чалавек сярэдніх год, з прыкметнай ужо сівізною ў доўгіх вусах, буры, як абкураная пенкавая люлька, павольна ішоў да іх. На поясе, што ладна перахватваў яго зялёную венгерку, вісеў доўгі медны рог.

— Карп,— сказаў бацька,— старшы даязджачы. З гэтым, брат, трымай вуха востра. Сур-ровы.

Карп падышоў да іх і, не вітаючыся, пачаў дакладаць звонкім і трошкі сіпаватым, даязджачым голасам:

— Юнка адышла, пан Загорскі.

— Ведаю,— сказаў бацька,— старасць. А добрая была.

— Знайд, памятаеце, са своркі адбіўся. То схапіў, відаць, ад нейкай вясковай сучкі, скурапею. Мазалі празрысценькім бярозавым дзёгцем і акурвалі. Праз два тыдні будзе як шкло... Сцінай паздаравеў... І яшчэ Аза мела ласку прынесці шчанюкоў.

— Вось гэта добра. Хадзем, Карп.

Сабакарня ўнутры была паўцёмнай, з вузкімі акенцамі. Каля паўсотні сабак розных парод і масцей ляжалі і хадзілі па загарадках. Тут былі выжлы, ганчакі, норныя, дацкія п'яўкі для мядзведжага палявання. Брудастыя, шчыпцовыя, камякалапыя... Але хлопец яшчэ не мог адрозніваць іх, і таму асабліва зацікавіў яго стракаты ньюфаундленд, з добрае цяля ростам, і куток хартоў.

Харты былі ўсе белыя, з доўгімі шчыпцамі[1]. Вялізныя іхнія вочы былі, як чорныя слівы.

Бацька на хаду даваў парады, якія Карп слухаў пачціва, але з нейкай сваёй думкай.

— Пайшлі б вы ўжо, княжа, да Азы,— сказаў ён.— Хвалюецца.

Калідорчыкам прайшлі ў парадзільнік. Тут, у плеценым кашы, ляжала на аўсянай саломе чорная з

[1] Шчыпец — пашча ў хартоў (паляўнічы жаргон).

белым сука іспанскай пароды і махала куртатым хвастом. Ля яе саскоў павіскваді цёплыя шчанюкі.

Убачыўшы гаспадара, Аза танютка брахнула. Вялізныя, усе ў дробных завітках, чорныя вушы раскрыліся.

— Бачыш,— сказаў Алесю пан Юры,— на качак і цецерукоў лепшага не бывае. А якая акуратная. Не сабака, а арыстакратка.

— Я вазьму аднаго шчанюка,— сказаў Алесь.

— Ну вось,— сказаў бацька,— цяпер маеш усё. А імя ёй будзе — Алма.

Хадзіць давялося доўга. Аглядалі палі, не вельмі добрыя. Аглядалі бровар і — здалёк — багадзельню. Ля сцежкі, што вяла туды, выпадкова падслухалі размову дзвюх старых. Стаялі, абапіраючыся на кіі.

— Ты куды ідзеш?

— Га?

— Куды ідзеш, кажу?

— А-а... У анвалідны дом.

— Ну і як там?

— Нішто-о.

— Кормяць хаця добра?

— До-обра. Цэбар крупніку дадуць на тыдзень, акрамя сухога, то хочаш адразу з'еш, хочаш — раздзялі.

І гэта размова сапсула хлопцу ўсю радасць ад Ургі, Касюнькі і Алмы. Не ўзнімаючы вачэй, ён глуха спытаў бацьку:

— Гэта праўда, што ім адразу даюць?

— А што ім, дрэнна?

— Але чаму адразу?

Селі адпачыць у парку, на лаўцы з неашкураных бярозак.

Бацька пакручваў хвалісты бялявы вус, з усмешкай паглядаў на сына. Яго загарэлы твар здаваўся аліўкавым ад рухомага ценю дрэў.

— Добры ты, сыне. Я вось купіў у матчынага траюраднага брата, у Кроера, цукраварню. Прыйшоў — аж работнікі ўсе ў масках, каб не елі цукру. Гэта Кроер прыдумаў.

— Ну і дурань,— сказаў сын.— Я і чуў, што гадзюка.

— Ды і не ў тым справа. Нельга дазволіць такога здзеку. Што яны, быдла,гэтыя людзі, ці што? Я зняў...

Але ж нельга дагаджаць. Будзеш салодкі — згінеш. Багацця аднаго чалавека на ўсіх не выстачыць. Ведаеш, колькі дваран на Магілёўшчыне?

— Не.

— Патомных нешта каля дваццаці сямі тысяч, асабістых — каля трох з паловай, але гэтыя не ў лік. Дык вось, з гэтых дваццаці сямі тысяч маюць права голасу на выбарах у губернскі сход толькі пяцьсот восемдзесят два. А сялян у губерні восемдзесят сем тысяч пяцьсот шэсцьдзесят адна душа — па тры душы на аднаго двараніна. Дробная шляхта — гэта бочка з порахам. Ненавідзяць і нас, і сялян. А ў цябе з братам сем тысяч гаспадарскіх душ. Ты з часам дваццаццю дзевяццю тысячамі будзеш уладаць. Трэцяй часткай усіх душ губерні, не лічачы тых, што за яе межамі. І калі будзеш даверліва глядзець у драпежныя зяпы — жывога праглынуць.

— А нашто яна мне патрэбна, тая, трэцяя? — спытаў Алесь.

Бацька аслупянеў.

— Ну, хаця б для таго, каб быць добрым да большай колькасці хрысціян... Ты не Кроер, не Хаданскі, не Таркайла... Нашы людзі бога моляць, каб не трапіць ад нас да іх.

— Усё адно гэта нікуды не варта. Хай добры ты. Хай добры буду я. А што, як памрэм? Яны ж тады сваякам пяройдуць, напэўна... тым. Куды ж такі парадак варты, калі чалавек не ведае, што з ім будзе заўтра? І людзі на вёсцы так гавораць і, пэўна, баяцца.

— З намі нічога не зробіцца,— сказаў бацька.— Не тое перажывалі. Восемсот год за плячыма. І вера ў будучае. Я не баюся ні чумы, ні вайны, ні палітычных забойстваў, ні руднікоў. Хвала богу, усяго было. Горшага не будзе.

Памаўчаў, водзячы прутком па пяску.

— Справа ў тым, што ты належыш да самай дзіўнай суполкі на зямлі. У гэтага клана было славутае і грознае мінулае,— але і тады ў яго не было імя. У гэтага клана сучаснае, горш за якое цяжка знайсці, і будучае, што губляецца ў тумане невядомага. Гэта грамада не мае свайго аблічча — і пагражала калісь ордэнскім землям. У яе няма душы — і яна выклікае магутны выбух сіл у кожнага суседа, што датыкнецца

да яе. Тады яна дае такія ўзлёты генія, што ўсіх бярэ здзіўленне. Часам яна знікае, як рака пад зямлёй, каб усплыць у зусім нечаканым месцы. Штохвілінна гіне і адначасова жывучая, як ніхто. У цябе няма адзнак, і менавіта ў гэтым вялікія твае перавагі. Ты бязлікі і ты мнагатвары, ты нішто і ты ўсё. Ты кладоўка самых неверагодных магчымасцей. І ты ганарыся гэтым, ганарыся сваёй магутнасцю, ганарыся тым, што ты — гэта ты.

Пан Юры паглядзеў на постаць сына і раптам спахапіўся:

— Ах, божа, ты ж яшчэ шмат чаго... Ды добра, добра... Я, ці разумееш, і гаварыць не магу. Не мая гэта справа, я чалавек просты. Вось паляваць ды сабачнічаць — гэта ўжо іншае.

Зноў абмінулі дом з серабрыстымі фантанамі італьянскіх таполяў. Ад бакавога ўвахода ў яго цягнулася вузкая алейка. У канцы яе стаяў той круглы павільён, што заўважыў Алесь, пад'язджаючы да Загоршчыны. Дах гэтага павільёна перарываўся па кругу суцэльным шкляным акном, а вышэй шкла ўзносіўся зграбны круглы купал.

— Царква, ці што? — спытаў Алесь.

— Гэта карцінны павільён. Зрэшты, ты пакуль мала што яшчэ зразумееш. Я хачу табе паказаць толькі адну карціну.

І ён адчыніў дзверы.

— Тут, брат, усё ёсць. Лепшая калекцыя толькі ў твайго дзеда... Вось глядзі.

Проста перад імі вісела на сцяне даволі вялікая карціна ў цяжкай, пацьмянелай ад часу залатой раме. На карціне быў пейзаж, якіх не бывае — празрыста-блакітны і няўлоўны.

— Мантэнья,— сказаў бацька,— славуты італьянскі мастак.

Пейзаж праглядаўся праз галіны высокай яблыні з залацістымі пладамі. А пад дрэвамі ішоў кудысь малады чалавек і вёў за аброць белага каня. На чалавеку была круглая шапачка; доўгія рукавы дзівоснага ўбору адносіў вецер.

У чалавека былі цёмна-шэрыя вочы і прамы нос.

— Увесь дзень думаў, на каго ты падобен,— сказаў бацька.— І вось успомніў. Ды гэта ж ты, гэта ты з белым канём. Гэта ты і Урга. Як дзве кроплі вады.

Ах, як не адступаў ад Алеся ўсе гэтыя дні белы конь! І ўсё гэта было як сон. І вось цяпер ён сам, сам Алесь, ішоў з белым канём у нейкую блакітную далячынь.

## V

Так пайшлі дні.

Кожны з іх быў непадобны на другі, і ўсё ж няўлоўна падобны. Гэта таму, што кожны быў адкрыццём і нечаканасцю.

Алесь гідаваў новым становішчам: празмернай пяшчотай бацькоў, недарэчнымі звычаямі палаца і неўсвядомлена ганарыўся гэтым, бо ён быў падлетак, бо яму ўжо, як кожнаму падлетку, хацелася сцвярджаць і ўстаткоўваць сваё «я».

Бацькі, можа, і не ведаючы гэтага, выбралі зручны час. Непрыкметна з яго рабілі не тое, што ён хацеў, а тое, чаго хацелі іншыя.

Падымалі яго а сёмай гадзіне раніцы. Бадай, запозна, бо ў Азярышчы ўставалі раней, і ён часцей за ўсё добрую палову гадзіны ляжаў без сну.

Алесь ляжаў, кожны раз новымі пасля сну вачыма разглядаючы блакітныя сцены пакоя. Над яго галавою, у куце, плыла кудысь старажытная копія з божай маці Куцеянскай: маленькі горкі рот, «нос не кратак», доўгія вочы з такой дабрынёй і тугою, што часам, асабліва ўвечары, хацелася плакаць, гледзячы на іх. Рука прыціскае дзіця, падобнае на маленькага мудрага старога.

Па старому паданню, гэту ікону напісаў, пасхіміўшыся, восемсот год таму назад ваявода Глеб, такі далёкі продак Алеся, што і ўявіць было страшна. Мячом прыводзіў у хрысціянства жыхароў Сухадола і Ршэ, быў у гэтым шчыраванні да веры ледзь не больш суровы, чым мсціслаўскі сабрат, Воўчы Хвост, ды, відаць, не вытрымала душа бязвіннай крыві нядаўніх братоў па Пяруну, таму што кінуў Глеб меч і кінуў ваяводства і, пад імем Анфімія, пайшоў на чорны пострыг і вечнае маўчанне. Ікон такіх напісаў дзве — адну для манастыра, другую — сыну (яна цяпер вісела ў старога дзеда Загорскага).

А тая, што вісела тут, была копіяй шаснаццатага

стагоддзя. Рабіў таксама Куцеянскі майстра, Іпаці. Вісела і, нават з некаторым здзіўленнем, глядзела на ложак з полагам, на канторку чорнага дрэва, на блюда з незабудкамі (карэнні іх прыцісңулі кавалкам мармуру, кветкі ўсталі і стаялі над блюдам суцэльнай блакітнай шапкай).

Алесь ведаў, што за першымі дзвярыма светлы калідор другога паверха, што другія дзверы вядуць у ванны пакой, а потым у пакой для заняткаў, што ён можа заўсёды спусціцца з таго пакоя ў бібліятэку, што ўсё гэта для яго, і гэты прастор палохаў яго.

А сёмай па ўсім доме білі гадзіннікі. Трэба было заплюшчваць вочы. І тады ў спальню заходзілі два чалавекі: немец-гувернёр, гер Фельдбаўх, тоўсты, лысаваты і надта рухавы, і прыгонны дзядзька, Халімон Кірдун, па мянушцы Халява, чалавек вельмі добры і вельмі змрочны, напэўна, з той прычыны, што ягоная жонка была незвычайная прыгажуня. Алесь сам чуў ад дваравых, што Халімону даўно варта было б яе набіць. Але Халімон, відаць па дабрыні, усё ніяк не мог рашыцца на гэта. Таму, напэўна, і змрачнеў.

Алесь ведаў, што немец пачне гаворку па-свойму, і не палохаўся гэтага. Проста дзівіўся, як хутка рабіліся зразумелымі чужыя словы. Як быццам выплывалі з далёкага, калісьці роднага, а потым забытага сну. Быццам даўно ведаў, а потым на хвіліну забыў. Так яно, урэшце, і было, бо да сямі год ён не ведаў іншых моў, акрамя французскай і нямецкай. І вось цяпер прагна, са свежай галавой наганяў.

Немец каціўся да ложка, як шар, і адразу пачынаў буркатаць нешта, зразумелае толькі з пятага на дзесятае, але прыемнае:

— Oh, dieser kleiner Pennbub! Alle sind schon auf, kleine Vöglien singen dem Herren Gott ihre ewige Ruhmlieder, nüch. Der schläft aber immerfort und weiβt nicht einmal — Morgenstunde hat Gold im Munde, nüch?[1]

Гэта быў, на яго думку, самы прыстойны стыль размовы з дваранскім дзіцем.

Фельдбаўх — сын багатага бюргера — скончыў

---

[1] О, гэты маленькі сануля. Усе ўсталі, маленькія птушкі спяваюць госпаду сваю хвалу, ці не так? А ён спіць і не ведае, што ў ранняй гадзіны золата ў вуснах, ці не так? *(ням.)*

гімназію і першы курс універсітэта ў Гецінгене, але потым бацькі збяднелі, і сын паехаў шукаць шчасця ў невядомае Прыдняпроўе. Тут ён служыў ужо дзесяць год, з іх апошніх шэсць — у Загорскіх. Яго не адпусцілі нават тады, калі Алесь трапіў на дзядзькаванне. Засумаваўшы па рабоце, ён цяпер даганяў, хочучы, чаго б гэта ні каштавала, прымусіць вучня за нейкі год добра гаварыць па-нямецку.

Фельдбаўх рабіў рэзкі рух крысом халата, быццам захінаў рымскую тогу.

— Schon gut. Mach dich drau zu waschen, mach dich Mutti zu begrüβen, mach dich an die Gottesgabe,— ja an die Bücher doch, wenn der Fürst zu keinen dummer Fürsten werden will, nüch[1].

...Алеся падымалі, вялі ў ванны пакой, і там, пад даглядам немца, Кірдун абліваў хлопца вадой і расціраў. Кірдун раўнаваў паніча і таму ўвесь час бурчаў пад нос, лаючы Фельдбаўха, якому, немаведама нашто, далі права наглядаць за туалетам, як быццам бы ён, Кірдун, рабіў гэта без немца значна горш. Кірдун суправаджаў некалі пана Юрыя за мяжу і таму ведаў некалькі нямецкіх слоў.

Нямецкая мова яго абражала. Спытае, бывала, Кірдун, ці трэба нагрэць яму ванну для ног, а немец адказвае:

— Das ist mir Wurst[2].

Проста чорт ведае што! Не мова, а свінства! Усё адно яму, бачыце, гарачая ванна або каўбаса...

Чыстага і прычасанага паніча апраналі ў вузкія штаны (псеўданароднаму гарнітуру далі адстаўку ў канцы першага ж тыдня) і вольную белую сарочку з адкрытым карункавым каўняром і вялі на балкон, асабліва светлы ад снежных маркіз. Тут за чайным сталом чакала маці і, у высокім крэсле, дзіўная істота — двухгадовы брат Вацак, які смешна вырачваў на Алеся шэрыя наіўныя вочы.

Матуля цалавала Алеся ў скроню, трымала за падбародак вузкай, да смешнага маленькай рукой, пытала — зрэдку па-французску, каб прывучыўся,— як спаў.

---

[1] Вельмі добра. Ідзі ўмывацца, ідзі прывітацца з матуляй, ідзі прамыць божы твар, ды потым за кніжкі, калі князь не хоча застацца дурным князем, ці не так? *(ням.)*

[2] А мне ўсё адно (літаральна: гэта мне каўбаса) *(ням).*

— Бьен, мадам,— адказваў ён, так пакутліва падбіраючы словы, што нават малому Вацаку рабілася смешна.

Елі аўсянку з малаком, яйкі ўсмятку, тарцінкі з маслам і сырам, тварог і мёд. Дарослыя пілі каву, дзеці — чай. З'яўляўся з аб'езду бацька, загарэлы, смяшлівы, сыпаў жартамі.

У рэкрэацыйнай чакалі ўжо Фельдбаўх і швейцарскі француз monsieur Jannot (гэтаму, як найбольш тандэтнаму, дазвалялася снедаць у сваім пакоі). І тут пачыналася пакута не пакута, а нешта накшталт упартага змагання. Людвіг Арнольдавіч біўся з Алесем над нямецкай і латынню плюс матэматыка і гісторыя, monsieur Jannot — над французскай плюс рыторыка і прыгожае пісьменства. Смеху варта было глядзець, як яны стараліся.

Гадзіна ішла за гадзінай. Алесь дзякаваў богу за тое, што англічаніна і настаўніка дзяржаўнай мовы бацька абяцаў запрасіць толькі ўвосень, калі прадасць ураджай. Часам словы трох моў блыталіся ў галаве, і хлопцу хацелася толькі аднаго: каб сёлетні ўраджай быў дрэнны. Але ён адразу ўспамінаў Кагутоў, і яму рабілася сорамна. Ды хоць бы нават і дрэнны ўраджай. Не, яго, Алеся, ужо нічога не ўратуе... Усё адно стары Загорскі дапаможа, у яго грошай граблямі грабі.

Ад гэтых думак яго адрываў натхнёны голас гера Фельдбаўха, у якім гучалі нечаканыя для немца басовыя ноты.

Гувернёр стаяў перад сакратэрам у позе Гракха на форуме: рука выцягнута дагары далонню, вялікі палец адстаўлен убок. Твар ганарысты. Брушка наперад. Гэта ён граміў бязбожных рымлян, што задалі такой шкоды нямецкай айчыне:

— Eben darum stür-rzte sich German Cherüsc einem Löwen gleich auf den gr-räulichen Varus, den Führer der ver-rführ-rten Romanier. Und Teutoburger Wald wurde zum Fel-lde der deutschen Ruhmheit[1].

«Як гэта лес мог стаць полем,— думала няшчас-

---

[1] Таму Герман Херуск, льву падобна, р-рынуў на аг-гіднага Вара, правадыра р-разбэшчаных рымлян. І Таўтабургскі лес стаў пол-лем нямецкай славы (*ням.*).

нае дзіця,— высеклі яго немцы, ці што? Магчыма, і так. Ад іх усяго можна чакаць. Немцы».

...Біў гонг, абвяшчаючы канец заняткаў. Вочы Фельдбаўха, якія толькі што кідалі бліскавіцы, зноў рабіліся блакітнымі і добрымі.

Пасля заняткаў на хлопца наводзілі вонкавы лоск. Гадзіна танцаў (акампаніраваў на лялечнай скрыпцы monsieur Jannot), якая была для малога пакутай, а пасля гадзіна верхавой язды ў манежы.

Падчас танцаў француз прывіваў дзіцяці вытанчаныя манеры, якія потым пасняхова разбураў грубаваты, як кожны аматар коней, містэр Крэбс.

— Шэнкелямі не цісні, шэнкелямі, кажу, не цісні. Не нервуй каня, сто тысяч д'яблаў і зарад карцечы табе ў задніцу... Як па́даеш? Як па́-да-еш?! А яшчэ лорд! Лорд нават з каня падае прыгожа!

Непарушны англічанін да непазнавальнасці змяняўся, калі даходзіла да коней.

— Аз-зіяты! Хіба вам па-еўрапейску ездзіць?! Іначай вам ездзіць, вар-ва-ры. Ах-люп-кай,— з цяжкасцю вымаўляў ён чужое слова.

А потым шкоду, нанесеную англічанінам, зноў лячыў француз, і на заднім двары яшчэ гадзіну чуўся звон шпаг і буркатлівыя выгукі:

— Тэрца... Квінта... Не так... О месье, не так... Зноў у пазіцыю... Як вы стаіцё, месье? Вы трымаеце шпагу, як начны гаршчок,— пардон... Раз-два... О-ла-ла!.. У вас нечакана атрымаўся цудоўны ўдар... Ларошфуко не мог бы зрабіць лепшага... Брава, месье, я забіты!.. Вы забіты... Майце ласку заўтра рабіць гэта лепей.

Бадай, адно жалезнае, цалкам мужыцкае здароўе дазволіла Алесю вытрымаць усе гэтыя выпрабаванні. Ён схуднеў, на нагах і грудзях выявіліся зусім не дзіцячыя мускулы, позірк стаў пільны і насцярожаны. Але затое ў рухах усё часцей прарывалася новая, лёгкая і пластычная зграбнасць.

Можа, таму, што ён і раней добра біўся на палках — асабліва вялікімі былі поспехі ў фехтаванні. Ды і Крэбс, калі хлопец не чуў яго, усё часцей казаў:

— Будзе. Будзе наезнік.

Пасля купання аж да вечара быў вольны час. Але «вольны» было толькі словам. Абед быў не абед, бо

ўвесь час даводзілася памятаць, які нож для чаго. Лёгка было толькі есці курыцу, бо гэта елі, як і ў Азярышчы, рукамі. Часцей за ўсё ён уставаў з-за стала галодны, і Халімон Кірдун, каб не звялося дзіця, ціпком прыносіў яму ў пакой пад'есці. Са скрухай глядзеў на Алеся, уздыхаў па-бабску:

— За што ж табе, гаротны, пакуты? Божа літасцівы, забіваюць дзіця. Жыўцом ядуць.

Толькі часам, вельмі рэдка, можна было ўцячы ў дворню ці ў асобны дамок, дзе жыў даязджачы Карп са сваёй жонкай Анежкай, і там адпачыць душой. Дзяцей у Карпа не было, і таму Анежка шкадавала паніча, частавала звыклым: арэхамі, праглымі на сланечнікавым алеі.

Русая і сінявокая, такая распаўнелая і добрая, Анежка глядзела на Алеся і ціхутка падгалошвала:

— Еш, бедненькі, еш, зблажэлы ты мой. І нашто, каму гэта патрэбна, пакутніца ты мая Дарота? Па шклe цябе вадзілі, бедную, а яго па пакутах...

Гэтае падгалошванне было такое чуллівае, што з вачэй Алеся, ад шкадобы да сябе, самі сабой пачыналі падаць рэдкія і буйныя, як боб, слёзы.

Але і наплакацца ўдосталь не давалі. Толькі аджыў, як ужо шукаюць.

...Бацька вядзе па галерэі продкаў.

— Даніла Загорскі!.. Пэндзля невядомага мастака... Даніла ўзначальваў смяротны атрад пры Крутагор'і. Загінуў разам з усімі воінамі...

Ян Загорскі... Пэндзаль Сальватора Розы... Бадай, адзіны, які перайшоў у каталіцтва. Пасля страты зяця зноў удаўся ў схізму, быў пракляты папскім нунцыем і загінуў пры таямнічых абставінах...

Багдан Загорскі. Пісаў крукамі царкоўныя гімны...

Бадай, адзіным шчасцем Алеся было тое, што для бацькі гісторыя рода і геральдыка былі яшчэ больш нудныя, чым для яго. Таму ён і не мог перадаць сыну захапленне гэтымі небяспечнымі рэчамі.

Затое бацька зусім змяняўся, заходзячы ў круглую карцінную залу. Тут ён мог гаварыць і гаварыць. Блага ці добра, але ён даваў сыну частку таго запалу, якім гарэла яго душа.

І ўсё ж найбольш цягнуў да сябе Алеся тоў самы

«Хлопец з канём» Мантэны. Было ў гэтай карціне нешта наіўна-прывабнае і мудрае.

І не ў тым справа, што хлопец быў — выліты. Ён, хаця і ў чужым заморскім касцюме, а конь — сапраўдны Урга, той самы Урга, які палюбіў яго, Алеся, больш за іншых, бо хлопец не абразіў яго нават празмерным недаверам на бар'еры, нават ганьбай шэнкеляў, калі конь разумее без іх, як яму трэба рабіць.

Не ў гэтым была справа.

Справа была ў тым, што праз лісце густа-зялёнай яблыні з залатымі пладамі глядзеў такі далягляд, якога не бывае на зямлі, далягляд невядомай блакітнай краіны, у якую спакойна і ўпэўнена крочылі чалавек і белы конь.

...У адзінаццаць яго клалі ў ложак. За акном, сярод лістоты, дрыжаў і гайдаўся масляны ліхтар, шапацелі лісты італьянскай таполі і далятаў з Дняпра неўразумелы начны крык шэрай чаплі.

Алесь засынаў, здаволены сабой.

А ўначы прыходзілі забароненыя, брыдкія мужыцкія сны. Ён сніў адрыну і гнёзды ластавак над галавой. Ён зноў бачыў росныя пракосы і самога сябе з біклагай на плячы... Яму бачыліся вочы каровы, яе стомленыя сытыя ўздыхі ў цемры хлява і цурчанне малака ў пенную дайніцу...

## VI

Скончыўся месяц траў, адквітнеў за ім месяц кветак.

Аднесла ветрам арэхавы пылок, згінула да наступных надзей і новай вясны вампір-трава, адышлі пярэста-зялёныя «капыцікі марыінай асліхі» — падалешніцы. Прыйшоў пчаліны, касазвонны месяц цвету ліп.

Усё мянялася. Нішто не мянялася толькі ў Загоршчыне.

І вось аднойчы, прачнуўшыся пазней звычайнага ад прыглушанага звону гадзіннікаў, Алесь адчуў, што нешта не так. Не ўвайшоў Фельдбаўх, не з'явілася ў дзвярах хмурнаватае аблічча добрага Кірдуна.

І хлопец на нейкую хвіліну адчуў сябе самотным і пакінутым на волю лёсу. Толькі на адну хвіліну, бо

ў наступны момант ён успомніў, што прыйшоў той дзень і з ім, магчыма, нейкая воля, магчымасць быць хоць трошкі гаспадаром самому сабе.

На гэта намякала адзенне, вольна раскладзенае на спінцы крэслаў, і тое, што дзверы ў ванны пакой былі адчынены,— рабі сам, што хочаш. З асалодаю ўспомніўшы гэта, ён пацягнуўся і раптам, быццам кім падкінуты, сеў на ложку.

За акном пачуўся гулкі гук. Аднекуль з-за дома, з берага паркавага стаўка, ударыла гармата. Потым другі раз... трэці... восьмы... адзінаццаты.

Дзверы расчыніліся рэзка, як быццам таксама ад удару гарматы. На парозе стаяў пан Юры, белазубы, загарэлы. Махровы персідскі халат расхінуўся на грудзях. Ад усёй постаці, ад хвалістых густых вусоў, ад сініх смяшлівых вачэй так і веяла здароўем.

— Паставіць на ногі лайдака-князя,— грозна рыкнуў бацька.— Лайдак-князь спіць і не ведае, што яго чакаюць вялікія справы.

Алесь не паспеў спахапіцца, як дужая мужчынская рука рванула коўдру і бліскавічна, асабліва гучна ляснула па мяккім месцы.

— Stehe auf,— грымнуў бацька, на хвіліну так удала ўдаючы Фельбаўха, што аж страшна стала.— Eine außerordentlich perfekte Fürterhalbwüchsigerverrichtung ist keine Bettharrung auf'ne Vonsichselbstvollziehung, nüch?[1]

І сцягнуў сына за нагу з ложка.

— Мыцца, мыцца разам.

У ванным пакоі, ля глыбокага басейна, бацька скінуў халат і пантофлі, і толькі тут староннi заўважыў бы, як яны падобны, пан Юры і Алесь. Хлапечыя, але моцныя формы сына абяцалі з часам зрабіцца падобнымі на гладкія і магутныя формы бацькі.

Бацька нечакана злавіў яго і, прыўзняўшы, так спрытна кінуў галавою ў басейн, што Алесь колам перавярнуўся ў вадзе.

— Адмірал, чалавек за бартом! — крыкнуў бацька, затым услед пляснуўся ў блакітную ваду і схапіў

[1] Выключна пікантна-вытанчаныя адпраўленні, вартыя сапраўды княжацкага недарасля, ёсць не ўпаванні ў ложку на самапраісцяканне, ці не так? (Парадыйны стыль) *(ням.)*

сына за пятку.— Купанне Ахіла пачынаецца. У ролі маткі героя князь Юры Загорскі.

...Пасля купання яны апрануліся ў суседнім пакоі, і гэта было вельмі падобна на маскарад, бо абодва апранулі ўзверх батыставых сарочак з карункавай грудзінай і вузкіх нагавіц да калень яшчэ і шырокае мясцовае адзенне, што чакала дзесяцігоддзямі падобных выпадкаў, лежачы ў скрынях паміж лісцяў дарагога турэцкага тытуню.

Бацька ўсклаў на сябе суконны паднізень вішнёвага колеру, а паўзверх яго чырвоную, тканую золатам чугу, крэкчучы нацягнуў малінавыя боты і чырвоныя замшавыя пальчаткі. Потым сын памог яму абкруціць вакол таліі залататканы слуцкі пояс. Бацька прыціснуў канец пояса далонню на жываце і павольна круціўся, сочачы, каб пояс лёг гожымі складкамі.

Цяпер прыйшла чарга Алеся. Ён таксама нацягнуў боты, толькі белыя. Пасля замест паднізня бацька накінуў на яго шырокую белую кашулю з адным плячом,— на другім яе закалолі сярэбранай фібулай. Паўзверх кашулі пан Юры, па-мужску няспрытна, апрануў сына ў вузкую белую чугу, такую самую, як і ў самога, толькі тканую серабрыстымі і бляклазалацістымі травамі.

— Велікародныя гаспадары Загорскія, князі Сухадола і Вежы збіраюцца на вайну.

— Куды на вайну?

— Вядома куды. На аршанскае поле.

— Каго біць?

— Там скажуць!

— А за што?

— А так,— сказаў бацька.— Без дай прычыны. Каралеўскі загад.

Святочныя, яны выйшлі на тэрасу, дзе іх чакала маці з маленькім Вацлавам, гувернёры і некалькі слуг на чале з Кірдуном. Маці і Вацлаў былі ў звычайных святочных адзеннях з белага індыйскага мусліну і карункаў, гер Фельдбаўх у сурдуце, месье Жано — у зграбным чорным фраку.

Затое слугі, падобна гаспадару з сынам, былі таксама ў старой паюцкай вопратцы.

Маці прывіталася з сынам і ўстала за мужчынамі. Усе пачалі спускацца з тэрасы. Алесь ішоў, апусціў-

шы вочы, калі раптам нешта неўсвядомленае прымусіла радасна задрыжаць яго веі.

Ён ускінуўся — перад ганкам стаялі ў святочных уборах Кагуты: Міхал, дзед Даніла, Андрэй, Кандрат, Павал, Юрась. Толькі Марылі не было ды стардйшага Стафана.

Кінуўся быў да іх — бацькава рука ўладна сціснула плячо.

Кагуты стаялі моўчкі. Ніхто з іх не глядзеў на пана Юрыя; толькі на Алеся глядзелі ўсе. І Алесь, адчуваючы амаль фізічны боль у сэрцы, ішоў да іх.

Толькі наблізіўшыся, ён убачыў, як моцна яны цяпер адрозніваюцца ад яго, які высахла-белы стары Даніла, якая ссутуленая, прыгнутая цяжарам зямлі, спіна ў Міхала, якія нязграбныя рухі ў сыноў, быццам спуджаных святочнай вопраткай і дзівоснымі абставінамі. Усе яны хавалі вочы. Толькі Паўлюк, здзіўлена і нават неяк адчужана, глядзеў на паніча.

Кірдун з аброццю на плячы зайшоў перад панамі і стаў твар у твар з Міхалам.

Ён працягнуў адзін канец аброці Міхалу, другі — пану Юрыю.

— Дзе тая аброць, на якой ты вадзіў гэтага стрыгуна? — спытаў Халява.

— Вось,— паспешлівыя пальцы Міхала выцягнулі з-за спіны сырамятную цёмную аброць.

Кірдун узяў і працягнуў другі канец гэтай аброці пану Юрыю. Так яны і стаялі, злучаныя дзвюма аброцямі, мужык і пан...

Цяпер гаварыў Юры.

— Ці абаранялі паніча твае сцены? — спытаў Загорскі.

— Абаранялі. Як сыноў, так і яго.

— Дай,— сказаў пан.

Андрэй ступіў да паніча і выняў са скуранога вацка шчопаць сажы, тлустай сажы з хатняй сцяны.

— Маж,— сказаў бацька.— Каб помніў.

Калі Андрэй мазаў сажай пасму валасоў на Алесевай галаве, хлопец узняў на яго ўмольныя вочы. І толькі Андрэй, перахапіўшы позірк, непрыкметна для іншых усміхнуўся яму краёчкам вуснаў.

Вацок з астатняй сажай таксама схавалі ў жалезны ларэц.

— Ці вадзіў ты яго па зямлі, куды мы ўсе пойдзем? — спытаў бацька.

— Так,— сказаў Міхал.

— Тады атрымай трыццаць,— бацька глянуў на Алеся і паправіўся,— не, нават сорак восем дзесяцін... Той клін, што за Лугавым. Каб табе і дзецям тваім было па якой зямлі хадзіць... Гэта зямля вызваляецца ад пабору і давеку астанецца за тваёй сям'ёй.

Юрась, відаць, загадзя падрыхтаваны, стаў на калені, і Юры паклаў яму на рукі шчопаць падножнага.

— Ці вучыў ты майго сына быць літасцівым да жывёл, як то належыць чалавеку?

— Так.

— Тады атрымай сем коней-двухгодак і дзве каровы для жанчын.

Веі ў Алеся былі вільготныя. Што б там ні было, а гэта яго, Алеся, прадавалі зараз, і ў гэтым было яго падабенства з другімі людзьмі ў белым.

— Дом твой будзе моцны,— сказаў пан Юры.— Пад кожную пяту твае хаты і хаты сыноў ты пакладзеш па дзесяць рублёў, бо выхоўваў у працы і поце майго сына. Шэсць сыноў — дзвесце сорак рублёў...

Скураны мяшочак бразнуў, упаўшы паміж двума строямі.

...Пасля Алеся пасадзілі на Ургу і пан Юры павёў яго вакол маёнтка. Астатнія ішлі за ім. Бацька спыніўся на высокім урвішчы Дняпра і абвёў рукою ўсё, што вакол.

— Гэта тваё,— сказаў ён.— Твая зямля і тваё неба. Помні, усё жыццё ты будзеш піць ваду з Дняпра і абмываць гэтай вадой сваіх нованароджаных. І адабраць гэта ў цябе не можа ні чалавек, ні бог, ні д'ябал. Адна смерць.

Кірдун падышоў да Алеся і прышчапіў да яго збройнага рамяньчыка кінжал і пісталет. Потым падаў бацьку кароткі корд у срэбных, з залатымі травамі похвах.

Бацька стаў побач з канём і засунуў шаблю ў пятлю высокага сядла.

— Ты носіш добрую зброю, каб не злоўжываць ёю, і багатую вопратку, каб не ганарыцца ёю перад астатнімі.

І ён злёгку пацягнуў сына нагайкай па спіне, а потым прымацаваў гарапнік да другой пятлі сядла.

— Помні.

За ўсімі гэтымі цырымоніямі не заўважылі, як стамілася пані Антаніда. У яе забалела галава, і пан Юры нават з некаторай радасцю адпусціў яе.

— Стаміўся? — спытаў бацька, з паблажлівай ласкавасцю заглядаючы ў вочы сына.

— Не.

— Гэта добра. Зараз, браток, пачнем абрад, на якім нікому не дазволена прысутнічаць, акрамя нас... Добра запомні... Бо давядзецца перадаваць сыну...

Твар ягоны быў стомлены, відаць было, што яму абрыдзела ўсё гэта, але нават ён знаходзіцца зараз пад страшным цяжарам нечага абавязковага, наканаванага і непахіснага.

...Яны мінулі палац і пайшлі па незнаёмай алеі ў тую частку ірэгулярнага парку, куды бацька дагэтуль ніколі не вадзіў Алеся.

Тут, відаць, і наогул мала хадзілі: травы, што прарасла праз жвір, вельмі даўно не палоў садоўнік. Замест светлых ліп, ясакараў і італьянскіх таполяў паабапал алеі ўсё часцей траплялiся чорныя і нейкія зімнія яліны ды змрачнаватыя векавыя дубы. Яленец суцэльным магутным дыванам укрываў палянкі, нечапаная папараць клубілася над зрынутымі дрэвамі. Парк быў ужо сапраўдным лесам.

І тут бліснуў у непралазным гушчары празрысты, відаць,ад магутных крыніц, стаў, а над ім, на цьмянай ад ценю паляне паўстала дзіўная будыніна, вузкая і высокая, змураваная з шэрага і ружовага каменя-дзікуна.

Такой яна была на вышыню аднаго паверха. Вышэй камень быў абчэсаны, былі нават там-сям раманскія арачкі. А яшчэ вышэй, амаль да верхавін пяцісотгадовых замшэлых дубоў, узносіліся дзве карункава-змрочныя гатычныя вежкі. Змрачнаватая, значна большая ў вышыню, чым у даўжыню і шырыню, будыніна думала аб чымсьці, што не датычылася двох чалавек, якія зараз ішлі праз зацянены луг да яе дзвярэй, і гэты яе спакой быў спакоем канца.

Перад ёю, у высокай траве, ляжалі па крузе сем абчасаных камянёў, а ў цэнтры круга ляжаў восьмы, з правільна круглым заглыбленнем наверсе.

— Сядай на зямлю,— сказаў пан Юры.— І слухай.

Неўсвядомлена пранікаючыся нечым страшнаватым, Алесь сеў.

— Глядзі,— сказаў бацька.

На баку цэнтральнага каменя быў выбіты няўмела парушаны ва ўсіх прапорцыях вобраз добрага пастыра, які нясе на плячах агнца.

— А цяпер уяві, што сорак доўгіх чалавечых жыццяў ляжыць паміж табою і гэтым пастырам. Сорак. А ты сорак першы.

Яны маўчалі, схіліўшы галовы. Пад вяршынямі дрэў быў такі спакой — лісток не шалахнецца.

— Сорак. Гэта тыя, што былі да нас, і мы, і тыя, што яшчэ будуць. І кожнаму наступнаму цяжэй, бо ён нясе большы цяжар. Будуць і тыя, каму зробіцца нясцерпна цяжка, і я малюся богу, каб гэта не быў ты. Таму што ніхто не пазбегне. Кожны павінен будзе несці на раменах слабага, ягоны боль і ягоную крыўду. Хто гэты слабейшы — кожны выбірае сам. Друг, вера, жанчына або яшчэ нешта, пакуль невядомае... А цяпер паглядзі: на другой грані яшчэ больш старыя рысы. Гэты маладзік — гэта серп, а гэтыя калматыя трысцінкі — каласы. Хто будзе жаць — аб гэтым маўчаць гады і маўчаць стагоддзі. Ніхто яшчэ не дадумаўся, бо той, хто іх выбіў, памёр і не скажа... Пасядзі хвіліну, сыне, падумай або проста памаўчы.

Алесь маўчаў і так. Яго краналі не словы, а проста мёртвы сон камянёў, дрэў, будыніны, якую абкружалі, сціскалі дубы.

— Тут было паганскае капішча,— сказаў нарэшце бацька.— Якому богу яны маліліся — ніхто не ведае. Бо з іх не ўцалеў ніхто... Яны пакінулі гэтыя камяні і гэты серп маладзіка і зніклі, як аблокі. Тут яны збіраліся, а гэты камень і чаша на ім былі, відаць, ахвярнікам. Колькі год так было — невядома. А потым з Полацка прыйшоў Дняпром бліжні дружыннік Глеб, і тады гэтыя людзі ўбачылі кроў. Не варта было, калі не хацелі крыжа? Вядома. Але хто звяртаў увагу на тое, чаго хоча і чаго не хоча мурашнік? Не звяртаў і Глеб... Капішча шукалі доўга. І знайшлі... І вось пад гэтымі камянямі загінулі ўсе яго абаронцы. Да аднаго.

Бацька памаўчаў.

— Тут было раней два рады камянёў. Вонкавы ўзялі і залажылі ў падмурак будынка. Але потым

Глеб раздумаў. Відаць, таму, што тут быў такі спакой і нельга было не палюбіць гэтага месца. Таму ён проста загадаў асвяціць галоўны камень вобразам пастыра, але тых камянёў з падмурка не выняў. Ты іх можаш убачыць... Спачатку пабудавалі першую частку будыніны, самы ніз. Другую трэць надбудавалі праз трыста год, калі ўжо і косці Глеба згнілі ў Куцеянскіх пячорах. Вежкі надбудавалі яшчэ праз дзвесце год... І вось усё гэта стаіць: камяні на беразе става, дубы, што ў тры разы маладзейшыя за іх, і камяніца.

— Што гэта? — спытаў Алесь.

— Гэта магільня Загорскіх, сыне.

Бацька павольна адхінуў траву ад вобраза пастыра.

— Калісьці мы, напэўна, маглі быць вялікія, але не здолелі. Наша палітычнае быццё скончылася. У нас — толькі магілы. Толькі адны магілы, раскіданыя па гэтай зямлі. Курганы на беразе Дняпра, капцы на сялянскіх могілках, твая і мая магільня, сыне... Вось яна...

Моўчкі, быццам усё было сказана, яны пайшлі да магільні.

Бацька адчыніў дзверы. У верхнім памяшканні было ціха, праз вузкія вокны лілося пыльнае святло. На сценах віселі старыя чаканы, двухручныя мячы, кальчугі. У нішах, пад замком, ляжалі скруткі нейкіх дакументаў, кнігі ў драўляных вокладках. Паміж імі стаялі срэбныя каўчэгі для асабліва важных манускрыптаў.

Бацька зняў з цвіка доўгую гнуткую кальчугу.

— Бачыш, гэта пра яе сказаў Сімяон Вежа: «Бог сведка, тады было гора. Я сам бачыў чалавека, у якога на кожным дробным кольцы кальчугі была выбіта назва месца, дзе яны рабіліся: сутычкі і сечы, змовы і паядынкі... Чалавек той быў мой бацька».

Кальчуга пераліvалася ў руках бацькі.

— Бачыш, на грудзях і жываце ніводнага вольнага кольца...

Па каменных плітах падлогі пан Юры прагрукаў да адной пліты, у якой было кольца.

Пашча ямы адкрылася перад імі. Прыступкі вялі ўніз. Пан Юры першы спусціўся туды. Працягнуў Алесю руку.

Потым унізе пыхнула губа, а за ёю кнот тоўстай і высокай, у рост хлопца, чырвонай свячы ў нізкім свечніку.

Глыбокае і вузкае памяшканне было паточана на сценах нішамі, падобнымі да пячных чалеснікаў. Частка з іх, не больш трэці, была закрыта — гэта былі месцы пахавання. Налой з евангеллем, свяча і нішы — больш нічога. Ды яшчэ на столі старая чырвоная фрэска: архангел з мячом у адной руцэ і царквою на далоні ў другой.

— Вось,— сказаў бацька.— Гэта ўсё яны. Гэта ніша Акіма Загорскага. А тут яшчэ дзве пустыя. Старога Вежы і мая...

Яму было цяжка гаварыць.

— У наступную... палажы гэта.

Ён выцягнуў з-за пояса жалезную скрыначку, тую самую, у якую клалі сёння сажу.

— Ідзі,— сказаў ён.— Праз сто год гэта пакладуць табе пад галаву.

Алесь падышоў да цёмнай нішы і засунуў у яе куфэрачак.

— А цяпер ідзі сюды.

Яны стаялі ля свечніка. Бацька апусціў руку на плячо сына.

Полымя свячы рабіла ягоны твар суровым, бадай велічным. Толькі гэта давала Алесю змогу не адчуваць гідоты і пратэсту супраць усяго, што тут рабілася, супраць самай думкі пра трэцюю нішу.

— Паўтарай за мной, хлопчык,— сказаў бацька.

— Добра,— шэптам сказаў Алесь.

— Я прыйшоў да вас,— шэптам сказаў бацька.

— Я прыйшоў да вас.

— У мяне няма нічога, акрамя вас.

— У мяне няма нічога, акрамя вас,— ужо больш цвёрдым голасам паўтараў малады.

— У мяне няма нічога, акрамя магіл, бо я ваш сын.

— У мяне няма нічога, акрамя магіл, бо я ваш сын.

Бацька выпрастаўся, як ад нейкага натхнення.

— Я клянуся любіць вас.

— Я клянуся любіць вас.

— Я клянуся абараняць вашы магілы мячом і зубамі, нават калі мая магіла будзе далёка ад вас.

— Я клянуся... далёка ад вас.

— Бо я ўсё адно буду тут, з вамі. Бо мяне нельга аддзяліць ад вас.

— Бо я... з вамі... Бо мяне нельга аддзяліць ад вас.

— Пакуль не скончыцца жывот людскі на зямлі.

— Пакуль не скончыцца жывот людскі на зямлі.

— Аман.

— Аман.

## VII

Лёгкі звон рынуў з вышыні званіцы на цвінтар, на людзей, што выходзілі з царквы, на навакольны парк. Званіца стаяла наўздалёк ад стройнай, са святла пабудаванай царквы, і ў вяроўках званоў біўся, як муха ў павуцінні, клышаногі званар Давід. Дзярбаніў і падцілінкваў так, што званіца як не бурылася.

А з царквы насустрач сонечнаму ліпеньскаму дню выходзілі людзі.

Алесь ішоў недзе пасярэдзіне працэсіі.

— На тваім пострыгу будзе хлопец, якому дадуць трымаць тваю пасму,— сказаў бацька.— Потым ты аддзячыш яму тым самым. Гэта азначае, што вы ўжо ніколі не будзеце ворагамі. Не маеце права.

— А калі і сябрамі не будзем?

Бацька легкадумна засмяяўся.

— Ніхто не прымушае. Але я думаю, вам будзе добра разам. Гэта ўжо маці і я пастараліся. Гэта сын майго лепшага друга, нябожчыка,— мяккая яму зямля,— Мсціслаў Маеўскі.

І вось цяпер Алесь ішоў і напружана чакаў, які ён будзе, гэты невядомы хлопец, з якім яны цяпер не маюць права быць ворагамі. Тое чаканне прымусіла яго быць няўважлівым да царквы і да набажэнства. Помніў толькі суровыя, нечалавеча вялікія вочы анёлаў, іхнія трошкі азызлыя твары і нясмелыя, уседаравальныя ўсмешкі. Помніў застылыя ўсплёскі іхніх крыл над яго галавой і незразумелыя па колеры,— ці ружовыя праз блакітнае, ці блакітныя праз ружовае,— складкі адзенняў. Помніў пералівістую, фіялетавую з золатам фелонь папа і тое, як падала ўніз ягоная епітрахіль — проста, бы драўляная.

Страшнае рыканне дыякана калыхала агеньчыкі свечак, прымушала часам дробна звінець шыбы. Страшнае, бы ў льва з пячоры, рыканне.

Усё гэта было як сон. Ён ведаў, што фрэскі іхняй старажытнай царквы былі дзівам, аб якім казалі ўсе альбомы, нават выдадзеныя ў Парыжы, што іхні пратаіерэй майстра і за гэта ўзнагароджаны камілаўкай, набедранікам і залатым наперсным крыжам, што загоршчынскага дыякана даўно збіраліся за яго дзівосны бас перавесці ў Магілёў і зрабіць іпадыяканам, каб прыслужваў толькі архірэю, ды пабаяліся псаваць адносіны са старым Загорскім. І ўсё гэта было як дурман, і ён бадай што ўзрадаваўся, калі набажэнства скончылася.

Ішоў з прыступак, скоса пазіраючы на новую асобу, якая звалася «пастрыжным бацькам». Пастрыжны ішоў з боку ад яго, ладны, чырвоны тварам, сівы грывай валасоў і кароткімі вусамі. На чырвоным загарэлым твары дзівоснымі здаваліся наіўна-сінія дзіцячыя вочы.

Гэта быў далёкі дзядзька Алеся, Пятро Басак-Яроцкі, гаспадар невялікага маёнтка, былы каўказскі афіцэр. На поясе ў Басака віселі срэбныя нажніцы.

І вось наперадзе Алесь убачыў кілім, а ля кіліма купку людзей. У баку ад іх стаяў хлопчык, якому было, напэўна, страшнавата ад урачыстасці цырымоніі. Белавалосы, з залацістымі вачыма — бы напоены сонцам мёд,— відаць, трошкі слабейшы за Алеся, больш хударлявы, ён стаяў на кіліме, трымаючы ў руках медальён на доўгім залатым ланцужку. Дзівосныя сонечныя вочы глядзелі трошкі ўгору.

Алесь не ведаў, куды яму ісці, і таму ледзь не зрабіў памылкі, накіраваўшыся да купкі людзей.

Басак-Яроцкі паклаў руку яму на плячо.

— Правей фронт, пляменнічак,— ледзь чутна сказаў ён.

Цяпер Алесь ішоў проста на хлопца. І ледзь ногі яго ступілі на пушысты вялікі кілім — са званіцы зноў грымнулі, радасна заліліся званы.

Хлопцавы вочы ласкава глядзелі на Алеся.

— Глядзець весялей,— шапянуў пастрыжны.— Падайце адзін аднаму рукі.

Алесь адчуў у сваёй руцэ руку Мсціслава.

У той жа самы момант усе астатнія, акрамя гэтых трох на кіліме, нават бацька, апусціліся на адно калена.

— Княжацкі сын Аляксандр Загорскі, сын Георгія, унук Даніїла, праўнук Акіма і прапраўнук Пятра, схілі апошні раз сваю галаву.

Гэта абвясціў Басак-Яроцкі сваім хрыплаватым басам.

Алесь схіліў галаву.

— Отрак Аляксандр,— сказаў пастрыжны,— ты пастрыгаешся днесь у падлеткі, як гэта загадваюць звычаі гэтай зямлі. Бачыш ты свайго пастрыжнога брата? Абдыміцеся першымі мужчынскімі абдымкамі.

Яны абняліся. Алесь адчуў на плячы руку Мсціслава.

— Скажыце адзін аднаму на вуха некалькі братніх слоў.

Вочы Мсціслава смяяліся недзе ля вачэй Алеся. Потым Алесь пачуў шэпт.

— Папаўся? — спытаў малады Маеўскі.—Плюнь. Яны лічаць, што мы зеляпаны, дык давай мо прыкідвацца далей. Хай ужо цешацца.

— А я і плюю,— з нейкім раптоўным гарачым пачуццём да гэтага хлапца шапнуў Алесь.

Дарослыя з некаторым нават замілаваннем глядзелі на двух прыгожых падлеткаў, якія з такой відавочнай пяшчотай шапталі адзін аднаму на вуха словы братэрства.

— Ты, брат, накшталт таго скоч-тэр'ера.— Мсціслаў аж дрыжаў у абдымках Алеся ад прытоенага смеху.— Ведаеш, як іхніх шчанюкоў пазнаюць, чыстапародныя ці не?

— Ведаю,— усміхнуўся Алесь.— Бяруць за хвост і падымаюць у паветра. Сапраўдныя не вішчаць. Гонар трымаюць.

— Вось і ты трымай гонар. Пастарайся ўжо не вішчаць, як дварняк. Гэта глупства. Нязручна, але затое нядоўга.

Яны не заўважылі, што вусы старога Басака неяк няўлоўна і падазрона паторгваюцца.

— Пацалуйцеся,— сказаў Басак-Яроцкі.— І памятайце, вы казалі словы братэрства і цалаваліся яшчэ тады, калі былі дзецьмі.

Яны пацалаваліся. Басак-Яроцкі палажыў далонь на галаву Алесю.

— Ты насіў дзіцячыя доўгія валасы, з якіх сёння ўпадзе адна пасма. Заўтра іх падкароцяць, і такімі яны будуць, пакуль ты не станеш сапраўдным мужам. А тады насі іх як хочаш, толькі памятай, што людзі нашай зямлі любяць насіць доўгія валасы і вусы, але не любяць і ніколі не насілі барады, калі яны не папы, не манахі і не мудрыя стогадовыя дзяды.

Ён узняў нажніцы.

— З першай пасмай ты не будзеш дзіцём і зможаш сядзець з мужамі, бо сам займееш імя мужа... З гэтай хвіліны памятай, князь, душа твая належыць толькі богу і гэтым палям, шабля — ваяводзе справядлівай вайны, жыццё — усім добрым людзям, сэрца — каханай. Але гонар і чэсць — яны належаць толькі табе і больш нікому. Цябе пастрыгаюць у мужы, каб ты быў незалежны з моцнымі, братні — з роўнымі, памяркоўны і добры з ніжэйшымі.

Цяпер ужо і Мсціслаў глядзеў сур'ёзна, быццам гэтыя словы краналі яго за душу.

— Каб ты быў добры да дзяцей і жанчын, верны для сяброў і страшны для ворагаў, бо ты муж і зброя дадзена табе для таго, каб ты быў мужам і каб той, хто абразіў цябе, ніколі не абышоўся пустымі прабачэннямі, а крывёй плаціў за сваю абразу...

Ляснулі нажніцы. Каштанавая пасма ўпала ў далонь дзядзькі Пятра.

Ён павольна працягнуў яе Мсціславу. І Мсціслаў таксама патрымаў пасму, а потым схаваў яе ў медальён, а медальён схаваў пад сарочку.

— Сын князя Загорскага стаў мужам,— сказаў Басак-Яроцкі.— Памолімся за яго доўгі век, за яго дабрыню і высакароднасць. Памолімся за тое, каб бог паслаў яму вялікія дарогі і сілы на тое, каб усё, што з ім будзе, стала вялікімі здзяйсненнямі.

Аднекуль з-за палаца, з таго боку, дзе была магільня, данёсся празрысты, як лёд, і журботны, як галошанне, спеў срэбнай трубы.

## VIII

Кірдун ледзь не luснуў са злосці за тыя дзве гадзіны, якія прайшлі з пастрыжэння. Здавалася, усё ішло добра. Здавалася, больш ганаровай пасады, чым тая, якую далі на гэтыя гадзіны яму, Кірдуну, нават быць не магло. Сядзі на ўзгорку, адкуль відна дарога і паварот з яе на загоршчынскі «прэшпект», трымай у руках падзорную трубу і, ледзь толькі ўбачыш карэту ці кабрыялет, якія паварочваюць з дарогі на алею, давай загад тром мужыкам, што завіхаюцца трохі ніжэй, у лагчынцы, ля гармат. І адразу залп. Усё добра, усё чынна. Дык не, прынесла ў апошнюю хвіліну немца, каб на яго пошасць.

Стаіць сабе, чортава пуза, акурат ля яго і глядзіць на дарогу. І такі спрытны, што заўважае ўсё раней, чым Халімон. І гэта так крыўдна, быццам немец у яго хлеб адбівае. Па ўласнай, ці ведаеце вы, ахвоце прыцёгся. Добра б ужо, каб нехта пасылаў. А то ж сам.

Выгляд у чорта важны, паблажлівы. Стаіць, як Банапарт багамерзкі, пуза наперад, і, кожны раз, як ударыць гармата, як ты яму, скажы, цацку нехта даў, такое задавальненне на бязвусай мордзе.

— Einem Löwen gleich... — далятаюць да Кірдуна асобныя словы.— Nüch?[1]

І, скоса пазіраючы на Фельдбаўха, які абапіраецца на лёску, як на шпагу, Кірдун бурчыць пад нос:

— Das ist ihm Wurst... Гэта *яму* каўбаса, ці ведаеце... І ўсё «нюх» ды «нюх»... Нюх ты і ёсць нюх. Нюхала нямецкае... Каб цябе ўжо на тым свеце так чэрці нюхалі смярдзючымі сваімі насамі.

Кірдуну зусім дрэнна. Але спраўна грукоча гармата, а то і тры, гледзячы на тое, які госць зварочвае на алею.

...Гэта яшчэ хто? Шарабан старэнькі, конь ледзь перастаўляе відавочна парэпаныя капыты. І тут мужык-запальшчык адказвае:

— То ж гэта высакародны пан Мнішак едзе на сваім Панчоху.

Ну, гэтаму хопіць і аднаго стрэлу.

...А гэта? Пара сытых коней. Тарантас лакіраваны.

---

[1] Ільву падобна... Ці не так? *(ням)*

Ага, едзе дзедзіц Іван Таркайла. Гэтаму можна грымнуць з дзвюх.

...Карэта шасцерыком. Коні ў яблыках. Гэтыя, відаць, рэйнвейн п'юць, як пан Юры ў Кёльне, і хоць коні не чыстакроўкі...

— Страляй... Страляй з усіх чатырох. Хаданскія коцяць!

А немец стаіць. А немец чорт ведае чаго сюды прыцягнуўся. Мог бы стаяць сярод гасцей,— не, собіла яму, нюху праклятаму.

...Кірдун глядзіць на тэрасу, бачыць там фігурку маладога Загорскага, і жаль працінае яму сэрца, прымушаючы і пра немца забыць... Божа мой, нашто гэта? Дзіця цэлы дзень на нагах!.. Морацъ, забіваюць дзіця. Паны і ёсць паны. Немец, відаць, усё ж не самы горшы... Прынамсі, любіць паніча, не мучыць яго, як тыя... Тое, што ён мяхом стукнуты — гэта ўсё лухта: без радзімы таксама, гаротны. А без радзімы хто хочаш ашалее... Таксама пашкадаваць трэба... Тым больш бясшкодны зусім, паскудстваў нікому не чыніць. Толькі што прыйдзе ўвечары да аканомкі і просіць: «Гнедзіге фрау... Айн гляс шнапс...»[1] Лузне сабе, бедалага, ды і пойдзе... І правільна кажа, бо ў немцах амаль усе жанчыны гнядыя, а аканомша — вылітая немка. Гнядая і ёсць... Толькі б тут не стаяў, а так зусім прыстойны немец... І паніча любіць... Чорт з ім, няхай стаіць, калі гэта яму цацкі... Немцы, яны немцы і ёсць. Усе чыста — як дзеці. Толькі б ім грымела ды блішчала... Так бы і гулялі ў салдацікі да сівых валасоў... Але ж як там дзіця?.. Беднае дзіця!

Алесю і сапраўды даводзілася цяжкавата. Ён стаяў на тэрасе, адступіўшы на некалькі крокаў ад дзвярэй у дом, так што кожны госць павінен быў прайсці непадалёку ад яго. І з кожным трэба было раскланьвацца. Бацькі стаялі далей, яны абменьваліся з кожным парай слоў, усміхаліся,— ім было не да яго, ён быў нешта накшталт перадавога паста, высунутага ў самае размяшчэнне ворага — enfant perdu, загубленае дзіця.

— Bonjour, madame[2].

---

[1] Дастойная фрау... Шклянку шнапсу... *(ням.)*.
[2] Добры дзень, мадам *(франц.)*.

Мадам сто год. На руках у яе абрыдлівая, кірпатая балонка. Мадам мінае яго, і ён чуе, як яна кажа маці:

— Il est charmant[1].

Часам на адну хвіліну да яго падыходзіць, каб памагчы, француз: шэпча, якога госця ён павінен сустрэць зараз, ці павінен сказаць яму некалькі слоў.

Некаторыя з гасцей выклікаюць у яго агіду. Па сваёй ахвоце ён ніколі б не паехаў да такіх у госці. Так і хочацца сказаць:

— Je faut que rècurez la maison de votre présence[2].

Але так нельга. І ён паважна схіляе галоўку з падплоенымі на канцах валасамі, робіць рукой гасцінны жэст і кажа:

— Bonjour, monsieur.

Бацька бачыць усё гэта аж занадта добра. У самай спіне хлопчыка невыказная пакута. Але ён усміхаецца і шэпча маці:

— Глядзі, што ён вытварае... Les merweilles gymnas tiques[3].

Падыходзіць пан Мнішак... Гэтага шкада... Такі стрыманы гонар у вачах, і такі змучаны твар... Кажа нешта па-польску... Зразумець нельга, хаця гукі і некаторыя словы падобныя...

А вось гарматы грымнулі тройчы. Лёкай абвяшчае недзе пад тэрасай:

— Віцэ-губернатар, іх яснавяльможнасць граф Ісленьеў.

На тэрасу падымаецца гнуткі і станісты стары ў мундзіры палкоўніка. У старога сівыя бакенбарды і зусім малады, без ніводнай зморшчынкі, румяны твар з яснымі вачыма.

Пра гэтага Алесь ведае. Выпадкова чуў размову бацькоў.

Граф не зробіць кар'еры. У яго занадта многа сваякоў, замешаных у той няшчаснай гісторыі,— пра яе ніхто толкам не ведае, яна адбылася год за трынаццаць да Алесевага нараджэння,— калі «ныне здраўствуючы» цар страляў з гармат па людзях. Невядома, што хацелі рабіць тыя людзі. Але стары пры-

---

[1] Ён вельмі мілы *(франц.)*.

[2] Трэба, каб вы аслабанілі дом ад вашай прысутнасці *(франц.)*.

[3] Дзівосы гімнастыкі *(франц.)*.

емны. І ён не мучыць яго, Алеся. Ён ласкава, са старамоднай галантнасцю ківае яму галавой і адразу праходзіць да бацькоў.

Голас маці, у якім, як заўсёды, гучаць бездапаможныя інтанацыі. Яна пытае графа... Нешта аб пераводзе ў Вільню... Граф стрымана смяецца:

— Мне добра ў вашым доме... Рыцарства заняпала. Яго няма. Мы з вамі, як дрэвы на лядзе. Іх пакінулі выпадкова побач, і яны радуюцца гэтаму. Чаго яшчэ патрабаваць ад жыцця? Спадзяюся, ваш малады князь будзе, як вы.

— Я спадзяюся, што ён будзе лепей за нас,— строга адказвае бацька.

Іх не можа чуць ніхто. Іх не чуў бы і Алесь, каб не яго выключны слых, аб якім яны не ведаюць.

...Ідзе цэлая кампанія: поўны сівы чалавек у бездакорным фраку, старая ў чорных карунках і хлопец, можа, гады на два старэйшы за Алеся.

— Граф Мікіта Хаданскі!.. Графіня Альжбета Хаданская... Граф Ілья Хаданскі.

У старога графа паблажлівы,— бо не прыродны, а прыдбаны выхаваннем,— выраз на поўным, сінім ад брытвы абліччы, такі выраз можна бачыць на старых партрэтах. Ён ні да чаго не абавязвае, гэты выраз. Румяныя вусны завучана ўсміхаюцца,— нават ямачка амура на адной шчацэ. Відаць, быў у свой час селадон, ведаў сабе цану.

Калі спытаць аб такіх — добразычлівы чалавек толькі і скажа: «Il a de l'esprit»[1], таму што больш у заслугу ім сказаць няма чаго.

Графіня пабляклая, з прыпухлымі вачыма. Адразу відаць, што злая румза. Алесь чуў і пра яе. Дворня казала. Казала, што з «людзьмі» капрызная, бо ўсё жыццё плача аб першым сыне, які памёр немаўляткам.

Затое Ілья Хаданскі нічога сабе. Гэткі звярок, рухавы, спрытны, гарэзлівы. Вочы сінія і дурнаватыя, як у кацяняці, валасы залацістыя. Такім галубоў ганяць.

Вітаюцца, праходзяць да бацькоў... Цікава было б зараз уцячы з гэтым Іллём і Мсціславам куды-небудзь у лес. Во пашукалі б!

---

[1] Ён дасціпны (*франц.*).

— Пан Таркайла! Панскі брат, Тодар Таркайла!

Гэтыя былі яшчэ больш дзіўныя. Абодва ў дыхтоўных, на сто год, сурдутах шэрага колеру, абодва трошкі занураныя, абодва пышнавусыя, яны чымсьці нагадвалі камічных шляхцюкоў з карціны «Бітва пад Оршай». Праўдзівей, нагадвалі б, бо ні ў аднаго з іх не было ў вачах дабрадушнасці. Насцярожаныя шэрыя вочы, жорсткі прыкус вуснаў. Старэйшы, Іван, той хаця намагаўся ўсміхацца краёчкам вуснаў, ды і наогул быў больш тоўсты і гладкі. Затое Тодар, худы, згорблены нейкай невядомай сілай, глядзеў падазрона і холадна.

Стоячы поруч, яны нагадвалі лічбу «20». Лічбу «20» in fiocchi[1], якая павольна рухалася да дзвярэй у дом.

...Бацька глядзеў на іх. Потым перавёў позірк на спіну сына. Яна была занадта выразная, гэтая спіна. І таму ён усміхнуўся і адшукаў вачыма маладога Маеўскага.

— Мсціслаў, ідзі да Алеся... Пастой з ім трошкі, сынок... Цяпер ужо нядоўга.

Алесю адразу стала лягчэй, калі ён пачуў крокі Мсціслава, а потым дотык яго рукі. Цяпер яны стаялі поруч, два юнакі. А са сходаў, што вялі на тэрасу, плыў і плыў, насустрач ім і абцякаючы іх, стракаты людскі паток, у якім ужо бадай нельга было адрозніць твараў.

— Пакінь,— казаў Маеўскі.— Ты ўсміхайся, а яны няхай сабе ідуць. Chacun son métier. З якой табе прычыны сіліцца ды ножкай дыгаць? À propos de vieilles ganaches?[2]

Вочы Мсціслава смяяліся.

— Такая пані, як простасардэчнасць, сёння пакуль што па point paru[3]. Нават прызнала лішнім de faire acte de présence ici[4]. Няма чаго ёй тут рабіць.

— Слухай,— ціха спытаў Алесь,— чаму гэта ўсе яны тут гавораць не так?

— Прыкідваюцца ўсё... Строяць з сябе больш годных, чым на самае справе.

---

[1] У парадным касцюме *(іт.)*.

[2] Кожнаму сваё... З прычыны (з'яўлення) гэтых старых тупіц? *(франц.)*

[3] Зусім не з'яўлялася... *(франц.)*

[4] З'явіцца тут на кароткі час *(франц.)*.

— Не, я не ў тым сэнсе. Чуеш, французская мова... Яна заглушае ўсё. Напэўна таму, што вельмі-вельмі прыгожая. Але ж яны не французы, гэтыя Хаданскія і іншыя. А вось гучыць польская — даволі моцны паток. А вось руская... І ніхто пакуль што словам не абмовіўся на мужыцкай, акрамя цябе...

— А мне ўсё адно... Бацькі ў мяне няма. Маці заўсёды на водах, хворая. Ніхто не прымушае.

— ...Ды яшчэ Басак стары і бацькі, калі гавораць са мной, то гавораць па-мужыцку. У чым тут справа?

— А хіба гэта мова для князя? — усміхнуўся Мсціслаў.— Гэта, брат, так... Мужыкі гавораць, бо іх ніхто не вучыў. Хіба іх мову параўнаеш з французскай? Яна бедная і грубая.

— Бадай што, і так,— сказаў Алесь.— Але ж чаму яны не саромеюцца гаварыць на гэтай грубай мове, калі загадваюць мужыкам: «Дашлі сёння сыноў з крыгай. Паны юшку будуць есці, дык,можа,якая рыбіна ўблытаецца?» І тут ужо не саромеюцца такіх грубых слоў, як «крыга», «ублытаецца». Нешта тут не да ладу. Табе што, таксама не падабаецца?

— Мне падабаецца,— пасля доўгай паўзы сказаў Мсціслаў.— Мне нават здаецца, што яна мяккая, толькі іхняе вуха не чуе... Тут, разумееш, нешта накшталт спеву рагоў на псовым паляванні. Італьянец ад яго вушы зацісне, гэта для яго, як Бетховен пасля Беліні, а між тым няма для вуха сапраўднага паляўнічага музыкі, саладзейшай за гэту.

Памаўчаў.

— Толькі... не нашага розуму гэта справа. Потым дадумаю.

У гэты момант у круг гонару ўз'ехала старадаўняя карэта шасцерыком. Спынілася перад сходамі.

— Памыліўся,— вочы Мсціслава смяяліся,— з'явілася нарэшце і добрасардэчнасць. Во, брат, весялосці будзе.

Лёкай абвясціў нейкім асабліва высокім голасам:

— Высакародная пані Надзея Клейна з дачкой.

Сажэннага росту лёкай скочыў з запятак і з ляскам адкінуў падножку, расчыніў дзверы.

— Проша...

У карэце нешта варушылася, не хочучы вылазіць.

Другі лёкай паспеў за гэты час памагчы фурману

прыўзняць гальму[1] (пані, відаць, увесь час загадвала трымаць яе на коле, баялася хуткай язды) і зняў з галоўнага каня хлапчыну-фарэйтара, у якога замлелі ногі, а з карэты ўсё яшчэ ніхто не выходзіў.

— Зараз будзе смех,— паўтарыў Мсціслаў.

З карэты пачулася бурчанне. Потым нехта перадаў на рукі першаму лёкаю моську, вельмі тлустую і азызлую, але — дзіва! — зусім не агідную. Потым яшчэ адну. Лёкай дарэмна спрабаваў прытуліць іх да грудзей адной рукою, каб падаць другую камусьці, хто сядзеў унутры.

— Сабакам нязручна,— сказала з карэты буркатлівае старэчае кантральта.— Трымай Кадошку лепей, чорт бязглузды. А Віялету апусці... Ты што, не бачыш, што яна патрэбу справіць хоча?.. Ды не сунь ты мне сваю руку. Што мне, сто год?

Зноў дзіва: міма Алеся паспяшаў да сходаў бацька. Весела падміргнуў сыну. Збег уніз і, падышоўшы да дзверцаў, галантна падставіў руку.

— І ты яшчэ тут, бацечка... Не рассыплюся, пэўна, неяк.

І тут, нарэшце, з'явілася з карэты і стала павольна апускацца ўніз постаць старой жанчыны, такая незвычайная, што Алесь вылупіў вочы.

Старая была апранута ў карычневы строй з карункамі, такі шырокі, што ўся яе нізенькая постаць здавалася падобнай на невялікі стажок сена. На сівых буклях непрыступна ўзвышаўся беласнежны высокі чапец. Твар старой выглядаў асабліва цёмным пад гэтым чапцом, пергаментна-карычневым. Але цемната гэтая не была безжыццёвай, надта ўжо здаровы буры румянец выступаў на шчоках.

— Ну-к,— прагучала кантральта,— давай пацалуемся хіба, ці што... Пастарэў ты, лэйбус, пастарэў... Спакайната стала ў вачах.

— Якая тут спакайната,— усміхнуўся бацька.

— Я і не кажу, што зусім спакайната. Проста больш чым трэба яе стала. А малайчына быў. Памятаеш, мужа-нябожчыка як з вады выхапіў? Зух быў, зух.

Яна глянула на лёкая з іранічнай ухмылкай, бо той непаразумела глядзеў на Віялету, відавочна не ве-

[1] Гальма — своеасаблівы тормаз.

даючы, што яму цяпер рабіць. Віялета ляжала, растапырыўшы ўсе чатыры лапы.

— Вазьмі ўжо яе. Аддай Янку. Няхай ляжыць у карэце, калі пераела. Стрымацца не магла, тэльбушына прагная... А сам ідзі ў людскую... Выпі...

Дапытліва зірнула на бацьку:

— Спадзяюся, не паскупіўся ты на гарэлку для людзей?

— Не паскупіўся.

— Ну-ну. Тады ўжо як струбіш багацце — прыходзь да мяне. Хлігер адвяду для цябе дый для сабак тваіх.

І гукнула ў карэту:

— Вылазь, Ядзя. Не бойся, не пакрыўдзяць.

З карэты другі лёкай дастаў маленькую і зграбную, як ляльку, дзяўчынку год дзевяці. Дзяўчынка была, таксама як лялька, апранута ў блакітную шаўковую сукенку, высока, амаль пад пахамі, перахопленую танюткім паяском. Валасы дзяўчынкі, попельныя, бязважкія, ляжалі ў доўгай — на грэчаскі манер — прычосцы.

— Во пакутніца малая,— сказаў пяшчотна Мсціслаў.

Алесь не смяяўся. Клейна не была яму смешная. Занадта добра, працягла, зусім як нейкая вясковая бабуля, гаварыла яна па-мужыцку. І было ў яе мове тое, чаго не бывае не ў вясковых людзей: закончаная меладычнасць кожнага сказа, уласцівая для мужыцкай мовы. Як удых і выдых. Колькі набрала паветра ў грудзі — столькі і аддала ім і праспявала сказ, шчодра, не пакінуўшы для сябе ні драбніцы паветра, каб вымавіць яшчэ адно слова.

А малая Ядвіга і наогул кранала яго. Такая маленькая, як лялька. І раток лялечны. І вялізныя сінія вочы глядзяць з такой нявіннасцю і дабрынёй.

А старая ўжо скардзілася бацьку:

— Што гэта за час пайшоў? Што ўжо за долечка такая ліхая, апошняя? Гасцінец каменем забрукавалі ірады гэтыя дурныя. Грукоча і грукоча пад коламі. Раней дык як добра было! Пыл мякенькі, як той дзьмухавец, рысораў табе гэтых ніякіх. А цяпер! І брук, і рысоры. Быццам каменнямі мяне ўсю дарогу білі, як першапакутніка Стафана, бог яму няхай за ўсё адплаціць дабром... Рысораў напрыдумвалі...

Гэта ўжо горш за карабель, на якім да мужа на Каўказ ехала,— так закалыхвала. Пасля іх гэта ўжо апошнія часіны нашы настаюць. Апошняя гадзінаčка наша. Мудруюць людзі!

Ядзя прыціснулася лялечным тварыкам да яе рукі, і яшчэ больш пяшчотнай і свежай здавалася скура на шчоках дзяўчынкі ў параўнанні з цёмнымі пальцамі старой.

— Глядзі,— шапнуў Алесю Мсціслаў.— Гэта яшчэ што?

У карэце яшчэ нешта заварушылася, а потым з яе вылез нехта такі дзіўны, што Алесь уздыхнуў. У гэтага дзесяцігадовага чалавека зусім не відаць было носа. Скура чорная, як вакса, і таму нос нельга было адразу заўважыць. Чорны, як сажа, стаяў ля карэты хлопец у блакітным курціку, і толькі вільготна блішчалі яго белыя зубы.

— Гэта мой мурын,— з некаторым гонарам растлумачыла старая пані.— Саслужывец мужа-нябожчыка прывёз падарунак. Вымяняў аж у Турэччыне, калі хлот туды хадзіў...

Мсціслаў падштурхнуў Алеся:

— Пра гэтага і я чуў. Таркайлаў брат плётку пусціў, што гэта яна звычайнага хлапчука сажай вымазала... для пыхі. Дык яна яго набіла. Проста так і набіла старэчым сваім кіем. Каб не плявузгаў.

— А нашы і не ведалі...

— Вашы мала з кім сустракаюцца. Шляхта кажа: грэбуюць, заганарыліся... Ды і я толькі што чуў пра яго. Але ж які чорны! Я і не думаў, што можна быць такім чорным.

Старая з дзяўчынкай і пан Юры ішлі ўжо да сходаў.

— Ды нашто ён вам? — спытаў пан Юры.

— А я і сама не ведаю нашто. Але ж павагу аказаў чалавек, нельга не ўзяць.

Старая ўсміхнулася:

— Мурын... Розныя дзівы бываюць... ой, розныя! І занепакоена спытала ў бацькі:

— Быў жа, здаецца, святы з мурынаў? Ці, можа, не?

— Быў,— сказаў бацька.— Здаецца, Хведар-мурын.

— Ну вось,— уздыхнула з палёгкаю Клейна.—

А я ж і спрачалася, што быў. Таксама, значыць, божыя душы. З сабак, скажам, а ці то з малпаў святых не бывае, не папусціць бог.

— А людзі папусцяць?

— Людзі, брат, за грошы ўсё што хочаш папусцяць. Люцыпару псалмы складаць будуць, бацькаўшчынай гандляваць, ды яшчэ і ў Бібліі адпаведнае месца адшукаюць, што бог, маўляў, і гэта ім дазволіў.

— Святых жа, здаецца, на ўсяленскіх саборах зацвярджалі? — блюзнерыў бацька.

— А там што, не людзі? Таксама, брат, людзі. Не серафімскімі ж крыламі яны ў Нікеі Арыя завушалі. Звычайнымі кулакамі... Біліся, як мой Марка ў карчме.

— Які гэта Марка?

— Быццам і не ведаеш? Таго, што на аброку? А божа ж мой, Марку майго ён не ведае! Ды той самы, што ў Сухадоле па вулках хлеб без скарынкі возіць...

Бацька пырснуў. Бабуля падазрона паглядзела на яго.

— А ты не блазнуй. Бог усё бачыць. І твае смяшкі, і Марку, і прагнасць людскую, і нікейскія «серафімскія крылы».

Усміхнулася:

— Бываюць, значыць, з мурынаў святыя. Я ж казала, божыя душы. Значыць, заўтра ж ахрышчу, цябе вазьму хросным бацькам...

— Ды які я яму хросны? — зарагатаў бацька.

— А ты маўчы. Гэта і мне і табе залічыцца, за многія твае грахі. Дамо яму імя ў памяць пакутніка Яна... А там я падумаю-падумаю ды і ў прыёмышы яго вазьму.

— Прыгоннага.

— Ды які ён прыгонны? Ён жа чорны, як бот. Такія ў прыгоннікі не прыдатныя. Бог іх, відаць, за нешта колерам адзначыў.

І раптам Надзея Клейна засмяялася так, што затрэслася ўсё яе рошчыністае цела.

— А потым дам за ім пару хутароў. Чаму ж не? Раней у многіх калмычкі выхоўваліся. Гадавалі іх, пасаг давалі, выдавалі замуж. І нічога, многія жаніліся. Нават пікантным лічылася. Дык вось я і Янку ажаню. А чаму не?

— Ды хто пойдзе?

— Усе пойдуць,— сказала старая.— Паглядзела б я, якая засцянковая паненка за яго не пайшла б. Гэта каб супраць майго жадання, ды калі я сваццяй буду?! О-го, паглядзела б... А што ж такога? Хлопчык ён добры, сардэчны, галоўкай лашчыцца. Шанаваць жонку будзе, цаніць і шчасце і дабрабыт. Не тое што гэтыя п'янюгі ды сабакары,— прабач, бацюхна.

Памаўчала, падціснуўшы вусны.

— А і тая нейкая пойдзе. Добрыя ды багатыя мужы для бедных дваранак на дарозе не валяюцца. Няхай сабе і цёмны. Не папэцкае, пэўна. Гэта ў яго ад прыроды.

І ціха, адзін пан Юры чуў, спытала ў яго на вуха:

— Цікава толькі, якія ж гэта ў іх дзеці будуць? Крый божа, калі як шахматная дошка... квадратамі... Га?

— Такія не будуць.

— Ну то тады і добра... Будзе мне занятак на старасці год.

Яны набліжаліся да падлеткаў, якія стаялі асобна. Клейна падышла бліжэй за ўсіх і ўтаропіла ў хлопцаў пільны позірк.

— Гэты,— пасля імгненнага роздуму паказала яна кійком на Алеся.— Вочы матчыны, а позірк твой. Толькі, прабач, без тваёй цяперашняй спакайнаты. Хлопец *будзе. Будзе* хлопец, кажу табе. Не прывучай толькі сабакаром быць.

Зрабіла рэзкі рух.

— І адпусці. Адпусці адсюль. Асалоды ў гэтым мала, ляжаць на вачах усіх, як мухі ў місцы... Антаніда, віншую цябе. Будзе хлопец. Позірк просты, шчыры, не тое што ў гэтых малімончыкаў яго ўзросту... Ну, давай пацалуемся, Антаніда... А вы, дзеці, марш гуляць... І Яначку з сабой вазьміце. Ды не крыўдзіце яго там. Ён сірата.

Дзяцей і прасіць не трэба было: як чародка вераб'ёў, сыпанулі па сходах.

— Каго яшчэ няма, Georges? — спытала матухна.

— Раўбічаў няма. Кроера няма. Старога Вежы няма.

— Добра. Хай ідуць дзеці,— уздыхнула Загорская.

Алесь бег наперадзе ўсіх. Дзеці абагнулі палац, горку, на якой распараджаўся гарматамі Кірдун,

карцінны павільён і спыніліся ў гушчары парку, дзе была дзярновая лаўка.

Усе селі. Зялёная сетка святла ляжала на тварах дзяцей.

— Дык як жа вы жывяцё, Ядзвінька? — спытаў Алесь.

Лялечны тварык схіліўся ўніз. Вочы, такія нявінныя і сінія, засаромлена глядзелі на Алеся.

— Я з маці жыву. І з Янкам. У мяне тры старэйшыя браты... Былі тры браты... Два загінулі на вайне... Адзін — хто яго ведае дзе, мне не кажуць. Я апошняя. Ніхто ўжо не чакаў мяне, а я ўзяла ды і нарадзілася. Усе за мяне таму вельмі баяцца. Толькі я не баюся. Я люблю, каб цёпла. Люблю, калі спяваюць. Люблю, каб мне не перашкаджалі. А баюся толькі, калі хлопчыкі злыя... І сабак.

Алесь слухаў гэта з памяркоўнай усмешкай.

— Мы не будзем злыя,— сказаў Алесь.— Праўда, Мсціслаў? І сабакам яе ў крыўду не дамо. Што сабакі. У мяне унь два кані ёсць.

— Сапраўдныя коні? — спытала малая Клейна.

— Анягож.

Дзяўчынка паглядзела на яго з павагай.

— Ну а ты, Янка? — спытаў Алесь.

— Я зусім як яна,— вінавата ўсміхнуўся хлопец, і ўсе зноў здзівіліся, як па-вясковаму, амаль зусім чыста вымаўляе ён словы.— Толькі я не ведаю, дзе мае бацькі.

— Так зусім і не ведаеш? — спытаў Мсціслаў.

— Помню... Слаба... Помню агні... Вакол іх, на ражнах, сушылі рыбу... І зусім не помню бацькоў... Толькі аднаго Кемізі... Напэўна, ён быў мне брат... Не ведаю... І яшчэ помню жаночыя рукі... Нічога больш — адны рукі... Аднойчы з'явіліся крылатыя чаўны... Людзі казалі — «даў»[1] і паказвалі на іх пальцамі. Дзяцей схавалі, але нас усё адно адшукалі... Усе нашы, акрамя нямногіх, ляжалі на пяску... У Кемізі тырчала ў грудзях палка... Потым нас везлі морам... Потым быў нейкі бераг, і белы-белы пясок, і пячора з крыніцай, куды нас заганялі на ноч. Усё гэта звалася Мангапвані[2], а вартавалі нас людзі ў

---

[1] Судна гандляроў рабамі.

[2] Астравок ля заходняга берага Афрыкі. База арабаў — гандляроў рабамі.

белых павязках на галаве... Потым я згубіў сваіх, іх не стала... Зноў было мора і потым вялікі горад, дзе мяне зноў купілі... І прывезлі сюды.

— Янка,— падаў голас Мсціслаў.— Няўжо гэта ты ад прыроды такі? Можа, гэта проста таму, што ты мыешся не так, як трэба?

— Я мыюся,— уздыхнуў Янка.— Не, тут ужо нічога не зробіш. І спрабаваць не варта.

— Ну і чорт з ім,— сказаў Алесь.— Падумаеш, бяда вялікая.

Яны сядзелі і гаварылі аб розных цікавых рэчах даволі доўга. Потым здалёк, з лагчынкі пад горкай, ударылі чатыры гарматы. Адным залпам.

— Прыехаў нехта,— з неахвотай падняўся Алесь.— Трэба ісці.

— Сядзі-і,— сказаў Мсціслаў.

— Не, брат, трэба. Можа, гэта дзед. Тады не пахваляць.

— Дзеду тройчы стралялі б... Гэта або Раўбічы, або Кроер.

— Усё адно. Трэба ісці.

Калі яны падыходзілі да круга гонару, на ім, ля самай тэрасы, кідалі павады на рукі слугам два чалавекі. Адзін з іх, худы і жылаваты, вельмі пахмуры, быў незнаёмы Алесю. Гэты чалавек злазіў з белай кабылкі павольна, з падкрэсленай стрыманасцю. Ваўкавата глядзелі вочы з-пад калматых брывоў, доўгія як вілы, вусы звісалі на зялёны паляўнічы гарнітур.

Затое другога Алесь пазнаў адразу. Ні з чым нельга было зблытаць гэтыя зеленаватыя, як у рысі, вочы пад брывамі пясочнага колеру. Ні ў кога не было такіх учэпістых рук і такіх кашэчых спрытных рухаў.

Жандарскі паручнік Мусатаў уласнай персонай завітаў у Загоршчыну.

Перадаўшы коней слугам, абодва пайшлі па сходах на тэрасу — адзін справа, другі злева, быццам не жадаючы папіраць нагамі адны і тыя ж прыступкі.

Алесь заспяшаўся. Калі дзеці падышлі да Загорскіх, Клейны і Ісленьева, Мусатаў ужо стаяў перад імі. А пахмуры чалавек чакаў наводдаль, муляўся, быццам не адважваючыся падысці.

— Прабачце, мадам,— сказаў Мусатаў.— У мяне справа да іх сіяцельства.

На аблічча Ісленьева з'явілася грымаса пакуты.

— Ну што яшчэ? — спытаў ён.

Матуля, каб не перашкаджаць віцэ-губернатару, звярнулася да бацькі:

— Чаму ж гэта Кроер не едзе?

— Асмелюся звярнуцца, мадам,— шчоўкнуў абцасамі паручнік.— Пан Кроер не прыедзе.

— Чаму? — спытаў бацька.

— У адной з вёсак пана Кроера бунт,— ціха сказаў Мусатаў.

— Дзе?

— У Півошчах.

— З якой прычыны?

Паручнік пацісвуў плячыма. Твар Ісленьева скрывіўся.

— Якія загады вы прынялі? Спадзяюся, ніякіх агіднасцей? Стараліся ўгаварыць?

— Стараліся. На жаль, не дапамагло. Давялося страляць. Ёсць параненыя.

Свежае аблічча графа збялела:

— Ведаеце, чым гэта можа скончыцца?

Голас яго сарваўся. Наступаючы на Мусатава, ён патрасаў перад яго носам белымі сухімі старэчымі рукамі.

— Гэта чорт... Гэта чорт ведае што такое! Beau monde! Notabilités![1] Як вы смелі прыехаць да мяне пасля такога?.. Мала было крыві? Мала шыбеніц на верках?

— Супакойцеся, супакойцеся, граф,— дарэмна спрабаваў сказаць слова бацька.

Мусатаў павярнуўся і пайшоў да сходаў, вонкава амаль спакойны. І толькі тут граф, глыбока ўздыхнуўшы, сказаў глухім голасам:

— Стойце... Вазьміце з сабою лекара... Спадзяюся, пан Юры дазволіць...

Бацька моўчкі схіліў галаву.

— Вось,— сказаў Ісленьеў.— Загадайце запрэгчы коней... І запамятайце, вы ніколі не з'яўляліся сюды з вашымі ганебнымі звесткамі. Я нічога не чуў... Я нікога не бачыў...

Голас ягоны перасеў. Ён нагадваў цяпер распатланага драча, які з крыкам робіць вартую жалю скід-

---

[1] Свет! Ганаровыя асобы! *(франц.)*

ку, дарэмна імкнучыся адцягнуць увагу сабакі ад чагосьці дарагога яму.

І ён пайшоў у дом, неяк дзіўна заграбаючы правай рукой паветра і не звяртаючы ўвагі на гасцей, якія стаялі наўздалёк, нічога не разумеючы.

— Дастукаўся Канстанцін,— змрочна сказала Клейна.— І падумаць толькі, што ён твой траюрадны брат, Антаніда. Бадай з аднаго гнязда горлінка чыстая і драпежны воўк. Цьфу!.. Спадзяюся, ніхто не памрэ...

— Хто памрэ? — спытаў Алесь у маці.— У каго стралялі?

— Ніхто не памрэ, сынок,— сказаў бацька.— Стралялі проста салдаты... на стрэльбішчы. Лухта ўсё... Ідзі... ідзі да дзяцей. Хутка я цябе паклічу.

І як толькі Алесь аддаліўся, сказаў Клейне:

— Чуў.

— Чуў, але не зразумеў,— сурова сказала старая.— Цяжка зразумець такое.

— А я ж казаў,— прамовіў пан Юры.

Губка маці, пяшчотная губка з мушкай-радзімкай, дрыжала.

— Божа,— сказала яна,— за што ж гэта? За што такое? Мне ён, урэшце, не больш прыемны, чым табе... Такі грубы, такое быдла... І гэты няшчасны, такі жалкі граф... З яго жыццём, з яго маладосцю...

— Э,— сказаў бацька.— Ці мала іх з такой маладосцю? Вось былы наш губернатар, Міхаіл, граф Мураўёў. Пачынаў разам з *тымі*. Братоў павесілі — а ён у чынах ходзіць. Браты ў Сібіры, а ён член Дзяржаўнай Рады вось-вось будзе, калі ўжо не ёсць...

— Georges,— умольна сказала маці,— я прашу цябе, ніколі больш не гавары пра забойствы... Прашу.

— Добра,— сказаў бацька.— Я толькі думаю... Трэба аб'явіць гасцям.

— Так, канешне ж так,— заспяшалася маці.— Адразу ж зрабі.

— Ану маўчыце... вераб'і,— сказала Клейна.

— Што? — спытала маці.

— Глупства не вярзіце,— сказала старая.— Свята юнаку сапсуеце — чым ён вінаваты? Ён, ці што, з дурным дзядзькам сваволіў ды з паручнікам страляў?

— Што ж рабіць? — жаласна спытала маці.

— Маўчаць,— кінула Клейна.
— Гэта цяжка,— сказаў бацька.
— А вы цяжар у душы нясіце... Гэта вам пакута за дурнога сваяка...
Уздыхнула. Сказала ўжо больш спакойна:
— Святкуйце... Святкуйце, каб сынок ніколі не быў такі.
— Я ведаю,— небывала сур'ёзна сказаў бацька.— Я і сам хацеў гэтага.
— За гэта я і люблю цябе, князь-вісус,— сказала Клейна.
...А ў гэты час Алесь пытаў у Мсціслава:
— Што там адбылося? Нічога не разумею.
— І я не разумею,— сказаў Мсціслаў.— Дарослыя... Ты вось скажы мне, ведаеш ты таго даўгавусага?
— А я ведаю,— весела віскнула Ядзя, амаль дагодліва гледзячы ў Алесевы вочы.
Дзяўчынка, задаволеная тым, што і яна, нарэшце, можа быць карыснай у такой цудоўнай кампаніі, весела засакатала:
— Мы з маці былі аднойчы ў старога Вежы... Стары Вежа маці паважае... І гэтага даўгавусага мы там бачылі... Гэта Кандраці, малочны брат старога Вежы. Ён наглядае за яго лясамі.
...А бацька, між тым, таксама заўважыў даўгавусага.
— Вось ён, Антаніда,— сказаў пан Юры.— Напэўна і з Вежам нешта не да ладу.
Кандраці наблізіўся да паноў. Глядзеў на іх трохі нават вінавата. Але ганарыста выступала з-пад доўгіх вусоў крутая ніжняя сківіца.
— Што здарылася, Кандраці? — спытала маці Антаніда.
— Стары пан просіць прабачэння,— суха сказаў даглядчык.— Ён не зможа прыехаць... У яго... гм... падагра...
— Што за чорт,— сказаў бацька,— ніколі ў яго ніякай падагры не было.
— Я ўсё разумею, любы,— сумна сказала пані Антаніда.
Кандраці крэкнуў ад шкадобы.
— Пан просіць прабачэння,— са скрухай паўтарыў ён.— Падарункі княжычу едуць. Будуць тут праз

гадзіну... Пан таксама пасылае пані і сыну сваю любоў. І пані Клейне пасылае сваю любоў...

— Патрэбна яна мне ўжо дужа, тая любоў,— сказала Клейна.— І тут не мог як усе людзі зрабіць, казёл стары... А я з ім яшчэ менуэт калісь танцавала.

— ...і пану Графу Ісленьеву — сваю любоў,— спяшаўся Кандраці.— А маладому князю сваю непарушную любоў і блаславенне... А сам просіць прабачэння...

— Кандраці,— сказала матухна.— Скажы, чаму ён так зрабіў?

— Не магу ведаць,— апусціў вочы даглядчык.

— І ўсё ж? На нас злуецца?

Наглядчык яшчэ ніжэй апусціў галаву.

— Ён сказаў... Ён сказаў... «Халуі ўсе».

Бацька толькі рукою махнуў:

— Ну і добра. Заставайся тады ты замест яго. І на месца яго за сталом сядзеш.

Кандраці пакланіўся:

— І ён мне так сказаў... Сказаў, што шчаслівы быў бы, каб я мог замяніць яго... Ды толькі прабачце, пан Юры, прабачце, паніматка, я гэтага аніяк не магу, бо я хаця і вольнаадпушчанік, а ўсё адно свайму малочнаму брату раб, а фаміліі вашай давеку ўдзячны і шкодзіць яе гонару аніяк не згодны.

На твары Загорскага быў такі разгублены выраз, што Клейна няўлоўна ўсміхнулася, а ў вачах яе загарэўся гарэзлівы, амаль дзіцячы, малады агеньчык.

— Ідзі, бацюхна,— сказала яна бацьку.— Ідзі, пазнаём сына з Раўбічамі. Я ўжо тут неяк сама спраўлюся, можа... Ану, хадзем са мною, пане Кандрат. Паходзім між гасцей. Ты мяне, старую, пад руку паводзіш — хай госцейкі шаноўныя асудзяць. Калі Вежа так сказаў, дык мы яго ўважым...

— Яны не наважацца,— змрочна сказаў Кандраці.

— Правільна,— згадзілася старая.— У тым і бяда, што ён мае рацыю, стары казёл. Халуі ўсе. Што б дужы ні зрабіў — змоўчаць. Вольнасць у іх адабралі — змоўчалі. Са старых паселішчаў сагналі — змоўчалі. Прымусілі права на шляхецтва даводзіць — і тут яны змоўчалі.

Моцна сціснула локаць Кандрацію, даяральна шапнула яму на вуха:

— Ты прабач, Кандраці. Ты ідзі і рабі выгляд, што цябе вядуць, што табе няёмка... Я прыдумала — мой і адказ... Надта ўжо мне, старой, іх падражніць хочацца.

— А вы падумалі, як гэта *мне?* — спытаў Кандраці.

— Падумала,— вельмі сур'ёзна сказала Клейна.— Падумала, бацюхна. Ведаю — цяжка. Але ж я цябе, чортавага сына, люблю, сам ведаеш. Дык ты паступіся, паступіся на хвіліну гонарам... Няўжо вялікая цана, каб поўху ўсім гэтым хвостміжножнікам даць? Га?

Кандраці глядзеў на яе, сурова выпнуўшы крутую скіўцу. Потым у яго вачах таксама зачапіліся іскаркі. Ён рашуча крэкнуў, вызваліў перадплечча з пальцаў Клейны і далікатна ўзяў яе пад локаць.

Дзівосная пара пайшла па тэрасе. Клейна і Кандраці ішлі, паважна размаўляючы аб нечым, міма купак гасцей, сустракалі там-сям здзіўленыя альбо шакіраваныя міны. Тады старая зіркала проста на іх цяжка і ўладна — і вочы апускаліся.

...А пан Юры тым часам вёў Алеся праз танцавальную залу, авальную, з тонкімі белымі калонамі і хорамі, на якіх ужо брынкліва настройваў скрыпкі і басы аркестр. Шматлікія госці купкамі стаялі між калон, гаманілі і смяяліся. Пан Юры і Алесь падышлі да адной з купак.

— Знаёмцеся,— сказаў Загорскі.— Гэта мой сын... А гэта Раўбічы, сынок, бліжэйшыя нашы суседзі... Вось гэта пан Яраслаў Раўбіч.

Алесь схіліў галаву, а потым, можа, занадта рэзка, ускінуў яе. Яму аніяк не хацелася, каб нехта заўважыў у ягоным паклоне нясмеласць. А ён пабойваўся. Усё ж гэта быў той самы Раўбіч, у доме якога гарэў далёкі агеньчык, такі маленькі, як іскра... Той самы Раўбіч, якога лічылі чараўнікам вясковыя дзеці. Той Раўбіч, з падполаў якога цягнула серай. Той Раўбіч, пра якога казалі, можа, і зусім няпраўду, быццам ён страляў на раздарожжы ў прычасць.

Раўбіч уважна глядзеў на Алеся. Быў ён сярэдняга росту, але моцна складзены, з кароткай шыяй і магутнымі пукатымі грудзьмі. Чорныя як смоль і сівыя на скронях валасы стваралі на патыліцы магутную грыву, а спераду падалі на лоб касой скобкай.

Твар быў шыракаваты ў скулах, але ладна вытачаны. Бровы доўгія, вычварна зламаныя і таму пагардлівыя, а лоб пераходзіў у нос амаль роўна, як на старых статуях. Шчыльна сціснутыя вусны вялікага рота, высокі гладкі лоб — усё гэта пасавала да агульнага выгляду і рабіла няправільны ўвогуле твар нейкім па-мужчынску прыгожым. Але самыя дзіўныя былі вочы: халодныя, карыя, з такімі пашыранымі зрэнкамі, што райка, здаецца, зусім не было. Гэтаму ўражанню дапамагала яшчэ і тое, што вейкі былі доўгія і густыя, зусім не мужчынскія, а на павеках, займаючы ўсе вачніцы, ляжаў асмужаны цёмны цень.

Страшнавата было глядзець у гэтыя вочы. І ўсё ж Алесь глядзеў. Гэты твар палохаў, але адначасова нечым прыцягваў яго. Цяжкі, знясілены нейкай неадчэпнай думай, змардаваны і грозны твар.

...Вочы без райка глядзелі ў вочы хлопцу, быццам выпрабоўваючы. І Алесь, хаця яму было амаль фізічна цяжка, не апусціў вачэй. І тады, пасля хвіліны гэтай нямой дуэлі, на сціснутых вуснах у Раўбіча з'явілася ўсмешка.

— Будзе сапраўдны князь,— трошкі нават расчулена сказаў ён.— Не сродак, не цацка чужой сілы... Віншую цябе, гаспадар Юры.

Толькі калі Раўбіч адвёў вочы, Алесь заўважыў, якая на ім дзівосная вопратка. Гэта быў сурдут не сурдут, а нешта пашытае пад кароткую і шырокую чугу. Пашытае, відаць, першакласным майстрам з вельмі дарагога, танюткага шэра-блакітнага сукна. Каб не гэта, Раўбіч выглядаў бы старасвецкім дваранінам з мядзведжага кута.

Усё астатняе было звычайнае: шэрыя панталоны, забраныя ў боты на высакаватых абцасах. Усё, акрамя аднаго: запясце правай рукі, жылістае і загарэлае, моцна перахопліваў шырокі жалезны бранзалет, пацьмянелы ў паглыбленнях, бліскучы на пукатых паверхнях, зроблены таксама па-майстэрску. Алесь краем вока заўважыў на ім нейкія трыліснікі, сцяблiны чартапалоху, стылізаваную шыпшыну на канцы і фігурку конніка на шалёным кані. Ад гэтых назіранняў адарваў яго мяккі жаночы голас:

— Яраш, ты паглядзі толькі, які ён зараз гожанькі. Проста хлопчык з партрэта Аляшкевіча.

Абражаны гэтымі словамі, ён тарганул галавой

управа і сустрэў спакойны позірк цёмна-блакітных вачэй сталай жанчыны, якая стаяла побач з Раўбічам. Жанчына была звычайная, з русай каронай валасоў на галаве, з трошкі вінаватай, вельмі жаночай усмешкай на прывялых вуснах.

— Вось вам і мой старэйшы, пані Эвеліна,— сказаў бацька.— Бачыце, які недарасль выгадаваўся.

— Які ён недарасль,— сказала Раўбічава.— Ён проста харошы хлапчына. Якраз таварыш майму Франсу. Пазнаёмцеся, дзеці...

Франс, чорнавалосы, матава-бледны, прыгожы хлопчык, працягнуў Алесю руку з пачуццём уласнай годнасці. Тонкі рот ветліва і трошкі завучана ўсміхаўся. Малады Раўбіч, асабліва ладны ў сваім бездакорным дзіцячым фраку з чорнага тонкага сукна, схіліў галаву:

— Мяркую, вы цяпер будзеце ў нас частым госцем, князь,— сказаў ён па-французску.— Ваша свята падабаецца ўсім, і вы таксама.

Алесь таксама схіліў галаву. Паводзіны Франса яго забаўлялі, і ён паспеў заўважыць за манерамі маладога прыдворнага тое, што ратавала Франса і не рабіла яго смешным: нейкую ўнутраную іронію да таго, што ён казаў.

— Чаму вы не прывезлі сваёй малодшай? — ветліва спытаў пан Юры.— Старэйшую я заўважыў. А Наталі няма...

— Што вы,— вінаватая ўсмешка Раўбічавай рабіла яе твар асабліва прыемным.— Наталі ж толькі два гады.

— Гэта дзіцячае свята,— сказаў бацька і падкрэсліў: — Таму я і запрашаў усіх. Для такіх гасцей мы аддалі асобны пакой з цацкамі.

— Я думаю, што наступны раз мы выправімся,— сказала пані Эвеліна.— А пакуль што, сапраўды, дзе ж старэйшая?

З натоўпу гасцей якраз у гэтую хвіліну выбралася дзяўчынка,— гады мо на два маладзейшая за Алеся,— па-дзіцячы даўганогая, у белай, званочкам, сукенцы, што адкрывала яе загарэлыя моцныя ножкі.

— Notre enfant terrible[1],— з усмешкай сказала Раўбічава.

---

[1] Наша немагчымае дзіця *(франц.)*.

Enfant terrible набліжалася да іх даволі рашуча і амаль цягнула за руку, як вялізную ляльку, Ядзечку Клейну. Тая ледзь паспявала за сваёй мучыцелькай.

— Вось,— сказала мучыцелька.— Вось яна, Ядзя. Так і не ўцякла.

— Вечар добры, Ядзенька,— сказала Раўбічава.— А ты, Міхаліна, трымай сябе прыстойна. Вось хлопчык, якога сёння стрыглі, пазнаёмся з ім.

— Яго толькі сёння стрыглі? — прыўзняла бровы дзяўчынка.— Зусім як дзяўчынку... Бедны!

Вочы Раўбіча смяяліся. Ён скоса глянуў на пана Юрыя і сустрэў яго вясёлы позірк.

— Не чапляйся да слоў, Міхаліна,— сказала Раўбічава.

— Ма-а,— з дакорам сказала малое,— ты ж ведаеш, я не люблю...

— Не чапляйся да маіх слоў, Майка,— больш паблажліва сказала маці.

— Не буду,— сказала Майка.— Дальбог, не буду, матулечка

І глянула на Алеся халаднаватымі вачыма.

— У вас нейкае зусім сялянскае імя, хлопчык,— паважным птушыным галаском сказала яна.— Чаму б гэта?

Алесь раззлаваўся:

— А чаму гэта ў вас такое дзіўнае імя, маленькая дзяўчынка?

Белая шаўковая яе сукенка прыемна адцяняла слабы залацісты загар на руках. Валасы былі сабраны ў высокую прычоску, смешную на дзіцячай галоўцы.

«Каб не язык, зусім някепскае было б дзяўчо. Адцягаць бы цябе за валасы. Ведала б, як жарты строіць».

А пад брывамі насмешліва глядзяць на яго цёмна-блакітныя, як марская вада, вочы.

Дзяўчынка ўздыхнула і першая адвяла позірк, не вытрымала. Губкі яе тарганулся, бы ад няўлоўнай крыўды. Але яна стрымалася і знешне спакойна паправіла на плячах доўгую карункавую мантылью. Калі яна гэта рабіла, яе рукі агаліліся вышэй локцяў, няспрытныя, худыя, як пруцікі, рукі з вострымі локцікамі. І гэта неяк памірыла з ёю Алеся, бо ён адчуў сябе мацнейшым.

Бацька падміргнуў Раўбічу, і дарослыя перасталі звяртаць увагу на дзяцей. Пан Юры падаў знак музыкам, і тыя грымнулі нейкую ўрачыста-сумную мелодыю.

— Прыгонны капельмайстар Вежы напісаў,— сказаў Раўбічу бацька.— Спецыяльна на гэты дзень...

А музыка грала. З нейкай гордай прыхаванай сілай. Ці то шумеў сітняг на бясконцых балотах, ці то чуўся ў цемры стомлена-мужны крок тысяч ног? Ён перарываўся часам, каб даць месца чамусьці змрочнаму і цяжкаму, а потым зноў гучаў.

І, прашываючы гэта, срэбная, нібы з жураўлінага горла, вяла сола труба.

Алеся як сціснула нешта за горла. Ён кінуў вачыма на Раўбіча і ўбачыў, што ў таго апушчаны свінцова-цяжкія павекі.

— Назва? — спытаў Раўбіч адрывіста.

— «Курганная шыпшына»,— адказаў бацька.— Бадай, ці не надта змрочна для такога дня. Але Вежа настойваў.

— Правільна зрабіў Вежа,— пасля паўзы сказаў Раўбіч.

Труба змоўкла.

Госці стаялі трошкі адурэлыя ад нечаканага пачатку. І ў гэтай цішыні бацька выступіў амаль на сярэдзіну залы.

— Шаноўныя панове. Шаноўныя гаспадыні і гаспадары. Сённяшні дзень — першы дзень юнацтва майго сына. Музыка, якой вы так былі здзіўлены, была напісана дзеля яго і гралася для яго. Яна не датычыцца вас. У гэты ўрачысты вечар вы павінны весяліцца.

Бацька быў бадай непрыемны Алесю ў гэтую хвіліну. Алесь зірнуў на Раўбіча, сустрэў яго позірк і зразумеў, што той адчувае тое ж самае.

— Сёння свята дзяцей,— казаў далей бацька.— І таму першы танец належыць дзецям... Дзеці, станьце ў пары... Алесь, выберы даму для першай пары.

Невядома, як гэта выйшла, Алесь яшчэ за хвіліну зусім не хацеў гэтага,— але ён стаў ля Майкі і працягнуў гэтай агіднай зласлівіцы сваю руку... За ім, другой парай, сталі Франс з Ядвігай, потым — Мсціслаў з нейкай дзяўчынкай, яшчэ і яшчэ пары.

Радасна грымнуў аркестр на хорах, і пацяклі павольныя гукі паланеза.

І тады Алесь, адчуваючы ўласны спрыт і лёгкую сілу, якая раптам наліла ўсё цела, паважна, на пальчыках, пайшоў, павёў даму да дзвярэй у малую залу, якія, зусім па-чарадзейску, самі адчыніліся ў другім канцы вялікай залы.

...Увесь вечар яна была зменлівая, як красавіцкі вільготны вецер — за кожным кутам хаты дастане. Магла сама шукаць яго вачыма і магла не звяртаць увагі на тое, што ён шукае яе. Магла завесці з Мсціславам размову аб тым, якія смешныя інтанацыі ў мове мужыкоў і як яны дзіўна, нязграбна рухаюцца. І хаця гэта было несправядліва, Мсціслаў пакутліва чырванеў за сябра і яшчэ за сябе, бо яна з ім загаварыла, а яму гэта было прыемна.

Алесь з кожным танцам падыходзіў да яе і адразу бачыў, як мяняецца яе капрызны тварык, робіцца пакорлівы і амаль бязвольны: апушчаныя доўгія вейкі, крыху ўсмешлівы рот. Яна ішла з ім у танцы менавіта так, як хацеў ён, а ў перапынках зноў расплюшчвала вочы і казала:

— Шкада, што ў дзяцей няма бальных запісных кніжак... О, каб былі!.. На гэты баль у ёй стаялі б дваццаць прозвішчаў — кожны запісваў бы сваё... І я танцавала б увесь вечар з рознымі.

І ён зноў злаваўся: аднойчы нават пайшоў скакаць мазурку з маленькай Ядзенькай Клейнай. Заўважыў, як ахвотна яна падала яму ручку, як уздыхнула з радасці, што ён падышоў, аж заззялі яе лялечныя, вялікія вочы.

...А потым быў перапынак, калі разносілі марожанае. І тут Ядзенькай заняўся Франс. Сам прынёс ёй вазачку, сам стаяў ля яе, сам потым павёў да дзвярэй на тэрасу.

Тут і падышла да хлопца Майка. Хлопец пайшоў са злосці на веранду і стаяў там, гледзячы на рознакаляровыя кітайскія ліхтарыкі, якія прыгожа беглі ў цемру алей. А яна адшукала там яго, стала побач, хутаючы плечы ў белую мантылью.

— Сумна, калі няма танцаў,— сказала яна.— Я танцавала б тры дні... А вы?

Ён памаўчаў, а потым усміхнуўся:

— Я таксама. Мне падабаецца, як вы танцуеце...

— Праўда? — загарэлася яна.— Ядзенька ж лепей?

— І гэта так... Але мне падабаецца, як танцуеце вы.

Размова ішла па-французску, і яму часам даводзілася шукаць словы. Таму ён наўмысна гаварыў запаволена, з паўзамі.

— Давайце ўцячом адсюль на некалькі хвілін,— сказала яна.— Пойдзем у парк. Тут горача...

У парку асветлены былі толькі галоўныя алеі. Спачатку па іх ішлі ланцужкі ліхтарыкаў: аранжавыя, блакітныя, чырвоныя, яны пагойдваліся сярод лістоты. Потым пайшлі звычайныя зыркія каганцы. Іхняе полымя мігцела часам ад нячутнага ветрыку, і сетка, сплеценая з ценю і святла, бегала па жвіры, па галінках, па ствалах магутных дрэў, па дзвюх маленькіх фігурках, якія ішлі ў ноч.

Каганцы таксама скончыліся, зусім непадалёку ад стаўка, над якім схіліліся вербы.

І тут іх агарнула ноч з ціхім шалёсканнем маленькіх хваль на вадзе.

Над стаўком перакочваўся ў хмарках бледны месяц. Некаторы час дзеці стаялі моўчкі, гледзячы на месячную дарожку, яркую ля другога берага і зусім цьмяную ля іхніх ног.

— Вы ўвесь час так маўчыцё? — спытала яна.

Яна не разумела, што ў ціхі час людзі павінны маўчаць, што мова ў такую часіну не гучыць. Непадрыхтаваны, ён шукаў слоў, якія павінны былі легчы на ноты цішыні. Але новыя ўражанні ў яго былі яшчэ кароткія і мізэрныя, ён міжволі звярнуўся да старых, больш моцных.

— Рыба любіць цёмныя ночы,— сказаў ён.— Але ўсё адно ў такую ноч яе лавіць прыгажэй. Дзеці апранаюць цёплае... рыззё і ідуць з... таптухай.— Дзіўна гучала ў французскім сказе слова «таптуха».— Падстаўляюць яе пад вадзяныя хмызы, топчуць... І рыба ў сетцы ўся блішчыць, як блакітны жар. Пераліваецца, скача... А месяц плыве...

Ён асекся, заўважыўшы, як грэбліва апусціўся куточак яе рота.

— Я гэтых забаў не разумею,— быццам назнарок, быццам жадаючы падражніць, сказала яна.— «Тап-

туха», «рыззё»... Мілагучныя словы, нічога не скажаш.

Тут раззлаваўся і ён:

— А ў чым жа яшчэ па рыбу лазіць... У гэтай маёй маскараднай чузе?.. У вашай мантылы? Смеху варта...

— Чым гэта вам не спадабалася мая мантылья? — іранічна, зусім як дарослая, спытала яна.

— А тым, што няма чаго выпінацца. А тым, што гэтыя словы аніяк не горшыя за вашы,— ён сыпаў гэта па-мужыцку, быццам праз бур'ян лез без дарогі.— А тым, што сорам удаваць з сябе дарослую і смяяцца з людзей, якіх не ведаеш.

— Я і не хачу ведаць,— нейкім асаблівым, вельмі агідным тонам сказала яна.— Вядома, у вас была дагэтуль зусім асобная кампанія. La compagnie exception-nelle[1].

Яна асабліва падкрэсліла гэтыя словы:

— La compagnie ex-ceptée з «тап-ту-хай».

У гэты момант яна здалася яму такой дурніцай, што ён зарагатаў. Гэта, здавалася, збянтэжыла яе. Ужо значна менш упэўнена, але ўсё яшчэ з гонарам яна сказала:

— Je n'aime pas le gros rire[2].

— Я таксама не люблю,— зусім спакойна і зноў па-французску сказаў ён і дадаў: — Я думаю, нам лепей за ўсё вярнуцца.

— Мне не хочацца,— пацiснула плячыма яна.

— А мне не хочацца заставацца тут. І я не магу тут пакінуць вас адну...

— То што? — спытала яна.

— То я завяду вас сілком.

— Ого, паспрабуйце.

І, перш чым ён паспеў працягнуць да яе руку, яна скочыла ўбок і, як каза, узбегла па нахіленым ствале старой вярбы, стала ў яе галінах, невыразна бялеючы над цёмнай вадой.

— Сыдзіце адтуль,— сказаў ён.— Вярба крохкая.

— І не падумаю.

— Я вам сур'ёзна кажу

Замест адказу яна здзекліва заспявала француз-

---

[1] Адборнае кола *(франц.)*.

[2] Я не люблю грубага смеху *(франц.)*.

скую песеньку пра медзведзяня, якое спаймалі ў лесе і аддалі на вывучку жанглёрам. Яго імкнуліся навучыць, але ў жанглёраў усё адно нічога не выйшла: занадта яно было тупое і няспрытнае. Яно так і не навучылася скакаць, а калі спявала, то спявала, як у лесе, і нават жанглёры затыкалі вушы.

Стоячы на дрэве, яна гайдалася ў такт смешнай песеньцы і здзекліва спявала, з асаблівым захапленнем выводзячы прыпеў:

Les choses n'iront pas!
Les choses n'iront pas![1]

Гэта было нават не вельмі складна. Бог ведае, на колькіх мясцовых вуснах пабывала смешная дзіцячая песня, пакуль не абцерлася да такога.

А таму Алесь сумна паківаў галавою:

— Я думаў, вы зусім іншая. А вы проста злое і вельмі дрэнна выхаванае дзяўчо.

З гэтымі словамі ён павярнуўся і спакойна пайшоў прэч ад вярбы.

І раптам за яго спіною пачулася выразнае «крэк» і ўслед за тым ускрык. Вярба сапраўды была крохкая.

Ён азірнуўся. Тоўсты сук надламаўся і цяпер, гайдаючыся, боўтаўся ў вадзе. А на ім,— паспела-такі зачапіцца,— трымаючыся адной рукой за яго, а другой за ствол, вісела Майка.

Ён кінуўся да вярбы, узбег па ствале і, моцна абняўшы левай рукой тоўстую разгаліну, правую падаў Майцы.

— Трымайся.

Яна ўхапілася. Ён цягнуў яе, але адной рукой нічога не мог зрабіць. І тады ён сеў, абхапіўшы нагамі ствол, і пацягнуў дзяўчынку абедзвюма рукамі. Ён доўга біўся, пакуль яму ўдалося ўсцягнуць яе на вярбу.

Яны пачалі спускацца. Ужо на беразе ён акінуў яе позіркам і ўбачыў, што яна нават не падрала сукенкі. Быццам нічога не здарылася, яна памахала рукой.

— Я ж кажу: мядзведзь. Хапае за руку, як за сук.

— Даскакалася?

Ён адчуў нешта цёплае на запясці левай рукі: з невялікай ранкі кроплямі сачылася кроў. Відаць, разадраў аб адколіну сука.

---

[1] Справы не пойдуць! Справы не пойдуць! *(франц.)*

— А хто вас прасіў? — спытала яна.— Лезеце тут...

Тады ён не вытрымаў. Дрыжучы ад злосці, схапіў яе левай рукой за плячо, а правай даў плескача па тым месцы, дзе спіна перастае называцца спіной...

Пасля ён моўчкі зрабіў рукой знак, каб яна пайшла.

Яна не ішла. Стаяла і глядзела на яго.

— Мяне ніколі не білі,— хутчэй з непаразуменнем, чым з крыўдай, сказала яна.

Ён маўчаў.

— Дальбог, ніколі...

Тут ён азваўся:

— І дарэмна. Ідзі адсюль.

Яна вагалася. Нават уздыхнула ў цемры. І тут ён пачуў нешта такое...

— Можа, і ёсцека тут праўда...— амаль з вясковым прыдыханнем сказала яна. Зусім чыста па-мужыцку...

— Ты што ж... І гаварыць можаш? — спытаў ён.— Чаго ж прыкідвалася?

— Бацька са мною, калі не пры гасцях, заўсёды так гаворыць,— уздыхнула яна.— А прыкідвалася... так проста.

— Ну і брыда,— са злосцю сказаў ён.— Ідзі адсюль. Ну, чаго стаіш? Ідзі, кажу.

— Я ніколі больш не буду спяваць песню пра медзведзяня,— сказала яна.

Ён размяк. Узяў яе далонямі за галаву.

— Ты... не плач,— сказаў ён.— Не трэба.

Майка парывіста прытулілася да яго.

— О, прабач, прабач, Алесь,— уздыхнула, як усхліпнула, яна.— Я ніколі больш не буду так.

Алесь баяўся, што яна расплачацца. Магчыма, так і здарылася б, каб яна краем вока не заўважыла кропляў крыві на яго запясці.

— Што гэта?

— А, глупства.

— О, прабач, Алесь... Што ж цяпер рабіць? Ага, ведаю. Я завяжу табе руку паловай гэтай мантылькі. І кроў цячы не будзе, і ніхто не даведаецца, што ты параніўся. Падумаюць, што я проста дала табе павязку, як у песнях.

І, перш чым ён паспеў сказаць нешта, яна прыўзня-

ла ў тонкіх руках белы вэлюм, павяла вострымі локцікамі ў бакі, і ў цемры прагучаў рэзкі гук.

— І на цябе не будуць сварыцца, што падзерла? — спытаў Алесь.

— На мяне ніколі не сварацца,— сказала яна. Яна зрабіла павязку з бантам, як шалік. Ніхто б і не здагадаўся, што гэта павязка. А потым яны пайшлі да палаца, адкуль ужо далятала музыка: пайшлі спярша па спляценні ценю і святла ад каганцоў, потым па каляровых плямах ад ліхтарыкаў.

Каля самага ганка яна павярнулася і, гледзячы яму ў вочы, сказала:

— Я ніколі не буду... Толькі і ты... паменш танцуй з Ядзечкай... Добра?

— Добра,— паабяцаў ён.

...А потым свісталі, імкнуліся кудысь над цёмнымі верхавінамі палымяныя змеі, зменлівае святло бегла па тварах людзей на тэрасе, а італьянскія таполі здаваліся то срэбнымі, то зусім чырвонымі, як кроў. Шалёна круціліся агнявыя колы, гучна лопаліся шматкаляровыя буракі, гарэлі ў небе літары «А» і «З», і Майка міжвольна ўздрыгвала, калі новы барвяны дракон ляцеў у неба.

Калі садзіліся за стол і Майка села побач з Алесем, у Ядзечкі сталі такія вочы, што Алесь сумеўся: няўжо каму-небудзь магло быць не так весела, як яму. І тады Майка прыцягнула «ляльку» за руку і пасадзіла таксама побач з Алесем, толькі з другога, правага боку, і загаварыла з ёй, і Ядзі таксама зрабілася весела, тым больш што і Франс сеў з ёю, а Мсціслаў, з месца насупраць, жартаваў так, што ўсе аж трэсліся ад смеху.

А потым госці асталіся за сталамі, а дзеці пайшлі датанцоўваць. Але танцаваць ужо не так хацелася, і Алесь, Ядзя, Майка, Мсціслаў, Янка і Франс распачалі вясёлую гульню: падчас танцаў хто-небудзь знікаў, тады астатнія, спахапіўшыся, пачыналі яго шукаць у напаўцёмных і зусім цёмных сумежных пакоях.

І вось калі Алесю выпала шукаць, ён выпадкова стаў сведкам незразумелай і таму трошкі непрыемнай сцэны.

Ён абышоў ужо тры ці чатыры пакоі і нячутна крочыў авальным пакоем, дзе ў нішах стаяў такі моцны і

прыемны водар кветак — зусім бы ў трапічным лесе — і дзе ў адной, самай вялікай, нішы паплюхваў фантан-чык. І вось у гэтай самай нішы ён раптам пачуў мужчынскі голас і спыніўся. Там было два галасы: бацькаў і графа Ісленьева.

Разумеючы, што падслухваць нядобра, Алесь на дыбачках павольна пачаў пасоўвацца назад, да выхаду.

— Ténèbres! Ténèbres![1] — казаў граф з ціхімі прыдыханнямі.

— Годзе вам,— супакойваў бацька.— Усе ведаюць, што вы ні пры чым.

— Ах, хіба ў гэтым справа! Як я мог думаць, што можна служыць і аставацца сумленным!

— Што зробіш? Трэба ж неяк жыць.

Граф перарывіста ўздыхнуў.

— Я так і думаў. І ўсё ж лепей было не жыць. Я ўсё часцей думаю аб гэтым. Пасля такога маладога, такога гарачага юнацтва — старасць, якая пахне псінай. Злітуйся, божа, над тымі, хто служыць д'яблу, хто хоць словам, хоць маўчаннем дапамагае яму... Хіба гэта дваране?! Ні сораму, ні гонару. Усё адно каго хваліць, усё адно перад кім звівацца на пузе, усё адно каму бессаромна падтакваць. Усё адно перад кім каяцца ва ўчарашніх подласцях, а сёння рабіць новыя, каб заўтра было ў чым каяцца перад іншым.

Зноў страшны ўздых.

— Божа, якая поскудзь! Якая брыдота! Свежае губяць. Шворкай, маной, крывадушнасцю... Чаму я быў за мяжою ў той дзень... Я ведаю, гэта было ад страшнага адчаю... Яны выйшлі, pour se faire mitrailler...[2]

— Chut! il n'e faut pas parler[3]. Іх усё адно не вернеш.

— Так, іх не вернеш. А як пачыналі! Помню, у доме Лаваля... Спрэчкі да раніцы! Гарачыя маладыя вочы, дым, словы з-пад самага сэрца... Кандраша Рылееў, друг, такі светлы, пухам яму любая зямля... Так подла яго падманулі на допыце!.. Даверлівыя былі, добрыя, чыстыя. Дзеці!.. Святло было ў душах.

---

[1] Змрок! Змрок! *(франц.)*
[2] Каб падставіць сябе пад кулі *(франц.)*.
[3] Ціхэй! Не трэба аб гэтым гаварыць *(франц.)*.

Памаўчаў.

— А тыя, што ёсць, лепей бы не заставаліся.

— Як можна,— сказаў бацька.— Упікаць за жыццё нельга, граф.

— А пачыналі ж мы,— з нейкім нават злосным смяшком сказаў граф.— Мы, недабітыя. Нацярпеліся жаху, пакуль нас было мала, і аддалі стырно другім, якія палалі, а цяпер студзяць свой агонь у галадайскім пяску ці ў сібірскіх снягах... Вы ж мелі шчасце сустракацца з Міхаілам Мікалаевічам?[1] Самы разумны з усёй гэтай камарыллі. І ніяк не можа забыць грахоў маладосці, Ліс Патрыкеевіч. Кідаецца ва ўсе бакі, слухае кожны вецер, абы толькі сабе не пашкодзіць. Пачакайце, ён яшчэ дасца ўсім у знакі, я яго ведаю... А гэта ж мы, гэта *мы* прымалі ў кола *першых*. Я ўспомніў Пушкіна... Дык вось бліжэйшага ягонага сябра прымала ў грамаду гэтая свіння з тытулам графа. І вось Пушчын у Сібіры, напэўна, памёр, а свіння жыве, робіць выгляд, што забыла маладыя сумленныя словы. Да яшчэ, напэўна, кажа пра «гарачую маладосць», што «мы таксама былі такія», што «ўсё гэта пройдзе». А загадаюць — будзе вешаць гэтую моладзь... Няма горшай свінні, чым адступнік. Былі франдзёры, а цяпер адзін дзяржаўны муж, а другі — к-хат!!! О божа, божа!

— Супакойцеся, граф, не трэба.

— Жыць не трэба, калі здрадзіў ахвярніку, калі кадзіш кату, вось што я вам скажу, князь... Жыць не трэба... Не трэба хаваць галаву ў пясок. Гераічная эпапея! Вялікі эксперымент! Вось чым ён скончыўся. Трупамі і здрадай. Былі юныя, чыстыя сэрцам людзі, а цяпер старыя мярзотнікі, якія загубілі радзіму.

Спалоханы гэтымі словамі такога спакойнага з выгляду чалавека, Алесь ціха выйшаў з пакоя.

Ён ішоў у цемры да вельмі далёкага, амаль нябачнага святла, што прабівалася наперадзе праз вузкую шчыліну. Глуха гучалі крокі. За вокнамі ледзь вымалёўваліся ў цемрыве ночы пагрозлівыя шаты паркавых дрэў. Там, за асветленымі дзвярыма, чакалі Майка і сябры, там была радасць...

Ён ішоў, а ў вушах яго ўсё яшчэ гучалі прыглушаныя словы:

— Ténèbres! Ténèbres!

---

[1] Мураўёў М. М.

## IX

У Півошчах адбылося так.

Вёска была вялікая, на чатырыста рэвізскіх мужчынскіх душ, і жыла з рыбалоўства — багатыя і сярэднія мужыкі арандавалі ў свайго пана рыбныя тоні на незлічоных старыках Дняпра — і возніцтва. Зямлі было не так ужо і многа, дый тая напалову ўрадлівы лёсавідны суглінак, а астатняя — пясок ды цяжкая гліна. Півошчы ляжалі на пясчаных пагорках, абкружаныя з трох бакоў старыкамі і мокрымі плаўнямі.

Півошчынцам з гэтай прычыны было лягчэй, чым сялянам Кроераўшчыны, другой вёскі пана Канстанціна. Там шэсцьсот астатніх рэвізскіх душ жылі на зямлі, багацей за якую была толькі зямля Загорскага-Вежы, і спаўна адраблялі ўрокі. Ім даводзілася тры дні на тыдзень, па ўмове, працаваць ад цямна да цямна, а з пятнаццатага мая па пятнаццатае жніўня — з пяці гадзін раніцы да заходу сонца.

Працавалі многа, як быццам пан Кроер меў не тысячу душ, а нейкіх няшчасных сто. Многа яшчэ і таму, што Кроер у свае сорак пяць год хадзіў усё яшчэ «ў дзяўкох», а такія звычайна выдаткуюць меней. Але ж вядома, нежанаты пан часам большая бяда, чым той, у каго пяцёра дзяцей. А ў Кроера быў яшчэ і няшчасны для мужыкоў разгульны характар. Жаніцца ён наогул не хацеў і яшчэ больш не хацеў пасля смерці павялічваць багацце Загорскіх, якім пераходзілі ў спадчыну цераз маці Алеся, «любенькую стрыечніцу, святую дурніцу», вёскі пана. Таму пан Канстанцін і разбаляваўся так. Супыну на яго не было.

Таму мужыкі і працавалі на яго лішні дзень, чым гэта заведзена было ў больш дробных паноў, што ледзь ліпелі на сваіх лічаных валоках.

І гэта ў той час, калі па ўсім Прыдняпроўі звычаёвае права прадугледжвала два дні паншчыны. Два дні па чатырнаццаць гадзін. Патрабаваць большага — паны ведалі — нявыгадна. Звычаёвае права вялося ледзь не з літоўскіх часоў, калі трэба было дагаджаць, каб памежныя землі не чынілі здрады, і за стагоддзі так уелася ў плоць і кроў жыхароў, што мяняць яго было проста небяспечна: пачнуць працаваць цераз пень-калоду, не будуць сачыць за панскімі земля-

робчымі прыладамі, пераламаюць іх — «гары яны ясным гарам, калі такая ўжо справа». А тады палі зарастуць гірсай, і скулле ўжо атрымаеш з іх.

Ды і ўрокі цяжкаватыя на два панскія дні. Гаспадар дома павінен быў за дзень узараць сахою — не мяльчэй як на два вяршкі — палову дзесяціны глiністай зямлі, або забаранаваць морг, або пасеяць шэсць маргоў, што ўжо зусім цяжка. А то — перавезці на дваццаць пяць вёрст ад васемнаццаці да дваццаці пудоў.

На ворыва і сяўбу ішлі сям'ёй, бо аднаму не ўправіцца. Сям'ёй ішлі і на панскую малацьбу, бо трэба было за дзень паншчыны абмалаціць азіміны адну капу, а ярыны — дзве. А капа — шэсцьдзесят снапоў, а кожны сноп ля перавясла — аршын кругам.

Больш мяккі, параўнаўча з цэнтральнымі губернямі, характар прыгону ў Заходнім краі тлумачыўся яшчэ і тым, што ўрад таксама не вельмі дазваляў ламаць звычаёвае права. І не таму, што яно было на руку мужыкам,— чхаць на гэта хацеў Пецярбург! — а таму, што яно было адным з краевугольных камянёў адноснага спакою, адным са сродкаў мець управу на дваранства. А яно ўсё яшчэ не магло забыць даўнейшай шляхецкай «вольнасці» і ваўкамі драпежнымі глядзела ў лес.

Мера гэтая была, аднак, палавінчатая і нікога не задавальняла.

Урад гэта не задавальняла таму, што спакою ўсё адно не было: край, як парахавая бочка, а прыбытку з яго — каціныя слёзы. Дваран гэта не задавальняла па тых жа прычынах, ды яшчэ яны былі пакрыўджаныя недаверам да іх урадавых колаў.

А мужыкоў гэта не задавальняла таму, што для іх з падзелам Польшчы нічога не змянілася, ды яшчэ прыбавіліся рэкруцкія наборы. Пры старых парадках, да раздзелу, служба ў войску непасрэдна закранала толькі дваран, а мужык, які па сваёй ахвоце браў зброю і ішоў на вайну, тым самым, разам з сям'ёю, аўтаматычна пераходзіў у шляхту, тую аднадворчую шляхту, якая засяляла бедныя засценкі і пра якую з'едліва казалі: «Два паны — адны штаны, хто раней устаў, той і надзеў». На гэта ішлі рэдка, асабістая незалежнасць была значна больш галоднай: усё адно даводзілася трымацца магната, каб не згінуць з го-

ладу. Ішлі большай часткаю тыя, хто не паладзіў з панам, каму немагчыма было цярпець.

І вось цяпер наборы і шматгадовая салдатчына віселі над кожным і ў кожную хвіліну маглі ўпасці на першую лепшую хату, забраць карміцеля, забраць брата, сына.

Прыдняпроўскія мужыкі заўсёды былі дзёрзкія, з нейкімі аж казацкімі замашкамі. Ролю рошчыны ў гэтай неспакойнай дзяжы гралі шматлікія незалежныя ад паноў колы і групы: былыя пастухі каралеўскіх чарод, скупа ўзнагароджаныя зямлёй пры раздзеле; панцырныя баяры, ці то былая памежная варта, перад якой калісьці запабягаў сам кароль; насельніцтва шматлікіх багатых гарадоў, у якіх асцерагліся забраць магдэбургскае права; магутныя, усепранікальныя абшчыны баркалабаўскіх і куцеянскіх старцоў.

Чапаць звычаёвае права, павялічваць двох-трохдзённую паншчыну было небяспечна: маглі і чырвонага пеўня пусціць, ды яшчэ так спрытна — пад толькі што застрахаваныя будынкі,— што потым гаспадара па судах зацягаюць, а ці не зрабіў ён гэтага з мэтай нажывы.

Па гэтай прычыне нават згон — права гаспадара на рабочыя рукі па-за паншчыннымі днямі, калі гіне на корані ўраджай або залева ці нечаканая летняя палавень пагражаюць вымачыць сенажаці,— павінен быў аплачвацца панамі: ад дваццаці да дваццаці пяці капеек срэбрам на дзень.

І вось пан Канстанцін Кроер асмеліўся патроху парушаць звычай, непрыкметна наступаючы мужыкам на мазалі. Справа была ў тым, што ён год пражыў у Пецярбурзе ды яшчэ цэлы год ездзіў за мяжой. Карты, рулетка, яшчэ чорт ведае што. Растрос там шмат грошай і цяпер папраўляў сваё становішча.

Пачалося гэта гады тры таму назад. Перш за ўсё ён перастаў залічваць вознікам дарогу, калі яны вярталіся паражняком. Мужыкі пабурчалі трохі ды і сціхлі. Потым на цэлую гадзіну скараціўся абед у зімовыя паншчынныя дні. Сцярпелі і гэта, бо пан павінен быць трошкі несправядлівы, калі ўжо справа заходзіць аб яго гаспадарцы. Дзякуй богу, усяго было: і заліваў Кроер залішняе, і паляваў на сялянскай руні, і наконт дзевак быў памаўзлівы.

Але потым пачаліся свавольствы ўжо зусім небяс-

печныя. Пан Кроер прыбавіў трэці дзень. А калі некаторыя паспрабавалі бурчаць — іх адлупцавалі на стайні. Тады нехта падпаліў Кроераву адрыну. У адказ на гэта Кроер завёў ваўкарэзаў і прывёз са Смілавіч дзесятак татар-вартаўнікоў. Гэта было ўжо зусім нечакана...

Кроер зацяўся. Са злоснай гарэзлівасці павялічыў бабскі прынос палатна ў царкву на адну гібу[1], быццам святая царква жабрачка, а сам ён кавалачнік нейкі. Суседзі ездзілі ўразоньваць яго, але чхаць яму было на іхнюю думку. Што яму маглі зрабіць? Прымаць перастануць? Дык яму сына не жаніць, а дачку не вывозіць у свет.

Можа, нічога і не было б, але нашкодзіў год.

Рунь з восені добра пайшла пад снег, добра выйшла ўвесну з-пад снегавой коўдры і на Юр'я вырасла ўжо такая высокая, што не толькі варона магла ў ёй схавацца, а і вадзяны бугай, каб пала яму ў галаву такая дурына́: кідаць дзеля палёў свае сітнягі. І тут па ўсім наваколлі выпаў страшэнны град, захапіўшы паласу ад Магілёва і ледзь не да Гомеля. Градабой быў такі, што цэлыя кавалкі лёду падалі на беднае жыта, і яно палягло ўшчэнт.

Улетку давялося туга, і, можа, людзей нават зусім чакаў бы страшны зімовы голад, каб не добрая гароднiна і неблагая ярына.

Нядрэнна было ў Загорскіх, у Вежы, у Раўбіча, яшчэ ў трох-чатырох гаспадароў, дзе зямля не была спустошаная. Мужыкам іншых паноў магло хапіць летняга ўраджаю хіба што да пятага тыдня вялікага посту.

І вось Кроер учыніў півоншчынцам агульны згон, бо гарачая пара не чакала. За тры дні жыта на яго нівах стаяла ў мэндаліках, а частку нават звезлі да панскіх гумнаў, пачаўшы складаць сцірты. Людзі ішлі на працу ахвотна, бо сям'я з пяцёх чалавек — сваю работу скончылі — магла зарабіць за гэтыя дні сама меней тры рублі, а гэта азначала — як на галодны год — восем з паловай пудоў жыта,— можна неяк перабіцца да шчаўя, да «грыба бедных» — смаржка,

---

[1] Гіба — старажытная мера палатна, на ўсю даўжыню хаты, дзе кросны, ад мернага цвіка да цвіка. Колькі разоў загінаюць — столькі і гібаў. Дакладнай меры няма, гэта залежыць ад таго, якая хата. Але прыкладна каля трох метраў.

да першай рыбы, як толькі спадзе весняя палавень.

...Надвячоркам трэцяга, пасля пачатку згону, дня Кроераў аконам аб'явіў людзям, што згон не будзе аплачаны, што за яго не будуць плаціць і надалей.

Людзі стаялі на вясковай плошчы, пад абшчынным дубам і слухалі яго.

У кожнага стаяў перад вачыма той месяц з лішнім, які цяпер не было як пражыць. Мужыкам бачылася Бэркава карчма, дзе трэба было нішчымна, толькі каб уцячы ад міжвольных хатніх папрокаў, сядзець усе гэтыя дні, бабам — прагныя і вечныя, як лёс, чалеснікі-печкі, якая кожную раніцу патрабавала ахвяр.

Але ўсе маўчалі.

Збянтэжаны гэтай акалічнасцю аконам (пан загадаў, у выпадку чаго, пайсці на маленькія ўступкі) прапанаваў пяць капеек на дзень. І тут Янка Губа, самы стары дзед на сяле, выступіў з натоўпу:

— Мы не жабракі, каб нам замазвалі глотку шасцю фунтамі ў дзень. Мы не па дварах просім, мы просім сваё, спрадвеку ўсталяванае.

Вочы яго былі, як у пакрыўджанага спакойнага дзіцяці.

— Ён пакрыўдзіць нас надумаўся... Што ж, хай падавіцца нашым хлебам... А за сіроцкія слёзы здохнуць яму без пакаяння... А раней таго няхай ведае — не будзе плаціць за згон, як то дзядамі заведзена,— ніхто не пойдзе на згон. Паншчыну адробім, а згон няхай выробляе ўдвох з табою, аконам.

Аконам быў чалавек неразумны і ўзгарэўся:

— Тады хрэна вам замест хлеба. Жарыце зямлю... Хто яшчэ пагражаць будзе? Хто?! Халуі бязмозглыя! Вы ж бачыце, які цяжкі год. Хіба не пан дае вам пазыкі?! Хіба не ён за вашы нядоімкі перад дзяржавай адказвае сваімі грашыма?!

— За гэта мы на яго і працуем. Але нядоімак за намі не вялося. Пазык таксама. А калі гэтай вясной і давядзецца пазычаць з яго панскай літасці, то ў каго хочаш будзем пазычаць, толькі не ў яго, аспіда нясытага. Карчмару абразы ў заставу аддадзім, бо ён толькі што нехрысць, а ўсё лепшы за яго, пашчу ненажэрную.

— Пад зброяй пойдзеце,— кінуў пагрозу аконам.

І тут выступіў з радоў зусім яшчэ малады, год дваццаці васьмі, півошчынскі мужык па прозвішчы

Корчак, працавіты бацька двох дзяцей. Толькі што вярнуўся са сціртаў (больш за ўсіх стараўся чалавек, бо сям'я ў бацькі была падзеленая і здабытчыкаў, акрамя яго, не было) і таму быў з віламі. Убіў іх у зямлю і спакойна абапёрся на дзяржальна.

— Не пагражай, аконам. Бог за пагрозы нявіннаму не даруе.

Стаяў перад аконамам бялявы, як лён, глядзеў чорнымі дрымучымі вачыма.

— А на згон не пойдзем. Калі пад зброяй павядуць, дык такую і працу атрымае пан Кастусь. Хай жаўнеры штыкамі снапы носяць.

— Зачыншчыкі! — сказаў аконам.— Ясна.

І дастаў з кішэні кніжку і аловак.

— Не дамо пісаць! Не дамо! — захваляваўся натоўп.— Чорт яго ведае што ён там напіша... А потым пячаць ляпнуць — і прападай душа.

Абураныя людзі купчыліся вакол старога Губы. Першы не стрываў Васіль Гарлач, чалавек у беднай, але чыстай, старанна залапленай світцы:

— Ды што ж гэта такое?! За што?! За нашу крыўду ды яшчэ і пісаць.

— Нядобра робіш, аконам,— сказаў Корчак.— Глядзі, каб не рыгнулася.

— Дык вось як? — пыхнуў аконам.— Добра. Яшчэ і пагрозы. Гля-дзіце, мужыкі. Усё гэта вам прыпомняць. І ад згону адмову, і абразу пану, і... тое, што іконы святыя закласці іудзеям сабраліся... Кубло гадзючае! А табе, Губа, як завадатару, не мінуць і Сібіры.

Губа здзекліва глядзеў на яго.

— Чаго мне баяцца? Мне ўсяго жыцця з вераб'іныя нагавіцы. Ну і Сібір. Няхай. Ці не ўсё адно, адкуль да прабацькі Абрама на піва выпраўляцца...

— Ён яшчэ і блюзнерыць, ёмашнік стары... Патрэбен ты Абраму, парахня смярдзючая,— сказаў аконам.

Са старым Губой ніхто так не размаўляў. Абрам Абрамам, а павага патрэбна старому нават тады, калі ён скончыў зямныя справы. І таму пакрыўджаны Губа аскароміўся.

Аконам убачыў ледзь не пад самым сваім носам парэпаную цёмную дулю, нейкую вельмі доўгую і таму асабліва здзеклівую. І тады ён размахнуўся і сцёб-

нуў старога па пыльнай світцы, гарбатай на спіне.

І тут адбылося тое, чаго ніхто не чакаў ад заўсёды рахманага, паважна-маўклівага Корчака. Пэўна, і ён сам не чакаў, бо твар ягоны застаўся разважлівы і амаль спакойны. А рукі ў гэты час тарганулі з зямлі га́блі[1] і шпурнулі іх у аконама.

Вілы прасвісталі ў паветры і, дрыжучы, упіліся ў зямлю між расстаўленых аконамавых ног. Аконам збялеў.

А на яго ўжо насоўваўся натоўп.

— Гані адсюль!

— Паражняк адмяніў, поскудзь!

— Трэ-э-эці дзень!!!

— Плаці за згон!

— Рунь канямі топча, конаўка дурная!

Крык ап'яніў людзей, асабліва калі яны ўбачылі, што аконам ускінуўся ў сядло і прыпусціў уздоўж вясковай вуліцы. За весніцамі аконам кінуўся ўбок і паскакаў проста пожняй, без дарогі.

А ўзбуджэнне ўсё нарастала ў душах, і над натоўпам стаяў смех, ганарлівыя выгукі, свіст. Нясытае было лета, галодная будзе вясна — чорт з ёю! Чорт з ёю, абы на хвіліну прыйшлі ў душу патоля і гонар.

— Як гэта ты наважыўся, Корчак?! А каб пацэліў?

— Каб захацеў, дык пацэліў бы,— збянтэжана і трошкі горда пасмейваўся Корчак.— Што я, турак, каб у жывога хрысціяніна цаляць?

— Ды які ён хрысціянін?! Падла ён! Як жа... Згон дарма рабілі. А цяпер голад!

І гэта зноў звярнула думкі на крыўду.

— Слё-озачкі,— загаласіла нейкая баба.— Што ж ім спатрэбілася, зяпам ненаедным?!

— У старца кій адабралі!

— У дзяцей галодных кавалак з рота вырвалі!

Загаласілі і другія бабы. І з нарастаннем іхняга галошання нейкі цьмяны, лютаваты агеньчык загарэўся ў вачах у мужыкоў.

Нарастала нясцерпна балесная, ледзь не да слёз, крыўда. Яна патрабавала неадкладнага выхаду. І таму натоўп радасна выбухнуў, калі нехта кінуў:

— Спаліць Кроеравы сціrты... Хай ведае.

---

[1] Вілы.

Натоўп зароў. Спадабалася ўсім.

— Не нам, дык і не яму!

— Палі!

З самаробнымі паходнямі рушылі знішчаць сціrты. Моладзь аддзялілася і пайшла паліць мэндлікі. Дзень пачаў захлынацца ў дыме... І дзіўна — ніхто не ўзяў ані снапа. Відаць, таму, што гэта быў не рабунак, а помста.

— Хай ведае!

— Носам наторкаць!..

...Спаліўшы збожжа, людзі вярнуліся ў вёску і сталі чакаць, што з гэтага будзе.

...Чакаць давялося нядоўга. Сонца яшчэ стаяла даволі высока, калі хлопец на верхавіне абшчыннага дуба заўважыў на дарозе з Кроераўшчыны пыл. Хацелі былі кінуцца ўпрочкі, але Корчак пераканаў, што няварта. Адзін чалавек — што ён такое без іншых? А калі тыя, што ішлі, наблізіліся, усім стала нават сорамна за свае думкі аб уцёках.

Ішлі дзесяць чалавек, а з імі ехаў коннік. А калі гэтыя дзесяць чалавек наблізіліся — людзі пазналі ў іх татар-вартаўнікоў, а ў конніку — паручніка Мусатава.

Аконам выпадкова застаў яго ў Кроераўшчыне і, смяротна перапалоханы, маліў яго, каб ён скакаў у Сухадол па дапамогу. Але ў паручніка былі іншыя планы. Бунт быў занадта шчаслівы выпадак, каб выпусціць ініцыятыву з рук, аддаць яе другому, застацца без рэпутацыі мужнага і дзейнага чалавека.

Зеленаватыя вочы Мусатава загарэліся прадчуваннем падзей. Небяспека — глупства: што робіцца без небяспекі? Яна надавала нават вострае адценне таму, што ён збіраўся рабіць. І таму ён прыкрыкнуў на аконама:

— Ану змоўч! Наробяць тут бязглуздзіцы, а ты выпраўляй... Колькі вартаўнікоў у маёнтку?

— Дзясяць.

— Давай іх сюды... А сам скачы ў Сухадол. Скажаш, пан Мусатаў сам рушыў у Півошчы... Хай не марудзяць.

Аконам глядзеў на яго з дрэнна прыхаванай пашанай і некаторым жахам. І гэта было добра: будзе сведка. У душы паручніка ўсё лікавала ад захаплення ўласнай хітрасцю. Хай у Сухадоле спяшаюцца. Гэта

патрэбна, каб яго не абвінавацілі ў залішняй самаўпэўненасці. Але яны не паспеюць, яны проста не здолеюць паспець. «Малады і распарадны паручнік, які выпадкова аказаўся на месцы», зробіць усё без іх... Не трэба было толькі паказваць радасці. І таму ён спакойна аглядаў зброю татар.

— Як жа вы? — з жахам спытаў аконам.

— Служба,— адказаў Мусатаў.

— Благаславі вас бог,— з расчуленым захапленнем сказаў аконам.

— Э, кіньце... Спяшайцеся лепей... Усё ж іх чатыры сотні адных мужыкоў...

— І вы не баіцёся?

— Баюся. Але іду...— Ён стрымана перахрысціўся і сказаў падначаленым: — Рушай, браткі.

...І вось цяпер атрад уступаў у Півошчы, і, чым больш ён пасоўваўся наперад, вырастаў у памерах брудна-белы, маўклівы натоўп пад дубам. Калі да яго засталося якіх крокаў сорак, Мусатаў спыніў сваіх людзей, а сам ад'ехаў ад іх да натоўпу на даўжыню корпуса каня, не больш. Ён ведаў, што набліжацца больш нельга: сцягнуць з каня, і тады падначаленыя не паспеюць памагчы, збаяцца страляць і, магчыма, пабягуць.

Маглі нават проста натаўчы карак — гэта страшней за смерць...

Нельга было быць смешным. Ён абмацваў сваімі зеленаватымі, як у рысі, вачыма маўклівы натоўп, а яго рукі, учэпістыя і прыхавана-нервовыя, са сплюшчанымі на канцах, як долата, пальцамі, ляжалі на сядзельнай луцэ.

Пакрысе ён разумеў: небяспека ёсць, але вельмі маленькая. І гэта ўзбадзёрыла яго.

— Што тут здарылася? — спытаў ён.

У адказ — маўчанне.

— Чые мэндлікі гарэлі?

Зноў маўчанне.

— Маўчыце, сук-іны сыны... Віламі кідаецеся... Ведаеце, чым гэта можа скончыцца?

Некаторыя апусцілі галовы. Божа, толькі б не рухнулі на калені!

— Што ж вы, браткі? Як гэта вы асмеліліся? Разыдзіцеся, не ўводзьце ў грэх хрысціяніна... Разыдзіцеся смірна па хатах...

У яго памякчэлым голасе была паблажлівасць: так кот на хвіліну адпускае ахвяру, каб было што даганяць.

— Вы што, спалілі панскае жыта?.. Дрэнна.

— А тое, што ён з намі зрабіў, добра? — выбухнуў у натоўпе нечы голас.— Звычай ломіць, за згон не заплаціў.

— Будзеце адказваць!

— Вось што,— сказаў, выступаючы з радоў, Гарлач,— ідзі адсюль, пан афіцэр. Мы нарабілі — наш і адказ. Ідзі... Праўда, людзі?

— Тады аддасцё ваша збожжа,— сказаў Мусатаў.— Зараз жа аддасцё... І на згон пойдзеце заўтра, хамскія морды.

І звярнуўся да атрада:

— Слухай мяне... Пойдзеце да іхніх сціртаў і памяркуеце, колькі ім трэба аддаць, каб за ноч не схавалі... Да апошняга снапа...

Удар быў разлічаны. Натоўп зароў. Пагроза была бязглуздая і менавіта таму выклікала гнеў, пры якім не разважаюць.

— Хай паспрабуюць узяць!

— Паглядзім, як возьмуць!

Урэшце, з афіцэрам было толькі дзесяць чалавек. І натоўп паўколам рушыў на іх.

Мусатаў зразумеў, што ён перагнуў. Ён не хацеў бойкі, ён хацеў толькі абурэння, пры якім можна страляць паўзверх галоў. «Распарадны малады паручнік залпамі паўзверх галоў прымусіў скарыцца мяцежны зброд...» Але разважаць было позна: у руках сялян з'явіліся камяні. Трэба было дзейнічаць рашуча, інакш канфуз.

— Ану, паспрабуйце, вазьміце!

— Бі іх у маю душу!..

Натоўп насоўваўся грозным паўколам і страшна роў. І тады Мусатаў амаль праспяваў:

— Шту-уцэры на руку-у...

Натоўп захваляваўся і пайшоў трошкі павольней.

— Браткі! — крыкнуў Гарлач.— Не будуць страляць! Загаду такога няма! На нас крыжы! Па крыжах не будуць!

— Плі!

Залп сякануў паветра. Усе спыніліся, неўразумелыя... Парахавы дым яшчэ не паспеў развеяцца, як у натоўпе нема залямантавала баба:

— А-а-а!!!

І гэты пранізлівы крык вырашыў справу. Натоўп, амаль шэсцьсот чалавек, кінуўся ўцякаць, топчучы тых, што ўпалі.

...Корчака нешта апякло. Не разумеючы, што гэта, не заўважаючы, што з-пад правай ключыцы затачылася кроў, ён задкаваў, з жахам і гневам гледзячы ў пашыраныя, бязглуздыя вочы тых, хто бег.

— Браткі, куды ж вы?! Браткі, апамятайцеся!

Ён бачыў, як, трымаючыся за галаву, бег Гарлач, як, часта зяхаючы, зацiскаў чырвоную пляму на рукаве стары Губа, але ўсё яшчэ бязладна махаў непатрэбнымі віламі.

— Браткі!

Другога залпу не спатрэбілася. Мужыкі сыпанулі гародамі, уроссып.

Усё было скончана.

І тады Корчак таксама пабег. Ён не ведаў, куды ён бяжыць, ён ведаў толькі, што ў сітнягах над старыком не знойдуць, і таму бег зусім у іншы бок, не ў той, куды беглі астатнія. Ён не баяўся; гнеў, якога ён дагэтуль не ведаў у сабе, быў мацнейшы за жах; але ён усё ж уцякаў. Бадай што, гэта быў адзіны з усіх, хто не страціў пасля ўсяго, што адбылося, здатнасці разважаць.

Ён бег капуснымі градкамі, потым з маху кінуўся ў ваду старыка і, перасекшы яго, выбраўся ў лазу, а потым у лугі. Ён доўга бег і там, усхліпваючы ад злосці і паўтараючы:

— Баязліўцы... Сволачы...

Потым пайшоў павольна, толькі тут адчуўшы, што паранены.

Разам з крывёй з цела, здаецца, выцякала і смеласць. Яму стала страшна. Рана пачала гарэць. Затаіўшыся ў высокі чарот, як зацкаваны звер, ён чэрпаў далоняю карычневую ваду і паліваў рану, але яна балела ўсё мацней.

«Прападаць буду»,— падумаў ён.

Вадзяная курачка з'явілася блізка ля яго і цікаўна глядзела зусім без асцярогі.

Ён кінуў у яе жменю твані.

І тут яго ахапіла злосць. Ніхто не баяўся мужыкоў, нават вадзяныя куры. Натоўп дарослых людзей пабег ад дзесяцёх чалавек...

Ён ледзь не заплакаў ад крыўды, але злосць зрабіла яго мацнейшым, ён устаў і паваloкся чаротам да далёкага Дняпра.

«А поп Васіль казаў, што ніводзін хрысціянін не будзе страляць у знак святога крыжа... А гэтыя стралялі...»

Злосць нарастала, і гэта давала яму змогу рухацца. Ён ішоў і ішоў на дрыготкіх нагах. Толькі б выжыць, ён ім тады пакажа...

Але як выжыць?

І тады ён успомніў, што ў Азярышчы жыве сваяк Цыпрук Лапата. Пэўна, ён і не ведае аб падзеях у Півошчах, можа, і ўратуе. Значыць, трэба праставаць на Дняпро, пастарацца пераплысці яго і схавацца ў Азярышчы.

У галаве ягонай усё часцей цямнела. Ён ішоў чаратамі, лугам і зноў чаратамі, падаючы ў карычневую гразь.

...Цыпрук Лапата, які затрымаўся на рацэ і плыў дадому, выпадкова заўважыў аблепленага гразёю чалавека, які плазаваў да вады. Чалавек поўз, а потым абмяк, стаў нерухомы. І, паспяшаўшы да яго, Лапата ледзь пазнаў сваяка.

Лапата ўжо ведаў пра падзеі ў Півошчах і таму не здзівіўся. Але ён разумеў і тое, чаго не разумеў паранены Корчак: уцекачоў будуць шукаць у сваякоў і знаёмых. І таму, перавёзшы ўначы сваяка цераз Дняпро і зрабіўшы яму ў хаце сякую-такую перавязку, ён, з дапамогаю сына, ускінуў яго на воз і выехаў з двара: вырашыў за ноч перавезці яго на млын жончынага дзядзькі, Грыня Паківача. Млын стаяў у лесе, за восем вёрст ад Загоршчыны.

Грынь ведаў травы і мог памагчы. Акрамя гэтага, была і яшчэ адна выгода: на Паківачоў млын людзі стараліся не ездзіць, бо ў гаспадара была незайздросная слава чараўніка і ведзьмара.

...Вёска спала, калі Лапата ехаў вуліцай. Толькі ў акенцы Кагутоў свяціўся агеньчык: сям'я дапозна працавала і цяпер, відаць, вячэрала.

Лапата дзякаваў богу, што вёска спіць. Але ён не быў бы такі спакойны, каб ведаў, пра што гаварылі

Кагуты за вячэрай. А рашылі яны праз некалькі дзён ехаць на Паківачоў млын з першым збожжам, бо ў сваім, азярышчанскім, млыне было завозна.

## X

Раніцай назаўтра госці раз'язджаліся. Праводзячы іх стрэламі з гармат, зноў бурчаў на Фельдбаўха Кірдун. І зноў Алесю даводзілася стаяць на тэрасе, аддаваць развітальныя паклоны.

Вось спыніўся перад ім Басак-Яроцкі. Спакойна глядзіць у вочы пастрыжнога сына наіўна-сінімі вачыма:

— Бывай, сынок... Будзе сумна — заязджай лісіц пастраляць... Кгм...

І дадае шэптам:

— А калі будзе цяжка, ды яшчэ, крый божа, знойдзецца вораг — помні: ёсць дзядзька Яроцкі, які ўмее трымаць пісталет.

— Дзякуй вам.

Пан Мнішак збіраецца ў дарогу. Глядзіць на Алеся разумнымі вачыма. Гэты не запрашае, гэтаму, уласна кажучы, няма куды і запрасіць.

— До відзэня, млоды пан.

— До відзэня,— чырванеючы, з жахлівым акцэнтам кажа Алесь.

Ён ніколі не наважыўся б на такое ўніжэнне, каб не жаданне зрабіць старому прыемнае.

...Віцэ-губернатар падыходзіць да яго, зусім не такі румяны і свежы, як учора, хаця стараецца трымаць гонар.

— Бывайце, князь! Старайцеся быць вартым сынам Расіі. Многа вам дадзена — многа з вас і чакаецца.

«Трымайся проста, будзь ласкавы, будзь велічны, стары ваяка, але гэта ты гаварыў у далоні незразумелыя і страшныя словы, і я цяпер невыразна адчуваю, якія прорвы, якія безнадзейна мёртвыя пустэчы за кожным спакойным дарослым тварам, які адчай за кожнай паспяховай кар'ерай.

Але я не пакажу табе гэтага. У мяне таксама няма нічога, акрамя магіл. Так мяне вучылі».

Едуць Хаданскія. Паблажлівая ўсмешка старога графа, занадта ласкавая, каб ёй можна было шчыра

верыць. А Ілля нічога сабе звярок. Так і не сышліся бліжэй.

Хлопчык праводзіць вачыма кожную сям'ю, быццам яна знікае навекі, і не ведае, што ўсё гэта — ніці таго кіліма, які яму давядзецца ткаць усё жыццё, доўгім ці кароткім яно будзе. Некаторая ніта́ будзе ісці амаль суцэльным фонам, шэра-зялёным, як дажджлівы панядзелак. Некаторая сустрэнецца палоскай, вузкай, на дзень працы. Некаторая прамільгне чырвонай адзінай нітачкай, але праз усё жыццё.

Людзі прыйшлі — людзі і знікаюць. І яму здаецца, што знікаюць назаўсёды.

І Майка з Мсціславам сёння таксама знікнуць.

А вось накіроўваецца да сходаў лічба «20», браты Таркайлы.

— Бывай, князь,— басам кажа Іван.— Глядзі, Тодар, які хлопец расце. Сапраўдны прыдняпроўскі лыцар. Як вырасце — лепей з ім не звязвайцеся, розныя там англічане ды туркі. Дасць — лужына застанецца. Го-го-го-гык!

Тодар кіславата ўсміхаецца. А Іван басіць далей:

— Наш... Наш... Прыязджай, брат, да мяне — ажаню. Мы такога героя нейкім сушаным рыбам і панюхаць не дамо...

Ах, выбірайцеся ж вы хутчэй з вашым лыцарствам. Бо Майка і Мсціслаў таксама паедуць.

Бацька вядзе да карэты старую Клейну, а за ёю ідуць Ядзечка і Янка.

— Бывай, бэйбас,— кажа старая.— Ты глядзі ў мяне. Ранавата пачынаеш банвінавіць ды ферлакурыць.

— Дзякуй вам, мілы Алесік. Усё было добра,— сумна, зусім без дакору, кажа Ядзечка.— Вы толькі не забывайце... нас: мяне, і маму... і Янку.

— Бывайце, Ядзечка...

Вось ужо і Раўбічы выходзяць з дзвярэй. Раўбічы! А за імі паедзе Мсціслаў.

Жоўчна-прыгожы твар Раўбіча сур'ёзны. Халодныя, з пашыранымі зрэнкамі, страшныя і ўсё ж нечым прыцягальныя вочы зноў ловяць позірк хлопца, выпрабоўваюць, забіраюцца павольна на самае дно душы.

— Бывай, свет ясны,— з нечаканай цеплынёй кажа ён.

— Бывайце, любая Майка.
— Бывайце, любы Алесь.
— Ці... здаволены вы?
— Le plus beau bal, que j'ai vu de longtemps[1],— адказвае за яе важны, як прыдворны, Франс.

А яна не адказала, толькі кіўнула галавой.

— Майка... Праз некалькі дзён я запрашу Кагутоў. Мне вельмі хацелася б... Мы паедзем глядзець руіны старога замка. Я запрашаю Мсціслава і... вас.

Майка паводзіць галавою без асаблівага энтузіязму. І гэта такое нечаканае гора, што нават сэрца падае кудысь.

— Міхаліна,— сурова кажа Раўбіч.— Падзякуй гаспадару. І пацалуйцеся, як добрыя дзеці.

— Дзякуй вам, Алесь,— кажа яна.— Бывайце.

Яна набліжае да яго тварык, дакранаецца нерухомымі вуснамі да яго шчакі і падае яму руку.

І ў гэты момант ён адчувае ў далоні нешта. Ён няспрытна сціскае далонь і глядзіць на Майку.

Пайшлі. Усё. Алесь ідзе ў дом, спакойна — бо на вачах усіх — перасякае залу, а потым... Потым шалёна бяжыць па сходах на хоры, а адтуль, вінтавымі сходамі, на антрэсолі другога паверха, а потым, прыстаўной лесвіцай, на адкрытую вежку.

Ён яшчэ раз хоча ўбачыць павозку, якая вязе яе.

...Брычка аддалялася. Рабізна сонечных плям скакала па ёй, па конях, па людзях, якіх нельга ўжо было адрозніць адзін ад аднаго. Усё знікла, і на дарозе больш нічога не было.

Тады ён успомніў пра рэч, якую трымаў у руцэ, і разняў кулак. На далоні ляжаў дзіцячы жалезны медальён, зроблены амаль у той жа манеры, што і бранзалет старога Раўбіча. Маленькі медальён са стылізаванай шыпшынай і коннікам.

Ён раскрыў яго і ўбачыў пасмачку попельных, з залацінай, валасоў і згорнутую паперку.

На паперцы было некалькі слоў з лацінскіх і французскіх літар. Некалькі нязграбных, відаць з вялікімі разважаннямі, напісаных слоў. І гэта не здзівіла яго, бо гэтага не рабіў ніхто, бо словы былі спробай напісаць... па-мужыцку.

---

[1] Самы цудоўны баль, які я калі-небудзь бачыў *(франц.)*.

І ён з удзячнасцю, з нейкай раптоўнай надзеяй разабраў:

«Kab nie zabywaw. Pryiazdjai».

## XI

Ён расплюшчыў вочы, і з цёмнага мора трызнення пачалі выплываць цьмяныя, але ўстойлівыя вобразы.

Перш за ўсё пасмы траў, што растуць уніз сухімі кветкамі. А карані іх на дрэве. Ах, як баліць цела! Яно зусім чужое: рукі і ногі свае і не свае, цяжкія, як свінец, і бязважкія, блізкія, вось тут, і вельмі-вельмі далёкія.

Што гэта за травы? Ага, гэта яны не растуць, гэта яны проста вісяць уніз сухімі кветкамі, прывязаныя да лат. Гэта, напэўна, нейкі імшанік, але які?

Вось цені нейкіх галоў на сцяне з бярвенняў. Адна мужчынская, другая, відаць, нейкай жанчыны. Сілы няма, каб павярнуць сваю галаву і глянуць на гэтыя галовы, ад якіх кладуцца цені.

І чаму тут гарыць святло, калі за сцяною дзень? Вядома, дзень, бо ён чуе спеў дзённых птушак. Каб была ноч — крычаў бы вадзяны бугай. Дзе гэта ён крычаў надоечы? На якіх паплавах? І што там было?

...Успомніў! Яны стралялі. Зяхаў стары Губа... А потым была тая вадзяная курачка і бясконцы, нясцерпны шлях...

Раптам з яго горла вырваўся такі страшны крык, што ён спалохаўся за тых, чые цені адпачывалі на сцяне. Але палохаўся ён дарэмна, бо страшна гэта было толькі яму: толькі здрыгануліся пальцы ног ды з вуснаў вылецеў бязгучны віск,— тыя не заўважылі і не пачулі.

Зразумеўшы гэта, ён у адчаі паспрабаваў сказаць слова, самае лёгкае слова, бо перад вачыма былі шпары ў сцяне і тое, што паміж бярвенняў:

— Мо-ох... о-ох...

— Стогне,— пачуўся жаночы голас.

Нехта цёмны і вялікі схіліўся над ім, і адразу ён адчуў у вуснах шурпаты край глінянай конаўкі.

— Глыні шалянцу, мужык,— сурова сказала жанчына,— гэта табе на карысць... А слабы ж ты які...

Яснела ў вачах. Так, гэта быў імшанік для пчаліных калод, цяпер пусты, і ў ім гарэў каганец, хаця за

сцяной быў дзень, і плюхала недзе вада, так мерна, як на млыне.

Вось ужо ногі і рукі сталі не далёкія, а бадай зусім блізкія. І з'явілася змога нават павярнуць галаву.

Прычыненыя дзверы. Дзённы прамень коса падае з іх, і ў промені шыза і вясёлкава клубіцца дым, пераліваецца, наплывае адным завітком на другі. І так усё вышэй, вышэй.

Дым цягнецца ад кучкі смалякоў, на якіх стаіць гаршчок, ды яшчэ ад люлькі ў мужчыны, што сядзіць ля дзвярэй. Што за мужчына? Увесь у белым — значыць, мужык. Твар сухі і амаль безбароды, вусы рэдкія. А вочы пранізлівыя, жоўта-бурштынавыя, бы ў коршака, спайманага ў сіло. Калі падыдуць людзі, ён глядзіць на іх непрымірыма, з той вышэйшай пакорай лёсу, якая бывае ў звяроў і драпежных птушак, якія разумеюць, што ўжо нічога не зробіш.

Ля гаршка сядзіць на калодзе жанчына, тая, што давала піць. Дзіўная жанчына. Уся ў чорным, як мнішка. На галаве доўгі чорны шаль, што адкрывае толькі трохкутнік аблічча. Аблічча мужыцкае і не мужыцкае, цёмна-бронзавае і сухое, закасцянелае ў нейкай уладнасці. Сустрэўшы такую, спалохаешся, але той, коршак, трымае сябе вольна: відаць, аднаго поля ягады.

— Пі, мужык,— кажа жанчына.

Схіляецца над ім твар. Вочы страшэнныя, глыбокія і, дзіва, зусім не старыя.

На гэты раз пітво як палын і блёкат — шэрхнуць паднябенне і язык, цьмянее ў вачах.

— Пі, мужык. Бунтаваць дык саладзей было, дураломам.

...Якая палёгка. Цяпер можна ўжо і гаварыць. І ён пытае слабым,— бо рот як пасля моцнай аскомы,— голасам:

— Дзе я? Чаму?

— Лапата даставіў. Я Грынь Паківач. А гэта Марта... Гм, маці божая... І шчасце, што ты ў нас. Бо здох бы, як сабака, без прычасці... Хто ж гэтай бруднай вадой раны палівае, доўбня неразумная?

— Гарэлі.

— Маглі б зусім згарэць. Пакуль давезлі — быў у цябе ўжо антонаў агонь. Скура вакол раны стала пля-

мамі. Вось яно як, пане Корчак. Панамі быць захацелі — вось вам скуру і вырабілі.

— Пад сэрцам робіцца холадна. Значыць, канец? Млынар пускае дым.

— Паглядзім,— кажа ён.— Першыя два дні смярдзела твая рана. Паглядзім, як цяпер.

— Не лай яго,— сухім голасам кажа Марта.

— Як жа не лаяць,— кажа Паківач,— калі ў яго ў кішках мазгі. Забыў, што такое пан і што мужык.

Злосць зноў падкочвае пад сэрца Корчаку. І ён кажа:

— Мы як ваўкі і як сабакі... Адных шчанюкоў нам з імі... ніколі... не пладзіць.

— Разумны,— кажа млынар,— ды толькі яшчэ ніколі воўк не вартаваў пакояў, а сабака не выў у начным лесе. Дык, значыць, і не лезьце ў хаўрус адзін да аднаго, не пніцеся. Яны, бач, справядлівасці захацелі.

— Кры-ыўда.

— Ну, а каб вы панамі сталі — не крыўда была б? Камусьці ўсё адно была б крыўда. Можа, яшчэ і горшая. Няма горш, як з хама пана, а з дзярма пірага.

Гэтыя буркатлівыя словы злуюць Корчака, але ён маўчыць.

— Можа, і горш,— кажа Паківач.— Бо ўсё адно, хто зверху будзе класці ногі на чужы карак. Дык у гэтых паноў ногі больш кволыя, чым твае ступакі. Іхнія ногі да дыгаў і скокаў звыклі, яны такога выспятка даць не могуць, як ты ў карчме.

— Іхнюю далікатнасць... зведаў... У крыжы стралялі, нехрысці.

— Навучылі,— усміхаецца Паківач.— І правільна зрабілі, што навучылі. Вы ж, палахліўцы, вёскай ад дзесяцёх уцякалі. Не з вашымі зубамі арэхі есці. Хоць бы тое падумаў, ці нападае ў Янаву ноч воўк?.. Не-е. Ён чакае той ночы, якую яму бог вызначыў, ён піліпаўкі чакае і тады ў сенцы ўлазіць, каб сабаку дастаць. Таму што бог яму тую ноч даў для ўлады. А да таго ён маўчыць, ён да сялібы не пойдзе, як вы... Палезлі — і наклалі ўсім сялом у порткі. Таму што як быццам і разам, а на справе — быдлячая чарада. Нішто вас не вяжа, кожнаму свая шкура даражэй... Калі не зменіцеся — так вам давеку быдлам і быць.

Забасцё часам аднаго, дык адразу будзе над вамі новая пуга...

— Маўчы, Грынь,— сказала Марта.— Ты што, забыў, што ён ранены, што яго злаваць нельга.

— А і ты маўчы,— сказаў Грынь.— Давай, во, лепей перавязвай.

Марта разгортвала белыя анучы на грудзях Корчака. Паранены адчуў, як збалелае цела дробнай дрыготкай адказвае на штуршкі болю: Марта аддзірала палатно ад раны.

— Тц-тц-тц,— пацмокаў Паківач.

— Дрэнна? — спытаў Корчак, не расплюшчваючы вачэй.

— Лепей,— сказаў млынар.— Але яшчэ не зусім добра.

Яго грубыя рукі дасталі аднекуль жменю шараватай з прозеленню вязкай масы і пачалі раскладаць па ране. Корчак адчуў прыемны халадок.

— Падзякуй свайму богу: тры тыдні не пяклі... Лета, праснакамі абыходзімся,— сказала Марта.— Гэта плесня, што ў дзежцы на рошчыне вырастае, калі не пякуць хлеба.

— Ведаю,— сказаў Корчак.— Здымеш, а ніжэй добрая.

— Ну вось,— сказала Марта.— Калі ёсць божая воля — ачуняеш.

Пах рошчыны вярнуў Корчака да ўспамінаў аб хаце, аб жонцы і дзецях. Пасля ён успомніў хату і нябожчыцу матку. Матка збіралася саджаць у печ хлеб. «Хадзі сюды, сыночак»,— казала яна. Ён ведаў і падыходзіў. Рукі маці былі голыя вышэй локцяў. «Нахіляйся»,— казала маці. І потым яе рука з моцным плясканнем рэзка ўваходзіла ў надзьмутае грыбам цеста. Маці вырывала руку, і ён, малы хлопчык, прыпадаў носам да ямкі ў цесце, а адтуль — толькі на імгненне — шыбала кіслым і рэзкім, аж у вочы калола і ў галаве круцілася, неймаверна сытым і добрым духам. І гэта быў самы прыемны пах, дамавіты, як печ, як родная хата, і лепшы за кожны водар на зямлі — не нанюхаўся б і за ўсё жыццё. Таму што гэта быў — хлеб...

З прыемнымі дрыжыкамі (гэта адыходзіў боль) Корчак падумаў, што цяпер ён, пэўна, можа і не памерці...

...Таму што гэта быў хлеб, а ён верыў хлебу. У хлеб можна было верыць. У хлеб трэба было верыць. Ад хлеба жыццё і ад хлеба адужанне. Ад хлеба не можа не быць адужання. Ён нясе чалавека, і чалавек жыве дзеля яго, памагае яму стаць хлебам, а той за гэта дае чалавеку частку самога сябе. І ў гэтым хлеб вышэй за чалавека, бо чалавек аддае яму ўсяго сябе.

І гэта за хлеб лілася ў Півошчах мужыцкая кроў.

Ён, неяк адразу і да канца, зразумеў, што цяпер яму ніколі не есці хлеба, які падыходзіў у роднай дзяжы. Не есці ні ў хаце матчынай, ні ў сваёй хаце. Маці памерла, яе ніколі ўжо не ўбачыць. А ў сваёй...

— Грынь,— спытаў ён,— што ў Півошчах?

Паківачу стала весялей,— хлопец цікавіўся нечым, значыць, будзе жыць.

— У Півошчах зажывошчы,— сказаў ён.— Зажываюць над мужыкамі. Праўда, нікога не ўзялі, віцэ-губернатар абараніў. Таго-сяго адхвасталі за мэндлікі, ды і ўсё.

— Чаму так... абышлося?

— Кроера сам губернатар, Гамалея, пазваў у Магілёў. Далі, відаць, прачуханá, бо вярнуўся злосны як сабака. Ягонаму фурману губернатарскі лёкай казаў за тытунцом, што на пана Канстанціна крычалі... *Сам* крычаў... Маўляў, з самага пачатку трэба было казаць, што згону плаціць не можаце... Злосны прыехаў Кроер... Заспяваеце вы цяпер, півошчынцы...

Паківач змоўк.

— Што пра мяне... кажуць?

— Пра цябе... Гм... Твае справы, брат, дрэнныя... Аднаму табе давядзецца расхлёбваць кашу за ўсіх. Я ж кажу, што вы не руя, а чарада. Ты збег, можа, нават забіты, цябе няма — твой і адказ. Ды і татары паказалі, што ты вілы кінуў, што з цябе пачалося... Ды і заядлы: крычаў, каб не ўцякалі.

Так, ён ведаў гэта і сам. Ён кідаў вілы, але ён не хацеў папасці. Які ж гэта спрытны мужык не пацэліць, калі захоча? Але апраўдвацца няма рацыі. Не павераць. Не захочуць паверыць. Таму што яны ніколі не нюхалі дзяжы, а значыць, у іхніх жылах цякла іншая кроў. Дзе крыві ні лыжкі, там праўды ні крышкі... Маці, калі была маладая, часам ціхутка

спявала ўначы на прызбе. Месяц, такі поўны, выплываў над садам, і яна спявала:

Ой, за-а лесам, за пралес-ам
З'а-л'а-т'ая дз'я-а-а-ажа...

Потым яна ўжо не спявала... І хто б яшчэ сказаў на месяц: залатая дзяжа? Тыя не маглі. Ваўкі, якія стралялі. А з ваўкамі — па-воўчы... А значыць, ніколі яму ўжо не давядзецца жыць ля сваёй дзяжы.

— Ты — не таго,— быццам апраўдваючыся, сказаў Грынь Паківач.— Ты не бойся. Ніхто не выдасць... Вылечым... Пажывеш ды і пойдзеш у скіты, на Ветку... Там збеглых многа. Стараверы не выдадуць, бо лічаць, што ўлада — ад д'ябла. Пераправяць яшчэ далей... Аж на Кержанец... Так жа яно век і цягнуцца людзі: нашы — туды, а іхнія — да нас.

Корчак маўчаў доўга.

— Не,— сказаў ён урэшце.— Я не пайду... Тут мая зямля... Мой хлеб... Я не павінен пакідаць яго.

— Глядзі,— сказаў Грынь.— Можаш і тут, пакуль не дазналіся.

Яны маўчалі. Адзін пасмоктваў распаленую люлечку. Другі ляжаў з заплюшчанымі вачыма і думаў. Раптам цемра пад яго апушчанымі веямі ўспыхнула гарачым залаціста-чырвоным святлом, і ён здагадаўся: нехта адчыніў дзверы ў імшанік. Ён усвядоміў гэта, але не ўзняў павек. Усё адно ён не можа пакуль што абараніцца, і, калі гэта прыйшлі па яго, ён не будзе глядзець на іх. Хай возьмуць такога. Ён так і памрэ з заплюшчанымі вачыма.

...А Грынь павярнуўся і ўбачыў у дзвярах Міхала Кагута, а за яго спіною твары Кандрата і Андрэя. Усе глядзелі проста на распасцёртую постаць. Толькі Міхал глядзеў змрочна, а блізнюкі — здзіўлена.

Грынь устаў насустрач, ледзь не выпхнуў іх і зачыніў за сабою дзверы. Ён злаваў на сябе: варон лавіў, старая макітра, а пялёхканне млына прыглушыла колы завознікаў.

— Ну? — змрочна спытаў Грынь.

— У нашым завозна,— сказаў Міхал.— Дык мы да цябе.

— Хадзем.

Увесь час, пакуль цягнуўся памол, завознікі і млынар не абмовіліся і словам. Моўчкі цягалі мяхі, моўчкі засыпалі, моўчкі пускалі ваду.

Грукат, значна больш гучны, чым раней, даляцеў і ў імшанік і супакоіў Корчака: значыць, не па яго.

А людзі ля млына не глядзелі адзін на аднаго. Ды і што было Кагутам да млынара? Млынар як млынар. Значна цікавейшы быў старадаўні млын, вузкая стужка адзінай дарожкі, якая вяла да яго і якой яны прыехалі, невялічкі ставок з лілеямі і драмучыя лясныя нетры вакол яго.

Як не цікавіцца? Ставок такі цікавы, раўнюткі. Страха млына зялёная ад моху. І латок увесь аксамітна-зялёны. І шкельцы зялёныя. А ствалы баравых дрэў зусім мядзяныя, бо сонца схіляецца. Зусім мядзяныя, быццам тысячы велічэзных змеяў-мядзянак сталі на хвасты. А над стаўком таўчэ мак камашня, таксама зусім залатая ад сонца. Вось і глядзі сабе, чалавеча. І нічога ты не бачыў, і нічога ты не чуў... Еш боршч з грыбамі, а язык трымай за зубамі... Хто моўча, у таго дума не воўча... М-ня... Вось яно, значыцца, і так, ці ведаеце вы...

І толькі калі Міхал ужо адсыпаў Паківачу належныя гарцы, а дзеці адышлі да воза, млынар ціха спытаў у Кагута:

— Бачыў?

— Не бачыў,— змрочна сказаў Міхал.— І дзеці не бачылі.

Дзікаватыя светла-сінія і бурштыновыя, як у коршака, вочы сустрэліся на хвіліну і зноў разышліся. Але Паківачу гэтага было мала. Яму трэба было ведаць, ці правільна зрабіў ён, Паківач.

— А каб у каго другога ўбачыў?

— І ўхваляў бы, і не ўхваляў,— з мужыцкай хітрасцю сказаў Кагут.— Я, брат, ніколі нікому нічога ніякага...

— ...Ну, а калі што якое?

— Ну, а калі што якое, дык што ж тут такое, яно ўжо...

— Ну, а калі што якое? — настойваў Паківач.

— Ды яно ж, тым часам, і ў другіх не бачыў, і ў цябе. Я чалавек рахманы. Ды і бацька мой, а іхні дзед, таксама не абы-што, і ўсім, вядома, можна, калі ўжо так, і сказаць. Вось яно, тым часам, і так.

— Данясеш? — на чыстату спытаў Паківач.— Дзеці не данясуць, яны простыя душы. А ты?

Міхал паглядзеў проста ў вочы Паківачу.

— Не,— сказаў ён.— Не данясу.

Калі завознікі паехалі, млынар, трошкі супакоены, пайшоў да імшаніка. Перад дзвярыма спыніўся, думаючы аб тым, што трэба будзе ўсё ж перанесці параненага ў будан ля бортнага ўрочышча. І не таму, што Кагут данясе. Ведаючы дзеда Данілу, гэтага можна было не апасацца. Проста далей ад граху. А раптам нехта налезе. Розныя бываюць людзі. Прыйдзе, калі цябе няма, і давай шныпарыць...

З гэтымі думкамі ён адчыніў дзверы. Марта ся дзела над параненым.

— Непрытомны,— ціха сказала яна.

Корчак не быў непрытомны. Проста яму трэба было застацца са сваімі думкамі, і ён не хацеў адгукацца.

Так, для яго больш не было роднай хаты і роднай дзяжы. Таму што яго аднаго гналі, таму што адной ягонай крыві хацелі за падзеі ў Півошчах. А хіба яго трэба судзіць? Хіба гэта ён страляў? Не, пачаў страляць Кроер. Скончыў той паручнік з рысінымі вачыма.

Корчак быў спакойны. Ён проста разважаў.

Караць павінны іх, а караюць яго. Калі зямны суд такі хлуслівы, такі няправедны — чаму б не судзіць кожнаму, папраўляючы яго. Чаму не губернатару? Чаму не дзядзькаванаму смаркачу Загорскаму? Чаму не... мне? Чаму сапраўды?

Ён няўлоўна ўсміхнуўся навізне і небяспечнасці гэтых думак.

Так ён і зробіць. Суд дык суд. І ўсім, хто страляў у крыжы, не пайсці жывымі. Ён заступіцца за свайго Хрыста. Усе яны адкажуць перад праўдай. Таму што яны не дапамагалі хлебу расці, не дапамагалі зямлі маці раджаць. Яны толькі глумілі яе, і таму праўды ў іх не было, і яны былі ваўкі. А з ваўкамі — па-воўчы...

## XII

Выйшлі з двара надвячоркам, калі ўздоўж вуліцы наскрозь ружавеў ад сонца ўзняты каровамі пыл. Мэкалі авечкі, непаразумела штурхаючыся ля варот, і адусюль далятала лісліва-абыякавыя галасы гаспадынь:

— Шу-шу-шу.

— Красуля, Красуля... Ах, каб ты здарова была...

Чуліся рыпенне, шумныя ўздыхі, звонкія жаночыя галасы і добрыя плескачы па крыжах жывёл — гукі звычайнай вячэрняй сумятні.

Але нават у неспакоі быў спакой, таму што быў вечар. І, нібы падкрэсліваючы гэтую стому і спакой, сярэдзінай вуліцы ішоў на вячэру ў чарговы дом азярышчанскі пастух Данька, ляніва, ад няма чаго рабіць, прыкладаючы часам да вуснаў даўгую берасцяную трубу.

Гукі былі чыстыя і гучныя: Данька мог круціць трубы, як ніхто іншы. Дзеці ішлі насустрач яму, а пастух ішоў, так спакойна заграбаючы скуранымі поршнямі пыл, што аж зайздрасць брала. Дай бог быць на вялікдзень папом, узімку катом, а ўлетку пастухом. Дай бог! Бо нічога няма лепшага за гэты вечар, чыстыя гукі трубы і патаемныя позіркі дзевак на гожага пастуха.

Падышоўшы да дзяцей, Данька, які зусім і не глядзеў на іх, нечакана паднёс раструб берасцянкі да вуха Кандрату і раўнуў так, што хлопец аж падскочыў.

— Да-анька, каб на цябе!

— А чаго, чаго ты пасярэдзіне вуліцы ідзеш? — усміхнуўся роўнымі зубамі Данька.

— Ты, Данька,кінь,— сказала Янька.— Няможна.

Яна сядзела на закарках у Андрэя: пабойвалася кароў. Глядзела на Даньку з асуджэннем і павагай. Такі гарэзнік, а кароў не баіцца.

— Не буду, Янечка,— сказаў Данька, усміхаючыся.— Дальбог, не буду, гаспадынечка. А хто ж мяне тады вячэраю накорміць, як не ты.

Ён гэты тыдзень харчаваўся ў Кагутоў і быў задаволены: есці давалі добра.

Кожная гаспадыня ўлешчвае пастуха.

— Чакайце, хлопцы,— сказаў Данька.— Бярыце вось.

Ён палез за пазуху і пачаў даставаць дзічкі, зеленаватыя, з карычнева-ляжалымі плямамі: кожнаму па жмені.

— Буйныя якія дзічкі,— сказаў Паўлюк, набіваючы рот.

— М-гу,— сказаў Данька, сакавіта чамкаючы вя-

лікай дзічкай.— То ж посеркі[1]. Гэтыя есці мо-ожна.

Усе елі дзічкі. Данька, гарэзуючы, даваў Яньцы адну за адной. Дзічак было многа, яны не змяшчаліся ўжо ў дзіцячых далоньках, а пастух, такі спакуснік, даваў яшчэ і яшчэ. Дзеўка глядзела на яго ўмольна, не ведаючы, што рабіць.

— Кінь, Янечка,— сказаў гаспадарлівы Паўлюк.— Злазь з карка, тут кароў няма. Ну вось.. А цяпер глядзі.

Ён палез у Данькаву запазуху і там падчапіў далонню, як каўшом, цэлую горку дзічак.

— На ў прыполік. І не глядзі на гэтага антыхрыста.

— Дык чаго гэта Кагуты сёння такія кагуцістыя? — спытаў Данька.— Толькі пяра аднаго ў Кагутоў няма. І куды ідуць такія прыбраныя Кагуты?

— Пастуха сустракаць,— сказаў Кандрат.— Дарагога госця.

— Ну, гэта яшчэ нічога,— сказаў Данька.— Ад азярышчанцаў можна чакаць і горшага.

Ён быў вывазень з другой вёскі і таму заўсёды трошкі кпіў з Азярышча.

— Вы людзі ветлівыя. Вы не толькі пастуха, вы сена калісь званамі сустракалі. Думалі — губернатар, бо губернатараў вам, па мужыцкай вашай цемнаце, бачыць не даводзілася, а Мінка-салдат казаў: «У-га! Губернатар! Губернатар, браткі, важны, як, не раўнуючы, воз з сенам». Дык вы ўцямілі. Здагадаліся, сустрэлі.

— Кінь,— сказаў спакойна Андрэй.— Брахня ўсё.

— А я хіба кажу: праўда? Куды вы?

— Да Загорскага ў госці,— апусціў вочы Андрэй.— Паклікаў.

— Да дзядзькаванага паніча? Д-добра. Вы ж там глядзіце, хлопцы. Не накідвайцеся на розныя дабраны-смакаваны, як Лапатаў кныр на панскі мэляс. Гонару трымайцеся. Не ў іх адных ён ёсць.

— А мы ведаем,— сказаў Паўлюк.— Мы не з пустымі рукамі ідзём. Мы во лузанцы нясём, гарэхі, мёд.

— Ды нешта позна ідзяце? — спытаў Данька.

[1] Асабліва буйныя дзічкі, якія растуць ля затравелых лясных сцежак і дарог. У Прыдняпроўі некалі верылі, што яны выраслі з памёту мядзведзяў і дзікоў і таму былі такія вялікія.

Дзеці пераглянуліся. Потым Андрэй сказаў спакойна:

— А мы пераначуем. А раніцай пойдзем глядзець усё.

— Ну, глядзіце,— сказаў Данька.— Шчаслівай вам дарогі.

І ён пайшоў, заграбаючы поршнямі пыл.

...Дзеці выйшлі за весніцы. Ісці было прыемна. Ласкавы і яшчэ цёплы пыл прыемна казытаў пальцы, фантанчыкамі ўсплёскваў між іх.

— Добра, што ты не сказаў яму, Андрэйка,— вымавіў урэшце Кандрат.— Ніхто і ведаць не будзе. Нават бацькі. Толькі мы ды Алесь.

— Што я, дурны? Скажу я Даньку, што мы задумалі. Адразу б нас на возе ў Загоршчыну завезлі. А так збочым з дарогі, пройдзем лішнія тры вярсты ды і залезем у Раўбічаў парк. Разгледзім усё ды і пойдзем сваёй дарогай... А то ўсё: Раўбіч — чарадзей, Раўбіч у прычасць страляў, над Раўбічавым маёнткам цмокі лётаюць, да яго балотныя паны ездзяць... А хто бачыў? Хто ведае? Вось і трэба... памацаць...

— А калі нас тыя балотныя паны зловяць?

— Нічога не зробяць,— сказаў Андрэй.— Я з-за абразоў свянцоную ваду ўзяў.

— А страшна. З аднаго пуду можна памерці.

— Страшна,— сказаў Андрэй.— Ну і што ж.

Сонца села, калі яны звярнулі з загоршчынскай дарогі на вузейшую, якая вяла на Раўбічы. Перайшлі ўброд неглыбокую Равеку, што ўвабрала ў ваду апошнюю чырвань неба, і папраставалі ў лугі.

Атава адрасла сёлета такая ладная, што на паплавах не калолася, не балюча было ісці. Касіць пачалі значна раней Янавага дня.

Прайшло больш за месяц, як адгучаў апошні шаст касы, а на дварэ стаяў толькі пачатак жніўня, цёплага і лагоднага, як усё гэта лета.

Незлічоныя стагі цямнелі на росна-шызым абшары, струменілі той асаблівы водар, які бывае ў сена, не кранутага дажджом. Такі ўжо ўдалы быў у той год пакос. Яны былі вялізныя, тыя стагі, і выглядалі ў цямноцці нават трошкі злавесна.

Дзеці ішлі і гаманілі. Яньку неслі на спіне па чарзе, а то пускалі тупаць сваімі нагамі. Але

размова пакрысе глохла, а потым стала чамусь шапатлівай. ...Бо злева, вельмі цьмяна, выплылі ў цемры далёкія шаты Раўбічавага парку. Зусім як у той майскі начлег. Яны былі далёка, тыя шаты, не менш як паўтары вярсты шызым поплавам. А над шатамі, зусім як тады, гарэў ледзь прыкметнай іскрай далёкі агеньчык.

— Зноў не спіць,— сказаў Паўлюк.

— Ніколі не спіць,— уздыхнуў Андрэй.— Чакае.

Цяпер блізняты ішлі першыя, поплеч. Каб першымі, у выпадку чаго, сустрэць бяду.

Гарэў над паплавамі далёкі, вельмі самотны ў цемры агонь. І дзеці ішлі на яго.

Шаты выраслі над галавою зусім нечакана. То былі ўсё далёка, далёка, а то раптам насунуліся на дзяцей і навіслі над галовамі. І агонь знік.

Агароджа з тоўстых жалезных прутоў ішла ў левы і правы бок, і ёй не было відаць канца.

— Пойдзем направа,— шэптам сказаў Андрэй.— Не можа быць, каб дзіркі нідзе не было.

Але ім давялося ісці даволі доўга, пакуль Кандратава рука, якой ён увесь час вёў па прутах, не натрапіла на пустое месца. Нехта выламаў адзін прут. Трэба было лезці. Але парк цямнеў так страшна, што яны міжвольна марудзілі.

З парку даляцеў крык, ціўканне птушкі, якую, відаць, заспеў у сонным гняздзе нейкі начны драпежнік. Можа, то куніца гаспадарыла па чужых кублах, а можа, соўка-начніца. І гэтае ціўканне быццам абудзіла ўсіх.

— Ну-к што ж,— перахрысціўся Андрэй.— Палезлі...

Яны пералезлі, і цёмныя паркавыя шаты прагна накрылі іх.

...Крокі былі бязгучныя. Густая трава глушыла іх. Цемра востра, па-начному, пахнула грыбамі, вільготнай лістотай, моцным дубільным духам дубовых хмызоў і трошкі душным, лазенным водарам бяроз.

Нябачная сцежка, якой яны ішлі, прывяла да высокай зламанай бярозы над самым адхонам. Бяроза зламалася, але не ўпала, затрымаўшыся на суседніх дрэвах, і цяпер жорстка бялела ў цемры сваім мёртвым ствалом.

Адсюль было відно даволі далёка. Сцежка

тут раздвойвалася. З левага боку яна ішла да кучаравага ўзгорка, на ґяршыні якога невыразна бялела дзвюма званіцамі раўбіцкая царква.

Другі адрожак сцежкі спускаўся з адхону, вёў кудысьці ніжэй, відаць, да другіх белых будынкаў, якія вольна раскінуліся ў чашападобнай лагчынцы, што пачыналася адразу ля падножжа царквы. І, замыкаючы лагчынку з другога боку, паўколам ляжала ў нізіне падкова свінцовага возера.

— Пойдзем па правай,— сказаў Кандрат.— Ну яе да д'ябла, царкву. Раўбіцкія казалі, стаіць, як труна.

Сцежка спускалася па схіле наўскос і неўзабаве вывела на адкрыты з двух бакоў выступ узгорка. На выступе густа раслі дрэвы, а між дрэў шарэла вузкая будыніна, падобная на царкву без барабанаў[1] і купалаў. Гэта была, відаць, старая камяніца, вежа пры доме. Такіх многа ў той час было раскідана ля прыдняпроўскіх маёнткаў. Заўсёды трошкі наўздалёк ад новых дамоў, старыя прыбежышчы роду на выпадак вайны, цяпер ужо нікому непатрэбныя, халодныя, як склеп, бо сонца не паспявала за лета прагрэць і высушыць двухсажнёвую таўшчыню муроў, яны павольна разбураліся, раняючы з кладкі на траву паточаныя каменным слімаком валуны. З часам камяніцы пачыналі нагадваць чорна-жоўтыя соты, мёртвую вашчыну без пчол.

Калісьці былі пісталетныя стрэлы, калісьці былі аблогі і пчаліны гуд стрэл. Цяпер — нічога, акрамя разбурэння.

Дзеці, павольна пасоўваючыся ўздоўж аднаго боку будынка, убачылі яр, што рассякаў лагчыну, а за ярам панскі дом. Дом быў зусім цёмны — ніводнага светлага акна.

— Адкуль жа святло? — шэптам спытаў Паўлюк.

Андрэй пацісну́ў плячыма. І як толькі яны мінулі рог камяніцы, такой, здавалася, нежывой, такой безнадзейна мёртвай, яны ўбачылі адбітак гэтага святла на кроне волата-дуба, што рос ля сцяны...

...Свяцілася акенца ў верхнім паверсе камяніцы. Свяцілася нежывым, сінім, нейкім зіхоткім агнём: часам мацней, часам слабей.

— Зазірнуць бы,— сказаў Кандрат.

---

[1] Барабан — круглая надбудова, якая трымае купал.

— Потым на дуб палезем,— сказаў Андрэй.— А зараз абыдзем камяніцу. Чорт яго ведае, дзе тут дзверы. Часам нехта выйдзе і схопіць... Я ж казаў, нячыста тут.

Яны рушылі далей, павольна абышлі ўжо тры бакі будыніны і цяпер павінны былі выйсці на чацвёрты бок, што выходзіў на стромы адхон.

Дзвярэй не было і тут, як быццам той, хто паліў агеньчык, прылятаў сюды паветрам. Але затое тут было акно на ўзроўні зямлі, відавочна прабітае пазней у глухім муры, і з гэтага акна падала на строму чырванаватае святло.

Яны ўбачылі гэтае святло і адначасова пачулі нягучнае і рэдкае пастукванне жалезам аб жалеза, учулі саладкаваты серны смурод.

З заміраючымі ад цікаўнасці і жаху сэрцамі яны плазавалі да гэтага акна. Паўлюк застаўся з Янькай у хмызах, а хлопцы паўзлі бліжэй, бліжэй. Чырванаватыя ўспышкі рабіліся больш яркія, пастукванне — больш трывожнае і выразнае.

Стук-пых... Стук-стук-пых-х...

Акно было закратаванае, і праз яго яны ўбачылі вялізнае сутарэнне з каменнай падлогай і скляпеннямі. Усе сцены яго, акрамя адной, танулі ў змроку, а тая адна была асветлена зіхоткімі ўспышкамі горна, над якім навісаў чорным грыбам каўпак. Ля горна стаялі каменныя сталы з дзівоснымі прыладамі са шкла і металу.

Стук-пых... Стук-стук-пых...

У сутарэнні былі чатыры чалавекі. Адзін сядзеў за сталом, каля горна, і трымаў над жароўняй нешта падобнае на патэльню. Гэта з патэльні часам пыхаў вінна-чырвоны агонь, і тады чалавек зноў сыпаў на яе чорны парашок, ківаў галавою і каліў далей.

Другі сядзеў наводдаль. Перад ім трапятала, заціснутая адным канцом у ціскі, металічная паласа. Ён пастукваў па ёй невялікім востраканечным чаканам.

Стук-пых... Стук-стук-пых-х...

Два астатнія сядзелі, захутаўшыся ў грубыя суконныя плашчы, і глядзелі ў агонь. І ўсе чатыры былі нечым падобныя; згасала чырвоная ўспышка, і тады нават у святле горна можна было заўважыць фарфоравую бледнасць абліччаў.

І ўсе маўчалі, быццам словы паміж імі былі зусім непатрэбныя.

Успышкі ўсё часцелі. І вось чалавек ля горна зняў з сагана зусім круглую бутэльку з вузкім рыльцам, ускалаціў нейкі асадак і паказаў чалавеку з паласой. Той сцвярджальна апусціў галаву.

Трапятала чырвонае полымя.

Чалавек падаў паласу аднаму з тых, што сядзелі. Вызваліў другую паласу, крутой дугою выгнутую між двума ціскамі, і падаў суседу першага. Тыя скінулі плашчы і, застаўшыся ў суконных нагавіцах і белых сарочках, пачалі маўклівую і страшную сваёй маўклівасцю гульню ва ўспышках чырвонага святла. Пачалі біць паласой аб паласу, па-рознаму трымаючы іх, білі па чарзе. Потым адзін біў па паласе другога, уторкнутай адным канцом у шчыліну паміж плітамі падлогі. Потым другі біў даволі тоўстай доўбняй па паласе першага.

Адзін з удараў доўбні зламаў метал. І ўладар доўбні моўчкі, са змрочным тварам, развёў рукамі.

І тут успышка небывала чырвонага густога полымя ахапіла сутарэнне. Чалавек над жароўняй стаяў і выскаляў зубы ў патоках чырвонага святла, якія змяіліся ўсё вышэй і вышэй. Рукі ягоныя былі пераможна ўскінутыя ўгору.

Гэта было так страшна, што хлопцы кінуліся прэч і апамяталіся толькі за рогам будыніны.

— Што бачылі? — спытаў Паўлюк.

— Выклікалі кагось,— коратка сказаў Андрэй.

— Каго?

— Не ведаю. Але не на дабро. Пайшлі адсюль.

— А агонь? — напомніў Кандрат.

— Так, агонь,— у Андрэя ўпаў голас.

Яны ўзнялі вочы да акна і ўбачылі, што сіні агеньчык згас. На яго месцы цяпер цямнеў правал акна. Звычайны мёртвы правал. Больш нічога.

І хлопцы адразу адчулі, як жах саступіў месца расчараванню. Агонь быў так блізка, такі высокі і сіні. Хто ведае, якія дзівосы ён асвятляў. І вось яны, дурні, пакінулі яго, дачакаліся, пакуль ён згас.

— Ёлупы,— сказаў Кандрат.— Боўдуры.

Гэта сапраўды было горка, калі ўжо забыцца на страх. Столькі разоў бачыць іскру над шатамі парку, наважыцца, нарэшце, ісці сюды, нацярпецца жаху,

убачыць агонь зблізку, такі зменлівы і сіні. І ўсё зглуміць.

— Пайшлі,— сказаў Андрэй.

Зноў сцежка, на гэты раз з уступу, у абход невялікай падковы возера. Зноў пах грыбніцы і стылая раса.

Хлопцы ішлі моўчкі, з апушчанымі галовамі. Было халодна і няўтульна пад шатамі дрэў. Добра, што хаця Янька не плакала, бо ёй было ўсё адно, так яна хацела спаць. Андрэй зняў з сябе світку, і яны падвязалі дзяўчынку на спіне Кандрата, зрабіўшы нешта накшталт мяшка, у якім было цёпла і ўтульна. Кандрат цяпер мог вызваліць рукі, яму стала лягчэй.

— Прыйдзем яшчэ сюды? — ціха спытаў ён у Андрэя.

— Прыйдзем,— падумаўшы, адказаў Андрэй.— Трэба прыйсці.

— Каго ж яны ўсё-ткі выклікалі? — спытаў Кандрат.

Андрэй не адказаў. Ды і што можна было адказаць?

Цемра. Глухія крокі. Сонныя пасопванні Янькі на спіне ў Кандрата. Пачынае прабіраць холад, той санлівы холад, калі сківіцы раздзірае пазяханне і чалавек марыць, як аб вышэйшым шчасці, аб ахапку сена, у які можна зашыцца.

Мужны дух прадпрымальнасці і прыгод заўсёды церпіць ад такіх акалічнасцей.

Яны мінулі возера, з якога патыхала вільготным халадком і рыбнай сырасцю. Парк зноў зрабіўся густы,— не парк, а нейкія нетры з лаўжамі і ветраболем, з рэдкімі глухімі сцяжынкамі.

Па адной з такіх сцяжынак яны ішлі даволі доўга; ішлі і амаль не спадзяваліся, што калі-небудзь ёй будзе канец. Але сцежка ўлілася ў папярочную сцежку, што была шырэйшая і нагадвала хутчэй вузкую дарогу, па якой ледзьве можа праехаць воз. Дарожка гэтая была як тунель, так спляталіся над ёю галіны дрэў, з левага боку яна праз нейкіх пяць сажняў улівалася ў невялічкую паляну. І палянка была таксама цёмная, бо над ёю схіляліся, засцячы неба і ўтвараючы над ёю шацёр, верхнія галіны магутных, вычварна-каржакаватых дрэў. А пад шатром, займаючы амаль усю палянку, стаяла самая дзівос-

ная будыніна, якую ім давялося бачыць у сваім каратусенькім жыцці.

Будыніну абкружаў частакол з завостраных бярвенняў. Над частаколам уздымаліся толькі два-тры вянцы сцен ды трох'ярусны дах з грубай замшэлай шчапы. На вільчаку верхняга яруса нерухома ўзвышаўся «балотны чорт», вычварная карчага, якой вятры і гнілая вада часам надаюць падабенства з пачварным ідалам.

У вянцах сцен там-сям цьмяна блішчалі маленечкія сляпыя акенцы з разьблёнымі ліштвамі. Такая ж разьблёная брама разрывала ў адным месцы частакол. Палі яго вянчалі пабеленыя непагодай конскія чарапы з цёмнымі праваламі вачэй.

Дзеці не ведалі, што гэта была лазня Раўбіча, пабудаваная ў «казачным» стылі, але, дрыжучы, адчувалі гэта казачнае і страшнае. Відаць, сюды, да гэтай брамы, павінны былі прыязджаць, каб загінуць: увечары — светлы дзень, а перад світаннем — чорная ноч.

З цёмнага тунеля дарогі даляцеў стомлены, рэдкі стук капытоў, а потым з'явілася сама ноч, як гэта ёй належыць — на чорным кані і ў чорным плашчы.

Конь ішоў мернай ступою, а коннік сядзеў на ім, схіліўшы галаву, і доўгі чорны плашч, падобны на абвіслыя вялізныя крылы, прыкрываў рэпіцу жывёлы.

— Вось каго выклікалі,— шапнуў Кандрату Андрэй.

Хлопцы не здзівіліся, пазнаўшы ноч у твар, пазнаўшы гэтыя доўгія вусы, гэтую рукаяць пісталета, што выглядала з саквў.

Коннік пад'ехаў да частакола і з хвіліну пастаяў перад ім. Потым, не ўздымаючы галавы, павольна ўзняў стрэльбу і тройчы, з вялікімі перапынкамі, стукнуў руляй у дошкі варот.

...Не чакаючы больш ні хвіліны, баючыся невядома чаго, дзеці кінуліся бегчы так, як не беглі ніколі ў жыцці.

Яны не памяталі і не ведалі дарогі, не звярталі ўвагі на стому, ад якой рэзала ў грудзях, не памяталі, дзе пералезлі агароджу. А можа, яе і зусім не было? Яны беглі і апамяталіся толькі на знаёмым раздарожжы, ад якога да Загоршчыны было не больш як дзве вярсты.

Было цёмна. Пахла бярозавымі венікамі. Пасля

ўспыхнуў агеньчык. Рука, упрыгожаная на запясці жалезным узорным бранзалетам, паднесла сярнічку да васковай тоўстай свечкі. Потым да другой. Да трэцяй.

І тады другая рука, загарэлая аж да гарчычнага адцення, зняла са стала ўпрыгожаны срэбнымі насечкамі пісталет. Схавала пад стол.

— Баішся? — іранічна спытаў Раўбіч, скідаючы на лаву плашч.

— Сцерагуся,— сказаў Война.

Раўбіч выняў з-пад плашча кошык і паставіў на стол.

— Падсілкуйся.

Спаласаваны і зрэзаны страшнымі шнарамі твар усміхаўся.

— «Правда ль, что Бомарше кого-то отравил?» — спытаў Война.

І гаспадар лазні адказаў у тон яму:

— «Гений и злодейство две вещи несовместные».

— Ведаеш класіку,— сказаў Война.

Яны сядзелі за адным сталом. Война еў, скоса паглядаючы на субяседніка насцярожанымі і бязлітаснымі вачыма. Яго чорныя бровы былі нахмураныя.

А Раўбіч сядзеў насупраць, і яго твар ажыўляла іранічная ўсмешка. Вялікія, зусім без райка, цёмныя вочы спакойна назіралі, як пальцы Войны ламалі курыную нагу.

— Згаладаўся ты, браток.

Вычварна зламаныя, пагардлівыя бровы Раўбіча дрыжалі.

— І так дваццаць год,— сказаў ён.— Божа мой, колькі пакут! І, галоўнае, дарэмна. Увесь час спаць адным вокам. Увесь час недаядаць.

— Лепей недаесці, як ястраб, чым пераесці, як свіння.

— Намёк? — спытаў Раўбіч.

— Ты што? — сказаў Война.— Не, кум, цябе гэта не тычыцца. Ты таксама не ціхая горлінка, таксама «хищный вран» над гэтай напаўжывой падлай. Гэта не пра цябе. Гэта пра тых, што зажэрліся, што забылі.

Яны глядзелі адзін на аднаго. Прылазнік, асветлены спакойнымі язычкамі свечак, быў някепскай дэкарацыяй· вышараваныя да жаўцізны бярвенні сцен, пучкі мяты пад столлю, шырокія лавы пад мяккімі

чырвонымі налаўнікамі, стол, на стале ежа і паліваны збан з чорным півам, а ля стала два насцярожаныя чалавекі.

— Урэшце, хто мяне выручыў, параненага,— сказаў Война, канчаючы есці,— хто падабраў у яры? Хто выхадзіў? Каму ж можа больш верыць Чорны Война?

— А ты не ганарыся, Багдане,— жорстка сказаў Раўбіч.— Я тады не ведаў, што ты Чорны Война. Проста бачыў тваю перастрэлку з земскай паліцыяй. А ў мяне, кумок, з гэтай публікай свае рахункі. Дый, потым... калі шасцёх нападаюць на аднаго — праўда не на іх баку.

— Лыцар,— сказаў Война.— Ты ж глядзі, лыцар, не забудзь папярэдзіць «блакітных», што мяне бачылі ў наваколлі.

— Папярэджу,— спакойна сказаў Раўбіч.— У мяне таксама ёсць тое, чаго нельга ставіць на карту.

Война скручваў з грубага тытуню цыгарку. Знявечаныя пальцы рухаліся няспрытна.

— Дай я,— сказаў Раўбіч.

— Не трэба. Ва ўсякім разе, адзін палец у мяне здаровы... Той, што кладзецца на курок.

— Война,— сказаў Раўбіч.— Не рызыкуй сабой, Война. Пачакай трошкі. Час надыходзіць. А ты можаш не дажыць. Ты будзеш патрэбен жывы, а не мёртвы. Перасядзі год-два. Месца я табе знайду. Адпачні. А потым я паклічу.

Цень Войнавай галавы адмоўна хіснуўся на сцяне.

— Ты нядрэнны чалавек. Але я кажу — не. Таму, што ты шукаеш сяброў. А сябры прададуць. Чалавек — быдла. У атрадзе з трох — адзін здраднік. І, потым, мне няма часу. Старыя салдаты жывуць, пакуль ідуць. Калі я прысяду — я не ўстану, такая стома ў маіх касцях. Я падаю табе знак і прыходжу сюды, калі ўжо зусім немагчыма. Я сплю тут як чалавек, але потым мне зноў цяжка звыкаць да насцярожаных вачэй, да дажджу, да свайго берлагу... як дваццаць год таму.

Ён апусціў павекі.

— Сёння я раскажу табе нешта,— не вельмі ахвотна сказаў ён.— Ты памятаеш бунт у трыццатым годзе?

— Але. Толькі тады я быў іншы і не разумеў яго.

— А я разумеў. Мне тады было дзевятнаццаць, і я верыў у людзей. Верыў у бунт, у наша паўстанне,

у тое, што людзі яму не здрадзяць. Веру я ў гэта цяпер або не — мая справа. Золата самы брудны метал, але з яго робяць шапку, і яе гаспадар з мазгамі капітэнармуса атрымлівае права сядзець на чалавечай пірамідзе, мучыць людзей, якіх ён мазаля не варты. Гарнастай — подлы і хцівы звер, але з яго робяць бялюткую мантыю, і яе гаспадар чамусьці атрымлівае правы шматаваць свой народ і процьму другіх.

Война паклаў на стол цяжкую далонь.

— Я верыў, што астатнія думаюць, як я. Напэўна, таму, што я любіў сваё Прыдняпроўе і верыў, што мае сябры жадаюць яму дабра. А потым пачалося. Перш за ўсё здрадзіла гэтая сволач, Хлапіцкі[1]. Дыктатар паўстання. Напалеончык... Потым іншыя. Разгул подласці і жывёльнага жаху... Што здзіўляцца, што нас разбілі, што мужыкі нам не верылі. Але я верыў. Праз год я прыйшоў да некаторых сяброў і сказаў, што час пачынаць спачатку. І ўбачыў, што адзін разводзіць капусту, а другі служыць столаначальнікам. Убачыў пустыя ад жаху вочы... А яны ж былі зусім як я. І я зразумеў: яны спыніліся ў нянавісці. Што мне было рабіць? Начальнікі здрадзілі. Сябры дрыжалі. Народ пакорліва цягнуў ярмо. Усё, у што я верыў, было, значыцца, як байка для дурных дзяцей, а мая мара — паламаная цацка.

Ён усміхнуўся.

— Я быў малады і гарачы. Адзін дык адзін. І я вырашыў: паўстанне будзе жыць, пакуль буду жыць я. Павінна ж быць праўда!

Цяпер у яго словах гучала наіўная, але цвёрдая гордасць.

— І вось яно жыве. Яны думаюць, што задушылі яго, а яно жыве, дваццаць год гучаць яго стрэлы. Які яшчэ мяцеж трымаўся так доўга?! Таму я і сплю адным вокам, таму сцерагуся. Яно павінна жыць доўга... аж пакуль не падстрэляць мяне. Мне нельга спыняцца. Іначай атрымаецца, што я дарэмна жыў.

Уздыхнуў.

— Часам мне цяжка. Я гляджу здалёк на твайго Стася. Гляджу на тваю Наталлю. На Франса. На Майку... Я люблю дзяцей. Часам думаеш, што супраціўленне ні да чаго не вядзе. Можна кінуць усё і

[1] Хлапіцкі — дыктатар у паўстанні 1830 г.

жыць... Але потым я ўспамінаю, як мітусяцца яны ўсе, пачынаючы з Мусатава. Я ўспамінаю, што кожны мой стрэл — гэта поўха тым, з пустымі вачыма... I вось таму мне з табой не па дарозе. Я не магу чакаць.

— Добра,— сказаў Раўбіч.— Я пайду, бо ты зусім засынаеш... Спі спакойна, кум.

— Чаму ж не спаць? Буду спаць. Інсургент спіць, а інсурэкцыя[1] ідзе.

## XIII

Калі першая птушка ціўкнула ў хмызах — ёй ніхто не азваўся. I гэта азначала, што быў жнівень і птушкі сталі больш лянотнымі.

Такая, мусіць, халодная раса! Так не хочацца кідаць гняздоўя! Хто гэта там азваўся? Ах, ён няўрымста!.. Хоць бы яшчэ хвіліну! Хві-лі-начку!

Раса сапраўды была халодная. Лісцікі бэзу, густа пакрытыя ёю, здаваліся шэрымі. Шэрае, туманнае прабівалася праз лістоту святло.

Страсяні галіну карычкі — сцюдзёны і нават балючы, як шрот, дождж прамочыць з галавы да ног.

У першым святле вывелі коней на цёмны ад расы жвір. Логвін, пазяхаючы, глядзеў, як Кандрат і Андрэй запрагаюць у маленькую лялечную брычку двух шатландскіх поні. А тыя запрагалі і не пераставалі здзіўляцца жывёлам. У поні былі чубкі і вочы, такія рахманыя.

Худы, падабраны Логвін быў усцешаны тым, што не давядзецца ехаць. Ён вось пастаіць-пастаіць, а потым і пойдзе і даспіць гадзінку-другую. Хай сабе едуць адны. Хто пакрыўдзіць дзяцей? Дзеці — усмешка божая. Іх крыўдзіць нельга.

I таму Логвін здаволена ўсміхнуўся. Разбудзілі «дам», кінуўшы жменю пяску ў акно першага паверха. Яны апрануліся хутка і, праз капрыз Майкі, вылезлі праз акно і, вядома, адразу ж прамоклі. Таму іх, пад агульны рогат, давялося з месца садзіць у брычку і захутваць вярблюджай папонай. Так яны і сядзелі, як двайняткі. I прыемна было глядзець на ганарлівы твар Майкі і свежанькае пыска Яні.

---

[1] Паўстанне.

Жвавы, як цвыркун, Мсціслаў адразу ж забраўся ў брычку, на месца фурмана, каб быць бліжэй да дзяўчатак. Логвін, гледзячы на гэта, толькі галавою круціў: «Спрытны, чорт, як артуць. Такі ўжо татарын Проста дзівуешся».

Алесю падалі Ургу, Андрэю — мышастую Касюньку, Кандрату і Паўлюку — спакойных дарашаватых кабылак.

Алесь агледзеў кавалькаду — усё было гатова. І ён зноў адчуў у сэрцы тое шчасце, якім жыў ужо другі дзень.

...Маці ў гэтыя дні трошкі прыхварэла і не выходзіла да іх. У яе якраз пачынаўся той настрой асаблівай уражлівасці, якога пан Юры заўсёды пабойваўся і які цягнуўся звычайна толькі некалькі дзён на год.

Пачыналася гэта з першымі жоўтымі лісцікамі на бярозе, за Іллёю, які, як вядома, скінуў з кожнага дрэва па два лісты. Дрэвам яшчэ бясконца доўга было зелянець, але няўлоўны сум, які разліваўся з гэтага часу ў прыродзе, няўлоўныя для вока першыя прыкметы памірання быццам адразу забівалі сумную і слабую жыццярадаснасць маці, і яна замыкалася ў сабе.

Паскараў усё гэта дзень, калі пан Юры збіраўся на першае сапраўднае паляванне. Учарашнія хлапунцы ўзняліся на крыло. Крыжныя яшчэ не пачыналі ліняць. Набліжаўся дзень вялікай птушынай крыві.

Звечара пачыналі рыхтавацца. І адразу ў матулі пачынала балець галава, а вочы сумнелі. Ведаючы, што нічога не паможа, што добры і мяккі пан Юры робіцца, як толькі дойдзе да палявання, сапраўдным убоіскам і нізавошта не паслухаецца яе, яна ўсё ж распачынала вартыя жалю спробы ўтрымаць яго.

— Як вы можаце гэта, Georges?

Жорж маўчаў, утаропіўшыся ў талерку.

— Філёмон (так яна называла Халімона) казаў, што ўчора бачыў, як качка вяла хлапунцоў. Іх яшчэ многа. Яны ва ўсіх качак, у якіх ліса разбурыла першае гняздо.

— Да мы, матухна, хлапунцоў не страляем,— бараніўся пан Юры.— Што ў нас, разумення няма? Мы сёння на бакасоў едзем.

— Яшчэ горш. За што такіх маленькіх?

Пан Юры маўчаў. Што ён мог зрабіць, калі з лугоў і балот ляцеў такі прызыўны кліч?

І пані Антаніда разумела, што яна нічога не зробіць.

Тады яна замыкалася ў сваіх пакоях, не пускаючы на вока нікога. Нават малы Вацлаў у гэтыя дні пераходзіў на рукі мамак. Што ж, калі ў яго кволыя ружовыя пальчыкі? Яны таксама будуць трымаць стрэльбу.

Гэта было нейкае сумнае непаразуменне перад пачаткам забойства, які жыў у душах многіх.

Пан Юры, сустракаючы сына, казаў яму:

— Ты, брат, не лезь да яе. У яе, ці ведаеш, не тое, што ў нас...

Пакоі маці былі цёмныя, як і яе думкі.

Затое з панам Юрыем дзецям было лёгка і проста. Ён сядаў за стол і перш за ўсё пытаўся ў дзяцей грубым голасам:

— Што, дзеці, ці лілі вы алей у бульбу, ці не лілі?

І пытаў другім голасам:

— Чаго ты цілікаеш?

І зноў адказваў першым голасам, толькі вінаватым:

— Я не цілікаю. Я пытаю.

Дзеці рагаталі. А ў бацькі хоць бы ўсмешка, зусім сур'ёзны, нават змрочны. Толькі ў вачах таіліся вясёлыя чорцікі.

І дзеці яшчэ больш палюбілі яго, калі ён згадзіўся адпусціць іх адных агледзець старое загорскае гарадзішча з руінамі камяніцы.

Госці пайшлі спаць. Бацька з сынам і герам Фельдбаўхам абмяркоўвалі гэтае пытанне ўтрох. І калі немец па сваёй ахвоце вырашыў далучыцца да дзяцей, бацька разважліва зазначыў яму на шматлікія невыгоды, якія давядзецца цярпець усяму наваколлю ад легкаважнага імкнення пана Фельдбаўха да забаў.

— Я б і рад, пан Фельдбаўх. Але я толькі падумаў, што вы, напэўна, забылі...

— Was?..

— Вы, напэўна, забылі, што Хаданскія рыхтуюць феерверк, каб здзівіць гэтых выскачак з Магілёва. Яны прасілі, каб гер Фельдбаўх прыгледзеў, бо ўсім вядомыя яго поспехі ў піратэхніцы, якіх ён дабіўся,

удзельнічаючы ў падрыхтоўцы традыцыйнага студэнцкага феерверку яшчэ ў Гецінгене...

Гувернёр схапіўся за галаву. І сапраўды забыў. Было б няўдзячнасцю... Ды яшчэ феерверк, шум, выбухі.

Ён паспешна пайшоў збірацца, каб назаўтра раней выехаць да Хаданскіх. Бацька і сын засталіся ў курыльні. Пан Юры задумліва пускаў дым сігары.

— Бацька,— сказаў Алесь,— у мяне да цябе справа.

— Ну?

— Адпусці Кагутоў на волю.

Бацька зірнуў на сына са здзіўленнем. Той сядзеў у крэсле, і шэрыя вочы глядзелі непрымірыма.

— Мне сорам глядзець ім у вочы. Я хачу, каб яны прыходзілі да мяне самі, а не тады, калі я іх паклічу. Ім трэба даць волю і... вучыць таго з дзяцей, хто гэтага захоча. Магчыма, Паўлюка, яму якраз час.

Бацька не раззлаваўся.

— А ты падумаў, ці захочуць яны гэтага? Уся адказнасць адразу падае на плечы вольнага. Адказнасць за неўраджай, за магчымую пошасць...

Пан Юры з павагай паглядзеў на сына.

«Дарослы,— падумаў ён.— Умее нават разважаць. І мае перакананні».

І, хутчэй ад замілавання гэтай нечаканай дарослацю, чым ад усведамлення неабходнасці волі для кагосьці з Кагутоў, бацька сказаў:

— Добра. Праз два тыдні я паеду ў Сухадол і аформлю вольную. А ты не баішся, што, вольныя, яны пакінуць цябе?

— Іхняе права,— сказаў сын.— Ды толькі яны не пакінуць.

— Добра, сын. Я зраблю гэта для цябе.

— Для сябе,— сказаў сын.

— Ну, для сябе. Што яшчэ?

— Вучыць іх трэба.

Бацька памаўчаў.

— А ты падумаў, сыне, ці вядзе гэта да шчасця?.. Зараз у іх простыя думкі і пачуцці, упэўненасць у тым, што карысная іхняя праца і яны самі. Чым ты хочаш гэта замяніць? Ты ведаеш, якія бяздонні, адна за адну страшнейшыя, расчыняюцца перад вачыма дасведчанага? Якія бяздонні жаху і холаду? Сам я не

так далёка пайшоў — і то часам адчуваю. Ледзяны холад і ледзяная самота. З кожным пытаннем усё менш разумееш. Просты бачыць толькі зладжаны крок чалавечых кагорт. Мудры чуе тупат чарады, якая бяжыць да прорвы. Ён бачыць, што тыя, хто яе вядуць, ненавідзяць чараду і адзін аднаго. Ён бачыць, што ўвесь наш хвалёны свет — рота, якая крочыць не ў нагу і ў якой толькі паручнікі, толькі ўрады імперый крочаць у нагу... Каб давесці людзей да агульнай пагібелі.

Ён паківаў галавою:

— Дык ці не лепей араць зямлю?.. Паляваць?

Сын сур'ёзна глядзеў на яго.

— А мне ты хацеў бы гэтага?

— Не...

— Дык не жадай тады і ім.

...Успамінаючы цяпер гэтую размову, Алесь не мог не думаць, што зрабіў правільна.

Усё добра. Цяпер трэба ехаць. І ён лёгка занёс нагу ў стрэмя.

— У сёдлы, хлопцы.

Урга злёгку, пужаючы, даў свечку. Потым апусціўся на пярэднія ногі і затанцаваў, косячы на брычку і дзяўчатак залатым і трошкі крывавым па бялку вокам.

Рушылі.

Застаялыя коні пайшлі лёгкай ступой. Коннікі, абкружыўшы брычку, ехалі моўчкі. Абы з дарослых вачэй.

Паабапал алеі стаялі туманна-блакітныя дрэвы. Яны павольна адплывалі назад.

А Майцы ўсё гэта было нова. І тое, што хлопчыкі эскартавалі іх, і тое, што ўсе маўкліва прызнавалі правадыром гэтага трошкі няўклюднага хлопчыка, які ехаў наперадзе ўсіх на арабе, і тое, што побач з ёю сядзела гэтая, зусім не непрыемная, сялянская дзяўчынка з дзікаватымі сінімі вачыма.

— Ён жыў у вас,— шапнула яна.— Які ён?

— Го-ожы,— сказала Янька.— І сме-елы. Ён ад мяне бычка-гадавіка адцягнуў. Я з таго часу баюся кароў.

І Майка чамусьці была ўдзячная ёй за добрыя словы.

— Алесь,— сказала яна.

Алесь прытрымаў Ургу, паехаў побач.

— Ты малайчына, што зрабіў так.

— Як?

— Ну... што мы без дарослых.

Блізнюкі пераглянуліся, заўважыўшы манеўр Алеся. Бадай што, гэта было непатрэбна яму: аставацца з дачкой чалавека, у парку якога яны пазаўчора былі. Але яны змоўчалі. Яны, наогул, нічога не расказалі Алесю аб начных сваіх прыгодах, калі ўбачылі, што раніцай прыехала Раўбічава дачка. Не варта. Тым больш што яна ніштаватая. Бываюць жа і ў чараўнікоў добрыя дочкі — гэта ўсе ведаюць, хаця б па дзедавых казках. Прыедзе каралевіч, дык яны яго яшчэ і ад злога бацькі ўратуюць, вядома, калі закахаюцца.

Мсціслаў сядзеў на месцы фурмана, і таму Алесь і Майка не абмовіліся і словам пра медальён.

Калі выехалі з парку — усход ужо моцна чырванеў. Хлопцы пачалі дурэць, ганяцца адзін за адным. Ад'язджалі так далёка, што рабіліся лялечнымі, а потым наметам, з дзікімі выгукамі, ляцелі проста на брычку.

Потым паехалі паплавамі ўздоўж Папараці. Тут травы ніхто не касіў — занадта далёка было,— і коні хаваліся ў ёй вышэй жывата. Буяна цвіў малінавы скрыпень, жоўтыя конусы магутнага царскага бэрла хісталіся, як сягала вока. Кандрат на хаду зрэзаў полае сцябло дудніку і зрабіў з яго пісталет, а потым, нечакана наляцеўшы на брычку, наставіў яго на Мсціслава.

— Хто такі? — спытаў Мсціслаў.

— Ваўкалака,— ашчэрыўшы зубы, сказаў Кандрат.— Давайце дукаты ў худую суму, давайце княгіню — з сабою вазьму.

І цягнуў рукі да Янькі. Дзяўчаткі віскаталі, хаця Ваўкалака быў мілы і зусім не страшны і нават падабаўся Майцы.

Было весела. А потым Андрэй спяваў песню пра Ваўкалаку, і яму падцягваў нечакана прыемным галасам Мсціслаў:

Што то за сцежка — без краю, без краю?
Што то за конік — ступою, ступою?
Злыя татарнікі пад капытамі,
Воўчае сонейка над галавою.

А потым другую, як малады Ваўкалака пайшоў

адбіваць у гайдукоў бацькавых валоў і не вярнуўся ў дом і як груган на сухім дубе казаў яму, што робіць у двары Ваўкалакаў бацька. А бацька ламаў рукі і прыгаворваў:

Я, жывучы, валоў нажыву,
А цябе, сыночак, увек не знайду.

Песня ляцела над морам разнатраўя, і ўсім было шкада старога бацькі, але так і карцела самім пайсці ў лес, на волю, пад воўчае сонца.

Пацягнуліся мяккія гарбы, зарослыя верасам. Сонца ўзыходзіла за спіною, калі яны ўз'ехалі на адзін такі горб, а па другі бок яшчэ ляжалі цень і туман. І тут перад вачыма дзяцей успыхнула ў тумане белая шырокая вясёлка, слаба-аранжавая звонку, шыза-блакітная знутры. Затым сонца адарвалася ад зямлі, і белая вясёлка знікла,і верас лёг перад вачыма, упрыгожаны мільёнамі павуцінак, якія ззялі ў кроплях расы.

— Што ж гэта яна? — жаласна спытала Майка.— Нашто знікла?

— Чакай,— сказаў Андрэй,— зараз будзе табе ўзнагарода.

І ўзнагарода з'явілася. На павуцінках, на росным верасе раптам з'явілася другая радуга. Выцягнутая, яна ляжала проста на траве, ззяла ўсімі вясёлкамі, уцякала ў бясконцасць ад іхніх ног.

— Ты адкуль ведаў? — спытала Майка з павагаю.

— Ведаў,— проста адказаў Андрэй.

Майка з павагаю ўздыхнула.

...А потым, як працяг гэтай феерыі, над верасам, над гарбамі, зарослымі лесам, з'явілася на збегу Папараці і другой рачулкі, на высокай гары паміж імі, вялікая руіна: тры вежы і рэшткі муроў.

Уброд перайшлі Папарадь. Лазілі па каменнях. Майка, Алесь і Андрэй узлезлі нават на адну з веж. Кандрат і Мсціслаў з Янькай асталіся ўнізе.

Майка, Алесь і Андрэй стаялі ў вышыні і глядзелі на неабсяжны свет, які ўвесь, здавалася, належаў ім. Зубцы вежы сівелі палыном, рудыя ад іржы кавуны ядраў былі сям-там бы ўмураваныя ў кладку. А далей была Папараць, лугі, лясы, свет.

— Гэты замак аднойчы ўзялі мужыкі,— сказаў Алесь.

Майка міжвольна зірнула на Андрэя.

— А што ж,— сказаў Андрэй.— Што мы, зломкі?

А знізу маленькі Кандрат крычаў брату:

— Злазь ужо, галата! Злазь!

— Прывязка,— сказаў Андрэй.

— Злазь! — крычаў Мсціслаў.— Злазь, цівун Пацук! Тут цябе Ваўкалака з беларускім Ладымерам чакаюць.

Раззлаваны за «цівуна Пацука», Андрэй палез уніз.

А яны сталі ўдваіх і глядзелі на зямлю.

— Ты атрымаў? — спытала яна.

— Атрымаў.

— Хораша тут?

— Вельмі... І... ведаеш што, давай будзем, як брат і сястра.

— Давай,— уздыхнула яна.— На ўсё жыццё?

— На ўсё жыццё.

Пасля таго як пад'елі ў цяню адной з веж, Андрэй прапанаваў падацца яшчэ далей у лес, бо там, на гэтай самай Папараці, жыве млынар, вядзьмар Грынь Паківач.

Сонца ўздымалася ўсё вышэй. Ярасны шар, калматы шар над зямлёй. На гарызонце лягла ўжо белая смуга, над якой плавалі ў паветры, ні на што не апіраючыся, верхавіны дрэў і вежы загорскай камяніцы.

Лес сустрэў холадам, звонам ручаін, сонечнымі зайцамі на салатавых плоскіх крыжыках заечай капусты.

Хутка Паўлюк заўважыў лясны ставок, маленькі, схаваны між дрэў. І тут усе зразумелі, што ніякі млынар ім не патрэбен. Распраглі коней, а самі разлегліся ў густой траве.

Над ставам ззяла сонца. Над люстранай паверхняй вады стракозы ганяліся за сваім ценем. Заміралі ў паветры, каб падмануць цень, а потым кідаліся. А ніжэй за іх слізгалі па паверхні вадамеркі. Іхнія лапкі апіраліся на ваду і прагіналі яе, і таму па дне стаўка ад кожнага малога канькабежца бегла па шэсць маленькіх плямак ценю з арэолам вакол кожнай плямкі.

Алесь і Майка, прыхапіўшы з сабою Яню, пайшлі вакол стаўка, каб паглядзець, адкуль ён бярэ ваду.

Натрапілі на ручаіну, што бегла, такая чыстая, сярод свежых імхоў, і пайшлі ёй насустрач.

Вада бегла па дне вільготнага яра. Тут і дрэвы былі магутныя: сонца амаль не магло прабіць іхняй шыракалістай засені. Часам вада ўтварала зялёныя калёжкі.

... Гулка, як з гарматы, вырваўся з дрыгвяністай лежкі дзік. Кінуўся ў нетры.

Спалохаўшыся, яны ішлі далей, цяпер ужо не аглядаючыся на бакі. А на адным з валуноў, ледзь не над іхняй галавою, стаялі Корчак і Грынь Паківач, глядзелі, як маленькія фігуркі прабіраюцца ўсё вышэй і вышэй па цёмным дне.

Калі яны зніклі ў засені ляшчыны, бледны Корчак перавёў дыханне, сціскаючы ў руках Паківачову дубальтоўку.

— Аднаго ведаю,— шэптам сказаў ён.— Траюрадны пляменнік нашага Кроера. Гэтага б...

Паківач спалохаўся.

— Ты што?

На шчоках у Корчака хадзілі жаўлакі:

— Іх усіх — пад корань... панянят, княжат...

— Ну і дурань,— сказаў Грынь.— З імі сялянская дзяўчынка. Ды і самі яны чым вінаватыя, дзеці? Ты залішнюю злосць з сябе выпусці, задушыць.

— Залішняй злосці не бывае,— сказаў Корчак.— Хадзем адсюль.

Густыя зарасці ляшчыны і воўчага лыку прагнулі іх.

А дзеці тым часам знайшлі ў самай глыбіні яра, у растапыраных шатах арэшніку, праз які падаў у лонца вады адзіны прамень, крынічку.

Крынічка, спакойная на паверхні, выкідала з глыбіні сваёй пясчаныя фантанчыкі. Вечна жывыя пясчынкі рухаліся, расцякаліся па дне ад сярэдзіны жарала, скакалі. А побач другі малы «гейзер», амаль на паверхні, таксама тужыўся нарадзіць ваду, але ў яго не хапала сілы, і ён толькі часам выпускаў з сябе сытыя бурбалкі.

— Бацька вады,— шэптам сказала Майка.

— Бацька вод,— паправіў Алесь.— Вось так і Дняпро пачынаецца недзе.

— Жывая вада,— сказала Яня.

І яна апусцілася на калені і зламала пальчыкамі крыштальную паверхню.

— Піце. Будзеце жыць сто год...

Яны ляглі на жываты і доўга, часам адрываючыся, пілі ваду, такую халодную, што яна абручом сціскала лоб.

А вакол быў зялёны і чорны паўзмрок, і толькі адзін прамень падаў між іхніх галоў на нябачную ваду, мякка залоцячы дно.

## XIV

Усё праходзіць. Прайшлі і тыя шчаслівыя дні, калі ўсе былі побач, мала спалі: абуджаліся раней за птушак, сустракалі ўсход, праводзілі сонца, калі яно, нізкае, адбіваецца ва ўсіх вокнах, і вокны гараць расплаўленым золатам і дом нібы пылае ўнутры, і клаліся позна.

Паехалі. Толькі і засталося, што ўспаміны ды надзея. Бо нездарма ж Майка казала: «На ўсё жыццё». Суцяшала гэта дрэнна.

Цэлымі днямі адзін — Фельдбаўха і француза ў сябры сабе не возьмеш,— маці чытае або вышывае другі паздух, бацька цэлымі днямі на палях, а то на паляванні.

І вось у адзін з дзён,— стаяла сярэдзіна жніўня,— бацька і маці нешта доўга шапталіся за вячэрай, а твары ў іх былі ўстрывожаныя і ўрачыстыя. Урэшце, калі прыбралі са стала, матуля сказала:

— Дзядуля прыслаў з пасыльным ліст, сынок.

Алесь узняў вочы.

— Ён просіць, каб ты прыехаў да яго... Адзін.

Бацька выняў з пулярэса ліст паперы і прачытаў:

— «Мізантропія мая і хандра разгуляліся. Мне цяжка бачыць новых людзей. Таму і не зваў вас. Твар падабенства божага мне абрыдзеў, так мала ў ім божага. Але паколькі настрой гэты ўсё цягнецца і канца яму не відаць, а ў жываце нашым бог волен кожны дзень, то ўнуку майму Аляксандру належыць ведаць ва ўладанне чым ён уступіць пасля мае смерці і паспяховага адыходу ў тое, што пасля яе. Таму хай прыязджае да мяне на адзін-два дні...»

Матуля закрыла вочы рукою, пальцы яе дрыжалі.

— Я ведаю, Georges, чаму ён не хоча бачыць цябе. Гэта праз Кроера. Праз яго ён і мяне не любіць.

— Недарэчнасць,— сказаў пан Юры.— Ах, чорт стары, семдзесят восем год, а ён блазуе, як недаростак. У яго капрызы, як у цяжарнай! Ты для яго — слабая святоша. Я — сабачнік, няздатны на справу.

— Georges! Пры дзіцяці?! Ты што?

— А таму, каханая,— нечакана цвёрда сказаў пан Юры,— што з цябе здзекавацца я нікому не дазволю, хоць бы і роднаму бацьку. Звык, у другім веку жывучы, мудраваць і свае прыхамаці вышэй за ўсё ставіць.

— Пакінь,— сказала пані Антаніда.— Я, напэўна, памылілася. Ён сапраўды старога веку чалавек. Столькі бачыў, што яму абрыдлі людзі, хочацца спакою.

І тут нечакана ўмяшаўся Алесь.

— А ў мяне ніхто не пытае,— сказаў ён.

— А што тут пытаць? — азваўся бацька.

— А тое, што я не паеду,— упарта сказаў сын.— Я не лялька. Цяжка яму бачыць людзей — хай не бачыць. Я таксама чалавек, а не кацянё якое.

Пані Антаніда спалохалася.

— Ты гэта дзеля мяне зробіш, сынок,— мякка сказала яна.— Ты не звяртай увагі.

— Не паеду.

— Можа, ты і спадабаешся яму.

— Не хачу нікому падабацца,— зусім па-вясковаму сказаў Алесь.— Што я, дзеўка?

Умяшаўся пан Юры.

— Ён твой дзед, ён даў табе кроў. Самае дарагое, што ёсць у цябе. Ніхто яшчэ не казаў, што Загорскія не паважаюць продкаў.

— Я таксама Загорскі.

Бацька няшчыра ўздыхнуў:

— Не, брат, ты не Загорскі. Загорскія не баяліся самых цяжкіх людзей. Яны,— вось хаця б твой дзед,— з імператарамі не ладзілі, караля не паважалі, калі ён быў не варты таго.

Яшчэ раз уздыхнуў:

— Ты не з тых... А я думаў... Ёсць у Загорскіх звычай адзін... Ды ты да яго не дарос.

— Які?

— Калі ўсе бачаць, што хлопец стаў зусім дарос-

лы, ён ідзе вандраваць. Зусім адзін. Сам едзе, сам начуе, дзе хоча. Па корчмах ці проста ля вогнішча. І гэтым даводзіць, што ён дарослы. Вось я і думаў, што такой вандроўкай табе будзе дарога да дзеда. Паедзеш сам, адзін, узброены... Урга конь далікатны, яму догляд патрэбен, дык ты ўзяў бы Касюньку... І паехаў. А я, ведаючы дзеда, які можа любога затрымаць на колькі захоча...

— Як гэта?

— Ён ведае, што двараніну пешшу хадзіць ганьба. Вось і замкне каня. І чалавек сядзіць... Дык я, ведаючы гэта, да Доўгай Кручы, якая недалёка ад маёнтка, потым даслаў бы Логвіна і загадаў бы яму два дні чакаць. Калі б ты не захацеў заставацца — дайшоў бы якую вярсту ды і вярнуўся дамоў. Тым больш што такога чакаць не даводзіцца: дзед запрашае на адзін дзень.

Ён гаварыў разважліва.

— Але ты, відаць, не дарос да такога падарожжа. Што ж, пачакаем.

У Алеся пачырванелі шчокі. З бліскучымі вачыма ён сказаў:

— Хацеў бы я паглядзець, як нехта мяне затрымае ці прагоніць. Я паеду. А калі яму цяжка бачыць новых людзей, дык я яму прывязу новага сабаку... Алму з сабою вазьму.

— Як? Ты ж верхам паедзеш?

— Я прывучыў яе сядзець на луцэ... І калі ён толькі словам мяне закране, нагі маёй больш у яго не будзе. Еду на адзін дзень.

Бацька адвярнуўся. Вочы яго смяяліся.

... Алесь выехаў досвіткам другога дня, каб на яго схіле дабрацца да дзедавай вёскі.

Ніхто не выйшаў яго праводзіць. Бацька растлумачыў яму дарогу і загадаў Логвіну набіць саквы і скачаць хусту. Потым выбраў сыну стрэльбу і сам набіў тры набоі на качак.

... Касюнька рахмана стаяла ля канавязі, дыхала ў рукі і твар хлопца цёплым і прыемным. Саквы былі ўкладзены добра, стрэльба і корд прытарочаны да сядла. Алма, уся дрыжучы ад нецярплівасці, круцілася пад нагамі.

— Заставайся дома,— з удаванай строгасцю сказаў Алесь.

Яна прыціснула доўгія, у завітках вушы, але тон гаспадара не пакідаў сумненняў, і тады сучка ўпала на жывот і, павіскваючы, папаўзла да ног хлопца.

— Ну, добра ўжо. Давай паедзем,— сказаў Алесь

Кафейныя вочы загарэліся. Сабака падскочыў у паветры, і, падціснуўшы кароткі хвост, пачаў лётаць па крузе. Вушы лunалі, як крылы. Алесь ускінуўся ў сядло.

— Вы ж глядзіце, княжыч,— сказаў Логвін.— Дарога простая, усё берагам. Паромам на той бок, там паплавамі, паплавамі. А потым, за Доўгай Кручай, яшчэ вярсту — і мост.

— Ведаю,— сказаў Алесь.— Заўтра пад'едзеш да Кручы.

— Добра.

Алесь нахіліўся і працягнуў руку:

— Гоп!

Сучка падскочыла, каб гаспадар змог спаймаць яе за каршэнь, і хутка ўжо сядзела на луцэ сядла, паважна гледзячы з вышыні на ўвесь астатні свет.

... Касюнька ступала акуратнымі капытамі. Алма спакойна сядзела на луцэ, часам дрыжучы, калі праязджалі паўз хмызы,— відаць, там астаяўся птушыны пах. А «рыцар» сядзеў спакойны, гатовы да ўсякіх нечаканасцей.

Палі. Палі. Палі. Безліч разоў амытыя сялянскім потам і мужыцкай крывёю. Няма на іх месца, на якім не ступіла б нага мужыка, над якім не прасвісцеў яго серп, не заспявала б каса, не сцёбнуў бізун. «А ў мяжу, жнейкі, у мяжу. А ў мяжы прыганяты».

Жоўцю мужыцкай, злосцю мужыцкай дыхаеш ты, здранцвелы абшар палёў. Чаму гэта так? Хто закляў цябе? Дакуль будзеш ты рабыняй, зямля?!

Алесеў прадзед Акім Загорскі, той самы, пры якім адбылася гісторыя з лазняй Кагутоў, нарадзіўся ў тысяча семсот трыццаць дзевятым годзе і да Хрыстовых год пражыў «пры каралях», спаўна зведаўшы і анархію апошніх год «кароны», і шляхецкую «вольнасць». Асабіста яму было не так ужо і дрэнна пры вольнасці: занадта быў багаты і моцны. Такога і ка-

роль не зачэпіць, і суседзі пабаяцца не тое каб пакрыўдзіць, але і зірнуць коса.

Мог бы, здаецца, жыць і жыць, умешвацца ў палітыку, а з часам, магчыма, і ўплываць на яе. Але рабіць гэта яму было брыдка. Падпойваць шляхту, гарлаць на сейміках, глядзець, як потныя і ачмурэлыя людзі вырашаюць палітычныя пытанні бойкай і шалёна сякуцца на шаблях, ехаць на сейм.

Фу! Быццам ваду ў ступе таўчы. Ад усяго гэтага ў яго балела галава, а ад злосці на людское быдла бывалі прыступы антрапафобіі. Віна ён не любіў, тытуню цярпець не мог. Аставаліся да́мы, якімі ён і займаўся, бо быў надзвычай прыгожы. І пры гэтым выгляд меў аніяк не спешчанага прыдворнага, а хутчэй война і сакалятніка, небяспечнага для кожнай райскай птушкі, якую адзначыць сваім вокам.

З Варшавы яго выслалі за замах на каралеўскі гонар — казалі, не беспаспяховы. Дый як яшчэ мог бы з ім змагацца нават кароль? Не прывабнасцю ж, не сілай.

І, напэўна, стаў бы Загорскі другім дэ Маранья, калі б не напаткаў дзяўчыну, якая пакахала яго больш за ўсіх, але не пайшла насустрач яму, бо з дзяцінства была абяцана манастыру.

Загорскі павёў няроўную барацьбу супраць веры людзей і веры самой дзяўчыны, супраць законаў, звычаяў і ўлад.

І перамог. А перамогшы, ажаніўся і пасяліўся ў Загоршчыне, дзе пабудаваў сабе і жонцы «італьянскі дом», часам заязджаючы ў Вежу, дзе пачаў будаваць палац у гонар жонкі, задумаўшы зрабіць яго лепшым за ўсё, што калі-небудзь бачыла Прыдняпроўе і абедзве сталіцы.

Засмучала толькі тое, што ў жонкі не было дзяцей. Толькі гэта было хмарай на светлым небасхіле.

Так цягнулася доўга. Пяць год, аж пакуль у Загоршчыне, Вітахмо, Азярышчы, Татарскай Грэблі, Вежы, Святым, Драгавічах, Мілым і іншых вёсках пана не зараўлі, разрываючыся, гарматы.

Нарадзіўся сын. Спадчыннік. Нарадзіўся Даніла, сын Акіма і ўнук Пятра, а праўнук Севярына і пранашчадак Глеба.

Ішоў тысяча семсот семдзесят другі год. Як доўбня на галаву, упаў на дваран першы падзел Польшчы.

Расія далучыла Прыдняпроўе. Шмат хто радаваўся, многія лаяліся, сёй-той спрабаваў пратэставаць. Але Акіму Загорскаму да ўсяго гэтага не было клопату. У яго быў сын, сын, якому ён пры нараджэнні падарыў Вежу і радавы дыямент «Набоб» з двума пудамі золата. У яго быў сын ад самай каханай жанчыны.

Дзяржавы праходзяць, і царствы праходзяць, вечнае толькі каханне, і чалавек не можа памерці, не пакінуўшы следу на твары зямным. Не ён, дык яго брат. Дык гары яны гарам, дзяржавы, прападай яны пропадам!

...Пан Акім пражыў з жонкай толькі сем год. Яна захварэла і памерла, пакінуўшы ўдаўцу двухгадовага сына. Кароткае было шчасце, вырванае ў бога.

...Трэба было неяк жыць. Дзеля сына. І князь замкнуўся ў Загоршчыне, аддаючы сваю ўвагу толькі яму. Былы «шаматон і ферлакур важнецкі» жыў цяпер ледзь не суровым мніхам. Паляваў, начаваў на лугах, прапах дымам вогнішчаў і верасам. Сына вазіў з сабой, каб рос здаровы, бо гэта было апошняе, што ў яго аставалася, і ён хацеў, каб гэтае апошняе жыло бясконца.

Ад суровага жыцця вочы ў яго сталі наіўныя, як свет, і простыя, як шырокае неба над галавою. Быццам усё простае адбілася ў іх: смяротны позірк запаляванага воўка, шырыня рэк, дым начных вогнішчаў і васільковае неба з першай зоркай.

Жанчыны былі цяпер не патрэбны яму. Ён цвёрда, не чуючы ў гэтым ахвяры, вырашыў, што іх не будзе ў яго ніколі.

І тут пачалася сямейная легенда.

...Вясною семдзесят пятага года імператрыца Екацярына вырашыла наведаць свае новыя землі. Яна ехала туды для сустрэчы з імператарам аўстрыйскім Іосіфам, які павінен быў прыбыць у Магілёў інкогніта, пад імем графа Фалькенштэйна.

Пацёмкін, якому ўказам ад першага студзеня былі даручаны губерні Новарасійская і Азоўская з умацаваннямі Дняпроўскай лініі, кінуў Крым і паскакаў у Полацак, першы пункт, дзе павінна была спыніцца самадзержыца.

Адусюль збіраліся ў Полацак дваране. Узброеныя

магнаты ехалі са сваімі сцягамі, ведучы пад імі атрады свае загонавай шляхты. Ад магілёўскага дваранства для сустрэчы імператрыцы быў накіраваны ў Полацак князь Загорскі. Ён не адмовіўся, сход аказаў яму гонар, і рушыў на чале дзвюх соцень «сваіх» шабель.

Екацярына ехала ў Магілёў з новым сваім фаварытам Ланскім. Што б там пра яго ні казалі, але ён па-сапраўднаму, не з-за пашаны і выгады, кахаў яе.

...Ён — баяўся. Ён ведаў, што ён безабаронны, што ад яго, як і ад іншых, нічога не залежыць, што ў кожную хвіліну яго, разам з яго каханнем, могуць кінуць у чорную бездань, якой уяўляўся яму свет без яе...

У гэтым была страшная горыч, бо душой ён ведаў: калі яго кінуць, то кінуць па заслугах. У яго не было ні мужнай сілы і розуму Пацёмкіна, ні прыгажосці Зорыча. Чым ён мог утрымаць яе? У яго было толькі каханне, кранальнае ў сваёй непасрэднасці і глыбіні.

Усё гэта робіць зразумелым тое, што адбылося далей.

...Самы старажытны горад усходніх славян лунаў сцягамі, зіхацеў золатам, грымеў музыкай, пераліваўся ўсімі фарбамі адзення.

Берагі Палаты і Дзвіны захлыналіся ў бела-ружовай квецені яблынь і вішні.

...Зямля дрыжала ад гуду званоў. Два зіхоткія шэсці цяклі па горадзе. Імператрыца ішла ў праваслаўны, Пацёмкін — ва уніяцкі сабор.

Так сутыкнуліся ў святочным Полацку некалькі чалавек, звязаных з адной.

Але героем гэтых дзён не быў ніводзін з іх.

Героем быў чалавек трыццаці шасці год у простай з выгляду, шырокай мясцовай вопратцы, якая каштавала, калі браць разам з шабляй, больш за вопратку ўсіх. Толькі ягоны позірк не выказваў ні чакання, ні іроніі, ні пакут, а быў просты, ветліва адданы позірк. Просты, як вольнае неба над гэтай ракой. І ўладарка заўважыла гэты позірк. Заўважыла яшчэ тады, калі ён проста і натуральна падаў ёй руку, каб узвесці на кілім, што вёў да сабора.

Білі званы. Цвілі дрэвы. І на хвіліну ёй здалося, што вось ён — той, што вызваліць яе ад безнадзейнага кахання аднаго і ад іроніі другога.

А ён ішоў убаку і ні аб чым не думаў. Ён і шаблю прыгаліў не з павагі да царыцы, бо ніколі не думаў, добры ці дрэнны яна ўладар, а з павагі да жанчыны. Ён не ведаў, ці падабаюцца яму гэтыя лёгкія і злёгку напудраныя залацістай пудрай валасы, ярка-сінія вочы, ямачкі на шчоках і прыемная паўната. Яна была проста жанчына, а ён паважаў сапраўдных жанчын, усё адно, добрыя ці дрэнныя яны былі.

І яна адчувала гэты асаблівы, проста-велічны склад душы невядомага ёй князя, і на хвіліну яе ахапіла такое жаданне пры ўсіх схіліць да яго галаву, што яна толькі вялікім намаганнем волі стрымала сябе.

...Ілюмінацыя залівала горад, як быццам гэта палаў Рым. Пяць пірамід узвышаліся вышэй за будынак езуіцкага калегіума, а яшчэ лёталі ракеты, утрапёна круціліся колы з агню. І ўвесь час, увесь гэты вечар, яна — на прыстойнай адлегласці — бачыла просты, шчыры і зусім не крыўдна абыякавы да яе твар дзівоснай прыгажосці. Калі князь выпадкова аказаўся побач, яна не вытрымала.

— Як прыгожа! — сказала яна.— Прызнацца, нават я ніколі не бачыла такіх высокіх пірамід.

— Што дзіўнага,— проста сказаў ён,— іх зрабіў я.

І гэта не было выхваляннем.

— Чаму? — спытала яна.

— Каб гэта было не тут, а ў сталіцы, дзе ўсяго больш, я зрабіў бы ўтрая вышэйшыя. Дзеля вас.

Гэта было занадта проста і аддана для камплімента.

Ён быў самай прыцягальнай і прывабнай істотай, якую ёй даводзілася сустракаць у жыцці. І першай істотай, якую яна ані не разумела.

— Спадзяюся, вы не пакінеце мяне ў гэтым падарожжы, князь?

— Я суправаджаю вас да самага Магілёва. Загад дваранства.

Легкі ў хадзе, ён аддана ішоў з ёю, прыгаліўшы шаблю, як тады, калі чытаюць Евангелле, і нічога не хацеў.

Спявалі салаўі.

Праз цікавасць да яго яна амаль не запомніла першых дзён падарожжа, не звярнула ўвагі на шклоўскую раскошу Зорыча.

А ён пра дзівосы Зорыча сказаў толькі:

— Густу малавата. Багаты рымскі вольнаадпушчанік.

Дзёрзкасцю гэта зноў-такі не было — тон быў не той.

— А што б зрабілі вы? — не без какецтва спытала яна.

— Гэтага я не зраблю вам. І не таму, што не магу, а таму, што не хачу. Я проста пастаўлю вам шатры, гасударыня.

Шатры ён сапраўды паставіў. Падчас адной з днёвак вялікага картэжу. Паставіў на высокім беразе Дняпра, адкуль было відаць на трыццаць вёрст, паставіў у сівым пашным палыне і верасе, не крануўшы ані былінкі.

Безліч шатроў, бела-шаўковых, з залатымі макаўкамі, і адзін, самы высокі, з барвянага шоўку. А ў палыне, наўздалёк, пасвіліся белыя як снег коні, як быццам так заўсёды было. І ніякіх разваг. Цэлы дзень праплывалі ракой чаўны, у якіх людзі ігралі на рагах сумную мелодыю.

Пасля шумных марнатраўных свят гэта было лепей за ўсё, што даводзілася перажываць, гэта быў такі спакой, што яна была ўдзячна яму за гэта.

...Яна стаяла з ім над урвішчам. Світа сядзела ў шатрах, такі быў яе загад. І што ёй было да пакутных вачэй Ланскага?

— Вы кахалі калі-небудзь, князь?

— Кахаў, гасударыня.

— Ну, а я вам падабаюся? — пажартавала яна.

— Я ў захапленні ад вас,— проста сказаў ён.

— Спадзяюся, вы захапляецеся мною не як дзяржаўнай асобай? — пагразіла яна.

— Я не думаў пра вас у гэтым сэнсе,— проста сказаў ён.

Не, яна не разумела яго. Але ні да кога яшчэ яе не цягнула так.

— Я чакаю вас сёння вечарам, князь,— ціха сказала яна.

Ён моўчкі і проста схіліў галаву.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яны сустрэліся яшчэ раз. Праз дзесяць год.

Усе гэтыя гады Загорскі жыў у маёнтку, выхоўваў сына, будаваў палац у Вежы.

Усіх дзівіла, што ён нічога не атрымаў за той фавор. Гэта было дзіўна, бо ўсе памяталі вочы імператрыцы, якімі яна глядзела на яго пры развітанні.

Летам тысяча семсот восемдзесят пятага года імператрыца ехала ў Крым. За год да гэтага памёр Аляксандр Ланскі, памёр ад злоўжывання кантарыдамі. Яна звыклася, зжылася з ім за дзесяць год. Што зробіш, калі сапраўднага няма? Шэсць месяцаў яна была няўцешная.

І вось чакала дарога. Чакалі ў Кіеве ўбраныя галеры, чакалі пацёмкінскія вёскі...

Увесь час яна не магла пазбыцца думкі, ці сустрэне ён? Ці выедзе насустрач? Які ён?

І вось, калі адкрыўся вачам Дняпро, на страшны адхон працілеглага берага вылецелі коннікі. Коні па самыя жываты танулі ў квітнеючых травах.

Спадарожнікі ўсё яшчэ меркавалі, хто б гэта мог быць, і толькі яна адна ведала: «Ён».

Флатылія чаўноў ляцела з таго боку, на шырокіх плытах везлі коней, плямістых дрыкгантаў, якімі славілася гэтая зямля. Кіпела пад вёсламі вада, ляцелі воклічы. А на носе пярэдняга чоўна стаяў з вяслом у руцэ той, якога не магло забыць сэрца, бо ён быў не невядомым фаварытам, загубленым недзе паміж Ланскім і Мамонавым, а адроджанай на адну, апошнюю ноч маладосцю, горкім пахам палыну за шоўкам шатра.

Не дачакаўшыся, пакуль човен ударыцца ў бераг, ён скочыў амаль па калена ў ваду і размераным лёгкім крокам пачаў падымацца па спадзістым адхоне да яе карэты.

Ён быў той самы, толькі сівізна густа ляжала ў валасах ды спакайнейшыя сталі вочы. І ён проста кінуў ёй пад ногі куфэрак з зямлёй, шкуру серабрыстай лісы і залаты злітак.

А спакойныя вочы даказалі: «Помню».

«І я не магу забыць»,— адказалі яе вочы.

І раптам горыч сціснула яе сэрца. Вось зноў бяжыць рака, зноў серабрыцца палын, як шкура гэтай лісы, зноў стаіць Ён. Нічога не змянілася. Толькі непапраўна пастарэла, толькі змянілася яна сама.

— Вазьміце гэты табун, вялікая маці! — сказаў ён.— Такіх коней няма больш нідзе. Хай яны верна носяць вас, як верна будзе насіць вас *мая* зямля.

— Не трэба, князь.

І ён схіліў ветліва і проста сівую галаву.

— А дзе ваш сын, князь? Ён тут?

— Данііл! — грымнуў князь.— Выйдзі.

І тут яна ўбачыла, як з вясёлкавай гурмы выступіў трынаццацігадовы юнак, стройны, падобны і непадобны на бацьку. Лёгкім крокам падышоў да яе, зграбны, як казачны царэвіч, у расшытай срэбрам блакітнай вопратцы, у блакітных чаравічках, з залочаным кінжалам на баку.

Ішоў і не ведаў, што кожны яго крок — крок па сэрцы той, што глядзела на яго. Каб такога сына!

Данііл падышоў, стаў і пачаў без страху глядзець у яе вочы. Гэта была царыца. Тая, перад якой трэба пакланяцца. Хлопчык глядзеў на яе, і яна здавалася яму прыгожай, бо ўсё было для яе. І ён спакойна падаў ёй букет палявых кветак, аблямаваны дымнашызым палыном. Яго ніхто не вучыў. Проста ён любіў палын.

— Маленькі ліцвін,— сумна і горка сказала яна.— Калі-небудзь ён заменіць гэты кінжал шабляй і пойдзе на нас. Вы ж нас усіх ненавідзіце.

Шчокі яго ўспыхнулі, ён глыбока ўздыхнуў. А потым выцягнуў лязо з похваў, зламаў сталь і кінуў абломкі да яе ног.

Ад'язджаючы, яна сказала Акіму Загорскаму:

— Не захацеў узяць тады — вазьмі цяпер. Для яго.

— Для яго — вазьму.

Гэта былі землі на поўдні. Тыя, што праз дваццаць год былі прададзены за два мільёны. Акіму яны не прынеслі і шэлега.

Данііл праводзіў яе да Кіева. Яна сама папрасіла аб гэтым.

Даніілу Загорскаму было дваццаць чатыры гады, калі памерла імператрыца. Акім Загорскі памёр на год раней. У нейкіх пяцьдзесят год. З'ела яго, відаць, тая манера жыцця, якой ён трымаўся апошнія дваццаць год. Натура з лішкам сіл не магла змірыцца з бяздзейнасцю. Толькі памяць жонкі і сын,

ды яшчэ паляванне. І вось, як толькі сын перастаў патрабаваць увагі, пачалося згасанне.

Пан Акім быў у ад'езджым полі яшчэ за два дні да скону. А назаўтра злёг. У горле нешта клекатала, а потым сціхла. Магутныя рукі нерухома ляжалі на атласе пакрывала. Прычасціўшыся, ён развітаўся з сынам і змоўк. І толькі за пяць хвілін да скону, не расплюшчваючы вачэй, сказаў адно слова, ледзь чутна.

— Палын.

І невядома было, аб чым ён гэта, аб месячным палыне ці наогул аб жыцці.

...Аб сконе бацькі сын паведаміў у Пецярбург. Яшчэ тады, падчас падарожжа, развітваючыся з ім, яна прасіла аб усіх зменах у жыцці пісаць непасрэдна ёй і дала сваю пячатку.

Ён нічога не сказаў у той час бацьку. І вось цяпер напісаў.

Месяцы два нічога не было чуваць. А потым на загоршчынскае падвор'е васьмёрка коней прывезла акутую жалезам павозку. На ёй была суцэльная глыба малахіту вышынёю ў два чалавечых росты. Нейкага дзіўнага дымна-зялёнага малахіту, у шызых разводах,— як палын.

На глыбе былі толькі чатыры словы:

Vale, principium finis mei![1]

Акім Пятровіч быў пахаваны ў магільні Загорскіх умоўна. Там ляжаў толькі ларэц з ягонай зямлёй. А сам ён знайшоў спакой у маўзалеі — помніку жонкі, куды глыбу ўцягнуць было нельга. І таму малахіт паставілі на капец, які насыпалі звонку. З таго боку маўзалея, з якога — унутры — ляжаў ён.

Праз некалькі месяцаў імператрыца памерла. Але яшчэ да гэтага, у год смерці бацькі, малады пан ажаніўся. Дагэтуль бацька запаўняў усё яго жыццё, і, страціўшы яго, Даніла адчуў страшэнную самоту ў халодным пустым доме.

Бацька, шкадуючы да пары сына, не прышчапіў яму сур'ёзнага напрамку думак, таго, які прымушае чалавека свядома выбраць сабе шлях і потым усё жыццё трымацца яго.

Гады за чатыры да скону пан Акім кінуўся быў

---

[1] Бывай, пачатак канца майго! (*лац.*)

разбіраецца ў тым, што робіцца, чытаць філасофскія кнігі навейшага часу і ледзь не стаў марцыяністам, але потым кінуў гэты занятак. Фармазоны здаліся яму аж да немагчымасці нуднымі,— сядзяць сабе ў падполле, як шчуры, са сваімі цыркулямі ды малаткамі, абцягнулі сцены чорным аксамітам, адабралі ад свету яго фарбы. Змоваю гэта папахвае, вось што. А калі ўжо сварыцца з тымі, хто мае ўладу, дык не змовай, не шыпеннем у занорках, а мяцяжом — вось яно як! Ды і матуля іх не ўхваляла, апошняя яго жанчына, а пакуль яна жыла — ён не мог франдзіраваць.

З усёй гэтай кампаніі яму падабаўся адзін. Той, што напісаў кнігу такой страшнай моваю і якога за гэтую кнігу загналі ў Ілім. Кнігу гэтую пан Акім купіў за сто рублёў срэбрам і прачытаў, і не тое каб застаўся ў захапленні ад прапаноў аўтара, а проста так: спадабаўся яму чалавек. Смелы. Прыемна было б бачыць яго побач.

І вось таму ў галаве маладога Загорскага была мяшанка: рыцарскі кодэкс і кніга, купленая бацькам, абагаўленне царыцы і нянавісць да Пецярбурга, раман аб гожай пастушцы і вершы Війёна, песні, пачутыя на паляваннях, і галантныя раманы, вольныя развažанні і прыхаваная, не вельмі пачцівая вера.

А над усім гэтым — вольны дух першых год царавання Екацярыны: кнігі Мантэня, Дыдэрота, Бекана, Русо ў дзікім спалучэнні з куртуазнымі раманамі. І пры гэтым некаторая пагарда да кніг наогул, бо ён любіў абшары, бег каня, дзіду, што ўпіваецца на скаку ў шыю япрука — паміж чэрапам і першым пазванком.

Ён пагарджаў суседзямі. Раздураныя бабы! Халуі! Пагарджаў іхнім цярпеннем, рабалепствам і поўзаннем перад моцнымі. Пагарджаў іх паяздамі: карэтамі для дзяцей, карэтамі для дурняў, карэтамі для хворых сабак, карэтамі для прыгоннага гарэма, фурай для музыкаў, фурай для буфета і кухараў.

Тфу! Раней гэтага не было! І як не разумеюць, што сядло ў галавах зручней?.. Псяры!!!

Ён не піў віна. Яшчэ калі ён быў дзіцем, настаўнік аднойчы замкнуў яго ў камору за нейкае свавольства. Там ён налізаўся налівак. Ніхто не лаяў яго, але ён даў сабе слова заўсёды быць гаспадаром самому сабе.

Гэта быў адначасова чалавек вельмі харошы і вельмі дрэнны. Яго добрыя якасці былі прыродныя. Яго недахопы — недахопамі стагоддзя. І ўсё, што ён ні рабіў, сведчыла аб гэтым.

Ужо за год да смерці бацькі яго паважалі і баяліся як агню. Гэта пачалося так. У тысяча семсот дзевяноста чацвёртым годзе новаспечаная прыдняпроўская памешчыца Праскоўя Зубава папрасіла ў імператрыцы дазволу здаваць сваіх магілёўскіх сялян у рэкруты замест сялян з яе разанскіх вотчын, «равным образом и впредь так поступать». Дазвол далі.

— Несправядліва,— сказаў Даніла, пачуўшы пра гэта.— Чаму павінна ўдваяісці ў салдаты тых, хто яшчэ дваццаць два гады таму зусім не ведаў рэкруцтва? Што ж, выходзіць, мы не роўныя дзеці?

Прыклад Зубавай здаўся зманлівым. Магілёўскія сяляне былі дзёрзкія. Пазбавіцца ад некаторых было проста дабротай. І вось, адразу пасля Зубавай, аб тым самым папрасілі яшчэ тры паны, у якіх маёнткі былі ў Прыдняпроўі і за яго межамі,— Дзмітрыеў, Іваноў і Суканевіч.

І тады пачалося незвычайнае. Даніла не сцярпеў. Ён скарыстаў губернскі баль і выклікаў усіх трох. Яны паспрабавалі апраўдвацца — і тады Загорскі даў Суканевічу поўху, а Іванову кінуў у твар пальчатку.

Сябры ўрэзоньвалі яго, але ён цадзіў праз зубы:

— Справядлівасць дык справядлівасць. Што-о гэта?

— А Зубава?

— Яна баба, чаго вы хочаце? Калі будзе такое рабіць — ёй самі мужыкі чырвонага пеўня пусцяць.

Назаўтра ён на месцы паклаў Дзмітрыева і Суканевіча стрэламі з пісталета, а Іванову пракалоў шпагай грудзі.

Новы звычай вывеўся адразу. Нават Зубава вымушана была адступіць.

Бацька нічога не сказаў, пачуўшы аб тым, што ўчора тры чалавекі далі сваю апошнюю сатысфакцыю яго сыну. Два з іх былі ваенныя і ўмелі бараніцца. Сын рызыкаваў, як і яны.

Даніла любіў бацьку. Бацька разумеў яго, як ніхто. І вось цяпер маўзалей і малахітавая глыба ля яго. Хоць бы хто пабач!

Праз тры месяцы ён заблудзіў на паляванні, тра-

піў у маёнтак небагатага двараніна Багданоўскага, убачыў яго дачку, Ксені, і — былы летуценнік, які чакаў каралевы і таму ставіўся да іншых жанчын з лёгкай пагардай,— закахаўся ў яе з першай сустрэчы і праз тыдзень ажаніўся.

Маладая была прыўкрасная, як Куцеянская маці божая [1]. Доўгія вочы, бровы да скроняў, журботны маленькі рот. Але яна не паспела пакахаць мужа яшчэ і таму, што лічыла ўсё падобнае за грэх. Жэняцца дзеля дзяцей і каб не жыць век аднаму. А жадаць абдымкаў мужчыны, самой ісці насустрач ім — гэта немагчыма. Даніла пасмейваўся, але потым махнуў рукою. Праз год, якраз калі памерла імператрыца, нарадзілася дачка. Загорскі ўжо адзінаццаць месяцаў служыў ганаровым губернскім суддзёй і намерваўся нават падавацца ў вярхі: ён ведаў, што працавітасці і здольнасцей у яго хопіць.

І тут на прастол уступіў Павел, якога Загорскі не паважаў і на шэлег, насуперак усяму ўпэўнены, што ён не родны сын Той.

— Падменыш,— пры ўсіх казаў ён.— Зязюліна яйка.

Пачалася вакханалія. Імператар нюхаў падазроных, на Украіне секлі галовы, жанчынам рэзалі раброны, сустракаючы на вуліцы. Як вышэйшая непрыстойнасць, быў забаронены вальс. Палкі маршыравалі з разводу прамым ходам у Сібір. З кулінарных кніг выкрэсліваліся словы аб смажаных парасятах, якіх трэба, «не таміўшы, ставіць на вольны дух».

Загорскі адышоў ад спраў. Дэманстратыўна заняўся пакланеннем таму, што ён разумеў пад екацярынінскім духам і што на самай справе было якабінствам.

Не дзіва, што на яго нехта склеіў і паслаў у Пецярбург данос. І дастукаўся б, пэўна, Даніла да Сібіры, але тут Паўла задушылі афіцэрскім шалікам.

— Ці далі б вы, пане Загорскі, свой шалік для такой мэты?

— Я ў свайго свінара, Янкі, шыла пазычыў бы, якім ён свінні коле, дый паслаў бы ім. Яны, мяснікі, іншага не варты... Дый ён, свіння, таксама.

---

[1] Гэтая ікона з Куцейны (пад Оршай) лічылася раней узорам для тых, хто пісаў іконы: «Прыгажосць невыказная».

На службу ён так і не вярнуўся. Тым больш што і без службы мог адным сваім словам паставіць на сваім, калі бачыў, што хочуць загубіць нявіннага.

Праз чатыры гады пасля смерці Паўла ён прадаў у дзяржаўнае ведамства і прыватным асобам свае паўднёвыя землі, атрымаўшы за іх нешта каля двух мільёнаў, і адразу выдаткаваў трыста тысяч на пашырэнне парку і розныя пабудовы ў сваім вежынскім маёнтку.

Чаго яму было жадаць? Уладар дваццаці тысяч мужчынскіх душ і бясконцых земляў на Магілёўшчыне, радавіты. І, аднак, поўнага шчасця не было. Жонка была прыгожая, добрая, але не кахала яго. Чыстая да святасці, святая да бязглуздасці. Зацяты вальтэр'янец змірыўся б з яе верай, толькі каб яна кахала яго.

Ён хацеў сына ад каханай, «сына кахання», верачы, што такія дзеці асабліва ўдалыя.

Выпадак памог яму. Палюючы на япрукоў, яны натрапілі на статак іх і конна рынуліся на яго з аднымі дзідамі. Пан Даніла забіў ударам дзіды матку, і тут стары сякач кінуўся на каня і зваліў яго разам з коннікам.

...Загорскага прынеслі дадому непрытомнага, з трыма ранамі. І тут жонка зразумела, што патаемна, сабе не прызнаючыся, кахала яго ўсё больш і больш.

— Божа, каб толькі ачуняў! Божа, каб толькі ачуняў!

Яна цалавала яму рукі. Па некалькі разоў на дзень млела так страшна, што лекары баяліся за яе жыццё. Начамі прастойвала на каленях у малельні, але пры стогне параненага была ўжо ля яго.

— Маці божая, Ісусе найсалодшы! За што? Я дзеля вас яго забыла? Дайце магчымасць акупіць грэх грахом перад вамі.

Параненаму стала горш. І тады Загорская пачала блюзнерыць.

— Што вы можаце! Вы, напэўна, проста не можаце! Нават дзеля мяне! Дзеля той, хто праз вас яго забіў. Лепей ужо з д'яблам... Каб толькі ачуняў! І зірнуць бы на вас не зірнула.

Загорскі ачуняў. Зажылі раны. І жонка стрымала слова: перастала і заглядаць у малельню, усю страснасць перанесла на мужа, на яго аднаго.

Пан Даніла ачуняў. Закінуў паляванне. Больш яму нічога не трэба было ад жыцця. Калі яна сама, упершыню пасля пяці год, прыпала да яго, здалося, што сэрца яго разрываецца. А тая, здаецца, з кожным днём рабілася ўсё больш пяшчотная, заўсёды хацела быць побач.

Ды ён, пасля яе хулы на бога, і сапраўды быў апошнім выратаваннем, тым, які абароніць ад цемры ўначы і не дасць злу ўдзень.

У шчасці прайшоў год. Ксені загрубела. Ён быў упэўнены, што будзе сын, і быў спакойны. А яе мучылі жахі, ёй здавалася, што яна памрэ. Цяжарнасць ударыла па хворым, збалелым сумленні той, якая баялася верыць, бо не чакала літасці за свой учынак. Ён супакойваў, цалаваў яе ў вочы і казаў, што ў сына абавязкова будуць такія самыя.

У сына, Юрыя, сапраўды былі яе вочы. Вежа грукатала гарматамі (у Загоршчыне не стралялі, зберагалі спакой парадзіхі). А пану Данілу хацелася абняць увесь свет.

І тут у маёнтак Багданоўскага прыйшлі ўначы салдаты на чале з афіцэрам і арыштавалі старога пана і сыноў, братоў Ксені, за сепаратызм і ўдзел у змове супраць гасудара-імператара і ўлад.

Гэта быў канец. У арышце бацькі яна ўбачыла перст божы. Дарэмна муж казаў, што ўсё натуральна, што ў людзей ёсць права паўставаць, калі ім не падабаецца ўрад, а ва ўрада ёсць права арыштоўваць тых, што паўстаюць. Дарэмна ён казаў, што зробіць усё, каб іх выпусцілі.

— Не,— казала яна,— гэта Ён хоча пакараць мяне.

І яе вочы мёртва глядзелі кудысь.

Загорскі зрабіў немагчымае: сувязямі і вялізнымі хабарамі дабіўся, што Багданоўскіх выпусцілі на парукі і абяцалі апраўдаць. Але не сказаў жонцы, што гэта зрабіў ён.

— Бачыш, іх выпусцілі. Усё добра.

— Так, усё добра,— сказала яна.— Ён літасцівы. Гэта Ён папярэдзіў мяне, каб я рыхтавалася.

Назаўтра ў яе пачалося нешта накшталт запозненай радзільнай гарачкі. Жанчына раставала, як воск.

— Адумайся,— маліў ён.— Не пакідай мяне.

— Што ты,— казала яна,— Ён літасцівы. Я акуп-

лю ўсё пакутамі. А калі не — папярэджу цябе, дзе я, каб ты... потым са мной...

— Не пакідай,— трымаў ён.— Як жа мне тады верыць у людзей і бога?!

— А ты вер,— ціха казала яна.— Ты ведаеш, я ўдзячная Яму. Бо Ён даў мне саграшыць супраць сябе самой. Іначай я так і пражыла б без твайго кахання. А ён даў мне два гады. Няхай тады і пекла ўжо.

— Яна яшчэ дзякуе,— без слёз рыдаў ён.— Ды што ж гэта? Ды што ж гэ-та та-кое-е?!

Плоская, падталая, яна ўсё глыбей апускалася ў пярыны, у шоўк прасціradлаў.

Калі вусны яе не пакінулі ніякай, нават самай маленькай, плямы на люстэрку, ён пасядзеў трошкі, падумаў, а потым пайшоў у малельню і стаў там перад фамільным вобразам Спаса Цёмныя Вачніцы. Малельня была радавая, і на сценах вісела зброя, па абяцанню пакладзеная пад іконы тымі з Загорскіх, што ішлі ў манастыры.

— Слухай,— сказаў Загорскі спакойна, як роўнаму.— Яна ж верыла ў цябе. Наблюзнерыла з гарачкі, але ўсё ж верыла. Яна верыла, а ты яе так, га?

Абраз маўчаў, распусціўшы па плячах залатыя валасы. Глядзеў цёмнымі вачніцамі, у якіх не было відаць вачэй.

Пагаварыўшы, ён зноў пайшоў у спачывальню і сеў ля яе. Ён сядзеў так і чакаў, аж пакуль старая нянька Яўдоха не падышла да яго:

— Загадаеце паклікаць абмывальшчыц, пане?

Ён узняў вочы і, як быццам толькі цяпер нешта зразумеўшы, махнуў рукой:

— Кліч.

Потым ён вярнуўся ў малельню, стаў перад Спасам і проста, як нябожчык бацька, спытаў:

— Пекла? Ну няхай бярэ дваіх, калі не хацеў...

У руках яго апынулася старая баявая сякіра — гізаўра. І ён раптам пусціў яе проста ў цёмныя вачніцы з такой сілай, што лязо на тры вяршкі ўпялася ў дрэва і затрымцела там.

— Дрыжыш? — спытаў ён.— Ну, дрыжы.

І выйшаў, зачыніўшы за сабою дзверы.

І ўвесь час, пакуль ён, знешне спакойны, хаваў яе, прымаў спачувальнікаў і насіў жалобу, у душы

яго жыў нясцерпны гнеў. Нясцерпны гнеў і адно пытанне: «За што?» Яна нічога не зрабіла *таму*, яна была больш святою, чым святая Вольга, якая кідала людзей у яму, а зверху кідала човен, што трушчыў ім косці... Вось ускладаюць венчык у знак надзеі атрымаць вянец на нябёсах,— а ёй безудзельна абяцалі пекла. За што?.. Вось пасля паніхіды гасяць свечкі ў знак таго, што «жыццё наша, палаючае, як свяча, павінна згаснуць, часцей за ўсё не дагарэўшы да канца». Але хто ж думае аб канцы ў трыццаць тры гады? Ты, чыя ікона ў яе збалелых празрыстых руках? Ты мог, ты мужчына, ты за ўсіх. А за каго яна? За што?.. Вось служаць адправу, і яе аблічча звернута да алтара. Пры жыцці ты не пускаў яе ў алтар... За што? Яна жанчына. А твая маці не была жанчынай?.. А цяпер не пусціш у царства нябеснае. За што? За тое, што яна блюзнерыла, знемагаючы ад гора і ад любві да чалавека, ад той любві, за якую загінуў ты? «І ў зямлю адыдзеш...» Але не пакінеш быць «вобразам славы Божай». Калі ўжо такая слава, дык да д'ябла яе...

«Гасподня зямля і іспалненіе яе, сусвет і ўсі жывучыя на ім...»

Няшчасны колас! Няшчасны колас пад невядомым сярпом. Ды і хіба пад адным?.. За што?..

І паколькі на адно гэта пытанне, толькі на адно, не было адказу, гнеў усё нарастаў. У пекла дык у пекла. І ідзі ты з тваёй хвалёнай літасцю, калі ты не мог злітавацца над адной, адной-адзінай сваёй авечкай. Не над ваўком, над авечкай. Можа ж быць так, што і авечка, ратуючыся, паспрабуе ўкусіць? Дык ваўкам дазволена кусаць безліч разоў, а яна паспрабавала адзін раз, і яе за гэта — касой па горле.

...Малельня была забітая, поп выгнаны ў Мілае, у старую царкву-крэпасць, самую непрытульную і сырую з усіх цэркваў, якія былі ў яго ўладаннях. Хутка туды ж накіраваліся і папы з Вежы, Святога і Вітахмо.

— Буду плаціць вам удвая, абы духам вашым не смярдзела бліжэй чым за дваццаць вёрст.

Ён ненавідзеў папоў, ненавідзеў цяпер бога, ненавідзеў салдат і жандараў, тых, ад якіх тхнула потам, даносам і крывёй, тых, якія арыштоўваюць людзей за настроі і гэтым зводзяць у магілу стварэнне, якое

нікому не прычыніла зла. Ён ненавідзеў маладога цара, які зрабіў так, што людзей, дваран, якія адказваюць за свае палітычныя погляды, хапаюць у іхняй крэпасці.

Ён закамянеў. Ён песціў дачку, адараў грашыма, уборамі, каштоўнасцямі. І зусім не цікавіўся, што яна там робіць на сваіх балях. Ён ведаў, што ёй належыць дзве тысячы душ і што знойдзецца прыстойны чалавек, які будзе кахаць яе. Што можа знайсціся і непрыстойны, ён не падумаў. Дачка ўцякла з маладым афіцэрам размешчанага ў Сухадоле палка...

Пан Даніла цяпер спаў удзень, а ўначы чытаў, моўчкі гуляў па парку або слухаў у музычным павільёне «Рэквіем» Моцарта. Заўсёды адну і тую ж частку, «Лакрымоза». Граў, седзячы за глухой шырмай, арганіст, якога прывезлі з Сухадола. Пан слухаў з сухімі вачыма. Парушаць яго спакой баяліся і таму абвясцілі аб уцёках дачкі позна.

Прыступ гневу ў яго быў страшны. Дагэтуль спакойны, стрымана-моцны, пан быў у ярасці, быццам адразу хацеў выплюхнуць свой гнеў.

Яна! З кім?! З афіцэрам!

І гэта перапоўніла чашу яго нагага гневу.

— Дзе?!

— У грэка-расійскім манастыры ў Ліпічах,— адказаў Кандраці, юнак, малочны брат, адзіны, хто не спалохаўся.

Ясна. Манахі заўсёды рады напаскудзіць яму. Чорныя божыя пацукі!

— Напэўна ўжо звянчалі,— сказаў Кандраці.— Позна.

— Позна?!— Крык быў такі, что палац замёр ад жаху.— Я ім дам, позна. Людзей! Шляхту!!! Мужыкоў узброіць!!!

— Не пойдуць,— сказаў Кандраці.— Збаяцца!

— А мяне яны не збаяцца? — крычаў пан.— Не пойдуць — шляхту выганю і няхай здыхае з голаду! Не пойдуць — кожнага дзесятага ў рудніке прадам! Кандраці, пляшку гарэлкі кожнаму! Мужыкам па тры рублі! Шляхце па пяць! Сем'ям забітых пенсіі! Коней! Гарматы!!!

Кавалькада з шасцісот чалавек рынула на Ліпічы. Грукаталі, падскокваючы на камянях, гарматы, вецер ірваў полымя паходняў. І ў п'яных людзей, якія скака-

лі за панам, усё ўзрастаў бязмэтны гнеў, наліваліся крывёю вочы.

Манастыр атачылі апоўначы. Манахі з муроў убачылі паходні, полымя падпаленых стагоў, якое рвалася ў неба, пачулі гігатанне коней. Яны чакалі гневу, але не такога.

Ігумен выйшаў на мур і ўбачыў проста перад брамай расхрыстанага пана з ашклянелымі вачыма.

— Дачка...— сказаў пан.

— Тут,— не схлусіў ігумен.

— Адвальвай браму, пёс.

— Не апаганьвайце абіцелі,— сказаў ігумен.— Манастыр не можа адмовіць рабам божым, якія ўмаляюць аб прытулку.

— А гарэць твой манастыр можа?

— А ў Салаўкі на затачэнне хочаш?— спытаў ігумен.

Ён адчуваў за сабою сілу дзяржавы, сілу муроў, чатырохсот манахаў і дзесяці гармат. Не адвучылася яшчэ брація з тых часоў, калі манастыр быў памежнай крэпасцю.

— Лізаблюд,— гнеўна сказаў пан.— Халуй пецярбургскі!

— Анафему накладуць,— сказаў келар.— Ты, быдла. Дзе́кала недабітае.

— А я вось дам вам анафему. Зводнікі! Па колькі капеек з ложка бераце?

— Не зневажай бога, прычакань Салавецкі,— сказаў ігумен.

— Гэта хто бог? Ты? Казёл ты!

У адказ з муроў рыгнула гармата.

— Д-добра,— сказаў пан.— Т-так. Добра вам будзе з нябёс на мяне ў Салаўках глядзець.

Спалоханы гэтым спакойным тонам, ігумен хацеў быў паклікаць утрапёнага Данілу, але той пайшоў ужо ў крывава-чорны змрок. А праз пяць хвілін адтуль зараўлі гарматы. Сорак штук.

Стралялі гадзіну, не па людзях, а па сцяне. Аконам хапаўся за галаву. Няхай бы білі ў браму, яе і аднавіць лёгка. Не, б'юць у мур.

...А пан з закамянелым тварам загадваў пушкарам сыпаць падвойны парахавы зарад:

— Нічога, не разарве! Сып! Бі... І вось што, распаліце ядры. Біце імі па дахах! Па дахах!

Манахі спачатку стралялі, а потым кінулі. Відаць было, як яны ўздымалі да неба рукі, стоячы на мурах. У барвяным зарыве твар пана стаў жахлівы...

Палалі шчапяныя дахі... І вось са страшным грукатам абурылася, упала ў хмарах чырвонага дыму кутняя вежа.

Абложнікі ўварваліся ў ахоплены полымем манастыр.

Манахі не абараняліся. Аконам ірваў на сабе валасы. Айца келара, які схаваўся на дражніку, за абразу торкалі носам у конскі гной.

Перад брамай, на голай зямлі, два мужыкі праяўлялі ініцыятыву, хвасталі айца ігумена, папярэдне зняўшы з яго кукаль.

Дачку і яе мужа вывалаклі за муры, скруцілі і кінулі ў розныя вазы.

Пану было мала. Гнеў душыў яго, той гнеў, якога ён не мог пазбыцца столькі часу.

Страшная кавалькада рушыла назад. Па дарозе ўзялі без бою, толькі выламаўшы браму, каталіцкі кляштар і за суткі выпілі ў ім усе віны і лікёры.

Святкавалі. І з гора таксама.

Манахі, узрадаваныя ганьбе канкурэнтаў, самі частавалі ваякаў. Чорт з імі, з лікёрамі! Будуць яшчэ. Але ж пан схізматув пaперал. І таму сталы аж ламаліся.

Падступалі потым, п'яныя, і да манастыра манашак-візітак і грэзіліся ўзяць, але пашкадавалі жанчын. Віску многа!

...Маладую, калі прыехалі дадому, пан загадаў замкнуць у далёкіх пакоях. Маладога — кінуць свойскаму мядзведзю.

Пан сеў і думаў гадзіны дзве. Потым загадаў прывесці маладога. Таго вызвалілі з мяккіх абдымкаў мядзведзя ўсяго аблізанага, ружовага.

Пан Даніла сустрэў яго, седзячы за сталом, на якім стаяў дзьмуты зялёны штоф.

— Выпі. Палегчае.

Той выпіў.

— Як жа гэта вы? І не спыталі.

— Яна сказала, што ўсё адно за вайсковага не аддасцё.

— Правільна,— грозна сказаў Загорскі.— Ад вайсковых, што жандараў слухаюць, усё злое на зям-

лі. Яны ў гарматкі гуляюць, яны на світанні прыходзяць па добрых людзей... Чаму зброю не склаў перад сватаўством?

— Гонар.

— А ты ведаеш, што іхнюю пароду калі-небудзь на парапетах цытадэляў расстрэльваць будуць? Як сабак! За ўсё гора!

Малады чалавек усхліпнуў.

— Ты чый?

— Полацкі.

— Пі яшчэ,— памякчэў Даніла.— Праваслаўны?

— Праваслаўны.

— Маёнтэк ёсць?

— Адна вёска.

— І тое нічога. Ставай на калені!

Той стаў. Пан адважыў яму тры гучныя поўхі.

— Не служы кур'яну[1]. Не сватайся за спіною. Не шукай у царкоўных пацукоў паратунку... Устань... Сядзь... Пі... Галодны?

— Але.

— Кандраці, курыцу зяцьку. Каплуна! Каб помніў, што каплуну служыў.

Маўчалі. Пан Даніла піў гарэлку, твар яго быў страшны.

— Службу кінеш сёння ж... Пяройдзеш ва уніяцтва...

— Вы ж праваслаўны...

— Я не праваслаўны. Я — ніякі. А ты пяройдзеш, каб ніколі з тымі не сутыкацца, у каго абароны шукаў.

Памаўчаў.

— Атрымаеце дзве тысячы душ. І кіруйцеся ў сваю вёску. З вачэй прэч. У Вежу і Загоршчыну ёй — ніколі. Грошы будзеце атрымліваць акуратна. Калі ўбачу, што выканаў мае загады, што не будзеш служыць гэтай троннай б... з тандэтнымі ручкамі ды са сляпучай усмешкай, калі даведаюся, што дачка ўцяжала — атрымаеце на ўсе душы даравальную. Усё... Можаш браць і ехаць.

І ўзняўшы яго з крэсла, як ляльку, пацалаваў у лоб:

— Ідзі... сыне.

---

[1] Кур'ян — курыца, якая крычыць пеўнем.

— Няўжо вы з ёю развітацца не захочаце? Яна ж вас любіць.

— І я яе люблю,— сказаў пан.— Але за тое, што яна забыла, ад чыіх рук яе маці загінула,— няма ёй даравання... майго.

— Я вінен,— насмеліўся малады чалавек.— З мяне і спаганяйце.

— Твая правіна — у гародзе хрэн. На тое мужыкі і ёсць, каб шкодзіць... А яна павінна была ведаць... Усё я табе дараваў... За смеласць, што не пабаяўся са мною звязацца. Такіх людзей, сыне, мала на свеце... Ці мо не ведаў, што гэта такое?

— Ведаў,— шчыра сказаў заяц.

— Ну вось. Можа, я палюбіў бы цябе, каб не бачыліся мы сёння першы і апошні раз... Урэшце, калі ўсё абыдзецца толькі, можаш прыехаць... Адзін.

— Адзін не прыеду.

— Яно і лепей,— сказаў пан.— Гэта вам толькі пашкодзіць. Таму што я смяротнік.

— Чаму?

— Не нарадзіўся яшчэ чалавек, які мяне голымі рукамі ўзяў бы. Дый потым... расстраляным быць — гэта яшчэ нічога. Але мяне за блюзнерства могуць у Салаўкі адправіць... да царкоўных пацукоў. А я лепей са змеямі і аспідамі сядзеў бы. Таму досыць загонавым мой хлеб задарма есці... Хай разам са мною льюць кроў. Я не ў Салаўках памру. Я памру тут. На маёй зямлі, у маіх мурах. Ідзі. Перадай дачцэ маё блаславенне.

Маладыя паехалі. А пан Даніла пачаў умацоўваць Вежу. Вакол камяніцы, у баку ад палаца, дзень і ноч насыпалі валы, усцягвалі гарматы на сцены, пад натужлівы крык кацілі бочкі з порахам. Пад палац таемна падвялі фіцілі, каб, у выпадку чаго, узняць яго ў паветра разам з гасцямі, якія, вядома ж, размесцяцца ў ім падчас аблогі. Пан не хацеў нікому аддаваць свайго дзіва.

Ён ведаў: смерць магла прыйсці кожную раніцу. Ён не шкадаваў аб гэтым.

...Сына адправілі ў Загоршчыну і, скончыўшы ўсё, сталі чакаць.

Гэта зрабілі ў маі, а ў чэрвені Напалеон перайшоў Нёман. Загорскім не было каму займацца, як і ўсёй прыдняпроўскай зямлёй, аддадзенай ворагу.

— Што ж,— сказаў сябрам Загорскі.— Гуляйце. Прысуд пайшоў на абскарджанне.

Ён чакаў, прыглядаўся. Баі грымелі ўжо за Дняпром.

Напалеон быў яму сім-тым трошкі сімпатычны. Ва ўсякім разе, смелы. Воін. І, потым, усё ж было лепей, чым быць аддадзеным у лапы таму, хто загадваў хапаць людзей. Таму, хто адпраўляў людзей у манастыры.

Але, з другога боку, занадта ўжо радавалася Варшава. Ён нічога не меў супраць палякаў. Іх гонар быў блізкі яму, і ён прызнаваў іх права на крыўду. Але пры чым тут ён, Загорскі? Бацьку выслалі з Варшавы, а цяпер Варшава сама ідзе да яго на французскіх штыхах. Затычкай быць? Не, хопіць. Досыць з яго і праваслаўнай сволачы ў расах. Езуітаў — на ліхтар!

Ён нездарма быў вальтэр'янцам. Раздушыце гадзіну! Раздушыце інквізітараў — усё адно, папоў ці ксяндзоў. Абое рабое.

Таму на пытанні суседзяў ён адказваў ухіліста:

— А што карсіканец? Карсіканскай пачварай я яго называць не хачу. Але і ад Аўгуста ў ім — пшык. Я сам, магчыма, не горшы за яго, толькі рэвалюцыя мяне не падсадзіла да консулаў, арміі не дала.

Потым Напалеон узнамерыўся абмежаваць дамаганні Варшавы, стварыўшы літоўска-крыўскую дзяржаву. Варшаўскае панства пакрыўдзілася. Мясцовыя дваране запалалі неабгрунтаваным энтузіязмам, прапанавалі Загорскаму ўзначаліць рушэнне. Ён адмовіўся.

— Чаму? Вы не ўхваляеце думкі?— спыталі дэпутаты.

— Я не падтрымліваю вас, хаця і дзякую за давер.

Тыя не разумелі.

— Гэта не барацьба за радзіму, панове,— сказаў князь.— Ён убачыў вашу сілу і вырашыў скарыстацца з яе. Гэты спрытнюга мае свой розлік. Бо ён хоча вадзіць вас за нос, панове, і вы, прыдняпроўскія дваране, зараз у незайздроснай ролі ката́, які цягае малпе з агню каштаны.

Ён апусціў павекі:

— І яшчэ, панове... Народ не з вамі. Ён ненавідзіць Кур'яна, шпіцрутэны, наборы. Але француз прыйшоў у яго дом, забраў яго сена, расстраляў бацьк-

ку, асірацію дзяцей... Кіпцем зачапіў за сэрца. А вы ведаеце, што такое наш народ, калі яго — кіпцем за сэрца... Дык вось, я невялікі аматар кулагі, лапцяў, народных пахаў. Але супраць народа я не пайду...

Узняў павекі і паглядзеў проста ў вочы дэлегацыі:

— Каб я быў баязліўцам — я, ратуючы сваю шкуру, узначаліў бы ваша рушэнне, каб аддаліць расплату асабіста са мной... Колькі вас? Толькі на Магілёўшчыне каля трыццаці тысяч. Колькі б пайшло дваран з усёй тэрыторыі магчымай — гм!— дзяржавы? Шэсцьдзесят. Шэсцьдзесят тысяч адчайных галоў. Больш, чым карсіканец страціў пры Барадзіне. Карсіканец у Маскве. Шалі вагаў дрыжаць... Скажам, каб была надзея на поспех,— баязлівец у карты не гуляе. Што тады? Марыянеткі ў руках чалавека, якога ненавідзіць мой народ? Вялікая дзяржава Шлезвіг-Сухадольская... «Іх глаўбе, гер Кёніг...»— і рукі па швах.

Ён сумна ўсміхнуўся.

— Гэта не цацкі, панове. Не рабі другому таго, што табе не міла. Не сунь пальцаў паміж дзвярэй. Мой Янка зрабіў з гэтых дзвюх прыказак адну: не сунь пальцаў, дзе табе не міла. Не будзь гарматным мясам для чужых капрызаў. Вы не слугі Кур'яна і не слугі маленькага капрала. Цяпер вы толькі метал пад молатам... Вы яшчэ не раз будзеце глытаць жоўць... Але тыя, белыя, унізе, не з вамі, і не з Капралам, і не з Кур'яном... І вось таму я не буду бараніць свае шкуры, іхняй і вашай, і ўсякай іншае крывёй, а проста пачакаю. Пачакаю сярод вашай магчымай пагарды, пакуль не прыйдзе Кур'ян, каб як мага даражэй прадаць сваё жыццё... Усё.

Частка дваран усё ж пайшла, узброіўшы сваіх мужыкоў і шляхту. Пачуўшы аб гэтым, ён паціснуў плячыма:

— Les sal-lariés[1].

Ён вымавіў гэта так, што ў слове выразна прагучала спалучэнне «sal»[2].

Ах, маленькі капрал, спрытнюга, маленькі абабівач грушак чужымі рукамі! Чаму ж ты тады не збіў з дрэва і нас? Гэта ж так лёгка. У Францыі няма прыго-

---

[1] Н-найміты *(франц.)*.
[2] Бруд (па сугучнасці) *(франц.)*.

ну. Зрабі, каб яго не было і тут, і ў Расіі. Як адразу загрыміць Кур'ян! Ды не, куды табе. У цябе ёсць сілы,— і тое не заўжды,— каб сутыкнуць ілбамі людзей з рознымі славалюбствамі і рознымі страсцямі, але ты не можаш утаймаваць мора. Ты баішся, што яно разбушуецца. І гэта доказ таго, што ты вялікі палкаводзец, але не вялікі чалавек. Вялікі не спалохаўся б мора. А ты спалохаўся. Табе так дорага каштавала закілзаць гэта мора там, у сябе. Ты занадта добра помніш, як кошыкі пад гільяцінай рабіліся слізкія ад крыві. Ты баішся таго ж і ў нас. А чаму? Нашто табе шкадаваць маю галаву? Ты ж не пашкадаваў бы падставіць яе пад кулю на адным з незлічоных рэдутаў. Значыць, справа не ў маёй галаве... Проста ты лялечнік, што тузае ніткі марыянетак, як кожны тыран, у якім заўсёды ёсць і будзе нешта ад халуя. Лялечнік, а не Ладымер з казкі, той самы, што ўзараў нарогам мора.

Ну і чорт з табою! Ты даў мне толькі адну добрую параду. Буду адбівацца, калі па мяне прыйдуць. Але я паспрабую таксама паторгаць за нітачкі, калі да мяне прыйдуць з хітрасцю. Паторгаю проста з цікавасці, каб паглядзець, як яшчэ нізка можа ўпасці чалавек. Я ведаю, што Кур'ян душыцель, але я не ведаю, ці падлюга ён. Я выпрабую гэта на яго халуях. Які гаспадар, такія і слугі.

А дарэмна ты не паспрабаваў раскілзаць мора, карсіканскі дурасліўчык. Дальбог, цікавей загінуць ад рукі мясцовага Рабесп'ера, крывавага і з віламі (на гільяціну ён выдаткавацца не будзе, трымай кішэнь), чым ад Кур'яна з мізэрным задам, зацягнутым у ласіны. Янка-Рабесп'ер, дык гэта хаця цікава. А ты не пажадаў. І вось за гэта накладуць табе аж па самае... І паляціш ты рылам у свой жа гной. І пачнуць жа цябе па замках цягаць, імя гразёю абліваць, узвялічваць, зноў абліваць, пакуль не прыйдуць да вывабу, што было дадатнае, а было і адмоўнае, і толькі не вядома, што пераважае, дый наогул, ці варта гэтым займацца, тым болей што ўся твая справа даўно патанула ў цемры вякоў і, за непатрэбнасцю, занесена на антрэсолі архіва матухны-гісторыі.

Косткам і тое спакою не будзе. Павінен быў ведаць гісторыю маленькага Наварца[1]. Прыйшоў з поўдня,

[1] Генрых IV.

прамяняў Парыж на імшу, памёр, забальзаміравалі італьянскім спосабам, на вякі. Паклалі ў нейкае там абацтва... Сен-Дэні, ці што? А тут Рабесп'ер... Санкюлоты падумалі-падумалі. Добры, здаецца, быў кароль, песенькі пра яго спяваюць.

«Vive Henri guatre...»[1] Ды і работы чалавечай шкада... А потым, далей ад граху, у агонь, разам з Людовікам Адзінаццатым, Акаянным... Так і табе будзе. Тваю Вандомскую калону абавязкова нехта скіне рана ці позна. Твой прах, які, ты мяркуеш, пакладуць у дом інвалідаў,— нехта выкіне.

Ну вось, ведаеш, а пнешся.

А дарэмна ты не паспрабаваў раскілзаць мора!..

Такім думкам аддаваўся Даніла Загорскі, усё яшчэ ўмацоўваючы камяніцу, рыхтуючы яшчэ адну хітрасць і п'ючы, бы ў пустыні. А потым, калі Карсіканец сапраўды загрымеў, з Пецярбурга прыехаў рэвізор, каб расследаваць справу пра манастыр, генерал-ад'ютант Баранаў...

«Эге, сілаю браць не будуць,— падумаў пан.— Справа за часам прыахалола і здаецца ўжо не такой важнай. Трэба рызыкнуць».

І ён рызыкнуў: запрасіў генерал-ад'ютанта ў Вежу. А там на вячэру. А там — у камяніцу.

Баранаў убачыў валы, порах, гарматы, узброеных людзей, а ў камяніцы бясцэнныя габелены, антыкі, карціны.

— Чаму гэта тут?— Баранаў успомніў бочкі з порахам у скляпеннях і здрыгануўся.— Жыццё вам, спадзяюся, не абрыдла?

— Я фаталіст. Трапіць дык трапіць.

— А калекцыі?

— Я не хачу, каб імі цешыўся нехта яшчэ. Зрэшты, вам магу падарыць гэтага фаўна.

Фаўн з часам прыдбаў высакародную цёмную паціну, уцёртую ў мармур. Яна не зніжала яго белі, а толькі надавала яму рэльефнасць і прыгажосць жывога цела.

Фаўн з'едліва ўсміхаўся Баранаву. Генерал не помніў сябе ад радасці. Гэта было больш каштоўна, чым «Нерон» Юсупава, звычайны афіцыйны бюст рымскіх часоў. У Юсупава была толькі адна «ступа»

---

[1] Віват Генрых Чацвёрты... *(франц.)*

з такой вось пацінай. А гэта... Элада! У яго, Баранава, ёсць ужо бюст Агрыпіны. Цяпер ён пераплюне і Юсупава з яго «ступаю» і Шарамецева з ягонай славутай пампейскай «Козачкай».

— Бярыце, генерал. Я вызваляю гэтага фаўна ад наканаванасці.

Загорскі ўбачыў, што клюнула. Некалькі такіх пастак, для кожнага тыпу людзей, было расстаўлена ў яго.

— Пашкадуйце гэта, князь,— узмаліўся рэвізор.— Выбух — і...

— Усё адно жывём на вулкане. Не я, дык нехта другі.

Баранаў зразумеў намёк. Ды гары яно гарам, каб праз вежу нейкага ідыёцкага манастыра загінула такое. Але яму было страшна: а раптам і на яго данос?

— Вы ведаеце, што на вас ёсць ананімны данос, князь?

— Магчыма. У мяне шмат ворагаў.

— Аб манастыры.

— Чуў і такое. Спадзяюся, не ігумен скардзіўся.

— Не, ён якраз маўчыць.

«Яшчэ б ён крычаў,— падумаў князь.— Хто яго, калі ён крычаць будзе, бітага на месцы пакіне».

— Бачыце, ветру з манастыра... мне баяцца не даводзіцца. Я ж кажу: плётка ворагаў.

— А дачка?

— Ды што дачка. Вы лепей спытайце ў яе і ў зяця. Жывуць. Пасаг — дзве тысячы душ. Чаго ім яшчэ?

Баранаў паспакайнеў.

— А хто ж манастыр спаліў?

— Французы, любы генерал, французы. Усё яны, фармазоны. Буанапартэ...

— А кляштар?

— Але,— сказаў Загорскі,— частавалі нас там, частавалі. Такія гасцінныя людзі!

І ўсхапіўся:

— Няўжо яны скардзіліся?

— Што вы. Наадварот, хваляць.

— Вось бачыце, генерал, як можна звяртаць увагу на данос без подпісу... Дый наогул, што гаварыць аб гэтым... Давайце лепей у фараон перакінемся.

«Сволач,— падумаў Баранаў.— Яшчэ дражніць. Ну, я ж табе зараз за фаўна грошы прагуляю. Адмо-

віца не магу, па няшчаснай слабасці маёй да антыкаў, дык я ж зраблю так, што я ў цябе гэтага фаўна куплю. І рукі будуць вольныя».

— Калі ласка, князь.

«Дурань,— думаў Загорскі.— Ты ж не толькі дурань, ты яшчэ і сволач. Паглядзім, хто прайграе. Каб прайграць у час ды ўмела, на гэта лепшыя мазгі патрэбны, чым у цябе...»

Перад світаннем Загорскі ўстаў з-за стала ў страшэнным пройгрышы: прагуляў Загоршчыну. Баранаў, не разумеючы, як жа гэта так атрымалася, што ён узяў хабар, маліў яго не лічыць гульні ўсур'ёз.

— Радавы маёнтак, князь. Яго ж нельга прайграваць.

— Нельга. Але карты. Няшчасная слабасць!

— Давайце не лічыць.

— А гонар, генерал? Не, картачныя даўгі трэба плаціць.

Баранаў і верыў у хабар, і не верыў. Але нават калі і не хабар, хто паверыць, што не хабар. Радавы маёнтак таго, каго рэвізуеш. Дый не дазволяць! Апекаванне над «умственно несостоятельным» князем. Жах! Сведкі побач.

— Кіньце, генерал... Загоршчыну, вядома, шкада. Дык давайце я пад распіску аддам вам за яе грошы. Га? І нязручна не будзе. На імперыялах пячаткі няма, адкуль яны.

«Заблытаў, загубіў, акаянны... Адной пятлёй цяпер звязаныя. Ён на дно, і я на дно, за ім. Грошы, вядома, не скажуць, адкуль яны. А распіскі ён не пакажа. Божа, толькі б галаву з пятлі, ды давай бог ногі».

І, унутрана прымiраючыся з усім, махнуў рукой.

А Загорскі, адлічыўшы грошы за траціну маёнтка,— «Хопіць і гэтага, ды і фаўн дапоўніць»,— гасцінна сказаў:

— Дык я статую да вас адпраўлю са сваімі.

Баранаў надзёрся ў маёнтку да сініх чарцей. Яго пасадзілі ў карэту і «еле можаху» адправілі ў Сухадол. Адтуль ён накіраваў у Пецярбург дэпешу, што «монастырь сгорел от неизвестной причины и, предпочтительно, едва ли не от руки злодея-корсиканца. Дальнейшее же дело за давностию и неотысканием следов, князя Загорского обеля, следует предать забвению».

Загорскі перамог. Але гэта не прынесла радасці. Брыдка! Нізкі свет!

І ён пусціўся ў разгул так, што самому страшна рабілася. Загоршчыну запісаў на сына. Мільён яшчэ да вайны быў пераведзены за мяжу і пакладзены роўнымі долямі, пад тры складаныя працэнты гадавых, напалову ў швейцарскі і напалову ў англійскі банк.

Нашчадкам няма чаго дакараць яго за разгул. Ён нікога не збядняе. Ён прапівае паўдзённыя землі. Піце, людзі! Піце! Гуляйце ўсе!

Скакалі коні, захлынаючыся бомамі, стралялі гарматы, лілося віно, купляліся статуі і карціны. Кожны месяц нехта абпіваўся да святых дароў.

...Пакрысе гэта абрыдла яму. З нешматлікімі сябрамі ён замкнуўся ў маёнтку, стварыўшы нешта накшталт братэрства, філосафам якога быў Эпікур, а рэлігіяй — Вальтэр.

Музыканты. Спектаклі прыгоннай оперы. Усё, што можа даць мастацтва і вытанчанасць, прырода і каханне.

І пустата.

Паступова адыходзілі верныя сябры. І толькі ён са сваім жалезным здароўем жыў, усё глыбей паглыбляючы ў меланхоліі і мізантропіі. Памерла дачка — і да ўсяго гэтага (з узростам ён стаў мякчэйшы) дадаліся туга, мукі сумлення.

Яму было пяцьдзесят чатыры, калі ён канчаткова страціў веру ў сумленне і гонар улад, у карыснасць дзяржаў, у тое, што свет ідзе да лепшага. У гэты год цар страляў у людзей з гармат. Тыя людзі былі храбрыя, браты па духу, бескарыслівыя, сумленныя. Не кур'яны, не баранавы — цвет зямлі! І што ж зрабілі з імі? Вешаць дваран! І хто?! Фельдфебель!..

Ажаніўся сын, нарадзіўся Алесь. Нішто не змяніла дзедавай велікапышнай самоты. Толькі ад сына ён аддаліўся,— нявестка зноў завяла ў Загоршчыне папа. Ён бачыў іх рэдка, раз у год-два.

Калі нарадзіўся другі ўнук — ён ажывіўся. Яму здалася забаўнай новая ідэя. Бацькоўскай уладай ён загадаў, каб унука хрысцілі ў касцёле.

— Народ раздзялілі гэтай верай. Сварацца, як быццам не адной маці дзеці. І кожны лічыць, што

мае рацыю, калі гыркае. Дык няхай хаця два браты будуць іншай веры.

Вымушаны былі зрабіць па яго і ўнуку далі імя Вацлаў.

Але нічога не змянілася.

Пышны і магутны абломак старасвеччыны, ён згасаў, абкружаны мастацтвам, паркамі, дзівоснай скульптурай і музыкай.

Яму нічога не было патрэбна. Ён ведаў людзей. Ён ведаў свет.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Да гэтага чалавека цяпер ехаў Алесь.

## XV

На тым беразе цягнулася і цягнулася Доўгая Круча.

Дняпро ў гэтым месцы быў просты, як страла, і як страла імчаўся паміж берагамі — высокім і нізкім. А круча на тым беразе была самым дзіўным, што калі-небудзь ён свавольна ўтвараў.

Даўжынёю з вярсту і вышынёю сажняў на пяцьдзесят, роўная, нібы па лінейцы праведзеная ў даўжыню і ў вышыню, яна была з крывава-чырвонай гліны, цвёрдай, як камень, непрыступнай ні для нягоды, ні для вады. І на гэтай строме, карэннямі ўгору, тамсям віселі сосны з залацістымі стваламі і свежай гліцай, віселі паміж небам і зямлёй, скарлючаныя, перавітыя, як вязка змей, няскораныя ў сваім жаданні жыць там, дзе не здолеў і не захацеў жыць ніхто.

За кручай і вышэй яе Дняпро шырэў, разліваючыся. Круча стрымлівала яго, не давала прарвацца ўніз і змыць усё на сваім шляху.

Касюнька ступала стомлена, але ўсё яшчэ гулліва. І вось за Кручай, за невялікім разлівам, перад Алесевымі вачыма паказаліся ўзгоркі, на якіх, як вока сягала, густа зеляneў неаглядны парк. А ў парку, на грэбені высокай грады, зіхацела нешта блакітнае і залатое. Белае, блакітнае і залатое ў пералівах вясёлкавых вадзяных струменяў.

За мостам дарога зварочвала і вяла ўздоўж Дняпра. Сажняў праз пяцьдзесят ён заўважыў пазало-

чаную паркавую агароджу, нібы звітую са сцяблін і траў, простую і прыгожую. Агароджа ішла і ўправа і ўлева, губляючыся ў зеляніне. А там, дзе да яе падыходзіла дарога, была брама, шырока расчыненая ў зялёны змрок алеі. Людзей не было. Толькі недзе далёка, у шатах, мякка гучалі нейкія струны, як Эолава арфа. Алесь не ведаў, што за ім сочаць і што цяпер на яго непрыкметна глядзяць дзве пары вачэй.

Пастаяўшы перад брамай, пагладзіўшы Алму, якая прыўстала на луцэ, топчучы лапамі хвасты дзвюх качак, малады коннік пацiснуў плячыма і рушыў каня ў змрок алеі. Сонца было яшчэ даволі высока.

Адхон, зарослы векавымі дрэвамі, цягнуўся з левага боку. У адным месцы на яго ўзбягалі звілістым серпанцінам мармуровыя сходы з шырокімі прыступкамі. Але гэта відавочна было не для каня. Затым алея павярнула ў шырокі яр, дзе буяла разнатраўе. Ён не ведаў, што з самага «вялікага сядзення ў камяніцы» за паркам перасталі сачыць. Калі ж сядзенне скончылася, дзеду так спадабалася чароўнае спалучэнне працы садоўніка, які распланаваў і да часу выхоўваў дрэвы, і свавольства прыроды, якая вызваліла іх ад прыгнёту нажніц, што ён загадаў пакінуць парк у спакоі. І вось цяпер парк буяў, і ў ім было надзіва хораша. Сярод буйнага лесу, ледзь ачышчанага ад ветрабою і пустазелля ды ад куставога смецця, трапляліся вельмі рэдка, толькі каб паказаць, што гэта не лес, што гэта назнарок, то два-тры дзікія камяні над уваходам у пячору, то зялёны амур, увесь у штучна ўзрошчаным на ім моху. Амур глядзеў на конніка, прыклаўшы палец да вуснаў, а ля яго ног было высечана на камені: «Chut!»[1]

Алея забірала, па нябачнай дузе, усё лявей і лявей, і вось вачам адкрыўся бакавы двор палаца, прагна, быццам клюшнямі краба, ахоплены двайной каланадай. У тым месцы, дзе яна расступалася, залацілася расчыненая агароджа вялізнай брамы. І зноў мёртвая цішыня. Пясок двара роўны, і на ім ніводнага следу. Быццам ён так і ляжыць сто год.

Пасярэдзіне двара моўчкі стаіць мармуровая,

---

[1] Цс-с! *(франц.)*

у натуральную велічыню, копія з фларэнтыйскага Давіда.

Алесь злез з каня і пачаў адвязваць качак, спіною адчуваючы бязлюддзе і мёртвую цішыню.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ён не здрыгануўся, ён увесь час чакаў гэтага і, усё яшчэ стоячы спіной да голасу і адвязваючы качак, адказаў:

— Дзень добры!

Потым, трымаючы качак у руцэ, павярнуўся на голас.

На верхняй прыступцы нізкага ганка стаяў, невядома як і адкуль з'явіўшыся, чалавек.

Ён быў, бадай што, трошкі менш сажнёвага росту, магутны, але здаваўся маленькім і самотным сярод гэтага мёртвага двара.

Чалавек стаяў і глядзеў на яго з вышыні спакойна, трошкі іранічна і дапытліва.

Алесь працягнуў чалавеку качак.

— Гэта вам.

— Спадзяешся, што за дзень больш не з'ясі? — халодна спытаў той.

— Спадзяюся.

Чалавек ацэньваў. У чалавека была сівая грыва валасоў, якая, насуперак звычаям веку, не ведала парыка.

Нерухомы чалавек усё глядзеў на Алеся і ацэньваў:

«Да чаго падобны на прадзеда, на Акіма. Нават жэсты. Нават манеры. Нават голас. Валасы, праўда, і ў нявесткі каштанавыя, але гэта не ад яе... Такія вось у Акіма, у бацькі, былі... І не спешчаны... Сакалятнік, як прадзед... Манеры толькі горшыя: велічы мала. Гэта ўжо ад праклятага веку... Усё Акімава... Не, не ўсё... У таго былі сінія вочы, а ў гэтага шэрыя, матчыны... Значыць, дрэнь унук, бо гэта жанчыне добра, а мужчыну, ды яшчэ Загорскаму — н-не... Будзе як сынок: ні цёплы ні халодны... Ды яшчэ, крый божа, у царкву пацягнецца... Да пацукоў, да Кур'янавага пляменнічка-капрала...»

І, нібы адразу страціўшы ўсякую цікавасць да Алеся, чалавек сказаў:

— Так таму і быць... Хадзем, князь...

Гэтае «князь» прагучала роўна, спакойна.

Вежа кінуў качак на гарматны ствол і пайшоў па-перадзе, выціраючы далоні. Пайшоў, не цікавячыся, ідзе за ім нехта ці не.

Касюнька асталася сярод двара, і толькі Алма па-бегла за дзедам, зрэдку азіраючыся на ўнука, быццам не разумеючы, што звязвае яго са старым і што наогул трэба з ім рабіць: кусаць за лыткі ці падціскаць хвост...

— Сабака?.. Хто дазволіў?

— Ніхто,— сказаў Алесь, гледзячы проста яму ў вочы.— Я падумаў, што калі вы не хочаце бачыць людзей, дык, можа, сабака зробіць хоць трохі разна-стайным наша баўленне часу?

— Маеш рацыю,— сказаў стары князь.— Саба-чая нізасць не так рэжа вока. Яна — прыроджаная... Даволі мілы сабачка.

Выйшлі з тунеля, і тут вачам адкрыўся партэрны фасад палаца, вялізны, трохпавярховы, з круглым бельведэрам, што быў укрыты золатам.

— З паўднёвага фасада ёсць каскад,— сурова сказаў князь.— Сотня статуй. Некаторыя з механіз-мамі. Не будзеш даглядаць, загубіш — шэлег табе цана.

Алесь маўчаў. Яму не хацелася гаварыць з гэтым чалавекам. А князь, здавалася, не заўважаў.

Чацвёртая балюстрада абрывалася над адхонам. Уніз вялі сходы, паўз якія праязджаў Алесь. А далей алея, бераг Дняпра, далячынь. Без канца.

...Князь спяшаўся. Ён ужо шкадаваў, што выра-шыў пазнаёміць гэтага чужога чалавека з яго буду-чымі ўладаннямі. Гэта было ўтомна.

— Надумаешся прыехаць... па неадкладнай спра-ве — адразу ж едзь,— суха сказаў князь.

— Наўрад ці надумаюся прыехаць.

— Чаму гэта?

— Дома весялей.

— Магчыма. Але забаўляць цябе мне, летнаму чалавеку, не да твару. У мае часы дваране твайго ўзросту валілі дзікоў... У вас замест гэтага, здаецца, царква?.. Ёсць яна?

— Ёсць.

— Табе, вядома, там цікавей. Прыедзеш — пастаў там за мяне свечкі Кур'яновым святым, Кукшы,

ды Сергію, ды яшчэ якой-небудзь святой Матруне Мокрападоліцы.

— Пастаўлю,— суха сказаў Алесь.— Чаму не зрабіць паслугі таму, хто веруе.

Удар быў несправядлівы, пад самае сэрца, але хлопец не ведаў гэтага.

Князь, падціснуўшы вусны, паглядзеў на яго, але нічога не сказаў.

Строгі будынак з вузкімі вокнамі стаяў у парку, прымыкаючы да пляцоўкі, абкружанай мурам.

— Мой арсенал,— сказаў Вежа.— Зброя, як кажуць, з часоў Гастамысла і да нашых дзён. Тут яе чысцяць, берагуць... Тут вучаць — у тым двары за мурам — коней, каб не баяліся стрэлаў... Усё гэта нікому непатрэбна... Як усё на зямлі.

...У арсенальнай зале адбылася сутычка.

Князь паказваў шаблі, старыя мячы, кінжалы, корды. І вось адна шабля, лёгкая нават на выгляд, з похвамі, інкруставанымі чырвонай яшмай і мядовым бурштынам, здалася Алесю такой прывабнай, што ён пацягнуўся да яе і пачаў абмацваць інкрустацыю рукамі.

Князь цярпець не мог гэтай прывычкі — мацаць.

— Віншую,— сказаў ён.— Гэта цябе на дзядзькаванні навучылі такім манерам, каб усё церці? Ды, можа, яшчэ, папляваўшы, крысом світкі?

Алесевы шчокі запунсавелі. Чапаць можна было ўсё, акрамя яго мужыцкага мінулага. Хлопец узняў вочы:

— А чаму б і не ўзяць у рукі?

— Гэта інкрустацыя.

— Гэта — сталь,— сказаў Алесь.— Усё астатняе толькі прывесак да яе. А яго можа і не быць.

— Гэта парадная зброя,— суха растлумачыў стары.— Аздоба.

— Зброя не можа быць аздобаю.

— Ого,— сказаў князь.— Дзе ж гэта ты вучыўся павазе да зброі?

Алесь глядзеў проста ў вочы гэтаму чалавеку, якога ён, здаецца, пачынаў ненавідзець.

— У мужыкоў,— сказаў ён.— У тых, у каго яе мала, але ўся яна пры справе.

— Пры спра-аве,— сказаў князь.— Панскія дровы сячэ.

— Мала што яна можа секчы,— сказаў Алесь. Халодная ярасць аж звінела ў ягоных вушах. А князь падбаўляў жару:

— Каб яна пры справе была, як ты кажаш, не сядзелі б мы тут з табою. Так што ты мне сваіх чарнапятых не хвалі.

Са скрухаю паківаў галавою:

— Аддалі, называецца. Адно цікава было б ведаць: чаму цябе там для душы навучылі? У што ты верыш, акрамя «лусне пан па шчацэ — падстаў другую»?

— Я веру ў каня святога Міколы,— збялеўшы, сказаў Алесь.— І я пайду пры гэтым кані...

— Я шмат бачыў маладых людзей, смелых на язык,— сказаў дзед.— Яны, на жаль, не былі смелыя на справу... Ён «пры кані»... А ты не баішся, што гэты конь цябе ўбрыкне?

— Ён ведае сваіх.

— Ён ведае тых, хто ўмее ездзіць...

Яны выйшлі з арсенала ва ўнутраны двор і спыніліся ля ўвахода на круглы манеж. Жэрдкі адгароджвалі іх ад арэны.

Якраз у гэты момант некалькі конюхаў вывелі са стайні каня. Яны часта пераступалі нагамі і нацягвалі вяроўкі, не даючы жывёле магчымасці кінуцца ўбок або павярнуць галаву і схапіць зубамі.

Конь дрыжаў ад ярасці. Маленькія вушы былі прыціснуты, белыя ноздры раздзьмуты. Ён іраўся, але тыя, што так крыўдна прыніжалі яго, моцна нацягвалі вяроўкі.

— Тромб! Тромб! — пяшчотна шапнуў дзед.

Адзін з конюхаў здалёк звярнуўся да пана:

— Збіў усіх і ў стайню заляцеў. Як пачуе стрэл — вар'яцее.

— Паспрабуйце некалькі дзён страляць амаль няспынна, пакуль не атупее.

— Спрабавалі, княжа.

— Паспрабуйце яшчэ раз. Іначай які ж з яго конь? Ні на паляванне, нікуды. Татарам хіба на махан...

Пачуліся стрэлы. Жывёла прысядала на заднія ногі. Высакародны белы дрыкгант, увесь у дробных чорных плямах і смугах, як леапард.

— Пусціце! — начакана крыкнуў Алесь.— Вы што ж, не бачыце? Ён не хоча.

— Памаўчаў бы ты,— суха сказаў князь,— хрысціянін.

— Ды ён жа не хоча. Ён пратэстуе! А яны не могуць!

— А ты можаш? — спытаў князь.

Алесь апусціў галаву. Усё было скончана. Прыніжэнне няшчаснага Тромба завяршыла ўсё. Ён ненавідзеў гэтага чалавека ўсёй сілай сваёй дзіцячай нянавісці. Так, ён не мог. Але чым вінаваты Тромб?..

Тромб раптам кінуўся ўбок, даў свечку — і людзі паляцелі ад яго.

Людзі сыпанулі хто куды — той на мур, той у стайню, толькі вароты ляснулі.

Поле бітвы ў імгненне асталося за канём. А ён то біў пярэднімі капытамі ў вароты, то насіўся па манежы.

Князь адчуў нейкую пустату і павярнуўся..

...Алеся не было побач з ім. Хлопец падлез пад жэрдкі. Ён быў ужо амаль на сярэдзіне манежа. Ішоў да каня, танюткі, вельмі маленькі на пустым, сляпуча-белым крузе.

Позна было крыкнуць. Позна кінуцца на дапамогу. І Вежа толькі ўчапіўся пальцамі ў валасы.

Раз'юшаны конь заўважыў новага ворага, стралою кінуўся да яго і ўскінуў у паветра страшныя пярэднія капыты.

Князь не заплюшчыў павек — проста ў яго на хвіліну пацямнела ў вачах. Зараз апусціцца капыт... Ён сам не помніў, як ногі перанеслі яго пад жэрдкі, на дапамогу, на бязглуздую дапамогу.

Конь апусціў капыты... на пілавінне. Хлопец стаяў амаль паміж ягоных ног. Шыя каня была закінута, вочы глядзелі зверху на чалавечка, і ашчэраная пашча была ў некалькіх вяршках ад Алесевага аблічча.

Над манежам вісела вострая цішыня. Крыкні — і ўсё сарвецца. І ў гэтай цішыні пяшчотны, журлівы хлапечы галасок праспяваў пяшчотныя словы:

— Не трэба... Не трэба... Тромб...

Цяжка сказаць, як гэта адбылося. Можа, конь стаміўся, можа, ён разумеў, што нельга чапаць слабога дзіцяці. Але ён адвёў храпу і гучна пырхнуў.

Рука працягнула яму на далоні кавалак цукру.

Ён зноў прыціснуў вушы — у людзей за цукрам заўсёды ідзе бізун.

— Вазьмі, Тромб,— спакойна сказаў чалавечак, і ў голасе яго цяпер не было журлівасці.— Вазьмі... Ну.

Тромб скасавурыўся. Хлапчынка быў маленькі і нястрашны. І гэта белае на далоні...

Ён пацягнуўся і ўзяў цукар. І Алесь адчуў, як нешта ў ім упала, адчуў слабасць.

Князь падыходзіў да яго, і Алесь сказаў глухім, каб не расплакацца, голасам:

— Загадайце прывесці мне маю кабылку... Я хачу дадому.

Вочы іх сустрэліся. І адным гэтым позіркам стары спасціг душу дзіцяці.

— Даруй мне, сынок,— сказаў ён.— Даруй.

## XVI

Яны ішлі рука да рукі. Нічога не змянілася. Толькі хлопчык увесь час пытаў, а стары ўвесь час адказваў тым самым стрыманым тонам. Нават мова была тая самая, французская, толькі цяпер князь часцей ужываў мужыцкія словы, ужываў, не націскаючы на акцэнт, не агрубляючы іх, спакойна і натуральна.

Конюхі, калі стары і малады адыходзілі ад стайні, збянтэжыліся: не было ніякага загаду аб Тромбе. А Тромб, быццам баючыся астацца адзін, пайшоў асцярожна за хлопцам, касавурачыся вачыма на людзей. І тады стары павярнуўся.

— Каня — у стайню,— суха кінуў ён,— падвойную долю аўса і фунт цукру штодзённа.

— Дарэчы,— сказаў князь суха,— я не супраць пакаштаваць качыны. Загадай, каб засмажылі ў іспанскай падліве, з гваздзікай.

Усе здзівіліся: князь цярпець не мог ні качынага мяса, ні гваздзікі. Ён любіў з дзічыны толькі кулікоў, ды і тое пад мясцовай поліўкай.

Усё было па-ранейшаму. Толькі нянавісць хлопца знікла, даўшы месца насцярожанасці. Ён не разумеў гэтага чалавека.

А князь ішоў і, не заўважаючы хлопцавага настрою, гаварыў:

— Любіш коней? Гэта добра... Што, бацька ўсё са сваёй вінакурняй?.. Ага... хваліў, кажаш, сваю гаспадарку? Дарэмна... Пагібель гэтыя бровары, вось што.

Ішлі тым самым запушчаным паркам, дзе толькі рэдкія статуі часам нагадвалі, што гэта парк.

Натрапілі на азярцо, абкружанае высокімі штучнымі скаламі, і таму ціхае і змрочнае, як возера мёртвых. Дзед узяў з грота дзве стрэльбы.

— Бачыш на тым баку белы камень?

— Ну.

— Пацэль.

Алесь пацэліў дзвюма кулямі з трох — відаць было, як паляцелі каменныя пыркі.

— Нядрэнна,— сказаў дзед.— Ану я.

І пачаў цэліцца. Мёртва ляжала роўнядзь глыбокай, спакойнай і празрыстай вады. І тут Алесь заўважыў, што руля дзедавай стрэльбы няўхільна і цвёрда апускаецца і цяпер глядзіць проста ў ваду, у якой нерухома стаяць адбіткі чорных скал і белы кружок каменя-мішэні.

— Куды вы? — спытаў Алесь.

Замест адказу стары націснуў курок. Так і ёсць, ніжэй, бо пырснула вада. Але адначасова — Алесь аж здзівіўся — ад каменя паляцелі аскепкі. Другі стрэл. Трэці. Чацвёрты. Тое самае.

— Табе трэба навучыцца,— сказаў дзед.— Я цэлюся ў адбітак на вадзе, а куля трапляе ў сапраўдную цэль, рыкашэтам, адскочыўшы ад паверхні[1].

— Нашто гэта? — здзівіўся Алесь.

— А на тое, што той дрэнны стралок, хто добра страляе толькі ўдзень. Вучыся страляць і ўначы. У сутонні ты часта не бачыш ворага, які ідзе другім берагам, а адбітак добра бачыш. Клікні, а потым страляй.

У невялікі разрыў лістоты Алесь убачыў над паркам — і вышэй за ўсё вакол — узгорак з голай верхавінай, а на ім нешта ружова-аранжавае, узнесенае проста ў неба сваімі каланадамі.

---

[1] Калісьці стральба па адбітках у спакойнай вадзе была ледзь не народным спортам у Прыдняпроўі. Яшчэ сто пяцьдзесят год таму назад рэдка якое паляўнічае свята абыходзілася без яе.

Потым, калі з-за паўстанняў пачалі адбіраць зброю, звычай пачаў знікаць, але яшчэ за сто год да нас часам сустракаўся...

— Храм сонца,— сказаў дзед.— Ён даўжэй за ўсё наваколле бачыць сонца. Але туды мы не пойдзем. Там магіла майго лепшага каня. Звалі яго — Эол. Ды толькі ўсе яго дзеці і ўнукі не тое. Быццам ён усю смеласць за адзін свой век пражыў.

— Можа, не ведалі, як за Тромба ўзяцца?

— Можа, і так... Хочаш — сабе вазьмі. І... да стрэлаў усё ж прывучы...

— Не ведаю. Калі ж я за гэта вазьмуся? — суха запытаў Алесь.

Князь моўчкі ішоў побач з унукам. Вусны яго былі спакойныя, твар, як заўсёды, абыякавы. І ніхто не ведаў, не мог бы ўбачыць, што ад самага здарэння з Тромбам у душы князя спявала радасць.

«Мой... Горды, крыўды не даруе... Не сынаў, не Кроеравай крыві... Мой».

А ўголас сказаў абыякава:

— Ну глядзі, як хочаш... Там, за Жараліцай, бярозавы гай... Там, бліжэй да дому, таксама над рачулкай, мой тэатр... Ну, а зараз пойдзем вячэраць, потым будзем глядзець трагедыю. Ты ніколі не бачыў тэатра?

У Алеся моцна закалацілася сэрца. Аб тэатры яму расказвалі. Бацька і маці бачылі тэатр шмат разоў, у вялікіх гарадах: у Магілёве, Вільні, Пецярбургу.

— Трэба толькі хутчэй... бо... заўтра ж мне рана ехаць.

— Ты заўтра не паедзеш,— сказаў стары.

— Чаму гэта? — Алесю адразу ўспомніўся звычай князя замыкаць коней.— Мне трэба.

— Калі трэба, то добра,— абыякава адказаў князь.— Але справа перш за ўсё... Заўтра трэба яшчэ пакоі агледзець, карцінны павільён. І самае галоўнае — сакратар мой на тыдзень з'ехаў жаніцца; чужым мае справы давяраць нельга, і я думаў, ты здолееш мне памагчы. Почырк у цябе добры?

— Дрэнны.

— Тым лепш... Цярпець не магу людзей з гожым почыркам... Ды ўрэшце, што я... Ты ж мне памагчы не можаш.

— У чым?

— Ды я, ці ведаеш, так бы мовіць... складаю «Запіску аб уладах... зямных і нябесных. Вопыт... разважання нявернападданага... аб вернападданых».

Ніхто на свеце не мог бы заўважыць, што князь дурэе, такі сухі быў тон.

— Гэта цікава,— ветліва сказаў Алесь.

— Ну вось. Я думаў, ты здолееў бы мяне выручыць... дні на — гм! — чатыры... Я ведаю, табе будзе сумна са мною. Але справа ёсць справа. Тры гадзіны на дзень — ёй. У астатні час — што хочаш...

Князь абмахнуўся хустачкай, непрыкметна прыціскаючы яе да вуснаў, яму не хапала цярплівасці.

— І яшчэ,— хлусіў ён.— Цяпер пойдуць дні рэпетыцый. Трэба праглядзець увесь рэпертуар гэтага года. Заўтра ідзе «Федра». Паслязаўтра опера — «Чароўная флейта» і яшчэ нешта накшталт дадатка да яе, «Мятлушкі весняй ночы», гэта балет. На наступны вечар павінен ісці «Дубіна, палескі разбойнік, або Дзівосы закінутага млына», потым «Сід», «Рычард Трэці», або Гісторыя аб тым, як зладзей кароль утапіў брата ў бочцы з мальвазіяй і забіў... Ну, словам, доўга. Яшчэ пяць п'ес.

Князь назнарок прыбавіў да назвы славутай трагедыі доўгую тыраду, каб было цікавей. Потым дадаў:

— Урэшце, як хочаш... Калі табе пільна трэба ў Загоршчыну, я не буду цябе трымаць. Заўтра ж загадаю асядлаць тваю кабылку — і едзь.

Алесева сэрца разрывалася паміж гонарам і магчымасцю паглядзець усё, чаго ён яшчэ не бачыў. Гонар, урэшце, не так і мучыў цяпер, бо тон князя змяніўся і з сухавата-здзеклівага стаў амаль міралюбным. І хлопец уздыхнуў:

— Я думаю... Бацькі даруюць мне, калі даведаюцца, што я астаўся.

Князь зрабіў выгляд, што лічыць па пальцах.

— Сёння... «Федра»... «Флейта»... так... Ого, чатырнаццаць дзён! Пэўна, ты столькі не вытрываеш... Ды і мне... Ах-ах! Вось няўдача якая! Але вернецца сакратар — будзе лягчэй. І абяцаю табе пасля двух тыдняў — рабі што хочам... А хочаш — і раней...

— Я думаю... я здолею застацца на столькі. Трэба ж памагчы...

«Ах, чорт,— думаў князь,— ах, які стрыгунок горды!.. Ну, я ўжо цябе закілзаю, калі спатрэбіцца... Гэта ж падумаць, колькі ён мяне прымушае вакол сябе скакаць!..»

За сталом акрамя іх сядзела яшчэ жанчына год пад

сорак, відаць, тая самая, якую даязджачы Карп, не заўважыўшы Алеся, назваў калісь «апошняй метрэскай» пана.

У слове «метрэска» было нешта таемна-нядобрае, але — дзіва! - Алесь адразу і думаць аб гэтым забыў, як толькі ўбачыў «метрэску» на свае вочы. Такі спакой быў у яе рухах, такой прыгажосцю свяціўся гэты добры, бяздумны твар. Толькі падумалася, як гэта добра, што яна такая простая.

— Пад'ешце, бацюхна, удосталь,— нараспеў сказала яна замест малітвы.— І вы, князюхна, ешце без сумнення.

Князь выпіў зялёную чарку — яна загайдалася на стале круглым донцам, зусім як Іванька-ўстанька,— і закусіў рыжыкамі свежага засолу.

— Ал-ле,— сказаў ён.— Хрыстос па душы басаног прайшоў. Чуеш, Еўфрасіння Глебавічна? Мы сёння ў тэатр ідзём... да дзяўчат.

Скоса глядзеў хітрым вокам.

— То і добра,— з усмешкай сказала яна.— Тады я ўжо загадаю, каб вам святочны ўбор падрыхтавалі. Дзяўчаты любяць, калі кавалеры добра апранутыя.

— Пойдзем, можа, разам, Еўфрасіння Глебавічна?

— Што ты, бацюхна! — узняла яна рукі.— Грэх такі! Дый страшна. Людзі нажамі рэжуцца. Пярун грыміць. А я навальніцы баюся.

Князь пацiснуў плячыма.

...У будынку тэатра панавала паўцемра: рэдка-рэдка дзе бясконцыя калідоры асвятляліся свечкамі ў жырандолях.

Фае з мармуровымі бюстамі і статуямі муз пахнула парфумай і яшчэ чымсьці таемным. Праз дзверы была відна цёмная зала, заслона, асветленая знізу і таму як жывая, чуліся гукі скрыпак.

Рыхтавалася ў цемры і незнаёмых водарах нейкая таемнасць, бо ўсё больш напружана гучалі, а потым раптам змоўклі скрыпкі і віяланчэлі. І гэта звалася «Гарыслава і Людамір».

Узнялася заслона. За ёю ляжаў «старажытны Магілёў» з храмамі і каланадамі. І гэта цягнулася метраў на пяцьдзесят, такой глыбіні была сцэна. А далей, ужо намаляваны, узвышаўся гарадскі мур і за ім — Дняпро, падобны на мора. На сцэне стаялі воіны і аб нечым

спрачаліся, размахваючы мячамі. І так прыгожа яны гаварылі вершам, што да горада набліжаецца вораг — войска на чале з князем Людамірам. А дачка магілёўскага князя, Гарыслава, усе апошнія дні сумная і плача.

І ўсё ж Алесь чакаў чагосьці яшчэ лепшага.

...На сцэну, у доўгім зіхоткім плашчы, выйшла дзяўчына год васемнаццаці. У яе было бледнае аблічча з вялізнымі вачыма. Яны былі большыя, чым ва ўсіх людзей на зямлі...

Алесь не ведаў, што ён прысутнічае пры дзіве, вялікім нават на фоне гэтага добрага тэатра, на фоне выключнай для прыгонных ігры іншых. Ён проста адчуў, як ад першых гукаў яе голасу мурашкі прабеглі па спіне.

А ноч ідзе, і коцяцца сузор'і,
Як безліч караблёў у цёмным моры,
Чужынскіх караблёў. Ах, бачу, бачу я:
Яна плыве сюды, пагібель ўжо мая!

Няроўныя, то добрыя, то жахліва бяздарныя словы — гэта не мела ўжо значэння... Яны былі *з яе* вуснаў, і гэтая дзяўчына ў сваім зіхоткім плашчы была вышэйшая за ўсіх астатніх.

Ветрам дыхала са сцэны, такім ветрам, што валасы на галаве ўставалі дыба.

Была бітва. Страшна і безупынна грукатаў гром. Білі маланкі, асвятляючы на сцэне гаротную постаць.

А дзед скоса глядзеў на ўнука, на бледны твар, на рукі, што ўчапіліся ў аксаміт бар'ера, і толькі ківаў галавою.

...Білі грымоты. А за мурамі ішла бітва. І Людамір, якога ён яшчэ не бачыў, але ведаў, што ён харошы, часова адступіў. А потым было іхняе патаемнае спатканне. А потым звіваўся, як чарвяк, расказваючы аб здрадзе, і шыпеў, як змей, перад магілёўскім князем агідны дружыннік Шчур.

У цёмнай зале нечакана звонка, перарывіста ад крыўды і абурэння, выбухнуў дзіцячы голас:

— Як жа табе не сорамна?! Дрэнны ты! Злы чалавек!

Акцёры страпянуліся.

І тут... Яна забылася і глянула на яго. Князь з прыкрасці крэкнуў, вырашыў адзначыць гэты недахоп.

— Яна паглядзела на мяне,— шэптам сказаў Алесь.— Паглядзе-ела.

Крык Алеся, здавалася, прымусіў яе граць яшчэ лепей. У рысах аблічча быў смяротны боль. А голас зрываўся, нясцерпна сціскала сэрца.

О рабства страшнае! О лёс мой люты!
Гарчэй за смерць кайданныя пакуты!
Згасай, згасай у клетцы залатой
Нікому непатрэбнай сіратой.
Кайданы рабства на руках, як змеі,
А за мурамі цёплы ветрык вее.
А за мурамі свет! Сады! Палі!

Голас яе ўпаў, і тут стары князь адчуў, як затрэслася ад рыданняў цельца побач з ім.

— Хлопчык мой!.. Гэта ж выдумка! Хочаш — яна прыйдзе і суцешыць цябе?

— Не! Не! — і невядома было, ці ён не хоча, каб яго суцяшалі, ці проста не верыць, што гэта выдумка.

Высакародны Людамір, даведаўшыся аб пакутах каханай, з'явіўся ў горад, пакінуўшы флот, каб вызваліць яе або падзяліць яе лёс. Абаіх разрывалі страсці: любоў да радзімы і каханне.

Закаханыя стаялі на кастрах з бярвенняў, якія вось-вось павінны былі запалаць.

О любы мой, прыйшла гадзіна скону!

Зыркія языкі полымя ахапілі яе. А над полымем ззялі яе вочы.

...Дзед сам занёс яго ў пакой побач са сваім, сам, разам з Глебавічнай, распрануў яго.

Алесь ляжаў, бяссонна гледзячы на агенчык начніка. Спаць ён не мог. Што ж рабіць потым?.. Як жыць без гэтага? Ён скончыць памагаць дзеду і стане непатрэбны яму. І тады зноў... бачыць яго раз на год, як бацькі.

Праз якую гадзіну ён пачуў у калідоры голас дзеда, які канчаў настаўляць кухара:

— Вэндзіць фазана будзеш як заўсёды, на драўляным пілавінні з цукрам. І каб тушкі не дакраналіся адна да адной! А індыка, перш чым рэзаць, напаі п'яным — за паўгадзіны ўлі ў рот лыжку гарэлкі: мяса будзе смачнейшае...

Дзверы ў спальню адчыніліся. Дзед зайшоў і сеў каля ложка.

— Не спіш? — спытаў ён.
— Не-а.
— Усё мучышся?
Дзед маўчаў, і цень ад яго галавы схіляўся ўсё ніжэй.
— Хочаш астацца са мной?..
— А бацькі?
— Ну, прыязджаць, калі захочаш...
— Хачу.
— Ну вось. А я стаў лянівы на дабро... Усё думаеш: можа, другім разам. А гэтага нельга!.. За гадзіну я абдумаў. На ўсіх актораў запавет, што яны будуць вольныя пасля маёй смерці. А ёй — вось ён,— і дзед паказаў жаўтаваты аркуш паперы.— Заўтра яна можа ісці, куды хоча.
— І яна можа?..
— Тут сказана: хоча — няхай ідзе. Хоча — няхай астаецца ў маім тэатры, грае ўжо як вольная.
Алесь прыўстаў і схапіў дзедавы рукі.
— А цяпер ідзі, занясі сам...
...Ён ляцеў начным калідорам — аж рэха лунала. Кінуўся ў дзверы і пабег пераходам над аркай. Загрукаталі вінтавыя сходы на антрэсолі.
...Ён нечакана ціха пастукаў у дзверы...
Дзверы адчыніліся, і ён убачыў жаночую постаць у доўгім начным халаце, валасы, сабраныя стужкай, і вочы.
У гэтых вачах і цяпер жыў сум, але яны трошкі пацяплелі.
— Заходзьце,— сказала яна.
...Просценькі туалетны столік, дзве свечкі на ім. Разгорнутая кніга на крэсле.
— Сядайце.
Усё было звычайнае. І ўсё ж за гэтым пакоем ён бачыў вязніцу і полымя вогнішча.
Пачырванеўшы, працягнуў ёй скрутак паперы.
— Што гэта?
— Прачытайце. І не бойцеся турмы. Я вас абараню.
Яна з усмешкай паглядзела на яго, такога наіўнага ў сваёй веры. Што мог зрабіць ён?
Пасля разгарнула скрутак і з той самай памяркоўнай усмешкай пачала чытаць.
Усмешка знікла.

Страшна бледная, яна глядзела на яго.

— Стары пан піша, што ён вызваляе мяне па вашаму жаданню.

— Калі ён піша так — значыць, ён добры да мяне.

І тут ён убачыў яе вочы. Што гэта было, ён не ведаў, але гэта былі зусім другія вочы, не тыя, што вось толькі, не тыя, што на сцэне.

Маўчанне панавала ў пакоі. А за паўкруглым акном ляжала глыбокая ноч.

— Дзякую вам,— сказала яна.— Я гэтага ніколі не забуду. Ніколі не забуду.

Гэта было непатрэбна. І ён, адчуваючы, што слёзы вось-вось зноў пырснуць з вачэй ад захаплення і шкадобы, павярнуўся і кінуўся з пакоя.

## XVII

Раніцай сонца прабівалася праз плюшч на вялізную верхнюю тэрасу, што з фасаднага боку. У вальерах сварыліся і шалёна крычалі папугаі.

Дзед сядзеў у крэсле. Перад ім дымела філіжанка шакаладу і стаяла бутэлька белага віна. Убаку сядзела за каклюшкамі Глебавічна.

А перад Алесем акрамя шакаладу ляжалі лісты жоўтай слановай паперы, стаяла ў чарніліцы кітайская туш. Дзед у гэтых адносінах быў вялікі сноб,— пісаць, дык пісаць так, каб была асалода: ільсняным чорным па гладкім жаўтаватым, тады пішацца нешта талковае. «Сучасныя пісакі таму і пішуць абы-як, без стылю, што перед імі каравая папера і чорт ведае якія пер'і: скрабуць ды рыпяць».

А пер'і былі адмысловыя: гусіныя, тонка завостраныя, мяккія, заўсёды з левага крыла, каб зручна ляжалі ў руцэ.

Дзед прыгубляў віно і пачынаў, быццам бавіўся новай гульнёй, але так, што гэтага нельга было заўважыць:

— Разважанні аб злачынстве і пакаранні...

Пяро ў Алеся пачынала бегаць.

— Не спяшайся,— казаў дзед.— Выслухвай і запісвай самае галоўнае... Дык вось, мы спыніліся на неадпаведнасцях паміж людскімі законамі і натуральным законам прыроды...

Дзед думаў хвіліну.

— Чалавек следуе законам натуры толькі ў горшым. Ён карае смерцю нават за тое, за што натура даруе ў літасці і жорсткасці свяёй... А між тым, безумоўна, падлягае смерці толькі адно злачынства — здзек з чалавечай душы, катаванне чалавечага цела... Сюды трэба аднесці гвалт над жанчынай...

— Бацюхна,— з дакорам казала Глебавічна.— Яму рана.

— Маўчы... Заўтра я, магчыма, памру, так і не дачакаўшыся, калі яму будзе «час». Хай слухае. Ён не зразумее гэтага брудна...

— Табе лепей ведаць,— прымірылася яна.

— Вы гаварылі, што ў Півошчах стралялі,— сказаў Алесь.— Што атаман Прайдзісвет забіваў з голаду... Тады і... нас.

— Магчыма, сынок.

— Ба-ацюхна мой,— уздыхнула Глебавічна.— Вы ж не ўдарылі нікога за ўсё жыццё.

— Ён разважае разумна, матухна,— казаў князь.— Я не ўдарыў, але маё становішча такое, што я магу ўдарыць чалавека, які не можа адказаць. Значыць — розніца невялікая.

— Вы пан літасцівы.

— У літасці ўся і справа. Літасцівы. Ашчаслівіў. А яго сын, скажам, будзе нелітасцівы. Або мы загінем падчас навальніцы на Дняпры. Усе.

— Свят-свят,— хрысцілася Глебавічна.— Вы нешта жахлівае кажаце.

— Так, дзядуля,— казаў Алесь.— Я і сам гэта думаў. А потым прыйдзе нейкі Кроер.

— Вось,— казаў дзед.— І таму мы, незалежна ад нашых добрых якасцей, удзельнічаем у адным вялізным злачынстве, імя якому... Расійская імперыя.

Стары вальтэр'янец усміхнуўся. Зялёны і сонечны цень ляжаў на яго абліччы, а ў вальерах далёка і прыглушана крычалі птушкі.

— Чаму ж не змяніць гэтага? Ёсць разуменне, ёсць воля, ёсць зброя.

— З кім змяніць, сынок? Каб было з кім — я першы благаславіў бы цябе на гэта,— сумна ўсміхаўся стары.— Няма з кім. Пагоны, ордэны, прывілеі разбэсцілі амаль усіх. Гэта подласць. Гэта замаскіраваныя хабары, якімі бяруць прагных да пашаны і проста нячыстых людзей. І вось таму я кажу табе гэта, каб ты

не быў падобны да іх. Ніколі не бяры прынады, ніколі не бяры славы і ўлады — хаця б цябе сілком цягнулі да іх. Ніколі не йдзі на раду нечасцівых, блажэн муж.

Ззяла сонца, заліваліся птушкі ў шатах дрэў і вальерах. А стары маленькімі глыткамі, толькі мачаючы вусны, піў віно, і твар яго быў незвычайны, горкі і з'едлівы, і ад гэтага прыемны.

— Няма з кім, сынок... Часы... Равеснік Шэкспіра меў бы магчымасць бачыць большасць славутых англійскіх драматургаў. Равеснік Фельдфебеля — ледзь не ўсіх славутых мярзотнікаў і паганцаў свету, бо і ў тым і ў другім выпадку існавалі ўмовы, якія спрыялі іх з'яўленню і развіццю. Або працэй: якая эпоха, такія і таленты.

— А мы? — спытаў Алесь.

— А што мы? Гісторыю Прыдняпроўя павінен быў бы пісаць кат. Ён меў магчымасць назіраць за канцом усіх колькі-небудзь значных людзей твае і мае радзімы. І ён быў бы самы дасведчаны, бо толькі ён адзін мог ведаць, колькі патаемных запаветаў перадалі яны пласе сваімі абяскроўленымі вуснамі... Больш ніхто не ведаў. Больш ніхто не чуў...

Алесь даўно пакінуў запісваць. Але стары не заўважаў гэтага.

— Вось, скажам, славутыя цар-гармата і цар-звон... Гэта — пагарда да законаў прыроды і механікі, пагарда свядомая, пагарда ў імя царскага дурнога гонару, у імя варварскага імкнення здзіўляць усіх памерамі, велічынёй, вагою... Сотні людзей пакутуюць, здабываючы жалеза і медзь, задыхаючыся дымам ля формаў... І ўсё дзеля таго, каб гармата не страляла, а звон ляжаў на зямлі, не вытрымліваючы сваёй вагі, і не званіў...

Алесь, трошкі зачараваны гэтай жоўчнай логікай, пакрысе пачынаў супраціўляцца.

— Ёсць жа зброя, каб ваяваць. Можна пераконваць, спрачацца, збіраць сяброў...

— Гэта значыць, палітыка? — бязлітасна пытаў стары.

— Як бы ні звалася.

— Палітыка — брудная справа. Ты ведаеш, у чым яна, палітыка?

— Напэўна, ёсць і добрая палітыка.

— Хто гэта табе сказаў? Тыя, што ўбіраюць свае справункі ў павінае пер'е? А самі яны, кажучы прыгожыя словы, што робяць? Ты на іхнія справы глядзі,— ваўкі. Mon fils, il n'y a qu'une politique, c'est de tenir le pot de chambre á l'homme au pouvoir, et de le lui verser sur la tête quand il n'y est plus[1].

І князь адсоўваў келіх. Уставаў.

Потым разам ішлі гуляць. Аглядалі пакоі, залы для баляў, малых прыёмаў, грэчаскую залу для антычных статуй, егіпецкую для манет, затым самую вялікую, версальскую — для фарфору і новых карцін. Версальская зала здавалася бясконцай: верхняе святло халаднавата лілося сюды, адбіваючыся ў люстрах. Мармур высачэзных калон з канелюрамі трошкі пажаўцеў, нагадваючы слановую косць.

Аглядалі жылыя пакоі, удвая ніжэйшыя, чым парадныя, аглядалі бібліятэку з бясконцымі шафамі, у якіх чарнелі старажытнымі дошкамі і залаціліся новым цісненнем незлічоныя кнігі.

І ўсяго гэтага было так многа, што рабілася непрытульна. Нашто гэта? Адразу зразумела, чаму ў іх амаль не жывуць, чаму аддаюць перавагу пакойчыкам, удвая ніжэйшым і прытульнейшым.

Увечары Алесь ішоў у тэатр і там смяяўся і абліваўся слязьмі над гаротным лёсам Аглаі з «Палескага разбойніка» і дрыжаў ад шкадобы і тугі, калі ў «Рычардзе III» пачвара кароль, забіўшы Яе мужа, з д'ябальскай хітрасцю ашукваў Яе. Яна стаяла, гордая ў сваёй нянавісці, і пакрысе той, гарбаты, абуджаў у ёй гонар жанчыны, якую кахаюць. На вачах у Алеся нараджалася каханне, аб якім ён толькі невыразна чуў... У яе мокрых вачах, цьмяна асветленых нянавісцю, нараджаўся аднекуль цэлы свет: давер, боль, а за ім святло саміх нябёс.

Ён яшчэ не мог стрымлівацца, і таму ў зале часта гучалі яго рыданні. І людзі на сцэне адчувалі, што адзін удзячны глядач замяняе ім поўную залу.

Калі праз шмат год славутую актрысу пыталі, ці памятае яна дні, калі іграла лепей за ўсё і хто гэта бачыў, яна адказвала:

— Памятаю. Але гэтага ніхто не бачыў. Толькі

[1] Мой сын, існуе толькі адна палітыка: трымаць начны гаршчок перад чалавекам, які знаходзіцца пры ўладзе, і выліць гэты гаршчок на ягоную галаву, калі ён пазбаўляецца гэтай улады (*франц.*).

адзін. Усё маё астатняе толькі падробка пад тыя дні. Толькі для аднаго я магла так іграць.

— Дзе ж ён, гэты шчаслівец?

— Шчаслівец?.. Не...

Яна больш нічога не казала. І невядомы «адзін» стаў легендай.

Нельга сказаць, што ў яго не было засмучэнняў. Неяк дзед расказаў, як два гады таму назад некалькіх «фалангістаў» захуталі ў саваны і, прывязаўшы да слупоў, трымалі, з мяхамі на галовах, доўгі час пад рулямі, а потым загналі ў Сібір. Гэта было ў Пецярбургу, і сярод «фалангістаў» быў пісьменнік. Як не прачытаць такога? У дзеда знайшоўся часопіс з яго аповесцю. Аповесць звалася «Бедныя людзі», і Алесь, з цяжкасцю адольваючы мову, прачытаў яе за два дні...

У гэтыя дні якраз скончыўся тэрмін, які вызначыў дзед. Алесю трэба было ехаць. Дзед хадзіў змрочны, дый Алесь месца не знаходзіў. Дзед, зведаўшы ўнука за гэтыя дні, цяпер жахаўся, што мог адштурхнуць яго ў першы ж дзень. Усе свае рысы, усе рысы людзей, якіх ён паважаў, ён прададчуваў у гэтым чалавеку. Вежа бачыў ва ўнуку самога сябе, толькі нязмерна палепшанага, і ганарыўся гэтым.

Напярэдадні стары не вытрываў.

— Едзеш? Напэўна, рад?

— Дзядуля...— з дакорам сказаў унук.

— Едзеш толькі на некалькі дзён... Вядома, бацькі... Але за навукай тваёй буду сачыць я. Прыпамсі, год-два, пакуль мне не стане цяжка. І калі я захачу цябе бачыць — па першаму ж майму слову ты павінен ляцець сюды і жыць столькі, колькі я захачу.

— Я зраблю гэта...— сказаў унук.

Алесь папрасіў дзеда даць яму з сабою часопіс, каб паказаць аповесць маці.

— Тут усё тваё,— змрочна сказаў стары.— Зрабі ласку ніколі не пытацца.

...У Загоршчыне хлопца сустрэлі радасна, нават з гордасцю, што ён змог заваяваць сэрца старога. Сінія вочы бацькі ззялі цеплынёй, маці ўсміхалася сыну пяшчотна і сумна, як заўсёды.

Маці прачытала аповесць і засмуцілася. Потым яна сядзела ў загоршчынскім архіве і нешта шукала па «Прывілею», «Аксамітнай кнізе», «Срэбнай кнізе

Загорскіх» і па граматах і з'явілася на вячэру трошкі заспакоеная, быццам зразумеўшы нешта...

— Загубілі генія,— сказала яна.

Алесь маўчаў.

— Нават калі вернецца, дык вернецца знявечаны,— сказала матуля.— Што ж гэта за подлы век?! Чалавек такой уражлівасці — хіба ён вытрымае?

Яна адышла да балюстрады і пачала глядзець у цёмны парк.

— Загубілі не толькі генія,— сказала яна ўрэшце,— загубілі чалавека адной крыві з намі і нашага далёкага сваяка.

— Сваяка? — Алесь ускінуўся.— Як сваяка? Усе казалі, што ён сын лекара.

— З нашых,— сказала маці.— Род стары, але вельмі заняпалы. Я думала, і не асталося з іх нікога. Аж ёсць. Іхні маёрат — Дастоева пад Пінскам, і яны кінулі яго, збяднеўшы, год сто назад. Яны — ад «сына кахання» аднаго з Загорскіх, малодшая, бакавая галіна наша. А герб іхні — «Радван».

— Не можа быць.

— Глядзі,— маці разгарнула аркуш з выпіскамі.— Занадта знаёмае прозвішча. Глядзі: шаснаццатае стагоддзе, адгалінаванне «Радвана». Глядзі: 1607 год — працэс Марыны Дастаеўскай-Карловіч... Глядзі: вось яе брат Яраш сядзіць у Мазыры. 1630 — Дастоева мае ўжо трох гаспадароў. У тым самым годзе суддзя Пятро Дастаеўскі разбірае справу аб чарадзействе. 1649 — селянін на копным судзе прызнаўся ў рабунку, учыненым над маентнасцю Рамана Дастаеўскага. А вось сакавік тысяча шэсцьсот шасцідзесятага года, справа аб прапажы рэчаў, закапаных у зямлю падчас нашэсця ворага. Падпісаўся Ян Дастаеўскі. Першы і адзіны подпіс па-польску...

— Ал-ле,— сказаў Алесь.

— Значыць, канец «Радвана». Абсёкся род. Колькі ўжо іх, адсечаных галін. Ды хіба сякера шкадуе? А малады чалавек быў бы светач людскі.

...Спакой у Загоршчыне перарваўся толькі вяселлем старэйшага сына Кагутоў, Стафана. Маці за два дні да вяселля адпусціла Алеся ў Азярышча.

Весялосці было — хоць захлыніся. Усе былі рады Алесю. Зноў жартаваў Кандрат, зноў ласкавымі, трошкі жаноцкімі вачыма глядзеў Андрэй. Міхал і

Марыля дыхнуць баяліся на хлопца. Паўлюк, гаспадарлівы Паўлюк, паказаў яму ўсё, што ён прыдбаў за той час, калі яны не бачыліся: сапраўдную скураную прашчу, ласіны чэрап з рагамі і пячору, якую ён адшукаў у яры, на беразе Дняпра. Яня хацела сядзець толькі на ягоных каленях. Юрась паказаў яму дзве найлепшыя грыбныя мясціны.

Гэта была простая, непатрабавальная любоў. І ён акунуўся ў яе, сам плацячы тым самым, як акунуўся з удзячнасцю ў песні, якім яго пачаў вучыць дзед Даніла Кагут. Таксама Даніла, як і той. Ды і ў чым, урэшце, розніца? Гэты дзед не родны, але блізкі і просты. А песні ягоныя — дзіва! І мова ягоная — лёгкая, звыклая. Стары Вежа часам гаварыў па-мужыцку, але як складана гэта было! А тут было проста, як дымная асець, проста, як зоркі праз дзіравую страху адрыны.

Гналі і настойвалі «тройчы дзевяць»[1], варылі піва, збіралі грыбы на вясельны квасны боршч. Янька хадзіла ўся ў муцэ і папраўляла хустачку тыльным бокам далоні, як маці. Кандрат лізнуў яшчэ цёплага піва і рабіў выгляд, што ён такі п'яны — проста жах, не ведае, дзе ў яго што, і ўсё хацеў сесці на галаву, як гэта робяць зусім дурныя шчанюкі.

Напярэдадні вяселля вырашылі паехаць на рыбу, каб і рыба была на вясельным стале. Юрась і Паўлюк павінны былі лавіць вудамі, блізнюкі — пазычаны ў Лапатаў таптухай, Алесь і Стафан — крыгай.

Душагубак напазычалі ў суседзяў аж пяць штук (Паўлюк і Юрась павінны былі ехаць у адной) і адправіліся лавіць у зарожак ля Лысай Гары.

Гэта была воля!

І хіба ён сам, Алесь, не быў усе гэтыя дні вольны сярод вольных? Хіба не мог ён адказаць такой самай песняй на песню, якую спяваў нехта ў лугах, на беразе старыцы? Хіба не было і ў ім нечага ад гэтай ракі, ад палёту буслоў?

Думка была такая нечаканая, і ён — як вырас, нарадзіўшы яе.

...Чаўны плылі пад самым берагам. А на беразе стаялі дзяўчаты. Не, не ўсе дзяўчаты: у адной на галаве паверх хусткі быў жаночы белы нагалоўнік, што

---

[1] Гарэлка, настоеная на дваццаці сямі карысных травах.

ляжыць цюрбанам і спускаецца на плечы і шыю, пакідаючы вольным толькі аблічча.

Алесь нечакана здзівіўся, такія яны ўсе былі гожыя і чамусьці не такія, як заўсёды. Сёння ён не мог бы запхнуць камусьці з іх хрушча за каўнер, каб паслухаць, як вішчыць. Ён бачыў іх нейкімі новымі вачыма. Усе ў стракатых андараках з хвандамі, у рознакаляровых кабатах, якія так ёмка і зусім па-новаму сцягвалі іхнія... тулавы.

Паўлюк, які веславаў з Алесем, сказаў ціха:

— Азярышчанская толькі адна. А то вітахмоўскія. Відаць, на фэст ідуць у Мілае. А то з імі Уладзька, салдацкая ўдава. Пэўна, да парома не хочуць ісці.

Дзяўчаты сапраўды махалі рукамі.

— Дзядзечкі, перавязіце!

Кандрат, які веславаў першы, пачаў аграбацца, прапускаючы наперад Стафана. Зубы ў вясёлага блізнюка ззялі: прадчуваў жарты.

— Нельга, дзеўкі,— сказаў Стафан.— Бачыце, душагубкі.

Салдацкая ўдава хмыкнула:

— А можа, я і хацела б з табою душу загубіць, саколік?

— Раней бы...— сказаў Стафан.— Цяпер... позна.

— Ну і сокал ты. Позна яму, гаротнаму.

— А дзядзечкі, перавязіце. Ці ж нам пад кручай начаваць?

— Утопімся, дзеўкі,— разважліва сказаў Стафан.

— Не ўтопіцца, хто вісець маець,— сказала ўдава.

Няспрытны на язык Стафан толькі галавою пакруціў.

— А то перавёз бы,— сказала Уладзька.— Пад дубам пасядзелі б... Жолуд адшукалі.

— Што я, свіння? — знайшоўся Стафан.

— Свіння не свіння, а так, падсвінак,— сказала ўдава.

— Насвінак,— сунуў свае тры грошы Кандрат.

— Ты ўжо маўчы,— адказала Уладзька.— Варушыцца там у сваёй таптусе, як верабейка ў веніках.

На Кандрата пасыпаўся град нязлосных здзекаў.

— А якія ж усе ўдалыя хлопцы... Бацькавічы... Асабліва гэты, з падковай на лобе...

— Гэта, дзеўкі, каб ведалі, за каго ў цемры б'ецеся,— скаліў зубы Кандрат.

— Дужа ты каму патрэбен, Копша[1].

- Ад Копшы яшчэ ніхто не ўцёк, ні каралева, ні святая дзева.

— Не, дзеўкі, вы на яго дарэмна,— сказала Уладзька.— Глядзіце, які гожанькі. Галоўка, як макаўка. Праўду кажуць, на дурня і бог ласкавы...

— Ласкавы бог, ды табе не памог. Са мною звёў. Добрая пара: ён гол, як біч, ды васцёр, як меч, а ў яе вочы па яблыку, а галава з арэх.

Дзяўчаты ўбачылі, што хлопцы зацяліся.

— Кінь ты, Уладзька, няма чаго таму богу кланяцца, які на нас не глядзіць.

Ды і пайшлі на ўзгорак. Іхнія каляровыя цені гайдаліся ў вадзе ля самых чаўноў.

— Дык не перавязеце, мужыкі? — спытала Уладзька.

— Не. Сама бачыш,— сказаў ужо здалёк Стафан.

Уладзька раззлавалася.

— Эх вы! Дык спаймаць вам таго язя, што кудысь лазе.

Ніхто нічога не зразумеў, акрамя старэйшых. Затое Кандрат зарагатаў так, што адкінуўся ўбок. І тут — душагубка вільнула і стала дагары дном, а Кандрат юкнуў пад яе, проста галавою ў ваду.

Хлопцы рагаталі цяпер усе. Рагатаў і Кандрат, вынырнуўшы. Рагаталі дзеўкі на адхоне... Мокрага Кандрата пасадзілі зноў у доўбленку, паплылі далей.

Андрэй ехаў апошні і заўважыў, што не ўсе дзеўкі ўзняліся на адхон. Адна стаіць на тым самым месцы, вялікавокая, сціплая, Кахнова Галіна.

— Чаго ж ты стаіш? — ласкава ўсміхнуўся Андрэй.

— Не хачу на паром. Там, пэўна, Лапатаў Янук.

Янука Лапату Андрэй не любіў. Яршысты, злосны чалавек.

— Што ж, так і будзеш стаяць?

— Можа, нехта паедзе,— уздыхнула яна.— Шкада, што ў вас душагубкі.

Андрэй усміхнуўся. Гожая галава, апушчаная, як кветка «сну», трошкі ўбок, прыўзнялася.

— А можа... паспрабуем?

— Абернемся.

---

[1] Магільны дух або далакон.

— Пастараюся не выvернуць.

Яна ступіла крок. Нāдта ўжо не хацелася на пароm.

— Д-добра,— уздыхнула яна.

— Сядай, Галінка,— сказаў Андрэй, амаль паставіўшы човен на пясок.— Давай руку і сядай спіной да мяне... Вось так.

Адапхнуўся і асцярожна, быццам міску з вадой нёс, пагнаў душагубку на другі бок.

Вада несла іх роўна-роўна, зялёная ля берагоў, бяздонна-блакітная на сярэдзіне. Галінка сядзела нерухома, але Андрэй бачыў: баялася.

— Ты толькі птрунькі не спраўляй, Кахнова Галінка,— мякка сказаў ён.

— Я... не буду,— сказала яна ціха.

— Ну вось і добра. Ты лепей на свет глядзі.

Ён памог ёй вылезці з чоўна.

— Дзякуй,— сказала яна.

— Нічога,— сказаў ён, і таму што шкада было адпусціць яе, не сказаўшы больш ніводнага слова, спытаў: — Як у вас там гарох сёння?

— Сёння ў нас гарох нічога,— сказала яна.— Падсох — аж звініць.

— І ў нас сёння нічога,— сказаў ён.— Укалотны.

Памаўчалі.

— А песні ў вас там на выселках іграюць?

— Іграюць.

— Трэба будзе зайсці.

— Зайдзіце, калі час будзе... Гэта ж вы дзядзькавыя браты нашага пана?

— Эге, вось і ён там у чоўне ехаў.

— Не ведалі дзеўкі,— сказала яна.— Маўчаць трэба было.

— Чаг-го? Ён харошы хлопчына. Можа, і разам калі зойдзем. Ён песні любіць.

— Пра вас кажуць: добра спяваеце.

— Гэ, лухта!

Ён моўчкі сядзеў у чаўне, гледзячы на яе.

— Дык, кажаце, добры гарох... Гэта добра... Ну, бывайце ўжо. Добрага вам свята...

Алесь здалёку глядзеў, як яны гаманілі і як потым Андрэеў човен даганяў іх па спакойнай вадзе. І ўсё гэта было як працяг ягоных думак. Ён не здзівіўся б, каб за першым жа ўзгоркам адкрыўся вачам гарадок

за частаколам, зусім як у адной дзедавай кніжцы. І каб было ў ім свята, і каб гарэлі дымныя вогнішчы, каб былі дзевы, падобныя на тую, і вотракі, падобныя на Андрэя. Гэта ж была тая самая рака, што і за тысячу год да іх дзён, тыя ж берагі і тыя ж дубы на іх. Ён блытае сваіх продкаў, а яго далёкія нашчадкі будуць блытаць яго з Андрэем, а іх — з тымі, што жылі на гэтых берагах даўно-даўно. Таму што пройдуць такія вялікія тысячы год, што ўсім будзе ўсё адно...

І гэта неяк страшнавата наблізіла яго, Алеся, да ўсіх людзей, нават да тых, чые курганы стаяць вось ужо колькі стагоддзяў па берагах вялікай ракі. Яго-ны курган зблытаюць з іхнімі. Пройдуць вялікія тысячы год, і людзям будзе ўсё адно. Таму, відаць, і трэба трымацца за тых, каму не ўсё адно, і любіць іх.

Ён думаў, што гэта — толькі працяг таго нязмернага шчасця, якое жыццё любоўна дарыла яму, повязі яго, шчаслівага, з усім жывым. Ён як быццам адчуў усю недарэчнасць часу і вызваліўся ад яго ланцугоў.

...У гэтым новым настроі ён быў як бы ўсеабдымным.

У Вежы былі змены: дзед знайшоў настаўніка, сухарлявага і надта разумнага маладога чалавека. Настаўнік пачаў выкладаць Алесю родную гісторыю, літаратуру і грамадскае права. Ён рабіў гэта добра, але хлопчыка як быццам нічога не абыходзіла.

Настрой усеабдымнасці зрабіў тое, што Алесь цяпер вельмі часта лётаў у сне, пад самай столлю, потым выплываў з акна і плыў над зямлёй. Духі займала. Аднойчы ён спытаў аб гэтым у новага настаўніка і атрымаў адказ:

— Атавізм.

— А гэта не ад вершаў?

І прыкусіў язык. Няварта было камусьці гаварыць пра тое, што жыло ў ім.

— Вершы — глупства,— сказаў настаўнік, папраўляючы доўгія валасы.— Гэта добра для сытых, а вакол столькі бедных людзей. Ім трэба асвета. Настаўнікі. Медыкі.

Бедных людзей было сапраўды шмат, і вершы ім былі непатрэбны. Але ж ён пытаў не аб тых вершах, якія ў кнігах. Ён пытаў аб тых, якія носяць чалавека над зямлёй і дазваляюць адначасова быць з усімі.

Алесь замкнуўся, нікога не пускаючы ў свой свет. Ён слухаў спрэчкі новага настаўніка з Вежам і адчуваў сябе ў нечым вышэй за іх. Яны не ведалі яго таямніцы, якая давала змогу яму, Алесю, любіць усіх людзей, як самога сябе, бо ўсе былі *адно*, і над гэтым *адным* не было ўлады часу.

Настаўнік і дзед не разумелі гэтага. Яны спрачаліся.

— Нашчадкі славянафілаў,— віраваў настаўнік.— Захад для іх распуста, злосць, крамола. «А вось мы — непарушнае адзінства праваслаўнага блажэнненькага народа з праваслаўным белым царом. Носьбіты велічы! Трэці Рым! Сіла, якая ўратуе гнілы свет. Крыж на Сафіі, гасудар-бацюхна, славяне богабаязныя, душа смірэнна мудрая! Свет велічы і праўды — не тое, што бязбожныя заходнія аспіды...» А за іхнімі гэтымі ідэямі — бруд. Мы — нашчадкі іншых людзей, мы нясём радзіме адмаўленне, свежы струмень вады ў яе дрыгву.

Дзед велічна ўсміхнуўся.

— Я паважаю вашы думкі,— сказаў ён.— Але не вы, дый не вашы апосталы першыя сказалі пра гэта. Яшчэ нейкі баярын бубнеў аб «багамерзскіх немцах з іхняй геаметрыяй». А другі рэзаў яму бараду. Гэта было і гэта будзе праз дзесяць і праз пяцьдзесят год. Паўторыцца старая казка аб заходніках і славянафілах. І толькі падставы будуць іншыя, а вонкавыя праявы падобныя і страшэнна смешныя.

— Што ж вы, адмаўляеце погляды рыцараў духу? — аж збляднеў настаўнік.— Тых, што ў Петрапаўлаўку ледзь не трапілі?

— Я таксама ледзь не трапіў у Петрапаўлаўку,— казаў дзед.— Што ж я, па-вашаму, чалавек поступу і святла?.. Я не бэшчу заходнікаў. Яны былі патрэбны і неабходны. А нашчадкі, узяўшы ад іх усё горшае, ператварыліся ў карыкатуру на іх... Славянафілы ж, якія былі, такія і засталіся, толькі што не выціраюць масляных рук аб валасы, расчасаныя страхой, і не смаркаюцца ў руку, хаця схільныя ўхваляць і тое і другое.

— А вы што ж?

— Я лічу, што людзям патрэбна новая вопратка... Але сам неяк дахаджу ў старой. Калі, вядома, не траплю ў вашу разню.

— Хто каго будзе рэзаць?

— Адны адных. Вялікая вайна за шкарлупіну выедзенага яйка. Княства, як цяпер мудрагелістыя гегелісты кажуць, «і-дэ-алё-гічных» лапцей супраць герцагства «тэ-о-рэ-тычных» манішак. Абсалют дурасці! Будзе рэзаць «тупаканечнікаў» — не спадзявайцеся на мяне.

...Нават немагчымае належала Алесю. Ён быў гаспадаром часу, вякоў, абшараў, бо ўсе людзі вялікай ракі і ўсе *Людзі*, увесь *Род* гэта ён, а ён — яны.

...Канчаткова ён зразумеў бязмернае і бяздоннае шчасце, разлітае для яго, у адзін з вечароў, калі забрыў у заглохлы куток саду, непадалёку ад урвішча кахання. Там расла маленькая яшчэ груша, а вакол было залаціста-асмужанае паветра канца жніўня. Ён сеў на камень, узняў вочы і застыў: груша цвіла вялізнымі залатымі кветкамі.

Клубень «залатога шара» невядомым чынам трапіў пад грушу і, дасягнуўшы дакуль мог, выкінуў пышны букет жоўтых кветак, сярод якіх віселі сакавітыя румяныя плады. Здалёк здавалася, што гэта груша расквітнела казачнымі залатымі агнямі. І ён не здзівіўся, бо ўсё было для яго, і гэта было толькі першым здзяйсненнем немагчымага.

Грушы цвілі для яго залатымі агнямі.

## XVIII

Восень была гожая і памяркоўна туманная. Бывацам пад цёплай шэрай коўдрай ляжала кожную раніцу стомленая, ласкавая зямля. І толькі гадзіны за дзве да поўдня першы прамень белага, няяркага сонца прабіваў покрыва і радасна падаў у пажоўклую траву. Тады паўсюль пачыналася панаванне вясёлак: мігцела павуцінне на траве, на платах, укрытых падвескамі кропель, на ваўчках у перакапаных гародах, на бліскучых баках гарбузоў у падстрэшках.

Гэта былі маленькія вясёлкі. А вялікія ззялі вышэй: між хмызоў, між прыдарожных вербаў, між самых высокіх дрэў надляснымі сцежкамі. І кожная красавалася, з трохі сумнай радасцю паказваючы, як яна падобна на маленькае сонечнае гало. А гаспадары «вясёлак» лавілі ў іх апошніх асенніх мушак —

на радасць сабе — і залацістыя вузкія лісцікі вербаў — на радасць кожнаму, хто меў ахвоту спыніцца і паглядзець, на радасць усім добрым людзям.

Пазней сонца разганяла туман, і свет тады ляжаў перад вачыма далёкі, пакорлівы, няяркі — таксама паказваючы, якая ў ім можа быць далячынь, які абшар.

«Паглядзі, чалавек. Бачыш сухі палын на дальняй мяжы? Дык да яго роўна паўтары вярсты. А тое, шэранькае, бачыш? Ну, там, дзе яшчэ рыжыя коні на ржышчы? Такія рыжыя-рыжыя на жоўтым-жоўтым. Дык гэта Вітахмо. Ніколі ты яго не ўбачыш, акрамя гэтага дня, які я шчодра даў табе. Глядзі. Дыхай!»

...У адзін з такіх дзён Алесь прачнуўся, убачыў цёплы туман за акном, парадзелую лістоту італьянскай таполі і зразумеў, што сёння паляванне будзе абавязкова. Хто будзе сядзець у такі дзень дома?

І праўда, не паспеў ён апрануцца, як бацька прайшоў калідорам да паляўнічага пакоя, грукнуў у Алесевы дзверы і пайшоў далей, спяваючы свежым пасля сну голасам:

Та-та-ці, та-та-ці,
Рог спявае на пуці,
Ра-ным ра-на
Збор ля ракіты,
Саквы зваляны,
Карбачы падвіты,
Падві-ты,
Падві-і-ты.

Гэта было, сапраўды, так падобна на спеў рога, дураслівы спеў бадзёрага рога ў тумане, што Алесь засмяяўся.

У кожнага паляўнічага былі такія прыпеўкі, пад спеў рога і на кожны выпадак паляўнічага шчасця. Хто век цэлы вершаў не бачыў, і той павінен быў прыдумваць такое для сябе, блага ці добра. А астатняе залежала ўжо ад здольнасці і страсці. У бацькі прыпеўкі былі добрыя. Трэба было яшчэ і сабе прыдумаць... Значыць, мяркуючы па песні, сёння за ўзятую стрэльбу будуць біць, а то яшчэ і зламаюць зброю, каб не ўчыняў ганьбы і не ламаў звычаю. Толькі псы і карбачы, падвітыя на канцы свінцом... Добра. Божа, які доўгі і шчаслівы чакае дзень! Яшчэ толькі пяць гадзін раніцы!

...Выехалі з двара «малым паляваннем»: толькі бацька, Алесь, непарушны даўгазубы Крэбс, а са слуг — спакойны Логвін, змрачнаваты старэйшы даязджачы Карп, карычневы і абкураны, як пенкавая люлька, пяць псароў ды Халімон Кірдун.

Алесь быў на Урзе, Крэбс — на Б'янцы (выехаў выганяць яе), пан Юры на грудастым і лёгкім вогненным Дубе, псары — на розных конях.

З сабою ўзялі двох хартоў, якіх моцна трымалі на шворцы, пакуль не выедуць на вялікія роўныя палі,— звер зацяты, можа і разбіцца; ды пяцёх ганчакоў: Знайду, Сціная, Анчара, Стрэлку і Змейку. На трох астатніх псароў былі тры сабакі — п'яўкі, калі, можа, выганяць з Банадыковых Крыніц адзінца[1].

Кірдуну не далі нічога — абы толькі з каня не ўпаў.

Ехалі ў ранішнім тумане, маўчалі. Не бразгала падагнаная збруя, толькі конь часам трапляў капытом у вымачыну, і тады аддавалася, адразу глохнучы ў тумане, гучнае чвяканне. Коннікі здаваліся ў тумане велізарнымі, кожны ледзь не з дрэва ростам.

Алесь ехаў побач з Логвінам, амаль стрэмя ў стрэмя, бачыў спіну Карпа, абцягнутую зялёнай, бляклай ад імглы, венгеркай, бачыў рулю стрэльбы — зброю ўсё ж узялі, меліся заўтра, пасля начлегу ў нейкага суседа, паспрабаваць абкласці аленя, а падчас сённяшняга палявання пакінуць яе недзе пад стогам і пад доглядам Кірдуна.

Бацька азірнуўся — Алесь убачыў ягоныя вочы, вельмі сінія і прастадушна-хітрыя.

— Крэбс замест карбача лёсачку ўзяў,— шапнуў ён.— Толькі воўк на яго, а ён яго лёсачкай па зяпе — плясь-плясь. «О но, містэр воўк. Но-но! Англічан нельга».

— Но,— зусім нечакана сказаў Крэбс (а ехаў жа, здаецца, далёка).— Англічан можна. Нельга глюпых

---

[1] Сякач, які трымаецца наўздалёк ад дзікіх свіней, адбіваючы і зводзячы ў лес хатніх. Восенню звычайна прыводзіць іх да вясніц, быццам разумеючы, што без шчэці ім лясной зімы не вытрымаць. Парсюкі ад адзінцоў вельмі жывучыя і ніколі не хвараюць, але дрэнна нагульныя. Прыдняпроўскія сяляне адзінцоў не любілі, бо свіння за лета, ходзячы паўсюль, не нагульвае вялікага тлушчу — нявыгадна.

і злых жартаўнікоў, якія лічаць англічан дур-ны-мі. Ад іх у ваўка бр-рум у жываце.

Бацька жартам уцягнуў галаву ў плечы.

— Заспелі, брат, нас з табою ў гароху,— сказаў ён.

Алесь засмяяўся. Зноў цішыня, глухія крокі ды зрэдку, бадзёрае ў свежым тумане, пырханне каня.

...Ехалі садам. Наплывалі нечакана і знікалі за спіной вільготныя яблыні. Алесь заўважыў у парадзелай бурай лістоце два забытыя яблыкі. Абарваў, разламаў, надзяліў Крэбса, бацьку. Заўважыў суровы позірк Карпа, працягнуў палавінку яму.

— Не трэба, паніч,— сказаў Карп сваім звонкім і трошкі сіпаватым даязджачым голасам.— Ешце ўжо на здароўечка. Гэта — не бульба.

Яблыка было сцюдзёнае, у халодных дажджавых кроплях,і ён адкусіў з хрумстам і праглынуў, як самое здароўе праглынуў.

Вёска адкрылася за садам верхавінамі вочапаў, якія плавалі над туманам і часам знікалі ў ім, каб зноў вынырнуць, з глухім бразганнем нябачнага ў тумане вядра.

— Панскае паляванне,— сказаў нечы нерэальны, бы праз дрымоту, голас.— Вала з'ядуць, а зайцам закусяць.

Потым нешта насунулася з абодвух бакоў: па грыбным водары прэлай лістоты можна было здагадацца — лес. Вільготным здаровым холадам прабірала да касцей.

Над сцежкай віселі чырвоныя плахты рабін.

Лес стаў радзець. Травы, галіны, свежыя распасцёртыя хмызы плакалі чыстай росіцай. І колеры ўсяго вакол — мухамораў, пунсовых клёнаў і барвяных маладых асін — былі няяркія ў тумане, але затое больш глыбокія, ад вільгаці.

А калі яны пакінулі лес і ўз'ехалі на вяршыню грады — перад іхнімі вачыма, уся ў белым малочным сонцы, адкрылася зямля.

Яна ляжала як сягнуць вокам, яшчэ няяркая, але пакрысе быццам набіралася ад сонца фарбаў, колераў, адценняў. Ружовай рабілася раса, вясёлкавым — верас. І ў небе, яшчэ бялёсым, як сабранае малако, усё яснеў празрысты блакітны колер.

І тут нечакана заспяваў Карпаў рог:

Сон-ца, сон-ца,
Ўста-вай, ста-вай,
З донца, з дон-ца, з дон-ца
Тум-ман выл-лівай.
Звяроў,
Звя-роў давай,
Ваў-коў,
Дзі-коў
Да-а-вай.

Гэта быў сігнал перастаўіць карабіны шворак «на рыўца», калі зграя вызваляецца адным рухам рукі. Звер мог ускінуцца ледзь не з-пад самых капытоў.

Рушылі далей, па шорсткім іржышчы. А дзень усё блакітнеў, і сонца, ужо трошкі цёплае, пачало зіхацець на ствалах. І Алесю раптам стала так радасна, што ён няголасна, і таксама на матыў і голас рога, сам сабою праспяваў:

Гуськом яны едуць у ранняй імгле,
І сонца гуляе на кожным ствале.

Бацька падазрона паглядзеў на яго.

— Што гэта такое добрае? — спытаў ён.

Алесь засаромеўся.

— Ану, дай рог,— сказаў бацька.

Прыклаў новы срэбны рог Алеся да вуснаў, апрабаваў, перабраўшы некалькі гукаў, і раптам, як падарыў халоднаму святлу празрыстую трэль:

Та-дры-ццi-тта!

І, упэўнена цяпер, падарыў беламу сонцу ўсю срэбную мелодыю:

Гусько-ом яны е-едуць у ра-анняй імгле,
І со-онца гуля-ае на ко-ожным ствале,
Та-ці-ці-та, та-та-ці-ці-та-а-а.

— Хораша,— сказаў ён.— Словы ж не самае галоўнае. Галоўнае, каб клалася на рог і настрой... Гэта ты сам?

— Сам,— прызнаўся Алесь.

— Ну вось бачыш, нічога цяжкага. Вось і твая першая прыпеўка... Гэта калі радасна ехаць на паляванне.

— На паляванне, па-мойму, заўсёды радасна ехаць.

— Не кажы, браток,— сказаў бацька.— Часам так

цяжка — месца сабе не знаходзіш. Шчасце тваё, што сёння едзем на драпежніка і першым у тваім сэрцы збудзіцца азарт, а не шкадаванне. Азарт гэты — душа палявання. Сапраўдны паляўнічы не прап'ецца, у карты не прагуляецца — яму гэта непатрэбна. Карцёжнікі гэтыя, вартыя жалю, не ведаюць, які ён, сапраўдны азарт...

Дзень быў сапраўды цудоўны. Апошні туман знік з бясконцых іржышчаў і лугоў, і свет ляжаў цалкам блакітны і празрысты.

Там-сям серабрылася ў паветры лятучае павуцінне. І далёка, далёка, далё-ока стаялі на мяккіх узгорках чырвоныя і залатыя дрэвы, на якіх можна было адрозніць кожную галіну.

Паветра як быццам зусім не было, толькі нешта зажуранае і сіняе абвалакала ўсё, што ёсць на зямлі, і грудзі радасна адчувалі яго бадзёры і свежы халадок.

Ехалі ржышчам да Чорнага Рова — глыбокага і доўгага, вярсты на тры, яра ў полі. Ён быў такі глыбокі, што хмызы і высакаватыя дрэўцы на яго дне не паказвалі наверх нават макавак.

Там вадзіліся і туды ўвосень прыходзілі на днёўку ваўкі.

Логвіна са зброяй і хартамі пакінулі пад стогам, агледзелі карбачы з уплеценым на канцах свінцом. Потым людзі з сабакамі накіраваліся да бліжэйшага спуску ў яр (там адна зграя павінна была рухацца дном, а другая — броўкай), а бацька, Карп, Алесь і Крэбс паехалі да суседняга адрожка, якім мог выскачыць звер.

— Біць ведаеш як,— на хаду навучаў ён Алеся.— Адной рукой за луку, схіляешся і, калі нагоніш, удар, каб пацэліць па кончыку носа. Такі ўдар забівае адразу. Каня старайся весці лёгка, не сільнічаць, бо воўк, калі яго прыперці, можа кінуцца і выпусціць жывёле трыбух. А са слабымі павадамі яна ўратуецца сама.

Коннікі спыніліся, каб не спалохаць звера, і сталі чакаць.

Алесь напружана глядзеў на выхад з адрожка — круглы лаз у ажынніку і дубняку. Доўгі час нічога не было чуваць, але вось далёка цяўкнуў, быццам выпрабоўваючы голас, сабака. За ім гамнуў другі,

ужо больш упэўнена. А яму тонка, нібы прабачэння прасіла, адказала Змейка.

І вось ужо залілася, пераклікаючыся, уся зграя.

— Узнялі,— сказаў бацька.

— Дух пачулі,— змрочна сказаў Карп.

Брэх, усё яшчэ няроўны, памацнеў.

— Вось цяпер узнялі,— сказаў Карп.— Напера-дзе Змейка, брэша з перасцярогаю...

— А-я-яй! А-я-яй! А-я-яй!

Зграя варыла варам. І ўсё гэта, у сінім паветры, у жоўтых хмызах, у срэбным павуцінні, злівалася ў дзікаватую, далёкую, непаўторную музыку.

Воўк выскачыў нечакана, і не з лаза, а з высокай сухой травы сажнях у трох ад яго. Ніхто не чакаў яго адтуль, і таму ў першыя дзве-тры хвіліны не заўважылі. А ён ішоў машыстым трушком, так, што ўзлятала на ляжках злямцаваная поўсць.

— ...пай! — першы крыкнуў Карп і прыпусціўся за ім.

Бацька крутануў свайго Дуба і рынуўся з месца так шалёна, што ў бакі фырнуў верас, перабіты капытамі каня. Алесь спахапіўся позна, коннікі былі ўжо далёка.

Урга слаўся над зямлёю. Вецер свістаў у вушах.

— А-я-яй! А-я-яй! — звінелі за спіной сабакі.

Першая зграя выгнала з яра другога ваўка, за ім пагнаўся Крэбс і два псяры. Але Карпу, бацьку і Алесю не было да гэтага аніякай справы. Нават калі б зараз выскачыла з ажынніку цэлая зграя ваўкоў, яны не звярнулі б на яе ўвагі. Яны гналіся толькі за тым, адным.

— А-я-яй! А-я-яй! — аддаляючыся, звінела за спіной.

— Гам-гам! Гам-гам! — з перападамі і таксама далёка гудзела, разлягалася на дне яра.

А яны ляцелі шалёна, і белы конь усё даганяў і не мог дагнаць вогненнага і дэраша. Адлегласць паміж імі скарачалася, але Алесь з адчаем бачыў, што яны дагоняць ваўка раней, чым ён, Алесь, даскача да іх.

Бацька скакаў лявей, Карп — правей. Яны няўхільна набліжаліся, і карбачы луналі ў іхніх узнятых руках цяжка і грозна.

Кожны міжвольна перапусціў другога: пан Юры

таму, што Карпу біць было няёмка з левай рукі, Карп таму, што ён быў слуга.

Коні амаль сутыкнуліся, і ў гэты момант здарылася нечаканае: звер адсеў. Ён проста нечакана ўзрыў усімі чатырма лапамі зямлю і паваліўся на зад і трошкі на бок. Імгненне ён сядзеў так, адкінуўшы палена і натапырыўшы хіб, а потым — ад Алеся да яго было не больш трох сажняў — мільгануў у адрожак яра, маленькі, зусім непрыкметны, які Карп бачыў, але лічыў, што павінен не дапусціць туды ваўка бацька, бо ён скакаў з таго боку, а бацька лічыў, што не пусціць павінен даязджачы.

Алесь траха не рваў на сабе валасы.

А коннікі з ходу праляцелі над зверам, што адсеў, і іхнія цяжкія карбачы скрыжаваліся там, дзе павінен быў быць воўк. Скрыжаваліся, звіліся, таргануліся і пачалі раскручвацца.

Нарэшце коннікі агледзеліся. Ваўка не было. На абліччах іхніх былі адчай і ярасць. Хто саступаў, хто не заступіў адрожка, хто затрымаў карбач?

— А-ах,— прастагнаў бацька.

І нечакана з усёй сілы аперазаў Карпа карбачом па спіне.

...А той, падумаўшы, б-бацьку! А той яг-го!

Некалькі хвілін яны саплі і варочалі адзін перад адным вачыма.

Першы апамятаўся бацька.

— Добра,— сказаў ён і ніякавата агледзеўся.

Ніхто не бачыў, акрамя сына, і пан раптам наліўся чырванню:

— Да другога адрожка!.. Карп, ходу!.. Алесь, за мной!.. Не шкадуй галавы!

Гэта ўжо было не да месца. Алесь пусціў ужо Ургу наўскач.

Роўна, корпус да корпуса, глыталі абшар Дуб і Урга. Потым Алесь пачаў наддаваць, абганяючы бацьку... Праз вадамоіны, ямы, калоды...

«Не, не тут... Не, не тут... Усё яшчэ наперадзе...»

Над байракамі Алесь толькі прыўставаў яшчэ вышэй на страмёнах, быццам зусім адрываючыся, калі конь пралятаў над канавай.

Дрэвы скончыліся. Зноў бясконцая броўка яра, зноў адрожкі і сівы малады палын між сухімі сцяблінамі старога.

...Воўк выскачыў з яра далёка наперадзе, той самы, сумнення быць не магло, і тым жа трушком, здавалася б, няспешным, пачаў жэрці адлегласць да вялікага вострава хмызоў. Гэта быў мудры стары ваўчына. Ён нават адзін раз, на няўлоўнае імгненне, стаў і павярнуўся ўсім тулавам да коннікаў, каб паглядзець, ці варта бегчы.

Бегчы было варта: яны набліжаліся, асабліва той, на белым. І звер зноў рынуў у свой адвечны ганарлівы бег, са звярыным імпэтам ратуючы гэты сіні дзень, павуцінкі, якія ён ірваў грудзьмі, і апошнія лямцы, якія ён сёння меўся аддзерці ў ціхім гушчары, на лежцы.

Урга ляцеў так, што ветрам забівала рот. І звер набліжаўся — Алесь адчуў гэта з шалёнай радасцю. Бліжэй, бліжэй, вось, вось амаль ля самых капытоў. І ён адкінуў сваё палягчэлае цела і са свістам апусціў карбач.

Удар прыйшоўся не па скуранай цюпцы, а па галаве. Звер капануў рэпу, але, ускінуўшыся, скокнуў убок. І тут паўз Алеся на апошніх Дубавых жылах вырваўся бацька. Ён мільгануў напярэймы марудламу цяпер ваўку.

Два целы, вялікае шэрае і доўгае вогненнае, наўкасы набліжаліся. Зліліся.

Чалавечая постаць схілілася.

Воўк упаў.

Ён ляжаў у нейкіх двух сажнях ад хмызоў, і вочы яго ныя цьмяна адбівалі неба, іржышчы і срэбнае павуцінне, што там-сям трапятала на іх.

І пан Юры ўзняў рог і прыклаў яго да вуснаў, прыкрыўшы павекамі вочы. Рог заспяваў так нечакана, так лікуюча-сумна, што нават чырвоныя і жоўтыя хмызы сіняй зямлі пакінулі шоргаць лістотай. І гэта было бы ў песні аб Ваўкалаку, які забіў белага ваўка верасовых пустак.

Я не бярог сваёй галавы,
Я не заспеў цябе ў лежным сне.
Досыць неба і досыць травы.
Сёння — цябе,
Заўтра — мяне.

А воўк таксама ляжаў спакойна і нібы слухаў, доўгі, ненатуральна выцягнуты, з сівізной, што пракі-

нулася ў шчэці карка, з рассечанымі ў баях маладосці вушамі і ганарліва сашчэпленай зяпай.

Пан Юры ўзняў звера і з напругаю перакінуў яго праз высокую луку Алесевага сядла. Ільсняная скура Ургі задрыжала. Пан пагладзіў каня.

— Твой,— сказаў ён.— Без твайго ўдару я б не паспеў. Ён бы спакойна пайшоў у хмызы.

— Я ж не пацэліў.

— Нічога. Наступны раз не будзеш гарачыцца. Усё адно без твайго ўдару ён бы пайшоў у хмызы.

І ўскінуўся ў сядло.

— Паехалі.

На хаду сказаў:

— А ездзіш добра. Лепей, чым я ў твае гады. Стаіш у сядле як уліты, не тое што нейкі прыхадзень лёзны, што трухаецца седзячы, ды яшчэ і падскоквае, лапы звесіўшы, не раўнуючы, як ваяводская карова на заплоце.

Алесь пачырванеў, гэта была пахвала за тое, за што хацелася, каб хвалілі.

Бацька зноў прыклаў рог да вуснаў, і гукі, срэбныя і тонкія, паліліся ў халодным паветры.

Хлопчыкава рука, уся пагрузіўшыся ў шэрую, яшчэ цёплую футру, прытрымлівала на луцэ цяжкае цела. Урга ляцеў проста ў сіні дзень. А вочы ваўка цьмяна і мудра адбівалі ржышчы, неба і срэбную пражу маці божай — усё тое, што ён сёння не збярог.

...Закусвалі пад стогам. Два ваўкі ляжалі на зжаўцелай траве, і сабакі сядзелі вакол нерухома, як статуі, і пільна глядзелі на іх.

Даставалі з сакваў і елі барвяную ад салетры хатнюю вяндліну, шэры наздраваты хлеб і вэнджаныя каўбаскі. Статут палявання патрабаваў, каб людзі былі сытыя, а сабакі галодныя, аж да самага позняга вечара, калі раскінуць ім палатняныя кармушкі.

Пан узяў вялізную, на цэлую кварту, пляшку, наліў з яе ў срэбную дарожную шкляначку, на донца, і падаў сыну.

— З полем, сынок, з першым тваім ваўком.

Алесь глынуў і так асеў з адкрытым ротам. Усе зарагаталі.

— Почырк, брат, у цябе харошы,— сказаў бацька, перакульваючы пустую шкляначку.— Ну вось, цяпер да семнаццаці год — ані.

І, удаючы старога Данілу Кагута,— проста не адрозніш! — разважліва замармытаў:

— Гэна ж мы, ці ведаеце вы, з дзядзькаваным пляменнічкам юшку варылі, ці ведаеце вы ўжо.

Плямкнуў ротам і па-старэчаму пахітаў галавой.

— Юшка ружовая, добрая. Кабялю на хвост плюхні — неадменна ён ашалее. А перцу сослепу столькі насыпаў, што пляменнічак глынуў, і — да трох злічыць не паспелі — а ён ад Турэйкі ўжо ў Радзькаве быў. І там ужо... выў.

Усе смяяліся.

...Бацька выпіў чарку і падаў пляшку даязджачаму. Сказаў з гонарам, праз які праглядалася вінаватасць і сорам перад сынам за тое, што адбылося.

— Пі.

— Дзякуем,— сказаў Карп і кракнануў, таксама даволі вінавата.

Урэшце першым кінуў слова пан Юры.

— Ты, брат, таго... не вельмі.

— Дый я, пане... не таго,— апусціў галаву Карп.— Не гэтага, значыць.

Ніхто нічога так і не зразумеў. Зразумелі толькі, што Карп нечым правініўся.

...І зноў мякка ступалі па ржышчы коні. А вакол ляжала блякла-жоўтая зямля.

Гадзіны ў чатыры папаўдні заўважылі на ўзгорку двух коннікаў, якія павольна ехалі насустрач.

— Хто такія? — спытаў Крэбс.

— Раўбіч,— адказаў Карп.— Раўбіч і яшчэ нехта... Глядзіце вы, чаго гэта той, другі, марудзіць. Во, назад скача.

Другі коннік на вараным кані сапраўды знік. А Раўбіч павольна ехаў да іх.

— Яго мне і трэба,— сказаў бацька.

Коннік наблізіўся. І Алесь зноў з цікаўнасцю ўбачыў чорныя як смоль валасы, пагардлівы рот і цёмныя, як правалы, вочы пад густымі вейкамі.

Раўбіч узняў руку з жалезным бранзалетам. Плашч расхінуўся, і ўсе ўбачылі за поясам пана два вялікія пісталеты, аздобленыя цьмяным срэбрам.

— Няўдалага вам палявання,— сказаў Раўбіч.— Ваўкі — у ляскі.

— Дзякуй,— адказаў пан Юры.

І зноў Алесь сустрэў позірк пана. Вочы без райка

глядзелі ў вочы хлопцу, быццам выпрабоўваючы. І зноў Алесь не апусціў вачэй, хаця яму было амаль фізічна цяжка.

— Не сапсуўся твой сынок,— сказаў Раўбіч.— Што ж, дзеля добрага, дзеля вольнага жыцця жыве... Дзякуй табе, малады князь, за Міхаліну. Толькі пра цябе і размова, як ты ўсё добра зрабіў для гасцей. А чаму не прыязджаеш?

Алесь адчуў, што жалезны медальён на ягоных грудзях стаў гарачы.

— Яраш,— сказаў бацька,— ану ад'едзем на хвілінку.

— Давай,— сказаў Раўбіч.

Яны ад'ехалі сажняў на пяцьдзесят, да падножжа высокага кургана.

— Ну? — сказаў Раўбіч.

Бацька марудзіў.

— Ты прабач, не мая гэта справа,— сказаў ён нарэшце.— Але наваколле распусціла языкі, што цыганскія пугі... Усё пра... Раўбічава чарадзейства.

— Ты ж ведаеш, я выпісаў аж са сталіцы чалавека, каб аднавіць мазаікі ў маёй царкве,— у вачах Раўбіча нічога нельга было пазнаць.— Ён варыць смальту, выпрабоўвае саставы, падганяе іх па колеры пад тыя кавалкі, што не асыпаліся яшчэ... Вось і ўсё.

Бацька разглядаў плецены карбач.

— Вядома, я ж кажу, што табе няма чаго палохацца... Але зацікавіліся блакітныя... Паручнік... прабач, які там вышэйшы чын, не памятаю... Мусатаў прасіў дваранскага маршалка Загорскага, каб той не падымаў залішняга шуму, калі сутарэннямі пана Раўбіча зацікавіцца жандармерыя.

— І што зрабіў маршалак Загорскі? — з усмешкай спытаў Раўбіч.

— Маршалак Загорскі не абяцаў яму задаволіць просьбу, бо гэта абразіць пачуцці дваран.

— Хіба пачуцці нашых дваран яшчэ можа нешта абразіць?

— Так... Псам няма чаго рабіць у нашых дамах. Іхняе месца на псярні, ля начовак з аўсянкай. Але ты сцеражыся, бо на маршалка таксама могуць не звярнуць увагі і абысціся без яго.

— Хай абыходзяцца,— больш цёпла сказаў Раўбіч.— Мне няма чаго баяцца... Але за высакарод-

насць, ва ўсякім разе, дзякуй маршалку Загорскаму... Двараніну Загорскаму.

— Няма за што,— адказаў Загорскі.— Бо сказаў табе аб гэтым не маршалак, а грамадзянін.

Абодва маўчалі. Курган над іхнімі галовамі залаціўся ад нізкага сонца.

— І той жа грамадзянін Загорскі просіць цябе, грамадзянін Раўбіч, каб ты быў асцярожны, каб ты яшчэ раз падумаў.

— Не разумею, пра што ты гэта?

— Дваранскі закалат — страшная штука,— проста ў чорныя зрэнкі Раўбіча зірнулі сінія вочы пана Юрыя.— Трэба быць высакародным і памятаць, што імя нашаму вылюдку — Мікалай, што адна гверылья скончылася гулам гармат, што франдзёрства і распушчаны язык скончацца толькі драганадамі шалёных псоў і горам для няшчаснага краю.

Твар Раўбіча задрыжаў усімі мускуламі.

— Няшчаснага краю... Я не разумею, аб чым ты гаворыш... Але дыхаць, дыхаць цяжка ад ганьбы і сораму за людзей.

— Менавіта сораму,— сказаў пан Юры.— Спадзявацца на людзей, за якіх сорамна, якіх ненавідзяць за лупцоўку і рабунак уласныя мужыкі, «гаротны народ»...

— Будзь на губернскім з'ездзе дваранства,— нечакана сказаў Раўбіч.— Абавязкова будзь.

Пан Юры зацікаўлена глянуў на яго.

— Што-небудзь будзе?

— Будзе,— сказаў Раўбіч.

— Вы?

— Не, не мы, але нам на руку.

— Буду,— сказаў пан Юры.— І толькі яшчэ раз прашу: не займайся сваім... чарадзействам, не крычы. Не насі сэрца на далоні — ведай сабе цану. Нядаўна з Пецярбурга выслалі чалавека толькі за фразу, кінутую ў тэатры.

— Якую?

— Было «Жыццё за цара». Хор спяваў: «После битвы молодецкой получили мы царя». І малады чалавек кінуў уголас: «Говорил же я вам, что драка до добра не доводит».

— Малайчына,— сказаў Раўбіч.

Вялікасны маўклівы курган узвышаўся над імі,

шызы ад палыну, ліловы ад верасу, сівы ад павуціння, спакойна-ганарлівы і высокі ў ззянні вольнага сіняга дня. Вольны канец над вольнай смерцю. І мускулістая безвалосая рука Раўбіча, урыгожаная жалезным бранзалетам, павольна паказала на яго.

— Гэтаму лягчэй,— сказаў Раўбіч.— Шчаслівец!

## XIX

Зала губернскіх дваранскіх збораў нагадвала мора ў непагоду. Уся гэтая паўкруглая зала, усе месцы за калонамі, подыюм і амфітэатр хораў — усё гэта было напхана людзьмі.

Старшыня Басак-Яроцкі, у сваім каўказскім афіцэрскім мундзіры і пры ўсіх рэгаліях, стаміўся біць малаточкам у гонг і толькі з дакорам пагойдваў галавою:

— Чорт ведае што. Дваране яшчэ называюцца. Горш за малых дзяцей.

— Дай ім выкрычацца, Пятро.— спакойна сказаў Юры Загорскі.

Ён высіўся ў першым радзе ганаровых крэслаў на подыюме. Побач з ім прыстроіўся стары граф Хаданскі. На сінім ад брытвы абліччы, як заўсёды, гуляла паблажлівая ўсмешачка.

Трохі далей, адсунуўшыся ад Таркайлы, сядзеў Ісленьеў. Румяны, як яблыка, старэчы твар яго быў нездаволены, трошкі нават грэблівы: размовы, размовы, размовы — абрыдла.

У канцы стала, ля урны, наводдаль ад усіх, распанела, з мяккай старэчай грацыяй разваліўся ў крэсле стары Вежа. Рукою прыкрыў рот. Людзям у зале відаць было паўзверх рукі хітрае, з іскрай, вока.

Пан Юры, маршалак Юры — бо тут ён быў зусім іншы, невядома адкуль і веліч узялася — абводзіў вачыма залу.

...Усе знаёмыя, кожны твар, кожная постаць. Вунь сядзіць адзіная сярод усіх жанчына, Надзея Клейна (у яе ў доме няма дарослых мужчын, і ездзіць яна ў зборню прынцыпова). А вось там хвалюецца пан Мнішак з яго замучаным тварам і стрыманым гонарам у вачах. Ля яго Раткевіч Юлліян, галава малодшага роду Загорскіх, чалавек з нервовым жаўтаватым аб-

ліччам. Ён гаворыць аб нечым з Мнішкам. Часам да іх схіляецца з задняга рада галава Міколы Бранібор-скага, таксама сваяка з малодшага роду. Непрыемная галава, сквапная, з хваткім, як у галаўня, ротам. Гэты, відавочна, запраўляе справамі ў сваім кутку і зараз нешта рыхтуе.

У першым радзе жоўчнае, знясіленае нейкай неадчэпнай думай аблічча Яраша Раўбіча. На падлакотніку крэсла цяжка ляжыць безвалосая рука з жалезным бранзалетам. Вочы-правалы часам сустракаюцца з вачыма пана Юрыя і змяжаюцца, як у стомленай птушкі.

...Пан Іван Таркайла з братам. Гэтыя, відаць, нешта прачулі, бо сядзяць насцярожана. Абодва пышнавусыя, абодва ў дыхтоўных, на сто год, сурдутах.

«Ох, нешта будзе. Дальбог, будзе»,— думае пан Юры.

Тым больш што ў заднім радзе сядзіць далёкі брацік жонкі, любенькі пан Кастусь Кроер, распатланы, як заўжды на падпітку, з ашалелымі шэрымі вачыма, такімі вар'яцкімі, што хоць ты перахрысціся, зазірнуўшы ў іх выпадкам.

Кажуць, пасля бунту ў Півошчах брацік зусім распеavailable разаўся: п'е як апантаны, распуснічае, марнатравіць набытак. Па вёсках стаіць лаянка, плач, мардабой. Пасябраваў, сволач, з Мусатавым, даў яму, кажуць, куку ў руку, толькі каб той памог яму спаймаць таго збеглага мужыка, што кінуў вілы... Як бо яго? Кошык?.. Корчык?..

І вось загонавыя, разам з блакітнымі, гойсаюць па лясах, ловяць. Ды толькі трасцу вы яго без здрады зловіце... Колькі год гуляюць славутыя бандыты? А колькі пашанцуе. Прайдзісвет гуляў некалькі год. Чортаў Бацька — шаснаццаць і яшчэ адно лета, пакуль сабутэльнікі па п'янцы не далі доўбняй, ды трапілі, відаць, па голым месцы. А Чорны Война гуляе ўжо дваццаць год. Лясы нямераныя, сцежкі знаёмыя.

Пан Юры амаль жадаў, каб у адной з вёсак Кроера адбылося нешта дзікае. Тады дваранская грамада, пад яго, пана Юрыя, кіраўніцтвам, мела б права і магчымасць патрабаваць апекавання над гэтым раз'юшаным сабакам. Адабраць, за няздатнасць і п'яную прыдуркаватасць, права кіраваць жывымі людзьмі, маёнткі ў апеку, а пана Канстанціна пад хат-

няе зняволенне, гуляць з нянькай у дурня ды чытаць чэцці-мінеі.

Хай адзін зняведаны. Затое астатняя тысяча душ уздыхнула б з палёгкаю.

І нічога, нічога ж з ім нельга зрабіць, пакуль ён бандыцкім баронам сядзіць у сваіх вёсках. «Мой дом...» І ідзіце вы, маўляў, да д'ябла з вашымі ра́джаннямі, пан маршалак і пан губернатар.

Стары Вежа глядзеў на сына і ўсміхаўся. Усё ж чагосьці варты. Нават усе гэтыя soi disant gros bonnets[1] глядзяць на яго не без павагі.

Урэшце, павагу ў іх прыдбаць лёгка.

Вежа нахіліўся да Ісленьева, шапнуў яму:

— Глядзі, як мой будзе ўтаймоўваць «совет нечестивых».

— Вы буркатун, князь,— сказаў Ісленьеў.— Вы зноў лаеце гэтых людзей, і ўрад, і веру. Проста дзіву даешся.

Яны ўсміхнуліся. З усяго гэтага хаўрусу Вежа паважаў толькі аднаго Ісленьева. Паважаў за чысціню, хаця і ставіўся да яго з нейкай дзіўнай паблажлівасцю, бо Ісленьеў мяккацела служыў.

...Загорскаму ўдалося навесці цішыню. Ён зрабіў Басаку-Яроцкаму знак казаць далей.

Старшыня для парадку яшчэ раз ударыў у маленькі гонг. Бронзавы гук неяк жаласна праляцеў вялізнай пацішэлай залай, прагучаў пад скляпеннямі і змоўк.

— Ціха, панове дваране,— сказаў Яроцкі.— Мы назнарок пакінулі час на тое, каб абмеркаваць запіску, пададзеную дваранскаму губернскаму з'езду і падпісаную васьмю дваранамі... Браніборскім, Вітахмовічам, Вірскім, Панафідзіным, Яноўскім... Раткевічам...

— Сем пар чыстых,— сказаў Кроер, і ўсе паглядзелі на яго.

— Ямантам...

— Сем пар нячыстых,— сказаў Кроер, але ўжо цішэй.

— І Мнішкам... Пры гэтым пан Мнішак паставіў подпіс толькі ўчора... А пан Раткевіч, хаця ідэя запіскі была ягонай, зняў свой подпіс, не згаджаючыся з дапаўненнямі, унесенымі Браніборскім, і зга-

[1] Так званыя тузы *(франц.)*.

дзіўся зноў паставіць толькі сёння, патрабуючы, аднак, магчымасці выказаць асобную думку.

— ...у палонцы,— сказаў Кроер.

— Пане Браніборскі,— сказаў Яроцкі,— ідзіце сюды, чытайце.

Браніборскі ўзняўся, чаканячы крок, пайшоў на подыюм. Чырвоная саф'янавая папка з залатымі снурамі зацiснута пад пахай, галава ўскінута.

...Дастаўшы з папкі лісты блакітнай паперы, Браніборскі пачаў чытаць, трымаючы ларнет куды вышэй ліста.

Усе слухалі. Гэта былі звычайныя звесткі аб бядотным становішчы губерні, аб градзе, аб нечуванай хваробе бульбы, калі клубні амаль нельга адрозніць ад гразі, аб плацяжах па закладах, аб недаборах... Усе ведалі гэта, але звесткі, сабраныя ў купу, гучалі цяпер значна больш важка і нават застрашліва.

Становішча было сапраўды пагрозлівае.

Скончыўшы з уступнай часткай, Браніборскі абвёў усіх позіркам, змоўк на хвіліну — у зале не было чуваць людзей — і ўзвысіў голас:

— «Для отвращения гибельных последствий несостоятельности владельцев, происходивших от постигших губернию в минувших годах неурожаев, прибегнуть к чрезвычайным средствам, а именно...»

Зала маўчала.

— «А именно: изъявить готовность отказаться от крепостного права над людьми, и при представлении высшему правительству о нуждах дворянства просить о дозволении составить комитет для начертания на вышеизложенном основании будущих прав и обязанностей как владельцев, так и крестьян»[1].

Маўчанне было свінцовае, і ў гэтым маўчанні прагучаў голас:

— Рацыя!

І ў адказ яму паляцела з розных канцоў:

— Правільна!

— Досыць ужо!

— І яны галадуюць, і мы!

Раптам узвіўся над сваім крэслам пан Кроер.

— Не!

Яго вар'яцкія шэрыя вочы, пашыраныя, ашкляненыя, абводзілі людзей.

[1] Сапраўдны дакумент.

— Не і яшчэ раз не! Хто прыдумаў? Галадранцы прыдумалі! У якіх сваіх душ няма. Зайздрасць іх бярэ! Мнішкі прыдумалі, Вірскія! Людзі з двума дваровымі. Жабракі!

— Я не жабрак і не галадранец,— сказаў даўжэзны, як калядная свяча, Юллян Раткевіч: жаўтаватае аблічча яго было нервова-злоснае.— Я не галадранец. А мая асобная думка — вось яна. Браніборскі прапануе адступіць ад мясцовага прынцыпу: «Сяляне не нашы, а зямля наша» і ад прынцыпу цэнтральных губерняў: «Сяляне нашы, а зямля — іхняя» ў імя прынцыпу: «Мужыкі не належаць нам — зямля не належыць ім». Гэта, я лічу, несумленна, гэта пазбаўляе мужыкоў набытку, робіць іх жабракамі. А мне, дый усім тут, непатрэбны работнікі-жабракі, памагатыя-жабракі. Я шкадую, што пусціў Браніборскага і дазволіў яму дапаўняць маю запіску. Шкадую, што цяпер застаўся ў меншасці з панам Мнішкам. Я лічу правільным прынцып: «Яны — не нашы, а зямля — напалову». А то атрымалася, што я пачаў гэтую справу, бо мне асабіста прыгон нявыгадны. А гэта не так. Усё.

— Ты пачаў гэтую справу, бо ты якабінец,— Кроер крычаў з круглымі ад гневу вачыма,— бо ад цябе смярдзіць французяцінай. Глядзіце, дваране! Гэта пачатак вашага канца!

Шум выбухнуў вакол яго. Сабутэльнікі цягнулі пана на месца. Раткевіч ірваўся да Кроера.

— Мужыцкія дабрадзеі! — крычаў Кроер.— Якабінцы! Княствамі ім валодаць абрыдла! Яны ў басякі захацелі, у рымары!

...Ісленьеў схіліўся да Вежы і ціха спытаў у яго:

— Ну? Чакалі вы гэтага?

— Даўно чакаў,— Вежа глядзеў на віраванне натоўпу.— Ды толькі трошкі не так чакаў.

— Чым вы гэта ўсё тлумачыце?

— Подласцю,— спакойна сказаў Вежа.

— Чаму-у?

— Дурань Кроер не мае рацыі,— сказаў Вежа.— Яны не ў якабінцы захацелі і не ў рымары. Такіх сярод іх — Мнішак ды Раткевіч. Гэта — святыя ёлупы. Як быццам нехта ім дазволіць быць святымі ў гэтым прытоне. А астатнія? Чуеце, як на Кроера крычаць? Хіба толькі тыя, што падпісалі? Не, боль-

шасць. Большасць супраць прыгону. І яны не ў рымары захацелі, а ў багатыя людзі. І вось таму я не за тое, каб адмянілі прыгон у іхніх маёнтках.

— Н-не разумею вас,— сказаў Ісленьеў.

— Адкараскацца, адкруціцца захацелі ад сваіх мужыкоў,— сказаў Вежа.— У голад кінуць... Мне, граф, вядома, не хочацца, дзеля ўнука, каб прыгон адмянілі... Але каб вырашылі сумленна адмяніць — я першы аформіў бы. Грэшная, злая справа. Састарэлая. Непатрэбная.

Вусны ягоныя былі горкія.

— Як бабу... цалавалі, дык завушніцы абяцалі, а як баба раджаць, дык яны ўцякаць... Было: яны нашы, таму што зямля наша. А тут выходзіць, усё наша: і грошы за заклад, і зямля,— толькі яны не нашы. Нашто яны нам з голым пузам? Хай у старцы ідуць. Хай самі за сябе плацяць нядоімкі, якія дагэтуль за іх плацілі мы. А нядоімак у гэтых вось гаспадароў набралася ледзь не ад часоў цара Гароха... Людзі галодныя — дзе ім плаціць? Урад ішоў на некаторую адтэрміноўку, каб апошняй шкуры з мужыка не злупіць. А вы спытайцеся ў гаспадароў — ці забылі яны хаця адзін год мужыка пастрыгчы? Вось... Вось яно і ёсць.

— Што б вы прапанавалі?

— Пачуеце,— сказаў Вежа.— Яны ў мяне павінны спытаць. І я адкажу.

Галас усё нарастаў.

— Выродкі! — крычаў Кроер.— Сацыялісты!

— Кроер, я абарву вам вушы,— сказаў Раткевіч.— Я мяркую, вы яшчэ не заклалі ў карчме вашай шпагі?

Кроер зароў. І тут перад ім раптоўна стала Надзея Клейна.

— Ну,— сказала яна.— Ну! Што ты збіраешся рабіць, аспід, дай я гляну.

— Жанчына, адыдзі!

І тут Клейна спрытна, як кошка, схапіла яго пухлай ручкай за вуха.

— Не торгайся, бацюхна... Я табе цяпер не жанчына. Я на зборні. Такая, як усе. Сядзь, бацюхна. Сядзь ціхутка. І слухай, што разумныя людзі гавораць.

Зала рагатала. І рогат зрабіў тое, чаго не зрабілі б аголеныя шпагі. Кроер сеў.

І адразу ўдарыў у гонг Басак-Яроцкі.

— Я полагаю, лучше всего решить этот вопрос, ввиду расходившихся страстей и резкого размежевания собравшихся, путем баллотировки. Но раньше, думается мне, надо опросить нескольких, известных своим состоянием, возрастом или умом, дворян.

— Але,— загулі галасы.

— Тады я пачынаю,— сказаў Яроцкі.— Пан граф Хадански.

Хадански ўстаў. Паблажлівая завучаная ўсмешачка нерухома ляжала на яго вуснах.

— Не разумею прычыны спрэчкі,— сказаў ён пафранцузску.— Сярод Янак пакуль што не заўважана ні Лавуазье, ні Мармантэляў. Пан Раткевіч, вядома, выступае за народ, а не за сваю кішэню. Ён сам казаў, што ён робіць гэта не праз выгаду.

— Дурань,— ціха сказаў Вежа.— Заўсёды думаў, што Хадански дурань. І злосны. Чалавека хоча зганьбіць.

— Дык вось,— казаў далей Хадански,— я заступіўся б за пана Раткевіча, але нашто мне заступацца за мужыка, які не адчувае аніякай патрэбы ў змене свайго становішча? Ён яшчэ не дарос да волі. Яму яшчэ трыста год будзе патрэбен сатрап з бізуном. Калі пакінем яго мы, культурныя, ён знойдзе на сябе іншага жорава. Горшага.— Ён схіліў галаву.— Я заклікаю ўсіх дваран, якія хочуць араць зямлю, хочуць, каб у крэслах гэтай зборні сядзелі Зохары і Яўхімы, а на месцы маршалка — крывавы кат... я заклікаю ўсіх гэтых дваран класці белы шар за мужыцкую волю.

І сеў. Частка залы ўхвальна зашумела.

— Ясна,— сказаў Яроцкі.— Пані Клейна.

— Не ведаю, бацюхна,— сказала старая.— Пастарому мне зручней. Але як падумаю, што на зборах замест буяна Кроера будзе сядзець мой дзед Зохар, як тое зараз паабяцаў Хадански, дык мне аж адразу весялей робіцца.

Махнула рукой:

— Белы шар.

Усе маўчалі. Потым Яроцкі ўздыхнуў:

— Пане Раўбіч.

Раўбіч глядзеў на Загорскага. І Загорскі, асцерагаючы яго, адмоўна паківаў галавою.

— Я адкажу балаціроўкай,— глуха сказаў Раўбіч.

Загорскі кіўнуў.

— Ваша справа,— сказаў Яроцкі.— Пане маршалак.

— Волю,— сказаў пан Юры.— Я з Раткевічам.

— Пане Ваневіч.

— Волю.

— І нарэшце, самы ўплывовы з дваран губерні — князь Загорскі-Вежа.

Загорскі ўстаў.

— Волю,— сказаў ён.— Волю ў тых маёнтках, на якіх няма нядоімак і дзе заплочаны працэнты па закладных.

Словы ўпалі ў насцярожаную цішыню залы, як карцеч. Тыя, у якіх трапіла, зашумелі. Прыблізна трэцяя частка залы, у тым баку, дзе сядзеў Браніборскі.

— Чаму вы крычыцё, панове? — звузіўшы вочы, спытаў Вежа.— Хіба я сказаў нешта нечаканае, нешта такое, аб чым вы не думалі?

— Лухта! — крыкнуў Іван Таркайла.— Я даю мужыкам пазыкі, я адказваю за нядоімкі, за неплацеж падаткаў, што ляжаць на мужыках. Яны не вартыя таго самі, вось што.

— Сядзьце, хрысціянін Таркайла,— грэбліва сказаў Вежа.

— Што б вы прапанавалі? — вонкава спакойна спытаў Браніборскі.

— Прадайце прадметы раскошы,— сказаў Вежа.— Заплаціце закладныя. Заплаціце нядоімкі: разам нажывалі іх, разам і адказвайце. А там, чыстыя, будзеце думаць.

Суровыя бровы старога разышліся:

— Зганенне? Магчыма. Але ж вы жылі з іхняй працы на вашай зямлі. Дык вось, калі вы ўсе будзеце чыстыя — вызваліце іх. Аддайце ім палову зямлі, і, вольныя, яны пойдуць і на вашу зямлю таксама. За грошы. І гэтая палова вашай зямлі дасць вам утрая больш, чым цяпер уся.

Было ціха. Потым нехта з асяроддзя Кроера паспрабаваў свіснуць.

— Чаму ж вы так? — спытаў Вежа.— Я ж, здаец-

ца, не за адмену стаю? Я ж прапаную пакінуць на год усё як яно ёсць.

І тут край Браніборскага і Кроера выбухнуў выгукамі:

— Сацыяліста! Гверыльера!

Вежа з удаваным непаразуменнем паціснўў плячыма.

— Карбанарый! Кінжальшчык! Лувель! Якабінец!

Яроцкі дарэмна біў у гонг. І тады Вежа, зрабіўшы яму знак спыніцца, падаўся наперад.

— Ну,— амаль шапнуў ён.

Ён абводзіў рады вачыма, і выгляд у старога быў такі, што тыя, па кім прабягаў яго позірк, адразу змаўкалі. Запанавала цішыня.

— Вось так лепей,— сказаў Вежа і дадаў: — А для сябе... для сябе я стаю за белы шар.

І рэзка кінуў:

— Воля!

Сядзеў, адразу страціўшы ўсялякую цікавасць да таго, што адбываецца ў зале. Ён разлічыў правільна, ён зразумеў іх і таму здолеў сутыкнуць ілбамі. А-адна сволач! Што ж, цяпер асталося толькі апусціць свой белы шар і ехаць дадому, да ўнука.

Добра, што хлопчык не сярод гэтых пачвар, што ён не бачыць разгулу нізкіх чалавечых страсцей.

— «На основании сто десятой статьи устава о службе по выборам,— чытаў Пятро Яроцкі,— третий том, и сто двадцать восьмой статьи девятого тома свода законов Российской империи (издание сорок второго года) — постановления дворянства производятся посредством баллотировки и признаются обязательными, если они приняты единогласно или не менее как двумя третями голосов всех присутствующих дворян».

Ён кашлянуў.

— Цяпер, пасля таго як я нагадаў вам гэта, мы можам пачаць балаціроўку, панове. Прашу браць шары.

Вежа ўзяў шар першы. Памарудзіў і, схіліўшы сівую галаву, апусціў яго ў белую палову урны.

Шар гучна ўдарыўся аб чыстае дно.

А потым шары пачалі падаць часцей і часцей, і ўдары рабіліся ўсё больш і больш глухія.

...Падлічылі шары позна ўвечары, калі за вокнамі ўжо даўно гарэлі гарадскія агні.

Маршалак Юры падышоў да бацькі. Стары Вежа чакаў, стоячы ля акна і гледзячы на цьмяную ў цемры стужку Дняпра. Пан Юры ўспёрся на падваконне побач з ім.

— Гэтыя шары грукалі страшна,— сказаў Вежа.— Як камяні па труне.

— Сапраўды, бацька,— адказаў пан Юры.— Пахавалі мы гэтымі шарамі запіску Раткевіча. Усё.

— А што, хіба пахавалі?

— Пахавалі, бацька. У зборні было чатырыста дванцаць восем дваран. Каб запіска аб адмаўленні прайшла — трэба было не менш за дзвесце шэсцьдзесят два галасы. І вось.

— Колькі?

— За адмену дзвесце шэсць, супраць — сто восемдзесят сем.

Вежа рушыў быў да выхаду, але потым спыніўся. Твар ягоны быў жорсткі, калі ён сказаў сыну:

— Ты, маршалак, павінен быў са шкуры вылезці, а даведацца аб прапанове Раткевіча. Пэўна, не адны гэтыя восем чалавек ведалі?

— Не адны.

Стары свідраваў сына вачыма.

— Раўбіч ведаў?

— Аднекуль ведаў. Раткевіч да яго даволі блізкі.

— Ну вось. Ты павінен быў ведаць. Павінен быў сказаць мне.

— Чым бы ты памог?

— Грашыма. Я прывёз бы ў зборню ўсю дробную шляхту, у якой ёсць галасы, але няма мужыкоў, няма нават грошай, каб паехаць у губерню, дзе, урэшце, ім, пакрыўджаным, няма чаго рабіць. А яны б галасавалі, як ты, як я... Я прывёз бы толькі сто чалавек — і Кроер паляцеў бы рылам.

— Нашто табе гэта рабіць?

Вежа ўсміхнуўся.

— Так проста. Клейне прыемна сядзець побач з Зохарам, мне — сутыкнуць гэтую сволач, прымусіць іх біцца. Урэшце, мне проста забаўна было б паглядзець, а што з гэтага будзе. І я не люблю Кроера.

## XX

Я пішу гэтыя радкі на паперы, салёнай ад марскога ветру. Мора, цёмна-сіняе, у рэдкіх белых карунках, разбіваецца аб вялікі камень, на якім я ляжу, усплёсквае пенай і трапляе мне на ногі, а калі пашанцуе,— толькі аднымі пырскамі,— падае мне на спіну.

Халодныя, як апёк, пацалункі салонай марской вады.

А зямля вакол сухая, парэпаная, як далонь малпы, попельна-шэрая або блакітная. І сярод гэтай сухмені вялізны, аж да Турцыі, і глыбокі, аж да апошняга дна, наскрозь сіні празрысты крышталь — найчысцейшай вады. Мора пахне ёдам і водарасцямі, зямля — пылам, сухой калючкай, нагрэтым мармурам, карыцай і перцам, сухім авечым памётам.

Іліядай!

Я прыкраваю паперу сваім целам. А вада імчыцца справа і злева ад мяне, ірвецца ў бухту, разбіваецца аб скалы, нясе з сабою, як тысячы тысяч год, дымныя агаты, зеленаватыя халцэдоны і вінна-празрысты (як маладое тутэйшае віно) сердалік.

Часам у глыбінях мільгане сіняе верацёнца скумбрыі, па распаленых, пахучых баках каменя бегаюць цікаўныя крабы, а мора наступае і адступае, і мой камень, здаецца, гайдаецца ў вадзе, то вырастаючы, то апускаючыся, звонкі, як бронзавы карабель арганаўтаў, неўміручы «Арго».

Падымаю вочы і заўважаю — далёка! — празрыстае дрэўца гледычыі. Вялізныя сухія струкі на ім — як вязкі скручаных цёмных змей.

Уздымаю вочы яшчэ вышэй — і тады бачу, як на вяршыні Карадага, на вяршыні Святой Гары, спакойна спачываюць два маленькія празрыстыя воблачкі. Уначы над Карадагам узыдзе месяц, асвеціць іх, і кожнае заззяе празрыстым, слаба-ружовым і вінным, жамчужным святлом — як сердалік.

Але галоўнае — мора!

Гэта тое самае мора, у якое ўпадае мой Дняпро.

І ён, і яшчэ тысячы, тысячы рэк, ручаін і проста струменьчыкаў аддаюць мору ваду, адбіткі берагоў, якія яны бачылі на ўсім сваім шляху, каламуць, колер вод, галіны, лісце сваіх лясоў і траў і, нарэшце, саміх сябе, сваё жыццё.

Мы нясём у гэта мора ўсё добрае і злое, што мы бачылі, мы нясём у яго сваё жыццё, нават больш — сваю душу.

І кожны ўпадае па-свойму. Адна рака здаўна-давён ведае, у якое мора яна плыве, другая — з цяжкасцю прабівае сабе шлях. Адна бачыць мора з самых сваіх вытокаў, другая — пакутліва і доўга, вельмі доўга, шукае яго. Трэцяя губляецца ў пясках, перасыхае і гіне, так і не заўважаючы марскіх хваль. А чацвёртая нечакана, яшчэ за хвіліну не ведаючы нічога, падае ў яго, як струменьчык вады ў сердалікавую бухту.

Я ляжу на гарачым змаршчакаватым камені і думаю, ці не досыць мне вадзіць без дарогі тонкі, дзіцячы струменьчык жыцця майго дарагога хлопца. Наперадзе, вядома, яшчэ скалы, у якіх трэба пратачыць сабе дарогу, пяскі, у якіх трэба не высахнуць, зграбныя, як дзяўчаты, вербы, карані якіх трэба напаіць, і палі сеч, з якіх трэба літасціва змыць кроў.

Але няхай ён хаця б здалёк, хаця б дажджавой кропляй на лісціку дняпроўскага явара, кропляй, якая праз хвіліну ўпадзе ў крыніцу, убачыць далёкае-далёкае мора, да якога ляжыць ягоны шлях. Яму так будзе лягчэй. І нясцерпна больш цяжка. Бо, пабачыўшы мора, чалавек перастае быць дзіцем, чалавек робіцца чалавекам.

Не трэба адгаворваць. Час. Хай шпарчэй пабяжыць вада. Досыць маруднасці. Іначай доўга, занадта доўга давядзецца бегчы.

А мора чакае. І няхай ручаінка ўбачыць яго нечакана, бо так было тады з кожнай ручаінкай, бо яны не ведалі, якое мора чакае іх, і падалі туды, яшчэ не ведаючы аб існаванні мора, кожная паасобку, зрываючыся з замшэлых скал, як звонкі струменьчык у сердалікавую бухту.

Часам так бывае і цяпер. Тады гэта здаралася толькі так.

Спяшайся, цурок вады! Мора чакае! Мора шуміць пада мной!

Дзед вярнуўся з губернскага з'езду раззлаваны.

Усе тры дні, што яго не было, Алесь прывучаў Тромба да стрэлаў і, яшчэ, чытаў на іаткі генеалогіі

і геральдыкі. Дзед перад ад'ездам дастаў і палажыў яму на стол «Парчовую кнігу Загорскіх», «Кнігу малодшых радоў», «Хроніку Сухадола і Збарова», «Аксамітную кнігу», «Гасудараў радасловец», «Гарадзейскі прывілей» і «Статут Літоўскі». У гэтых кнігах самае важнае было адзначана, бо ўсе яны, акрамя дзвюх, былі рукапісныя копіі.

А ўдзень ён прывучаў Тромба. Ён проста ўспомніў, што лясканне пастуховай пугі вельмі нагадвае стрэл. І ляскаў, частуючы каня цукрам пасля кожнага «стрэлу». Гэтага Тромб не баяўся, ён помніў, як ляскалі пугі на выпасе чыстакроўных коней, дзе ён бегаў стрыгунком. І ён любіў маленькага гаспадара. На сыходзе другога дня Алесь, адначасова з рыўцом пугі, стрэліў з пісталета нягучна халастым зарадам. І адразу ўбачыў, як дробна задрыжала, пераліваючыся, ільсняная плямістая скура каня.

Перазараджаючы пісталет, Алесь гаварыў з Тромбам ласкавым, журлівым голасам.

Зноў стрэл. На гэты раз трошкі гучнейшы за пугу. Конь не вытрымаў і ўзяў у наўскапыт. Але ніхто яго не трымаў, не было страшных вяровак. Адбегшы, конь глянуў здалёк на гаспадара і ўбачыў, што ён нават не глядзіць у ягоны бок, што ў яго нічога няма ў руках, акрамя кавалка цукру. І ён, здалёк, лёгенька загігатаў.

Алесь зрабіў некалькі крокаў насустрач, даў каню цукар, сеў на яго і, супакойваючы, аб'ехаў вялікі круг па жоўтай лугавіне.

І зноў стрэл. І зноў тое самае.

Дзед, пад'язджаючы вечарам да парку, яшчэ здалёк заўважыў дзікага маленькага кентаўра. Кентаўр наўзават ляцеў яму насустрач і яшчэ здалёк стрэліў з пісталета ў паветра. А потым яшчэ і яшчэ — пераможна і горда. І конь нават не здрыгануўся, толькі касавурыў шалёным вокам.

...Увечары яны сядзелі ў бібліятэцы. Святло месяца прабівалася праз каляровыя шыбы, падала на бясконцыя карэньчыкі кніг.

Сядзелі ўтраіх. Еўфрасіння Глебавічна пляла карункі. Дзед сядзеў у крэсле і папіваў. А Алесь сядзеў за сваім сталом, заваленым кнігамі.

Было ціха. Толькі гудзеў ды часам пастрэльваў іскрамі камін.

— Што было на выбарах? — спытаў Алесь.
Дзед аж пачырванеў, успомніўшы.
— Ат!
І злосна кінуў:
— Дарабковічы. Выскачкі.
— Зневажальнік ты, бацюхна,— сказала Глебавічна.
— А што ў іх за душою? — горка сказаў князь.— Расея ў іх за душою? Польшча ў іх за душою?! Свая зямля?! Польшчу яны прапілі. Расея для іх — чарналапатніца, свая зямля ім — мачыха. Сволач пан, кругом сволач... Ваські Вашчылы на іх мала, Ямелькі Пугача, Ромкі Ракутовіча на іхнія паскудныя шыі!
...Дровы ў каміне часам успыхвалі, і тады на кнігі, асветленыя свечкамі, падала лёгкая барва.
— Дзеду,— сказаў Алесь,— я вось тут хацеў спытаць у цябе аб царскім тытуле.
— А нашто гэта табе яшчэ? — іранічна спытаў Вежа.— Плюнь. Чытай тое, што пра нас.
Алесь загарнуў вялізны том і пачаў глядзець у агонь. Праз парк, праз голыя шаты, праз непагоду даляцеў бой гадзінніка «гатычнай капліцы». Дзевяць гадзін.
— Ішоў бы ты спаць, Алесь.
— Пачакай, дзеду, пагрэюся.
Дзед паварушыў дровы і сказаў:
— Дык што гэта ты там хацеў спытаць пра тытул гэтага падонка? Не кажучы, вядома, уголас і пры чужых.
Алесь зноў разгарнуў кнігу:
— Разумееш, нашто такі вялізны і незразумелы тытул?
— Для паважнасці. Каб ведалі, колькі зямлі гасудар нарабаваў. А што там табе незразумела?
— Ну вось: «самодержец всероссийский... царь польский... великий князь финляндский»... Гэта ўсё зразумела... А чаму ў старым тытуле такія дзівосныя словы — «всея Великие и Малые и... Белыя Руси»? Гэта яшчэ што за глупства? Чаму не «зялёныя»? Не «шырокія»?
— Гэта назвы такія.
— Чаго назвы? Ну, «Вялікая Русь» — гэта зразумела. Імперыя сапраўды вялікая.

— Не туды гнеш,— сказаў стары.— Вялікая Русь — гэта ўсё, што ад вытокаў Дняпра і Сожа і аж да ўсходняга месца, да пустынь, да гор... Малая...

— Гэта яшчэ хто?

— Жыве на поўдні такі народ. Гэта там, дзе Кіеў, і Палтава, і Міргарад. Як я ездзіў да Кіева з імператрыцай, то наглядзеўся. Народ цікавы, на нашы вочы — нязвыклы, але харошы.

— А «Белая» — гэта што?

— А гэта Прыдняпроўе, Палессе, Міншчына — усё, аж па самае Падляшша.

Алесь пакусваў пяро:

— Што ж, тады выходзіць, то мы жыхары Белай Русі?

— Яшчэ чаго. Мы — прыдняпроўцы. А слова гэтае «Белая Русь» — канчаткова састарэлае, вельмі даўняе слова, якога ніхто не помніць. Зараз яно і наогул пад забаронай, шмат год нідзе ты яго не сустрэнеш.

— Ну, а чаму ж так?

— А таму, што нікому да гэтага клопату няма. Пра іншае трэба думаць.

— Пра што?

— Ну хоць бы пра тое, што прыдняпроўскія дваране сталі халуі, што няма больш у Прыдняпроўі ні сілы, ні розуму, ні гонару. Што мы выміраем.

— Што ты, бацюхна,— жахнулася Глебавічна.— Есці нам хіба няма чаго? Ды крый божа!

— Памаўчы хвілінку,— мякка сказаў стары князь.— Выміраем, Алесь. Гэта — праўда. Не дай бог толькі дажыць. Ні табе, майму ўнуку, ні твайму ўнуку. Вазьмі ты Магілёў. Быў багаты вялікі горад. Вазьмі Полацк... Загорск стаў вялікай вёскай. Друцк — маленькай і жабрачай. У Сухадоле два гады таму назад было мужчын дзве тысячы без дзвюхсот, жанчын — паўтары тысячы ды сотня. Першая адзнака! І ў гэтым годзе нарадзілася сто пяцьдзесят дзевяць чалавек, а памерла дзвесце семдзесят сем. На сто васемнаццаць чалавек стала меней. І так амаль кожны год. З году ў год, сыне...

Паварушыў шчыпцамі. Сноп іскраў ірвануўся ўгору.

Алесь маўчаў, гледзячы ў зыркае полымя. Ён цяжка, не па-дзіцячаму, думаў.

Барва трапятала на яго аблiччы, i таму твар, здавалася, быў абліты густой крывёй.

— Я не разумею,— сказаў ён нарэшце глухім голасам.— Не разумею, чаму так казаў у магільні бацька: «У іншых ёсць імя — у нас няма нічога, акрамя магіл»? — Вузкая рука зламала пяро.— Ды не, не. Ёсць імя. Не адны магілы. Імя таксама ёсць, забытае, састарэлае. Але ж ёсць.

— Магчыма,— сказаў дзед.— Толькі ўсё гэта не тое. Ідзі лепей спаць, унучак. Позна табе тут сядзець і думаць.

Устаючы, Алесь з нейкім дзіўным пачуццём пагладзіў пальцамі ліст тытула. Гэты сумны, нікому непатрэбны ліст з доўгім надпісам.

...Я спускаўся з верхавіны Святой Гары. Было позна, і сонца даўно села за горы. Ломячы дубняк, ступаючы на жорсткія падушкі каменяломкі, я ішоў ніжэй і ніжэй, туды, дзе над бухтай гарэлі неверагодна сінія агні.

Пайшла сухая горная трава. Справа ад мяне, на строме, узносіўся ў неба Чортаў Капыт.

Я выбраўся на дарогу і шпарка пакрочыў уніз.

Паўзлі па схілах шэрыя плямы, і прыглушана далятала адтуль «глок-глок» званочкаў авечых чарод.

Цяпер я спусціўся нізка, і вакол былі адны змаршчакаватыя горы.

Нешта цьмянае з'явілася абок мяне: слабы яшчэ, невыразны на шэрым цень. Мой цень. І я падумаў, якія яны былі бедныя, нягледзячы на багацце, тыя, што аджылі пад маім пяром. Якія вартыя жалю! Як цень.

А цень з'явіўся і цяпер усё гусцеў і гусцеў, бо месяц, уздымаючыся над светам, ярчэў і наліваўся святлом.

У лагчыне пусцелі каменныя каробкі нейкіх нізкіх будынін, што зараслі шыпшынай і калючкамі. І гэта было як на Марсе, дзе пяскі заносяць руіны старых гарадоў. А месяц нараджаў у будынінах цені і рабіў змаршчакаватую глебу ўзгор'яў зусім блакітнай.

І раптам вялікае шчасце нарадзілася ў сэрцы. Я жыў і я ішоў паміж руін, пад гэтым блакітным месяцам, я прадзіраўся праз калючкі, што аж парыпвалі пад ветрам ад мёртвай сухасці. І я ішоў насустрач

таму, аб чым ведаў у гэтай цясніне адзін я. Толькі адзін.

Я мінуў цясніну, і пасля водару сухой зямлі, калючак і палыну цёплы, раскошны, бязмежны водар мора, яго няспынны шум напоўніў мне вушы і сэрца.

Мора гарэла месячным агнём між сухіх скал.

...І ўсе гэтыя дні і ночы я жыў ім, нават калі не бачыў яго.

Жыў у скалах, жыў у стэпах, жыў сярод цяснін.

І часам, прачнуўшыся ўначы і бяссонна лежачы з расплюшчанымі вачыма, або познім вечарам, пішучы за сваім сталом, я ўздрыгваў ад нечаканага адчування холаду і дзікай асенняй самоты.

Таму што за вокнамі стаяў глухі шум, які бывае ў нас толькі позняй восенню, калі парывы ветру бягуць па голых верхавінах няўтульных дрэў.

А потым мне адразу рабілася цёпла, і я ўспамінаў і ўсміхаўся сам сабе ў цемры, бо гэта было — Мора!

## XXI

Каляды адзначыў свежы і пушысты снег. Снег быў на ўсім: на слупах платоў, на стрэхах, на дрэвах, на футры начнога вартаўніка і ў вёдрах з вадой — толькі пранесеных ад студні да хаты.

Зямля памаладзела.

Майка Раўбіч, прачнуўшыся перад каляднай раніцай, адразу зразумела, што на дварэ снег, так светла было ў пакоі. І яна выскачыла з ложка, захінула на падушку коўдру, каб не разышлася цеплыня, і босая падбегла да акна.

За акном было белае і чорнае: снег і галіны дрэў.

Ногі трошкі зябнулі на падлозе, і дзяўчынка кінулася зноў у ложак, які не паспеў дзякуючы яе хітрасці астыць, і аж засмяялася ад шчасця, што цёпла, што на дварэ снег.

А потым задумалася, не ведаючы, здалося ёй тое, што яна бачыла мінулым вечарам, ці было сапраўды.

Напярэдадні нянька Тэкля страшыла яе, што вось падыходзяць каляды, і цяпер якраз прастора для розных нячысцікаў, якія спяшаюцца перад божым нараджэннем нахапаць сабе як мага больш гарэзлівых і непаслухмяных дзяўчатак.

— Лазнік вось... Як во-озьмецца за бок, ды я-ак пацягне пад палок, ды як пачне казытаць — тут ужо маліся як хочаш — не дапаможа. Бо не слухалася бацькоў і нянькі Тэклі.

— А які ён, Лазнік?

— Страшны,— адрэзала Тэкля.— Адзенне ў яго з венікаў; замест вусоў — два лазенныя апарышы. А сам увесь курэе, як пара. І гарачы такі, казытлівы.

— Не веру я табе, бабуля. Унь казалі на свяце Агню[1], што Паляндра страшная. А то быў Тодарка-вадавоз. І смяшыў дзяцей. І зусім ён не страшны.

— А вось паглянеш, паглянеш,— страшыла старая.

І тады Майка вырашыла паглядзець. Пасля вячэры яна, замест таго каб ісці ў бібліятэку, накінула футра і крадком пайшла змрочным паркам да лазні. Яна не баялася, што ёй перашкодзяць: бацька заўсёды дазваляў ёй рабіць тое, што яна хоча.

Пранізаны ветрам, звонкі ад марозу парк, рэдкія стылыя зоры ў галінах. Рыпнула фортка ў частаколе, высокім, страшным у цемры, з конскімі чарапамі, што невыразна бялелі ў змроку.

Яна сапраўды ўбачыла Лазніка. У лазні свяціўся жоўты бляклы агеньчык, і дзяўчынка, прыпаўшы знадворку да васьмікутнічкаў тоўстага, пузырыстага шкла ў свінцовай раме, убачыла венічны прылазнік, падобны на пячору, калматы ад соцень венікаў, а на зэдліку — Яго.

Ён быў падобны і непадобны. Венікі былі не на ім, а вакол. Пэўна, распрануўся і скінуў іх. Але нават без венікаў ён быў страшны, хаця зусім не курэў: такі чорнавалосы, цёмны і невыразны праз шкло.

Дрыжучы ад страху, яна распляскала нос аб шкло і круглымі вачыма сачыла за ім.

Лазнік, відаць, пачуў нешта. Ён узняў вочы і паглядзеў на акенца.

Яна адарвалася ад шкельцаў, скацілася ўніз па

---

[1] Свята, якое ў сярэдзіне мінулага стагоддзя стала дзіцячым, але ў сярэднія вякі адзначалася ў памяць выратавання ад «чорнай смерці». Галоўнай асобай на свяце была Паляндра, увасабленне смерці і чумы, чалавек у лахманах і масцы. Чэмер (перац) прывадзіў Паляндру да людзей («чорную смерць» завезлі з усходнімі таварамі). Людзі вадзілі Паляндру між агнёў, здзекаваліся і ўрэшце праганялі прэч.

сходцах з галерэйкі і кінулася бегчы так, як не бегала ніколі ў жыцці. Ледзь не згубіла ў хмызах футрачка, падрапала рукі ў жывой агароджы, балюча выцялася нагою аб камень. А цяпер вось ляжала і думала, было гэта ці не.

Апальшчык у калідоры грукнуў дровамі аб жалезны ліст ля печкі, і яна ўявіла, як добра гэтыя дровы пахнуць: свежасцю, водарам марознага дрэва і падталым сняжком.

Яраш Раўбіч, увайшоўшы ў пакой, таксама прынёс водар снегу і чысціні. Сеў на краёчак ложка.

— Што ж ты ляжыш, доня? Сарокі снег прынеслі.

— Я яшчэ трошачкі-трошачкі,— сказала яна.

Аблічча Раўбіча, калі на яго не глядзеў ніхто з чужых, было зусім не жоўчным. І вочы глядзелі без дапытлівасці, не цягнулі душу з чужых вачэй. Было ў іх нават нешта вінаватае, нешта накшталт вечнага ўсведамлення нейкай хібы ў тым, што ён робіць.

Майка гуляла бранзалетам, круцячы яго на бацькавым запясці:

— Шыпшына, у-у, як колецца... Курган, у-у, як высіцца... А ото «бу-у» — страшны рагаты бугай. Гам — і з'есць.

— Бугай? Гэта зубр.

— А зубр хіба не бугай?

— Няхай так. Але ж зубры нікога не ядуць... Аднойчы шляхцюк у моцны мароз ехаў пушчай, намасціўшы ў санкі сена. Зубру захацелася сена. Ён падышоў, асцярожна падчапіў соннага шляхцюка на рогі і паклаў яго на снег.

— Няпраўда, татка. А коні?

— А коні думалі, што гэта карова. Коні ж не баяцца кароў.

Майка засмяялася.

— А потым зубр пайшоў за санкамі і еў сена, пакуль не ўклаў усё. А шляхцюк лаяўся: «Карова ты брыдкая! Бугай ты халерны! Каб цябе так ваўкі ўклалі, як ты маё сена ўклаў, каб...»

Дзяўчынка, смеючыся, прыпала шчочкай да жалезнага бранзалета.

— А зубр?

— З'еў і пайшоў. Яны добрыя. Яны страшныя толькі для ворагаў, зубры.

— Ласа-зубр. Харошы зубр. У, які жалезны!

Раўбіч пагладзіў яе па галаве.

— Досыць, дзетка. Не варта табе гуляць з гэтай штукай. Гэта цацка для дарослых.

Прыўзняў яе разам з коўдрай.

— А я табе сакрэт скажу. Хочаш?

— Хачу.

— Алесь прыслаў па цябе коней. Хочаш з мамай з'ездзіць да яго на каляды?

— А ты?

— Я не магу,— сур'ёзна, як дарослай, сказаў Раўбіч.— Мне трэба паехаць аж на другі канец губерні. Разумееш, мужчынскія дваранскія справы. Гэта табе не цікава. Дык хочаш?

— Хачу, татка,— уздыхнула яна.— Толькі цябе шкада.

— Тады апранайся. Сама. Як дарослая. Апранайся, Міхалінка.

І сам разгарнуў вакол яе ложка і ўмывальніка японскую шырму.

— Тата,— спытала з-за шырмы Майка,— Лазнік ёсць?

— Які Лазнік? А-а. Не, дзетка. Нікога такога няма. Ні лазнікаў, ні вадзянікоў — нікога. Гэта толькі буркатлівыя бабулі палохаюць дзяўчатак. Але ты не вер і нікога-нікога не бойся. Страшныя бываюць толькі злыя людзі.

Майка пырхала ў далонькі пад умывальнікам.

— А каго ж я тады ўчора ба-ачыла ў нашай лазні? Праз акно. Сядзіць, чорны такі. І ад венікаў распрануўся.

Раўбіч асекся.

— Ну, адзін, можа, і астаўся,— урэшце сказаў ён.— Толькі ён стары, ён, напэўна, скора пойдзе ў лес і засне там назаўсёды ў бярозах. А пакуль ходзіць сабе з лазні ў лазню. Носіць дзецям падарункі перад калядамі. І табе прынёс. І залаты медальён прынёс замест таго, што ты... згубіла. Ты ж цяпер амаль дарослая, дзяўчына. А значыць, можаш насіць золата.

— Тата, хіба мы бедныя, што носім жалеза?

— Гэта не проста ржавае жалеза. Гэта жалеза нават без парушынкі іншага металу...

Памаўчаў.

— Не, дзетка, мы не бедныя. Мы яшчэ трымаемся

за стары-стары звычай, які стаў нашым фамільным. Мы, мужчыны з Раўбічаў, носім толькі жалеза, бо золата вельмі брудны метал. Самы брудны, які ёсць на зямлі.

— А як жа мне яго насіць?

— Дзяўчаткам можна. І потым, гэта старое золата. Яго здабылі дзяды... жалезам. Такое — можна.

Майка, ужо зусім апранутая, выбегла з-за шырмы і кунулася Ярашу на шыю. Ён падхапіў яе, лёгенькую, цёплую,— самы дарагі цяжар на зямлі.

«Божа,— думаў ён,— што ж гэта я раблю ўсе апошнія гады?! А яны што? Што яна будзе рабіць, маленькая?»

Але ён ведаў, што ўсё застанецца па-ранейшаму, і нічога ёй не сказаў, толькі пацалаваў цёмна-блакітныя вочы.

— Слухай,— сказаў ён,— слухай мяне, лапуся. Будзь разумнай, не крыўдзь Алеся, не «выабражай» над ім, як вы, дзеці, кажаце.

Ён, вядома, разумеў гэты смутны цень, гэтае далёкае абяцанне «дарослага» ва ўлюбёнай дачцэ. Але гаварыць аб гэтым было нельга. Рана.

— Я менш за ўсіх іншых хацела б крыўдзіць яго,— уздыхнуўшы, сказала яна.— Ды што зробіш, калі ён такое ведзьмедзяня? То спрытны і вясёлы, а то цяльпук цельпуком.

— Ты ўсё ж пастарайся,— сказаў Раўбіч.

— Я пастараюся,— сказала яна.

...Выехалі ў зімнім вазку ўпяцёх. Маці, Франс, Майка, малодшая сястра Наталля і Стась, самы малы з усіх.

Праз шкельцы вазка былі відаць лагчыны, заснежаныя лясы, птушкі-пасмяцюхі, што прылятаюць з далёкай Лапландыі і зімуюць у нас, бо тут для іх цёпла, адхоны над белым Дняпром і ліловыя хмызнякі на грывах.

Фурман спяваў нешта сумнае і шырокае, пагойдваў у такт спевам галавою.

Звонка вішчалі пад палазамі марозныя каляіны.

Вецер прынёс далёкае выццё і рэдкі гарматны гул лёду на Дняпры.

Ад нерухомасці ўсім у вазку было трошкі халаднавата.

А потым з грады заўважылі далёкія агні ў снягах.

Коні пабеглі шпарчэй. Вазок спыніўся, рэзка завярнуўшыся, ля параднага ганка.

...Сыпанулі насустрач людзі, хутчэй неслі дзяцей у дом, расхутвалі іх, пахучых з марозу, садзілі на доўгую гарачую ляжанку ў гардэробнай, давалі па глытку гарачага віна з карыцай.

Алесь то паціскаў руку Франсу, то схіляўся да Майкі, то цалаваў маленькую Наталку (Майку цалаваць ён саромеўся).

А потым у дзверы сыпанула сапраўдная дзіцячая калатэча: Мсціслаў, Ядзенька Клейна, Янка, чорны, як чобат, і неўтаймавана вясёлы. Ногі, рукі, усмешкі, віск, смех.

— Што ўжо што, а шуму такі будзе. І не кажы, кума,— казаў пан Юры.

Ён быў шчаслівы. На каляды ў Загоршчыну нечакана прыехаў стары Вежа.

Вежа сустрэў дзяцей на верхніх прыступках сходаў, вялізны, з прыгожай сівою грывай валасоў. Браў дзяцей на рукі, глядзеў ім у вочы.

— Гэта чыя ж такая? Твая, пані Надзея?

— Мая.

— Гожая якая. А гэта? Ого, ну, гэта я сам разумею. Новы прыдняпроўскі дваранін, усыноўлены Ян Клейна. Бач ты які, братка! Маеш ад мяне шаблю.

— Дзякуй вам,— сур'ёзна сказаў мурын.— У Ракі шмат ворагаў.

Дзед нечакана ўздыхнуў і пацалаваў Янку:

— Прыйдзе час — сам знайду табе жонку і зброю. Алеся хаця любіш? Будзь яму другам. Як нітка за іголкай. Ты, брат, глядзі. Табе яшчэ давядзецца ўсім жыццём даводзіць... што ты — наш.

Узяў за скроні Мсціслава.

— Пусціце мяне, калі ласка,— сур'ёзна сказаў Мсціслаў.

— Чаму гэта?

— Мы ўжо дарослыя.

— Правільна,— згадзіўся дзед.— Вы дарослыя. Дык, значыць, ты найлепшы сябар майго ўнука?

Урэшце чарга дайшла да Майкі. І тут дзед зрабіў ласку сесці на падстаўленае сынам крэселка.

— Раўбічава. Ану, дай паглядзець на цябе.

Доўга разглядаў попельныя, з залацістым адцен-

нем валасы, бэзавую сукенку з кароткімі рукавамі, цёмна-блакітныя, удавана наіўныя вочы.

— Чорцік? — спытаў ён.— Чаго табе не хапае дзеля таго, каб стаць харошым і добрым, чорцік?

Майка ўсміхалася высокім краёчкам рота. Яе злаваў гэты агляд, яна адчувала ў ім нешта няёмкае, і сама сабе вырашыла адыграцца за яго на адзіным чалавеку, якога было чамусьці прыемна дражніць: на Алесю.

— Даросласці,— сказаў дзед.— Жыццё табе дазваляла ўсё, капрызны чорцік. А вось калі яно пачне супраціўляцца, пачне мяць,— тады ты зразумееш і станеш харошым, чорцік з дзівоснымі вачыма.

Пагладзіў яе лапку.

— Будзь добры з... людзьмі, чорцік. Так ці не так? Будзеш?

— Паспрабую,— зрабіла яна кніксен.

Пайшла далей. Дзед глядзеў на яе і думаў:

«Самая добрая пара будзе для Алеся. Сумленная сям'я. Адна з нямногіх, сапраўдных. Але хто ведае, што будзе з дзяўчынкі праз сем год».

І пасля размовы з дзецьмі Вежа стаў асабліва з'едлівы з гасцямі, шакіраваў іх усіх мужыцкай мовай уперамешку з самай вытанчанай французскай, назнарок нападаў на тое, што было дарага субяседніку,— словам, расклеіўся.

На яго глядзелі са здзіўленнем, дзівуючыся каструбаватым мужыцкім сказам, якія ён вымаўляў з асаблівым смакам. Пакуль што на людзях гэта дазвалялася толькі Клейне.

Яны проста забылі, што Вежа і раней вызначаўся гэтым. Забыць было лёгка: стары не з'яўляўся між іх цэлых дзесяць год.

А ён накіраваўся да дзяцей. Сам адчыніў ім дзверы ў залу, дзе стаяла нешта цьмянае, таямніча распасцершы лапы. Сам загадаў запаліць свечкі, страляў разам з усімі з ляскавак, памагаў разбіраць падарункі, першы вёў за руку дзіцячы карагод.

Проста па анфіладзе, з пакоя ў пакой, рухаўся стракаты ланцуг, а наперадзе лёгка пераступаў нагамі сівы чалавек бадай што сажэннага росту і напяваў:

Антон казу вядзе,<br>Тпру ды ну — каза не йдзе.

У блакітнай гасцінай карагод, раздурэўшыся, наляцеў на падстаўку з кітайскай вазай. Чарапкі з сінімі рыбамі разляцеліся ў бакі.

Дзед чухаў патыліцу і раптам з лёгкай хады перайшоў на скокі.

Ніхто не бачыў, што Клейна стаіць у дзвярах і назірае за скокамі. І раптам усе змоўклі. А Клейна сказала:

— А вось пані Антаніда заўважыць ды ёмашнікам вас, лайдакі. За гэтым старым дурнем, дый вы ў побрыкі.

Як быццам тут была вясковая хата, у якой вадзіліся ёмашнікі.

— Гэта мы святкуем,— сказаў дзед і крыкнуў: — Касьян, падбяры чарапкі! Раніцай раздасі дзецям па адным у каробачцы. Гэта будзе «грамада разбітай вазы». Год праз сорак склеіце. Адзін аднаго не губляць!

Бацька глядзеў з дзвярэй на скокі вакол разбітай вазы і рагатаў.

— Ану за мной! — крыкнуў ён і павёў дзяцей зноў да ялінкі.

Яна ззяла ў паўцемры, вялізная, уся ў таемных ценях, пахучая. Чырвоным святлом гарэла на яе верхавіне віфлеемская зорка. А ў галінах, бы ў зялёнай пячоры, стаялі лялечныя авечкі, і валхвы ў дзівосных уборах ішлі да ясляў.

...А потым наведалі палац сяляне з казою. З тварамі, намазанымі сажай, у вывернутых кажухах, у дзівосных «турэцкіх шапках» — яны прынеслі з сабой мароз, гукі дуды, цымбал і бубна.

Каза была ў шэрым ваўчыным футры з вяхотным хвастом, у сушанай авечай масцы. Замест барады ў яе быў пук каласоў. Каза мэкала і спявала дураслівым голасам.

Гэта была ўжо не забава, а важная справа. Бо ад казы залежаў наступны ўраджай. Усім вядома, што душа нівы, каму пашанцавала яе ўбачыць, падобная на спрытную казу, якая бегае на задніх ножках. Такая ўжо істота. Спачатку ёй добра жыць, але потым жніцы жнуць жыта — і ўсё менш і менш застаецца месца, дзе магла б схавацца душа нівы. У адчаі яна хаваецца ў апошнюю жменю каласоў,— гэта і ёсць барада казла. Апошнюю жменю зразаюць асцярожна.

Яна ляжыць пад абразамі і выходзіць з хаты толькі на каляды, прывязаная да галавы казы. Тут яна радуецца і вырашае зрабіць, каб людзям было добра.

І людзі не кідаюць яе. Людзі трымаюць «душу» да вясны, а вясной выносяць і асцярожна «адпускаюць», кладуць у высакаватыя зялёныя ўсходы.

І зноў душа насяляе сваё царства, не даючы загінуць ніводнай расліне, а сама вольна ходзіць на задніх ножках па ўсіх абшарах прыдняпроўскіх ніў.

...Перарывіста раўла дуда. Спявалі галасы:

Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць;
Дзе каза хвастом, там жыта кустом;
Дзе каза ступою, там жыта капою;
Дзе каза рогам, там жыта стогам.

...Разгарачаныя скокамі, Алесь і Майка выбеглі з пакояў і спыніліся ў халаднаватай лоджыі. Праз вялікія вокны свяцілі марозныя зоры.

Дзве малюсенькія постаці сталі каля акна і прытуліліся адна да адной, бо стала трошкі жудасна. Адчуваючы пад рукою яе плечыка, Алесь сказаў:

— Зоры. Настаўнік кажа, што на іх таксама ёсць людзі.

— А мы іх ніколі не ўбачым,— сказала яна.— А што, Алесь, можа там быць, як у нас у Загоршчыне? Ёсць там такія, як мы?

— На адной няма і на другой няма,— сказаў Алесь.— А на тысячнай, можа, і ёсць. Стаяць недзе, як мы, такія самыя хлопчык і таечка, і глядзяць на нас і думаюць: а ці ёсць там хто?

— І таксама не ўбачаць ніколі,— уздыхнула яна.

Зоры мігцелі над паркам.

— Алесь,— спытала яна,— можа нарадзіцца чалавек з такімі вачама, што ўбачыць іх?

— Не ведаю,— сказаў Алесь.— Вочы ва ўсіх розныя. Бачыш Коўш?

— Бачу.

— А вунь другая зорка ў ягонай ручцы. Паглядзі, што ты бачыш ля яе?

— Ой,— шапнула Майка.— Яшчэ адна зорачка.

— Гэта Міцар і Алькор,— сказаў Алесь.— У цябе добры зрок. А вунь тую зорку як ты бачыш?

— Ніяк, зорка як зорка.

— А я ведаю, што яна падвойная. Гэта альфа

Вагаў. Настаўнік здзіўляецца, якія ў мяне вочы. Ён правяраў. Ён бачыць толькі ў трубу тое, што я добра бачу і так. Ведаеш, Вечарніца мае сярпы, як месяц. А калі на ёй серп, то часам можна заўважыць, што астатняя яе частка попельная... Я заўважаю нават яшчэ больш. Ля Воўчага Вока[1] ёсць дзве зусім малюсенькія зорачкі. Але я іх бачу толькі ў прыцемку, калі на небе зусім мала зор. Тады ніхто не забівае іх сваім ззяннем.

Памаўчаў.

— Можа, і народзіцца некалі чалавек з такім зрокам, што ўбачыць на зорках людзей.

— Слухай,— сказала яна.— Давай зробім... ведаеш што?

— Ведаю,— сказаў ён, нейкім шостым пачуццём адгадаўшы, што яна думае.— Трэба назваць дзве гэтыя зоркі ля Воўчага Вока. Іх жа ніхто не бачыць. Дык мы дамо адной тваё імя, а другой — маё. І гэта будзе наша таямніца. І нашы імёны будуць вечныя, як тыя зоркі. Заўсёды.

— Заўсёды-заўсёды,— сказала яна.— Нават калі нас не будзе... праз тысячу год... Зорка — Майка і зорка — Алесь.

...Святкі ішлі далей: у танцах, пераапрананнях, варажэннях, у палёце санак, ахутаных вясёлкавым снежным пылам. А ля Воўчага Вока жылі і свяціліся, нікому невядомыя, зорка — Майка і зорка — Алесь. Ім было добра і весела разам з усімі, але яшчэ лепш адным.

Яны гаварылі і гаварылі. Алесь расказваў ёй аб сустрэчы на поплаве з Чорным Войнам. Яна аж пахаладзела, дачуўшыся, як ён падобны да яе Лазніка. Але яна нічога не сказала яму аб ім.

...Аднойчы, на чацвёрты дзень каляд, яны ўцяклі ад усіх і пайшлі ў далёкія, нежылыя пакоі дома «шукаць цікавага». Цікавае было ўсюдых. То гэта была «скрыначка Пандоры», якую яны знайшлі на століку ў кутнім пакоі. Яны доўга не маглі адчыніць яе, а потым выпадкова націснулі бліскучую пласцінку, і са скрынкі, адразу за адкінутым вечкам, выраслі кавалер і дама з бісквіту[2]. Яны павольна круціліся ў ней-

[1] Юпіцер.
[2] Непаліваны, матавы фарфор.

кім невядомым танцы, а вакол іх, жвава пагойдваючыся, круціўся чорт.

Цікавыя былі старыя партрэты, бо яны не маглі прачытаць лацінскіх і вязевых надпісаў на іх. Цікавы быў калейдаскоп, які яны знайшлі ў пустым пакойчыку. Калейдаскоп ляжаў у скрынцы, разам з рознакаляровымі шкельцамі. Дзеці селі на канапу і пачалі праз гэтыя шкельцы глядзець у акно, на дрэвы і аблокі.

Яны паглядзелі праз сіняе шкельца — і свет за акном стаў сіні і нежывы.

— Я не хачу такой зямлі,— сказала яна.

— Я таксама. На́ табе жоўтае шкло.

Жоўтае было вясёлае і радаснае. Свет ляжаў перад Майкай жоўценькі, і яна смяялася.

А потым трапілася чырвонае шкельца. Застрашлівае барвянае неба, цяжкія крывавыя аблокі, такія няўмольныя, павольныя, жахлівыя.

— Страшна,— сказала яна.— Вазьмі хутчэй.

Яны сядзелі моўчкі, аглушаныя страшным відовішчам. Майка была такая прыгнечаная... Алесь сам не ведаў, як гэта ў яго выйшла. Але ён абняў яе зусім бязважкімі рукамі і няўмела пацалаваў у нерохумы раток.

На хвіліну яна была раззлавалася, але потым толькі сышла з канапы і села на маленькае крэселка каля сцяны. Яна сядзела маўклівая і такая танюткая ў сваёй бэзавай сукенцы, што яму стала шкада яе.

Але ён не ведаў, як выпрасіць дараванне. Ён проста глядзеў на яе вялікімі ўмольнымі вачыма А Майка нават павек не ўзняла на яго.

Тады ён адвёў вочы на сцяну і заўважыў дзіўнае. Заходняе сонца ляжала на сцяне пакоя. І там жа, на сцяне, Алесь убачыў чарнатварую Майку з фіялетавымі валасамі і ў сукенцы аранжава-барвянага колеру. Чорную-чорную Майку з фіялетавымі зіхоткімі валасамі.

— Майка!— крыкнуў ён такім голасам, што спалохаў яе.— Майка, глядзі на мяне. Доўга-доўга глядзі.

Непаразумелая, яна ўсё ж падпарадкавалася.

Захад ляжаў на сцяне пакоя. Яна глядзела на хлопчыка, на яго зялёную куртку, бачыла яго ўмольныя і спалоханыя вочы і разумела, што дарэмна пакрыўдавала на яго.

— А цяпер глядзі на сцяну.

Яна адвяла вочы і ўбачыла чорны цень Алеся, апрануты ў пурпур.

— Ты,— сказала яна,— ты... зусім чорны, ты зліваешся з ценем, цябе не відаць. Толькі адзенне барвянае... плавае.

— А ты ў аранжава-барвяным... Твае валасы ліловыя.

Яны паўтаралі і паўтаралі дослед, спалоханыя да глыбіні душы.

...Чорны хлопчык у пурпуры. Майка нездарма чытала раманы.

— Як... галаву табе адсеклі,— сказала яна.— Як... прывід барвянага чалавечка.

Ён пільна глядзеў на яе. І тады яна спахапілася:

— Ой, я нешта не тое сказала. Даруй мне, Алесь.

Устаўшы з месца, яна хуценька падышла да канапы, схілілася над ім і, абняўшы яго за шыю, сама, бязважка і чыста, пацалавала яго ў прыгожы рот.

## XXII

...Алесь чытаў, седзячы на зашклёнай тэрасе. Шыбы былі вельмі старыя і таму набылі лёгкае фіялетавае адценне. За садам плыло сонца, свецячы проста Алесю ў твар, і літары ў кнізе здаваліся чырвонымі.

Ён знайшоў у дзедавай бібліятэцы Яна Баршчэўскага. Кніга звалася «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Зараз ён адольваў ужо чацвёрты том. Гэта было першае пацверджанне, што не ён адзін адкрыў Мора, і таму ён шмат мог дараваць аўтару.

Гэта было добра. Перад ім паўставаў сімпатычны чалавек, які кожнай вясной, як пералётная птушка, не мог уседзець у Пецярбургу і пехатою, з кіем у руках, ішоў на радзіму, у Беларусь. Ён ішоў і слухаў спевы жаўранкаў у гарачай вышыні. А ў душы яго нараджаліся радкі... Паўставаў чалавек, які ў завіруху ставіў на акно свечку, каб падарожныя ішлі да яго. Ён карміў і паіў людзей, толькі каб яны расказвалі яму гісторыі і паданні.

Было шкада, што ён піша па-польску, устаўляючы

ў кнігу беларускія дыялогі. У сваёй мове ён мог бы стаць вялікім. У чужой — толькі вышэй за сярэдняга.

Баршчэўскі, здольны і добры чалавек, шмат у чым блізкі да Гогаля, назваў сябе беларусам, а радзіму — Беларуссю, магчыма, нават занадта настойліва. Ён пяшчотна любіў край, яго паданні, яго людзей.

«Ну, а я?»— падумаў Алесь.

...І якраз у гэты момант прыйшлі ў Загоршчыну, да яго, Кандрат і Андрэй. Кірдун прывёў іх на тэрасу, і вось яны сядзелі перад ім, такія падобныя, што аж смяяцца хацелася, і адначасова такія непадобныя. Хто ўмеў так жартаваць, як Кандрат, і хто спяваў такія песні, як Андрэй? Даражэй за ўсё былі іхнія ўсмешкі — хітраватыя ў Кандрата і ласкавая, амаль жаноцкая, у Андрэя. Правільна зрабіў бацька, што адпусціў іх і аддаў Паўлюка з Юрасём у школку. І Алесь без жалю адклаў кнігу чалавека, які адкрыў Мора на шэсць год раней за яго, Алеся, нават паспеў напісаць аб гэтым, але не разумеў хваль, з якіх гэта Мора складалася.

— Слухай, Алесь,— сказаў урэшце Кандрат.— У нас да цябе справа.

— Ну?— сказаў Алесь.

— Але раней ты дасі нам слова, што аб гэтым ніхто не даведаецца, нават бацькі...

— Мы тут думалі, аж галовы папухлі,— сказаў Андрэй.— Але цяпер масленіца. Усе ездзяць. У госці. А Кроер... твой далёкі сваяк...

— Стойце, хлопцы,— сказаў Алесь,— нічога не разумею. Ды мы і не ездзім туды ніколі. Мае не любяць Кроера.

— Тым лепей,— сказаў Кандрат, з палёгкаю ўсміхнуўшыся.— А мы думалі... Значыць, усё добра.

І засмяяўся:

— Юрасю бацька два шлапакі адваліў. Прыйшоў хлопец з царквы, а ў кішэні ў яго аж чатыры грыўні. Бацька пытае: адкуль? А той кажа: «А там, дзе ўсе бралі, дык і я ўзяў. З блюда». Мы аж пакіслі са смеху.

Андрэй глядзеў убок. Дый смех Кандратаў быў няшчыры. Алесь з болем бачыў гэта, бачыў, што хлопцы ледзь не сказалі яму аб нечым і вось цяпер пераводзяць размову на іншае.

— Як хочаце, хлопцы,— суха сказаў ён.— Але

я думаў, што вы мне верыце, што я для вас і застаўся братам. Нават цяпер. Што ж, няхай...

— Ды мы нічога,— сказаў Кандрат.— Мы толькі хацелі прасіць, каб не ездзіў да Кроера... Не любяць яго...

— Сам ведаю,— суха сказаў Алесь.

Маўчалі. Алесь ведаў: дружбе і адкрытасці канец. А тут яшчэ Кандрат нечакана, толькі каб не маўчаць, пачаў расказваць чарговую пабрахеньку.

— У Лапаты госці былі. Паклалі іх, падпітых, у чыстай палове. А дзеці ўзялі ды прысунулі да дзвярэй стол. Уначы ўстае чалавек, шукае выйсці. Як ні мацае — няма дзвярэй... Аж зубамі скрыгалі.

Андрэй раптоўна аж крэкнуў з прыкрасці за брата. Строга ўскінуліся вейкі.

— Вярзеш немаведама што, боўдзіла,— сказаў ён.— Ану давай, кажы ўсё. Алесь наш, мужык. Не скажаш — усяму канец. Дзе веры няма, дык якое ўжо сяброўства?

— Што вы,— сказаў Алесь.— Чаму канец? Ды я і не хачу.

— Бачыш?— сказаў Андрэй.

Кандрат усё яшчэ вагаўся. І тады вочы Андрэевы ўспыхнулі.

— Не хочаш? Тады я сам. Толькі ты, Алесь, ведай: на цябе ўсе спадзяванні. Маўчы ў імя маці і пана Езуса.

— Гэта ўжо дарэмна, хлопцы.

— Не дарэмна,— сказаў Андрэй.— Кожны за сваіх: дваране за дваран, мужыкі за мужыкоў. А калі давядзецца — тады нам канец. Бо ведалі, а не сказалі. Дзеда старога добра калі адхвошчуць. А нам, і Лапатам, і Кахновым людзям можа і Сібір.

— Тады і казаць не трэба,— сказаў Алесь ужо сур'ёзна.

— Трэба,— сурова сказаў Андрэй.— Мы дзядзькавыя браты. Раз змоўчым, два змоўчым — і канец братэрству.

Ён перадыхнуў:

— Кроера хочуць забіць, а маёнтак ягоны спаліць. Корчак. Той самы, што вілы кінуў. У яго кроў у сэрцы запяклася на пана Кастуся. Ягоныя дзеці торбы пашылі і ў акрайцы пайшлі. За самім Корчакам ганяюцца, як за зверам. І Корчак рашыў: забіць. Той, хто

забіў,— гэта ўжо не чалавек, ён горшы за вар'ята. Ён атручаны забойствам. За змяю бог сто грахоў даруе. І ён заб'е ў адзін з дзён масленіцы. Каб не ў пост грашыць. Так што не ездзі і сваіх адгавары.

— Мы ніколі не ездзім,— сказаў Алесь.— Мы — ворагі. Я нікому не скажу, можаце мне верыць. Толькі ж яго спаймаюць. Мусатаў за ім паўсюль ганяецца. Шкада смелага чалавека!.. А хто гэта вам сказаў аб забойстве?

— Пятрок Кахно чуў ад Лапатаў. А тыя да Паківача ездзяць, дзе Корчак хаваўся.

— Балбатун ваш Пятро,— сказаў Алесь.— З радасці, што гэтую брудную свінню забіць збіраюцца, распусціў язык.

— Ён нікому больш не сказаў,— пачырванеў Андрэй.— Не думаў я, што ты, Алесь, нас папікаць будзеш.

Цяпер сорамна стала Алесю:

— Я не папікаю. І я нікому больш не скажу. Магіла!!!

Гэта была самая страшная клятва аб маўчанні. Хлопцы паверылі і пайшлі, супакоеныя.

...Раніцай наступнага дня ў Загоршчыну прыскакаў з Кроераўшчыны ганец, мужык год пад сорак. Пан Юры і Алесь якраз выходзілі з дома, калі мужык цяжка споўз са свайго нехлямяжага коніка.

Конік адразу як заснуў, тупа расставіўшы клышаногія тупалкі. Мужык стаяў ля яго, камячыў у руках брудную прадзёртую магерку і не глядзеў на паноў, толькі на мокры снег, у якім танулі яго раскіслыя поршні.

— Накрыйся,— сказаў пан Юры.— Не люблю.

Дзікаватыя светлыя вочы мужыка на імгненне прыўзняліся.

— Высакародны пан Канстанцін Кроер памерлі. Яны просяць, каб дваране стаялі...каля труны.

— Як гэта ён просіць? — яшчэ не верачы, спытаў пан Юры.— Мёртвы просіць?

— Яшчэ як... жывыя былі.

— Як здарылася?

— У аднячассе... амаль. Кажуць, жыла лопнула. Ужо і ў труну паклалі.

Пан Юры перахрысціўся.

І ўбачыў белую галаву мужыка, на якой раставалі мокрыя хлапякі апошняга снегу.

— Накрыйся, кажу табе. Ідзі ў чаляднаю. Папрасі там гарэлкі. І аўса каню.

— Не,— сказаў мужык.— Загадана яшчэ спавясціць...

Загорскі раззлаваўся:

— Ідзі, кажу, шкапа ты затурканая. Інакай я, пакуль тое, сам цябе ў пугі вазьму. Логвін, Карп, вазьміце яго, дайце сухія поршні, гарэлкі — словам, што трэба.

Мужык пайшоў паміж слуг, пакорліва апусціўшы галаву.

— Збірайся, Алесь,— сказаў пан Юры, узбягаючы па прыступках.

Не ехаць было нельга. Бацька так і сказаў маці.

Нечакана маці адмовілася:

— Ты можаш ехаць з Алесем,— сказала яна.— Табе трэба. А я не магу. Я не любіла яго.

Паехалі ўдвох. Верхам. Па насціле з лазы перакахалі тоўсты, але ўжо слабы, як мокры цукар, дняпроўскі лёд. Дарога ішла спачатку паплавамі, потым заснежаным узвышшам, якое пераходзіла недзе далёка справа ў Чырвоную гару. Хутка павінна была адкрыцца вачам Кроераўшчына.

Мокры, там-сям ужо брудны снег укрываў палі, а на снезе сядзелі вугальна-чорныя вароны. Часам яны ўзляталі, і тады адразу рабілася зразумела, як цяжка ім ляцець праз сыры, важкі вецер. На полі Загорскіх дагнаў Януш Біскуповіч, асабісты вораг Кроера, таксама вярхом. Павіталіся. Алесь з цікавасцю разглядаў спадарожніка, яго жвавы прыгожы твар з аксамітна-цёмнымі вачыма. Біскуповіч быў неабыякавы яму яшчэ і з той прычыны, што лічыўся самым багатым з усіх паляўнічых Прыдняпроўя на «песні рога». Ён складаў не толькі іх, але яшчэ і вершы: сур'ёзныя і чулыя — па-польску, жартоўныя — па-тутэйшаму. Кроер ледзь не вызваў яго на дуэль за верш аб Півошчынскім бунце. Там, між іншым, былі такія радкі:

> Пан жандар яго цалуе,
> Хоць ён кукішам глядзіць.

Пан Юры ставіўся да Біскуповіча з павагаю, але быў відочна здзіўлены, што той таксама едзе.

— Як жа гэта вы?
— Кожны павінен спадзявацца на апошнюю літасць.
— А спрэчку вы з ім завялі дарэмна,— сказаў пан Юры.
— Грозны рак, ды ў с... вочы,— усміхнуўся Біскуповіч.
— Ну, прарокаў няма.
— Ёсць прарокі,— сказаў Біскуповіч.— Магчыма, на добрае, а магчыма — і на дрэннае, але мая эпіграма нечакана хутка спраўдзілася.
— Якая?
— А тая, якой я адказаў на яго пагрозы.
Пан Юры ўспомніў і, не вельмі весела, зарагатаў. Гэтую эпіграму помнілі ўсе і ведалі, што Кроер не даруе яе. Бо нішто не клала на ягонае ясназаванне такой клейны, як гэтыя два радкі:
Smierć Krojera w Krojerówszczyznie zrobi zmianę znaczną:
Panowie pić przestaną, chĉopi zaś jeść zaczną[1]
І вось Кроер памёр. Цяпер сапраўды не будзе каму паіць падонкаў, а мужыкам стане лягчэй.
...Кроераўшчына здзівіла Алеся. Вялізнае сяло распаўзлося на багатым лёсавідным суглінку па броўках яроў, па схілах, па адхоне над рачулкай. Нідзе ані дрэўца, ані кусціка. Абшчынны векавы дуб на плошчы абсечаны ўвесь, акрамя адной толькі разгаліны, і тая тырчыць пад неба, як быццам чалавек, лямантуючы, ускінуў адну руку. Мужыкі, што трапляюцца насустрач, зацкавана глядзяць у зямлю.
Вялізны панскі дом стаіць таксама на пустым месцы, непрытульны і страшны. Дом быў проста вялікай камяніцай, але страшнае запусценне панавала вакол. Невялічкая паўкруглая брама, глухі ніжні паверх, два крылы ганка.
Тое самае было і ў пакоях. Старая занядбаная раскоша, маўклівыя слугі, маўклівыя купкі гасцей, што з'ехаліся аддаць апошні гонар нябожчыку.
А быў калісьці багаты дом, нават вельмі багаты.
Пан ляжаў у парадней зале, вокны якой пачыналіся на ўзроўні чалавечага росту. У зале стаяў стол.

[1] Смерць Кроера ў Кроераўшчыне зробіць значныя змены: паны пакінуць піць, а мужыкі пачнуць есці *(польск.)*.

Побач з ім пюпітр, за якім чытаў псалтыр чалавек у манашым адзенні. Капюшон закрываў яго аблічча.

А на стале, у дубовай труне, ляжаў Кроер. Дзве тоўстыя — з руку — васковыя свечкі кідалі жаўтавата-ружовыя адбіткі на нерухомы твар.

— Адгуляўся,— сказаў бацька.

А ў паўцемры залы гучалі страшныя манатонныя словы псалмаў «у суцяшэнне сумуючым».

Святло дня ледзь прабіваецца ў высокія вокны, пыльнае, бы ў склепе, грыфельна-шэрае. І асветленая пляма — гэта толькі твар Кроера, рукі, складзеныя на грудзях, і чырванаватая парча, што закрывае цела да самых рук.

Людзі ішлі паўз труну і жагналіся. Некаторыя з відавочнай асалодай і з удавана журботнай мінай на абліччы.

Пан Юры з Алесем спыніліся ў нагах нябожчыка.

— Бывай, швагер,— сказаў пан Юры.— Хай бог будзе літасцівы да цябе, як даруе ён усялякую правіну.

Алесевы вочы трохі спалохана аглядалі траурнага матчынага брата. І раптам хлопчык здрыгануўся: праз прыплюшчаныя павекі выглядала жаўтаватая палоска бялка.

Кроер глядзеў.

— Ідзі,— сказаў пан Юры.— Рана табе. Ідзі і не глядзі.

Яны прайшлі паўз труну.

— Швагер прыйшоў,— пачуў пан Юры ціхі голас.— Дзень добры, швагер.

Не разумеючы, адкуль голас, пан Юры азірнуўся. І раптам па зале, як вецер па начных галінах, прабег уздых жаху:

— О-о-ох-х!

Яны азірнуліся. Натоўп адхіснуўся ад труны, як жыта пад ветрам.

Мярцвяк сядзеў.

Алесь сціснуў сківіцы, каб не закрычаць. А нябожчык сядзеў і глядзеў на людзей. Потым дастаў з-пад чырвонай парчы вялізную бутэльку шампанскага.

Сект стрэліў у столь — па бутэльцы паліліся белыя ручаі. І адначасова шырока расчыніліся дзверы ў сталовую, і ўсе ўбачылі там мора агню ад свечак, бочкі з віном ля сцен, сурвэты, бель абрусаў,

сталы, што знемагалі ад ежы, якая грувасцілася на іх.

У зале грымеў хор звычайных сабутэльнікаў пана. Спявалі задастойнік:

— «Ангел вапіяша благадатней: чыстая Дзева, радуйся! І пакі рэку: радуйся! Твой сын васкрэсе трыдневен ад гроба, і мёртвыя віздвігнувый: людзіе, весяліцеся!»

Пан Юры непаразумела глядзеў на ўсё гэта.

— Свіння,— сказаў Біскуповіч.— Маці божую не пашкадаваў, блюзнер.

І тады пан Юры плюнуў.

А нябожчык, працягваючы чашу з сектам, вёў:

— «Са страхам божыім і вераю прыступіце...»

Пан Юры цягнуў Алеся да дзвярэй.

— «Не прэпятствуйце дзецям прыходзіць да мяне»,— спяваў мярцвяк.

І, працягваючы чашу, узглашаў:

— Пійце ад нея ўсі.

— «Відзехом святло сапраўднае,— спявалі галасы,— прыяхом духа нябеснага... То бо нас уратавала ёсць».

Пан Юры не ішоў, а ляцеў да дзвярэй. І тут дарогу яму перагарадзілі ўзброеныя загонавыя.

— Швагер,— сказаў Кроер.— Траюрадны швагер, куды ж ты? Паслухай мяне.

Загорскі спыніўся.

— Прабачце, панове, за жарт,— сказаў Кроер.— Іначай ніхто не прыехаў бы.

— І правільна,— сказаў Біскуповіч.— Бо ў гэтым доме ад кожнай п'янкі хто-небудзь ды памрэ.

— Забудзем спрэчкі,— казаў далей Кроер.— Мне абрыдла аднаму. Забудзем спрэчкі хаця на некалькі дзён. Я нічога не шкадую. А ты куды, швагер?

У пана Юрыя дрыжалі ноздры. Ён зрабіў крок да дзвярэй — загонавыя самкнуліся. Загорскі, Алесь і Біскуповіч паклалі рукі на эфесы кордаў.

Кроер абводзіў усё гэта вар'яцкімі, у чырвоных мяшках, вачыма.

І, відаць, не пажадаў псаваць свята.

— Пусціце іх,— кінуў ён.— А ты, швагер, пачакай маёй смерці яшчэ год дваццаць.

Ён меў на ўвазе спадчыну. Але Загорскі рассунуў рукамі загонавых і пайшоў, не азіраючыся. Гэты чалавек не мог абразіць яго.

— І даруй,— сказаў Кроер.

Потым ён стаў у труне.

— Астатніх прашу не скардзіцца. Дарога доўгая, мокрая — жывіце тут.

Людзі агледаліся. Ва ўсіх вокнах узвышаліся ўжо ўзброеныя загонавыя. Чалавек трыццаць, прапусціўшы Біскуповіча і Загорскіх, самкнуліся і стаялі ў дзвярах. Людзі апусцілі галовы, бо ўсе ведалі, якая цяжкая чаша Кроеравай гасціннасці.

Але ніхто не пратэставаў. Буйных дваран, з якімі Кроер пабаяўся б сварыцца, у зале не было. І людзі рушылі ў сталовую залу.

Цяжка зачыніліся за імі дубовыя дзверы.

Кроер кінуў парчу на плячо, накшталт плашча, і саскочыў на падлогу. Яго трошкі хістала, ён быў знясілены шматдзённай п'янкай, але сіліўся стаяць роўна.

Адзін з загонавых падышоў да яго і нешта сказаў, і ў Кроера вышчарыліся зубы.

— Дзе? — страшным ціхім голасам спытаў ён.

— Ля ганка, пане.

Кроер, цягнучы за сабою край парчы, памкнуўся да дзвярэй. На хаду спыніўся.

— Усе з акон. Усе да дзвярэй і не адыходзіць. Іначай — засяку... на зямлі. Сачыце, каб ніхто з гасцей не ўцёк... каб трупамі ляжалі да раніцы.

І амаль выбег з парадная залы.

...Ён перагнаў Загорскіх з Біскуповічам, калі тыя выходзілі на ганак. І не звярнуў на іх аніякай увагі, кінуўшыся па прыступках уніз.

Пан Юры кінуў аднаму з загонавых, які праводзіў іх:

— Коней.

— Зараз,— заспяшаўся той.

Яны чакалі коней, стоячы на ніжняй прыступцы, і глядзелі на тое, што адбывалася ніжэй сходаў, на пляцоўцы, укрытай бруднаватым патоўчаным снегам.

На пляцоўцы стаяў у атачэнні трох «блакітных» і дзесятка земскіх бялявы мужык у расхрыстаным кажуху. Рукаў кажуха быў адарваны: з вялікай дзіркі, як махры эпалета, падалі на плячо касмыкі аўчыны. Звычайны мужык год пад трыццаць, засіверала, дужы. Незвычайныя былі толькі вочы. Чорныя, дрымучыя, яны з непрыхаванай нянавісцю

глядзелі на пана Кроера, што набліжаўся да купкі людзей бязгучнымі кашэчымі крокамі.

У баку ад гэтай купкі людзей стаяў Мусатаў. Глядзеў як быццам у другі бок, пагладжваў шчэцістыя бакенбарды. Зеленаватыя, як у рысі, вочы прабеглі па абліччах Алеся, пана Юрыя, Біскуповіча і абыякава пачалі разглядаць, бы першы раз бачылі, бліскучыя ад вільгаці дзікія камяні будынка, высокія вокны, падушкі зялёнага моху ля вадастокаў.

Мусатаў ведаў шалёны нораў Кроера, ведаў, што той можа з гарачкі ўчыніць такое, чаго потым і рукамі не развядзеш, тым больш што сведкам будзе сам маршалак. І Мусатаў пайшоў паўз Кроера да сходаў. Праходзячы, зрабіў яму прывітальны жэст.

Кроер усміхнуўся. Ён зразумеў гэта так, што Мусатаў развязвае яму рукі. «Што ж, добра. І якая, сапраўды, каму можа быць справа да рахункаў гаспадара са сваім рабом».

Мусатаў знік у доме. І Кроер, дачакаўшыся гэтага, падышоў і спыніўся крокі на тры ад мужыка.

— Што, Корчак, нядоўга давялося хадзіць? Пагуляў — плаці.

Вар'яцкія вочы глядзелі з усмешкай.

Корчак маўчаў.

Тры чалавекі на ганку ўскінулі галовы, пачуўшы прозвішча.

— Бацька, што гэта ён? — спытаў Алесь.

— Брыда,— сказаў пан Юры.— Ты не слухай, сыне, мы не маем права ўмешвацца.

Кроер рабіў то крок управа, то крок улева: разглядаў.

— Дык пан Корчак ужо і эпалет прыдбаў? У генералы пану Корчаку захацелася? Можа, гаспадар Корчак і ў імператары мерыцца?

Корчак маўчаў.

— Мерыцца,— з удаваным шкадаваннем сказаў Кроер.— Непісьменны, бедалага. Не чытаў. Не ведае, чым цар Мурашка скончыў [1].

— Чаму не ведаю? — сказаў раптам Корчак з нейкім заліхвацкім адчаем.— Вельмі нават добра ведаю:

---

[1] Падчас вялікай сялянскай вайны семнаццатага стагоддзя паўстанцамі — мужыкамі Міншчыны — кіраваў Мурашка. Згодна з паданнем, смяртэльна параненага ў бітве «мужыцкага цара» пасадзілі на распалены дачырвана жалезны трон.

Галовачка бедная ад жару трашчыць,
Ножкі на чырвоным на жалезным сядле.

У адказ пан Кроер ударыў, відаць, не вельмі моцна, бо быў знясілены п'янкай.

Алесь глядзеў на гэта разгубленымі вачыма: ён упершыню бачыў, як б'юць звязанага.

Галава ў Корчака не хіснулася ад удару. З нейкай злоснай радасцю ён сказаў:

— Дрэнна б'еш... А шкада, паночак, што мяне па дарозе да сваіх схапілі. Вух, як бы з гэтага кубла дымком ірванула! — Корчак глытнуў паветра.— Шкада... Аднаго шкада: разлічыцца не паспеў...

Кроер адпачываў, і вочы яго былі каламутныя ад гневу.

— Дык у цябе яшчэ і свае былі? — ціха спытаў ён.

— А як жа. Не святым жа я духам жыў са жніва да масленай. Хавалі, памагалі.

— Дзе хавалі? Хто?

— А гэта ты ўжо сам даведайся.

Кроер плюнуў і зноў, неяк наўскасы пасоўваючы сваю доўгую постаць, рушыў па брудным снезе да звязанага.

— Дзе? — ён ударыў зноў, на гэты раз пад ніжнюю сківіцу.

Корчак сплюнуў крывёю ў снег.

— Уцэліў-такі,— сказаў ён.— Вядома. Над пешым арлом і варона з калом.

Гэта было ўжо занадта. Кроер адчуваў сваю п'яную слабасць і стаў шукаць вачыма чагосьці больш важкага.

Якраз у гэты момант конюх прывёў панам коней. Пан Юры разбіраў павады. І тут Кроер заўважыў у руках у конюха карбач. Ірвануў яго з рук дваровага і з подбегам, сагнуўшыся, ударыў Корчака па твары. Карбач не быў падплецены свінцом — толькі падвіты гнуткім медным дротам,— і гэта ўратавала Корчака ад смерці.

Твар у Корчака заліўся крывёю. Вусны ў пана трэсліся. На шчоках плямамі з'яўляўся і знікаў румянец. Дзесяць, дваццаць, сорак удараў...

Алесь глядзеў на расправу шалёнымі вачыма. Білі звязанага чалавека, які не мог бараніцца...

Корчак не мог ужо стаяць. Ён сеў на снег, заліты крывёй, хапаў паветра.

— Да-бі,— толькі і здолеў сказаць ён.

І паваліўся тварам у снежную кашу.

— Аз-зіят,— вонкава спакойна сказаў пан Юры і дадаў: — Аляксандр, у сядло.

Алесь не мог адвесці вачэй... Удар... Яшчэ... Яшчэ ўдар. Яны падалі, як па сэрцы.

Чалавек у снезе выцягнуўся.

І тады, сам не разумеючы, што ён робіць, падлетак кінуўся да Кроера і падставіў руку. Карбач рассек адным махам вопратку і скуру, закруціўся вакол запясця. І тут Алесь перахапіў яго і з усяе сілы тарганўў на сябе.

Яму ўдалося вырваць акрываўлены бізун з рук дарослага. Бледны, з чырвонымі плямамі на шчоках, Кроер непаразумела глядзеў на Алеся.

— Сволач,— у дзіцячым горле нешта клекатала.— Нізкі, злы чалавек.

Паразумеўшыся, Кроер пагрозліва пасунуўся на яго.

І тады Алесь, калоцячыся ад злосці, ведаючы, што *гэты* можа ўдарыць яго, размахнуўся і — як трымаў — дзяржальнам, з усёй сілы, упершыню ў жыцці, уляпіў... проста ў перакошаны твар.

Кроер схапіўся за сківіцу. Потым ускінуў кулакі.

...І тут дужая рука пана Юрыя адкінула яго ад сына. Мільгануў паўз іх Біскуповіч, схапіў карбач і адшпурнуў яго ў снег.

— Слухай, ты,— сказаў пан Юры.— Дзярмо! Гніль! Калі ты зачэпіш яго, ты жоўцю рыгаць будзеш...

— Чакайце, Загорскі,— спакойна сказаў Біскуповіч.— Не пэцкайце рук.

— В-арта! — ледзь выдушыў з сябе Кроер, і гэта прагучала ціха, але гнеўна.

Рукі пана Юрыя і Біскуповіча леглі на рукаяці кордаў.

— Вы пашкадуеце, Кроер,— спакойна сказаў Біскуповіч.— Каб праламаць вам галаву, хопіць хвіліны.

Кроер азірнуўся. Але жандары відавочна баяліся ўмешвацца ў спрэчку высокіх паноў. Стаялі моўчкі.

Пан Юры спакойна пасадзіў Алеся на Ургу і падвёў Біскуповічу ягонага каня.

Ускінуліся ў сёдлы. З месца — толькі брудныя снежныя пырскі паляцелі — узялі наўскапыта.

...Вёрст праз пяць, калі стала зразумела, што пагоні не будзе, пусцілі разгарачаных коней рыссю. Алесь загаліў рукаў, разглядаючы крывавы рубец.

— Ён мяне ўдарыў,— непаразумела сказаў ён.

Бацька з жалем глядзеў на сына.

— Ты пагарачыўся,— сказаў ён.— Таму што тры чалавекі маглі б налажыць галавою за аднаго, якога ўсё адно чакае Сібір, смерць у рудніках... А як бы тужыла твая маці... Або пана Біскуповіча жонка... Абяцай мне, што ты...

Алесь не вельмі ветліва сказаў:

— Гэтага я не магу абяцаць.

— Правільна! — сказаў Біскуповіч.

...Корчака сапраўды чакала Сібір. Калі Мусатаў, пачуўшы Кроераў крык да варты, выбег з дому, заліты крывёю, але ўсё яшчэ жывы Корчак непрытомна ляжаў у снезе.

Мусатаву ўдалося адгаварыць раз'юшанага пана ад пагоні. Корчака ён аддаў жандарам і загадаў везці яго ў Сухадол.

...А Кроер прыклаў да сківіцы снег і накіраваўся ў дом.

— Гарэлкі,— толькі і здолеў сказаць ён загонавым.

...Пачаўся неўтаймаваны, страшны разгул. Тры дні Кроераўшчына захлыналася ў віне. Галас стаяў над тымі, хто абпіўся, песні, лаянка.

На пяты дзень на нагах засталіся толькі Кроер ды Іван Таркайла. Сядзелі пры святле адной свечкі ў хатняй малельні, чокаліся адзін з адным і ашалелымі вачыма сачылі, каб другі выпіў да кроплі. Кроер пачаў быў ужо працэджваць віно з бутэлькі праз пальцы, бо ў кожнай бутэльцы сядзеў чорт, вельмі падобны на марскога канька,— але ўсё неяк абышлося. Каб не лаяцца, вырашылі ўвесь вечар гаварыць па-французску. Іван гэтай мовы не ведаў, а п'яны язык Кроера і на сваёй з цяжкасцю сплятаў два-тры словы.

— Ішлі б спаць, чэрці,— грубіяніў Пятро, лёкай Таркайлы.

— С, мон, дыё... нон... Алон!.. Перапіць — кураж! — вёрз немаведама што Таркайла.

Пятро смяяўся. Кроер глядзеў на яго цьмянымі вачыма.

— А ты чаго рагочаш, Пятро? Панімаеш нас?

— Ён в-ведае,— казаў Таркайла.

— Знаеш французскі язык?

Пятро пакрыўдзіўся:

— Анягож.

— Ну то які ён?

— Чырвоны,— сказаў Пятро.— Як... сабачы...

— Пр-равільна,— сказаў Таркайла.— Златавуст.

Пакінуўшы адурэлых паноў за віном, Пятро зачыніў іх у пакоі (магло быць дрэнна, калі задумаюць асвяжацца ў палонцы ці скакаць на конях), а сам прыйшоў у людскую і сказаў кухарцы:

— Апошнія часы. І жывуць не па-людску, і п'юць, як перад загібеллю.

— Дзіва што,— сказала кухарка.— Цяпер яшчэ, кажуць, у Пецярбургу змея пусцілі па жалезных каляінах... Змей, разумееш, бяжыць па дарогах. Гэта ўжо канец свету.

— Але,— згадзіўся Пятро.— Гэты не пашкадуе. Гэты зжарэ ўсіх.

## XXIII

Спачатку выпусцілі свае коцікі вербы. Потым, перад вялікаднем, пачалі сачыцца празрыстым сокам пні ссечаных бяроз. Пасля пупышкі сталі зялёныя, а лясы — цёмныя. Пазней заплакалі перад купаллем травы: меліся назаўтра загінуць. А затым прыйшла чарга палегчы каласам.

Год не парадаваў. Ён шмат абяцаў дружнай добрай вясною і спорнымі, цёплымі і буйнымі дажджамі. А потым нічога не даў. Зноў не даў. Каторы ўжо раз.

Дажджы пайшлі бесперапынна. Парасткі захлыналіся ў глыбокай халоднай гразі, жоўклі і гнілі. А з канца красавіка наваліліся халады і ўчэпіста трымалі нівы аж да сярэдзіны чэрвеня. Зямля, калі засунуць у яе руку, была не цёплая, а сцюдзёная і ліпучая, як глей, выкінуты з самага дна магілы.

Дні і ночы сталі цёплыя толькі ў канцы чэрвеня. Голад як быццам падрыхтаваў глебу пад сваё зімняе

жніво і шчодра кінуў людзям непатрэбную цяпер цеплыню.

На азіміне не вярнулі насення, тым больш што давялося ратавацца: пераворваць палі і засейваць іх пад ярыну. І гэтую познюю сяўбу ледзь скончылі на купалле, а гэта азначала, што восенню рунь амаль напэўна паб'юць ранішнікі.

І ўсё яшчэ, трэці год, хварэла бульба, і клубні яе былі, як гразь: не адрозніш ад зямлі.

Пан Юры і стары Вежа ў канцы ліпеня напалову спустошылі свірны, даючы пазыкі, разумеючы, што спадзявацца няма на што, адпусцілі мужыкоў на гадавы аброк. Хай ідуць з плытамі, хай адпраўляюцца ў звоз, хай дабіраюцца на будову чыгункі, абы не голад, абы не спустошыць свірнаў да дна. Бо невядома яшчэ, што будзе ў наступным годзе.

У канцы ліпеня лямант аб дапамозе даляцеў з мястэчка Свіслач, дзе жыла далёкая сваячка пані Антаніды, стрыечная сястра яе маці, Тацяна Галіцкая. Пан Юры надумаў накіраваць туды абоз насеннага збожжа: на наступны год. Паслалі яшчэ і трыста рублёў грашыма, каб быў заклад на выпадак сапраўднага голаду, каб хоць раз на дзень карміць гарачым дзяцей, жанчын і слабых (у цёткі было каля васьмідзесяці душ, жыла яна адна, пранешта сіла толькі насення — магчыма, нейк і пераб'ецца з людзьмі).

Праводзіць абоз павінен быў Алесь. Па-першае, людзі з канторы былі ў разгоне, па-другое, хай звыкае да спраў, па-трэцяе, час хлопцу, наогул, паглядзець свет. Цэлую зіму яшчэ сядзець яму ў Загоршчыне ды ў Вежы, перш чым пойдзе ў гімназію. Цэлую зіму вучыцца, цэлую зіму практыкавацца ў мовах, слухаць Фельдбаўха, monsieur Jannot і іншых. Бацька і той здзіўляўся сынавым поспехам і доўгацярплівасці... Хай едзе, хай паглядзіць свету.

І пачалася далёкая дарога.

Рыпелі колы вазоў, ішлі каля іх мужыкі. А малады Загорскі то ехаў ля абозу на мышастай Касюньцы, то зварочваў з дарогі і скакаў мяккімі прасёлкамі, праязджаючы вёскі і хутары, то ляжаў на возе, высока-высока, і глядзеў на залатыя аблокі.

Якія бясконцыя дарогі! Якія заблытаныя раздарожжы з дзесяткамі сцежак, што ўліваюцца ў іх!

Якія пахілыя драўляныя крыжы, усе шэрыя і ў глыбокіх трэшчынах, стаяць на скрыжаванні шляхоў.

Цягнуцца паўз іх вазы, ідуць вандроўнікі з трохграннымі вострымі кіямі і клункамі за спіною. Ідуць баркалабаўскія старцы з сінявокімі хлопчыкамі празрыстай іканапіснай прыгажосці.

Бабы нясуць за спіной паклажу, вузлом закруціўшы на грудзях канцы хустаў. І вузкімі, нейкімі асабліва жаноцкімі і пададзенымі наперад здаюцца іхнія плечы, сціснутыя жорсткай тканінай, у якой ляжыць нерухомы цяжар.

Спявае ліра пад прыдарожным вязам. Часам сонца закрые дымна-агатавая завеса мімалётнага дажджу. І тады ногі месяць дарожную гразь,— тысячы ног,— і корчмы робяцца асабліва цёмныя, а палавая шкура коней робіцца гнядой.

І на ўсё гэта — колькі ўжо год! — глядзіць абведзенымі сінькай вачыма, увесь у падцёках, пафарбаваны вохрай і мядзянкай распяты Хрыстос.

...Свіслач, аб якой Алесь дагэтуль нават не чуў, была маленькім мястэчкам.

Сярод будынкаў ці не самым вялікім здаваўся будынак прагімназіі. Але і ён быў запушчаны, як амаль усе астатнія будынкі мястэчка. Там, дзе калісь былі пляцоўкі для гульні ў мяч, куртыны і баскетныя агароджы, цяпер — і на двары і на вуліцы — цягнуліся зарасці пахучых дробных рамонкаў ды трыпутніку, сярод якіх губляліся сцежкі.

Мястэчка рыхтавалася да гадавога кірмашу, які меў пачацца паслязаўтра, пятнаццатага жніўня, і таму на пляцы было ўжо даволі густа і людна. Стаялі запакаваныя вазы, цюкамі ляжала воўна, жавалі жвачку валы.

Цётчын дом быў за нейкія паўвярсты ад канца мястэчка: вялікі, драўляны, пад саламянаю страхою — на галерэях і шчапяным дахам — над жылымі пакоямі. Вялікі сад спускаўся ў вільготны, звонкі ад шматлікіх ручаін, цяністы яр.

Старасвецкія ўтульныя пакоі з нізкаю столлю.

На вокнах акрамя першых рам былі і другія, з каляровымі шкельцамі. Яны замянялі аканіцы. А ў саміх пакоях стаяла даўняя мэбля: пузатыя арэхавыя сакратэры, дубовыя разьблёныя скрыні ля сцен і кутнія — адна на чатыры пакоі — вельмі

цёплыя печкі, выкладзеныя галандскімі кафлямі. На белых плітках плылі пад усімі ветразямі сінія караблі.

Цётка, маленькая, рухавая жанчына ў акулярах, сустрэла Алеся абдымкамі.

— Прыехаў, сынок... Ну, вось і добра ўжо, што прыехаў... Кірмаш пачнецца, наедуць навакольныя з хлопцамі і дзеўкамі... Будзе і ў нас весела.

Насенне загадала перамераць і пассыпаць у свірны, але ад грошай адмовілася:

— Дзякуй богу, галадаць не давядзецца. Абнасенімся вашым збожжам, а астатняе можна пусціць на хлеб. Мне што? Ежа — свая, наліўкі — свае, вопраткі — поўныя скрыні. І нічога мне не трэба, хіба што калода карт — адна на тры месяцы: у «хобаля» згуляць ды часам пасьянец (яна так і сказала — «пасьянец») раскласці.

Мітусілася, збіраючы на стол разам з дзеўкай:

— Дзякую пану Юрыю. Такое ўжо няшчасце! Проста хоць сядай на зямлю ды спявай «Ой вы гробы, гробы, сусветныя домы»...

Пасур'ёзнела:

— Хай пан Юры не думае. Насенне на тую восень аддам. Дзеля спакойнага сну. Не хачу, каб мне ўначы д'яблы сніліся ды яшчэ, крый божа, язычнікі-салдаты.

— Злітуйцеся, цётухна,— засмяяўся Алесь,— якія ж салдаты язычнікі?

— Язычнікі,— упэўнена сказала Таццяна Галіцкая.— Хто ж гэта, акрамя язычніка, будзе страляць у людзей, толькі з-за гэтага зброю насіць ды яшчэ і клясціся нячыстай клятвай, што будзе страляць і не будзе пручацца, калі загадаюць... Язычнікі і ёсць!.. Ну, а каб Хрыстос другі раз прыйшоў? То ж бо! Так бы яны і стаялі са сваёй клятвай другі раз каля крыжа, як, не раўнуючы, рымскія галаногія бандзюкі.

Цётка Алесю спадабалася. Паказвала гаспадарку: чатырох коней, два з якіх былі пад выезд, трох галандскіх кароў, пекінскіх качак і курэй-легорнаў.

Паказвала кветнік з «разбітым сэрцам» і «пантофелькамі маці божай», з мацыёлай і залатым царскім бэрлам.

У самым глухім кутку саду — каб, крый божа, не наелася хатняя птушка — ляжалі на траве выкінутыя з наліўкі барвяныя вішні. Гожы махаон сядзеў на іх і дыхаў апалава-сінімі крыламі. Піў.

П'яны-п'яны, такі шчаслівы махаон.

А вечарам сядзелі на тэрасе, пілі каву з масляністымі халоднымі пірожнымі і гаманілі аб сім-тым.

— Дык вы так і жывяце адна, цётухна?

— Зусім адна. Ды мне ніхто і непатрэбен пасля смерці нябожчыка Яўгена.

— Ён хто быў?

— Ён у дванаццатым годзе набраў купку людзей: дзесяць шляхцюкоў ды тры дзесяткі сваіх мужыкоў. Ну і пайшоў. Спалілі яны аднойчы вісячы мост, папалілі французскае сена. Потым лавілі ды білі гэтых... як бо іх?.. марадзёраў? Фуражыраў? Ну, усё адно. А потым уланы прыйшлі іх лавіць, дык яны і ўланаў пабілі.

— І сваякоў другіх не было? Зусім-зусім?

— Цяпер няма. Толькі твая маці. А яшчэ раней, да смерці мужа, быў у яго стрыечны брат, Багдан. Але той яшчэ, дай бог памяці, васемнаццаць... не, дваццаць год назад знік...

— Як знік?

— А так... Звязаўся з мяцежнікамі, калі тут у нас дваране бунтавалі. А калі яны не бунтуюць? Заўсёды грызуцца, як сабакі нейкія. А жонкам — тачы слёзы. Вось і ён пайшоў са зброяй, ды так і знік. Нічога пасля таго пра яго не чулі. Косці, напэўна, дождж мочыць, вецер сушыць. Так што ты цяпер мой наследнік. Няхай будзе так. Тут паляванне добрае. Выдры гэтай самай — дык раніцай па берагах як гусі хадзілі. Лапы вялікія, з перапонкамі.

Пайшла і прынесла пажаўцелы касцяны куфэрачак. Седзячы ў крэсле, разбірала яго.

— О,— сказала нарэшце,— гэта адзінае, што ад Яўгенавага брата засталося. Мужыкоў у доме няма. Сабе вазьмі.

Гэта быў амулет старога дзьмутага золата, відаць, танны матэрыялам, але дарагі сваімі гадамі. Памерам з далонь немаўляці, ён таемна і цьмяна ззяў на руцэ ў Алеся. А на ім Белы коннік з дзіцячым, быццам апухлым, тварам бараніў Авечку ад Льва, Змія і Арла.

— Дзякуй, цётухна.— Алесь ведаў: чалавек не павінен манежыцца, калі яму дораць.— Толькі як жа яго?..

— Павесь да медальёна,— сказала цётка.— Бачу ж я ланцужок. І насі. Памагае, кажуць. Хто носіць — ніколі не трапіць у рукі ворагу. Тройчы тры разы ўнікне немінучай смерці. І яшчэ, усе яго будуць любіць, бо ён бароніць Авечку ад Льва, ці бо то ўлады, Змія, ці бо то хітрасці, і Арла, ці бо то драпежнасці... Можа, і Багдан ўратаваўся б, ды вось, ідучы ў лес, забыў.

Алесь прывязаў залаты ланцужок медальёна да стальнога Майчынага ланцужка. Сам сабе ён пасмейваўся. Ну якая немінучая смерць можа яму пагражаць? Якія такія ў яго могуць быць ворагі?

...Праз дзень пачаўся свіслацкі кірмаш. «Прачыстая». Гандлёвыя рады плескануліся далёка за пляцовыя межы.

Гандляры спрытна матлялі на медны аршын вішнёвыя і белыя сукны. Свістаў, па-змяінаму павіваючыся ў паветры, шоўк. Паўзла шарсцянка, і весела бегала баваўнянка.

— А-а гарлачы-гарлачы-гарлачы! Звіняць, як званы, звіняць, як войтава галава.

— Жа-леза, жа-леза! — гэта басам.— Кас-са — на аконама, бязмен — на цешчу!

Узляталі, як карабель на хвалях, стракатыя арэлі. Адтуль даносіўся няшчыры дзявочы віск.

— Вось наваліся! Вось наваліся! Усё дарага — маё дзешава. Усё даражэе — маё дзешавее. Дзешавее мыла, дзешавеюць вяроўкі.

Катрыншчык-італьянец спяваў сухотным голасам пра невядомае. Малпа ў зялёнай сукенцы працягвала далонь, скакала ля гаспадара і глядзела ў вочы людзям гаротна-непаразумелымі дзіцячымі вачыма.

Гандляваў тканінамі прыгожы перс з палымянай барадою. Вадзіў «Міхала» цыган.

— Бацю, падыходзь — пажартуем!

Страсна спрачаўся з белавалосым мужыком конскі перакупшчык. Гучна, напэўна, аж пальцы балелі, біў у карычневую, як зямля, далонь, гучна кусаў аброць на знак таго, што не маніць.

Вузкавокі караім, падобны адначасова на дзікага хазара і на вялікага равіна Якава Леві, лаяўся з гар-

баносым яўрэем, ля якога шэрагам стаялі гарэлачныя куфлі, кварты, паўкварты і іншае шчасце п'янага.

Алесь хадзіў сярод гэтага рознагалосага, стракатага мора трошкі ачмурэлы і як быццам сонны, але радасна ўзрушаны. Сонныя былі вочы, узрушанае было сэрца.

Віселі залатыя бароды льну, прыемна пахла рыбай і кісла — шкурамі.

Грувасціліся пірамідамі яблыкі, над шызымі, нібы затуманенымі подыхам, слівамі спявалі залатыя восы. Сапяжанкі, ур'янтоўкі, слуцкія бэры пахнулі так, што соладка рабілася ў роце. Усюды ляжала гароднiна, бітая птушка, мясныя тушы. А побач — рабчыкі, кражныя качкі, дупелі для панскага стала. Кадаўбцы ляснога мёду і жаўтаватыя колы воску. Шкуры дзікіх звяроў.

Краіна была багатая. Краіну чакаў голад.

...Каля сляпога старца з лірай амаль не было людзей: не даць — грэх, а даць не было чаго. Стары спяваў: цёмны правал рота ў срэбнай барадзе. Лірнік быў такі стары, што барада яму была не ў загану. А ля яго акрамя дзвюх жанчын, якія плакалі, стаяў хлопец, можа, на нейкі год старэйшы за Алеся, невысокі, каржакаваты, з цёмна-русымі прыгожымі валасамі. Рысы ў хлопца былі няправільныя, але буйныя і нават у чымсьці прыгожыя. Цяжкаватае падбароддзе, вялікі цвёрды рот. Жарсткаваты няправільны нос. З тысяч і тысяч людзей, па адной толькі форме носа з крутымі ноздрамі, Алесь заўсёды пазнаў бы ў ім мясцовага, тутэйшага.

Невялікія, сінія з залатымі іскрынкамі, вочы хлопца былі цяпер задумлівыя і мяккія. Пасма валасоў падала на высокі чысты лоб. Ён слухаў. Слухаў, нахмурыўшы тонкія і чорныя, нібы тушшу наведзеныя, бровы.

Алесь побач з ім таксама пачаў слухаць пад тужлівыя ўздыхі баб.

Ой, то не чорная хмара падступае.
То турэцкі кароль наступае.

Турэцкі кароль наступаў, каб узяць за сябе Андрэеву дачку. I не толькі яе.

Сватаць нівы, бары, і разлогі,
I лугі, і праўдзівага бога.
Сватаць дым у закуранай хаце,
Ўсю зямлю нашу бедную сватаць.

І не вытрымала жаночае сэрца. Андрэева дачка ўцякла ў лес і, седзячы ў разгаліне дуба, рыхтавала падарункі каралю, загадвала сяброўкам вастрыць нажы, каб кроіць імі для яго ручнікі. І вось кароль падступіў з усёй сваёй чорнай сілай. І тады...

Не папала яна ў палаценца,
А папала у шчырае сэрца
І каню пад падковы упала.
Паміраючы ж, так прамаўляла:

Страшна гулі струны:

Ой, не будзеш ты мець, чарнарогі,
Ні лугоў, ні праўдзівага бога,
Ні бароў, ні дзяўчат, ні багацця,
Ані дыму ў закуранай хаце.
За якое ні схопішся сэрца —
Ўсе адкажуць адзінаю смерцю.
І адкажуць пажарамі хаты
І зямелька, якую ты сватаў.

Жабрак змоўк. Хлопец цяжка, быццам ад сну адрываючыся, уздыхнуў і кінуў на ліру тры медныя капейкі. Непаразумела зірнуў на Алеся. І раптам вочы сталі іранічныя і трошкі злосныя: убачыў, што гожы падлетак з шэрымі вачыма хоча пакласці на ліру срэбны паўрубель.

— Здурэў, ці што? — спытаў ён гучным кплівым голасам.

Алесь цярпець не мог, каб з яго кпілі незнаёмыя.

— Цябе не спыталі,— сказаў ён.

— Яно і відаць, што з залатых каптаноў. Галоўка, як макаўка, а розуму — як...

Загорскі ведаў, што працяг прыказкі злосны і трохі непрыстойны.

— Ты б паўтарыў,— з пагрозаю сказаў ён.

— А я не глухому гавару,— сказаў хлопец.

— То і відаць, што скнара. За такую песню паўрубля яму шкада.

— За гэтую песню мне мільёна не шкада. Ды толькі не з тваіх рук.

— А што мае рукі?

— А тое, што іншая дабрыня горшая за дурасць. А дабрыня багатага...

— Затое ты, відаць, з багатых. Сем коп лапцей...

Алесь сказаў гэта з вялікай крыўды. Але падлетак, апрануты сапраўды сціпла, здавалася, не пакрыўдзіўся.

— Люблю Сярка за звычай,— паказаў ён сляпуча белыя зубы.— Ды толькі не тыя паны, што грошы маюць, а тыя, што бога знаюць. Забяры свае бязбожныя грошы.

— Чым гэта яны горшыя?! — спытаў Алесь.— Чаго ты да мяне прычапіўся?!

— А тым, што яны дурной галавой дадзены, гэтыя грошы.

Алесь мераў хлопца вачыма. Так, той быў, відаць, дужэйшы, але ў яго было менш гнуткасці і спрыту.

— А я вось дам, дык ты і нагамі накрыешся,— сказаў хлопец.

— Ану дай. Сам пяты задзярэш.

Праз хвіліну яны малацілі адзін аднаго з усёй заўзятасцю падлеткаў.

Пыл так і курэў над месцам бойкі.

Урэшце яны стаміліся і, сапучы, стаялі, насцярожана сочачы адзін за адным.

— Атрымаў? — спытаў хлопец.

— Дый ты атрымаў.

У хлопца сапраўды распухла і без таго пухлая ніжняя губа; у Алеся вуха было чырвонае і пякло.

— Ну і што? — спытаў хлопец.

— А тое, што дурань,— ужо не так злосна сказаў Алесь.

Яны ўсё яшчэ сачылі адзін за адным, але відаць было, што бойка згасне.

— Гэта ты дурань,— сказаў хлопец.— Старога за твой паўрубель маглі б у паліцыю павесці. У бедных людзей бываюць толькі медныя грошы.

— А паперак няма? — буркнуў Алесь.

— Не ў старцоў, ёлуп хвашчоўскі.

Алесь разумеў, што хлопец кажа праўду, але вуха пякло, а незнаёмы яшчэ і лаяўся. Варожасць зноў пачала нарастаць.

— Ты хто такі? — не вельмі ветліва спытаў ён.

— А табе што?

— Ну хто? Паляк? Мазур?

І тут ён пачуў такое, што аж вочы сталі круглыя ад здзіўлення.

— Беларус,— спакойна сказаў хлопец.

— Што-о?

Алесь не мог зразумець, адкуль гэтаму хлопцу стала вядома яго таямніца, ягонае адкрыццё. Але

хлопец, відаць, зразумеў пытанне як выгук пагарды.

Алесь не стрымаўся.

— Адкуль гэта ты даведаўся? Гэта ж я адкрыў. Гэта я — беларус.

— Адзін Гаўрыла ў Полацку,— усміхнуўся хлопец.— Тут усе беларусы. А ён адкрыццё зрабіў... Першы... Знайшоўся мне яшчэ — Капернік.

— Але ж я ведаю толькі траіх, якія адказалі мне так. У астатніх няма імя...

Алеся цяпер цягнула да гэтага хлопца. Таму, што ён, не ведаючы Алесевых думак, прыйшоў да таго самага.

А хлопец раптам сказаў:

— Я шкадую, што цябе стукнуў.

— І я таксама шкадую,— Алесь падаў хлопцу руку.

Хлопец зрабіў крок, і падлеткі моцна паціснулі рукі.

— Ты адкуль такі? — спытаў хлопец.

— З Дняпра. А ты?

— Я тутэйшы. Бацька прывёз тавар, а я з ім.

— Твой бацька купец?

— Не, дваранін. Але ў яго ёсць маленькая фабрычка. Абрусы, сурвэткі, усё такое, словам.

— Значыць, вы небагатыя?

— Небагатыя. У нас вялікая сям'я. Адных дзяцей лічыш-лічыш ды саб'ешся.

— Ты вучышся дзе?

— Тут і вучуся,— сказаў хлопец,— у прагімназіі. Праз пятнаццаць нейкіх дзён канец волі. Зубрэнне гэтае. А ты любіш вучыцца?

— Люблю. Толькі я дома вучуся. Мяне рыхтуюць у чацвёрты клас.

— Маеш шчасце. Я таксама вучыцца люблю, ды толькі настаўнікі ў нас дрэнь.— Уздыхнуў.— Скончу, пайду ва універсітэт. Урокамі буду зарабляць, а выб'юся. З нашай зямлі не пражывеш: бацька ўсіх не пракорміць.

Дакрануўся да распухлай губы.

— Б'ешся ты здорава,— засмяяўся ён.— Прыклаў руку, дык не раўнуючы як станавы прыстаў... Давай знаёміцца, ці што?

Алесь падаў яму руку.

— Давай. Я Алесь Загорскі.

— Кастусь Каліноўскі,— сказаў хлопец.

Яны стаялі і разглядалі адзін аднаго.

— Давай уцячом, ці што,— сказаў хлопец.— Пакуль крамы бацькаў тавар бяруць, паходзім, паслухаем.

— Давай... Толькі паўрубель гэты дзеду ўсё ж аддамо. Размяняем на медзь і аддамо. Хай помніць, як мы біліся тут ды мірыліся.

— Вядома,— сказаў Кастусь.

Памянялі грошы, усыпалі старому ў шапку цэлую жменю медзі і пайшлі ў людскі натоўп.

— Чаго гэта ты, братка, так на мяне насыпаўся? — спытаў Алесь.

— Ды стаіць, гляджу, такі павіч, толькі што хваста веерам не распускае. Стаіць і цераз грыб плюе: срэбра яму не шкада беднаму чалавеку.

— Ну і што?

— Каб ты ведаў, як страшна б'юць гэтых людзей, ты б так лёгка не глядзеў на гэта. Тым больш лірнікаў. Гэтых кожная сытая храпа лічыць за нязлоўленых злодзеяў і злачынцаў.

— За што?

— Падазроныя людзі. Прыедзе аднекуль з Піцера мардастая поскудзь. Такі ўжо магнат, такі нобіль — хвігаю носа не дастанеш: «Дзікуны брудныя, тубыльцы». Па кірмашы ідзе, як чума, ты скажы, ідзе — бязлюдзее кірмаш. А старцы — яны ж сляпыя. Падыдзе, слухае, слухае. «Гэт-то што ж ты, па-дла, спяваеш? Які гэта турэцкі цар?! Намьок!!! На якой гэт-то саб-бачай гаворцы, пр-ра якога гэта Ваську Вашчылу?! Пр-ра якога гэта свінскага Міхася Крычаўскага?!» Ну, стары апраўдваецца: «Ён, паночак, цішайшаму цару спрыяў, Аляксею...» — «Што?! Паганец, быдла, чарвяк мог цару спрыяць?!» Ды старому — у вуха. А на ліру — нагою.

— Ліру нашто?

— Кніг пазбавілі — хочуць і ліры пазбавіць. Ведаюць: пакуль слухаюць людзі хаця аднаго лірніка, не памерла воля.

Ішлі ў чалавечым моры. Вакол стаялі смех, божканне, нязлосныя праклёны.

— Ведаеш,— сказаў Алесь,— я вельмі быў здзіўлены. Стаіць сабе чалавек — і раптам гаворыць аб самым тваім, аб тым, пра што сам думаў.

— Але ж і яны,— рука хлопцава зрабіла круг у паветры,— таксама такія ж, як ты, толькі не знайшлі, як сябе называць.

І паўтарыў, відаць, чужыя словы:

— Безгалосае мора.

— Як гэта яны такія? — спытаў Алесь.— Мы, вядома, усе ад Адама. Адзін народ. Але ж мы дваране.

— Ну і што? Было ж у нас калісь так, што мужык, калі ён ахвотай ішоў на вайну, рабіўся дваранінам. Так, відаць, і ўсе. Твае продкі раней — і таму яны арыстакраты. Мае — пазней, і таму я проста з небагатых дваран. А ёсць яшчэ шляхта, што сама зямлю арэ. Тыя зусім учарашнія мужыкі.

— Дваране нашы цару таксама небяспечныя.

— Ёсць і такія.

— Нездарма ж пасля апошняга паўстання многія тысячы з іх, самых небяспечных, у аднадворцы перавялі. Зганьбілі людзей. Галадаць прымусілі.

— Мы таксама з такіх,— з нейкім выклікам сказаў Кастусь.

— То і вы аднадворцы?

— Але. Сенат не зацвердзіў.

— Дзед казаў, гэта яны назнарок,— сказаў Алесь.— Ну, ва ўладара граматы за стагоддзі згарэць ці струхлець маглі. Дык пашукайце ж у каралеўскіх архівах, у спісах, у кнігах старых... Не. Хочуць як мага больш людзей прынізіць.

Кастусь кусаў доўгую саломінку, што выскубнуў з воза.

— Бацька мой аніяк прымірыцца не хоча. Ездзіць стараецца, столькі грошай марнуе. Сказалі: будзе маёнтак — будзем шукаць. То ён прыцэньваецца да якога-кольвек фальварка. Купіць, відаць, сёлета ці трохі потым. А мне дык усё адно. Я ведаю, скуль ідзём. І продкаў ведаю. Я не ніжэйшы за хама, што мною кіруе. А прозва — гаршком назаві, ды ў печку не стаўляй. Калі захачу — і арапам назавуся. Апошні наш мужык больш сумленны за першага з жандараў.

Хлопец гаварыў гэта паважна, але відочна завучана.

— Скуль гэта ты такога набраўся?

— Брат казаў,— з нейкім адразу прасвятлелым тварам сказаў Кастусь.— А ты адкуль?

— А ў мяне дзед.

— Ясна,— сказаў Кастусь.— Вось і ведаем ужо самы першы запавет. Брата і дзеда не чапаць. І панствам не ганарыцца.

— І тут твая праўда,— сказаў Алесь.— А то зусім выйдзе па прыказцы: «Шумі-гудзі, дуброва, едзе князь па дрова».

Кастусь хораша смяяўся. Белыя зубы вельмі ўпрыгожвалі аблічча. І ўсмешка была шчырая, чыстая. І яшчэ Алесю падабалася, што вочы ў Кастуся былі не зусім сіметрычныя: адно трохі-трохі вышэй за другое. Гэта надавала ягонаму абліччу нейкую незвычайную, уладную і моцную характарнасць.

Гамонячы, яны ішлі бясконцым кірмашом, а вакол іх заліваліся гліняныя свісцёлкі, шалёна круціліся напалову пустыя каруселі, заклікаў у свой балаган дзед з кужэльнаю барадою:

— Заходзьце, браты-сястрычкі родныя, заходзьце, мужы-жонкі зводныя! Дзівосы на калёсах: хлапчук з сажнёвым ґосам! Марская царэўна! Янка — волат, жарэ адно толькі сырое мяса — па сем фунтаў на дзень. Узгадавала яго мядзведзіха! Ёсць яшчэ дзівосныя звяры... марская свінка і кракадзіл. Той самы, што праглынуў прарока Іёну. Па-біблейску кіт, па-нашаму кракадзіл... Страшны звер... Да нас!.. Да нас!

Граў на гарлачах ганчар, і ў адказ яму ляцеў спявучы перазвон крышталю, па якім вадзіў шкляной палачкай гандляр-венгр. Кубракі-мсціслаўцы совалі пад нос людзям кнігі і малюнкі.

— Багаты які кірмаш,— сказаў Алесь.

— Багаты,— адказаў Кастусь.— Толькі ўтратны. Бацька казаў, што летась ледзь прадалі пятую частку ўсяго завезенага. А сёлета яшчэ горш будзе. Бяднеем.

— Чаму так?

— Няма ні грошай, ні хлеба. Зямля збяднела. Лясы высеклі. У рэках вывелася рыба, у пушчах — звер. Раней-то, кажуць, усяго было: і звера, і птушкі, і дзікага мёду. Ідзі сабе, чалавек, у лес, расчышчай ляды. Сам ты сабе гаспадар. А цяпер адзін паратунак — горад. Ды і там... Ну каму тут патрэбны свечкі? Мыла? Вось гэты чай? Або цукар? Чаю

мужык не п'е, мыецца ён венікам, вечарам сядзіць пры лучыне.

...Алесь прабыў у Свіслачы яшчэ тры дні. І ўсе гэтыя дні хлопцы не гублялі адзін аднаго з вачэй. Хадзілі па кірмашы, забіраліся ў сутарэнні разбуранага касцёла. Кастусь звадзіў нават свайго новага знаёмага на пасядушкі з песнямі і на гулянку, прысвечаную сярэдзіне кірмашу, пасля якой кірмаш ідзе на спад. А Алесь звадзіў яго ў балаганы, бо з грашыма ў новага знаёмага, відаць, было не густа. Хлопец не манежыўся, але, як то належыць сапраўднаму хлопцу, прымаў кожны знак павагі да сябе з пачуццём нязломнай уласнай годнасці.

І, непрыкметна для саміх сябе, яны пасябравалі за гэтыя дні. Пасябравалі той хуткай дружбай падлеткаў, што ўзнікае нечакана, а застаецца надоўга. Часам на ўсё жыццё.

Перад развітаннем яны вырашылі, што будуць пісаць адзін аднаму. І гэта было цудоўна: ведаць, што ўпершыню ў жыцці табе ёсць каму пісаць, ёсць для каго заліваць сургучом канверт, ёсць для каго ўзважваць унцыі і залатнікі ліста, ёсць для каго, нарэшце, зусім па-даросламу ставіць у канцы постскрыптум, так сабе, між іншым, як быццам нешта забыў ды раптам і ўспомніў.

## XXIV

...Праз год пасля паездкі ў Свіслач, таксама ў жніўні, Алесь накіраваўся разам з малочным братам старога Вежы на апошняе ў гэтым годзе палянаванне. Праз тыдзень трэба было ехаць у Віленскую гімназію. Ён здаў экзамены і паступіў адразу ў чацвёрты клас.

Дзяцінства канчалася. Наступала новае жыццё. Шкада было кідаць вольную Загоршчыну, абшары паплавоў і лясоў, свіст качыных крыл... Шкада было мяняць усё гэта на гарадскую цеснату, на гімназічную муштру і зубрэнне, на казённыя муры, на шэры снег у асеннім халодным горадзе.

Бацька выбраў Віленскую гімназію таму, што і сам захацеў пажыць зіму ў вялікім горадзе.

— Гэтак і запсецца можна. У мядзведжай глушы.

Трынаццацігадовы хлопец ішоў цяпер з Кандраціем на паляванне, адчуваючы, што ён развітваецца з гэтым сонечным днём, з грывамі сярод азёр і балот, з аблокамі.

Грывы цягнуліся адна за адной. Кандрацію і Алесю трэба было прайсці імі вярсты тры, а потым заглыбіцца ў лес. З аднаго, правага, боку да грыў падыходзілі старыкі Дняпра. Злева цягнуліся залітыя вадою балоты — Равека выйшла з берагоў,— зарослыя шпажнікам, або мечнікам, як завуць яго ў Прыдняпроўі, аерам і высокімі сітнягамі. Там, у раскошы, гадаваліся, пакраквалі і часам цэлымі чародкамі ўзляталі качкі.

Паласа грыў сям-там, у тых месцах, дзе лішка вады пераліваласся ў Дняпро, рассякалася пратокамі з чыстай вадой і пясчаным дном. Там можна было падсачыць кулікоў-турухтанаў. А можна было і проста збочыць у балота і ісці, чэрпаючы ваду вышэй халяў, адчуваючы, як цёпла ў ёй нагам, палохаючы качак, якія лянотна ўздымаюцца ў паветра.

— Які гэта бандзюк тут ходзіць?.. Рап-рап... Пасядзець спакойна не даюць... Рап... рап...

Кандраці і Алесь ішлі, падзеленыя верхавінай грады, нябачныя адзін для аднаго.

Алесь трымаў стрэльбу напагатове, крочыў па травах насустрач поўным снежным аблокам, цені якіх часам спакойна прапаўзалі па сітнягах, па рабізне сіняй вады, па грывах, па ім самім.

Зрэдку сустракаліся нізкарослыя дубкі, кучаравілася хваткая шыпшына, расшытая аранжавымі ягадамі. А потым зноў былі травы ды вада, вада ды травы.

Верасовыя пустэчы, аблітыя сонцам, так цвілі, што павольныя аблокі, адбіваючы іх несамавітае цвіценне, былі афарбаваныя знізу ў лёгкі пурпур.

Алма бегла наперадзе, часам азіралася на Алеся. І ўвесь гэты камячок калматай плоці аж дрыжаў ад паляўнічай страсці. А шагрэневы чорны нос лавіў тысячы пахаў: пахі вод, пахі траў, а сярод усяго гэтага — дамавіты пах качкі, дзікаваты павеў дупеля і востры — аж мутарна — смурод вадзянога бугая.

Алесю не хацелася стрэламі парушаць велічналаскавай цішыні. І толькі пачуўся стрэл Кандрація, ён зразумеў, што трэба пачынаць і яму. Алма якраз

успудзіла з сітнягоў чырка, і Алесь зрэзаў яго. Потым ён збочыў у залітае вадою балота, нават не балота — ногі цяпер адчувалі гэта,— а мокры поплаў напалову сажня заліты высокай іллінскай вадой.

Сабака плыў, а там, дзе было плытка, скакаў, робячы часам асабліва высокі падскок над сітнягамі, каб убачыць, дзе гаспадар. А потым зноў толькі непрыкметнай змейкай варушыўся мечнік ды далятала з яго характэрнае брохание — жыватом па вадзе — спаніэля.

І раптам гэта брохание сціхла. Цвёрда ведаючы, што, каб гэта быў падранак, Алма на мокрым месцы спаймала б яго і прынесла гаспадару, а не проста віляла задам над здабычай, як гэта робяць спаніэлі на сушы,— Алесь пайшоў туды, дзе замёр у мечніку сабачы бег.

І спыніўся, уражаны. Алма стаяла і глядзела ў хмыз, затоплены вадой.

На галіне, угнуўшы яе сваім цяжарам, віселі над самай вадою вышываныя саквы, якія носяць аўчары, гожыя саквы з чорнага лямцу, расшытага белай воўнай. З адной саквы тырчала рукаяць пісталета, відаць, дарагога, аздобленага старым матавым срэбрам. Не падобна было, каб саквы нехта павесіў: занадта неахайна, на адзін бок, яны звісалі. Схіліся галіны яшчэ трошкі — і пісталет выпаў бы ў ваду. Відаць, нехта проста спяшаўся ўначы цераз балота і, згубіўшы саквы, не меў часу вярнуцца і адшукаць іх у цемры.

Алесь зняў саквы і, перакінуўшы іх цераз левую руку, стаў мераць вачыма: куды бліжэй за ўсё было невядомаму чалавеку выбрацца на сухое.

Грывы канчаліся трохі наводдаль, а за імі, над межытокай, барвелі ў густой зелені плямы ўжо чырвоных асінак. Алесь перайшоў уброд межытоку і заглыбіўся ў лес, не думаючы аб тым, што Кандраці будзе шукаць яго.

Алма вяла кудысьці, шнырачы ў траве. І вось бяга яе паскорылася, а потым яна стала і насцярожана напялася спінкай.

— Туба, Алма,— шэптам сказаў Алесь.

Расхінуўшы галіны, ён убачыў чалавека. Чалавек ляжаў ніцма, і ногі ягоныя вышэй калень былі аблеплены гразёю, карычневай скарынкай высахлай гразі.

Раскінутыя рукі абдымалі зямлю. Густой грывай ляжалі на траве чорныя валасы, перавітыя цэлымі жмуткамі сівога павуціння.

Алесь прысеў над чалавекам на кукішкі і крануў яго за плячо. Крануў і спалохаўся, бо той з раптоўным пакутлівым стогнам кінуўся ўбок, і пад яго целам аказалася стрэльба з прыкладам, залітым крывёй.

Алесь працягнуў чалавеку саквы.

— Твае? — спытаў ён.

І асекся, убачыўшы знаёмы твар.

— Война,— сказаў ён.

Рука чалавека схапіла саквы і пацягнула іх да сябе.

— Чаго ты хапаеш? — сказаў Алесь.— Ты бяры. Адбіраць не буду.

Вочы Войны разглядалі яго з цікавасцю, быццам прыпамінаючы.

— А хто ж гэта табе дазволіў быць такім нявет-лівым са старэйшымі?

— Ты сам.

— Ого, чаму гэта?

— Зброю згубіў,— з пагардаю сказаў Алесь.

— Гэта ты праўду кажаш,— нечакана згадзіўся Война.— Мужчына раней губляе галаву, а зброю потым.

Са стогнам сеў.

— Але я паранены. Дрэнна мне давялося. Ніколі так дрэнна не было. Каня я пакінуў...

— Што гэта вы мне... расказваеце?

— Я ўспомніў цябе,— сказаў стрымана Война.— Хлопчык у зрэб'і. Дзядзькаваны хлопчык з панскага гнязда.

— Ну дык і што?

— А тое,— сказаў Война.— Тое, што сям'я, дзе трымаюцца старых звычаяў, не можа выхаваць юду.

На ганарыстых, напышліва падціснутых вуснах Войны з'явілася раптам няўмелая ўсмешка.

— І яшчэ песня. Там, дзе спяваюць — ідзі спакойна.

Война дастаў з саквы маленькі клуначак. Корпаўся ў ім.

— Ты мною не пагарджай, хлопец. Ішоў бало-

там і не помню, як ішоў. У вачах цямнела. Відаць, тады і сцягнула з мяне галіна апошнюю маю надзею. А шукаць у цемры нельга. Ды і яны ішлі, наступаючы мне на пяты. З паходнямі. З сабакамі.

— Хіба сабакі знойдуць у вадзе?

— Добры сабака знойдзе. Ты на чаўне са сваім сабакам паляваў?

— Паляваў.

— Чуе ён, дзе качка?

— Хвалюецца. І я заўсёды гляджу ў той бок.

— Ну вось,— усміхнуўся Война.— Астатняе робіць стрэл. А ім мяне злавіць неабавязкова. За мяне — жывога ці мёртвага — узнагарода тысяча рублёў... Каб у мяне дзве галавы было — адну б абавязкова прадаў. Заваліўся б грашыма.

Доўгая пасма травы ляжала на яго далоні. Падвялай, але яшчэ зялёнай травы.

— Крываўка,— сказаў ён і пачаў жаваць траву.

Выплюнуўшы зялёную кашу на пальцы, ён агаліў нагу.

На сцягне крывавілася шырокая рана. Война палажыў на яе кашу і пачаў уціраць. Скура на яго абліччы з гарчычнай стала зеленаватая.

— Пячэ,— глуха сказаў ён.— Значыць, добра. Значыць, антонаў агонь не прыкінуўся.

Дастаўшы з картуза чорнага пораху, ён змачыў яго слінай і палажыў на рану зверху. Потым перавязаў нагу чыстай белай анучкай.

Алесь глядзеў трохі грэбліва. І Война заўважыў гэта.

— Брыдка,— сказаў ён.— А ты не гідуй. Без гэтага ніводны сапраўдны мужчына не пражыве. Можа, і табе давядзецца некалі, крый божа.

— Мне не давядзецца.

— Не заракайся. Ты што ж, любіш жандараў?

— Не.

— Бачыш. Бацька твой іх не любіць. Дзед. Прадзед не любіў. Усе... Клеткі не любіць ніхто. Кожны, акрамя труса, хоча яе зламаць. А свабоднага чакаюць сіло, раны, смерць.

Знясілены, ён чуйна прылёг на бок.

— І ўсё адно гэта лепей,— прамармытаў ён.— Забіцца кудысь і... здохнуць. Абы не вісець у торбе, як гусь на адкорме... Каб не лез табе кожны брудным

пальцам у дзюбу, не торкаў туды арэшкаў... Чым іхнія арэшкі — дык лепей... свая раска ў балоце.

Сплюшчыліся вочы.

— Ты адзін? — спытаў ён.

— Не, там, на грывах, малочны дзедаў брат.

— Угу,— сказаў Война.— Гэты таксама будзе маўчаць. Ты — ідзі да яго. Я паляджу, ачуняю... Мне трэба быць спакойным. І хітрым.

— Можа, прывесці вам каня?

— Го! Гэта далёка... Вельмі далёка. Цяпер мне трэба здабываць другога, каб дабрацца да свайго.

Алесь устаў.

— Я пайду. Я... не скажу нікому.

— Ведаю,— проста сказаў Война.

Ён змоўк. Алесь акінуў вачыма постаць, паклікаў Алму і пайшоў з ёю да ўзлесся.

Лес радзеў. Алесь бачыў, як праменні сонца ўсё часцей прабівалі сваімі дзідамі лістоту, як яны прабіраліся ў самы гушчар, як насустрач ім дымела зямля.

Паміж ім і сонцам клубіліся ў паветры раі мошак, быццам тысячы да чырвані распаленых вясёлых іскрынак, якія вялі і вялі свой трывожны і радасны танец.

...Гісторыя з балотнай пагоняй скончылася зусім нечакана.

Война не мог ведаць, што на яго ў гэты раз паляваў не адзін Мусатаў. Мусатаву прыслалі ў памочнікі чалавека з губерні. Начальству надакучыла няўлоўнасць Чорнага Войны. З гэтым асколкам мінулага паўстання трэба было канчаць. Начальства не гневалася на Апалона Мусатава: яно ведала, што злачынцу ва ўласным доме памагаюць і сцены, што Мусатаў распарадны і дзейны чалавек і не яго правіна ў тым, што бандыт гуляе на волі.

Збіраць чуткі — гэта была не яго справа. Сачыць, распытваць сялян, лавіць краем вуха іхнія размовы павінен сышчык.

Так з'явіўся ў наваколлі Сухадола Мікалай Буланцоў, знаўца сваёй пачэснай і патрэбнай дзяржаве прафесіі, спраўны чалавек год дваццаці.

Буланцову трэба было ўзвысіцца яшчэ больш, чым Мусатаву. Апошні ўжо дасягнуў сяго-таго, а гэты толькі рабіў першыя крокі. Мусатаў усё ж меў дваран-

ства, няхай жабрачае і заняпалае, а Буланцоў пахо-дзіў з кантаністаў, з парыяў, вучаных на медныя грошы, з тых, ніжэй за каго на ўсіх абшарах Расійскай імперыі былі толькі вайсковыя пасяленцы ды яшчэ паншчынныя мужыкі ў вельмі дрэнных паноў.

Сын бітага, хвастанага бацькі, чалавек, дзіцячым светам якога была казарма, а развагаю — дні, калі збеглых праганялі праз зялёную вуліцу, ён прагнуў кар'еры як адзінага сродку пазбавіцца ад наваколь-ных жахаў, ад зубатычын, ад стаяння з цагельнай выкладкай пад ружжом.

Начальства заўсёды мела рацыю. А калі падначаленым і не вельмі салодка пад ягонай грознаю дланню — тым горш для падначаленых. Значыць, трэба ўзвысіцца, каб не пакутаваць ад рукапрыкладства. Трэба стаць незаменным, і тады *сам* атрымаеш права біць, *сам* прымусіш іншых баяцца і цягнуцца струной.

Такія былі яго няхітрыя разважанні. Такія самыя, як і ва ўсёй пароды кар'ерыстаў, якой яна была і якой яна будзе.

Нервовы і жоўчны ў душы, але вонкава дысцыплінаваны і разважлівы, Мікалай Буланцоў зразумеў, што Мусатаў бярэцца за справу не з таго канца. Трэба было дакладна ведаць, дзе бывае бандыт, а ганяцца — справа апошняя.

І ён успомніў аб споведзі, аб таямніцы споведзі. А паколькі ніводзін поп, які паважае сябе, не выдасць гэтай таямніцы, ён падумаў, што поп напэўна можа падзяліцца цікавай навіной з дыяканам сваёй царквы. А ў дыякана, вядома, ёсць жонка, якой няма рэзону трымацца асабліва за чужы сакрэт. Гэта, вядома, не датычылася звычайных плётак, але магло датычыцца сур'ёзных выпадкаў.

Усе цэрквы, акрамя царквы ў Раўбічах і Загоршчыне, былі зачынены загадам старога Вежы.

Служылі толькі ў царкве ў Мілым. І там Буланцову пашанцавала. Яму ўдалося ўцерціся ў давер дыяканісе і атрымаць весткі, што Война памагае грашыма сялянам глухой вёскі Янушполе і часам аднаўляе там запасы аўса для свайго каня.

З губерні і з павятовай паліцыі выклікалі людзей, з псярні Кроера ўзялі сабак і непрыкметна атачылі вёску.

Война нарваўся на дванаццатыя суткі. Выйшаў з

пушчы проста пад кулі. Тут бы счакаць і браць яго, але пагарачыліся земскія і адкрылі страляніну, калі да сцярожкага чалавека было яшчэ сажняў сорак. Збаяліся падпусціць яго бліжэй.

Паранены Война ўцёк. За ім гналіся тры гадзіны і, ужо ўначы, загналі яго ў балота, залітае вадой. Мокнуць нікому не хацелася, тым больш што ішлі па крывавых слядах, якія цягнуў Война па расянцы і сіўцы. Таму рэквізавалі тры пласкадонкі і з паходнямі рушылі за ім. Верхам паехаў толькі Мусатаў на сваім дэрашы.

Прачасалі ўсё — і дарэмна: ці то не ўбачылі ў цемры, ці то чалавек захлынуўся, ці паспеў вышмыгнуць з балота ў лес, на шчасце, не такі ўжо і вялікі.

Буланцоў па загаду Мусатава ачапіў лясны востраў. Сам Мусатаў астаўся ля балота, ведаючы, што воўк заўсёды кідаецца ад загоншчыкаў туды, дзе, як яму здаецца, нікога няма і дзе яго чакае паляўнічы.

Ён думаў — і ўвогуле рэзонна,— што Война спяшаецца як мага аддаліцца ад балота. Ён не мог уявіць, што рана занадта цяжкая, каб далёка ўцякаць, што яна ў нагу, што толькі апошнімі намаганнямі, з апошніх сіл уцякаў ад іх так доўга чалавек, які вышэй за ўсё ставіў волю.

І Мусатаў астаўся. Злез з каня і прысеў на купіну, ведаючы, што чакаць яму ніяк не менш за гадзіну.

Война бачыў гэта. Ён ляжаў на тым самым месцы, дзе знайшоў яго Алесь, сажняў за трыццаць ад Мусатава. А паколькі для Войны гэта быў адзіны шлях да ўратавання, ён дзейнічаў больш асцярожна і чуйна, чым яго вораг.

Ён папоўз. Папоўз не спяшаючыся, ведаючы, што кожны паспешлівы рух — гэта яго, Войнава, смерць.

Яму пашанцавала. Жандар азірнуўся толькі два разы. Ён ведаў, звер ніколі не бяжыць з лежкі, пакуль не пачуе галасу загоншчыкаў.

Война не хацеў забіваць. Шум да дабра не вядзе. Акрамя таго, яму патрэбен быў спакой на тых пару тыдняў, пакуль ён адлежыцца і ачуняе. Ён ведаў, калі заб'е — улады нагоняць у наваколле столькі сышчыкаў, што гэта будзе канец.

Ён поўз да каня. І калі да дэраша асталося нейкія тры крокі, ён рэзка ўстаў і з апошніх сіл абхапіў каня

за шыю. Конь пырхнуў і падаўся трохі ўбок. Мусатаў пачуў пырханне і павярнуўся.

Заслонены конскім целам, стаяў, зусім непадалёку ад яго, той, за кім яны гналіся. І пісталеты былі ў абедзвюх руках Войны. Першы стрэл жандара немінуча зваліў бы каня, і першы стрэл мог быць смяротны для яго, Мусатава, калі ў адказ грымнуць пісталеты ворага.

Гэты не схібіць. Мусатаў, на жаль, занадта добра ведаў ягоны спрыт.

— Мусатаў,— сказаў Война,— пакажы свае козыры.

Зеленаватыя вочы жандара не бегалі. Яны з поўным усведамленнем смяртэльнай небяспекі глядзелі на Война. Мусатаў у першае ж імгненне цвяроза ацаніў становішча, зразумеў, што Война страляць не будзе, калі не стрэліць ён, Мусатаў, і значыць — не давядзецца плаціць за гульню жыццём.

Таму што ён адразу зразумеў: пройгрыш.

І ён з цвёрдай усмешкай паклаў руку на рукаяць пісталета.

— Казырны кароль,— сказаў ён.

— У мяне туз і дама,— сказаў Война.— Кідай карты.

— Я ведаю,— сказаў Мусатаў.— У цябе дзве біткі, у мяне — адна.

— На шчасце,— сказаў Война.

— На жаль,— сказаў Мусатаў.

— Кідай,— сказаў Война.

— Зараз,— сказаў Мусатаў.

— Вывінці крамень.

— Чаму не, калі ласкавы пан просіць?

Рукі Мусатава вывінцілі крамень і адкінулі яго. Война ведаў цяпер: каб паставіць новы — трэба дзве хвіліны, і пакуль ён не рушыць, Мусатаў не пачне. Значыць, сама менш сто восемдзесят сажняў.

Скрыгочучы зубамі, ён паспрабаваў сесці, сарваўся, адчуваючы, як са скроняў сцякае халодны пот, і зноў, амаль аднымі толькі рукамі, ускінуў у сядло сваё збалелае цяжкае цела.

І адразу ўзяў у шалёны намёт, проста па вадзе, што залівала поплаў, туды, да далёкіх грыў, у пырсках і ўзлётах кропель, у пене.

Цяпер яму, Войну, аніяк нельга было прайграць.

Упадзе ад стрэлу, зваліцца на гэтай роўнядзі — возьмуць голымі рукамі. Так далёка! Так яшчэ далёка да грыў, да выратавальных старыкоў за імі, да плаўняў, зарослых высокімі сітнягамі, да берагоў, зарослых непралазнай крушынай і абвітых хмелем, да Дняпра, за якім яры і лясы!

Стрэл грымнуў далёка за спіной. Мусатаў справіўся за нейкія паўтары хвіліны, нават менш. Усё адно: паміж ім і пісталетам добрых сто шэсцьдзесят сажняў. Ён надасягальны.

У душы Война даў сабе слова ніколі больш не жартаваць. Варта было дэрашу спатыкнуцца — і ў Сухадол прывезлі б на гнойных драбінах «труп вядомага бандыта».

Але ў душы ён ганарыўся, бо ведаў: з Мусатава будуць рагатаць нават ворагі. Таму што ён, слабы і цяжка паранены, абвёў дваццаць загоншчыкаў і вырваўся з кола на кані іхняга начальніка, таго, хто яшчэ некалькі хвілін назад быў упэўнены ў перамозе.

Дэраш вынес конніка на грэбень грады, і адтуль, з вышыні, Война ўбачыў за сабой заліты луг, парушынкі людзей на другім яго краі, а перад сабою зарасці і далёкую-далёкую стужку Дняпра.

## XXV

Гэта быў страшны і цяжкі час.

Уся неабдымная імперыя дранцвела і дубела ад жахлівага палітычнага марозу, які вось ужо дваццаць шэсць год вісеў і кашлата варочаўся над яе абшарамі. Кожны, хто спрабаваў дыхаць на поўныя грудзі, адмарожваў лёгкія.

Казаць — дазвалялася толькі ману, любіць — толькі праваслаўе ды імператара, ненавідзець — толькі вальнадумцаў (якіх ніхто не бачыў, так іх было мала).

Літаратура трымалася на нейкім дзесятку смельчакоў, якіх гналі і распіналі ўсе, пачынаючы ад усерасійскага квартальнага і канчаючы квартальным звычайным. Ды і смельчакі гаварылі часцей за ўсё прыглушаным голасам, бо на кожнага адносна сумленнага было па дваццаць ланцужных псоў, здатных на ўсё.

Большасць не вытрымлівала і, сказаўшы смелае слова, адразу пачынала дыгаць нагою і прасіць прабачэння, жахацца са сваіх былых перакананняў. «Мёртвыя душы» назвалі «тройчы маною, паклёпам на расійскую рэчаіснасць і ганьбаваннем асноў».

Вялікія заваёвы чалавецтва імперыя аб'явіла лухтой, праўду — злосным падкопам, іншамысных — злачынцамі, што не хочуць велічы айчыны.

Бог быў падобны на будачніка, а будачнікі — на разбойнікаў.

Шпіцрутэны і смугастыя будкі сталі сімвалам.

Шчаслівых не было.

Усё прыносілася ў ахвяру ідалу дзяржаўнай моцы.

І таму Алесь, які да гэтага жыў у іншым свеце, асабліва балюча ўспрыняў гімназічныя абставіны. Цесна, задушліва, убога па думцы, абмежаваныя настаўнікі.

У будынку доўгія, вельмі змрочныя калідоры са скляпенчатай столлю. Падлогі калідораў і прыступкі сходаў выкладзены чыгуннымі плітамі з візарункам. Пліты адпаліраваныя да бляску пасярэдзіне, а ля сцен чорныя, з цяжкім, як чыгунны галаўны боль, адценнем.

Бразгоча званок. Выйдзеш у калідор, а за адзіным акном не Дняпро, а казённыя гарадскія муры, усе пафарбаваныя ў аднолькавы «іерусалімскі», а па-простаму, па-малярску,— жоўты колер.

Увесь горад нагадвае казарму або бальніцу. І ад гэтай казарменна-бальнічнай дзейснасці хоць ты ваўком вый.

Ён хацеў быў папрасіць бацькоў узяць яго адсюль, адправіць у іншае месца або за мяжу. Туды пускалі неахвотна, але Вежа мог дабіцца дазволу.

Спачатку гэтаму перашкодзіў гонар.

А потым ён нават узрадаваўся, што не ўцёк. Таму, што Мсціслаў прывёў да яго сяброў: Петрака Ясюкевіча, Усяслава Грыму і Мацея Біскуповіча, сына таго пана Януша, з якім Загорскія ездзілі на Кроетравы «хаўтуры». Мацей падобны на бацьку як дзве кроплі вады. Ясюкевіч гожы, як дзяўчынка: вялікавокі, з валасамі як залатое павуцінне. А Грыма проста цяльпук, але самы разумны з усёй кампаніі. Гэта было відаць хаця б па тым, што галава ў яго была вялізная і ўся шышкаватая, «розум лез наверх».

З месяц яны прыглядаліся да Алеся, а потым Грыма зайшоў да яго і сказаў, што яны складаюць адну грамаду, што гэтая грамада ставіць сваёй мэтай выхаванне карысных людзей і што яны прапануюць Алесю стаць іхнім таварышам, калі ён таго захоча.

Алесь згадзіўся, і яны ўрачыста прынялі яго пятым членам у «Братэрства чартапалоху і шыпшыны». Члены яго чыталі недазволенае і спрачаліся да пены на вуснах. І ўсё адно гэта было цікава, бо Грыма даставаў аднекуль такія кнігі, сам выгляд якіх дыхаў недазволенасцю і небяспекай. Даставаў часцей за ўсё на адну ноч, таму чыталі ўголас і спрачаліся аж да позняга зімняга світанку. Гэта было зручна рабіць у кватэры Загорскіх або ў невялікім пакойчыку Грымы, дзе ён жыў адзін.

Чыталі польскія падметныя лісты і перапісаныя ад рукі вершы Міцкевіча, чыталі ранняга Пушкіна і «Ліст да Гогаля», чыталі, амаль не разумеючы, Фур'е (захапляла ў ім смеласць, а не думкі) і кнігі «Современника».

Аднойчы трапіў у рукі каліграфічна перапісаны рукапіс «Тараса» — яго таксама зразумелі як забароненую рэч і за адну ноч перапісалі, рагочучы да рэзі ў жываце, каб у кожнага было па экземпляры.

Але гэта было спачатку. Пытанне, пастаўленае перад кожным, патрабавала адказу. Юнакам, амаль дзецям, неадкладна трэба было ведаць, хто яны такія. І тады сталы завалілiся кнігамі па геаграфіі і гісторыі. Алесь шукаў усё, што толькі было магчыма, па гісторыі. На калядныя вакацыі ён спустошыў частку дзедавай бібліятэкі.

За месяц да гэтага рускі флот ураганнай бамбардзіроўкай паслаў страшны агонь на турэцкі порт Сіноп. Неба, караблі, самае мора палалі нястрымна і ўтрапёна. Пачалася сапраўдная вайна, якая павінна была прывесці імперыю на грань краху. Але хлопцам амаль не было да яе справы, бо яны адкрывалі сябе, плакалі над лёсам Ветра, Дубіны і Мурашкі, слухалі аб подзвігах князя Вячка, Міхала Крычаўскага і князя Давіда з Гарадка, сціскалі кулакі, перажываючы бітву на Крутагорскіх палях або сечу на Іваньскіх грывах.

...Перад вачыма падлеткаў, нібы невядомы, ўставаў іх родны край. Бясконцыя імшары, пушчы, закі-

нутыя старажытныя герадкі на балотных астравах, дзе і дагэтуль вісяць на галінах трохсотгадовых дубоў званы. Той змрочны, лясны, тужлівы, але самы родны свет, дзе яны нарадзіліся: Волхава балота, на дзевяноставярстовай гладзі якога гарaць балотныя агні, а па берагах знаходзяць рэшткі караблёў ды скамянелыя бярвенні бясконцых дарог, усмактаных на трохсажнёвую глыбіню, Прыпяць і сівавусы Нёман, і багатыя падняпроўскія гарады.

Яны бачылі бязмежныя палавені, якія часам нясуць на сваёй вадзе драўляныя капліцы, асеннія лясы, што палаюць, як грамнічная свяча, і чыстыя крыніцы, у якіх плаваюць лубяныя карцы.

І крыўдна рабілася за спусташэнне, забытыя магілы і забітых людзей, за прыгнёт, за свіст шпіцрутэнаў на Лукішках, за абрыдлівыя паласатыя шлагбаумы, што закрывалі ўсе дарогі і, здавалася, нават шлях да шчасця.

Яны не ведалі яшчэ, што слава чалавецтва не ў мінулым і што біцца трэба не за мінулае, але іхні парыў быў сумленны і чысты.

Пяцьдзесят трэці год зноў прынёс неўраджай. Дрэнная была азіміна, дрэнная была і ярына, бо ў час жніва лілі дажджы і прарастала ў полі нязжатае жыта.

Людзі галадалі і елі хлеб, падобны на торф. Больш-менш чысты хлеб давалі толькі зусім маленькім дзецям. Цар не мог не ведаць гэтага — усе чулі пра данясенне генерал-губернатара магілёўскага, віцебскага і смаленскага Ігнацьева. Той пісаў пра страшныя рэчы, пра жабрацтва адных і несумненную раскошу другіх.

Цар ведаў гэта, але не хацеў нічым памагчы зямлі, жыхары якой дайшлі да апошняй ступені галечы і прыніжэння.

І хлопцы зразумелі, што гэта не бацька, а айчым. Айчыма можна ненавідзець, і яны цяпер ненавідзелі яго ўсёй сілай нянавісці, якую толькі маглі змясціць іх дзіцячыя душы.

Алесь зрабіў і першую выснову з гэтай нянавісці, калі яны з Мсціславам ехалі дадому на калядныя вакацыі ў прысланым Вежай вазку.

Снежнае поле курэла. Белыя змеі паўзлі па гурбах да кібіткі і перасякалі сляды палазоў. Прывідна мат-

ляліся ў зеленаватым святле месяца чорныя палыны ля дарог. Фурман спяваў нешта сабе пад нос, ціха-ціха.

Юнакам было трохі халаднавата, і яны шчыльней зацісkаліся пад мядзведжую апону. Няяснае святло месяца падала ў акенца вазка.

— Ведаеш, Мсціслаў,— сказаў раптам Алесь,— сэрца не вытрымлівае, калі глядзіш на ўсё, што вакол. Так шкада гэтых бедных людзей, гэтую сірату-зямлю.

— Сказаў яшчэ. Каму не шкада. А што рабіць?

— Астаецца адно,— сказаў Алесь глуха.

— Што?

— Зброя.

Мсціслаў варухнуўся пад апонай.

— Разумная галава думала аж дзве хвіліны. Хто яе возьме? Ты? Я? Грыма?.. Пяць гімназістаў. Ты ж ведаеш: і ў нас, і ў шостым, і ў сёмым класе больш не знайшлося ніводнага.

— Можа, і ёсць, ды маўчаць.

— Дык будуць маўчаць і тады.

— Вашчыла пачаў з трыма сябрамі,— сказаў Алесь.— А потым вакол іх стала войска.

— Ну і скончыў, як пачаў.

— Але ж чатыры гады трос дзяржаву.

— Тады народ быў смелы.

— А цяпер? Цяпер яму яшчэ горш. Лепей смерць, чым гэтакае жыццё. Усе разумеюць... І гэта пякельнае, абразлівае рабства!..

— Мсціслаў глядзеў праз акенца, завея паўзла на сляды палазоў.

— Не,— сказаў ён нарэшце.— Ты ведаеш, я не баязлівец. Але колькі нас. Мы толькі пачалі разумець сябе. Нават калі мы знойдзем яшчэ сотню-другую людзей, гэта скончыцца стратамі і ганеннямі. Наша маленькая думка проста не вытрымае, згасне, мы загінем, а з намі першыя парасткі. І тады нам канец.

Дзеці сур'ёзна гаварылі аб паўстанні і зброі, і гэта было б нават смешна, каб не іхнія пашыраныя вочы, ліхаманкавы румянец шчок і перарывістыя галасы.

— Не,— паўтарыў Мсціслаў.— Мы страцім усё, прыдбанае з такой цяжкасцю.

— Ты мяне не зразумеў,— сказаў Алесь,— я не

кажу пра бунт сепаратыстаў, я кажу пра бунт нездаволеных, хто б яны ні былі. Палякі... рускія... літоўцы... людзі Інфлянтаў.

— Тым больш,— сказаў Мсціслаў.— Астатнім што?! У іх шмат астанецца, калі расстраляюць нават тысячы. А ў нас не астанецца нічога, нават калі расстраляюць сто чалавек. Мы маленькі агеньчык, які ледзь пачаў гарэць.

— Знойдуцца яшчэ.

— Праз сто год? — іранічна спытаў Мсціслаў.— Гэта ты важна прыдумаў.

— Няхай,— упарта сказаў Алесь.— А зброю браць усё адно давядзецца. Да таго часу знойдзем людзей... Зразумей, трэба... У рабстве гіне дух.

Вазок ехаў цяпер зусім па чыстым полі, пакідаючы за сабою самотны звілісты след. І ўсё паўзлі, паўзлі на гэты след белыя змеі.

...Дзед быў усё той самы. Сустрэў абодвух з лёгкай іроніяй і дрэнна схаванай пяшчотай у старэчых вачах. За вячэраю гаварылі аб нязначным: аб зайчыным паляванні, аб тым, што Кроер яшчэ раз паўтарыў свае хаўтуры, на гэты раз куды больш віртуозна, і зноў многія трапілі ў ягоную пастку; аб тым, што ў Маскве згарэў Вялікі тэатр.

— Гэта ён ад сораму,— заўважыў Вежа.— Бо кожны дзень спявалі «Жыццё за цара».

А пасля вячэры Мсціслаў, відаць, вырашыў трохі выпрабаваць старога на радыкалізм.

— Дастаў бы ты, Алесь, тое, што ў цябе ў кішэні, ды пачытаў пану Данілу.

Алесь збялеў. У кішэні ў яго ляжаў спісак «Паэм на маларасійскай гаворцы». Паэмы зваліся «Каўказ» і «Сон». Прозвішча аўтара не было, але яго шэптам перадавалі адзін аднаму: Шаў-чэн-ка.

Алесь паглядзеў на сябра з такім дакорам, што той сумеўся. Але дзед зрабіў выгляд, што нічога не разумее.

— Ану давай,— сказаў ён.

І тады Алесь пачаў чытаць. Дзед слухаў сурова, а калі ўнук скончыў, доўга маўчаў.

— Сцеражыцеся, хлопцы,— сказаў ён нарэшце звонкім ад хвалявання голасам.— Я не буду забараняць: бачу, чаго вы там нахапаліся, ведаю, што позна, вы не паслухаеце. Але сцеражыцеся. Павагаю

вашай да мяне прашу. Мне будзе... крыўдна, калі з вамі што-небудзь здарыцца.

Хлопцы, прыгнечаныя страшнай сілай гэтага «сцеражыцеся», маўчалі, быццам упершыню самім сэрцам адчулі небяспеку. І тады стары, шкадуючы іх, раптам сумна ўсміхнуўся:

— A propos de[1] вершаў... Я б гэтага хахла не ў Сібір, а міністрам асветы замест дурня Уварава зрабіў. Нічога, хлопцы. Усё нічога.

І прыкрыў вялікімі далонямі рукі юнакоў.

## XXVI

Над Вільняй павольна плыў звон. Званілі ў праваслаўных цэрквах, званілі ва ўсіх касцёлах ад Вострай Брамы да Антокаля. Пад гэты звон, які зусім не пасаваў да празрыстай вясновай лістоты, пакідала горад брычка, у якой, заціснутыя між чамаданамі і кофрамі, сядзелі два — цяпер ужо шасцікласнікі — хлопцы. Пан Юры, збіраючыся ехаць з Вільні на ўвесь час, дабіўся ад папячыцеля вучэбнай акругі дазволу, каб сын і Мсціслаў здалі экзамены датэрмінова. Яны і здалі. З вышэйшымі адзнакамі па ўсіх дысцыплінах.

У апошні момант пан Юры, лаючыся, паведаміў хлопцам, што губернскія дваранскія справы прымушаюць яго на тыдзень затрымацца ў Вільні і што ім давядзецца, каб не мазоліць вачэй сябрам, якія ўсё яшчэ пацелі над вакабуламі ў святаянскім гімназічным падвор'і, ехаць адным пад наглядам Халімона Кірдуна. Грэх сказаць, але сябры ўзрадаваліся і абставінам пана Юрыя, і падарожжу.

Загорскі бачыў гэта, але апраўдваў хлопцаў. Што зробіш, больш за ўсё на свеце маладосць любіць самастойнасць.

Брычка ляскатала па бруку, і Алесь бачыў на тратуары бацькаву постаць.

Потым тройка завярнула на Дамініканскую. Коні

---

[1] Дарэчы, наконт... *(франц.)*

нерваваліся, са званіцы сабора Дамініканаў падаў густы чорны звон.

Над усёй Вільняй гаварылі званы.

Дамініканам праз нейкіх сто сажняў басавіта адказаў святы Ян. Злева пацягнуліся святаянскія муры, дзе была гімназія. На другім паверсе, пэўна, якраз гадзіну таму назад, селі за сачыненне малодшы Біскуповіч, Ясюкевіч і цельпукаваты Грыма.

Звон суправаджаў брычку на ўсім яе шляху праз горад. Званіў Ян, званіў касцёл Базыліянаў, плакала святая Тарэса. І нават калі горад знік, вецер яшчэ часамі даносіў да вушэй юнакоў далёкае водгулле званоў. Званы плакалі.

Плакаць было чаго, хоць улады ў гэтым і не прызнаваліся, даючы загад аб імшы. Набліжаўся час расплаты за слепату, за саракагадовую ўпэўненасць у сваёй неперамoжнасці.

Першага красавіка саюзнікі засыпалі Адэсу бомбамі, разлілі па яе вуліцах, садах і прычалах мора агню. Чарнаморскі флот амаль адразу страціў ініцыятыву, а потым і зусім засеў у Севастопальскай бухце і быў патоплены.

...На поўдзень, дзе ваявалі, пайшло з сухадольскага наваколля зусім няшмат людзей, і ў тым ліку малады граф Ілля Хаданскі. Выйшла ў яго нечакана. Яшчэ напярэдадні не думаў, але тут прыехаў — па дарозе ў Севастопаль — у свой маёнтак Курылавічы васемнаццацігадовы прыгажун гусар Мішка Якубовіч, адзіны спадкаемца ўдовага бацькі, што нядаўна адышаў «у лона Аўраамле». Шчаслівы спадкаемца, не спадзеючыся на лепшае ў той касталомцы, куды меў трапіць, загуляў з усёй самаадданасцю гвардзейца і пацягнуў з сабою Іллю. Равеснікі пачалі піць і сваволіць. Магілёўскія камеліі, жанчыны з не зусім прыстойнай вуліцы ў Сухадоле, корчмы, рэстарацыі, гасцяванні ў суседзяў, дзе было шмат моладзі,— нічога не прамінулі.

Насваволілі яны з Іллём вышэй меры. П'яныя намагаліся патрабаваць сатысфакцыю ў губернскага скарбніка (у таго была маладая палюбоўніца, і было вырашана, што няхай нават адзін з сяброў і наложыць галавою, дык затое другому будзе добра). Скарбнік пад маркай перагавораў аб дуэлі ледзь не здзейсніў падступны план: завабіць сяброў да сябе ў двор і там

сіламі прыгонных адхвастаць абодвух, як марцэліных сабак. Сябры ледзь прабіліся на волю са зброяй у руках, а потым — у гневе на хамства і недалікатнасць скарбніка — абзывалі яго пашахонскім графам і з кампаніяй сяброў тры ночы запар ірвалі ля ягонага дома пятарды.

Потым, якраз на судны дзень, пусцілі ў сінагогу спайманую недзе саву, а дзверы моцна падперлі тоўстым калом.

Паліцмайстар спрабаваў быў сунімаць іх — яны, заплаціўшы задатак, прыслалі да яго на падвор'е труну, абабітую глазетам, і магільную пліту з гранітным крыжам, на якім было ўжо высечана ўсё, што трэба, акрамя года смерці. Паліцмайстар з гора запіў, а ўсе прынады склаў пад павець на сваім двары: усё дзешавей абышліся.

У Сухадоле разышліся. Была пільная патрэба выпіць з афіцэрамі на гаўптвахце. Узялі будынак абвахты, спаліўшы з надветранага боку пуд і чатыры фунты серы. Калі варта разбеглася — выцягнулі ачмурэлых калег з будыніны і ўмыкнулі іх у Курылавічы, дзе і пілі тры дні.

Там іх і заспеў Ісленьеў, што прыехаў у госці да Вежы, і, дачуўшыся пра свавольствы, паехаў сунімаць вісусаў. Прачухана даў надзвычайнага і параіў, калі не хочуць высылкі, кінуць хутчэй ідылічнае развітанне з «мілай радзімай» і ехаць далей. Ілля Хаданскі, якому ўсё роўна не было куды падзецца, пайшоў з Якубовічам добраахвотна змагацца за айчыну, веру і гасудара.

Тым усё і скончылася.

А Ісленьеў пасля непрыемнай гэтай размовы паехаў зноў у Вежу. Стары ўзрадаваўся.

Алесь сядзеў трохі ў іхняй кампаніі. Толькі тыя сядзелі за сталом, папівалі каву і віно, а ён залез у самы зручны куточак, палажыў сабе на калені «Дафніса і Хлою» (такія рэчы за апошні час пачалі цікавіць яго) і то слухаў, а то і чытаў.

А на вітражах вакол плылі дзівосныя птушкі, рыбы і крылатыя жанчыны. Яны свяціліся наскрозь, так, як ніколі не свецяцца звычайныя фарбы. Свяціліся гранатавым, жоўтым, апельсінавым колерам, як свецяцца на сонцы келіхі з віном.

— Прайдзісветы,— усміхаўся Вежа.— Ну што

яны, скажыце вы мне, граф, зробяць з тымі французамі ды ангельцамі?

— Анічога,— румяны, як яблыка, твар графа з яснымі вачыма і свежымі зубамі быў грэблівы.— Што ў іхняй галаве, акрамя гэтай брыдоты з савою ды п'янкі.

— Ото і я кажу... Скажыце вы мне, хто тут мае рацыю, тыя, што ідуць біцца, ці тыя, што чакаюць?

Ісленьеў скасіўся на Алеся. Дзед зрабіў абуранае аблічча.

— Тут я і сам не ведаю,— сказаў граф, пагладжваючы сівыя бакенбарды.— Скажу толькі, што нас паб'юць усё адно, неадменна. Дрэнны, пусты чалавек добраахвотна пад кулі не пойдзе, пойдуць лепшыя і загінуць. А іх і без таго не густа.

— Б'юць,— сказаў дзед.— Ой, б'юць. Наторкалі нас носам.

— Гэта ўсе разумеюць. Дазволілі ім пад Еўпаторыяй высадзіць дэсант, такі плацдарм аддалі... І гэтае злашчаснае паражэнне ля Альмы... Што мяне здзіўляе, дык гэта тое, што, дальбог, няма чаго ім асабліва ганарыцца. Салдат наш — смелы, безадмоўны, разумны. Лепшы за іхніх па трываласці, цярплівасці, сіле. Ды і генералы ў іх не лепшыя. Гэты іхні Сент Арно, ён хто? Шулер у былым, акторык, з усімі дрэннымі рысамі гэтай прафесіі.

— Дык у чым жа справа?

— А тое, што самы моцны салдат без хлеба, без зброі, без адпачынку, без... волі скора робіцца дохлай шкапай. І самая лепшая галава, калі на яе сто дурняў, нічога не можа. Нахімаў, бедалага, як пакутуе. Чалавек з мужнасцю, з любоўю да радзімы. А розная поскудзь, якую ўсё жыццё выхоўвалі ў спадзяванні на загад начальства, на старэйшага дзядзьку,— яны з яго пасмейваюцца. Знайшлі ў чалавека «загану», «травіць» ён у моры, хоць і адмірал. Што зробіш, калі арганізм такі. Ён «травіць», але з мосціка не сыдзе, справу да канца зробіць.

— Нельсан таксама «травіў»,— сказаў Алесь.

— Праўда? — узрадаваўся граф.— Ну, суцешыў!

— Я салдат,— пасля паўзы сказаў граф.— Я іду, куды мне загадваюць... Але па сваёй ахвоце я б туды не прасіўся.

— Чаму? — спытаў дзед.

— Кожны лішні чалавек — гэта адтэрміноўка канца.

— Горай, думаеш, не будзе? — спытаў Вежа.

— Горай быць не можа,— сказаў граф.— Хаця б таму, што кожнае новае цараванне спачатку на некалькі год адпускае гайкі, зарабляе сабе добрае імя.

— Каб потым зрабіцца яшчэ горшым. Чулі мы гэта.

— Але ж некалькі год,— сказаў Ісленьеў.— Гэта вельмі важна. І потым амаль абавязкова амністыя. Значыцца, тыя, хто жывыя яшчэ — вернуцца. І я сустрэнуся са сваёй маладосцю.

Вежа асцярожна падліў графу віна. Вусны старога сумна ўсміхаліся.

— Я сёння чуў прароцтва,— сказаў ён.— Прарочыў тут адзін лапатны Іерэмія: «Прасвішчуць яны Свістопаль».

— Нічога дзіўнага. Саракагадовае дрэннае становішча ў арміі. Амаль трыццацігадовае замоўчванне агульнай прадажнасці, слабасці, жорсткасці да простых, рабства.

— Усё было добра,— падтакнуў Вежа.— Так ужо добра, што, выявілася, пораху не было. Умелі хадзіць на парадах і не ўмелі па гразі. Заганарыліся. Усю гісторыю думалі напалеонаўскім капіталам жыць...

## XXVII

І зноў восень. Зноў гімназія. Зноў зіма з заснежанымі вербамі над Віліяй, з пахам бярозавых паленняў. Толькі цяпер Алесь жыў з Кірдуном і Логвінам. Было б зусім дрэнна, каб не «Братэрства чартапалоху і шыпшыны» ды не рэдкія, вельмі рэдкія, лісты ад Кастуся і яшчэ радзейшыя, стрыманыя і сухаватыя, цыдулкі ад Майкі. Улетку амаль не бачыліся: Раўбіч павёз дачку на кіслыя воды. А разлука і не ў такіх гадах рэдка вядзе да лепшага. Забываеш голас, жэсты, рысы і, урэшце, нават тое, што лепш за ўсё кажа аб сяброўстве: непадробленае адчуванне ўсяго чалавека побач з сабою. У яе, вядома, новыя знаёмыя, новыя людзі вакол, новыя думкі.

Гэта было балюча.

А потым зноў прыйшла вясна. Асеў наздраваты снег. Дзівосна сінела над горадам чысценькае, з рэдкімі імклівымі аблокамі неба. Аблокі імчаліся з-за гары, з-за кароткай, нібы назнарок абсечанай зверху, Гедымінавай вежы: два паверхі, на якіх прымасціўся і недарэчна, як жук-плывунец, махаў у паветры лапкамі аптычны тэлеграф. Перадаваў дрэнныя весткі. Увесь сакавік і ўвесь май цягнулася ўраганная бамбардзіроўка Севастопаля, не хапала зброі, гарнізон абяссілеў і трымаўся ледзь толькі не на цвёрдых людскіх душах — без дапамогі, без умацаванняў, без правіянту, без абозаў.

І яшчэ аб тым, што загінулі Істомін і Нахімаў, што ўлада над людзьмі ў руках тых, якія няздольны кіраваць нават сабой.

Усё часцей ля вітрын, дзе вывешвалі лісты-паведамленні з тэатра вайны, можна было пачуць хмурнае:

— Начальнічкі, трасца ім...

Галоўнага, на галаву якога трэба было клікаць трасцу, ужо не было. Бомбы падалі на дамы Севастопаля, магілы тысяч простых шчасцяў. Бомбы — увесь сакавік і май! — ірвалі паверхню бухты, магілу флоту. Але нават водгулле іх не даляцела да сабора ў далёкім паўночным горадзе, дзе ляжаў у магіле труп чалавека з грэнадзёрскім ростам і розумам абозніка.

...Настаўнік Гедымін пасля жалобнага набажэнства сабраў гімназістаў у вялікай халоднай аўле і доўгі час маўчаў, гладзячы свае бакенбарды. З разрэзу фалдаў форменнага сурдута тырчаў насавічок, які ён палічыў за лепшае выцягнуць загадзя, яшчэ перад пачаткам прамовы.

— Плакаць будзе зараз... Свідрыгайла,— як заўсёды,занадта галасна сказаў няўважлівы Грыма.

Бліжэйшыя шэрагі грымнулі смехам. І гэта было добра, бо заглушала сэнс Грымавых слоў. Гедыміна клікалі Свідрыгайлам за з'едлівасць і дробную зваднасць. Ці не зашмат гонару яму было ў ягоным сапраўдным прозвішчы. Сёй-той казаў, што і Свідрыгайлы яму замнога: крамольны князь меў хаця ўласную думку і не баяўся змагацца за яе, а гэты быў вернападданы з вернападданых і вечна ганарыўся тым, што ён «ісцінна рускі і ўсіх гэтых палячкоў, хах-

лоў-задрыпанцаў, жабнікаў, кілбаснікаў, жыдоў і іншых іншародцаў цярпець не можа».

— Зноў Грыма?! — пагрозліва спытаў Гедымін.

І тады, разумеючы, што ў такі момант гнеў гэтай падлы можа каштаваць Усяславу тройкі за паводзіны, Пятрок Ясюкевіч узвысіў свой мілагучны, бы музычная скрынка зайграла, голас:

— Прабачце, пане настаўнік. Гэта я.

— Што такое? — бледна-блакітныя вочы Гедыміна дапытліва глядзелі ў нявінныя, шчырыя вочы Петрака.

Вочы ў Ясюкевіча не ўмелі хлусіць. Як бы ён ні сваволіў, яны былі простыя і сумленныя, гэтыя вочы. Такому хлопчыку магла б паверыць і пусціць яго ў дом нават самая багатая з касцельных дэвотак.

— Ну? — трохі больш мякка сказаў Гедымін.

— Я выпадкова наступіў яму на мазоль,— сказаў Ясюкевіч.

— Што ён сказаў?

— Плакаць будзеш зараз... Нядбайла,— аддана і проста сказаў Пятрок.

— Д-добра,— памякчэў Гедымін.— Маеце шчасце, Грыма.

Падумаў.

— А за тое, што ўжываеце мужыцкую гаворку — будзеце мець клопат, Ясюкевіч. Пяцьсот разоў перапішаце гэта па-французску, руску і нямецку.

— Па сто шэсцьдзесят шэсць і дзве трэці раза на кожнай мове,— прыкінуўшы, шэптам сказаў Мацей Біскуповіч.— Як з двума трэцямі быць, га?

— Дзякуй, Пятрок,— на гэты раз шэптам сказаў Грыма.— Танна вылез.

Сашка Волгін, Алесеў цёзка, падміргнуў Грыму:

— Нішто. Выручым.

Сашка вызначаўся з усіх фенаменальнай здольнасцю падрабляць руку кожнага чалавека так, што той і сам не адрозніў бы.

— Гімназісты славутай нашай гімназіі,— ціхім і прачулым голасам, які аж дрыжаў ад хвалявання, пачаў Гедымін.— Вялікае гора напаткала нашу краіну. У бозе пачыў наш імператар, наш палкаводзец, гаспадар рускай зямлі, Мікалай Паўлавіч, чалавек вялікай духоўнай моцы, дабрадзей усяго нашага народа,

зіждзіцель светлага храма нашай будучыні і, пакуль што, самая светлая асоба нашай гісторыі пасля Пятра Вялікага.

— «Пакуль што»,— буркнуў Грыма.

— Ліс,— з нянавісцю гледзячы на Гедыміна светлымі вачыма, сказаў Сашка.— Пры кожным выпадку такое кажы — не памылішся.

Голас у Гедыміна сарваўся:

— Рускі народ у журбе і тузе.

— Сашка,— шапянуў Алесь,— ты ў журбе ці, можа, у тузе, га?!

— У вялікай,— усхліпнуў Сашка.— Проста рыдаю. Харошы быў чалавек. Хрысціянін. Даўгі за Пушкіна паабяцаў заплаціць, калі той на ложы смерці выспавядаецца і святыя дары прыме... Заплаціў...

Гедымін глядзеў некуды ўгору вачыма, у якіх аж трапяталі сардэчнае замілаванне і скруха.

— Ён тужыць бязмерна... наш... рускі... народ...

— А каб ты спрах! — ціха сказаў Сашка.

Грыма штурхнуў яго пад рабрыну:

— Цс-с, пасадзяць у карцэр — хто тады паможа?

Алесь ціха смяяўся. Ён ведаў, што гэта Волгін быў завадатарам гісторыі з Гедымінавай радаслоўнай. Сабралося некалькі хлопцаў і склалі жартоўнае «дрэва годнасці» настаўніка, дзе сама менш сем продкаў былі ўсе хто хочаш, толькі не рускія, а бацька — паляк. Потым Сашка напісаў ліст почыркам Гедыміна. А ў лісце было пакаянне ў тым, што вось да гэтага часу ён, Гедымін, толькі вонкава трымаўся праваслаўнага абраду, а сам лічыў яго за ерась і схізму і не хоча больш губіць сваю неўміручую душу. Тым больш што ягоны, Гедымінаў, бацька быў паляк і ўсё жыццё змагаўся з няправеднай справай мітрапаліта літоўскага Ёсіпа Сямашкі, які злашкодна і падступна вынішчаў унію. І што ён, Гедымін, у гэтым дастойны сын свайго бацькі і просіць лічыць яго надалей каталікам, тым больш што ў яго, Гедымінавым, дваранскім гербе ёсць крыж. А, усім вядома, калі ў гербе ёсць крыж — гэта азначае, што продак быў выхрыстам.

Ліст з радаслоўнай накіравалі віленскаму папячыцелю і сталі чакаць, што з гэтага будзе.

Папячыцель паверыў. Яму здалося, што Гедымін з'ехаў з глузду. Ён выклікаў «рымскага каталіка і

нашчадка выхрыстаў» да сябе, і там, за шчыльна зачыненымі дзвярыма, адбылася бурная размова з высвятленнем адносін і тлумачэннямі, спачатку толькі Гедымінавымі, а потым узаемнымі. Гедыміна ледзь не хапіў удар.

Завадатараў свавольства шукалі, але не знайшлі.

...Настаўнік тым часам дабраўся да апошніх хвілін «хрысціяніна». Голас дрыжаў, рукі, ускінутыя на ўзровень твару, далонямі да яго, калаціліся, нібы вось-вось маглі ўпасці на вочы, каб ніхто не ўбачыў слёз, ды толькі жахлівае намаганне волі трымала іх.

— Ён кіраваў, як сапраўдны ўладар, ён жыў, як чалавек, ён любіў супругу, як хрысціянін... А адыходзіў да продкаў,—Гедымін зрабіў разгублены жэст рукамі,— як нібыта сумясціўшы ў сваім апошнім слове ўсе свае якасці. Я не пабаюся нават сказаць іпастасі. Слухайце гэтыя словы... На ложы смерці ён сказаў сыну і спадкаемцу свайму... «Служы Расіі, сын мой! Я хацеў узяць на свае плечы ўсе цяжкасці, каб пакінуць табе вялікую дзяржаву, спакойную, упарадкаваную,шчаслівую. Але вышэйшая воля меркавала іначай».

Гедымін паклаў руку на горла.

— Ён ляжаў на сваім простым ложы, накрыты салдацкім плашчом... Вы ведаеце, ён заўсёды спаў, як просты воін. Ён усё жыццё не накрываўся нічым іншым. І гэты плашч увойдзе ў гісторыю нароўні — не, вышэй! — з трывуголкай Напалеона, з ягоным шэрым паходным сурдутам, з простым кіем вялікага Пятра, з сядлом пад галавою Святаслава... Плашч... простага... салдата!

Рыданне раздзерла горла настаўніка.

— І ён сказаў сыну свае апошнія словы... «Вучыся паміраць...» — Гедымін зрабіў доўгую паўзу.— Вы чуеце гэтыя словы?! Гісторыя запіша іх на свае скрыжалі!.. «Ву-чы-ся па-мі-раць!», «Вучыцеся паміраць» — вось які апошні запавет ён пакінуў нам, панове.

Слёзы тачыліся праз карцінна прыцяснутыя да аблічча рукі настаўніка...

Тры месяцы прайшло з таго часу. Далёка ад паўночнай магілы «чалавека і хрысціяніна», не даходзя-

чы да яе нават водгуллем, густа-густа падалі бомбы на бухту, магілу флоту, і горад, магілу велічы.

І яшчэ на шматлікія магілы людзей.

Бо нехта вучыў паміраць, а не жыць.

Аддалі Малахаў курган. Пайшлі з Севастопаля.

Расплаціліся за ўсе дзесяцігоддзі, у якія распіналі ўсё як ёсць маладое, смелае, годнае.

А, між тым, апошніх слоў імператара, за якія так распіналіся тысячы гедымінаў, зусім не было. Іх прыдумалі потым, каб людзі вучыліся гінуць, не наракаючы.

## XXVIII

У жніўні тысяча восемсот пяцьдзесят пятага года да Алеся, які ў гэты час жыў у Вежы, прыскакаў з Загоршчыны Логвін, прывёз ліст у грубым пакеце з шэрай паперы.

«Дружа,— пісаў Каліноўскі.— Я скончыў сваю мачыху-прагімназію. Еду паступаць у альма матэр. У Маскву. Хацелася б убачыцца з табою, ды толькі ведаю: немагчыма. Трохі-трохі падзарабіў, атрымаў у начальніка губерні пашпарт і падарожную за нумарам пяцьдзесят шостым. А ў ёй — усё. Двухгаловая курыца, рубель срэбрам гербавых узносаў, прыкметы (аблічча — авальнае, цяжкае, год — семнаццаць, рост — сярэдні, валасы — цёмна-русыя, бровы — чорныя, вочы — сінія, нос і рот — памяркоўныя, трохі велікаватыя, падбародак — звычайны,— распісалі, хоць ты на Ветку, да раскольнікаў, уцячы, і то знойдуць). Такая лухта! Пачынаецца падарожная, як выявілася, словамі: «Па ўказу яго Вялікасці гасудара імператара Аляксандра Мікалаевіча...» Аж во як! Нібыта кожнага з падарожных ляпае па плячы: «Едзь, братка, шчаслівай табе падарожы».

Вось я і еду. У Мінску зрабіў прыпынак на чатыры дні і адсюль пішу. Горад вялікі і даволі-такі гразны. Толькі вельмі ўпадабаў Залатую Горку з капліцай старога Роха. Дрэвы вакол, і так прыгожа блішчыць наводдаль Свіслач, і дамы за ёй і цэрквы. Добра сядзець і марыць.

Падарожжа, пакуль тое, падабаецца. Едзеш сабе, ні аб чым не думаеш, званок не звініць, наперадзе — воля, бачыш людзей і іншыя мясціны.

Дзесятага траплю, калі верыць падарожнай, у Воршу. Буду там гадзіны чатыры і зусім блізка ад цябе, нейкіх сотню з лішнім — дакладна не лічыў — вёрст. Але гэта таксама далёка, так што не ўбачымся і на гэты раз. І дарага. Мне прагонных за два кані з правадніком выпала нешта каля сямі рублёў, табе будзе — у два канцы — рублі два з паловаю. Чаго ўжо тут. Дык ты ў гэты час проста падумай, што я блізка, і я абавязкова адчую.

А калі скончыш на будучы год гімназію — што мяркуеш рабіць? Сядзець мядзведзем у сваім берлагу ці ехаць вучыцца далей? Калі другое — едзь туды, дзе я. Пагаворым аб усім-усім. Ёсць шмат цікавых навін».

Алесь пайшоў да старога Вежы. Той сядзеў на сваёй улюбёнай тэрасе.

Унук спыніўся, не хочучы яго турбаваць.

— Я чуў цябе яшчэ за пяць пакояў,— не ўздымаючы павек, сказаў дзед.— Што ў цябе там?

Алесь падаў яму ліст.

Стары пан расплюшчыў вочы.

— Твой Кастусь,— сказаў ён.— Ты даеш мне, каб я прачытаў?

— Так.

Пан Даніла далёка адставіў руку з лістом і стаў чытаць.

— У яго добры, роўны почырк,— сказаў ён.— Ён часам не з «памяркоўных і акуратных»?

Вочы ягоныя, відаць, убачылі словы «двухгаловая курыца», і ён усміхнуўся.

— Прабач, сам бачу, што гэта не зусім тое. Ну, а што, калі недзе ў Бабруйску сядзіць паштмайстра Шпекін?

Чырвоны Алесь паціснуў плячыма.

— Пячаць,— сказаў ён.

— Пячаць,— перадражніў дзед.— Пячаць можна зняць гарачай брытвай, а потым пасадзіць на месца.

Дачытаў да канца.

— З небагатых,— сказаў ён.

— Я казаў вам гэта, дзядуля.

— Вы і надалей намераны карыстацца паслугамі дзяржаўнай пошты для перадачы адзін аднаму свежых параўнанняў і шчырых выказванняў пачуццяў, падобных на гэтыя?

— Мы іначай не можам гаварыць. Мы далёка адзін ад аднаго.

— Нашто ты паказаў мне гэта?

— Я хацеў яшчэ раз паказаць вам, які... які ён.

— Калі ты хацеў паказаць мне, які ён разумны, то ты не мог бы дасягнуць сваёй мэты лепшым чынам. Я ў захапленні ад яго разумовага ўзроўню і... гм... асцярожнасці.

Ён працягнуў руку па цыгарку.

— Я на сёмым небе ад яго высакароднага захаплення радзімай. Mais il faut aussi quelque inteligence[1].

Дзед, ані слова больш не кажучы, пускаў пахучы дым і пісаў цыгаркаю ў паветры нейкія дымныя іерогліфы, якія расплываліся раней, чым хто-небудзь мог бы іх прачытаць. Ён рабіў гэта доўга, вельмі доўга. Дзедавы думкі прачытаць было цяжэй, чым гэтыя шэрыя жывыя знакі ў паветры. Кандраці з'явіўся ў дзвярах нечакана.

— Што,— спытаў Вежа,— нікога больш не было?

— Я быў бліжэй за ўсіх,— сказаў Кандраці.

Алесь уцяміў, што ўвесь гэты час Вежа трымаў нагу на званку пад сталом.

— Слухай, малочны брат,— сказаў Вежа.— Я ведаю, ты сам адчуў, што нешта здарылася ў доме. Магчыма, хацеў даведацца, што прывёз Логвін.

— Вельмі трэба,— буркнуў Кандраці.

— Але ты ўсё ж не хлопчык, каб ісці на кожны званок. Ты — брат і наглядчык лясоў. Твая жонка — другая гаспадыня ў доме пасля Еўфрасінні.

— Ды ўжо,— сказаў Кандраці.— Ніхто не забароніць маёй жонцы памыць падлогу, калі яна захоча. Паня якая!

Дзед асекся.

— Што трэба пану брату Данілу?

— Тройку для паніча,— сказаў дзед.— Зараз.

Кандраці пайшоў. Некаторы час панавала маўчанне.

— Дзеду,— ціха сказаў Алесь.— Я вам гэтага ніколі не забуду.

— Не варта падзякі,— сказаў дзед.— Я эгатыст, ты ж ведаеш. Я хачу, каб у дзяржаўнай пошты было хаця на два пісьмовыя доказы менш. Мне не хацела-

---

[1] Але трэба таксама мець хаця трошкі розуму *(франц.)*.

ся б, каб цябе з тваім Кастусём за лухту заслалі некуды на Орскую лінію.

— Я разумею...

Вежа ўздыхнуў.

— Сёння якое?

— Дзевятае.

— Адны суткі. Калі паспяшаешся, можаш сустрэць.

— Тады лепей вярхом.

Дзед памаўчаў.

— Так што хапай яго на «яме» і цягні сюды. Перадай: не прыедзе — табе будзе балюча, а я за цябе пакрыўджуся. Цікава паглядзець, што то за птушка, з якой дзяліцца даводзіцца.

...З цугляў каня падала ўжо мыла, калі Алесь, мінуўшы алею, што вяла да белых муроў і сляпучых макавак куцеянскага манастыра, вырваўся, урэшце, на край высокага плато і ўбачыў стромы спуск дарогі, сінюю істужку нешырокага тут Дняпра, а за ёй гарадок, што ўтульна прымасціўся між Дняпром і невялікай рачулкай.

Конь, асядаючы на зад, спускаўся да наплыўнога моста, які нехлямяжа ляжаў на вадзе.

Алесю не было часу разглядаць усё. На станцыі чакаў і вось-вось мог паехаць Кастусь.

Конь загрукатаў падковамі па насціле. Воз з сенам трапіўся якраз на сярэдзіне — і вада заліла бабкі каню. Конь пацягнуўся да вады, Алесь падняў цуглямі ягоную галаву.

Справа тырчалі з вады магутныя, напаўразбураныя аркі каменнага моста, калісьці, відаць, такога шырокага, што тры вазы з сенам маглі праехаць побач і яшчэ засталося б месца двум коннікам.

Гэта былі руіны «моста на крыві», на якім калісь вырашалі свае багаслоўскія пытанні задняпроўскія манахі з іхнімі прыхільнікамі і гараджане з каталікаў, узначаленыя шкалярамі з езуіцкага калегіума.

А паколькі на доўгія дыспуты ні ў кога не хапала ні часу, ні розуму, то пераконвалі адзін аднаго ў справядлівасці «свайго» Хрыста спосабам, у якім было мала талеранцыі і яшчэ менш гуманізму. Не апошнімі довадамі ў гэтай спрэчцы было завушэнне, розных ступеняў моцы ўдары біблiяй ці каўчэжцам па галаве, выспяткі.

Да ліку неабвержных доказаў, якія даводзілі няслушнасць апанента і з якімі ўжо не было як змагацца, належалі ўдар бязменам па галаве і скіданне з вышыні ў ваду. І так цягнулася дзвесце год, невядома на чыю карысць.

Узняўшыся на другі бераг, Алесь зноў пагнаў каня. Прамільгнулі з левага боку замчышча, мікалаеўская царква і два касцёлы. Наводдаль лёгка ўзносіліся ў неба дзве званіцы Пакрова-Гумённай царквы.

Замкавай вуліцай вырваўся на Пецярбургскую, высякаючы падковамі іскры з каменных пліт.

Каля аднапавярховага каменнага будынка ямской станцыі стаяла запыленая — хоць ты пальцам на ёй пішы — паштовая карэта, і людзі стаялі на прыступках, а фурман з паштальёнам прывязвалі ўжо вяроўкамі кофры і сакваяжы.

Ён асадзіў каня і скочыў з яго, кінуўшы павады.

Нейкія не тыя людзі. Стары чыноўнік з клуначкам... Жанчына ў чапцы, відаць, ягоная жонка... Семінарыст... Два шляхцюкі з сярэдніх.

— Скажыце, дыліжанс па смаленскай лініі рушыў ужо?

У той самы момант, як спытаў гэта ў семінарыста, з радасцю ўбачыў, што не спазніўся.

Кастусь сядзеў ля сцяны, на лавачцы. Сядзеў, палажыўшы падбароддзе на сугіб рукі, і глядзеў сваімі сінімі вачыма, як запрагаюць коней. Глядзеў пахмура і з відочнай нудотай.

Гэта быў той і не той Кастусь. Валасы па-ранейшаму падалі назад, паказваючы высокі і чысты лоб, але былі даўжэйшыя. Ледзь прыкметна прабіваліся вусы, і хлопцаў рот здаваўся, ад асмужанага ценю над ім, яшчэ больш уладным.

Апрануты ён быў у сурдуцік, у бэжавыя нанкавыя панталоны і запыленыя паўбоцікі. На гожай мускулістай шыі сцягваў каўнер белай кашулі шырокі чырвоны гальштук.

Каліноўскі ўзняў галаву і доўгім непаразумелым позіркам, нібы не пазнаючы, абвёў цёмнага ад загару юнака.

— Алеська...

— Кастусь!..

— Панове,— сказаў гарэлачным голасам станцыйны наглядчык.— Проша сядаць.

— Я... еду зараз,— яшчэ цішэй сказаў Кастусь.— Во і дыліжанс.

— Пайшлі яны са сваім дыліжансам! — выгукнуў Загорскі.

Кастусь збянтэжана муляўся. І тады Алесь працягнуў яму рукі.

— Кастусь!.. Во дык Кастусь.

— Алеська! Братка! Алеська!

Яны кінуліся адзін да аднаго ў абдымкі.

Коннікі няспешным трухам выехалі з дрымотнай засені векавой пушчы і ўбачылі пад страшным стромым урвішчам Дняпро. Ён спакойна і рэдка зіхацеў дробнымі хвалямі, як сіняе срэбра.

Яны ехалі адны, далёка наперадзе ўсіх астатніх. Логвін з падстаўнымі быў відаць ледзь не за вярсту.

...Ноч спалі ў котчым вазку, а ля Дошчыцы сустрэлі трэцюю падставу і зноў пераселі ў сёдлы, хаця з Кастуся быў і не зусім добры яздок.

Кастусь ехаў на снежным Ургу, той быў спакайнейшы. Алесь — на Тромбе, які нікога не хацеў ведаць, акрамя гаспадара.

— Дзівоснай якой прыгажосці коні,— сказаў Каліноўскі.

Алесь усміхнуўся.

— Ведаеш, я аднойчы, яшчэ дзіцем, сасніў дзівосны сон. Разумееш, была ноч і туман. І коні. Белыя, дзівоснай прыгажосці. Я ляжаў ля згаслага вогнішча, а коні схілялі галовы і дыхалі цёпла. А паміж коней стаяла мокрае жарабятка. Снежнае ўсё, а хвост смешны, тоўсты... І туман збягае, а ўсюдых белыя коні.

— Ты, Алесь, часам вершаў не пішаш?

— Спрабую,— чырванеючы, адказаў Алесь.

І тут пачуў нешта такое, чаго ніяк не чакаў ад Кастуся.

— І я часам... таксама,— натуральна і проста сказаў сябар.

— І... добрыя вершы?

— Дзе там,— уздыхнуў Кастусь.— Каб пісаць добрыя, трэба ўвесь час працаваць. А я... Мне здаецца, не ў гэтым цяпер наш лёс.

Алесь здзівіўся, так пазмрачнеў раптам твар сябра. Нешта пакутлівае з'явілася ў яго вачах. Ён быў зусім непадобны на Яраша Раўбіча, ягоны сябра, але агульны выраз вачэй, вуснаў, ссунутых броваў зрабіў іх на хвіліну вельмі падобнымі.

— Цябе нешта прыгнятае? — спытаў Загорскі.

— Потым, Алесь.

— Бачу,— сказаў Алесь.— Ты не хочаш, але...

— Я не хачу, але гэта вышэй за мяне.

— І таму ты не хочаш пісаць вершы? Але ж лёс паэта — самы шчаслівы лёс.

— Хто гаспадар у сваім лёсе? Хто ведае, колькі яму дадзена жыцця і калі прыйдзе смерць?

Коні ішлі ледзь не над самай стромай. Салодкі, магутны вецер ляцеў з-за Дняпра, нёс з сабою пах стагоў, водар звялай лістоты, якой іх прыкрылі зверху, пах сырасці і балотных кветак са старыкоў.

— За такую зямлю ўсё аддаць можна,— ціха сказаў Кастусь.— Усё.— І вярнуўся да ранейшай думкі: — А наконт таго, што твой дзед так накінуўся на цябе за мой ліст, то тут я зрабіў, як апошні ёлуп. Ён, відаць, усё разумее.

— Што ўсё?

— А тое. Тое, што раней душылі і хвасталі, а цяпер... цяпер патроху цісנуць. Забяры ў чалавека ў адзін дзень сваякоў, хлеб, волю, мову. Ён жа ўзбунтуецца. Ён зброю возьме. А тут цісנуць патроху, па каліву, па слоўцу, па чалавеку, па песні — непрыкметна адбіраюць.

— Так,— Алесь матлянуў галавою.— І ўсё ж, пакуль тое, цягне цяплейшым ветрам. Вясною... Пасевастопальскай вясною, калі ўжо так называць.

— Пачакай, дасца яна нам яшчэ ў знакі, тая вясна... Яны заўсёды так спачатку. Адпусцяць нібыта, а потым грабуць ды скубуць... Но, не брыкайся! Адпусцілі ж!

Урга пакасіўся на ездака нервовым вокам.

— Новы цар, здаецца мне, дабрэйшы,— сказаў Алесь.

— Паглядзім,— сказаў Кастусь.— Паглядзім, які ён будзе, як прыпячэ.

Яны сядзелі ўтрох у бібліятэцы, за кавай. Дзед у сваім крэсле, юнакі, падкурчыўшы ногі, на канапе.

Праз расчыненыя вокны лілося цёплае вячэрняе паветра і ззянне месяца. Дзве свечкі ў кутым жалезным падсвечніку асвятлялі — высока над сталом — сухое аблічча старога Вежы, яго ссутуленыя магутныя плечы, сплеценыя пальцы змаршчкаватых рук.

Дзед з прыхаванай цікаўнасцю раз-пораз паглядаў на Кастуся. Хлопец і падабаўся і не падабаўся старому. Ён-то і разумны, відаць, і шчыры, але адкуль у ім такая самаўпэўненасць, пачуццё гэткай сваёй гасці?

А Кастусь разглядаў сівую грыву валасоў, хвалю белых карункаў на пукатых яшчэ грудзях і думаў.

«Таксама яшчэ... выкапень. Проста «сей остальной из стаи славной екатерининских орлов». Нібы закансервавалі яго тут. І на́ табе яшчэ, разглядае».

Пры сустрэчы дзед амаль нічога не сказаў яму, акрамя нязначных слоў прывітання. Потым хлопцы абедалі. І вось сядзелі, мацалі адзін аднаго вачыма.

— Дык гэта ты, значыць, і ёсць Кастусь?

— Кастусь... Сымонаў сын... Каліноўскі.

— Дваранін? — спытаў дзед.

— Цяпер зноў дваранін,— сказаў Кастусь.

— Як гэта? Хіба можна быць сёння дваранінам, заўтра купцом, а паслязаўтра зноў у дваране пасунуць?

— Пры такім урадзе, як наш, усё можна,— зрабіў Кастусь першы выпад.— Сёння чалавек — смецце, заўтра — дваранін, паслязаўтра — зноў смецце.

Алесь усміхнуўся, заўважыўшы, як адно з крылатых броваў Вежы прыўзнялося ў непрыкметным для старонняга здзіўленні.

— Гм... Дык як жа гэта выйшла, мо ўжо ты раскажаш мне?

— Магу!

Вежа зручней прымасціўся ў крэсле і праз краёчак кубка кінуў на юнака дапытлівым хітрым вокам.

— У семнаццатым стагоддзі мой продак, Амброзій Самойлаў Каліноўскі, купіў маёнтак у Бельскай зямлі.

— І няблага зрабіў,— сказаў Вежа.

— Мы там не прабылі і сотні год. Роўна праз дзевяноста, у тысяча семсот шэсцьдзесят дзевятым, прадзед прадаў маёнтак. Даўгі прыціснулі, моцныя суседзі памаглі.

— Як жа клікалі яго высакароднасць?

— Мацеем... А далей пачалі жыць так. Што праўда — у шляхецтве нам не адмаўлялі. Пацвердзілі яго трыццаць тры гады назад на беластоцкай губернскай зборні. А праз дзесяць год, пасля паўстання, пачалі нас усіх гнаць у аднадворцы. Тысячы людзей пайшлі ў падатковы стан. Бацька пабіваўся, як той лін аб лёд. Праз чатыры гады пасля паўстання ён (а яму ішоў [illegible] к адзін год і пазнавата было пачынаць [illegible], але з голаду здыхаць — таксама рана) пазычыў у фабрыканта з Астраленкі, Ігнацыя Бонды, грошай, ды сам далажыў, ды і адкрыў у Мастаўлянах сваю «справу». Пан Радавіцкі дазволіў. Шкадаваў беззямельных. Ды і гонар: «споспешествовал промыслам в крае». Спачатку было на фабрычцы чатыры варштаты. У год майго нараджэння, у трыццаць восьмым, ужо дзевяць, з семнаццаццю рабочымі. А ў саракавым годзе, калі Бонда паступіўся сваёй доляй, стала ўжо дванаццаць варштатаў і дваццаць рабочых.

Вежа слухаў гэтую сумную гісторыю пакутнай бітвы за дабрабыт, кавалак хлеба і незалежнасць без усмешкі. Вочы яго былі ласкавыя і сумныя.

— Пяўся, як вол у баразне,— казаў далей Кастусь.— Дзіва што! Такая сям'я. Трэба было ўсё павялічваць колькасць варштатаў. Узбіваўся ўжо на пятнаццаты, а тут ледзь не крах. Палатніна пачала выходзіць з моды.

— Вядома,— зноў вяртаючыся да ўлюбёнай іроніі, сказаў Вежа.— Куды ўжо нашым дарабковічам на палатняных абрусах есці, пад палатнянай прасцінай спаць, палатнянай сурвэткай выціраць вусны... А што, палатніну выраблялі простую?

— І простую, і чынаватую, і клятчастую. Але ўсё ледзь не пайшло макам. Выручыла лібаўская філія данцыгскай фірмы «Ленке і Берг». У іх на палатніну заўсёды попыт, а ў нашым пасведчанні сказана, што нашы сурвэткі і абрусы не горшыя, а чынаватае палатно лепшае за замежнае.

— Спадобіўся пан Сымон,— сказаў Вежа.

— Спадобіўся, ды не дужа,— сказаў Кастусь.— Бо якраз памерла маці.

— Ты яе памятаеш? — спытаў Алесь.

— Дрэнна,— адказаў Каліноўскі.— Амаль не памятаю. Ведаю толькі: прыгожая была. Часам сустрэнеш жанчыну з добрым гожым абліччам — і

шукаеш у яе рысах матчыны. Мо такая была. А мо і не такая. Не помню. Ведаю толькі: маладая была надзвычай прыгожая.

— Якога роду? — спытаў Вежа.

— Вераніка з Рыбінскіх.

— Н-не ведаю,— на гэты раз ужо ўсур'ёз сказаў стары.

— Я дрэнна яе памятаю. Толькі рукі. І яшчэ вочы. Ды песню, якую спявала. Захварэла задоўга да смерці. Расказвалі, якраз калі хрысцілі мяне. Прывезлі ў Ялаўскі касцёл. Быў позні вечар. Пакуль на бабінцы рыхтаваліся, купель ставілі, пакуль тое — матуля з кумою ды мной пайшлі па цвінтары прайсціся. Цвінтар там вялікі. Падышлі да магілы Леакадзіі Купчэўскай, швагеркі ялаўскага пана (яна маладая памерла, і ўсе казалі, што матуля чымсьці на яе падобная была, толькі прыгажэйшая, і таму маці заўсёды там спынялася). Стаяць. А з-за помніка, з-за барэльефа пані Ліёшкі — раптам морда. Ды страхалюдная, зарослая. Пакуль зразумелі, што гэта мясцовы юрод, Якубка Кот,— ногі ў абедзвюх самлелі. А той ідзе за імі да касцёла, вытанцоўвае ды кажа нешта накшталт: «Кумы дзіця хрысцілі, горла крапілі, у кажушаны рукаў паклалі, па дарозе згубілі... Ляжыць дзіця на марозе, свечачкі вакол. Пальчыкам варухне — перуны смаляць, кулачок сцісне — грамніцы б'юць. У «чорнага»! У «чорнага»!» Маці крок паскарае, а той плача: «Падбярыце дзіця, добрыя людзі. Ці доўга яму, халоднаму, пальчыкам варушыць? А людцы міма ідуць, а грамнічкі слабнуць. Вох-вох!!!» Юрода, вядома, пагналі. Ледзь пачалі хрысціць — грымоты за цвінтаром. А гэта сусед, Цыпрук Лазарэвіч, сабраў хлопцаў і кажа: «Пагрымім на шчасце кугакалу». Ну, і стралялі ў неба. А ўсім спачатку здалося — грымоты. Пасля юродавых слоў жанчыны аж абамлелі: грымоты ўзімку. Хросная казала: з гэтага дня ў маці і пачалося. Пачала марнець, чэзнуць. Работы шмат. Дзяцей адных дванаццаць чалавек. А яшчэ маладая. Мяне чамусьці вельмі шкадавала.

«Чым жа вы багатыя, панове? — успомніў дзед.— Дзецьмі, ды смехам, ды дняпровай вадой».

А Кастусь расказваў далей:

— Памерла. Бацьку трэба было думаць, як з дзецьмі. Без маці не кінеш. А ў таго Цыпрука Лазарэ-

віча, што на маіх хрэсьбінах у неба страляў,— сваячка. Трохі з тых гадоў выйшла, калі сваты ля варот аціраюцца, і прыгажосці не першай, але добрая баба. Так і з'явілася ў мяне мачыха Ізабела, ды яшчэ сем братоў і сёстраў. Дзевятнаццаць было б усіх, але двое памерла.

Кастусь памаўчаў.

— У мачыхі знайшліся сякія-такія грошы, бацька наскроб, і купілі мы фальварак, а пры ім дзве сотні трыццаць дзесяцін зямлі. Па трынаццаць дзесяцін на чалавека. Фабрыку перавезлі, жыць стала — як адной купай — дык і не дрэнна. Ну і што? Падзеліш — зноў бязглуздзіца. Горш за іншых сялян. Бацька старэйшых сыноў — вучыцца, на свой хлеб. І, карыстаючыся, што зямля ёсць,— парогі абіваць. «Куку ў руку» даваць. І вось у гэтым годзе, урэшце, уганорылі, далі сенацкую пастанову: лічыць уладара фальварка Якушоўка, Сымона Стафанава Каліноўскага, год шасцідзесяці аднаго, веравызнання рымска-каталіцкага, як і нашчадкаў ягоных, дваранінам. Дваццаць чатыры гады спатрэбілася на прысуд. Пачаў дабівацца малады, у трыццаць пяць год, маці была маладая, здаровая, а дабіўся — руінай. Ненавіджу я ўсё гэта.

На скіўіцах у Кастуся хадзілі ўпартыя жаўлакі. Гарэлі на шчоках дзве чырвоныя плямы.

— Нішто, брат,— сказаў Вежа.— Вывучышся вось, галава ў цябе добрая, дойдзеш да вялікіх начальнікаў — толькі перайка з «меншых» ды з «малодшых» братоў паляціць.

— А што,— усміхнуўся Кастусь.— І тарыф над галавою павешу, як зэльвенскі пісар: за подпіс — тры рублі ды пірог з вязігай, за пацвярджэнне дваранскай годнасці — тысячу рублёў ды жонцы сем аршынаў аксаміту. А я сам — у сенаце шышка дужа вялікая. Заходзіць гасудар імператар выпадкова: «Гнаць,— кажа,— яго за такую таксу».

— Правільна,— буркнуў Вежа.— «Бо ён нам усім цану збівае,— скажа імператар.— Мне унь за канцэсію на пабудову чыгункі колькі плацяць, ды і то мала. А тут... пі-рог з вязігай. У дурня і песня дурная»[1].

[1] Прадажнасць вышэйшых колаў дасягнула небывалых памераў. Нягледзячы на частыя працэсы, кралі ўсе, і вінаватых не

Лілося праз вокны ў пакой святло месяца і змешвалася з ружовым святлом свечак.

— Ты што, Кастусь,— спытаў Вежа,— ты, значыцца, паляк?

— Не, я тутэйшы,— асцярожна сказаў Каліноўскі.

— Ён беларус, дзеду,— сказаў Алесь.

— А гэта што такое? — непаразумела спытаў дзед.

І толькі тут упершыню заўважыў, як малады чалавек напружыўся, нібы яго ўдарылі, зірнуў на Вежу змрочнымі вачыма.

— Ён жа вам казаў, пан Вежа,— сказаў Каліноўскі.

— Я казаў табе,— сказаў Алесь.

— А,— нібыта ўспомніў Вежа,— прыпамінаю. І вы верыце ў гэтыя жарты?

Тут успыхнуў і Алесь. І Вежа зразумеў, што зайшоў далекавата. Але бес усё яшчэ сядзеў у ім.

— Як жа не паляк,— сказаў ён.— Хрысцілі цябе ў касцёле. Веравызнання ты — рымскага.

— Ну і што,— цяжка рухаючы сківіцамі, сказаў Кастусь.— Прашу прабачэння, заўтра я ахрышчу вас у касцёле — і вы не станеце з гэтай прычыны палякам. А я перайду ў магаметанства і не стану туркам. Будзе беларус магаметанскага веравызнання і беларус веравызнання каталіцкага.

— Нядрэнна для пачатку,— сказаў дзед.

— І для канца нядрэнна. Тым больш што ваш малодшы ўнук — каталік. Па вашаму загаду.

Вежа ажно вохнуў. Чарцяня біла проста пад дыхала.

— Але ж мясцовасць, адкуль ты родам, гэта Польшча?

— Магчыма,— сказаў Кастусь.— Але цяпер гэта Гродзенская губерня.

— А заўтра наш... гм... Аўгуст... далучыць да Гродзенскай губерні Варшаву.

— А жыхары, якія называюць сябе ліцвінамі, а свой край Літвою?

---

было. Канцэсія на пабудову чыгуначнай лініі каштавала таго, што каштуе, плюс мільён-паўтара рублёў хабару. Калі пасля забойства Аляксандра II ацэньвалі ягоную маёмасць, дык толькі «добранабытая» ім самім сума дасягала амаль шасцідзесяці мільёнаў.

Размова і падабалася і не падабалася Вежы. Падабалася, бо чарцяня ведала, чаго хоча. Не падабалася, бо гэтыя веды пагражалі і ўнуку і самому чарцяняці небяспекай.

— А ты ўмееш гаварыць па-літоўску? — з усмешкай спытаў ён.— Гэта ж, здаецца, не славянская мова?

— Я маю на ўвазе не Літву-жмудзь,— упарта, кусаючы вусны, сказаў юнак.— Я маю на ўвазе Літву-Беларусь... І потым, вы ж добра ведаеце, адкуль вырасла тая памылка.

— Я-то ведаю, а вось адкуль ведаеш ты?

— У мяне брат гісторык. І потым — я не глухі. Семнаццаць год я чую слова Літва. А да мяне яго ўжывалі яшчэ трыста год.

І тут Вежа зрабіў апошнюю спробу павярнуць варацідла, на якім ткалля-парка ткала лёс гэтых юнакоў. Нанёс апошні і па-сапраўднаму страшны ўдар.

Вонкава гэта выглядала як мілы жарт. Дзед наліў сабе яшчэ кубак кавы.

— І ўсё ж ніякі ты, хлопча, не беларус. Ты — паляк. Праўдзівей кажучы, мазур.

Каліноўскі ўстрывожыўся.

— Бо твой Амброзі Самойлаў сын Каліноўскі быў з Візенскай зямлі... «Мечнік Візскай зямлі. Сын мечніка Візскай зямлі. Унук мечніка Візскай зямлі...» А Візская зямля — гэта Мазовія.

— То вы ўсё ведалі самі,— разгублена сказаў Кастусь.— Нашто ж тады...

— Ты паляк, хлопча,— сказаў Вежа.— Я ведаю, табе цяжка развітацца з рашэннем, якое зрабіў ты сам. Але гэта вялікі народ, які значна больш ведае аб сабе, чым мы ўсе. Гэтым трэба ганарыцца, а іншых «тутэйшых» кінуць іхняму лёсу, калі ўжо яны нічога не хочуць... Галоўнае — быць чалавекам, сынок.

І раптам цішыню парушыў дзіўны прыглушаны гук.

Кастусь смяяўся. Смяяўся горка, трохі з'едліва і глуха:

— Так, Амброзі быў мечнік Візскай зямлі. Але там жывуць і жмудзіны, і немцы, і палякі, і беларусы. Вы ўзялі няпэўны довад, князь... Але няхай, няхай нават і так... Пасля яго мае продкі сто семдзесят год жылі на гэтай зямлі, елі яе хлеб, гаварылі яе

гаворкай, умываліся яе вадою, спявалі яе песні... Ды і хіба не ўсё адно, калі я сам лічу сябе «ліцвінам», беларусам, тутэйшым — назавіце гэта, як хочаце. Хіба не ўсё адно, калі дома ў мяне гавораць мужыцкай гаворкай, калі толькі адзін бацька — «для дзяцей» — ведае тое, што ў нас называюць «польскай» і якой не разумеюць палякі, бо гэта перакручаныя нашы словы.

Вочы ў Кастуся блішчалі.

— І хіба не ўсё адно, калі нябожчыца маці не ведала іншай мовы, і браты мае, і я сам не ведаў да прагімназіі іншай... Вы чулі, якая тая адзіная песня, што я помню ад маці?

Плакаў бы я, плакаў,
Ды не маю слёз.
Белыя бярозы
Пабяліў мароз.

Вежа маўчаў.

— Беларус,— з глухой іроніяй сказаў Вежа.— Сябра трызненняў майго ўнука. Што ж... Бог з табою, сыне. Хай табе доля дае шчасце.

І дадаў:

— Псіхапаты... Неразумныя... Мамчыны сынкі, што пахнуць малаком... Што ж гэта з вамі будзе, га?[1]

---

[1] Блытаніна з паходжаннем Кастуся Каліноўскага, здаецца мне, уяўная.

Пачнем спачатку. У Мастаўлянах, дзе нарадзіўся Кастусь, не было іншай царквы, чым уніяцкая. Уніяцтва сярод карэннага польскага насельніцтва не было. Уніятамі ў гэтай мясцовасці маглі быць толькі беларусы. Каліноўскія хадзілі ў касцёл. Яны маглі быць або спрадвеку каталікамі, або перавернутымі ў каталіцтва уніятамі. Гледзячы на тое, што нават Гейштар, які ўваходзіў разам з Кастусём (да разгрому белага ўрада) у «Камітэт кіраўніцтва», называе Кастуся «Litwin — separatysta», мы маем права верыць і таму і другому. Гейштар, праўда, кажа пра «старапольскае сэрца» нашага героя, але ці можна верыць ворагу Каліноўскага, шавіністу, прыхільніку белага жонда ў Варшаве.

І, у процівагу яго словам, аб такіх, як ён, Каліноўскі кажа: «Такой дурной мазгаўні, як Варшава, нельга даручаць лёс Літвы».

Дзіўна было б, каб Гейштар і іншыя «гісторыкі» яго напрамку казалі, што ён — беларус. Краіна ж героя была напаўмёртвая пасля разгрому і не магла бараніць імя сына. Кнігі беларускія канфіскоўвалі і палілі, друкаванне іх, нават ужыванне слова «Беларусь» было забаронена пад страхам кары... Між тым, паролем Кастуся і яго сяброў былі словы: «Каго любіш?— Люблю Беларусь!— То ўзаемна».

Але нават каб не было гэтага, заставаўся б яшчэ адзін, непарушаны нічым, факт: мова чалавека. На ёй напісаны перадсмяротныя вершы Каліноўскага.

«Мужыцкую праўду» Кастусь выдаваў таксама па-беларуску.

...У той год зноў спасцігла Прыдняпроўе страшная летняя повень. Як насланнё нейкае: вада стаяла на ўзроўні сярэдняй вясенняй паводкі. Дняпро заліў паплавы, яругі, вымачыны. Старарэчышчы ператварыліся ў пратокі, у доўгія азёры.

Вада ападала патроху, і відаць было, што Дняпро ўвойдзе ў трубу толькі на пачатку верасня. На ствалах дрэў, якія вызваліліся з-пад вады, быў тонкі пушок карэньчыкаў, так доўга стаяла повень. На ўзгорках карычневая скарынка высахлай твані ляжала як лямец, і ногі чалавека ламалі яе, пакідаючы дзіркі, у якіх была відаць чэзлая, жаўтавата-зялёная, бы ў склепе, трава. Стала ясна: сенажаці па нізкіх месцах прапалі.

Кастусь з Алесем, трымаючы ў руках крыгу, ішлі поплавам. І крыга, разгорнутая падвойная рама, абцягнутая мярэжай, нагадвала вялізнага, большага за хлопцаў, празрыстага матыля.

Ісці было цяжка. Ішлі па калена ў вадзе. Даводзілася грудзьмі пракладаць сабе дарогу ў траве. Маліны скрыпень казытаў разгарачаны твар, павой чапляўся за ногі. Усё вакол чырванела, бялела, жаўцела.

Здавалася, зацвіло бязмежнае плыткае мора. Бо травы стаялі ў вадзе, засыпанай каляровым кветкавым пылком.

Спыніліся на краёчку яругі, доўгай неглыбокай катлавіны. Кветкі нібы спыняліся на яе берагах, адкрываючы люстэрка чыстай бліскучай вады.

Кастусь адным вокам глянуў у мяшок, пачэплены вяроўкай за шыю. У ім пераліваліся цьмяна-залатыя ліны, халодныя гусцёркі і блакітна-зялёныя малыя шчупачкі.

— А нядрэнна мы ўхапілі,— сказаў Кастусь.

— Гэта яшчэ мала,— Алесь быў чырвоны і трохі спацелы.— Вада высокая шкодзіць. Звычайна па старыках разы за чатыры столькі натрасеш, а тут палову дня ходзім.

— Усё адно цікава. Нават лепей, што шмат ходзім.

— Нішто,— сказаў Алесь.— Зараз дойдзем да гарадзішча — адпачнем на сухім. А то тут і сесці няма куды.

— Як гэта няму куды? — спытаў Кастусь.

І сеў аж па самыя грудзі ў ваду. Сядзеў і смяяўся. Торба з рыбай усплыла і пачала барболіцца больш рухава.

— Зручна,— сказаў Кастусь.— Нібы ў цёплай ванне сядзіш. Толькі каб гэта рак за якое месца не хапануў.

— Тут іх няма,— сказаў Алесь.— Яны пад карчамі ды пад берагам. І потым, мала стала ракаў. Гады тры назад пошасць нейкая на іх прайшла. Берагі аж кіпелі крумкачамі ды варонамі.

— Гэта яны, мусіць, з гора падохлі. Знайшоўся на іх нейкі свой Аляксашка,— выскаліў Кастусь белыя прыгожыя зубы.

— А што табе гэты Аляксашка?

— А чорт яго ведае. Абяцае зашмат. А ў самога калі што і добрае, дык гэта шавялюра і бакі, ды яшчэ вусы. Як пікі. Але гэта ўжо ад цырульніка хутчэй залежыць.

І дадаў:

— Падбароддзе ў яго бязвольнае. А бязвольныя людзі — ох, якія яны часта бываюць упартыя ды злосныя! На кожным сваім капрызе могуць суседу вязы скруціць. Нібы даводзіць, што і ў яго цвёрдасць ёсць.

Кастусь баўтануў нагамі ў вадзе.

— Справядлівасці, відаць, і тут не будзе. У нас, наогул, справядлівасць гэтую своеасабліва разумеюць. Чорнага імя Сямашка-біскуп сам унію кінуў і сілком пачаў паству ў праваслаўе гнаць. Тут ужо ўсё, што хочаш, бывае: і страшнае, і смешнае. Смех у нас, вядома, таксама не дай бог! У пятлю хочацца ад такога смеху. То рэжуць людзям бароды, а з тых, хто не хоча, мыт за бараду бяруць. А тут прымусілі уніяцкіх былых папоў бароды гадаваць ды вопратку мяняць. Усе забарадзелі, як казлы. І тут Сямашку данос: поп такой і такой вёскі барады назнарок не хоча адпускаць, а значыць, і надалей перабывае ў гнюснай ерасі, такі ён і гэтакі. Марыць аб аўтакефаліі беларускай царквы, спіць і бачыць, каб гасудар ухайдокаўся... Папа туды, папа сюды, папа на допыт... «Што, быдла, зламысныя ідэі ў чорным сэрцы гадуеш?! Аўтакефаліі захацеў?! А ў манастыр на хлеб і ваду?!» І, галоўнае, ён, халера, ні ў чым не прызнаец-

ца. Некалькі месяцаў цягалі. Ледзь сапраўды за краты не трапіў. Ужо і прадпісанне было. І толькі потым выявілася, што барада ў папа ад прыроды не расце.

Яны шырока разгарнулі крыгу і падставілі яе пад куст, залітыя вадою. Алесь спінаю, каб вачэй не папсаваць, палез у хмыз і пачаў боўтаць у ім нагамі. Праз хвіліну Кастусь смыкнуў за вяровачку, і крылы сакнуліся. Загорскі падскочыў да сябра і памог яму ўзняць крыгу над вадой. У ёй ляжаў, відаць самлеўшы ад жаху, даволі вялікі шчупак, а побач з ім калаціліся тры цьмяна-залатыя ліны.

Ставячы раз-пораз крыгу, яны павольна пасоўваліся да гарадзішча.

— І чаму гэта, братка, так? Звычайная рыба доўга, мужна, я б сказаў, трымаецца, а шчупак, вялікі, моцны, драпежны, як выцягнеш яго з вады, так і самлее,— сказаў Кастусь.

— Я думаю, звычайная рыба, яна — працавік. Жыве сабе, б'ецца, «штодзённы» свой цяжка зарабляе. А гэты — хапун, аспід драпежны. Злы чалавек не бывае мужны. Так і тут. Пострах ракі, а на расплату, як ва ўсіх такіх, кішка тонкая.

Кастусь вырваў з вады крыгу, і ў струменях плыўкага срэбра яны ўбачылі яшчэ аднаго нерухомага шчупака і зарагаталі...

...Калі яны паселі ля падножжа вялізнага гарадзішча і расклалі сушыць вопратку, Кастусь, абводзячы шырокімі вачыма мора кветак у вадзе, сказаў:

— Ну і зямля! Бог ты мой, якая зямля! Дык, хаця б за прыгажосць, няўжо яна кропелькі шчасця не заслужыла? Скубуць і скубуць, душаць і душаць.

— Гэта праўда,— сказаў Алесь.

Каліноўскі лёг на жывот і глядзеў цяпер на гіганцкую ўсечаную піраміду гарадзішча, на сляды равоў, на закляклыя схілы, на якіх шумела трава, на самотны дубок, што неяк прымасціўся на краёчку верхняй пляцоўкі, здабываў карэннямі бедны пакорм з цвёрдай, як камень, зямлі.

— Трымаемся, як той унь дубок,— сказаў Кастусь.— На руінах.

— Слухай,— сказаў Алесь,— чаму ты апошнія два дні сумны?

— Ты не думай, братка,— пасля паўзы сказаў Каліноўскі.— Мне добра ў вас, хаця і нязвыкла, бо танцуюць вакол цябе і Логвін, і Кірдун з жонкай, і Карп з Анежкай, і Кандраці, і іншыя.

— То што?

— Скажы, табе ніколі не было дрэнна ад думкі, што на цябе працуюць многія тысячы людзей? Калі пасяліць у адно месца, атрымаўся б вялізны горад. А вас шэсць чалавек...

— Мне тут пакуль нічога не належыць... А хатнія — людзі традыцыі, хаця і разумеюць неабходнасць змен,— стрымана сказаў Алесь.— На зборні, чатыры, здаецца, гады назад, падалі галасы за скасаванне прыгону.

— Ну, а ты сам як думаеш?

— Калі буду гаспадаром — гэтыя людзі атрымаюць волю. У гэтым маё слова. Ведаю, можа, мне нават і хрыбціну зломяць. Але іначай нельга.

Над галовамі ў хлопцаў ляцелі на гарадзішча, нібы штурмуючы яго, сонечныя, сляпуча белыя аблокі.

...Уначы, калі хлопцы ўжо ляжалі ў сваіх ложках, да іх прыйшоў на хвіліну стары Вежа. Сеў на краёчак Кастусёвага ложка, уважна глядзеў на госця.

— Ну як табе тут?

— Мне тут добра.

— Слухай, Кастусь, магу табе прапанаваць сёетое.

— Але.

— Пачакай да універсітэта тут. Разам з Алесем налета паедзеце. А гэты час будзеш вучыць дзяцей у маёй вясковай школе. І падзаробіш за год на два гады, каб па ўроках не бегаць... Га?

Кастусь адмоўна пахітаў галавою.

— Не. Я разумею вас, пан Вежа. І я вам удзячны. Але тут справа больш складаная. Мне трэба потым цягнуць братоў. І да таго ж...

Ён замяўся.

— І да таго ж, мне трэба хутчэй вывучыцца. Я не маю права рызыкаваць яшчэ адным годам.

— Я ведаю, ты ніколі не возьмеш ад мяне грошай.

— Ніколі,— сказаў Кастусь.

— То і дурань. Падзарабіў бы. А то будзеш сядзець на каве з хлебам.

Мускулы на шчоках у Кастуся абцягнуліся скурай.

— Кава і хлеб,— сказаў ён.— Вада і хлеб. Кроў і хлеб.

— Ну, гэтай дарогай мала каму дадзена ісці.

Кастусь упарта паматаў галавою.

— А калі дадзена, дык нельга збочваць. Народ наш без багацця, без зямлі, без мовы... І таму варта жыць і сутыкацца з ворагам. Хутчэй.

— Што ж,— сказаў Вежа.— Бадай што, маеш рацыю...

Вежа пайшоў. Хлопцы ляжалі і моўчкі слухалі свежы шолах паркавай лістоты. Спаць не хацелася. Быў самы лепшы час для размовы.

— Кастусь, што ты такімі вачыма сёння на Галінку Кахнову глядзеў?

— Прыгожая,— пасля паўзы адказаў Каліноўскі.

— Закахаўся, бядак?

Кастусь маўчаў. Потым уздыхнуў.

— Не. Я-то ўлюбчывы. Я нават вельмі ўлюбчывы. Але я, відаць, не маю права. Жыццё не маё.

— Як гэта не тваё?

— А так. Звычайна ў людзей так. Першае — гэта я, другое — сям'я, родны дом, трэцяе — родны горад, чацвёртае — родная краіна, пятае — родная Зямля, роднае Чалавецтва. І кожны любіць сам сябе, амаль усе — сям'ю, большасць — родны горад, частка — радзіму. І толькі адзінкі любяць чалавецтва. Па-сапраўднаму, а не на словах...

Ён сеў і абхапіў мускулістымі рукамі калені.

— Мы нават да любові да радзімы ў большасці не дараслі. І таму тут больш за ўсё патрэбны людзі, якія прайшлі ўсе ступені. Бываюць такія, багатыя любоўю і нянавісцю. У іх увесь свет узарваны і перакулены. Яны любяць чалавецтва больш, чым радзіму, радзіму больш, чым родны дом, а ўсё гэта разам — больш за саміх сябе. Яны, разумееш, свабодна аддаюць жыццё і дом і ўсё — для краіны і чалавецтва.

— І ты хочаш быць такім?

— Буду вельмі старацца... Што ж, самога сябе я аддам. А каго я маю права аддаць, акрамя сябе? Жонку? Дзяцей?

У цемры блішчалі ягоныя вочы.

— Не, калі аддаваць, то толькі сябе. Брат Віктар кажа: каханне не павінна вісець у нас на нагах... Наш народ спявучы, таленавіты, горды. І вось яго ўвесь час дзякуюць за дабрыню, седзячы на ягонай спіне.

Стукнуў сябе кулаком у грудзі.

— Песні нашы затаўклі ў гразь, талент распялі, гордасць аплявалі. Усё забралі: зямлю, ваду, неба, свабоду, гісторыю, сілу... А я ўсё гэта люблю...

Шапацела лістота. Быццам тысячы тысяч уздыхаў ляцелі ў адчыненае акно.

— Нельга больш. Нельга больш. Нельга больш цярпець, інакш страцім апошняе: душу сваю жывую.

— Я таксама даўно пра гэта думаю,— сказаў Алесь.— Зброяй трэба нарадзіць павагу да сябе і да мужыка. І волю нарадзіць таксама — зброяй. Я гаварыў пра гэта з сябрамі.

— З Мсціславам?

— І з ім.

— Мсціслаў — харошы хлопец. Ён мне спадабаўся. І Майка твая мне спадабалася. Але як табе з ёю быць, калі справа дойдзе да зброі?

— Не ведаю.

— А хто яшчэ?

— У нас у гімназіі ёсць суполка. «Братэрства шыпшыны і чартапалоху». Праўда, амаль дзіцячая яшчэ выдумка. Мсціслаў, Пятрок Ясюкевіч, Усяслаў Грыма, Мацей Біскуповіч і я.

— Знойдуцца, відаць, і іншыя,— стрымана сказаў Кастусь.

— За апошні час мы трохі сціхлі,— Алесь таксама сеў.— Усё ж не фельдфебель над галавою. Лягчэй стала жыць.

— Лухта! — сказаў Кастусь.— Лягчэй стала жыць! На гэта мне нядаўна даў адказ Алекс дэ Таквіль.

— Француз гэты? Гісторык?

— Але. Віктар аднекуль дастаў выпіскі з ягонай новай, ненадрукаванай яшчэ кнігі. Пастараюся прыпомніць больш дакладна... Ага: «...не заўсёды прыводзіць да рэвалюцыі пераход ад дрэннага становішча да горшага. Часцей здараецца, што народ, які цярпеў без скарг і больш страшныя ўмовы, сілком скідае з сябе іхняе ярмо, менавіта тады, калі яно робіцца лягчэйшае.

Стан рэчаў, які выклікае рэвалюцыю, бывае амаль заўсёды лепшы за той, які быў непасрэдна да яго, і вопыт вучыць, што для дрэннага ўрада найбольш пагрозлівая тая хвіліна, калі ён, урад, пачынае трохі выпраўляцца. Зло, якое цярпліва выносілі, як штосьці непазбежнае, робіцца нясцерпным пры думцы, што можна ад яго вызваліцца...»

Кастусь стаў на калені і, гаворачы, глядзеў у парк, дзе білася і тужліва ўздыхала лістота.

— Так, відаць, і ў нашым становішчы. Тым больш што царок нічога вялікага не робіць, а так, нібы мёдам злёгку па вуснах мажа. Усё, як раней. Дзяржава — паліцэйскі ўчастак. Дзяржава — турма.

На твары ў Кастуся зноў з'явілася нешта пакутліvae, ценъ нязвыклай і, па маладосці год, страшнай, непажаданай думкі.

— Ты раптам зрабіўся падобны на Раўбіча. Толькі маладзейшы.

— Мне ніякавата,— уздыхнуў Кастусь.— І мне вельмі страшна. Здаецца, я беспаваротна вырашыў. Іншай дарогі для мяне няма.

Алесь развёў рукамі:

— Каб жа ж можна было хоць што зрабіць! Школы на сваёй мове, паступовае вызваленне — тады яшчэ сяк-так. Але ж не даюць. Не паўстанеш — будзеш жыць, як усе: жэрці, напівацца, паляваць, аціраццa ля спадніц. Сумленне страціш. А паўстанеш — таксама страшна. Гэта, магчыма, і плаха.

Голас ягоны сарваўся:

— Галоўнае, мала нас, мала! Адзінкі!

Кастусь лёг на спіну. Доўгі час маўчаў, глядзеў у цемру бліскучымі вачыма. Пасля сказаў глухім, але цвёрдым голасам, нібы канчаткова вырашыў усё:

— Не трэба тысячы, каб пачаць. І не трэба ста, каб пачаць. І не трэба... дваіх, каб пачаць...

## XXIX

Алесь і Усяслаў Грыма ішлі Дамініканскай вуліцай да Святаянскіх муроў. Абодва пераапрануліся з гімназічнай формы ў цывільнае і стараліся трымацца далей ад ліхтароў. Хаця гімназістам старэйшага класа і дазвалялася не вельмі пільнавацца гадзіны,

пасля якой вучні павінны сядзець дома, але яны ішлі ў дом, наведванне якога магло не спадабацца начальству. Ды і прагулкі без формы не заахвочваліся. А іначай было нельга. Будуць глядзець, як на шчанюкоў.

Ішлі да Адама-Ганорыя Кіркора, рэдактара «Кур'ера Віленскага». У яго збіралася цікавае таварыства, і можна было гаварыць аб жыцці. Бывала і музыка, а ўжо спрэчкі — заўсёды. Гаспадар быў з ліберальных, асветнік і не больш, ды яшчэ з памяркоўных. Нехта з дэмакратаў у запале спрэчкі назваў яго аднойчы нават «калабарацыяністам», але гэтага не падтрымалі нават злоснікі. Проста жыў па прынцыпу «абы ціха было», часам запабягаў перад уладамі і імем імператара, але сяды-тады і яго прарывала злосцю. Ён дазваляў збірацца ў сваёй кватэры самым розным людзям, нават з крайнімі палітычнымі поглядамі.

Пачатак сакавіка плакаў капяжамі і ўначы. З дахаў раз-пораз спаўзаў і ляскаўся цяжкі падталы снег. Святло ліхтароў весела гуляла на сотнях ледзякоў.

Вёў Алеся знаёміць з людзьмі Усяслаў Грыма.

— Пакрычаць там сёння,— сказаў Грыма.

— Усе крычаць,— сказаў Алесь.

Увесь люты ішоў у Парыжы міжнародны кангрэс, які прыляпіў на чало імперыі ярлык слабасці і непатрэбства і завяршыў, урэшце, ганебную разгромную вайну не менш ганебным мірам.

— Набілі морду,— бурчаў цельпукаваты Грыма.— Вось вам. На вазах харч вязуць, гарматы разрываюцца. Ваяваць развучыліся. Шпіцрутэны — гэта мы ўмеем.

Кіркор жыў у будынку былога універсітэта. Хлопцы азірнуліся. Паглядзелі ў бок губернатарскага палаца, цікнулі вокам у цёмную арку двара Сарбевіуса. Наглядчык Цэзар Георгіевіч, па класнай мянушцы Цэрбер Гаргонавіч, мог трапіцца паўсюль.

Яны перабеглі вуліцу і нырнулі ў пад'езд. Падняліся па сходах, пастукалі ў дзверы. Сустрэла іх пакаёўка, узяла паліто. Праз шчыліну дзвярэй даляталі галасы.

...Гаспадар, убачыўшы Грыму, развёў рукі, быццам хацеў абняць. Азызлы, усё яшчэ загарэлы, дарма што зіма прайшла, твар яго бы пацяплеў ад усмешкі.

— Змена маладая! Надзея мілай радзімы! То што, Усяслаў, гэта і ёсць твой князь?

— Але. Толькі ён не мой, а свой.

— Ухваляю, ухваляю, князь. Рэферат ваш аб народных песнях упадабаў. Выключна. Верце слову бітага этнографа. Прашу, прашу да мяне.

У невялічкай гасцёўні з мяккай мэбляю і сінімі сценамі, упрыгожанымі медальёнамі з эмалі і ідылічнымі гравюрамі з народнага побыту, было поўна людзей. Курылі, пілі каву ля кутняга століка, спрачаліся. Раздаваліся выгукі, смех, воплескі — відаць, узнагарода камусьці за трапнае слова. Змешваліся польская, французская, беларуская мовы.

— Дав-вайце, маладыя людзі, будзьце як дома,— гасцінна запрашаў Кіркор, робячы, магчыма, занадта выразныя рухі маленькай зграбнай рукой.

Відаць было, што ён — не без славалюбства — ганарыцца і гэтым зборышчам, і гасцёўняй, і людзьмі, сабранымі ў ёй, і атмасферай дасціпнасці, лёгкай ігры мазгавых звілін, спрэчак і ўсяго іншага.

На вялікае сваё засмучэнне, хлопцы амаль адразу ўбачылі аднакласніка, графа Ігнацыя Лізагуба. Ён стаяў з нейкім хударлявым, сухотным на выгляд чалавекам і ледзь адказаў на прывітанне. У чорным бездакорным сурдуце, вельмі стрыманы, вельмі выхаваны. Ён гаварыў і ўсміхаўся белымі зубамі, а ўсмешка была халодная, абыякавая. Валасы бліскучыя ад брыльянціну, нібы карова ягоную галаву лізала. Вочы тытунёвага колеру, абыякава-ўважныя. Нібы не семнаццаць яму, а ўсе пяцьдзесят, такі карэктны.

— Вам пашанцавала, маладыя людзі,— мякка сакатаў Кіркор.— Сёння ў мяне якраз найбольш цікавыя госці. Рэдка бывае так, каб у кожнага знайшоўся вольны вечар. Але сёння вы ўбачыце цвет новай віленскай грамады. Прашу быць як дома.

І пабег да іншых людскіх колцаў, улагоджваць, змешваць людскія плыні, там кінуць дасціп, там іранічны сказ, нібы вядро вады на занадта зыркае полымя. Хлопцы асталіся адны.

— А ты ведаеш,— сказаў Алесь,— мне ён не падабаецца.

— Нешта праўды тут ёсць,— пакруціў цяжкай галавою Грыма.— Хоча, каб усе былі адзін у адзін: святыя ды божыя. Бач, унь Ходзька Ігнацый сядзіць.

Паэтаў цёзка па прозвішчы. Багатыр! З ім ён аб залатым веку пагаворыць. А той — граф Тышкевіч, чалавек добры, адукаваны. Археалагічныя раскопкі вядзе. З гэтым пагамоніць аб тым, як цяжка было жыць нашым продкам. З Ходзькам, з Тызенгаўзам.

— А што тут Лізагуб робіць?

— Правае крыло суполкі змену сабе рыхтуе.

— Каго ты яшчэ ведаеш?

— Унь той, бачыш? З нервовым, тонкім абліччам?

У кутку, асобна ад усіх, сядзеў худы высакалобы чалавек у бутэлечнага колеру сурдуце і шырокім белым гальштуку. Рукі з доўгімі пальцамі нервова гулялі брэлокамі гадзінніка, перабіралі іх, як ружанец. Калі спрэчка выбухала раптам пагрубелымі ад запалу галасамі — чалавек моршчыўся, як моршчыцца меламан з абсалютным слыхам, пачуўшы скрогат цагліны аб цагліну. Мяккае, вельмі беларускае аблічча чалавека было тонкае і жоўчнае. Доўгія, трохі блізка адно да аднаго пасаджаныя вочы глядзелі сумна і засяроджана. І буйнымі добрымі хвалямі падалі на плечы русыя валасы.

— Хто такі? — спытаў Алесь.

— Сыракомля. Паэт.

— Па-польску піша?

— І па-беларуску таксама.

— А той? — Алесь паказаў на невялічкага чалавека, які піў каву ля кутняга століка і, здаецца, быў заклапочаны больш за ўсё тым, каб не паказаць сваёй ніякавасці перад усімі гэтымі людзьмі, каб узяць і паставіць кубачак з належнай годнасцю. Занадта інтэлігенцкі шыракаваты твар з добрымі, відаць, блізарукімі, вачыма. Такому б сядзець у хаце, такому б замест сурдута, нават тут, больш пасаваў бы шлафрок.

— Чакай,— сказаў Алесь.— Гэтага я даволі часта бачу на вуліцы. Ён што, таксама жыве недзе на Нямецкай?

— У доме на рагу Нямецкай і Дамініканскай. Не, у другім ад рога. А на рагу Сыракомля жыве.

— Ён хто?

— Я яго кепска ведаю. Ведаю, што працуе арганістам у Святаянскім касцёле. Дзіўна, чаму ён тут бывае? Але тут, наогул, даволі разнамасны хаўрус.

— І прозвішча не ведаеш?

— Яно табе нічога не скажа. Манюшка.

Алесь усміхнуўся.

— Сапраўды, смешнае прозвішча... Нібыта маленькі манюка.

І раптам усплыла ў памяці размова дзвюх жанчын, якую выпадкова пачуў на вуліцы краёчкам вуха. Жанчыны былі ў глыбокай жалобе, і гэта — а таксама іхнія заплаканыя вочы, і маладосць, і пекната — прымусіла Алеся прыслухацца і запыніць.

— Грыма,— сказаў Алесь,— я чуў аднойчы, як святаянскага арганіста назвалі богам.

— Пэўна, касцельныя дэвоткі,— буркнуў Грыма.

— Ну, не кажы. Кожны горад гэта, брат, горад казак. Ідзе артылерыйскі паручнік, а ў патэнцыі ён — Напалеон. Памірае ў багадзельні стары, выкідаюць з-пад ягонага сенніка спісаную паперу. Потым частка гэтых паперак, разам з газетамі, трапляе між дзвярыма і цыратай, якою іх абабілі. А праз сто год мяняюць цырату і выпадкова знаходзяць паперкі, і тады выяўляецца, што ў багадзельні памёр найвялікшы паэт часу. Прырода любіць хаваць брыльянты і золата ў тленны глей і смешную абалонку.

— Разышоўся,— буркнуў Грыма.

— А можа, і сапраўды ў Святога Яна грае сам бог. Трэ было б схадзіць.

— А з гімназіі паляцець хочаш? За хаджэнне на каталіцкія набажэнствы?

А гаспадар тым часам ужо каціўся да іх.

— Нелюдні! Нелюдні! Сугнеі! Не могуць самі пайсці туды, дзе ім цікава. То хадзем.

Падвёў іх да купкі людзей.

— Знаёмцеся. Пан Грыма, князь Загорскі.

У сярэдзіне колца сядзелі на канапе два чалавекі. Адзін, мужыкаваты, дзіклівы, яшчэ малады, глядзеў на хлопцаў з некаторым выклікам, нібы менавіта ад яго залежала, прыняць навічкоў у размову ці не.

Але галоўным у размове быў, відавочна, не ён. На краёчку канапы, у кутку, сядзеў, зручна ўціснуўшыся ў мяккую падушку, нібы патануўшы ў ёй круглаватай фігуркай, маленькі дабрадушны гарбун. Горб у яго быў невялічкі і нагадваў бы лёгкую сутуласць, калі б толькі правае плячо не было вышэй за левае. Гэтая акалічнасць не зрабіла, відаць, ніякага дрэннага ўплыву на псіхічны склад гарбуна. На круг-

лым мяккім абліччы блукала ўседаравальная, расчуленая ўсмешка. Гарбуну было год сорак пяць, але праставатыя блакітныя вочы, светла-русыя валасы, у якіх цяжка было заўважыць сівізну, румяны ўсмешлівы рот надавалі ягонаму абліччу добры, наіўны, у нечым дзяціны выраз.

Зірнуўшы на яго, нельга было не сказаць: «Ах, які добры чалавек!»

— А ото нашы два Вінцукі,— знаёміў гаспадар.— Абодва паэты. Абодва добрыя грамадзяне. Абодва добрыя мужы.

— Ну, проста хоць ікону з мяне пішы,— буркнуў мужыкаваты.

— Абодва добрыя патрыёты. Любяць радзіму. Любяць. Знаёмцеся.

— Каратынскі,— зноў жа з выклікам працягнуў Алесю руку мужыкаваты.

І Алесь падумаў, што гэты падкрэслены выклік — ад неабходнасці сцвярджаць сваю годнасць. Відаць, худародны. Можа, нават з сялян.

— Дунін-Марцінкевіч,— падаючы пульхную руку, мяккім голасам сказаў гарбун.— Прашу не блытаць з Марцінкевічамі-Асановічамі і Марцінкевічамі-Мустафамі. Я пакуль што не татарын. Хаця? — І ён засмяяўся.— Татарынам тутэйшым быць, дальбог, нядрэнна. Мова — адна. «Кітаб» нічым не горшы за блажэннага Аўгустына. І жонак можна аж сем мець.

Ягонае кругленькае цела калыхалася ад дабрадушнага смеху.

— Ды ён яшчэ і вальтэр'янец,— заўважыў з карэктным гумарам Ходзька.— Будзеце адказваць на тым свеце, пане Вінцук.

— І не буду. І зусім не буду,— калыхаўся гарбун.— У жартах граху няма. І што ж, што татарын. Усякае дыханне хваліць пана бога.

Кіркору, відаць, было замала рэкамендацый, хаця для Алеся абодва паэты, як людзі, былі ўжо зразумелыя.

— Абодва на гаворцы пішуць. На літоўска-мужыцкай.

Алесь звёў бровы:

— Па-беларуску, значыць?

Ходзька нахмурыўся. А вочы Марцінкевіча рап-

там, на адно імгненне, перасталі быць усмешлівыя, зірнулі на хлопца добразычліва, цвёрда.

«Эге,— падумаў Алесь.— Не такі ты, відаць, прасцячок, не такая божая душа. Ты, брат, дзе трэба, і характар можаш паказаць». І супакоіўся, што знайшоў зразумелага і блізкага чалавека.

— Бачыце,— сказаў Ходзька.— Вось ён, першы плён вашай працы. З'явіўся ўжо беларус, ды яшчэ і князь. Глядзіце, каб хутка не з'явілася яшчэ, замест мужыцкай гаворкі, нейкая беларуская мова.

— Я не чытаў твораў пана Марцінкевіча,— сказаў Алесь.— Але існаванне беларускай мовы не залежыць ад нашых з вамі жаданняў, пане Ходзька. Як яе ні называй, яна проста — існуе.

Непачцівы Грыма, як заўсёды, рэзнуў проста ў Ходзькавы вочы:

— Разважаеце вы, шаноўны пане, з багатай магнацкай званіцы. Гэтыя словы аб «гаворцы» нам у зубах навязлі. Вы тутэйшы, але, прабачце, чым тады гэтыя вашы разважанні адрозніваюцца ад разважанняў нябожчыка імператара?

Кіркор азірнуўся. Зусім непрыкметна для іншых. І адразу супакоіўся, заўважыўшы, што ніхто не звярнуў увагі, што ўсе свае, што ўсе з цікавасцю чакаюць працягу спрэчкі.

Ходзька холадна сказаў:

— Я — паляк беларускага паходжання. Памятаючы гэта, вы не можаце ўпікнуць мяне ў чужой крыві, у нелюбові да зямлі, на якой я нарадзіўся, у няведанні гаворкі, на якой гавораць яе мужыкі. Я павінен яе ведаць, бо як тады іначай весці гаспадарку. Выйдзе нешта накшталт непрыемнасці з вавілонскай вежай. Але, я лічу, гэтая гаворка зжыла сябе, як зжыла сябе яшчэ некалькі стагоддзяў назад беларуская ідэя. Нічога не зрабілі, акрамя войнаў і звад...

— Толькі Біблію адны з першых надрукавалі,— сказаў Алесь.— Першыя сярод усходніх славян.

У вачах Марцінкевіча Алесь заўважыў пільную цікавасць.

— Можа, вы не будзеце мяне перабіваць? — сказаў Ходзька.

— Калі ласка,— сказаў Алесь.— Я проста ўдакладніў некаторыя не зусім... пэўныя пастулаты пана.

— Дык вось,— сказаў Ходзька.— Ідэя скампраметавала сябе.

— Або вы яе скампраметавалі,— буркнуў Грыма.

— Ажыўляць нябожчыкаў — гэта не справа гісторыі. Мы проста адгалінаванне польскага племені, слабое, чэзлае, якое ідзе дарогаю апалячвання. І хоць гэтай гаворкай гавораць пяць мільёнаў, але яна проста «рабочая мова», каб работнікі рознага паходжання разумелі адзін аднаго.

— Пяць мільёнаў!.. Ці не занадта многа для «рабочай гаворкі»? — сказаў Алесь.

— Я паважаю вашы пачуцці,— сказаў Ходзька.— Але ці не занадта вы малады, каб...

— Чакайце,— сказаў са свайго кута Сыракомля.— Гэта забаронены ўдар.

— Чаму забаронены? — умяшаўся Лізагуб.— Мы сапраўды яшчэ мала ведаем у параўнанні з панам Ходзькам.

— Малады чалавек,— сказаў Сыракомля.— Веды і вера ў радзіму — розныя рэчы.

— Магчыма, пане Кандратовіч,— у голасе Лізагуба прарвалася непрыязная нотка.— Я проста кажу, што некарэктна перапыняць старэйшага госця.

Ходзька кінуў на яго ўхвальны позірк:

— Я ўдзячны вам. Не турбуйцеся. У мяне яшчэ няма старэчага маразму.

— Паважаю пана,— сказаў Лізагуб.— Але дадам толькі адно. Брыдка, калі адукаваны чалавек, князь, пачынае насіць лапці праз нейкія там меркаванні. Гаворка гэтая для людзей вашай культуры — тое самае, што лапці замест чаравікаў.

— Глупства,— раптам сказаў Марцінкевіч.— Выходзіць, я лапцюжны паэт? І пан Кандратовіч таксама?

— Не звяртайце ўвагі,— нервова сказаў Сыракомля.— Я не хачу пакрыўдзіць пана Лізагуба, сказаўшы, што яго словы — праява злачыннай абыякавасці да перакананняў.

І замкнуўся, нервова перабіраючы брэлокі. Лізагуб, на знак павагі да слоў паэта, схіліў галаву.

Усім было трохі ніякавата. Алесь бачыў, што ўсе глядзяць на яго. Нават Манюшка кінуў сваю каву і ўглядаўся, мружачы добрыя вочы.

— Я адкажу спачатку пану Марцінкевічу,— ска-

заў Ходзька.— Не, я не кажу, што ваша паэзія лапцюжная. Я з прыемнасцю слухаю вашы ідыліі. Ваша «Сялянка» — гэта добра.

— Калі-небудзь я напішу такую ідылію, што вы не будзеце ведаць, куды схавацца ад людскога смеху,— буркнуў гарбун.

— Не, яна не лапцюжная. Яна недарэчная. Пішучы на беларускай гаворцы, вы насаджаеце сярод мясцовага люду, сярод мужыкоў і нават сярод некаторых дваран, як мы бачым, правінцыялізм.

Дунін-Марцінкевіч засмуціўся. Развёў рукамі.

— Я не хачу звадаў,— глуха сказаў ён.— Я хачу і намагаюся пераканаць у патрэбнасці гэтага ўсіх... Я хачу, каб усім было добра, каб на зямлі панавалі гармонія і радасць. Досыць ужо вытрымаў агню гэты няшчасны край. І што ж, мяне кусаюць адусюль. Няма такога сабакі, які не палічыў бы сваім абавязкам ухапіць мяне за нагу. А я не хачу даваць кухталі людзям. Нават дрэнныя, яны — людзі.

— Гуманізм, які б'юць і справа і злева,— буркнуў Грыма.— Зноў тое самае.

Але гарбун, відаць, не заўсёды трымаўся таго правіла, што людзям трэба дараваць, нават калі яны кусаюць за ногі. На ягоныя вусны ўспаўзла павольная разумная ўсмешка.

— Самае дзіўнае, што ніхто не выступіў супраць маёй паэзіі ў каралеўстве, у Польшчы. Лаюцца толькі тыя, каму гэтая справа павінна была б стаць блізкай, нашы паны. Больш ваююць за Польшчу, чым самі палякі. Відаць, таму, што ніколі ім не быць ні беларусамі, ні палякамі, ні немцамі, хоць яны схільны быць і тым, і другім, і трэцім.

— Зразумейце, пане Марцінкевіч,— сказаў Ходзька.— Я не супраць гэтага як рэдкасці, як своеасаблівага рарытэту. Але ж гэта наследаванне нязграбных тутэйшых песняў... Ці варта паўтараць тое, што памрэ.

І тут Алесь убачыў, як гаротна затрэсліся вусны інтэлігентнага каротказорага чалавека, які дарма намагаўся схавацца за кавай сваю разгубленасць і ніякаватасць.

— Я таксама gente albarutenus natione polonus[1],—

---

[1] Паходжання беларускага, нацыі польскай (*лат.*).

сказаў Манюшка.— Мяркую, нядрэнны паляк. Мне добра быць палякам. Але я ніколі не дайду да думкі, што быць палякам — азначае душыць астатніх. Быць палякам — гэта, хутчэй, змагацца за шчасце астатніх. І вы дрэнна цяміце ў музыцы, пан Ходзька, калі ганіце тутэйшыя песні... Гэта ўжо я магу вам заявіць.

На твары чалавечка на хвіліну з'явіліся рысы вышэйшай адухоўленай прыгажосці.

«А мо сапраўды бог?» — падумаў Алесь.

— Яны, песні, не хочуць быць рарытэтамі. Яны звіняць, смяюцца, плачуць. Нават уначы, у сне, я чую іхнія галасы. Я ад Польшчы, я і ад іх.

І нібыта звяў. Зноўку сеў, не ведаючы, куды падзець рукі. Манюшка і Дунін-Марцінкевіч пераглянуліся. Гарбун усміхнуўся, схіляючы галаву.

— Што ж,— спытаў Ходзька,— замест Чымарозы смярдзючы мужык?

— Я з мужыкоў,— сказаў Каратынскі,— будзеце злоўжываць гэтым — скончыцца дрэнна.

— Што ж,— сказаў Ходзька.— Шлях натуральны. Замест культурнага, памяркоўнага гаспадара — п'яны кат з бізуном.

— Мы не хочам ні ката, ні гаспадара,— сказаў Грыма.— Мы хочам волі.

— А атрымаеце бізун... Вам далі магчымасць часова развіваць сваю гаворку. Бо вы — наш фарпост. Але тое, што робіцца тут,— гэта ўжо занадта. Пісаць на ёй? Называць сябе быдлячым імем? Калі мы дазволім такое — вас самнуць.

Алесь адчуў, што ў яго звініць у галаве ад гневу.

— Мы, здаецца, пачыналі спрэчку з вамі?

Ходзька з цікавасцю глядзеў на шэравокага маладога чалавека.

— Кажыце далей,— памяркоўна дазволіў ён.

— Нам не трэба нічыйго дазволу на тое, каб дыхаць,— перахопленым горлам сказаў Алесь.— А пісаць і гаварыць на сваёй мове гэтак натуральна, як дыхаць.— Ён павысіў голас.— Мы не хочам быць нічыім фарпостам. Чым слова «магнат» лепшае за слова «барын»? Досыць, панюхалі.

І тут Ходзька ўсміхнуўся, нібы намацаў у абароне хлопца трэшчыну.

Алесь бачыў вочы гарбуна, арганіста, Сыраком-

лі. Ва ўсіх гэтых вачах жыла трывога. А Ходзька падаўся галавой наперад і ціха працадзіў:

— Хіба не стала нашаму мужыку горш жыць пасля прыяднання да Расіі? Адразу салдатчына, павышэнне падаткаў...

Сыракомля нецярпліва перапыніў яго:

— Ходзька, гэта жорстка!.. У маладога чалавека не столькі ведаў... І ягоныя перакананні...

Алесь узняў руку.

— Не трэба, пане Кандратовіч,— ён усміхнуўся.— Тое, што мне трэба, я ведаю добра. І перакананні ў мяне цвёрдыя і... аб-грун-таваныя, у адрозненне ад пана Ходзькі.

— То стала горш? — настойваў магнат.

— Стала горш,— спакойна сказаў Алесь.— Акрамя старых паноў, нас з вамі, з'явіліся новыя. Прычына гэтай галечы тое, што на ўсе старыя ланцугі павесілі яшчэ адзін, новы — грошы. А грошай у мужыка пры цяперашнім стане быць не можа. У яго адбірае іх тое, што страшней за чуму, вайну, страшней за ўсё на свеце.

Чырвоныя плямы папаўзлі на шчоках у Ходзькі.

— Што ж гэта такое, страшнейшае за ўсё? — ціха спытаў ён.

Алесь пабялеў ад хвалявання. А потым у цішу ўпала адно толькі слова:

— Прыгон!

Вочы ў Лізагуба звузіліся.

Стаяла цішыня. Алесь спяшаўся дагаварыць.

— Мы ніколі...— голас ягоны зазвінеў.— Чуеце? Мы ніко-лі не паддамося ні вам, ні немцам, нікому. І не таму, што мы не любім вас, а таму, што кожны чалавек мае права на роўнае шчасце з другім, а шчасце — толькі ў сваім доме.

— Панове,— перабіў Кіркор,— панове, уладаю гаспадара забараняю вам гэтую спрэчку.

Гарбун паклаў руку на плячо Алесю, пацiснуў.

— У мяне ёсць дачка, Каміла,— сказаў ён.— Бог ты мой, якія вы падобныя!

У доўгай паўзе прагучаў самотны голас Сыракомлі:

— Якая ж гэта нязведаная парасць расце!

...Ён і Манюшка ішлі ў адну дарогу з Алесем і

Усяславам, Лізагуб і Ходзька пайшлі асобна, хоць пэўны час ім было і па дарозе.

На рагу Святаянскай і Універсітэцкай Манюшка прытрымаў Алеся і паказаў яму налева, на касцельны гмах.

— Музыку любіш?

— Але.

— То прыходзь сюды. Я ведаю, табе нельга. Але унь там дзверы на хоры. Прыходзь падчас імшы і проста так. Я там часта. Музыка, князь, не ведае розніцы веравانняў.

Сыракомля маўчаў усю дарогу. Ягонае, маладое яшчэ, тонкае аблічча выглядала на хворае. Ён моўчкі хутаўся ў футра і нагадваў худую зябкую птушку.

І толькі на скрыжаванні, дзе абодвум старэйшым трэба было павярнуць налева, паэт паклаў руку на плячо Алесю:

— Я, пэўна, не дажыву. Але вам... Дай вам бог удачы...

## XXX

Ужо самай раніцай наступнага дня, падымаючыся па сходах на другі паверх, Алесь адчуў штосьці нядобрае.

Можа,гэта было ў тым, што здаровая доўбня, Цыпрыян Дэмбавецкі, аднакласнік Алесеў, насуперак звычаю, адарваўся ад ежы і, калі Алесь праходзіў паўз яго, акінуў каламутным, нібы нежывым, позіркам. Гэта было дзіўна, бо Алесь, колькі быў у гімназіі, заўсёды помніў Цыпрыяна з бутэрбродам у руцэ.

А можа,няладнае было ў тым, што другі аднакласнік, Альберт Фан дэр Фліт, ледзь адказаў на паклон.

Усё гэта была лухта. І Цыпрыяну не вечна ж чамкаць, і Фан дэр Фліт, чалавек халодны і паглыблены ў свае думкі, заўсёды глядзіць нібы праз субяседніка. І, аднак, нешта нібы вісела ў паветры.

Але першым урокам была якраз літаратура. Выкладчык прыгожага пісьменства, перад тым як скончыць гімназічны курс, рабіў агляд сучаснай літаратуры, той, што не ўваходзіла ў праграму. І гэта было добра. Бо ён гаварыў, між іншым, і аб улюбёным Цютчаве. Пушкін — гэта, вядома, Элада паэзіі. Нібы ўся гармонія будучых стагоддзяў увасобілася ў ад-

ным. І ён любіў яго. Але трэба мець і нешта патаемнае, што любіш ты адзін. І ён любіў Цютчава.

І гэтыя, такія розныя, імёны сучаснікаў, і такое разнастайнае гучанне іхніх радкоў, падобнае то на мёд, то на ярасную пену прыбою, то на атруту, прымусіла Алеся забыцца на тое, падсвядомае, што папярэджвала.

Ён трымаў для сябе імя Цютчава доўга. У старых дзедавых часопісах адшукаў калісьці і адзначыў у памяці гэтыя незвычайныя радкі.

І «Вясеннюю навальніцу» ў «Галацеі», і «Цыцэрона» з «Апошнім катаклізмам» у альманаху «Дзянніца»... Часам ён пазнаваў аблічча паэта і ў вершах, змешчаных пад ініцыяламі, і гэта было — нібы пазнаць блізкага сябра пад маскай.

Дзіўна было, што Алесь яшчэ не нарадзіўся, а паэт ужо адказаў на тыя пытанні, што пачынаюць мучыць яго, Загорскага, толькі цяпер.

Оратор римский говорил
Средь бурь гражданских и тревоги:
«Я поздно встал — и на дороге
Застигнут ночью Рима был!»

Тут усё было праўда. Сапраўды, вакол была ноч краіны. Сапраўды, усе яны нарадзіліся занадта позна. І ўсё ж...

Счастлив, кто посетил сей мир
В его минуты роковые —
Его призвали всеблагие
Как собеседника на пир.

І гэта было цудоўна. Як цудоўныя былі радкі «Mal'aria», што спісаў аднекуль Мсціслаў. І радкі «Апошняга кахання». Настаўнік чытаў іх трохі нараспеў, як ніколі не чытаў Дзяржавіна. І вокладка часопіса, з якога ён чытаў, была старанна загорнута ў паперу. Бо гэта быў «Современник», якога баяліся, як чумы, і не падпускалі да гімназічных муроў.

Алесю было смешна. Няўжо настаўнік думае, што яны — дзеці і чытаюць толькі тое, што прадугледжана праграмай. Гэты нумар часопіса члены «Братэрства шыпшыны і чартапалоху» зачыталі да дзірак два гады назад.

О, как на склоне наших лет
Нежней мы любим и суеверней...
Сияй, сияй, прощальный свет
Любви последней, зари вечерней!

Гэта было нязнанае, неймавернае на зямлі шчасце.

Полнеба обхватила тень,
Лишь там, на западе, бродит сиянье.—
Помедли, помедли, вечерний день
Продлись, продлись, очарованье.

У тым сумным, суровым і пяшчотным настроі, які заўсёды авалодваў ім пасля добрых вершаў, ён праседзеў другі ўрок, геаграфіі. Мсціслаў збоку пагля-даў на яго. І ў вачах была іскра насмешкі і іроніі.

«Павяло»,— падумаў Мсціслаў.

А Алесь не заўважаў. Як не заўважаў і таго, што Цыпрыян Дэмбавецкі, крадком жуючы нешта, раз ці два азірнуўся на яго.

Пачалася вялікая рэкрэацыя. Гімназісты, карыстаючыся трыццаццю хвілінамі перапынку, сыпанулі на сонечны двор, дзе на сугрэве, каля мура, было ўжо зусім цёпла, брук нагрэўся, а апошні чорны снег ляжаў толькі ў вечным ценю процілеглай аркады двара.

Алесь выйшаў павольна, апошні, і адразу ўбачыў, што на паваротцы да сходаў стаіць група «арыстакратаў з лёкайскай», як аднойчы ахрысціў іх Сашка Волгін.

«Арыстакраты з лёкайскай» трымаліся заўсёды купкаю і вельмі крыва глядзелі на Алеся і Мсціслава за тое, што яны староняцца іх і водзяць сяброўства з Грымам і Ясюкевічам.

Яны стаялі купкай і цяпер. Прылізаны і карэктны Ігнацы Лізагуб. Побач з ім Альберт Фан дэр Фліт з халоднымі вачыма, якія, нягледзячы на светлы колер, былі цьмяныя, як сутонне. А за імі стаяў Дэмбавецкі.

Яшчэ адзін член іхняга гуртка, Альгерд Корвід, стаяў ля сценкі і глядзеў убок. Прыгожае, жорсткае аблічча Альгерда было абыякавае.

І, убачыўшы яго, Алесь зразумеў, што справы — дрэнь. Альгерд Корвід вызначаўся тым, што мог адным непрыкметным ударам пад дыхала або яшчэ некуды кінуць чалавека ў непрытомнасць і вывесці з бойкі на доўгі час.

Як на грэх — нікога не было вакол. Ні сяброў, ні проста прыязных людзей, якія маглі б папярэдзіць. У Алеся нарадзілася раптам брыдкае і халоднае пачуццё бездапаможнасці і агіды. Яго ніколі не білі вось

так. Здараліся, вядома, сяброўскія або і варожыя бойкі недзе ў прыбіральні ці на вілійскім лёдзе, але гэта былі сумленныя бойкі: адзін на адзін ці сцяна на сцяну.

Тое, што бойкі не мінуць, ён зразумеў адразу. Іначай на якога д'ябла ім быў патрэбен Корвід?

— Пачакайце, князь,— сказаў Лізагуб.

Алесь спыніўся.

Лізагуб мякка, амаль па-сяброўску, так, што смешна было вырывацца, узяў Алеся пад руку і адвёў ад сходаў.

— Мне хацелася б атрымаць ад вас некаторыя тлумачэнні наконт вашых учарашніх слоў.

— Я нікому не хачу іх даваць,— сказаў Алесь.— Што сказана, тое сказана.

— Прабачце, не тлумачэнні, а працяг спрэчкі і, магчыма, некаторае неўразуменне і збянтэжанасць, што датычыцца вашых паводзін.

Лізагуб паспеў давесці яго да самага акна ў тупіку калідора, і толькі тут Алесь вызваліў локаць.

— Ваша неўразуменне мяне мала датычыць. Збянтэжанасць — таксама. Учора я сказаў тое, што хацеў.

Алесь вырашыў пайсці, а калі затрымаюць — прабіцца, адкінуўшы кагосьці з дарогі. Тут не магло быць і размовы аб тым, што ўцякаць — ганебна.

І тут адчыніліся дзверы прыбіральні, і з яе з'явіліся, нібы чэрці з табакеркі, яшчэ трое. Першыя кроч ылі Язэп і Гальяш Цялкоўскія. Браты. Не блізнюкі. Проста абодва мелі звычай па два гады сядзець у кожным класе. Гальяш аднойчы зрабіў подзвіг: не астаўся. І такім чынам дагнаў брата.

Яны стаялі побач. Здаравенныя, з фальварковымі атлусцелымі мордамі. Напаўідыёты.

За імі выслізнуў Воранаў, маленькі, бескаляровы, як белая мыш, сын буйнага акцызнага чыноўніка.

Убачыўшы гэтых трох, Алесь зразумеў: прарвацца не ўдасца. І адразу — ад злосці на тое, што яго так спрытна ашукалі, і ад непаразумення — страх некуды знік, а ў сэрцы нарадзіўся гнеў. Яны не мелі права нападаць на аднаго. Ну што ж, тады трэба біцца. Прайшло, відаць, хвілін дзесяць вялікай рэкрэацыі. Трэба яшчэ хаця б столькі ж заняць размовай аб усім тым, што стаіць паміж імі, а потым яшчэ дзесяць хвілін пратрымацца. Аднаму супраць сямёх.

Не ўпасці, не даць ім рабіць з сабою ўсё, што яны захочуць.

— Калі ласка,— сказаў ён, стаўшы спіною да цёплай грубкі і адчуваючы патыліцай медны люфт.— Што вы маеце мне сказаць, граф Лізагуб?

— Я хачу спытаць, з якога такога права вы ўчора ганьбілі Польшчу, князь Загорскі? Вы ж ведаеце, гэта вельмі высакародна — лаяць тое, што ў гэты момант лае ўрад.

Нахабная хлусня абурыла Алеся. Але ён стрымаўся.

— Я не ганьбіў Польшчу,— магчыма, занадта высакамерна, каб не падумалі, што спалохаўся, сказаў ён.— Вам варта было б бліжэй трымацца да ісціны.

Алесь толькі тут успомніў, што са збораў у Кіркора Лізагуб і Ходзька пайшлі разам. Не можа быць, вядома, і размовы, каб дарослы чалавек нацкаваў юнака на юнака. Відаць, проста выказаў раздражненне, абурыўся «мужыцкім сепаратызмам здрадніка». Гэтага і хапіла. Знайшоў сабе добраахвотнага ланцужнага сабаку. А можа, і не ў «мужыцкім сепаратызме» корань усяго, а ў яго ных неасцярожных словах аб прыгоне. Напэўна так.

— Я не кручу перад вамі хвастом,— сказаў Алесь.— Але я далёкі ад думкі агулам ганьбіць ці агулам хваліць нейкі народ. Я, калі вы хочаце тлумачэнняў, скажу, што я люблю і паважаю Польшчу, спачуваю яе няшчасцям і глыбока шаную палякаў...

— Закруціўся, як уюн на патэльні,— сказаў Дэмбавецкі.

— ...Акрамя, вядома, такіх палякаў, як наш Дэмбавецкі. Што зробіш, бываюць сумныя выключэнні,— сказаў Алесь.

Корвід пасунуўся бліжэй.

— Але,— сказаў Алесь,— я не разумею, якія адносіны да Польшчы мае немец Фан дэр Фліт, рускі Воранаў, літовец Корвід, беларусы Цялкоўскія і вы, граф Лізагуб? Мне здаецца, гэта справа пана Цыпрыяна Дэмбавецкага. Я гатовы пагаманіць з ім на гэтую тэму. З ім адным.

— Я паляк,— сказаў Лізагуб.

— За колькі? — спытаў Алесь.— І з якога часу?

— З таго часу, калі мае бацькі зразумелі, што ад

двараніна, які называе сябе беларусам, смярдзіць стайняй і дзярмом.

— Не здрадай, прынамсі,— сказаў Алесь.— Не сабачым хвастом.

— Гноем,— сказаў Лізагуб.— І вы, кня-азь, яшчэ асмельваецеся лаяць парадак, заведзены слаўнымі дзядамі! Крычаць нешта аб «прыгоне».

Алесь засмяяўся.

— Вось яно што,— сказаў ён.— Я так і думаў, што не ў нацыі тут справа, што я стукнуў вас не па нацыянальным гонары, а па кішэні.

Цяпер яму ўсё было ясна. І ён, з невымоўнай пагардаю, сказаў:

— Прыгоннік.

— Чуеце? — спытаў Лізагуб.

— Чуем,— змрочна сказаў Гальяш Цялкоўскі.— Я думаў — ты хлусіў.

— Я таксама думаў аб перабольшванні,— сказаў Фан дэр Фліт.— Прабачце, граф.

— Ясна,— змрочна сказаў Корвід.

Запанавала маўчанне. Потым Лізагуб прашыпеў, увесь трасучыся ад ярасці:

— І ты яшчэ хочаш, каб я назваў сябе тваім быдлячым імем, хаме з тытулам?

— Не. Для цябе гэта занадта вялікі гонар.

— Хто вас прымае ўсур'ёз? — схіляў галаву Лізагуб.— Хто вас паважае, абыякавыя да сябе людзі? Правільна сказаў Ходзька: мы вас церпім як фарпост супраць варвараў. Усе вам выказваюць ласку, апякаючы ды прыядноўваючы. Проста шкада, што прападзяце. І дарэмна, бо толькі залішні клопат з вамі. Кіруй, па-бацькоўску апякай, гадуй...

— Сволач! — Алесевы вусны збялелі.— Рабавалі, жэрлі ды яшчэ...

— Што ў вас рабаваць? — кпіў Лізагуб.

Алесеў твар быў страшны. Прыступ жахлівага дзедаўскага шаленства падступаў аднекуль знутры.

— Кінь,— спалохаўся Фан дэр Фліт.— Яны небяспечныя.

Але Ігнацы не зважаў.

— Ласку! Ласку вам усе робяць! Што б вы былі без нас?

Адчуваючы, што цяпер ён не стрымаецца ад гневу, Алесь размахнуўся і, уклаўшы ўсю сваю сілу,

ляснуў па гэтай шчацэ левай рукой, насунуўшы пад сківіцу знізу правай.

Лізагуб віскнуў, адлятаючы.

Вочы, вусны, увесь Алесеў выгляд былі такія страшныя, што хаўрус марудзіў кінуцца на яго. Адзін толькі Корвід мільгнуў недзе ўбаку, наносячы, відаць, адзін са сваіх страшных, непрыкметных удараў.

Біў у галаву.

Але ў Загорскага рэакцыя супраць шпагі, супраць кулака была імгненная. І ён нездарма стаў галавою да люфта.

Алесь таргануў галавою — і Альгердаў кулак змаху наляцеў на медны, востры зачап юшкі.

Корвід адскочыў, сагнуўшыся. Ён сычэў ад болю. З далоні цурком лілася на падлогу кроў.

Адкінуўшы нагою Язэпа Цялкоўскага, Алесь стаў у кут і падрыхтаваўся. Наляцеў Фан дэр Фліт — па мордзе, па мордзе сушанай трасцэ. Нагою ў пах Гальяшу Цялкоўскаму... Набліжаецца Лізагуб... Зноў у сківіцу.

Усё ж яго вырвалі з кута, абкружылі. Нехта — мабыць, Фан дэр Фліт — ударыў ззаду па галаве. Лізагуб сунуў у грудзі...

І раптам усё сціхла. Дзверы прыбіральні адчыніліся, і адтуль выйшаў настаўнік гімнастыкі, адстаўны афіцэр з маладых, падборысты і шыракагруды чалавек з дзіўным прозвішчам Крэст. Крэста большасць гімназістаў любіла, бо ён не задаваўся, не ўдаваў з сябе настаўніка, а паколькі спорт ледзь-ледзь пачынаў уваходзіць у моду і ніхто не лічыў яго за сур'ёзную дысцыпліну, а выкладчыка — за паўнацэннага, Крэст трымаўся з гімназістамі проста і роўна, хутчэй як не з вучнямі, а як з малодшымі сябрамі. Гэта выяўлялася шмат у чым. Між іншым, і ў тым, што ён ніколі не карыстаўся прыбіральняй для настаўнікаў.

Усе адскочылі. Крэст стаяў, выціраючы вільготныя рукі хустачкай, і белазубая ўсмешка ляжала на яго ружовым абліччы.

— Курыце ў прыбіральні, бэйбасы? — звярнуўся ён да Цялкоўскіх.— Усе кураць, халдзеі вы... Будзеце мець курыныя грудзі... Вось што.

Усе, хто нападаў, апусцілі галовы. Толькі Алесь глядзеў проста ў вочы Крэсту. Бачыў, як плавала

на самавітым абліччы настаўніка лагодная ўсмешка.

— Прабачце, джэнтльмены,— сказаў Крэст,— я выпадкова чуў усё. Я не хацеў бы перашкаджаць вам. Іначай мне давялося б праседзець у прыбіральні да канца рэкрэацыі. Не звяртайце ўвагі.

Пайшоў прэч. Потым прыхільна спыніўся каля Лізагуба. Добразычліва параіў:

— Хіба так б'юць? Калі б'еш — бі ў жывот.

Крэст завярнуў за рог, і вакол Алеся зноў завіравала. Ён раскідваў тых, што чапляліся за яго, як мог, атрымліваючы за кожны ўдар — чатыры. У грудзях свістала. І раптам мільгнуў перад вачыма Лізагуб, а потым у вачах успыхнула вострая цемра...

Ігнацы скарыстаў параду.

Трымаючыся за сонечнае спляценне, Алесь хістаўся на нагах і не мог дыхнуць. Усё вакол то цямнела, то святлела.

Лізагуб стаяў перад ім і цадзіў праз зубы словы, якія таксама то знікалі, то далятаді аднекуль здалёк, то раптам жундзелі нібы ў самым вуху:

— Слухай, ты, дзярмо... Ты, мужыцкая зязюля... Ты, бруднае беларускае быдла... Мы цябе для тваёй жа карысці трохі патопчам нагамі, павучым... А перад гэтым ты запомні мае словы... Кінь...

Загорскага ўрэшце адпусціла. Яшчэ імгненне — і ён задыхнуўся б. Неймаверна салодкае паветра ўварвалася ў грудзі. Пачало святлець перад вачыма.

— Юда! — з усхліпамі хапаў паветра Алесь.— Мразь!

У вачах стала зусім светла. І тут Алесь убачыў за спіною ў Лізагуба, у дзвярах прыбіральні, светлавокага Сашку Волгіна. Волгін стаяў, папраўляючы рэмень, і глядзеў на тое, што рабілася, з неўразуменнем.

— Ты слухай,— звягаў Лізагуб.— Запамінай. Ты запомніш, бо потым мы цябе... для памяці...

— Зап-омню,— упершыню выдыхнуў Алесь.— За-помню.

— Запомніш... Не вякай пра гэты свой «прыгон»... Не вякай пра гэтую сваю «Беларусь»... Ведай, хто цябе церпіць... Ведай, каму ты раб... Вялікай Польшчы, а не Маскве...

Ярасць выбухнула раптам такім полымем, што ў Алеся збялелі вочы. Яна прыйшла нібыта з паветрам,

якое ўдыхнуў ён і якім памылкова дыхала гэта дрэнь.

— Сашка,— сказаў ён.— Што ж ты глядзіш?! Бі свалоту!

Але ён не паспеў яшчэ крыкнуць да канца. Сашка нечакана ўзняў нагу і моцна, як страус, даў падэшвай у паясніцу Лізагубу. Нібы зламаўшыся, Ігнацы падаўся жыватом наперад, і тут Алесь, канчаткова ачуняўшы, ударыў Лізагуба пад ніжнюю шчэлепу.

У далоні Гальяша Цялкоўскага бліснуў вялікі медны кружок: боўдзіла нацягваў на руку каўчукавы цяж накладкі. Не даючы яму апамятацца, Алесь даў Гальяшу правай у скронь, і той пакаціўся па падлозе.

І тады астатнія з галёканнем рынулі на іх. Малацілі, хрыпелі, імкнуліся дарвацца бліжэй.

Было зусім дрэнна, хаця Алесь і Волгін стаялі спіной да муру. Алесь убачыў, як Корвід дубасіць Сашку. Убачыў, што вочы ва ўсіх шалёныя і што ў гарачцы могуць кагосьці і забіць.

І тады ён схапіў плявацельніцу і — з маху — пусціў ёю ў акно. Шкло са звонам пасыпалася на двор. Сашка падскочыў бліжэй да акна і — у два пальцы— свіснуў разбойніцкім, чацвярным свістам.

Над дваром, над пляцоўкай для лапты рэзка, як нож, праляцеў гімназічны кліч аб дапамозе.

Унізе, на двары, а потым на сходах, нарадзіўся і стаў мацнець грукат соцень ног. Бліжэй. Бліжэй.

...Першае ўварвалася ў гулкі калідор, пабегла на гукі бойкі «Братэрства шыпшыны і чартапалоху». Ляцеў, як апантаны, Мсціслаў.

— Алеська! Братка! Сашка! Трымайцеся!

Лупілі за ім, рука да рукі, Пятрок Ясюкевіч і Мацей Біскуповіч. Цяжка соваў за імі цельпукаваты Усяслаў Грыма.

З маху ўдарылі ззаду. Алесь убачыў побач ясныя вочы Мсціслава. Мсціслаў раскідваў «арыстакратаў лёкайскай»... Грыма наскочыў на Дэмбавецкага, даў па шыі.

— На аднаго?! На двух?!

Калідор ужо грукатаў бегам, гулка выбухаў гала самі. Прыбеглі «мазунчыкі», сябры Лізагуба з сёмага і шостага. Іх было шмат.

Братэрства стала сценкай. Беглі і беглі новыя людзі. У калідоры стала цеснавата, і бойка на хвіліну сцішылася, як полымя, у якое паклалі зашмат дроў.

— Сябры, што здарылася?

— Панове, цо?..

— Хто каго?

Сашка скінуў з сябе Корвіда і адразу атрымаў па зубах ад Лізагуба. Крыкнуў:

— Білі беларуса за тое, што беларус!!!

Натоўп прасвідраваў худым жылаватым целам шасцікласнік Рафал Ржашэўскі. Выбіўся з месіва. Стаў. Зірнуў на Алеся ўтрапёна-спакойнымі сінімі вачыма.

— Цябе?

— І я таксама,— усміхнуўся праз распухлыя вусны Алесь.— Пацярпеў за ідэю вялікай Польшчы.

Шчокі ў Рафала нібы высахлі. Ён абвёў вачыма суседніх людзей. Сінія вочы стрэліся з тытунёвымі вачыма Лізагуба.

— Гэты,— нібы сцвердзіў Рафал.— Вядома. Хто ж яшчэ?

І наблізіўся да графа.

— Што ж ты нарабіў, смярдзючка?! — сказаў Рафал.— Халуй! Шкоднік!

...Бойка выбухнула ў розных канцах калідора, які дрыжаў, нібы ў ім грымела кананада. Настаўнікі і наглядчыкі мітусіліся недзе ў канцы і не маглі праравацца да тых, што біліся. Крэст спрабаваў нешта рабіць, хутка, як гарох, раскідаючы задніх, але паток юнакоў са сходаў і верхняга паверха плыў і плыў.

Перад вачыма ў Алеся мільгалі твары. Ён, бы ў калейдаскопе, бачыў, як замахнуўся накладкай на яго, Алеся, Гальяш і як Мсціслаў перахапіў руку Цялкоўскага і ёю, з накладкай разам, мазануў ворага па носе... Потым дзіўны гук уразіў Алеся. Ён азірнуўся. Плакаў адной глоткай Пятрок Ясюкевіч. Горла юнака сутаргава пашыралася. І Алесь усім сэрцам зразумеў, што яны прысутнічаюць пры найвялікшым дзіве, калі табе здавалася, што ты і друг твой самотныя, а выявілася, што ўсе, большасць думала так, як вы, але маўчала, бо кожны лічыў, што ён адзін са сваімі смеху вартымі думкамі.

І тут Рафал раптам узнёс кулак і апусціў яго на галаву Дэмбавецкага.

— Вучыся, ёлуп,— зрывістым ад захаплення голасам крычаў Ржашэўскі.— Вучыся, сляпак! Вучыся, доўбня!

— Ліцвіны! Беларусы! У імя Канарскага!

Крыкі рынулі з усіх бакоў. Сценка кінулася на сценку.

...Праз пяць хвілін білася ўжо ўся гімназія. Усе паверхі будынка раўлі, стагналі, тупалі нагамі, пляскалі.

Прыйшоў час зводзіць рахункі за ўсе былыя крыўды. За пагарду. За здзеклівыя словы. За ўсё.

Яшчэ праз нейкіх пяць хвілін мазунчыкі пахіснуліся і падаліся назад, па сходах...

Загорскі цяжка ўздыхнуў і, нібы праз туман, убачыў, што са сходаў спускаюцца дырэктар, Гедымін і Крэст.

— Што гэта? — спытаў дырэктар.

Худы перст паказаў на нерухомага Лізагуба.

— Дзікуны,— сказаў дырэктар.— Папуасы... П'яныя нігілісты.

І звярнуўся да Алеся.

— Гэта, здаецца, з вас пачалося?

Начальніцкі гнеў вось-вось павінен быў прарвацца ў ягоным голасе.

— Так,— проста сказаў Алесь.— Настаўнік Крэст быў гэтаму сведкам.

Дырэктар сказаў:

— Я ведаю.

— То вы, напэўна, ведаеце таксама, што бітвы не было б, каб пан Крэст спыніў яе яшчэ тады?

— Не ваша справа займацца крытыканствам, малады чалавек,— сказаў Гедымін.

— Я ведаю гэта. Але, напэўна, настаўнік Крэст не адмовіцца пацвердзіць, што напаў не *я*. Што *яны* напалі на мяне. Сямёра на аднаго. Я вымушан быў бараніцца.

Крэст трохі ніякавата развёў рукамі.

— Гэта так,— сказаў ён.

— Вы ведаеце, што гэта пахне выключэннем, мой юны сябра? — сказаў Гедымін.

— Ведаю. Для ўсёй гімназіі. І, ва ўсякім разе, я папрашу бацькоў, каб яны прасачылі за тым, каб мяне выключылі восьмым. Адразу за гэтымі вось, што ляжаць тут.

Дырэктар з прыкрасцю зірнуў на Крэста. Сапраўды, восьмым. Сапраўды, бацькі з іхнімі сувязямі прасочаць за гэтым. Бойка! Які год праходзіць без

бойкі, агульнай бойкі ў гімназіі. Ох, гэта трэба замяць! Саміх пагоняць, як даведаюцца!

— Вы чулі, за што яны хацелі яго збіць? — спытаў дырэктар у Крэста.

— На жаль, не,— сказаў Крэст.

— За што вы яго? І за што яны?

Алесь узняў на дырэктара цвёрдыя глыбокія вочы.

— Я не магу сказаць вам гэтага.

Ён успомніў, што калі за «прыгон» не пахваляць яго, то за лаянку Лізагуба на ўрад і іншыя мілыя штучкі не пахваляць не толькі Лізагуба. Папячыцель, а за ім і ўсе іншыя напэўна прычэпяцца да слоў дурня, каб яшчэ мацней прышчаміць хвост палякам.

— Я не магу сказаць вам гэтага,— паўтарыў Алесь.— Але паверце слову двараніна: варта было.

Дырэктар пацiснуў плячыма. Хто, сапраўды, разбярэцца ў рахунках гэтых юных вандалаў? Ён пакасіўся на Крэста.

Але Крэст таксама маўчаў. Утапіць Загорскага яму нічога не каштавала, але тады да папячыцеля дайшло б, што ў гімназіі асуджаюць прыгон і ўрад, што сёння змялі і выкінулі з будынка добрую палову тых, што стаялі за ўсё гэта.

І першы будзе адказваць ён, Крэст, бо гэта ягоным патураннем выбухнула бойка. Вось табе і «даў магчымасць правучыць».

Таму Крэст маўчаў.

Звяртаючыся да «ваўчаняці», дырэктар паказаў на Лізагуба:

— Вы лічыце, што збіць да паўсмерці — годны ўчынак? Біць двараніна?

— Яшчэ раз кажу,— сказаў Алесь,— варта было.

— Вы не раскайваецеся? — спытаў Гедымін.

— Я зрабіў бы гэта заўтра. І паслязаўтра.

— Гм,— сказаў дырэктар.

...Алесь сядзеў у крэсле, захутаны ў коўдру і тры пледы. Твар у яго быў чырвоны, светлыя вочы блішчалі.

Насупраць, ля танканогага століка, сядзеў стары Вежа.

Дзед думаў. Ён не глядзеў ні на ўнука, ні на Ха-

лімона Кірдуна, што стаяў ля сценкі. Халімон, таксама пераапрануты ў сухое, быў чырвоны, як з лазні: выпіў тры кручкі гарэлкі. Ратаваўся хатняй методай.

Выхаванец і дзядзька ледзь не патапіліся сёння. Ехалі з Вільні нібы насустрач вясне, разводдзямі, веснім лёдам. А ўсімі ярамі ўжо свістала — вада не вада, а снегавая каша, набрынялая, здрадніцкая.

Яры раўлі так, што нават збоку, здалёк страшна было чуць іхні рык. Першы яр праехалі. І другі праехалі. А трэцім ледзь не сплылі ў Дняпро. Ледзь не засмактала іх празрыстая ледзяная вада, што струменьчыкамі тачылася праз снегавую саладуху, раўла, круціла, перамешвала сама сябе, цягнула ўсё старонняе на трохсажнёвую глыбіню.

З цяжкасцю выцягнулі іх дрыгавічанскія мужыкі...

— Т-так,— суха сказаў дзед.— Заплаціў ты, значыцца, першую даніну свайму вар'яцтву. Скончылі, іх высокасць, курс навук.

— Я ж расказваў вам, дзеду.

— Ухваляю. Годна. І па-рыцарску. Але мне не лягчэй. Бацькам таксама. Ды яшчэ ў яры палез. З баязлівасці? Каб хутчэй насустрач небяспецы?

— Не.

— Што ж рабіць?

— Нічога,— сказаў Алесь.— Я не разумаю, чаго вы напалі, дзеду. Ніхто, акрамя мяне, не пацярпеў. Ну добра, ну я тыдзень лічыў, што выключылі. А потым проста, «улічваючы небяспечнасць», не далі мне вярнуцца да сяброў, прымусілі сядзець пад хатнім наглядам. Згодай папячыцеля прымусілі здаць экзамены і выпхнулі з Вільні. Далі ж скончыць.

— Не яны далі,— сказаў дзед.— Імя тваё дало.

— Не імя,— сказаў Алесь.— Боязь. Баяліся камісіі. Баяліся, што Лізагубавы словы ўсплывуць.

На вуснах у Вежы з'явілася іранічная ўсмешка.

— Ну і што? Ну і выпхнулі б Лізагуба ў Пензу, а цябе ў Арзамас. Яго за нянавісць да рускіх, цябе — за нянавісць да імперыі, да прыгону. Лягчэй бы гэта было?

Унукавы вочы ліхаманкава блішчалі.

— А вы хацелі б, каб мяне сямёра білі за тое, што я — гэта я, а я не адбіваўся б, а даў сябе біць?

Вежа глядзеў на Кірдуна.

Змрочны, добры Кірдун стаяў ля сценкі і чырванеў усё больш. Ці ад гарэлкі, ці мо ад сораму.

І раптам Кірдун, а па мянушцы «Халява», замест таго каб апраўдвацца, тлумачыць, словам, рабіць усё тое, што было асвячона традыцыяй, раптам зароў на поўны голас і перайшоў у наступ:

— У гімназію анахцемскую аддалі. А там усямёх паніча біць хацелі... Дзякуй богу, не далі добрыя людзі.

Дзед збіраўся быў прыкрыкнуць, але спыніць Халімона было немагчыма.

— Карахтарыстыку дрэнную далі...— роў Кірдун.— Дзеля чаго? Дзеля смярдзючкі той. Будучы, бачыце, царскі злачынец знайшоўся. Невядома яшчэ, хто з іх злачынец, панічык ці цар.

— Ідзі, Кірдун,— нечакана мякка сказаў Вежа.— Ідзі, выпі яшчэ. За любоў — мецьмеш ад мяне.

Кірдун, прыхліпаючы, рушыў да дзвярэй.

Алесь глядзеў, як Вежа невідушчымі вачыма таропаецца на чорны мокры парк, на голыя дрэвы, на лапікі снегу і на сіні ўздзьмуты Дняпро.

Трывожна крычалі ў галінах гракі.

І раптам дзед груба вылаяўся. Упершыню за ўвесь час, што ведаў яго Алесь:

— Маці іхнюю так... маці іхнюю гэтак і разгэтак... Не пусцяць ва універсітэт — у Оксфард адвязу. Загорскі, бачыце, патэнцыяльны цароў злачынец... Пляваў я на іх...

## XXXI

— Майка — май, Майка — май,— звінелі за вокнамі кроплі. І Майка Раўбіч, рассмяяўшыся ад шчасця і прадчування, прынікла да акна. Зеленаватыя, як марская вада, вочы дзяўчыны прагна глядзелі на мокрыя дрэвы на бялюткі сад, на чорныя куртыны, ля краёў якіх ужо цвілі аксамітныя браткі.

Прыцемак насоўваўся на сад. Мяккі, вільготны, майскі.

Толькі што адгрымела першая навальніца. Нястрашная, грамыхліва-радасная, майская навальніца. І цяпер пад вокнамі старога цёплага дома аж шалеў ліловы і сіні бэз.

Мокры і салодкі вецер ляцеў у вокны.

Увесь гэты дзень вялікі дом у Раўбічах аж віраваў у сумятні і калатэчы. Рыхтаваліся ехаць на баль у Загоршчыну. Падшывалі, прасавалі, мыліся. Ніткі аж свісталі ў руках швачак. Тлум сціхнуў толькі гадзіну назад.

Міхаліна стаяла ля акна, паклаўшы рукі на падвоканне, нібы аддаўшы іх пяшчотным пацалункам свежага паветра.

Гэта ўсё ж было шчасце. Шчасце першага «дарослага» балю, шчасце першай «дарослай» бальнай сукенкі, белай у амаль белым, толькі трохі блакітным карункавым чахле.

І сорамна, і трошкі ганарліва было глядзець на аголеныя плечы і рукі, яшчэ тонкія, але ўжо не дзіцячыя, на бела-ружовую ружу ў попельных, з няўлоўным залацістым адценнем валасах.

Яна не ведала, ці прыгожае гэта ўсё: матава-белы, з празрыстым глыбінным румянцам твар, рот — адным краёчкам трохі ўгору, бровы — доўгія і вычварна зламаныя, і таму трошкі ганарлівыя.

Але яна бачыла сябе нібы новай, чужой, і гэтая чужая шаснаццацігадовая дзяўчына падабалася ёй.

Вялізныя, цёмна-блакітныя, як марская вада, вочы глядзелі на яе з люстэрка насцярожана, дапытліва і шчасна.

І гэта было такое шчасце, што яна засмяялася.

А ў суседнім пакоі дурная нянька Тэкля раскатурхвала Наталю. Не магла пачакаць, пакуль паедуць.

— Уставай... Устань, ласачка... Заснула, не памаліўшыся... Нельга спаць без малітвы...

Наталя мармытала нешта і адпіхвала рукі старой. Божа мой, ну нашто гэта. Во дурная нянька. Дзеля малітвы будзіць дзіця. Нічога не скажаш, рэзон.

— Трэба аці божачку сказаць... Іначай ваўчаня за бачок ухопіць.

А бадай ты... Пільная патрэба ўзяла.

— Ды я не хач-чу,— хныкала Наталя.— Я... спаць.

— Чытай-чытай.

Майка прыслухалася. Сонны галасок чытаў у суседнім пакоі:

Среди ужасного тумана
Скиталась дева по скалам.

Кляня жестокого тирана,
Хотела жизнь предать волнам.

— Так-так,—ухваляла яе Тэкля.

І зноў шапацеў сонны галасок:

Теперь куда я покажуся,
Родные прочь меня бегут.
Нет, лучше в море погружуся,
Пускай оно меня пожрёт.

Майка прыснула.

— Усё,— з уздыхам сказала Наталя.

І раптам добры жаль ахапіў Майчына сэрца. Яна хутка прайшла ў сястрын пакой. Наталя, заспаная і ружовая ад сну, торкала чарнявай галоўкай у падушку.

Дзяўчына, адчуваючы нейкуя вельмі блізкую, зусім не сястрынскую, шкадобу да Наталі, падышла да яе і ўзяла на рукі, зусім не баючыся, што самне сукенку. Наталка расплюшчыла чорныя вочы, ахапіла Майчыну шыю гарачымі танюткімі рукамі.

— Майка,— сказала за спіной пані Эвеліна.— Зараз жа пакладзі. Самнеш сукенку.

Наталя прытулілася мацней, як паратунку шукаючы. У Майкі сціснула сэрца:

— Матулечка, возьмем Наталю, возьмем Стася... Загорскія крыўдуюць, калі не бяром...

Цёмна-блакітныя вочы пані Эвеліны глядзелі на сёстраў. Потым усмешка кранула яе вусны:

— Н-ну...

— Едзем, едзем... Наталечка, едзем...— і Майка заскакала вакол маці.

...Выехалі ўсе разам, у дзедаўскай карэце-прорве, якую трымалі спецыяльна на такія выпадкі.

Майка адчувала сябе дзіўна. Сэрца захлыналася ад чакання. Чаго яна чакала — яна не ведала і сама. Хутчэй за ўсё — беспрычыннага, маладога, такога вялікага, што аж сэрца спыняецца, шчасця.

З Алесем яны мала бачыліся ўсе гэтыя гады. Разы два. Бо яна была ў інстытуце. Ён — у гімназіі. А ўлетку, калі ён жыў у Загоршчыне, бацька вазіў яе то на воды, то ў госці да цётак. За гады міжволі вырасла нейкая дзіўная адчужанасць. Чужым і чамусьці маладзейшым за яе здаваўся ёй суседскі хлапец, якому яна калісьці падарыла свой жалезны медальён.

І ўсё ж яна чакала.

У яе быў такі шчасны выгляд, што Яраш Раўбіч схіліўся да яе. Вочы без райка вінавата ўсміхнуліся.

— Што з табою, доня?

— Нічога,— ніякавата сказала яна.— Мне здаецца, павінна нешта здарыцца.

— У цябе заўсёды павінна нешта здарыцца,— сказаў паважны Франс.

А пан Раўбіч глядзеў на дзяцей і думаў, што Франс дарослы хлапец. Ды і Майка ўжо амаль дарослая паненка... Ён думаў і з пакутлівай усмешкай, нібы катаржнік свой ланцуг, круціў жалезны бранзалет з трылiснікам, коннікам і шыпшынай на капцы. Круціў вакол запясця рукі.

...Італьянскія аркады белага палаца, перакрэсленыя чорнымі факеламі таполяў, адкрыліся ў канцы алеі. Палалі суцэльныя вокны. Па крузе павольна пад'язджалі да сходаў карэты і брычкі. Плыў прыступкамі ўгору стракаты натоўп.

Майка сышла на зямлю і, побач з Франсам, рушыла насустрач музыцы, святлу, духмянай цеплыні. Музыка спявала нешта веснае, такое мяккае і страснае, што слёзы прасіліся на вочы.

На верхняй прыступцы стаяў Вежа з панам Юрыем і паняй Антанідай.

— Раўбіч,— ціха сказаў ён.— Радасць, радасць мне... А ты чуў, што царок сказаў на прыёме маскоўскіх дваранскіх маршалкаў?[1]

Падняў палец:

— «Существующий порядок владения душами не может остаться неизменным...» О! Як думаеш, радасць?

Шыракаватае ў сківіцах аблічча Раўбіча загуляла жорсткімі мускуламі. Цень лёг у вачніцах.

— Каб гэта ад шчырага сэрца — радасць была б. А так гэта, па-мойму, нешта накшталт прапановы Браніборскага. Гаворыць аб радасці, а ў самога шчэлепы, як у галаўня, прагныя.

— І я думаю,— іранічна ўсміхнуўся дзед.— У лібералізм гуляе. Як ягоны дзядзька. Ну і скончыць таксама... адпаведна... Гулі ўсё... Les merveilles gymnastiques[2].

---

[1] 30 сакавіка 1856 года.

[2] Дзівосы гімнастыкі *(франц.)*.

Вузкая, да смешнага маленькая ручка пані Антаніды кранула дзеда за локаць.

— Бацька, тут дзеці.

Дзед замаўчаў. Потым зірнуў на нявестку і даволі лагодна ўсміхнуўся. Ён вельмі памякчэў да нявесткі за гэтыя гады: быў удзячны за ўнука.

— Пані Эвеліна,— усміхнуўся Юры,— радасць райская, што прыехалі... Франс, вы паважны, як магістр масонаў... А Стах... Не, глядзіце вы, які наш Стах... А ты, Наталечка, усё маладзееш. Што ж з табой далей будзе, алянятка?

Смяяліся снежныя зубы.

— І Майка,— нечакана сур'ёзна сказаў ён.— Вы сёння дзівосная, Майка... Алесь зараз прыйдзе. Ён пайшоў размясціць хлопцаў.

Вежа глядзеў на Майку.

— Ты!— спытаў ён.— Колькі ж гэта?

— Шаснаццаць,— сказала пані Эвеліна.

— Та-ак. Бадай што, цяпер ужо цябе не назавеш чорцікам...

— Што дзіўнага,— сказаў Раўбіч.— Скончыла інстытут.

Дзяцей адвялі ў іхнюю залу, у тую самую, дзе калісьці дзеці разбілі вазу. Майка ўспомніла: чарапок з хвастом сіняй рыбкі і дагэтуль ляжыць у скрыначцы.

У зале лёкаі скрэблі васковыя свечкі на дубовыя цагліны падлогі. Дзеці потым, танцуючы, разнясуць усё нагамі. Будзе лепей, чым назнарок нацерці.

Майцы адразу падумалася: «А нам цяпер сюды, у гэты пакой, ужо нельга. Мы цяпер дарослыя».

На хвіліну прыйшоў жаль. А потым зноў вярнулася радасць.

Яна ўступала ў залу з тым самым пачуццём, што і раней. Бачыла, як ад дзвярэй глядзяць на яе вочы пана Юрыя і пані Антаніды. Глядзяць з нейкім асцярожным чаканнем. І ў сэрцы нарадзіўся неасэнсаваны пратэст: «Нашто яны так глядзяць на мяне?»

Думка адразу ж знікла. Бо стракатая чародка людзей абкружыла яе.

— Гэта хто? Бог мой! Ядзя! Ядзечка!

Ядзечка стаяла ўсё такая самая, усё гэтак жа падобная на ляльку. Але яна была... яна была ледзь не з Майку ростам. Тоненькая, зграбная...

— Маюнька! Маюнька!— смяюцца сінія вочы.
А потым пайшло. Чорны ўсмешлівы Янка і ягоныя рукі, што моцна сціскаюць яе далонькі.
— Майка! Майка! — глядзіць у вочы, нібы не верыць.— Як мы рады! Як узрадуецца Алесь!
— Табе добра, Янка?
— Мне добра. Я цяпер сын, рачоны Ян Клейна.
...Куды гэта глядзіць паўз яе доўгі, такі «састарэлы» Янка?
Міхаліна паглядзела туды, і ў той самы момант на хорах заспявалі скрыпкі. Нібы назнарок. І ад іхняга задуменнага спеву зноў глыбока ўпала сэрца.
За пяць крокаў ад яе стаяў Алесь і дзіўна, нібы спалохана, нібы не пазнаў, глядзеў ёй у вочы.
Яна таксама не адразу пазнала яго. Зусім дарослы. Выцягнуўся амаль з пана Юрыя і, відаць, будзе вышэйшы. І такі самы загарэлы. Аблічча аж аліўкавае, і на ім асабліва светлыя — аж свецяцца — цёмна-шэрыя шырокія вочы.
Але чаму ён так разгубіўся, нібы ўбачыў дзіва? І што гэта ў ім такое новае?
Ага, вочы сталі не такія мяккія. І ў постаці няма нічога ад медзведзяняці: стройная, гнуткая постаць.
Алесь схіліўся і пацалаваў ёй руку.
— Я вельмі ўзрадаваны,— голас чамусьці асекся.— Мы так даўно не бачыліся.
— Вельмі даўно. І хацяб... адзін ліст.
— Гэта вы, Ма... Міхаліна, не адказалі мне.
— Я, па-ранейшаму, Майка.
Паўза.
— Сходзім да Вацлава. Я з Вежы. Ледзь паспеў пераапрануцца.
У «зале разбітай вазы» Стась, Вацлаў і Наталя гулялі ў жмуркі. Вадзіў Вацак, і Алесь назнарок «спаймаўся» яму.
— Спаймаў!
— Не, брат, гэта я цябе спаймаў,— сказаў Алесь.
І ўзняў Вацака высока-высока.
— Алеська! Братка!— крыкнуў Вацак, боўтаючы нагамі ў паветры.
— А паказаць табе, як барсук дзяцей гладзіць? — спытаў Алесь, прыціскаючы брата да грудзей.
— Не-а,— малы закрыў галаву рукамі.— Супраць поўсці гладзіць будзеш. Дулі калупаць.

— Ты ў мяне разумны,— засмяяўся Алесь.

Майка заглядзелася на яго. Высокі, шырокі ў плячах, ён стаяў, трымаючы брата, як перайка.

Наталя ціха падышла да Майкі і пацерлася шчакой аб яе далонь. Міхаліна прысела і, расчырванеўшыся, правяла носам па вачах сястры.

Якраз у гэты момант Алесь, падхапіўшы на рукі яшчэ і Стася, зірнуў на дзяўчыну. Нешта разгубленае зноў мільганула ў ягоных зрэнках.

— Ну, до ўжо, хлопчыкі,— глухавата сказаў ён.— До.

— Алесь,— віскнуў спушчаны на падлогу Вацак.— А Наталя харошая. А Наталя казала, што яе не бралі, аж потым Майка ўзяла. Яна разумее, што мне без Стася і Наталі сумна. Яна харошая.

— Вельмі харошая,— сказаў Алесь.— Гуляйце, хлопцы.

Падвёў, падштурхнуў хлопцаў да Наталі, абняў усіх трох. І тут ягоная рука выпадкова дакранулася да Майчынай рукі.

Майка раптам адчула: здарылася нешта нязнанае. Зірнула на Алеся і ўпэўнілася, што ён таксама адчуў, затрымаў на яе плячах і руках чужы позірк.

Здарылася непапраўнае.

А ў зале пяшчотна звінела музыка, клічучы іх да сяброў.

...Яны танцавалі разам вальс, і гэта была пакута. Даводзілася трымацца як надалей адзін ад аднаго. І ён стаў чужы. І яны сталі чужыя. І немагчыма было больш танцаваць разам. Таму, што ўсе глядзелі і ўсёўсё бачылі.

Таму Міхаліна нават узрадавалася, калі перад мазуркай убачыла ля калоны двух сяброў. Яна не любіла Хаданскага, але тут ён здаўся ёй свойскім, дураслівым. Стаяў сабе, пакручваў залацісты чуб.

Вось заўважыў яе, схіліўся да Мішкі Якубовіча і нешта шапянуў яму на вуха. Гусар засмяяўся, паказваючы белыя зубы. І відаць, што дурань, але прыемны дурань, таксама свойскі. І няма ў ім таго, што так яе палохае ў Алесевых вачах. Проста зух у бліскучай форме. Белазубы і дзёрзкі, шчодры п'янчук.

Калі Хаданскі перайшоў залу і запрасіў яе на мазурку, яна пайшла танцаваць, нават на зірнуўшы на

Алеся. І яшчэ раз з Хаданскім. А потым з Якубовічам. А потым яшчэ з Хаданскім.

Назнарок не глядзела на Алеся. Раз толькі выпадкова сутыкнулася з ім вачыма і ўбачыла суровыя вочы і няшчасны, глыбакасумны твар.

Урэшце Алесь заўважыў, як яна непрыкметна выслізнула на тэрасу, і рашуча выйшаў за ёй.

Над цёмным парканам трапяталі недзе далёкія зарніцы. У свежым ад дажджу паветры стаяў вільготны водар бэзу.

Алесь прайшоў у самы канец тэрасы, куды не падала святло з акна, і там, ля парэнчаў, убачыў тонкую Майчыну постаць. Майка не павярнулася на крокі, а калі ён пазваў яе, коса ўскінула на яго дзікаватыя і нібы разгневаныя вочы.

— Што з табой?

— Так,— апусціла яна вейкі.

— Ты робіш мне балюча. А я помню цябе.

— Хіба?

У адказ ён распусціў гальштук і пацягнуў з мускулістай і стройнай шыі ланцужок.

— Вось твой медальён.

Разам з жалезным ланцужком пацягнуўся і залаты. Ён быў прывязаны да жалезнага ланцужка. Калі Загорскі ўзяў Майчын медальён на далонь, залаты саслізнуў з далоні і захістаўся ў паветры, звісаючы між вялікім і ўказальным пальцамі.

Амулет старога дзьмутага золата, цьмяны і зіхоткі. А на ім Коннік з дзіцячым, нібы апухлым, тварам бароніць Авечку ад Льва, Змія і Арла.

— Усё як раней,— сказаў Алесь.— Высакароднае жалеза, а ў ім пасма тваіх валасоў і надпіс па-беларуску... Твой... Першы... Ты помніш вярбу?

— Не,— сказала яна раптоўна нейкім жорсткім, нібы не сваім, голасам.— Не ўсё, як раней.

У першую хвіліну яна бадай што ўзрадавалася, а потым у радасць пракраўся боль. Яна сама не ведала, што з ёю.

— У цябе яшчэ адзін,— сказала яна.— Чыстае наша жалеза змяняў на золата.

Ёй чамусьці хацелася яшчэ раз уразіць яго. Яна не магла іначай, так з ім было цяпер няпроста.

— Вядома,— сказала яна,— хто ж будзе трымацца звычайнага жалеза? Каму яно цяпер патрэбна?

— Я...

— Не трэба мне твайго «я». Барані сваю Авечку, якая першаму-лепшаму дорыць трохсотгадовыя фамільныя медальёны.

— Міхаліна,— сказаў ён,— калі ты будзеш так...

Яна не адказала. Крутнулася. Пайшла тэрасай. Усё хутчэй і хутчэй. Ноч і святло з акон, чаргуючыся, беглі на танюткай постаці.

І пачаўся здзек.

...Гулялі ў загадкі. Вяла Майка. Той, хто адгадае, меў права пацалаваць тую паненку, якая загадвала. Франс Раўбіч і ненатуральна ажыўлены Мсціслаў так і сачылі за вуснамі Ядзечкі, калі надыходзіла яе чарга.

— Ядвінька пытае, што расце без кораня, а людзі не бачаць.

Маўчанне.

— А галоўныя ворагі — слімак і порах,— дадала Міхаліна.

Франс і Мсціслаў аж нагамі капалі. Алесь даўно здагадаўся, але не хацеў перашкаджаць ім.

Майка залілася смехам. Ён гучаў весела і трохі здзекліва, асабліва пасля таго, як яна зірнула на Алеся.

— Панове,— сказала Майка,— што ж вы, панове? Некаторыя амаль скончылі гімназію.

Гледзячы ёй у вочы, Алесь нядбайна кінуў:

— Камень. Камень расце без кораня. Порах разбівае яго звонку, каменны слімак точыць знутры.

Ядзечка працягнула яму вусны. Маладым людзям накрылі галовы вэлюмам. Зайграла на хорах скрыпка. І ў снежным паўзмроку Алесь убачыў, як апусціліся веі колішняй лялькі, і зразумеў, што ён не абыякавы для яе.

Калі вэлюм з шолахам споўз з іхніх галоў, Алесь заўважыў насцярожаныя вочы Франса, сумна-ўсмешлівы позірк Мсціслава і яшчэ вусны Міхаліны. Куточак Майчынага рота прыўзняўся вышэй, чым звычайна.

Алесь зірнуў у вочы Мсціславу і павольна апусціў павекі на знак таго, што ён усё зразумеў.

— Загадка пра чалавека,— сказала Майка.— Задаю я.

Загорскі бачыў звужаныя, чымсьці нядобрыя вочы.

— Божанькаў лянок,— сказала Майка, з ходу вяжучы слоўную вязь,— звіў з ланцужкам ланцужок. Змяняў жалеза на золата. Залатой шабляй хоча невядомую авечку бараніць.

Гэта было глупства. Няскладнае, нядобрае. Ніхто, канечне, нічога не зразумеў і не мог адгадаць.

— Гм,— сказаў Мішка Якубовіч, смеючыся чорнымі вачыма.— Божанькаў лянок — гэта, вядома ж, я.

Зарагатаў:

— І жалеза на золата я змяняў, узяўшы на год водпуск. І авечак ад мяне бараніць трэба.

Алесь глядзеў проста ў Майчыны вочы.

— Я,— сказаў ён.— Тлумачыць не буду, але я. Спадзяюся, панна Раўбіч не адмовіцца, калі ў сэрцах зямных дзяўчат засталася іскра шчырасці.

...На іхнія галовы накінулі вэлюм. Вежа здалёк глядзеў на ўсю гэтую гісторыю аж вельмі няўхвальна.

Алесевы вочы глядзелі ў Майчыны вочы. Між імі лёгка мог бы стаць трэці, так далёка стаяў Алесь.

— Дзякуй вам, Міхаліна Ярраслаўна,— ціха сказаў Алесь.— Не бойцеся. Я проста скарыстаў апошнюю магчымасць застацца ўдвох. І потым, я ж павінен быў адгадаць. Проста каб вы ведалі, што я нічога не баюся і ні аб чым не шкадую.

— За што дзякуй? — ціха спытала яна.

— За сумленнасць. За тое, што нікога не пусцілі ў нашу дзіцячую таямніцу.

Убачыў разгубленыя вочы і скінуў з галавы вэлюм. Усе, напэўна, глядзелі з непаразуменнем на дзве постаці, што так і не варухнуліся пад флёрам. Ну і няхай.

Вэлюм споўз на падлогу. Алесь падышоў да Мнішкавай Анэлі і схіліў галаву. І, нібы ў адказ, з гонарам і павагай схіліў ля сценкі галаву стары Вежа.

...Усю астачу вечара яны танцавалі паасобку.

Спачатку Майку душыў гнеў і глыбокая крыўда. Але потым яна ўспомніла, што сама дамаглася гэтага, успомніла той страх, які адчувала, калі Загорскі быў побач, успомніла, з якой радасцю, як збавенне ад смерці, адчула яна запрашэнне Якубовіча. І тады яна павесялела.

Вечар быў кароткі. Яна сто разоў да гэтага сніла

яго ў сне. Сніла гэты баль, і музыку, і зарніцы за вокнамі, і нясцерпнае шчасце ад танцаў і ўласнай маладосці. Усяму гэтаму немагчыма было ставіць мяжы. А Загорскі быў такой мяжою. Няхай прывабнай, але і страшнай у сваёй безагаворачнасці.

Яна танцавала, і ёй хацелася танцаваць, як часам хочацца спаць у сне. І таму, калі раптам танцы скончыліся, калі запрасілі на вячэру, слёзы з'явіліся на Майчыных вачах. Так не хацелася гэтай непатрэбнай вячэры, так не хацелася траціць часу.

За вячэрай ап'яненне прайшло. Яна заўважыла, што Алесь так і не прыйшоў, не сеў за сталы.

Да канца вячэры знікла з-за стала Ядзечка. А потым непрыкметна, нібы іх і зусім не было, здолелі ўцячы Мсціслаў і Франс.

Мішка Якубовіч сядзеў насупраць, жартаваў, вышчаляў белыя зубы. Чорныя вочы нахабна і дзёрзка смяяліся. І раптам Майка адчула, як нараджаецца недзе ў душы трывога. Яна не ведала, адкуль яна, трывога. Здавалася толькі, што губляеш нешта важлівае. Урэшце яна не вытрымала і, пад умольным позіркам вачэй маладога Іллі Хаданскага, паднялася з месца і пакінула застолле.

Выйшла на тэрасу — нікога. Абложаны хмарамі, нібы ў мяшку, глуха стаяў загоршчынскі парк. Зарніцы сталі ярчэйшыя. Яны шугалі і шугалі. Гэта, напэўна, ад іх рабілася нясцерпнай трывога.

Майка абмінала палац. Злёгку храбусцеў пад нагамі жвір.

Ад пляцоўкі з арэлямі даляцеў голас Ядзечкі:

— Алеська! Дзе гэта ты знік? Хадзі да нас. Мы гайдаемся.

— Ну і добра,— сказаў Алесь.— Чаго гэта вы, як маленькія, з балю ды на арэлі? Сукенку памнеш.

— Алесік, даражэнькі, глядзі, якая ноч! Якія зарніцы! Толькі і гайдацца.

Зарыпелі ў цішыні канаты: відаць, Алесь моцна налёг нагамі на дошку арэляў.

Майка падышла зусім блізка. У гэты момант успыхнула зарніца, і дзяўчына ўбачыла Алеся, які ўзносіўся галавою проста ва ўспышку.

Ён, здавалася, быў вышэйшы за дрэвы, вышэйшы за слупы арэляў, вышэйшы за ўсё на зямлі.

Зноў успышка. І зноў ён высока. Ён адзін, бо

Франс за ягонай спіною: відаць, ставаў на ніжняй кропцы палёту, штурхаючы чоўнік.

— Алесь! Алесь! Ну, ты проста як архангел! І галава ў хмарах! — крычаў Ядвіньчын голас.

— Архангел з рожкамі і хвосцікам,— смяшліва сказаў Мсціслаў.

Майка аперлася далонню на ствол ліпы. Сэрца ў яе падала ад адчування непапраўнасці таго, што сёння здарылася...

Зарніца рассекла цемру, і ў палахліва-яркім святле Майка ўбачыла, як аднекуль, з зарыва, падаў проста на яе чалавек з распрасцёртымі рукамі, пагрозліва цёмнымі вачніцамі і валасамі, што стаялі дыбарам над галавой.

— Глядзіце,— рыпенне ўплялося ў словы Франса: юнак, відаць, налёг на гальму,— Майка тут. Майка прыйшла.

— Сядзіш ты тут, Ядвінька, як квяціна ў крапіве,— сказала Майка.

— Гэта хто крапіва? Мы? — з пагрозай спытаў Франс.

Майка разумела, што ім з Мсціславам дрэнна. З неасэнсаванай варожасцю і за сябе, і за брата, і за Маеўскага яна адчувала, што Ядзечка дорага дала б, каб быць на арэлях удваіх з Алесем, што яна цягнецца да яго. А брату дрэнна. І Мсціславу з ягонымі сонечнымі вачыма — дрэнна. Ёй здавалася, што яна пакутуе галоўным чынам за іх.

І яшчэ яна ведала, што Мсціслаў даруе Алесю ненаўмысную крыўду. Проста таму, што любіць яго непарушнай братняй любоўю, таму, што ім, пастрыжным братам, ніколі нельга сварыцца. А Франс не даруе ніколі. І гэтая насцярожанасць можа пашкодзіць ёй як нішто.

— Злазь, Франс,— сказала яна.— Саступі мне, калі ласка.

— А я куды?

— Перайдзі да... Мсціслава.

Чырвоны сполах пракаціўся над пляцоўкай, і яна ўбачыла, што Алесь глядзіць на яе.

— Я злезу,— сказаў ён.— Гойдаць будзе Франс.

Ад скачка пад яго нагамі рыпнуў жвір.

— Вырашылі ўцячы? — амаль шэптам спытала яна.— Годны ўчынак. Спалохаліся маіх дасціпаў?

— Не, Міхаліна...— таксама шэптам адказаў ён.— Проста...

І, падсадзіўшы яе, пайшоў прэч.

...Праз гадзіну яна стаяла ў тым самым цёмным кутку тэрасы і глядзела ў парк. Дождж злёгку спырснуў траву і кветкі, краем зачапіўшы Загоршчыну. Сполахі шугалі цяпер недзе далёка-далёка.

Пані Антаніда заўважыла Майку ля парэнчаў і падышла да яе.

— Ну што? Што з табой, дзяўчынка?

У Майкі перахапіла горла ад нечаканай пяшчоты гэтай жанчыны.

— Не ведаю... Але мне нешта так цяжка! Я такая няшчасная!

— Я разумею... Разумею...— і пяшчотна-тонкая рука яе лягла на Майчыну руку.

— Гэтага не трэба рабіць, дзяўчынка. У гэтым няма праўды... І ты нічога, нічога не зробіш...

— Чаму не зраблю? — з ноткай пратэсту спытала яна.

— Так... Такі ўжо закон,— і, усміхнуўшыся вінаватай усмешкай, пайшла.

...Майка ішла праз залу ў пакоі, сама не ведаючы, куды яна ідзе. Ля самага выхаду ў зімнюю лоджыю насустрач ёй трапіліся бацька і пан Юры. Пан Юры толькі ўсміхнуўся ёй.

— Малітва дзевы,— весела сказаў ён.— Вышэй галаву, панна Міхаліна.

Бацька адстаў ад яго і, дачакаўшыся пакуль пан Юры аддаліцца, ціха сказаў дачцэ:

— Мы з ім трохі выпілі ў буфетнай... Яму непрыемна... Хаця ён і не кажа.

— Ах, бацька, што да гэтага мне? — нечакана страсна сказала яна.

— Не муч хлопца,— жорстка сказаў пан Яраш.— Не гуляй людзьмі ў гэтым доме. Трымай сябе, як належыць дзяўчыне. Не падабаецца, то і маўчы. Нібы ўзрадавалася, што можаш усё рабіць... А душа чалавека не ў чалавечай, яна — у божай руцэ.

Упершыню ў жыцці яна бачыла бацькаў гнеў.

— Больш ты сюды — ні нагой. Досыць мне сораму. І калі яшчэ ўбачу гэтыя твае гулі — паедзеш на Піншчыну, у Боева, матчыным пасагам упраўляць. Пад наглядам Тэклі.

Крутнуўся. Пайшоў даганяць пана Юрыя.

Міхаліна выйшла ў лоджыю. Неба ачысцілася, і за непамерна высокімі вокнамі мігцелі незлічоныя зоркі.

— Ах, ды што яны ўсе прывязаліся? — вырвалася з грудзей.

Вырвалася разам з плачам. І яна, апершыся на падвоканне, заплакала.

Што яны ведалі? Што яны ведалі пра яе, і пра медальён, і пра хлопца, які ўзносіўся галавою ў зарніцы? Што яны ведалі аб тым пачуцці ганебнай наканаванасці, якое ўвесь вечар валодала ёю?

Нібы і змагацца нельга. Нібы ўсё даўно вырашана за яе на небе, а яна проста бездапаможнае кацяня, з якім лёс робіць усё, што захоча.

Ніхто не думае, што яна чалавек. Ні бог, ні дарослыя, ні Алесь, ні... яна сама. Але ніколі не скажа гэтага. Ніколі.

Яна ведала, што яна і надалей будзе з'едлівай і нядобрай. Проста таму, што нельга, каб наканаванне ламала табе рукі. Але, хай ёй прабачаць усе, яна не хацела губляць юнака, які ляцеў між зарніц.

Амаль страціла яго. І за хваляй пагарды пойдзе хваля пакорлівасці і, магчыма, прыніжэння. І так будзе заўсёды. Біся ў кіпцюрах лёсу, як спайманая птушка.

«Я не хачу! Не хачу! Божа, як я хачу гэтага!»

Разам са слязьмі нібы знікала нешта. На месца рашучасці прыходзіла безнадзейная пакора. Зоркі за акном вясёлкава расплываліся ў яе вачах. Сярод іх, недзе ля Воўчага Вока, былі іхнія зоркі. Дзе яны былі зараз, зорка Майка і зорка Алесь?

І раптам шкадаванне і няўтольная, вострая, ніколі ў жыцці яшчэ не адчуваная пяшчота авалодалі ёй.

Яна ўжо нічога не баялася, ні аб чым не думала, нічога не збіралася сцвярджаць. Яна проста прайшла лоджыяй і спусцілася сходамі ў парк.

Зоры ззялі над галавою. Яна ішла і ішла алеямі, нібы ў сне, не ў змозе даць сабе адказ на пытанне, куды і чаго яна ідзе.

Зоры ззялі над галавою. Раптам нібы нехта сыпануў іх і ў траву. Слабыя, зеленаватыя, яны мігцелі ў ёй, амаль пад нагамі.

Гэта былі светлякі.

Цалкам неасэнсавана яна брала халодныя агеньчыкі ў руку. Урэшце рука заззяла, нібы ў ёй ірдзеў зялёны жар.

Вытаргнуўшы з галаўной сеці некалькі срэбных ніцей, яна спрытна пляла іх пальцамі.

Яна рабіла гэта, не ведаючы, што сотні пакаленняў жанчын рабілі гэта да яе. Рабіла, нібы ў сне.

Потым яна ўзняла гатовую дыядэму і павязала яе вакол галавы. У змроку над яе чалом успыхнуў німб з зеленаватых халодных зорак.

...Алея за алеяй. Майку чамусьці цягнула да става, дзе стаяла «крохкая» вярба. Але яна не паспела дайсці да яе. Калі да става асталося ўжо зусім нямнога і адтуль дыхнула вільготным павевам, яна ўбачыла цень, што рухаўся ёй насустрач.

— Ты? — спытаў цень.

— Я.

Ніколі яшчэ яму не здавалася такім патрэбным быць з ёю. І ніколі яшчэ ён так не гневаўся.

— Вазьмі свой медальён,— сказаў ён.— Я не думаў, што гэта будзе так. Але, відаць, праўда, што на зямлі няма нічога вечнага.

Зоры ззялі над яе галавою. Зоры ззялі ў валасах.

— І ты можаш? — глуха спытала яна.

— Нічога, у мяне застанецца яшчэ адзін. Гэта цётчын медальён. Ён, як яна казала, тройчы тры разы ўратуе мяне. Лухта. Шкада, што яна не дала мне нічога ад дробных жаночых учынкаў. Урэшце, нічога. Спраўлюся сам.

І працягнуў ланцужок:

— Вазьмі.

Яна раптам зрабіла яшчэ адзін крок. Бязвольна і пакорліва ўпала галавою на ягоныя грудзі. Ён стаяў, працягнуўшы рукі ўздоўж тулава.

— Алесь,— сказала яна.— Алесь...

Была ноч і вярба. Быў усход. А потым было сонца. І, калі яно ўзнялося над дрэвамі, ад круглых лістоў вадзяных гарлачыкаўляглі на дно цені.

І цені белых вадзяных лілей на дне става былі, як заўсёды, чамусьці не круглыя, а нагадвалі разарваныя пальмавыя лісты.

## XXXII

Лета было летам шчасця. Не разумеючы яшчэ да канца, што такое каханне, Алесь ведаў, што яго кахаюць і ён сам кахае. Майка часта бывала ў Загоршчыне і была такая ласкавая, такая добрая з ім, як добрае лета, што стаяла вакол.

Бываў ён у Раўбічах. І там таксама ўсе любілі яго. Нават Франс супакоіўся. Асабліва пасля таго, як упэўніўся, што Алесь ні ў чым яму не пагражае, а Ядзечка, хаця і сумуе, усё ж мірыцца з новым становішчам і ставіцца да Франса памяркоўна і мякка, бо ён харошы хлопец і ёй добра з ім.

Мсціслаў месяца паўтара жыў у Алеся. Таму ўсім было весела. Ездзілі ўсім хаўрусам і да Кагутоў, і да Клейнаў, і да Мнішкаў. Паўсюль было весела.

А ў Раўбічах асабліва. Таму што Вацлаў і Стась пасябравалі, выкідвалі, разам з Наталяй, розныя дурыкі.

Да таго ўсё было добра, што нават Майчына нянька, старая Тэкля, палюбіла Алеся і, калі чула, што ён павінен прыехаць, буркатала:

— Во і сонейка маё прыедзе. Бог таму дасць, хто яго любіць. А хто такому дачку аддасць — таму бог дасць удвая.

Бывалі і ў дзеда, і там было лягчэй за ўсё. Вежа не перашкаджаў нічым. Хіба што трохі іранізаваў над маладымі людзьмі. І здзіўляўся сам сабе. Чаго гэта ён, стары сугней, якому пакутай было бачыць людзей, аніяк не пакутуе з той прычыны, што дом поўны моладзі, што паўсюль гучаць галасы, песні, смех, што нельга сесці ва ўлюбёнае крэсла, не сеўшы пры гэтым на партабак Франса, нельга зайсці ў галерэю, каб не перашкодзіць юнакам, якія наладзілі там танцы. Дзіўна, гэта аніяк яму не перашкаджала. Наадварот, нават падабалася.

Пакутаваў спачатку адзін Мсціслаў. Гэтаму, нават пры ягонай легкаважнасці, даводзілася дрэнна. Падабаецца табе дзяўчына, а ёй падабаецца твой лепшы сябра. Гэта яшчэ няхай! З сябрам, тым больш пастрыжным братам, біцца не палезеш. Але пастрыжны брат адступіўся. Дык што б вы думалі? Знайшла другога сябра. Каго хочаце, абы не яго.

Ён быў лёгкі чалавек, але такой ганьбы нават для

яго было занадта. Таму хлопец крута змяніў сваё жыццё. Замест весялосці і танцаў браў сабаку і ішоў з ім у палі. Блукаў там, поўны меланхоліі, вёў размовы з сабакам, чытаў сентыментальныя раманы, якія яму зусім не падабаліся. Паспрабаваў нават пісаць вершы, поўныя тугі і сардэчных уздыханняў. Уздыханняў было шмат, рыфмаў — трохі меней, складу і мілагучнасці — зусім мала. Плюнуў.

Скончылася гэта зусім нечакана. Рытуал патрабаваў, каб закаханы наведаў тыя месцы, дзе ён бываў шчаслівы. Мсціслаў меў такіх месцаў няшмат, асабліва ў Азярышчы, куды сябры прыехалі наведаць Кагутоў. Маеўскі пайшоў да вялізнай адрыны, дзе калісьці ён і Алесь лазілі па сене, точачы ў ім хады між стогам і латамі страхі.

Прыйшоў туды і ўбачыў там дзевак, што якраз таптали сена. Дзеўкі заўважылі хлопца і ўзрадаваліся магчымасці падурэць.

— Паніч прыйшоў! Вой, ды які ж харашанькі!

Дзеўкі спаймалі яго, пакацілі па сене і скончылі тым, што напхалі яму мурагу між целам і вопраткай. Ганьба была страшэнная. Дзеўкі!.. Мужчыну!.. Калі яны пусцілі яго, Мсціслаў выглядаў так, нібы яго надзьмулі.

Бараніла яго толькі дзевяцігадовая Янька Кагут. Крычала на дзевак, штурхала іх як магла і цягнула за ногі. Гаравала, што напалі на аднаго.

Мсціслаў вызваліўся як мог ад сена, а потым стаў нападаць на дзевак па адной. Раскідваў і валяў іх, як коз. Падстаўляў ножку, скідаў са стога і не даваўся, каб зноў схапілі.

Урэшце зразумеў, што ўсё адно спаймаюць, і разам з Янькай уцёк дамоў. З таго часу хадзіў з ёю і на рыбу, і па маліны, і «глядзець ласёў». Жартам называў «нявестай».

— А што? На восем год маладзейшая. Скончу вось універсітэт — ажанюся. Я — дваранін, з невялікіх, яна — вольная сялянка. Рамантыка! Карамзін!

Рабіў выгляд, што падыходзіць да хаціны. Скідаў шапку:

— Здравствуй, добрая старушка. Чувствительное сердце твое не может отказать стрелку. Ибо и старые поселянки любить умеют, под сению дерев пляша. Не можешь ли ты дать мне стакан горячего молока?

Усе рагаталі. А ён з таго часу пакінуў гуляць у расчараванага каханка.

У жніўні Алеся і Вацлава запрасілі ў Раўбічы.

Пан Яраш сустрэў іх ветліва і цёпла, але дзіўна. Алесю адразу здалося, што Раўбіч быў бы куды больш узрадаваны, каб яны прыехалі праз дзень або паслязаўтра. Нешта такое было ў ягонай усмешцы, у залішняй гасціннасці, у тым, што ён, здаецца, не ведаў, куды яму падзець вочы.

Таму Загорскі адразу папрасіў дазволу пакінуць Вацака з Наталяй і Стасем, а самому ўзяць Майку і паехаць з ёй вярхі. Да вечара. Ён казаў гэта, не зводзячы позірку з вачэй пана Яраша. І ён упэўніўся ў тым, што яму сапраўды лепей знікнуць адсюль да самай ночы. І Майцы — таксама. Таму што пан Яраш зусім няўлоўна для староннягa вока, але ўзрадаваўся.

— Магчыма, мы заедзем да Басак-Яроцкага,— не адводзячы вачэй, сказаў Алесь.— Тады ён, вядома, не адпусціць нас.

— Не, сынок,— сказаў пан Яраш,— гэтага не трэба. Вядома, калі вы захочаце астацца ў пана Яроцкага, тады справа іншая. Думаю, у яго можа быць цікава, тым болей што ні Міхаліна, ні ты там яшчэ не былі. Але толькі ў тым выпадку, калі вам сапраўды захочацца там астацца.

— Добра,— сказаў Алесь.— Мы астанемся, толькі калі заедзем туды.

Пан Яраш першы адвёў вочы. Яму на хвіліну стала страшна ад недзіцячай пранікласці хлопца.

— Добра,— сказаў ён,— я дам Майцы загад збірацца. Пачакаем, пакуль тое, на стайні.

У тыя часы на Прыдняпроўі ў багатых дзедзіцаў заўсёды існавалі пры стайні, манежы, праварыне і бегавых дарожках — словам, пры ўсім, што складала конскі завод — некалькі пакояў, штосьці накшталт мужчынскага клуба.

Там заўсёды былі канапы, каб госці маглі адпачыць. Госці ацэньвалі коней, спрачаліся, мянялі і куплялі, заключалі пагадненні, пілі каву, закусвалі.

У пакоі, куды Раўбіч прывёў Алеся, стаяла вялізная турэцкая сафа, стол з бутэлькамі і закускай і некалькі крэслаў.

Алесь зайшоў і адразу страшэнна здзівіўся: у

крэсле за сталом сядзеў чалавек, якога яму менш за ўсё хацелася бачыць і якога ён менш за ўсё спадзяваўся сустрэць тут. Слаба загарэлы, з празрыста-ружовым румянцам на тугіх шчоках, пан Мусатаў сядзеў за сталом і папіваў ледзяную ваду з лімонным сокам.

Вузкія, зеленаватыя, як у рысі, вочы пільна і весела глядзелі на княжыча. Учэпістыя, прыхаванa-нервовыя рукі сціскалі сплюшчанымі на канцах, як долата, пальцамі вузкую шклянку, усю запацела-дымную, у пацерачках кропель.

— Што такое, пане Аляксандр? — спытаў Мусатаў.— Вы не чакалі бачыць мяне тут?

— Чаму не,— сказаў Алесь.— Кожны мужчына можа прыехаць на стайню да пана Раўбіча.

Выйшла падобна на поўху, і Алесь пашкадаваў аб гэтым, убачыўшы Раўбічавы вочы.

— Яны, відаць, таксама не чакалі,— усміхнуўся ружовымі вуснамі жандар.

Алесь азірнуўся і ўбачыў пана Мнішака і Юлляна Раткевіча, таго самага прадстаўніка малодшага роду, які некалі на дваранскай зборні падаў запіску аб неабходнасці вызвалення сялян. Нервовае жаўтаватае аблічча Раткевіча было стрымана-злоснае.

— Я прасіў бы вас не жартаваць так,— спакойна сказаў Раўбіч.— Я, урэшце, сам запрасіў вас да сябе.

— Прабачце,— сказаў Мусатаў.— Я прыехаў не ўчора і не заўтра, як вы мяне запрашалі, а сёння. Самі ведаеце, справы... Але я ад усёй душы ўдзячны вам за лаяльнасць і за пастаянную гатоўнасць памагаць уладам.

— Не варта падзякі. Урэшце, каму як не нам клапаціцца аб парадку ў наваколлі.

Алесь ужо нічога не слухаў. Бо за спінамі Мнішака і Раткевіча ён раптам убачыў маладжавы і наіўны твар... пана Выбіцкага, загоршчынскага аконама. Выбіцкі хаваў вінаватыя вочы і выглядаў ніякава, нібы спайманы на чымсьці. І гэта было зразумела, таму што яму не належала тут быць, таму што ніхто — ад пана Юрыя і Алеся і да апошняга мужыка — не думаў, што ён тут. Таму што яшчэ ўчора пан Адам Выбіцкі на дзень адпрасіўся ў пана Юрыя, каб з'ездзіць па пакупкі ў Сухадол.

Недалёка ж ён ад'ехаў ад Загоршчыны.

Варта было б здзівіцца гэтаму, але, урэшце, гэта была ягоная справа...

Да таго ж тут сядзеў халуй, сышчык, якога нельга было дапускаць у справы сваіх людзей. Дзеля нейкай мэты Раўбіч запрасіў яго сюды, вызваліўшы для сябе адзін дзень. «Учора» або «заўтра». Дрэнна ж Раўбіч яго ведаў. Такі заўсёды з'явіцца тады, калі яго не чакаюць, менавіта «сёння». «Сёння», а не «ўчора» ці «заўтра».

Алеся не абыходзілі справы пана Раўбіча. Але ён бачыў, што Мусатаў з цікавасцю назірае за сустрэчай аконама і маладога гаспадара. Пільныя зеленаватыя вочы глядзелі з іранічнай дапытлівасцю.

Загорскі дастаў з кішэні пулярэс і пачаў корпацца ў ім.

— Добры дзень, пан Адам,— неахвотна, нібы злуючыся на аконама, сказаў ён і дастаў з пулярэса сто рублёў.

— Дзень добры, пане Алесь,— адказаў Выбіцкі.

— Бацька вельмі нездаволены вамі,— сказаў Алесь і ўбачыў, як спалохана здрыгануліся веі аконама.— Ён лічыць, што вы маглі б правесці справу хутчэй... Вазьміце вось.

Рука Выбіцкага непаразумела ўзяла грошы.

— Вы затрымаліся на лішні дзень і за гэты дзень не маглі дабіцца нават дробязнай скідкі. Вы ведалі, што без Шаха нашаму заводу — зарэз, і нічога не дамагліся. З вашай літасці мы пераплачваем пану Раўбічу сто рублёў на гэтым жарабцы.

Выбіцкі, нарэшце, зразумеў. Настолькі зразумеў, што нават «абурыўся».

— Вы яшчэ малады, князь, каб чытаць мне натацыі.

— Малады я або не — не вам меркаваць. Я — гаспадар і разам з бацькам плачу вам грошы... Мяркую, дарэмна плачу.

— Прабачце, княжа,— спалохана сказаў аконам.

Мусатаў адвярнуўся, відавочна страціўшы ўсякую цікавасць да зборні.

— Вось так,— сказаў Алесь.

Ён зірнуў на Раўбіча і вырашыў ушпіліць трохі і яму за тое, што вось даводзіцца ехаць вярхі ў блізкі свет.

— А вы, пан Яраш, дзейнічаеце зусім не па-сусед-

ску. Карыстаецеся нашай пільнай патрэбай і таргуецеся, нібы мы чужыя людзі. Не скінуць нейкай там сотні!

— Сабе даражэй,— зніякавеў Раўбіч.

— Справа тут у прынцыпе. Адносіны не могуць быць добрасуседскія, калі сусед не саступае суседу.

Раўбічавы вочы няўлоўна смяяліся.

— Ну до ўжо, до,— сказаў ён.— Мы тут без вас паразумеліся з панам Выбіцкім. Шах адправіцца ў Загоршчыну адразу ж. Я адмовіўся ад прыбаўкі. І... ведаеце што, даруйце яму.

— Ды я і сам не хацеў бы,— сказаў Алесь.— Я ж ведаю яго непадкупную сумленнасць. Ведаю, што ён не стане займацца нічым, акрамя спраў гаспадара. Проста крыўдна было.

Жандар цяпер ужо зусім не слухаў. Наадварот, сам завёў спрэчку з Раткевічам. Ён вёрз нешта такое, што можна было прачытаць у кожнай правай газеце.

Алесь адчуваў, што самая прысутнасць гэтага чалавека тут, у Раўбіча, абражае веліч ягонага пачуцця да Майкі і самае паветра любага дома.

— Я прасіў пана Мусатава аб дапамозе,— сказаў Раўбіч.— Проста чорт ведае што. У маёй Хаданоўскай пушчы нейкія падазроныя людзі. Ёсць высечкі. Днямі аб'ездчык бачыў ля вогнішча ўзброеных людзей.

— Зробім,— сказаў Мусатаў.— Трэба звязацца з земскай паліцыяй. Ну і, канечне, вы самі павінны памагчы людзьмі.

Ён канчаткова супакоіўся. А Загорскі глядзеў на Раўбіча і, сам не ведаючы чаму, адчуваў, што той гаворыць няпраўду.

«Проста запрасіў гэтага блакітнага сышчыка,— падумаў Алесь,— запрасіў, адцягваючы ўвагу ад чагосьці. Не чакаў, што прыедзе менавіта сёння. Перастараўся, пане Яраш. Гэтак гуляючы, можна і галаву зламіць».

І раптам гарэзлівая думка прыйшла яму ў галаву. Уласна кажучы, нічога не каштавала вытурыць адсюль Мусатава, прычым так, што ён і не здагадаецца. «Не выпендзам, але бардзо проша». Хай сабе пабегае. А між тым паветра ў Раўбічах адразу стане чысцейшае.

— Па-мойму, вы не туды глядзіце, пан Раўбіч,— сказаў Алесь.

— Што-небудзь ведаеце? — спытаў Мусатаў.

— Нічога не ведаю,— сказаў Алесь.— Але страху сёння нацярпеўся. Шчасце, што пісталет быў у хусце, то я недвухсэнсоўна высунуў яго, каб рукаяць тырчала. Мяркую, толькі таму і абышлося. А іначай мог бы і галавою налажыць. Ва ўсякім разе, грошы аддаў бы не Выбіцкаму, а іншаму...

— Хто іншы?

— Еду сюды. Толькі праехаў камень Выдравай грэблі — ну, яшчэ там, дзе лес ля самай дарогі,— перасякае дарогу чалавек на вараным кані. Стаў на ўзбочыне і глядзіць. Ды пільна так, нядобра. Вочы сінія, бязлітасныя. З сакваў пісталеты тырчаць. Пастаяў, усміхнуўся на мой дэмарш з пісталетам, пасварыўся пальцам і знік у напрамку да Дняпра... Пайшоў, відаць, у Кортаўскі лясны востраў.

— Чаму мяркуеце так?

— А таму. Ля Кортава адзіны на ўсю тую паваротку Дняпра брод. Зручна. Калі перапраўляцца ды ў Янаву пушчу ісці, то толькі там. А калі ўдзень перапраўляцца не рызыкне, то і ў Кортаўскім востраве перасядзець можна.

— Аблічча не запамяталі?

— Чаму ж не,— Алесь біў на тое, што Мусатаў анічога не ведае пра дзве сустрэчы яго з Войнам.— Нос гарбаты. Аблічча загарэлае такое, як гарчыца. Я чаму і падумаў, што падазроны, што нельга звычайнаму чалавеку, які пад дахам сядзіць, ну вось хаця б вам, пане Мусатаў, так загарэць. Адразу відаць, што не сядзіць, а цэлымі днямі пад сонцам гойсае... Што яшчэ? Ага, валасы чорныя і нібы хто ў іх павуціннем сыпануў. Усе сівізною перавітыя...

Мусатаў збялеў.

— Вось якія справы. Калі ўжо шарпаць, то не ў Хаданоўскай пушчы, а ў Янавай. Ды і Кортаўскі востраў памацаць не шкодзіла б.

Устаў і пайшоў з пакояў. Раўбіч, счакаўшы трохі, выйшаў за ім.

— Здорава гэта ў цябе палучаецца,— сказаў ён.— Выручыў... Зарэзаў ты мяне без нажа!.. Шаха цяпер адсылай... І брэшаш ты ўсё на сваю карысць.

— А хто на чужую карысць брэша? — сказаў Алесь.

— Т-так.

— Нічога, дзядзька, заплацім.

Вочы пана Яраша з раптоўнай пяшчотай зірнулі на юнака.

— Хочаш — заставайся,— з нечаканым парывам сказаў ён.— Не ездзі.

— Не,— сказаў Алесь,— вярхі ездзіць лепей, чым тут сядзець. З Міхалінай гаварыць лепей, чым з уласным аконамам.

— Горды,— сказаў Раўбіч,— так і не даруеш?

— За што? У вас свае справы, у мяне — свае.

Калі Майка і Алесь выйшлі на конны двор, з-за ягонай брамы даляцеў да іхніх вушэй дзікі пошчак капытоў. Апалон Мусатаў не вытрымаў Алесевай весткі, а на гэта і разлічваў юнак.

Жандар выехаў з двара назнарок павольна, трымаючы гонар, нібы яго аніяк не ўсхвалявала чутка аб з'яўленні Войны. Але на доўгі час вытрымкі ў яго не хапіла, і ён прыўдарыў так, што толькі пыл закурэў пад капытамі каня. Што ўжо што, а ў смеласці жандару нельга было адмовіць.

Яны ехалі пустымі раўбічаўскімі ржышчамі, і Алесь вучыў Міхаліну ездзіць «па-сапраўднаму».

— Ты сядзі ў сядле толькі ў час конскай хады. Калі конь ідзе рыссю ці наўскапыта — ты ўставай у страмёнах і хіліся наперад. Галоп будзе роўны, чалавек не будзе скакаць у сядле. Гожасць у такога палёту дзівосная, зручнасць — выключная. Ну, пагналі.

Вырашылі ехаць да загорскага замчышча, а адтуль у лес. Майка настаяла, хаця Алесь і лічыў, што гэта далёка. Але ёй хацелася туды, бо гэта была дарога шчасця, і руіны, і дно той крыніцы, у якую яны, дзеці, заглянулі калісь.

— Кастусь табе нічога не піша?

— Прыслаў нядаўна ліст... Ён са мною.

— Кастусь спадабаўся мне,— сказала Майка,— ён харошы і вельмі сумленны. Лепшы твой набытак за ўсё жыццё, калі не лічыць Мсціслава.

— Ну і цябе, канечне,— засмяяўся Алесь.

— Сакрэтаў у лісце няма?

— Няма.

Алесь дастаў з пулярэса ліст, спісаны роўным дробным почыркам друга.

— Прыгожа піша,— сказала Майка.

— Галоўнае, разумна піша. Вось, слухай... «Дарагі Алесь! Уяві сабе, што я пішу ўжо не з Масквы, а з Пецярбурга, якога калісьці так не любіў і ў якім не хацеў жыць. Але зрабіць нічога было нельга. Брат Віктар з Маскоўскага універсітэта звольніўся, а мы вымушаны трымацца адзін за аднаго. Ён слабейшы фізічна, я — бяднейшы. Без абаетнай дапамогі прападзем, як рудыя мышы.

Словам, я «звязаў кілбасу», абышоў і назад вярнуўся, і столькі лішняй дарогі зрабіў Але не шкадую. Не шкадую і Масквы, бо яна — дзівосная. Не шкадую цяпер і Пецярбурга, бо тут жыццё, як вір, і нашмат болей цікавых і *нашых* людзей. Канечне, нагляд стражэйшы і да «брамы пад архангелам» аж занадта блізка, а начальства пачасту крычыць «ашкір», як на авечак, але людзі — дзіва. І горад — дзіва! Размыты ўвесь сіні і залаты. Прыгажосць невыказная. Здатны быў бы пакахаць яго самым гарачым каханнем, каб не выходзіла адсюль столькі благога і цяжкага. Але, як падумаць, людзі не вінаватыя. Вінаватыя нелюдзі... Бачыў, між іншым, нашага «Лабыра». Ехаў па Неўскім. У абліччы самае цікавае — прычоска, а падбароддзя зусім няма. Едзе сабе ў ландо такі даліктун, свіны тата, глядзіць на свет звысоку. Стрэліся позіркамі, і я нават спалохаўся, а што, як раптам здагадаецца аб пачуццях адной з тых мурашак, якія сноўдаюць ля ног. Зразумеў: ненавіджу. Кацюга, людаед, кат роднай нашай зямлі».

— Як гэта ён не баіцца? — перапыніла Майка.

— Ён нічога не баіцца. А ліст з аказіяй прыйшоў, з верным чалавекам. Дык вось... «Каб вочы маглі спапяляць,— адзін попел ад яго астаўся б. Падумаць толькі, колькі ж ліха можа нарабіць адзін?

Дык вось, дванаццатага ліпеня Віктар з універсітэта звольніўся, і мы адразу паехалі «жалезным змі-ем» у Пецярбург. Нанялі пакойчык на Васільеўскім востраве. Першага жніўня падаў рэктару прашэнне, каб ласкава дазволіў здаваць прыёмныя экзамены. Прозвішча рэктара — Плятнёў. Друг Пушкіна, але чалавек, здаецца, досыць старамодны і да асаблі-

вых навін не схільны. Прасіцца буду на юрыдычны, па разраду камеральных навук. Спачатку думаў быў у медыкі, як Віктар, але раздумаў. Здароўе людзей — гэта, вядома, надзвычай важліва. Але дрэнная тая медыцына, якая пачынае з лекавання хваробы. Перш за ўсё трэба хваробу запабегчы. Даць людзям людскія ўмовы. Каб жылі сытна, каб апрануты добра былі, каб жылі багата і ў добрай хаціне, каб не цягаліся па судах і правільна вялі гаспадарку, каб былі вольныя. З камералаў выходзяць самыя лепшыя гаспадары і адміністратары. А гэта — галоўнае. Бо нельга дазволіць, каб народ выміраў. Унь у нас на Гродзеншчыне. Неўраджаі некалькі год, халера лютуе, тыфус косіць людзей, гарачкі іх кладуць.

А яны, сабакі, на нас цісн уць. На ўсю краіну адна навуковая ўстанова: Горацкая акадэмія (гэта калі не лічыць смаргонскай, дзе мядзведзяў вучылі). Вядома, так ім лягчэй нас у кіпцюрах трымаць. Што з беларуса возьмеш? Цёмная бутэлька. Віленскі універсітэт закрылі, гімназіі ў Гродна ды Беластоку закрылі. З нашай, Свіслацкай, зрабілі вучылішча на сорак вучняў. А было ж некалі чатырыста!

Ну, добра! Вучыцца буду, як вол. А вывучуся. Не ведаю, як будзе з платай за навучанне. Пяцьдзесят рублёў срэбрам у год — гэта для мяне зашмат. Можа, вызваляць па беднасці. І яшчэ каб стыпендыю нейкую атрымаць. Але гэта раней як на другім-трэцім курсе не атрымаецца, так што няма чаго і думаць. Буду даваць урокі».

— Ты б прапанаваў яму дапамогу,— перапыніла зноў Майка.

— Не возьме. Ды яшчэ і аблае. Ён горды.

— То што рабіць?

— Папрашу дзеда, каб Ісленьеў патрос сувязямі.

— Хіба можа?

— А што? Ён рускі, пецярбуржац. У кар'еры яму ніякія сувязі не памогуць, а ў такой лухце знойдуцца. Дзед пад сакрэтам накіраваў грошы за навучанне на ўвесь тэрмін. А там скажуць — «вызвалілі». Толькі ты нікому не кажы.

— Не скажу.

— Стыпендыю з часам атрымае. А не атрымае — зробім, як з платай. Ну і ўрокі. Я палічыў. За нядрэнны пакой — дзесяць рублёў. Есці, каб хаця два ра-

зы — восем. Кнігі — пятнаццаць. Форма з дзвюма зменамі — дваццаць. Значыць, за ежу і дах у год дзвесце шаснаццаць. А разам з вопраткай і кнігамі — усяго дзвесце пяцьдзесят адзін рубель.

— Я не думала, што ты і практычны.

— Я — усялякі... То слухай далей... «Дуніна-Марцінкевіча, аб якім ты пішаш, не ведаць — сорам. Першы наш сапраўдны паэт. У сорак шостым годзе надрукаваў у Вільні сваю «Ідылію» (здаецца, так), а ў мінулым, у Мінску, «Гапона» ды «Вечарніцы». «Гапона» з «Вечарніцамі» дасылаю, «Ідылію» дастань сам. Трохі гэта, канечне, занадта дабрэчае і на ружовай вадзіцы з панскімі (прабач, Майка,— сказаў Алесь) соплямі замешанае, але ён можа быць і злы. Нічога, што ён, пакуль тое, кроераў у нашым жыцці не заўважыў. Будзе і гэта. Галоўнае, наш чалавек. Таленавіты. Галоўнае — дыхнула наша пісьменства, з часоў агульнай панскай здрады забітае, загнанае. Сіраціна наша з табою першы свой голас падала. А чысты! А звонкі! Золата на хрусталі. Васількі ў жыце! Срэбныя кропелькі. Каб ты ведаў, Алеська, як хочацца вершы пісаць! Але ведаеш: лёс разгарнуцца не дасць. І хапаеш сам сябе за руку. А Марцінкевіч малайчына! Я зайздрошчу табе, што ты яго бачыў.

З тваёй гімназічнай гісторыі і пасмяяліся мы, і задумаліся потым. Але мне стала трохі сумна, што ты гэты год не будзеш паступаць ва універсітэт і станеш, дзедавым намаганнем, прывучацца да гаспадаркі. Як паедзеш, то цяпер, вядома, у Пецярбург, а не ў Маскву. Будзем разам. А пакуль тое, я табе падрабязна пра свае справы пісаць не буду. Так, трошкі. Папера, сам ведаеш».

— Шкада,— сказала Майка.

— «Ты ведаеш,— чытаў Алесь,— я тут палюбіў рускіх людзей. Высакародны, харошы народ. І таксама няшчасны, як мы. Я раней іх ведаў па горшых узорах, па жандарах, што да нас панасылалі. Сам ведаеш, добры чалавек на такое не пойдзе, сумленных і шчырых у такім асяроддзі — дарэмна шукаць. А тут прыглядзеўся — лухту гэта на іх нашы панкі, накшталт твайго Лізагуба, вярзуць. І тое праўда, што няма дрэннага народа. Канечне, гэта не яны нас на часткі шматуюць, у пятлю пхаюць, выбіваючы дух. Гэта дзяржава катаў, абрыдлівая, страшная, гнілая.

Турма людзей, турма плямёнаў. Жандары, алілуйшчыкі, прадажная погань! З турмы, з турмы гэтай трэба вырывацца, калі хочам жыць. Трэба разумець, што справа ў рондзе[1], а не ў народзе. І што калі адасабляцца, то ад яго, а не ад людзей, што самі шукаюць сяброўства з намі. Шмат харошых хлопцаў. І сярод нашых, і сярод палякаў, і сярод рускіх.

«Современник» чытаю даволі рэгулярна. І, ведаеш, у жніўеньскай кніжцы новае імя. Памяні маё слова, калі мы не дачакаліся новага свяціла. Ён рускі. Прозвішча — Дабралюбаў. Чалавек, па ўсім відаць, страшэнна памяркоўны, страсны і чысты. Нашы хлопцы ганарацца. Вучыцца ён у педагагічным. Гэта ў будыніне універсітэта. Пад адным дахам. Памятаеш, у Грыбаедава (па тваім спіску цытую):

> Есть в Петербурге институт
> Пе-да-го-нический — так, кажется, зовут?..
> Там упражняются в расколах и в безверьи
> Профессоры!

Прафесары «доупражнялись». Цяпер узнялі голас выхаванцы. Вось яно як!

Пасля напішу аб усім. Перадавай прывітанне бацькам, дзеду, Мсціславу. І, вядома, Майцы. Я люблю яе. Перадай.

> Залатыя прыножкі,
> Дзе стаяць яе ножкі
> Дзе яна сядзела,
> Там лаўка залацела».

Майка паружавела. Варухнула вуснамі.

— Во гэта кавалер! Не тое, што ты.

Алесь, нібы не слухаючы, чытаў далей:

— «Яна сапраўдная беларуская дзяўчына. І таму, прабач, браце, я не хацеў бы для цябе небяспекі».

Майчыны шчокі сталі чырвоныя.

— Што ты напісаў?

— Напісаў, што мне дарагі свет і ты. Але радзіма мне даражэй за ўсё. І калі радзіме маёй дрэнна — мне таксама няміла нічога, акрамя радзімы. Не баліць нічыя бяда, акрамя яе бяды. Я тут не на тое, каб дыгнуць нагою ды сказаць je suis de passage[2]. Я тут нарадзіўся і тут спадзяюся памерці.

Яна зірнула на яго з павагай.

Урга і Касюнька імчалі па свеце. Снежна-белы

---

[1] Ва ўрадзе.

[2] Я тут праездам *(франц.)*.

і мышастая. А свет вакол быў жоўты ад іржышчаў і хрустальна-сіні ад неба. Сям-там на апошніх лапіках поля жанчыны яшчэ ваявалі з каласамі. Жоўтыя бароды жменяў здрыгаліся і бязвольна клаліся пад сярпом. І тонка-тонка, высока, далё-ока дрыжалі, плакалі ў чыстым паветры празрыстыя крынічкі галасоў.

Перапёлка, пераляці поле і сіняе мора, перапёлка.
Нясі звесьці ад ліхой свякроўкі ды да роднай маткі,
нясі звесьці.

Пра што, за што свякроў мяне біла асінавым кіем,
пра што, за што?

А ці я ёй пасцелькі не слала, ці не разувала, а ці я ёй?
Пасцель слала: кулачок пад бачок, камень пад галоўку,
пасцель слала.

Разувала ў цёмным куточку альховым пруточкам, разувала.

— Бедная мая,— глухім голасам сказаў Алесь.— Бедная мая зямля!

Жаль ахапіў Майчына сэрца. Яна прыстроіла Касюньку да Ургавай рысі і пяшчотна пагладзіла каштанавыя валасы хлопца.

Яна ніколі не ведала, чаго, калі ад яго чакаць. «Нечаканы, як прадзед Акім»,— казаў Вежа. Сапраўды, нечаканы, як удар маланкі. І таму страшэнна прывабны.

— Я цяпер ведаю,— сказаў ён.— Ты думаеш, ты дарэмна была барвянай у тым белым пакоі? Не, ты такая і ёсць.

Ён глядзеў на яе дзіўнымі, зусім новымі, вялізнымі шэрымі вачыма. І ёй раптоўна стала страшна.

— І валасы ліловыя... Усё ў свеце такое складанае. А мы нічога не ведаем. У ружы, напрыклад, блакітны вячэрні пах. Ён гучыць, як струна віяланчэлі, калі яе кранеш у глухім пакоі. А ў бадзяка, у чартапалоха, пах пярэсты, чмяліны, і ён зусім як басовае «до».

Незразумелыя вочы, здаецца, бачылі яе да самага дна.

— А твае валасы пахнуць дурманам і таму, вядома, ліловыя.

Коні глыталі шырокі, добры і страшны абшар.

Натоўп дваран ішоў падземным ходам да Раўбічавай камяніцы. Пан Яраш крочыў паперадзе з кандэлябрам у руцэ. Крокі глуха гучалі пад шэрымі, нібы

запыленымі, скляпеннямі. Вычварныя чорныя цені кідаліся ва ўсе бакі на кожнай паваротцы.

Ішлі ў маўчанні, якое нават прыгнечвала. Пятнаццаць чалавек не хацелі абмовіцца і словам.

Урэшце пан Яраш сказаў глухім голасам:

— Прыступкі, панове.

Пачалі падымацца. Потым Раўбіч адчыніў жалезныя дзверы, і гурма выйшла на дзённае святло, што падала праз закратаванае акно ў вялізнае сутарэнне з каменнай падлогай і скляпенчатай столлю. Востра шыбнула ў твары саладкаватым серным смуродам. На сталах стаялі колбы, рэторты, палаў у саганах агонь. Лёгкі дымок цягнуўся пад выцяжны каўпак.

Чатыры чалавекі ўзняліся са сваіх месцаў, калі натоўп уцягнуўся ў сутарэнне. Глядзелі, нібы чакаючы, насцярожана і нядобра. Суконныя плашчы. Бледныя, нібы фарфоравыя, аблічны людзей, якія рэдка бачаць сонца. Бледныя, як парасткі бульбы ў склепе.

— Спакойна, панове,— сказаў ім Раўбіч.— Гэта свае.

Звярнуўся да гасцей:

— Спадзяюся, прозвішчаў вы не спытаеце. Але яны таксама свае. І ім аніяк нельга выйсці адсюль. Усе ўжо дзесяць год думаюць, што яны за мяжой. А яны туды не могуць. Нянавісць не дазваляе. І таму свядома ахвяруюць сабой.

— Група Зянкевіча? — спытаў Мнішак.

— Але[1]. Гэтыя два сябры — хемікі. Біліся столькі год — і ўсё ж вынайшлі такі гарт сталі, што яна больш надзейная, чым златаўстаўская. Не ломіцца ад удару молатам. Сячэ хусцінку. Маем такіх шабляў ужо трыста сорак і дзве.

— Малавата,— сказаў Раткевіч.

— Адразу нічога не бывае,— Раўбіч адчыніў нізкія дзверцы.— Там яшчэ ход. У другое сутарэнне. І ў ім нешта каля пяцісот пудоў пораху. Самаробнага, але не горшага за фабрычны.

— Порах і агонь? — спытаў Мнішак.

— Нічога, гэта надзейна. Ход цягнецца на трыццаць сажняў. А ўрэшце, у жыцці і смерці наш гаспа-

[1] У 1846 годзе на Магілёўшчыне выкрылі групу «карбанарыяў», якая рыхтавала закалат. Данос Горацкага студэнта Белавуса быў своечасова раскрыты, і група самаліквідавалася. Не арыштавалі нікога.

дар — бог. Я паклікаў вас дзеля таго, што ўсё гэта трымаць у камяніцы стала небяспечна. На мяне могуць склеіць і другі данос. Блакітныя актывізаваліся... Вам давядзецца добра папрацаваць у гэтую ноч, панове. Гарбом.

— Яны не могуць,— усміхнуўся аксамітнымі вачыма з'едлівы Януш Біскуповіч, той самы паэт, Мацееў бацька, з якім Алесь і пан Юры ездзілі да Кроера.— Яны на панства хворыя. Як гэта гарбом? У іх няма гарба.

Пасмяяліся. Янушу ўсё даравалі. Баяліся языка.

Раўбіч звярнуўся да «хемікаў»:

— Адразу ж старанна згасіце агонь. Жалезныя рэчы загарніце ў тканіны і пакладзіце ў кладоўцы. Падлогу засцяліце кілімамі.

Адзін з бледнатварых схіліў галаву.

— А вы бліжэй пад вечар скінеце чаравікі (я тут нарыхтаваў для вас мяккія такія боцікі з аўчыны, накшталт індзейскіх макасінаў), выцягнеце і здасцё мне ўсё металічнае: партабакі, ключы, крэсівы, калі хто не давярае сярнічкам, кашалькі з срэбнымі грашыма.

— Пакуль той закалат, дык ужо кашалькі адбіраюць,— сказаў Біскуповіч.

— Трэба... І за адну ноч, як простыя фурманы, завязем усё гэта ў мой Крыжыцкі лес, у схованку. Там надзейна. Людзі ў леснічоўках адной вяроўкай са мною звязаны. Схаваем — і ўсё.

Паны схілілі галовы на знак згоды.

— Вас пятнаццаць, ды я, ды іх чатыры... Дваццаць чалавек. Па дваццаць пяць пудоў на чалавека і каня. Па адной ездцы.

З ачага, куды «хемік» выліў вядро вады, ірванула, засычэла пара.

— Нішто сабе лазня,— сказаў Біскуповіч.— А дзе венікі?

— Венікі табе Мусатаў падорыць,— жоўчна ўсміхнуўся Раўбіч.

— Раўбіч кака,— сказаў пан Януш.— Раўбіч чарадзей. У Раўбіча з падполаў серай цягне. Да Раўбіча нячыстая сіла па начах праз комін лётае.

Памаўчаў.

— А і малайчына Раўбіч! Я ведаў, але не думаў, што такі зух!

— Хадзем наверх,— сказаў Раўбіч.— Пагаворым.

Яны падымаліся вінтавымі сходамі даволі доўга, пакуль не далезлі да верхняга паверха камяніцы, вялікага пакоя з камінам, у якім яшчэ асталіся гнёзды ад пожагаў і дзве старажытныя кулеўрыны ля акенца.

Кулеўрыны глядзелі жераламі ў нязмерны парк. На чашападобную лагчыну, на будыначкі маёнтка, на падкову возера, на дзве выцягнутыя званіцы раўбіцкай царквы, на далёкую шэрую пляму лазні ў гушчары.

Пасярэдзіне пакоя стаяў стол, укрыты цяжкім парчовым абрусам, і крэслы. На стале, на крэслах, проста на падлозе ляжалі жаўтаватыя, пергаментныя, і белыя, папяровыя, скруткі карт, стальныя і гусіныя пер'і, чарніліцы з атрамантам.

— Сядайце.

Усе паселі. Януш Біскуповіч, пан Мнішак, Выбіцкі, Юллян Раткевіч.

Жоўчнае, знясіленае неадчэпнай думай аблічча пана Яраша, ягоныя вочы-правалы дабрэюць, калі Раўбіч глядзіць на гэтых. Надзейныя, свае людзі. Нават на эшафоце будуць такія. І той нядрэнны, і яшчэ вось гэты. І той. Восем чалавек, на якіх можна спадзявацца, як на сябе. Шасцёх ведае горш, але ім таксама трэба верыць. Прадстаўнікі далёкіх паветаў. Двох рэкамендаваў Біскуповіч, двох Раткевіч Юллян. Па адным — Мнішак і Выбіцкі. І толькі аднаго з ахвотаю не бачыў бы, хоць гэта і дрэнна — мяшаць у агульную справу асабістыя пачуцці. Сядзіць Мікола Браніборскі. Сквапны, хваткі, як у галаўня, рот усміхаецца. Не, даваць волю ўласнай нелюбові нельга. Прыгнёт ненавідзіць, сялян тады вызваліць сам прапанаваў, абедзвюма рукамі падпісаўся пад Раткевічавай запіскай. З Кроерам тады пабіўся. А ў справу прыйшоў сам. Сам прапанаваў Янушу стварыць змову, сказаў, што, калі дваране сталі баязліўцы — адзін пойдзе, бо немагчыма больш на такі глум глядзець. Трэба прымусіць сябе добра ставіцца да яго. Так, як да даўжэзнага, нібы калядная свечка, Юлляна. Так, як да рэкамендаванага ім Вірскага. Як да малазнаёмага Ваневіча.

Трэба верыць.

— Вось, панове,— сказаў Раўбіч.— Мусатаў

шнырыць вакол. Дбаннем маладога Загорскага спіхнулі яго ў Янаву пушчу, пакуль вывезем порах і зброю. Мяркую, усе згодныя са мной?

Біскуповіч схіліў галаву.

— Тады прыступім да чарговай зборні падспуднай рады. Тут усе.

Цяжкія Раўбічавы вочы абвялі прысутных.

— Усе вы ведаеце, што сказаў у сваёй прамове перад дэпутатамі польскага сената, дваранства і духавенства дзесятага мая гэтага года імператар Аляксандр. Motto ягонай лазенскай прамовы была — ніякіх мар.

— Zadnych mavzeń,— ціха пераклаў Мнішак.

— «Ніякіх мар, панове. Здолею ўтаймаваць тых, хто захаваў бы мары... Дабрабыт Польшчы залежыць ад поўнага зліцця яе з іншымі народамі майго царства». Любельскага маршалка Язерскага не дапусцілі адказваць цару. Забараніў намеснік, Гарчакоў. Гэта прымус, гэта вынарадаванне, гэта навязванне манархічнай сістэмы. «Ніякай аўтаноміі, нават фінскай». «Ніякай самадзейнасці, нават абмежаванай». Вось што недвухсэнсоўна сказаў імператар. Калі такі глум царат учыняе ў Польшчы — чаго можна чакаць ад яго нам? Што ён можа даць нам, акрамя яшчэ горшага рабства? Агульнае абурэнне пануе на нашых, на польскіх, на літоўскіх землях. Трон Раманавых зжыў сябе паўсюль. Яны самі распісаліся ў сваёй неспраможнасці даць шчасце і волю падданым і народам. І таму я пытаю ў прадстаўнікоў падспуднай рады: пакладзем мы канец нашым ваганням; будзем цярпець далей або паставім перад сабою ясную мэту, скажам самім сабе, што мы жывём для паўстання, для вялікай змовы, для людовай вайны з усім, што крыўдзіць, ганьбіць і зневажае нас?

Настала маўчанне.

— То як?

— Калі паўставаць? — спытаў Біскуповіч.

— Паўстаць, каб толькі пусціць кроў,— гэта дурасць,— сказаў Раўбіч.— Паўставаць трэба з надзеяй на перамогу. Шкада, што ў часе вайны нас было замала, каб ударыць у тыл... Але за тры гады вайны колькасць нашых паплечнікаў патроілася. Я разлічыў рост нашых арганізацый. Мы будзем мець належную

колькасць людзей праз шэсць год. Значыць, прыблізна шэсцьдзесят другі год.

Браніборскі свіснуў:

— Мы паўстаём або гуляем у слімакоў?

Усе маўчалі. Потым Раткевіч Юллян сказаў:

— Доўга.

— Затое верна,— сказаў Раўбіч.— Ты думаеш, Юллян, мне не баліць кожны дзень няволі? Душа запяклася! З раніцы першая думка аб гэтым. Вечарам — апошняя. Не магу ўжо жыць... Раз на месяц абавязкова прыходзіць вар'яцкае жаданне: пачаць. Пачаць. Пачаць адразу, з тымі людзьмі, што ёсць. Нічога і нікога не чакаючы. Нават не баюся загінуць.

Памаўчаў.

— Але думку тую гоніш. Ну, пачнеш непадрыхтаваным. Ну, загінеш і сяброў загубіш. Зямлю шыбеніцамі заставяць. Мы не маем, не маем права рызыкаваць. Загінуць — добра. Загінуць — трэба. Але так, каб ад гэтай загібелі быў нейкі плён.

Яны думалі. Потым небывала сур'ёзны Біскуповіч сказаў:

— Рацыя...

— Пан Яраш падрыхтаваў нейкі план? — спытаў Мнішак.

Замест адказу Раўбіч хрумснуў вялікім пергаментам, раскручваючы яго на стале. Паклаў на адзін канец цяжкую шаблю ў похвах. Два другія рагі прыціснулі срэбнай чарніліцай і кавалкам губчатай крыцы.

— Я заўважаю, паны не кураць,— з усмешкай сказаў Раўбіч.— Курыце.

Усе разгублена пераглядзелі адзін на аднаго. Сапраўды, чаму не кураць?

І раптам рогат пракаціўся над галовамі. Усе смяяліся, зразумеўшы, што падсвядома ў кожнай галаве цвіком сядзела думка аб пяцістах пудах пораху.

— Лухта,— сказаў Раўбіч.— Гэта зусім не пад камяніцай.

— Кіньце, хлопцы,— сказаў Біскуповіч.— Тут і без пораху, як на скрут галавы.

— Гэта яны баяцца, што ад іхніх люлек абурэнне выбухне,— сказаў Раткевіч.— Не бойцеся. Не такі ўжо ён вогненебяспечны, наш народ. І не такое ўжо з нас, з кожнага, добрае крэсіва, каб іскры сыпаліся.

Пацягнула тытунёвым дымком. Закурэлі цыбукі гаспадарскіх доўгіх трубак, захліпалі люлькі гасцей, запунсавелі кончыкі цыгар.

Усе маўчалі, гледзячы на мапу. Прыдняпроўе, зрэзанае сінімі стужкамі рэк, зялёнымі плямамі лясоў, цёмнымі кропкамі вёсак і гарадоў ляжала перад імі.

І таму ва ўсіх трохі сціснула дыханне, як перад першым адчайдушным крокам у ледзяную ваду Дняпра.

— Мяркую, паны не змянілі сваёй думкі аб тым, што галавой падспуднай рады і ваяводам прызначаны я? — спытаў Раўбіч.

— Не змянілі.

— Тады слухайце. Грунтам для майго плана было ваша паходжанне, панове,— сказаў Раўбіч.— Тыя мясціны, у якіх вы пачалі збіраць свае групы. Свае будучыя загоны. Веданне мясцовасці і людзей — вось ваша неацэнная перавага. Таму я і схіліўся да дыспазіцыі, якую прапаную вашай увазе. Адхіленні ад прынцыпу паходжання — невялікія, і тыя людзі будуць кіраваць унутранымі атрадамі, наводзіць парадак, прыходзіць на дапамогу тым, каму будзе цяжка. Трымаць асявую лінію Дняпра ад Лоева да Дуброўны, сто семдзесят — сто восемдзесят вёрст па птушыным лёце. Калі ж улічыць усе лукавіны Дняпра, то ўдвая больш. Сачыць пільна, каб не праляцеў пясчанік-кулік. Трымаць моцна, як трымаюць уласнае дзіця.

Паны слухалі ўважліва і змрочна.

— Дык вось,— сказаў Раўбіч.— Сухадол — гэта фарпост. Гэта вузел. Адсюль пачынаецца асявая лінія Сухадол — Загоршчына — Вежа — Дошчыца. Яе трэба трымаць, калі прарвуцца з-за захаду ці ўсходу. Пакідаць за сабою — любою цаной. Калі яна падзе — гэта клін, гэта меч у цела паўстання. А Сухадол — рукаяць гэтага мяча. І таму я пакідаю яго за сабой. Другое, што нам трэба адразу зрабіць,— гэта адбіцца ад магчымых сікурсаў, ад падмацаванняў, якія абавязкова пойдуць на дапамогу ўрадавым войскам... у той мех, які я, з вашай дапамогай, мяркую ўчыніць ім.

— Як? — спытаў Мнішак.

— Глядзіце. Пан Біскуповіч з наваколляў Елянца.

Паўдзённы край майго ўчастка даходзіць да вас. Я трымаю гэтую лінію, і частку асявой лініі Дняпра, і ўчастак па Друці. Вы бачыце?

— Бачу,— сказаў Біскуповіч.

— Пан Вірскі з Даўгалесся. Вы трымаеце Дняпро на дваццаць вёрст на паўночны захад, дзе мост па гасцінцы Гомель — Глінная Слабада (вельмі важна), і на паўднёвы ўсход, прыблізна да Холмечы і Старадубкі.

— Помню,— сказаў Вірскі.

— Пан Якуб Ваневіч.

— Слухаю вас,— грузлы крамяны Ваневіч паклаў руку на кут між Дняпром і Сожам.

— У вас другі па важнасці вузел. Трэць усёй справы залежыць ад вас. Авалодаць сваім рогам, трымаць яго жалезнай рукой — на што атрымаеце ледзь не найбольшую дапамогу людзьмі і зброяй — і не дапускаць сікурсаў з поўдня.

Раўбіч вёў лінію паўздоўж ракі...

— Прашу паноў улічыць: вы ўсе седзіцё на левым, пераважна нізкім беразе Днепра. Таму ўсім нам давядзецца загадзя авалодаць усімі ключавымі вышынямі гэтага берага. Я павінен паклапаціцца аб умацаваннях Доўгай Кручы, Гарадзішча, Чырвонай Гары, Спароўскіх вышынь, Луцкіх гарбоў і гэтак далей. Вы, Біскуповіч, авалодаеце Выбаўскімі і Смыцкімі. Ад Рэчыцы да Лоева асабліва цяжка, бо там пяцідзесяцісажнёвы абрыў грады падыходзіць з варожага боку амаль да ракі, а ў нас мясцовасць нізкая і забалочаная. Дадатковая цяжкасць для вас, Ваневіч, але вы былы афіцэр, ды яшчэ са здольных. На першы раз вам паможа забалочаная мясцовасць і нетры. Паколькі пачнем вясной, а разліў там часам дасягае шасці вёрстаў ушыркі — гэта дасць вам неабходны спакой на той час, пакуль мы будзем наводзіць парадак. Падбайце толькі аб тым, каб звесці пад сваю руку, на ўсе высоты, якія ў той час будуць астравамі, усе магчымыя плыўныя сродкі. Каб вы мелі поўную свабоду для манеўравання, а вораг яе не меў... Я разумею, не ўсё на вайне выходзіць так, як на паперы. Але ж, ва ўсякім разе, павінен быць план і наша вялікае імкненне зрабіць усё, што ад нас залежыць і што ў нашых сілах, каб наблізіць яго да рэчаіснасці.

— Разумею,— сказаў Ваневіч.

— Ваш левы фланг, Ваневіч, змыкаецца з правым флангам суседа ля самага Гомля. Там якраз край шасцідзесяцісажнёвага плато падыходзіць да самай ракі. Там скрыжаванне дарог, якое трэба трымаць нават коштам жыцця... Пан Яноўскі з-пад Радугі.

Яноўскі, які нервова і горача абводзіў усіх густа-сінімі вычыма, ледзь не ўскочыў з месца, пачуўшы сваё прозвішча. Ён быў самы малады з усіх. Яму было дваццаць год.

— Ведаю,— заспяшаўся ён.— Гэта лягчэй. Высокі край плато. І цяжэй. Скрыжаванне шляхоў на сцюдзёную Гуту — Ярылавічы — Чарнігаў, на Улукаўе — Карму над Харапуццю, на Вузу — Караблішча і на Баршчоўку — Рэчыцу — Перасвятае.

— На апошнім шляху вам паможа Вірскі. На Сцюдзёнагуцкім — Ваневіч, на Караблішчанскім шляху — толькі мінімум перасцярогі. Ён будзе ляжаць цалкам у нашай зоне... Але вам і без таго будзе цяжка.

— Ведаю,— сказаў Яноўскі.— Памром, а не адступім.

І густа заліўся чырванню. Пашкадаваў, што кінуў апошнія словы.

— Пан Вітахмовіч, вы трымаеце ўчастак Чачэрск — Карма — Гайшын — Прапойск. Ён зручны вышынямі, але нязручны лясамі.

— Спалім,— спакойна сказаў Вітахмовіч.— Папярэднім летам, у засуш, пусцім пал.

Паны глядзелі на мапу і пачыналі разумець Раўбічавы меркаванні.

Раўбіч называў і называў участкі і прозвішчы, і ўрэшце пятля замкнулася. Акрэслены чырвоным алоўкам, шырэйшы зверху і вузейшы знізу, ляжаў на мапе кавалак зямлі: няроўны крамянёвы нож, накіраваны вастрыём на поўдзень.

Усе моўчкі глядзелі на з'езджаны, па сто раз бачаны, але цяпер такі незвычайны кавалак зямлі. У сініх стужках рэк, у зялёных плямах пушчаў, у кропках вёсак і гарадоў. Родны край.

Цяжкая, ахопленая жалезным бранзалетам, Раўбічава рука лягла на Сухадол і наваколле.

— Тут — цэнтр. Тут пачатак. Пан Мнішак — гэта сувязь і ўзаемаадносіны між атрадамі,— Раўбіч усміхнуўся.— Галава кур'ераў, дымавой сувязі і агня-

вых віцаў... Па Дняпры ўжо створаны ядры будучых атрадаў, групы Турскага, Севярына Юдэніча, Вітахмовіча-Драгавінскага і Ракутовіча.

Людзі маўчалі, засяроджана пускаючы дым.

— Мы прыдбаем стрэльбы самі. Скажам, магілёўскія склады зброі нам не па зубах. Астаюцца два арсеналы, узяўшы якія мы ўзброім сябе і абяззброім ворага. На самай поўначы і на поўдні. Горкі і Сухадол. На Сухадол нападу я і загоны Турскага і Вітахмовіча-Драгавінскага. Івіцкі-Лаўр разам з Севярынам Юдэнічам наваляцца на Горкі.

— А магілёўскія палкі? — спытаў разважлівы Эсьмон.

— Не думаю, каб яны рызыкнулі кінуць горад. Пажар успыхне ў розных месцах. Адначасова з нападам на арсеналы нашы людзі зробяць падманны выпад у бок Магілёва...

— Каго вы хочаце высунуць на гэта?— прабасіў Сіпайла.

— Хто павінен дзейнічаць з захаду ад вас, Раткевіч? — спытаў Яраш.

— Браты стрыечныя, Грынкевічы. Усяслаў і Тумаш.

— Як мысліце іх?

— Ці не занадта якабінцы. Спяць і бачаць разню.

— Нічога. Рэзацца на Дняпры давядзецца найбольш... Вось яны і будуць рабіць той выпад. Колькі ў іх зараз людзей?

— Згадзілася падтрымаць нешта каля пяцісот чалавек.

— Будзе больш. Раён прыдатны. Доўгі Мох, балоты ля Трылесіны. На поўдні іхняй зоны Свержанскія лясы. Ім і палохаць дзядзьку губернатара. На Горкі ён, маючы іх у тыле, не пойдзе. А рушыць на поўдзень — яны сустрэнуць яго першыя і не дадуць падаць дапамогу Сухадолу. А потым — усе на Магілёў.

Раўбіч уздыхнуў.

— Ну вось. У дэталях потым. Памятайце толькі: на той тэрыторыі, што мы збіраемся падняць, жыве нешта каля дзевяцісот тысяч чалавек. Ніводзін з гэтых людзей не павінен зазнаць крыўды. Калі мешчанін пачне зводзіць рахункі з ваенным, раскольнік — з католікам, а паляк — з пратэстантам,— скончыцца

ўсё гэта загібеллю. Таму я прапаную радзё сёння ж дамовіцца аб тым, каб ні ў якім разе не дапусціць несправядлівасці. Усе людзі, колькі іх ні ёсць, дзеці Адама. Я патрабую ў рады аднаго: строгага пакарання за ўсобіцы. Мы не павінны наследаваць імперыі. Мне здаецца, гэта зямля павінна стаць зямлёй справядлівасці для ўсіх. Вось што я хацеў сказаць.

Людзі маўчалі. Прыдняпроўе ляжала перад імі на стале, а над ім плыў густы дым...

...Алесь сам не разумеў, як яны маглі заблудзіцца. Але ноч ужо даўно спусцілася на пушчу, а яны ўсё яшчэ кружлялі патаемнымі сцежкамі сярод вялікіх, здавалася, да самага неба, дрэў.

Па зорах зведаць дарогу было нельга. Неба густа абложыла чорнымі хмарамі. Так густа і глуха, што ў пушчы стала цёпла, як пад коўдрай.

Сіняя маланка палахнула зусім нізка над дрэвамі. Збіралася навальніца. Урга і Касюнька мякка ступалі па гліцы. Майка сядзела на мышастай кабылцы стомленая, амаль безуважная. Ёй хацелася спаць.

— Заблудзіліся,— сказаў Алесь.

— Канчаткова?

— Да раніцы.

— Дзе прыстроімся?

— Пусцім коней на волю. У пушчу яны не пойдуць. Будуць выбірацца на нейкія галявіны.

Ён паспрабаваў, спешыўшыся, мацаць стаўбуры дрэў. Паўночны бок знаходзіў, але што гэта магло даць, калі нельга было ўбачыць пальцаў рукі. Праедзеш крокаў дзесяць і зноў пачнеш кружляць. Дый каня ў пушчы «проста на поўнач» ці «проста на поўдзень» не пагоніш. Гэта табе не поле. Нетры вакол.

Таму, выбраўшыся на першую-лепшую сцежку, ён даў Ургу волю.

Маланкі рвалі неба ўсё часцей, але ў іхнім святле вочы бачылі адно і тое ж: чорна-сінія ствалы дрэў, блакітны тор сцежкі, цяжкія шаты над галавой.

Яны ехалі так каля гадзіны.

Трэба было некуды хавацца. Пад якую-небудзь разложыстую старую яліну. Ён так бы і зрабіў, але

наступная магутная маланка нібы агнём высекла з цемры маленькую галявіну, а на ёй — нізкую прызёмістую будыніну з грыбам страхі, ссунутай ледзь не да зямлі, з шырока разяўленай зяпай цёмных дзвярэй. Па ўсім відаць, лясную адрыну.

— Майка! Хутчэй! Прыстанак!

Ён пагнаў каня да адрыны. Скочыў з Ургі, узяў на рукі лёгенькае цела Майкі.

— Бяжы туды.

Дождж насунуўся такой сцяною, што, пакуль ён заводзіў коней у адрыну, плечы ў яго прамоклі наскрозь.

Чарговая маланка пафарбавала свет у сінія і чорныя вертыкальныя палосы: сцены адрыны былі з даволі рэдкіх жэрдак. Па небе сцёбнула нібы вялізнай агнявой пугай. Алесь убачыў коней, дыван з бярозавых галін, якія кладуць «пад ногі сену», самое сена, што займала палову будыніны, а ля яго — постаць Майкі.

— Лезь туды. Захутайся. Накрыйся сенам. Тут прадзімае.

Падсадзіў яе. Кінуў коням па бярэмю сена і прывязаў, каб не зглумілі шмат. Потым палез сам.

Сапраўды, трохі прадзімала: праз шчыліны веяў вільготны, дрыготкі павеў. Свет штохвілінна фарбаваўся ў сіняе і чорнае, палосамі. І Майчына постаць таксама рабілася паласатая.

— Халодна табе?

— Трохі.

Ён вылаяў сябе. Яна ж была дзяўчына. Магла застыць.

Алесь выкапаў у цёплым сене доўгую ямку.

— Кладзіся.

— Колецца.

— Тады стань на ногі на хвілінку.

Калі яна ўстала, ён усю яе абвіў плашчом з ног да галавы і, узняўшы на рукі, асцярожна палажыў у ямку. Потым пачаў закідваць яе сенам. Спачатку на ногі. Потым на грудзі, на плечы.

Урэшце асталася на паверхні толькі галава. Валасы і вузкае, блакітнае ў святле маланак аблічча, і бліскучыя вочы, што ўважліва і патаемна глядзелі на яго.

— Табе холадна,— сказала яна.— Кладзіся так-сама сюды.

Ён лёг і адчуў яе побач. Подых з яе вуснаў часам нібы гладзіў яму шчаку, а побач, зусім блізка, блішчалі ў змроку яе вочы. Гэта было прыемна. І адначасова страшна.

— Ты накідай на сябе сена. А то давай я раскручуся і дам табе частку плашча.

— Не,— сказаў ён.

Яна нічога не разумела. Яна проста забыла пра ўсё ў хвіліну сумеснай непрыемнасці. Сябру было дрэнна, і яна прапанавала. Але яе шэпт здаваўся яму іншым, не такім, як пры сонцы, а прапанова спалохала так, што яшчэ некалькі хвілін ледзяныя хвалі страху падымаліся аднекуль ад ног, заліваючы сэрца.

Гэта было немагчыма: легчы з ёю побач, пад адным плашчом. Гэта было, як мяжа. І невядома было, што тады рабіць, як гаварыць, як заўтра паглядзець у вочы?!

Дый ці будзе яно яшчэ, тое заўтра, пасля такога найвялікшага ў свеце блюзнерства.

Вядома, не будзе.

Вецер веяў і веяў у шчыліны. Свежы і халодны, ён прабіраў наскрозь.

— Зусім ты нядобры,— сказала яна.— І самому халодна, і мне. Злуешся на мяне?

— Не.

— То чаму?

Алесь лёг у ямінку побач з ёю.

— Бачыш, так цяплей.

Ён прыціснуўся да яе бокам, адчуваючы пах яе скуры і пах піжмы, канюшыны і нібыта медуніцы. Ён адчуваў яе цеплыню і цеплыню сена, а вецер цяпер толькі зрэдку гладзіў ягоны твар.

Гэта было як наканаванне, за якім ішла цемра і ўсё самае жахлівае, што магло быць на зямлі.

— Ну вось, цяпер добра. Я засну цяпер,— сказала яна.

Прамуркатала і заціхла. Пакінула яго аднаго.

Калі ён прысунуўся бліжэй, яна нешта муркатнула ў сне і даверліва прыціснулася да яго.

І тут ён зразумеў, што не можа, не павінен аддацца ва ўплыў гэтаму невядомаму, за якім канец усяму.

Ён адчуваў, што назаўсёды перастаў бы паважаць сябе, што падмануў і растаптаў бы самае лепшае, што было дадзена кімсьці яму і ёй.

Але ад гэтага гора яго не было меншае.

— Божа, вызвалі мяне... Вызвалі мяне... Вызвалі...

Насланнё згасала і не згасала ў пакутным болю. І ён тужыў за ім, але што, што было рабіць...

За шчылястымі сценкамі зноў узнік незразумелы шум, а разам з ім — галасы.

«Адкуль?»

Ён асцярожна падпоўз да сценкі.

Наступная сіняя бліскавіца вырвала з цемры тое, чаго яны не бачылі з-за адрыны, калі пад'язджалі да яе. Бо адрына стаяла ў самым вузкім месцы галявіны, закрываючы ўсё астатняе.

Алесь убачыў маленькі ставок, грэблю і аксамітную страху млынка. Зусім недалёка. Сажняў за пяцьдзесят. Значыць, шум млынавога кола заглушыла сцяна дажджу.

Сцежка, па якой яны выехалі да адрыны, мела працяг на другі бок. Тут адно разгалінаванне яе ішло да млына, а другое знікала ў лесе. І на скрыжаванні... ён заўважыў гэта пры другім усплёску маланкі... стаялі два чалавекі. Высокая жанчына ў чорнай хусціне і стары ў белым, па ўсім відаць — жабрак.

Вада залівала ўсё між стваламі, і калі наступная маланка секанула цемру, усё між дрэў і на паплаўцы ўспыхнула. Нібы зямлю залілі расплаўленым срэбрам.

Стары стаяў, прыкрыўшы крысом світкі ліру. Доўгія вусы падалі ніжэй барады.

«Дзе гэта мы? — падумаў Алесь.— Няйначай, гэта Паківаачоў млын».

— Пойдзеш гэтай сцежкай,— сказала жанчына ўладна.— Берагам Папараці зараз нельга. Там дзве кладкі нізкія. Іх заліло. Ды тут нават бліжэй. Праз гадзіну выйдзеш да Дняпра.

І паказала рукою ў нетры.

— Бывай і прабач. Справа пільная. Лапаты цябе і сагрэюць, і накормяць, і адплацяць за ўсё. Ды я не забуду. Не першы раз, дзякуй богу, памагаем.

— Але ж.

— Баркалабаўскім, калі будзеш там, перадай: хадзіць пакуль не трэба. Скажы: воўчыя красы ў жніўні... А Лапатам скажы: на пэўнай хароміне хутка чырвоны Будзімір заскача, шэранькага Варгана да кучаравых божых авечак пусціць.

— Добра.

— Таму што, перадай, той, хто трэба, уцёк. З таго месца ўцёк, дзе людзі шышкі ядуць, а ў бочцы плаваюць... Ну, ідзі.

Жанчына тройчы пацалавалася з жабраком. Наступны ўсплёск азарыў белую постаць, што ўваходзіла ў лес, і чорную вялікую постаць жанчыны, якая прамавала да млына...

Алесь вярнуўся на сваё месца і, прытуліўшыся да Майкі, пачаў думаць. Некуды зніклі і жах, і насланнё. Ён проста адчуваў яе побач з сабою, слухаў яе ціхія ўздыхі і баяўся за яе, бо адчуваў, што вакол пануе небяспека, што ў гэтым лесе і гэтым млыне пануе, жыве і крадзецца да адрыны нешта нядобрае і пагрозлівае. І ён баяўся за яе, бо адчуваў: яна па-новаму бязмерна дарагая яму. Стала такой пасля гэтай ночы жаху і наслання. Але ехаць адразу таксама было нельга. Яны нагоняць жабрака на лясной сцежцы, спудзяць яго і гэтых людзей, якія рыхтавалі нейкую сваю цёмную справу. А за сценамі дождж. Хочаш не хочаш, а трэба было ляжаць.

І ён ляжаў, не адчуваючы нічога, акрамя бязмернай пяшчоты і дабрыні, якія аж не змяшчаліся ў сэрцы.

А знадворку раскалваўся, трапятаў ва ўспышках, узнікаў і зноў паміраў у цемры, бурыўся свет.

...Дождж, здаецца, суняўся. Алесь разбудзіў Майку і, захутаную, падсадзіў яе на Касюньку.

Скіраваў коней на сцежку, на якой знік баркалабаўскі старац.

Яны ехалі доўга, бо Алесь увесь час стрымліваў коней. Але кожнай дарозе бывае канец, і ўрэшце лес скончыўся. Налева цурчала Папарадь, а перад імі, далёка, трапяталі бліскавіцы ў чорных глыбінях Дняпра.

І тут, калі яны ўжо лічылі, што ўратаваліся, неймавернай сілы ўдар раскалоў неба над іхняй галавой. Аглушаныя, залітыя сляпучым святлом, яны не ра-

зумелі, дзе яны і што з імі. А калі расплюшчылі вочы — убачылі, што пярун кінуў свой распалены молат проста ў вялізны сухі дуб, які стаяў ля дарогі, за нейкія дваццаць крокаў ад іх.

Сухадрэвіна раскалолася ад верхавіны і амаль да кораня, расшчапілася трохі і асталася стаяць. А полымя заліло дрэва, нібы лаваю, і па расколіне паліўся ўгору паток агню. Чырвоны, плоскі, схаваны ў чорнай расколіне, ён нагадваў вадаспад, які бяжыць з падножжа на вяршыню скалы...

Раўло і цягнула да хмар. Плыла ў неба распаленая вогненная рака.

*Канец першай кнігі*

# МАСТАЦКІЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Далёкая і блізкая гісторыя была заўсёды прыцягальнай для Караткевіча, вабіла яго неразгаданым сэнсам, драматызмам і таямніцамі. Магчымасць чарадзейным пяром уваскрэсіць для нова-га жыцця вякі мінулыя захапляла яго. Можна сказаць, што ён гэтаксама ж самааддана служыў музе гісторыі Кліо, як і паэтычнай музе. Прызнаны майстар самых розных жанраў, ён можа лічыцца сапраўдным заснавальнікам гістарычнай раманістыкі ў беларускай літаратуры. Былі больш ці менш трапныя спробы гістарычнага рамана і да Караткевіча («Адвечнае» Б. Мікуліча, «Георгій Скарына» М. Садковіча і Е. Львова), але ніхто не зрабіў у гэтых адносінах так многа, як ён, ні для кога гістарычны жанр не быў настолькі арганічным, як для яго.

Беларуская проза, нягледзячы на сённяшнія свае відавочныя дасягненні, увогуле яшчэ даволі маладая. Раман налічвае нямно-гім больш за паўстагоддзе. Яшчэ павольней складвалася сур'ёзная гістарычная проза, таму што яна патрабуе не толькі высокай культуры ад пісьменніка, але і пэўнага ўзроўню развіцця самой гістарычнай навукі, грунтоўных крыніцазнаўчых публікацый. У гэ-тых адносінах вялікія зрухі адбыліся ў пасляваенны перыяд, калі на ўвесь рост паўстала праблема актыўнага засваення культурнай спадчыны мінулага і з'явіліся нейкія магчымасці для гэтага. Творчасць Караткевіча была сімптомам гэтых зрухаў і як найлепей адпавядала патрэбам часу. Па словах А. Адамовіча, пісьменнік як бы здзейсніў «прарыў» у гісторыю свайго народа. На гістарычным матэрыяле ім напісаны вершы і балады, апавя-данні, эсэ, п'есы («Званы Віцебска», «Маці ўрагана», «Кастусь Каліноўскі»), аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха»,«Сівая легенда», «Цыганскі кароль», «Ладдзя роспачы», пралог да рамана «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да зямлі»), нарэшце, рама-ны «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Каласы пад сярпом тваім». Звязаны з гісторыяй і апошні раман пісьменніка «Чорны замак Альшанскі».

Асабліва значныя яго творы гістарычнага плана — раманы «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Каласы пад сярпом тваім».

Калі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — шырокае палатно,

«народная драма», па словах пісьменніка[1], з жыцця сярэдневяковай Беларусі, твор філасофскі, яшчэ не да канца прачытаны і ацэнены, то раман «Каласы пад сярпом тваім» пабудаваны на матэрыяле паўстання Кастуся Каліноўскага. Гэта любімае дзецішча пісьменніка, яго «доўг Дняпру, людзям паўстання 1863 года, Беларусі»[2].

Тэму паўстання 1863 года пісьменнік закранаў і ў іншых сваіх творах — напрыклад, у цудоўным па сваёй мастацкай дасканаласці пралогу да рамана «Нельга забыць», п'есе «Кастусь Каліноўскі», у вершах.

Цікавасць пісьменніка да паўстання невыпадковая. Па-першае, гэта адна з самых яркіх падзей у гісторыі Беларусі. Па-другое, продкі Караткевіча мелі самі нейкае дачыненне да драматычных падзей 1863 года, і будучы пісьменнік з дзяцінства чуў нямала паданняў пра гэты час, пра расстралянага ў Рагачове прадвадзіцеля паўстанцаў Тамаша Грыневіча. Характэрна, што яшчэ ва універсітэце Караткевіч збіраў матэрыялы для дысертацыі аб адлюстраванні паўстання 1863 года ва ўсходнеславянскіх і польскай літаратурах. На шчасце, напісаў ён не дысертацыю (хапае нам пухлых і, на жаль, нярэдка бескарысных дысертацый), а раман. Але ўся папярэдняя праца так або інакш легла ў кнігу. У лірычным адступленні, аўтарскім маналогу ў рамане ёсць прызнанне: «Я пачаў гэту кнігу два гады назад. За спіною былі дванаццаць год жыцця ёю, думак аб ёй, ненапісанай. Былі ўспаміны людзей, кнігі зачытаныя і кнігі, да якіх на працягу амаль стагоддзя не дакранулася нічыя рука, акрамя маёй. Я трымаў у руках халодную сталь інсургенцкіх кордаў і канфірмацыі расстрэлаў, якія, здавалася, сачыліся крывёй...»

Уласна паўстання ў рамане «Каласы пад сярпом тваім» пакуль яшчэ няма. Дзве напісаныя кнігі толькі падводзяць да яго, абрываюць дзеянне акурат перад паўстаннем.

Перад намі Беларусь напярэдадні вялікіх выпрабаванняў, пераканаўчая карціна гераічнай і трагічнай эпохі 60-х гадоў, шырокая гістарычная панарама, разрэз тагачаснага грамадства знізу даверху. Пісьменнік намаляваў галерэю мастацкіх тыпаў — ад прыгонных сялян да пецярбургскіх саноўнікаў, паказаў прадстаўнікоў супрацьлеглых класаў, іх непрымірымую барацьбу.

У супрацьвагу спрашчальніцкаму, схематычнаму паказу гісторыі, якая часам прысутнічае ў мастацкіх творах на гістарычныя тэмы і ў працах гісторыкаў, Караткевіч робіць смелую спробу раскрыць гістарычны працэс ва ўсёй складанасці. Шляхта, памешчыкі былі вельмі розныя. І такімі паказвае іх пісьменнік. Побач з заўзятымі прыгоннікамі Кроерам, Хаданскімі, Таркайламі, раманіст малюе постаці старога Вежы, маці Алеся, Яраша Раўбіча, якія ў той або іншай ступені адчуваюць несправядлі-

---

[1] Караткевіч Уладзімір. Дарога, якую прайшоў. У кн.: Пра час і пра сябе. Мн., 1966, с. 195.

[2] Тамсама.

васць і асуджанасць прыгоннага ладу, Чорнага Войны, што аж дваццаць год адзін працягвае інсурэкцыю — узброеную барацьбу з царызмам. Царскае чыноўніцтва прадстаўлена ў рамане не толькі вобразамі жандара Мусатава і ката Беларусі Мураўёва, але і высакароднага віцэ-губернатара Ісленьева, які некалі быў звязаны з дзекабрыстамі і астаўся верны гуманістычным ідэалам маладосці. Пільнае мастацкае даследаванне становішча ў «вярхах» дыктавалася неабходнасцю паказаць іх крызіс як характэрную рысу рэвалюцыйнай сітуацыі 50—60-х гадоў, а таксама тым, што ў падзеях гэтага перыяду на Беларусі вельмі важную ролю адыгрывалі шляхецкія рэвалюцыянеры.

Аднак вырашальнае слова аставалася за народам. У рамане намаляваны зборны вобраз народа — таленавітага, пявучага, прыгнечанага і няскоранага. Гэты вобраз складаецца з многіх рыс, з дзесяткаў вобразаў людзей працы. Гэта — і грунтоўнасць, духоўнае здароўе Кагутоў, і добрае сэрца Кірдуна, і вышэйшая інтэлігентнасць прыгоннай актрысы Гелены. Найбольш нецярплівыя ў празе да свабоды сілы тагачаснага сялянства ўвасабляе Корчак, якога характарызуе «вялікая чысціня нянавісці» да паноў, да прыгнёту. Чалавек страсны і неўтаймоўны, ён нярэдка пераносіць сваю нянавісць на людзей, якія па логіцы гісторыі павінны стаць яго саюзнікамі, яго сябрамі. У той жа час, як і большасць сялянства гэтай эпохі, ён не вызваліўся яшчэ ад царскіх ілюзій, ад веры ў добрага бацюхну-цара. Хібы Корчака гістарычна абумоўлены. Пісьменнік намаляваў яго рэалістычна.

Прамое дзеянне першых дзвюх кніг рамана абмяжоўваецца 1850—1861 гадамі (рэтраспекцыі вядуць і ў больш далёкі перыяд). Назва другой кнігі «Сякера пры дрэве» — гэта мастацкі сімвал непасрэднай рэвалюцыйнай сітуацыі. Яшчэ ходзіць па лясах Чорны Война, апошні інсургент 31-га года, рыхтуе лакальны «закалат» супраць царызму шляхецкі рэвалюцыянер Яраш Раўбіч, будуюць моцную, разгалінаваную арганізацыю Кастусь Каліноўскі і яго сябра Алесь Загорскі, мроіць пра помсту, люта ваюе з панамі Корчак. І чытач заражаецца хваляваннем аўтара — ці змогуць зліцца гэтыя асобныя ручаіны і плыні ў магутным рэчышчы, каб знесці ненавісны царызм і прыгонніцтва.

У агульных рысах на гэта пытанне адказала гісторыя: далёка не заўсёды гэтыя патокі змаглі аб'яднацца, прыгоннае сялянства ў 1863 годзе нярэдка выступала супраць паўстанцаў-шляхцічаў, не разумеючы іх мэтаў, помнячы свае спрадвечныя крыўды.

А ў дастасаванні да канкрэтных чалавечых лёсаў — менавіта ж праз іх раскрывае гісторыю раманіст — справа тым больш складаная: сталі ворагамі Загорскія і Раўбічы, хоць мэты ў іх, здавалася б, агульныя. Доўга не могуць знайсці адно аднаго двое закаханых людзей — Алесь Загорскі і Майка Раўбіч.

«Каласы пад сярпом тваім» не толькі гісторыка-рэвалюцыйны або сацыяльна-гістарычны раман, але і раман пра жыццё, раман філасофскі. У ім ставяцца многія вялікія жыццёвыя пытанні, актуальныя і для нашага часу. Гэта, напрыклад, праблема месца

чалавека ў гістарычным працэсе, складаных узаемаадносін асобы з няўмольным поступам гісторыі (такая адна з магчымых расшыфровак сімвала, вынесенага ў загаловак рамана. Зрэшты, тэма каласоў і сярпа, як у музыкальнай сімфоніі, вар'іруецца, прадстае ў розных абліччах на працягу ўсяго рамана). Гэта падкрэсленая і ў аўтарскім пасляслоўі да рускага выдання 1977 года[1] думка аб цеснай сувязі часоў і гістарычнай пераемнасці пакаленняў, без чаго немагчымы рух уперад. Гэта пошукі чалавекам сваёй сувязі з іншымі людзьмі, што жывуць і жылі раней, пошукі свайго месца на зямлі, пошукі радзімы — усяго таго, што раманіст зашыфроўвае сімвалам «мора».

«Мы нясём у гэта мора ўсё добрае і злое, што мы бачылі, мы нясём у яго сваё жыццё, нават больш — сваю душу.

І кожны ўпадае па-свойму. Адна рака здаўна-давён ведае, у якое мора яна плыве, другая — з цяжкасцю прабівае сабе шлях. Адна бачыць мора з самых сваіх вытокаў, другая — пакутліва і доўга, вельмі доўга шукае яго. Трэцяя губляецца ў пясках, перасыхае і гіне, так і не заўважаючы марскіх хваль. А чацвёртая, нечакана, яшчэ за хвіліну не ведаючы нічога, падае ў яго, як струменьчык вады ў сердалікавую бухту». Беларусь у XIX стагоддзі толькі пачала збіраць сваіх сыноў, першыя адгукаліся на матчын зоў найбольш чуйныя. Адкрыццё галоўным героем рамана Алесем Загорскім сваёй радзімы, сваёй Беларусі — глыбокія, хвалюючыя старонкі твора.

Аднак тэма радзімы не засланяе раманісту шырокага свету, раман прасякнуты пачуццём інтэрнацыяналізму. Героі рамана — беларусы, палякі, рускія, прадстаўнікі розных народаў — шукаюць і знаходзяць агульную мову ў барацьбе з рэтраградамі і прыгоннікамі. Праз Басака-Яроцкага, былога каўказскага афіцэра, у раман уводзіцца тэма вызваленчай барацьбы каўказскіх народаў. Нават такі неабавязковы, на першы погляд, персанаж, як «арап» Янка Клейна, які знайшоў на Беларусі сваю другую радзіму,— тут неяк дарэчы. Вобраз гэты пашырае адчуванне адзінай сям'і народаў, якая абавязкова будзе шчаслівая на цудоўнай, разняволенай зямлі.

Караткевіч выдатна валодае матэрыялам эпохі, аб якой піша. У рамане дзейнічаюць дзесяткі сапраўдных гістарычных дзеячаў. І выпісаны яны, як правіла, праўдзіва, дакументальна дакладна. Перш за ўсё гэта выдатны беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі, правадыр паўстання 1863 года ў Беларусі і на Літве. Пісьменнік падае яго або непасрэдна, або раскрывае яго вобраз своеасаблівым прыёмам — праз пісьмы да Алеся Загорскага. Пісьмаў гэтых, зразумела, не існуе, таму што прыдуманы і сам адрасат. Гэта як бы маналогі Каліноўскага, дадзеная яму пісьменнікам магчымасць выказацца па самых розных пытаннях

---

[1] Короткевич Владимир. Колосья под серпом твоим. Роман. Кн. 1-я и 2-я. Авториз. перевод с белорусск. В. Щедриной. Мн., 1977.

тагачаснага жыцця. Нягледзячы на тое, што Каліноўскі толькі час ад часу з'яўляецца на старонках рамана, пісьменнік паспеў сказаць аб ім вельмі многа, раскрыць яго мужнасць, непахіснасць і вялікае сэрца. Вялікі рэвалюцыянер атрымаў пад пяром пісьменніка сваё непаўторнае аблічча. Рэальныя людзі — усе тыя, з кім Алесь Загорскі сустракаецца ў Вільні на вечары ў Адама Кіркора, вядомага журналіста, вучонага і грамадскага дзеяча таго часу. Гэта першы беларускі прафесіянальны пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, яго сябры польска-беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля-Кандратовіч, кампазітар Станіслаў Манюшка, беларускі паэт Вінцэнт Каратынскі і іншыя. А брат Алеся Вацлаў вучыцца ў Вільні з Францам Багушэвічам, будучым удзельнікам паўстання 1863 года, які на зыходзе стагоддзя стане буйным беларускім паэтам, песняром народнай нядолі. Цалкам гістарычнае акружэнне Алеся Загорскага і Кастуся Каліноўскага ў Пецярбурзе. Чытач сустракаецца тут з Тарасам Шаўчэнкам, польскім рэвалюцыянерам Зігмунтам Серакоўскім, будучымі генераламі Парыжскай камуны Яраславам Дамброўскім і Валерыем Урублеўскім. Рэальныя Малахоўскі, Звяждоўскі, Зянковіч, Вярыга і г. д. Дакументальна намаляваны старэйшы брат Каліноўскага Віктар, які памёр ад сухотаў напярэдадні паўстання. Галоўнае ж, што ў кнізе правільна, як кажуць навукоўцы, з перадавых метадалагічных пазіцый, перададзены асноўныя тэндэнцыі эпохі, паказана непазбежнасць барацьбы і трагічная немінучасць, пакуль што, на дадзеным этапе, паражэння.

На гэтым шырокім гістарычным фоне раскрываецца дыялектыка станаўлення душы галоўнага героя Алеся Загорскага. Думаецца, што раманіст увасобіў у гэтым вобразе свае пошукі ідэальнага героя, сваю мару аб дасканалым, гарманічным чалавеку. Герой выпрабоўваецца ў самых розных жыццёвых сітуацыях — духоўныя пошукі, каханне, сяброўства, навука. Ён піша выдатныя вершы і не цураецца практычнай дзейнасці ў сваіх маёнтках. Пісьменнік шчодра надзяліў яго ўсім: ад фізічнай і духоўнай дасканаласці да поўнай матэрыяльнай незалежнасці. Апошняя акалічнасць немалаважная для чысціні своеасаблівага мастацка-філасофскага эксперымента, задуманага пісьменнікам. Што патрэбна сапраўднаму чалавеку для шчасця? Ці лёгка гэта — быць шчаслівым на нашай зямлі? Вопыт чалавецтва падказвае, што абавязковай састаўной сапраўднага шчасця з'яўляецца далучанасць да перадавых веянняў свайго часу, да агульнай барацьбы супраць усіх гнюснасцей жыцця. Так, Алесь пройдзе праз многія буры і пакуты, але ў сказаным сэнсе будзе шчаслівым настолькі, наколькі шчасце было магчымым для перадавога, мыслячага чалавека ў той час. Ён шчаслівейшы за сваіх бацькоў, шчаслівейшы за старога Вежу. Яму пашанцавала. Ён нарадзіўся ў эпоху магутнага грамадскага пад'ёму. Ён змог знайсці сваю радзіму, сваіх братоў па духу. Ён сустрэў вялікага Кастуся.

Сказанае не супярэчыць таму, што герояў рамана чакае наперадзе трагедыя паражэння. Вядома, што многія ўдзельнікі

паўстання 1863 года пасля паражэння захавалі веру ў канечны вынік барацьбы і працягвалі змагацца за свабоду на ўсіх справядлівых барыкадах свету. На хвалі руху салідарнасці з паўстанцамі 1863 года зарадзілася Міжнароднае Таварыства Рабочых — І Інтэрнацыянал.

Важнае месца ў філасофскай канцэпцыі рамана займае з вялікім майстэрствам абмаляваны вобраз старога вальтэр'янца і іроніка Вежы. Не менш багата надзелены ад прыроды, чым яго ўнук Алесь, чалавек разумны і дасведчаны, ён, наглядзеўшыся на агіднасці жыцця, замкнуўся ў сабе, не хацеў нікога бачыць («Халуі ўсе»). З пагарды да рэлігіі, да людзей, якія надавалі такім глупствам занадта вялікае значэнне, аднаго ўнука хрысціў па праваслаўнаму абраду, другога па каталіцкаму (для Беларусі, расколатай рэлігійным бар'ерам на два лагеры, гэта мела асобы сэнс, хоць учынак Вежы прадыктаваны не столькі думкай аб Беларусі, колькі бунтарствам наогул). Выцягнуў аднекуль забыты звычай дзядзькавання, калі паны, у старыя патрыярхальныя часы, аддавалі сваіх дзяцей на выхаванне ў сялянскія сем'і, і запатрабаваў, каб у дзядзькаванне быў аддадзены ягоны ўнук Алесь. Незалежна ад суб'ектыўных матываў дзівацкага для навакольных учынку Вежы, гэта аблегчыла шлях Алеся да народа, хоць, зрэшты, з гісторыі вядома, што лепшыя прадстаўнікі пануючых класаў пераходзілі на бок народа і без дзядзькавання. Вежа глыбока сімпатычны незакасцянеласцю свайго розуму. «Прыродна здаровым, зямным сваім розумам пан Даніла цвёрда перакананы, што свет не стаіць на месцы, што ёсць у ім і стаячая вада і плынь. Першая гніе і робіцца балотам, другая — з крыніцы робіцца ручаінай, ракою, морам, аблокамі. І ён ведаў, што свет ідзе наперад, пакутліва спасцігаючы нешта вялікае. Назіраючы за людзьмі, ён разумеў, што тое, да чаго яны ідуць,— лепшае... І трэба было зразумець, што адзіны спосаб не стаць непатрэбным — змяняцца да смерці і да смерці разумець новае, а калі не разумееш, няздольны зразумець — ставіцца да яго з любоўнай верай». Ужо ён якраз са сваім велізарным жыццёвым вопытам угадваў, якую цяжкую ношу ўзвалілі на свае плечы Алесь і Кастусь, і ўсё-такі не стаў іх адгаворваць, таму што разумеў у глыбіні душы, што гэта адзіны шлях да сапраўдных людзей, падспудна адчуваў, што ў іх ёсць у жыцці штосьці вельмі важнае, чаго не было ў яго. І сам ён адагрэўся, памаладзеў побач з гэтымі бясстрашнымі шукальнікамі праўды і справядлівасці.

Як і ўсё напісанае Караткевічам, раман лірычны. Падзеі мінулага падаюцца ў творы як кроўна блізкія аўтару. Гэта асабліва ярка відаць у пасляслоўі да рускага выдання 1977 года і ў лірычных адступленнях, калі аўтар сам з'яўляецца ў апавяданні.

Пісьменнік многа ведае пра жыццё, пра людзей і можа дакладна, цікава і ярка пра гэта расказаць. Жывым чалавекам пры ўсёй сваёй неардынарнасці паўстае перад намі стары Вежа. З вобразаў другога плана асабліва індывідуальна і цёпла акрэслена Надзея Клейна. Караткевіч выдатна ўмее маляваць, выяўляць

словам (нездарма Васіль Быкаў адзначыў у свой час — падабенства паміж Караткевічам і фламандскім мастаком Брэйгелем[1]). Вось, напрыклад, партрэт Мураўёва-Вешальніка з XIII раздзела другой кнігі. Апісваецца візіт саноўніка Валуева да Мураўёва, які быў тады міністрам дзяржаўных маёмасцей:

«Яны маўчалі. Ні ў каго Валуеў не бачыў такіх разумных, непрыемна разумных вачэй. А можа, гэта здавалася па кантрасту з абліччам міністра. Гэта было — нібы выпаўзла з зямлі, з апраметнай, абрыдлівая і страшная пачвара, уся яшчэ слізкая ад свайго ходу пад зямлёй. І раптам узняла цяжкія, бы ў Вія, павекі і зірнула, нечакана да жаху, неверагодна чалавечымі вачыма.

Твар гэты здаваўся яшчэ больш страшны, бо выступаў, як на карцінах Рэмбранта, жаўтавата-аранжавай плямай з цемрыва. І блікі агню скакалі па ім. Як сякерай высечаны, тлусты і пастарэчы ўжо друзлы, шырокі, з цяжкім падбародздзем, тупым носам і грубым вялікім ротам твар. Жорсткія бачкі, металічна-шэрая скура, нізкі лоб з жорсткімі, як конскае грэбла, валасамі над ім.

Цяжка, як у сабакі, звісалі ніжэй сківіцы брылі шчок. І на гэтай абрыдлівай масцы свяціліся пранізліва-разумныя вочкі, адзіна чалавечае, што на ёй было».

Мне даводзілася нямала чытаць апісанняў аблічча Мураўёва і бачыць яго партрэтаў. Магу засведчыць, што Караткевіч намаляваў яго па-майстэрску. Той, каму ў 1863 годзе даручана было «ратаваць» Беларусь і Літву, быў не чалавек, а бяздушны, па-механічнаму разумны, бюракратычны робат.

Несумненная прамая сувязь рамана з лепшымі традыцыямі шматнацыянальнай савецкай гістарычнай рэалістычнай раманістыкі. У той жа час перад намі глыбока арыгінальны твор, у якім адчуваюцца характэрныя для пісьменніка рамантычныя тэндэнцыі. Апрача знешніх аксесуараў рамантызму, якія прысутнічаюць часам у творы, рамантычны метад накладвае свой адбітак і на лепку асобных вобразаў.

Гэта тлумачыцца як асаблівасцямі таленту аўтара, так, магчыма, і некаторымі аб'ектыўнымі прычынамі. У беларускай гістарычнай прозе не было свайго вальтэр-скотаўскага перыяду. Сталася так, што беларускі народ толькі цяпер па-сапраўднаму адкрывае для сябе сваю гісторыю, бурна засвойвае сваю культурную спадчыну. З'явілася неабходнасць у творах пра мінулае рэалістычна-праўдзівых, рамантычна яркіх, філасофскі глыбокіх. Такім у цэлым уяўляецца нам і раман «Каласы пад сярпом тваім».

Ёсць, магчыма, у рамане і свае слабасці. Здараецца, Караткевіч-рамантык не памагае, а спрачаецца з Караткевічам-рэалістам. Пэўнай статычнасцю вызначаецца вобраз галоўнага героя. Пісьменнік з самага пачатку надзяляе свайго героя рысамі, якія не заўсёды вяжуцца з дзіцячай псіхалогіяй, і таму маленькі Алесь выглядае часам ненатуральным.

---

[1] Літ. і мастацтва, 1979, 28 снеж.

Водзячы свайго героя па кругах жыцця, раманіст парой не пазбягае паўтораў. Першыя сустрэчы хлопчыка Алеся з Майкай Раўбіч неяк нагадваюць іх пазнейшыя спатканні «на дарослым узроўні».

Некаторыя сумненні можа выклікаць дзядзькаванне — аддача маленькага Алеся на выхаванне ў сялянскую сям'ю. Раманіст пераносіць дзядзькаванне — звычай патрыярхальнай мінуўшчыны — у XIX стагоддзе, эпоху, калі варожасць паміж сялянамі і панамі дасягнула найбольшай глыбіні. У аўтара ёсць псіхалагічнае тлумачэнне таго, што адбылося з Алесем,— дзівацкі характар старога Вежы. Але, магчыма, варта было б больш падкрэсліць анахранізм, дзівацтва гэтага ўчынку. Колькіх перажыванняў і клопатаў каштавала б такое дзядзькаванне як бацькам Алеся, так і сям'і Кагутоў. Крыху інакш, неяк легкавата выглядае ўсё гэта ў рамане. З пэўнай доляй ідэалізацыі малююцца адносіны малодшага пакалення сям'і Кагутоў з Алесем і яго сябрамі з панскага кола (напрыклад, апісанне паездкі дзяцей на руіны старажытнага замка ў пачатку першай кнігі). Сялянскія дзеці мімаволі трымаліся б на пэўнай дыстанцыі, калі не ад Алеся (дапусцім, ён іхні брат па дзядзькаванні), дык ад астатніх панскіх дзяцей.

Але не гэтыя асобныя пралікі вызначаюць месца рамана ў творчай спадчыне выдатнага пісьменніка і ва ўсёй беларускай літаратуры. Абсалютна ясна, што бязмежны сусвет рамана адэкватны багатай і шчодрай творчай натуры Караткевіча. Раман арганічна высвечвае маштабы асобы пісьменніка, раскрывае яго унікальны ўнутраны свет, погляды на чалавека і жыццё.

І гэта самае галоўнае.

*Генадзь Кісялёў*

ЗМЕСТ

КАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ
(Раман)

**Караткевіч У.**

К21 Збор твораў. У 8 т. Т. 4. Каласы пад сярпом тваім: Раман, кн. 1.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 399 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00095-8.

Короткевич В. С. Собрание сочинений. Т. 4.

У чацвёрты том Збору твораў увайшоў раман «Каласы пад сярпом тваім» (кн. першая).

Здарылася так, што менавіта Кастусь Каліноўскі і трагічнае паўстанне 1863 г. прыцягнулі ўвагу Караткевіча-празаіка. І ўжо тады стала відаць, што пры ўсёй спрэчнасці аўтарскіх трактовак і палажэнняў такой шырыні ахопу вызначанай гістарычнай эпохі яшчэ не было ў беларускай прозе.

**ББК 84Бел7**

К $\frac{4702120200-069}{М\ 302(03)-89}$ 93—89



КОРОТКЕВИЧ
Владимир Семенович

*Собрание сочинений в восьми томах*

ТОМ 4

КОЛОСЬЯ ПОД СЕРПОМ ТВОИМ

Роман

*Книга первая*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар С. Р. Прыгодзіч*
*Мастак М. Р. Казлоў*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар І. М. Паланейчык*

ІБ № 2900

Здадзена ў набор 24.05.88. Падп. да друку 23.01.89. Формат 84×108¹/₃₂. Папера кн.-часоп. Гарнітура кудрашоўская. Высокі друк с ФПФ. Ум. друк. арк. 21,0 + 0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 22,16. Ул. выд. арк. 21,68. Тыраж 60 000 экз. Зак. 1467. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.